




Дакументальны працяг рамана
«Каралева не здраджвала
каралю...»

Анатоль Бутэвіч





# Паміж Княствам і Каронай

## Ад Крэва да Кракава



Мінск
«Выдавецкі дом «Звязда»
2013

УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
Б93

Серыя заснавана ў 2010 годзе

**Бутэвіч, А. І.**

Б93 Паміж Княствам і Каронай. Ад Крэва да Кракава : дакументальны працяг рамана «Каралева не здраджвала каралю…» / Анатоль Бутэвіч. — Мінск : Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 464 с. — (Святло мінуўшчыны).
ISBN 978-985-7059-94-2.

Гэтая кніга — другая, дакументальная частка рамана «Каралева не здраджвала каралю...». Чытач знойдзе шмат цікавага і ў многім новага матэрыялу пра час ад запачаткавання Вялікага Княства Літоўскага і Крэўскай уніі 1385 года да Люблінскай 1569 года.

Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7059-94-2**



Літаратурна-мастацкае выданне

Святло мінуўшчыны

**БУТЭВІЧ** Анатоль Іванавіч

**ПАМІЖ КНЯСТВАМ І КАРОНАЙ.
АД КРЭВА ДА КРАКАВА**

*Дакументальны працяг рамана
«Каралева не здраджвала каралю…»*

Рэдактар *Я. Я. Крыцкі* Мастак *А. Ф. Вашчанка*
Мастацкі рэдактар *Я. К. Вашчанка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. В. Міхеева, А. І. Дзядзюля*
Стыльрэдактар *Н. Ф. Крыцкая*

Падпісана ў друк 11.10.2014. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера афсетная.
Гарнітура Minion Pro. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 24,36. Ул.-выд. арк. 22,71.
Тыраж 1100 экз. Заказ 1939.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
за № 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Типография «Победа».
ЛП 02330/429 ад 28.01.2013.
Вул. Тавлая, 1, 222310, г. Маладзечна, Рэспубліка Беларусь.



## АД АЎТАРА

Гэтая кніга — другая, дакументальная частка рамана «Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку». Калі першая — развагі пра ролю і месца кахання ў асабістым і палітычным жыцці караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы, то другая — дакументальнае сведчанне той эпохі. Гэта факталагічнае пацвярджэнне тых высноў, развагі, дапушчэнняў, што ў мастацкай форме асэнсоўваюць адзін з найцікавых перыядаў гісторыі нашай некалі магутнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага ў стасунках найперш з Каралеўствам Польскім, а таксама з бліжэйшымі і больш далёкімі суседзямі. Падзеі адбываюцца ў Крэве, у першым стальцы Вялікага Княства Літоўскага Навагародку, дзе сямідзесяцігадовы Ягайла браў свой чацвёрты шлюб, на гэты раз з сямнаццацігадовай Соф'яй Гальшанскай, у польскай сталіцы Кракаве, іншых месцах польскай і вялікалітоўскай зямлі.

А яшчэ ў гэтай кнізе можна знайсці шмат цікавага і ў многім новага матэрыялу пра час ад запачаткавання Вялікага Княства Літоўскага і Крэўскай уніі 1385 года да Люблінскай уніі 1569 года. Скандэнсавана, але займальна пададзены персаніфікаваны жыццяпіс Ягайлы і ягоных спадчыннікаў, яго атачэння, вялікіх князёў літоўскіх, каралёў польскіх, венгерскіх, чэшскіх, князёў кіеўскіх, маскоўскіх і ўладзімірскіх, татарскіх ханаў, вялікіх магістраў Тэўтонскага ордэна, імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі, іншых гістарычных асоб, чыё жыццё тым ці іншым чынам звязана з часам Соф'і Гальшанскай і Ягайлы. Уключаны таксама звесткі пра прадстаўнікоў Ягелонскай дынастыі, якая доўжылася каля двух стагоддзяў (з 1377 да 1572 года), пра палітычных, дзяржаўных і рэлігійных дзеячаў розных краін, чые дзеянні закраналі інтарэсы Княства і Кароны, пра дзяржаўныя ўтварэнні, што з'яўляліся суб'ектамі тагачаснай гісторыі. Усё гэта цесна

знітавана з агульнаеўрапейскім кантэкстам, са з'явамі і падзеямі ў іншых землях. Такі падыход дапамагае глыбей зразумець сэнс і вынікі Крэўскай уніі для Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, для Ягайлы і Вітаўта, для вялікалітоўцаў і палякаў, зрэшты, для ўсёй Еўропы. Заканчваецца Ягайлаў часапіс Люблінскай уніяй, у выніку якой на карце з'явілася новая дзяржава, адна для «двух народаў» — Рэч Паспалітая.

Шмат месца адведзена няпростым стасункам Ягайлы з Вітаўтам Вялікім. Наогул, гэта быў час, калі стаў на крыло вялікі князь літоўскі Ягайла і са сваёй рэзідэнцыі ў Крэве (цяпер Смаргонскі раён) узняўся на высокую Вавельскую гару ў Кракаве — узляцеў на каралеўскую вышыню. Здаецца, пашлюбаваўся не адно з самай маладой і самай прыгожай каралевай польскай Ядвігай, а і з Польшчай у Княства адбыўся шлюб.

Аднак і ў польскай сталіцы не забываўся Ягайла ні пра сваю зямлю, ні пра сваіх людзей, ні пра свой бацькоўскі край, ні нават пра традыцыйнае для роднай зямлі язычніцтва і ўсё больш значнае ў жыцці народа праваслаўе. Наадварот, магчыма, з геаграфічнай і палітычнай вышыні яшчэ больш выпукла сталі бачны яму вартасці і каштоўнасці роднай зямлі, яшчэ больш абвастралася пачуццё адказнасці за той куточак свету, які пеставаў і гадаваў яго самога і шмат якіх выбітных асоб, што жыццём сваім і актыўнай дзейнасцю сведчылі: Вялікае Княства Літоўскае — гэта роўнавысокая і раўнавартасная краіна еўрапейскага грона, якая не павінна і не будзе падпарадкоўвацца нічыім чужым інтарэсам.

Будучы вопытным тагачасным палітыкам, Ягайла, тым не менш, не цураўся, не баяўся і не хаваў ад іншых сваіх чалавечых слабасцей, сваіх прыхільнасцей і звычак. І гэта мо яшчэ адзін важкі доказ неардынарнасці і значнасці гэтай асобы, у якой была і такая ж цікавая і неабыякавая да мужавых спраў спадарожніца — чацвёртая жонка Соф'я са знакамітага роду Гальшанскіх. Таму і ў першай кнізе, і ў гэтай шмат месца адведзена сямейнаму жыццю Ягайлы, лёсу трох папярэдніх жонак, ягонай апантанасці мець сыноў, каб законным спадчынным чынам перадаць каралеўскі і велікакняскі пасад у надзейныя рукі, якія і ўладу чужому чалавеку не саступяць, і Княства з Каронай у крыўду не папусцяць.

І таму небывалай сталася каралеўская радасць, калі Соф'я нарадзіла першынца (каралю ж ужо больш за семдзесят!), — працяг роду забяспечаны, каралеўская дынастыя складваецца.

І таму невымернай і балючай была горыч, калі данеслі, раздзьмухалі вестку пра тое, што каралева быццам бы не аднаму Ягайлу належыць, што мо і сын яе не ягоны сын…

Радасць і трагедыя раздзіралі душу Ягайлы. Сямейная трагедыя дапаўнялася вострай палітычнай небяспекай — не аціхалі пераможаныя ў нядаўняй Грунвальдскай бітве крыжакі, усё

больш нахабна і востра-балюча кусалі яны і асабіста караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага. Дадавалі клопату не заўсёды мірныя дні на вялікалітоўскіх землях.

І якое трэба было мець самавалоданне, каб асабістыя згрызоты і непамыснасці не перанесці на справы дзяржаўныя і міждзяржаўныя. Ягайла аказаўся моцным. Ён і каралеўскія справы вырашаў годна і самавіта, і Княству не здрадзіў, не выракся праваслаўя, як мог у тых абставінах спрыяў яму. Нават на сённяшніх польскіх землях захаваліся прыкметы гэтага. Згадайма хоць бы капліцу Святой Тройцы ў Любліне, распісаную па загадзе Ягайлы прывезенымі ім з русінскіх (беларускіх?) зямель майстрамі на праваслаўныя біблейскія сюжэты.

Пра ўсё гэта — у дзвюх кнігах рамана «Каралева не здраджвала каралю...». Адметнасць другой кнігі ў тым, што сухія з'явы, факты, дакументы, падзеі падаюцца з эмацыянальнай падсветкай, «ачалавечваюцца», становяцца жывымі і цікавымі сведкамі эпохі. Многія з іх спалучаны з міфамі, легендамі, версіямі, выказваннямі вядомых гісторыкаў. А ёсць і тое, што згадваецца ўпершыню.

Таму сухаватыя факты чытаюцца з увагай і напружанасцю, бо ў іх на першым месцы — драматызм паводзін чалавека, размаітае жыццё людзей, іхнія стасункі з акаляючым светам. Яны — як своеасаблівы факталагічны дэтэктыў распавядаюць пра Ягайлаў час, пра эпоху Ягелонаў-Ягайлавічаў, пра клопат гаспадароў вялікалітоўскіх зямель заставацца самастойнымі ў любых гістарычных і палітычных абставінах, не дапусціць інкарпарацыі-ўлучэння Вялікага Княства Літоўскага ў Каралеўства Польскае.

Аўтар выказвае шчырую падзяку дацэнту кафедры гісторыі Старажытнага свету і Сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэю Прохараву за карысныя парады пры стварэнні Ягайлавага часапісу.





*Няма памяцi пра былое;*
*ды i пра тое, што будзе,*
*не застанецца згадкi мiж тымi,*
*што прыйдуць пасля.*
Эклезiяст

## КРАIНЫ, КНЯСТВЫ, КАРАЛЕЎСТВЫ

***Вялiкае Княства Лiтоўскае, Рускае i Жамойцкае*** — феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе, якая ў XIII–XVIII стагоддзях займала тэрыторыi сучасных Беларусi i Лiтвы, з 1422 года — Жамойцi, уключала частку ўкраiнскiх зямель (Кiеўская, Чарнiгаўская, Валынская — з XIV стагоддзя да 1569 года), у XIV — пачатку XVI стагоддзя ахоплiвала i частку велiкарускiх зямель. Першай сталiцай з 1253 года — з часу каранацыi на караля лiтоўскага Мiндоўга — быў Навагародак, пасля Гедымiн перанёс яе ў Кернаў, пасля ў 1310-я гады ў збудаваныя iм Трокi (цяпер Тракай у Лiтве), а адтуль у 1323 годзе ў Вiльню.

Часам утварэння Княства лiчацца 1240-я гады, калi ў Новагародку па запрашэннi тутэйшых баяраў пачаў княжыць Мiндоўг. На чале ВКЛ стаяў вялiкi князь, якога называлi гаспадаром. Ён меў абсалютную ўладу, з'яўляўся адначасова суддзёй, адмiнiстратарам, камандаваў узброенымi сiламi. Вялiкага князя спачатку выбiралi вузкiм

колам найбольш важных асоб, а з канца XV стагоддзя — на вальных (агульных) соймах з удзелам прадстаўнікоў усіх зямель. На галаву вялікага князя ўскладалася карона — як сімвал улады. Каранацыі адбываліся ў віленскім касцёле святога Станіслава. Вядомы гады, калі адбываліся гэтыя ўрачыстасці: 1392, 1440, 1492, 1506, 1529. Першым гаспадаром быў Міндоўг (1195? — 1263), які стаў першым і адзіным каралём Вялікага княства — каранаваны 6 ліпеня 1253 года ў Навагародку.

Пасля Люблінскай уніі 1569 года кароль польскі станавіўся і вялікім князем літоўскім, адзінаўладна ўзначальваў агульную дзяржаву — Рэч Паспалітая абодвух народаў — *Rzeczpospolita Obojga Narodów*. У канцы XIV — XVII стагоддзі дзяржаўнай мовай у Княстве была старажытнабеларуская. Прафесар Оксфардскага ўніверсітэта Б. Морфіл пісаў: «Беларусы былі найбольш цывілізаванай нацыяй на ўсходзе Еўропы. На беларускай мове дайшлі да нас сапраўдныя дакументы, якія выдавалі польскія каралі сваім падданым у XV–XVI стагоддзях». Княства вяло барацьбу з экспансіяй крыжаносцаў, з Залатой Ардой, Крымскім ханствам.

Пры двары вялікага князя літоўскага з канца XV стагоддзя і да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) былі пасады:

***Кухмістар*** — загадваў прыдворнай кухняй і кухарамі.

***Стольнік*** — адказваў за сервіроўку княскага стала і падачу страў.

***Падстолі*** — намеснік стольніка.

***Краўчы*** — прыдворны, які наразаў стравы, пасля таго як стольнік падрыхтаваў стол.

***Чашнік*** — прыдворны, які апекаваўся належным утрыманнем склепаў з прыпасамі і напоямі.

***Падчашы*** — прыдворны ў вялікага князя, падаваў князю напоі, але мусіў спярша сам пакаштаваць іх. За тое, што пасада мела высокую годнасць, на яе прызначаліся

прадстаўнікі выключна магнацкіх родаў. Першым вядомым падчашым быў Алехна Мантыгердавіч (1410).

***Піўнічы*** — прыдворны ў вялікага князя літоўскага, адказваў за княскія піўніцы і якасць піва, за своечасовыя яго пастаўкі.

***Навагародак*** — першая сталіца (сталец) Вялікага Княства Літоўскага. Упершыню згадваецца пад 1044 годам, калі адбываўся паход князя Яраслава Мудрага на Літву. Аднак існуе меркаванне, што паселішча тут існавала яшчэ ў X стагоддзі. З сярэдзіны 1240-х гадоў горад быў рэзідэнцыяй князя Міндоўга, пазнейшага вялікага князя літоўскага і першага караля (1253) Вялікага Княства Літоўскага. З гэтага часу Навагародак стаў стальцом Княства. Пасля вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу на кароткі час у Кернаў, а затым, верагодна, у 1310-я гады, у пабудаваныя ім Трокі, з якіх той жа Гедымін перамясціў сталіцу ў 1323 годзе ў Вільню. У XIII–XIV стагоддзях Навагародак з'яўляўся цэнтрам удзельнага Навагародскага княства і з 1329 года знаходзіўся ў валоданні Карыята (каля 1358 — паміж 1358 і 1366) — сына вялікага князя літоўскага Гедыміна і княгіні Еўны, пасля 1358 года горад перайшоў да сына Карыята Фёдара, а з 1386 года ў валоданне Карыбута (? — пасля 1404) — князя з роду Гедымінавічаў, трэцяга сына вялікага князя літоўскага Альгерда і Уляны Цвярской. У 1428 годзе Вітаўт адпісаў горад і навакольныя вёскі ў пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Уляне Гальшанскай — цётцы Соф'і Гальшанскай, якая была жонкай караля польскага Ягайлы. Шлюб Ягайлы і Соф'і адбываўся ў Навагародку 24 лютага 1422 года.

У 1316–1596 гадах Навагародак меў статус цэнтра самастойнай Літоўска-Навагародскай мітраполіі, якая ўключала праваслаўную царкву ВКЛ і Галіцыі. З 1316 года ў Навагародку знаходзілася рэзідэнцыя прызначанага Канстанцінопальскім патрыярхам першага мітрапаліта Кіеўскага ў ВКЛ Феафіла. У студзені 1507 года стаў цэнтрам Нова-

гародскага ваяводства. З 1511 года валодаў магдэбургскім правам. З 1581 па 1775 год тут праводзіў свае пасяджэнні Галоўны трыбунал ВКЛ. Не раз цярпеў ад войнаў і захопаў, ад пажараў. Напрыклад, у 1314 годзе крыжакі дайшлі да Навагародка, сталі каля яго аблогай. На дапамогу навагародцам рушыў князь Давыд Гарадзенскі. Ён спаліў на Нёмане крыжацкія судны, захапіў іхніх коней. Крыжакі пацярпелі паразу. У 1391 і 1394 гадах напады на Навагародак узначальвалі вялікія магістры Тэўтонскага ордэна Конрад Валенрод і Конрад фон Юнгінген. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе знаходзіўся ў складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета.

***Навагародскі замак*** — існаваў у X — пачатку XVIII стагоддзяў на Замкавай гары, вышыня якой каля 20 м. Акружаў замак высокі земляны вал і глыбокі роў — да 10 м углыб і 10–12 м ушыркі. У XIII стагоддзі была збудавана вялікая абарончая вежа — памерам 12 × 12 м і вышынёй да 25 м. У канцы XIV стагоддзя, каб засцерагчыся ад нападу крыжакоў, Вітаўт загадаў узвесці на Замкавай гары мураваныя сцены таўшчынёй да 2 і вышынёй да 8 метраў і яшчэ тры трохпавярховыя вежы з байніцамі. Наогул, мураваны сямівежавы замак будаваўся двума заходамі: у канцы XIV — пачатку XV стагоддзя і ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзя, каб адбіваць напады татараў. З XIV да XIX стагоддзя ў замку была царква, дзе да 1795 года праходзілі пасяджэнні апеляцыйнага Трыбунала Княства. У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя з'явіўся палац з капэлай. У 1428 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт Вялікі перадаў замак і ўвесь горад у пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Ульяне з роду Гальшанскіх. Падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1657 гадоў сцены і многія вежы былі пашкоджаны. У 1706 годзе замак быў узарваны шведамі.

***Навагародскае княства*** — удзельнае княства, існавала ў Панямонні ў XIII–XIV стагоддзях. Упершыню нова-

гародскі князь Ізяслаў згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1237 годзе. Уладальнікамі княства з'яўляліся Міндоўг, князь Раман Данілавіч (у 1250-х гадах) — сын галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча, вялікі князь літоўскі Войшалк (валодаў княствам у 1254, 1258–1263 гадах), сын вялікага князя літоўскага Гедыміна Карыят (валодаў княствам з 1329). Меў дачыненне да княства Фёдар — сын Карыята. У канцы XIV ст. вялікі князь літоўскі Вітаўт зняволіў яго. З таго часу Навагародкам валодалі намеснікі вялікіх князёў літоўскіх.

***Кернаў*** — другая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Цяпер гэта мястэчка ў Шырвінтаскім раёне Літвы. Упершыню згадваецца ў 1279 годзе. Тут знаходзілася рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскаіх Трайдзена (1270–1282), Віценя (1295–1316) і на пачатку княжання — Гедыміна. У XIII–XIV стагоддзях для абароны горада служылі 5 драўляных замкаў на беразе ракі Вяллі, што, акрамя таго, надавала гораду асаблівае значэнне ў дзяржаўным жыцці. У 1390 годзе замкі былі разбураны Тэўтонскім ордэнам, горад страціў сваю палітычную значнасць.

***Трокі*** — трэцяя сталіца Вялікага Княства Літоўскага прыкладна з 1310-х гадоў, цяпер горад Тракай у Літве. Упершыню згадваецца ў нямецкіх летапісах у 1337 годзе. Найбольш вядомы ў XIV–XV стагоддзях, адыгрываў значную ролю ў палітычным і дзяржаўным жыцці Княства. Трокі, лічыцца, збудаваў вялікі князь Гедымін. Як паведамляе легенда, ён выехаў з Кернава за Вяллю і ўбачыў у пушчы прыгожую гару, вакол якой распасціраліся дубровы і раўніны. Гэтая мясцінка вельмі спадабалася яму. Тут і заклаў Гедымін крэпасць і горад. І назваў яго Трокі, і перанёс сюды з Кернава (другой сталіцы ВКЛ) сталец Княства. Але неўзабаве вялікі князь вырушыў з новай рэзідэнцыі на ловы. Над ракой Вяллёй, на высокай гары, упаляваў вялікага тура. Гару гэтую пасля назвалі Туравай гарой. (Пра заснаванне Вільні

глядзіце ў артыкуле «Вільня».) Калі сталіцай Княства стала Вільня, Трокі адышлі сыну Гедыміна Кейстуту. Аднак у некаторых летапісах згадваецца, што Трокі (адначасова з Вільняй) былі сталіцай і пры вялікіх князях Свідрыгайлу і Жыгімонце Кейстутавічы. Пазней падзяліліся на Старыя і Новыя Трокі (летапісы сведчаць, што Новыя Трокі збудаваў Кейстут, куды пераехала і ягоная сталіца). У Новых Троках у 1350 годзе нарадзіўся будучы вялікі князь літоўскі Вітаўт, тут знаходзілася адна з ягоных рэзідэнцый. Як за сваю родавую вотчыну Вітаўт шмат ваяваў і з Ягайлам, і з іншымі, з 1392 года Трокі з'яўляліся вотчынай Вітаўта. У XV стагоддзі ў Троках часта жыў вялікі князь літоўскі Казімір. Аднак у сувязі з тым, што Трокі былі непадалёк ад Вільні, з часам іх значэнне зменшылася. З 1413 года — цэнтр ваяводства і павета. Тут (іншыя сведчаць, што ў Вільні) у 1430 годзе адбыўся з'езд вядомых еўрапейскіх уладароў у сувязі з маючай быць каранацыяй Вітаўта Вялікага на караля літоўскага (першы такі збор адбыўся ў студзені 1429 года ў Луцку). Тут жа 27 кастрычніка 1430 года Вітаўт памёр, не дачакаўшыся кароны ад Папы Рымскага. У 1440 годзе ў Троках быў забіты вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч. Напрыканцы XVI стагоддзя тут праходзілі пасяджэнні Трыбунала ВКЛ. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе адышлі да Расійскай імперыі.

***Вільня*** — чацвёртая сталіца Вялікага Княства Літоўскага з пачатку XIV да канца XVIII стагоддзя, знаходзіцца ў сутоках рэк Вялля і Вільня (Віленка). Упершыню згадваецца ў 1323 годзе ў грамаце да ганзейскіх гарадоў. Тады ж Гедымін перанёс сталіцу Вялікага Княства Літоўскага з Трокаў у Вільню. А горад, збудаваны вялікім князем, быў убачаны ім у сне, калі пасля ловаў вялікі князь Гедымін вырашыў пераначаваць на Свінтарогу — у 1272 годзе літоўскі князь Святарог (Швінтарог) непадалёк ад упадзення Віленкі ў р. Вілія збудаваў капішча Перуна, дзе знаходзілася месца спальван-

ня памерлых князёў. У 1382 годзе Ягайла загадаў спаліць тут цела задушанага ў Крэўскім замку Кейстута. Гедыміну прысніўся жалезны воўк, які моцна выў. Вялікі князь паведаміў пра гэта вярхоўнаму жрацу Ліздзейку, той патлумачыў, што жалезны воўк — гэта магутны горад, які стане стальцом, а выццё ваўка — гэта слава, якая разыдзецца па свеце пра заснавальніка. Гедымін збудаваў тут горад — на Свінтарогу дольны, а на гары, якую называлі Лысай альбо Крывой гарой, — другі горад. Так і з'явілася на зямлі Вільня. З гэтага часу пачынаецца віленскі перыяд гісторыі ВКЛ. У сваіх граматах Гедымін называў Вільню каралеўскім горадам, а сябе «каралём Літвы і Русі».

Рэзідэнцыяй вялікіх князёў служыў Верхні замак. У сакавіку 1387 года Вільня першай у Княстве атрымала магдэбургскае права. У 1387 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла ахрысціў жыхароў горада язычнікаў (*paganus* — з лацінскай мовы азначае «язычнік», літаральна — «сельскі жыхар») па каталіцкім звычаі, на месцы язычніцкага капішча збудаваў касцёл Святога Станіслава, які стаў кафедральным. У ім у 1392, 1440, 1492, 1506, 1529 гадах адбываліся каранацыі вялікіх князёў літоўскіх. 17 лютага 1387 года Ягайла выдаў прывілей аб заснаванні ў Вільні лацінскага біскупства (адміністрацыйная адзінка рымска-каталіцкай царквы). З пачатку XV стагоддзя ў Вільні знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі, ягоная кафедра была ў Прачысценскім саборы. З 1413 года горад з'яўляўся цэнтрам Віленскага ваяводства. У 1492 годзе тут заснаваны Віленскі манетны двор. У горадзе мелі свае палацы Сапегі, Радзівілы, Астрожскія, Хадкевічы, Кішкі і іншыя вялікалітоўскія[1] магнаты.

[1] Тэрмін «вялікалітоўскі» тут і далей ужываецца для абазначэння ўсіх жыхароў альбо вояў, чыноўнікаў Вялікага Княства Літоўскага, ён носіць не этнічны характар, а палітычны.

З XV стагоддзя ў Вільні адбываліся вальныя соймы Вялікага Княства Літоўскага, пазней галоўныя з'езды Княства. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Вільня апынулася ў Расійскай імперыі.

***Літоўская мітраполія*** — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка Праваслаўнай Царквы ў ВКЛ. Верагодна, была заснавана па ініцыятыве вялікага князя літоўскага Гедыміна ў той час, калі візантыйскім імператарам быў Андронік II Палеалог (1282–1328). У гэты ж час патрыярхам быў Іаан XIII Гліке (1315–1320). Кафедра мітрапаліта знаходзілася ў Новагародку. Перастала існаваць пасля смерці ў 1339 годзе кіеўскага мітрапаліта Феагноста. Затым была адноўлена пры вялікім князі літоўскім Альгердзе. Гісторыя праваслаўнага жыцця на землях ВКЛ мае шмат нявысветленых і спрэчных момантаў. У 1415 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт правёў у Новагародку сабор, на якім быў абраны мітрапалітам кіеўскім і літоўскім Рыгор Цамблак. Царква стала аўтакефальнай. Кафедра пры Цамблаку была перанесена з Кіева ў Новагародак.

***Крэва*** — мястэчка на рацэ Краўлянка ў Ашмянскім павеце. Цяпер вёска ў Смаргонскім раёне. Першая згадка знаходзіцца ў нямецкіх хроніках у XIII стагоддзі як пра сталіцу напаўлегендарнай балта-славянскай дзяржавы Нальшчанаў (Нальшанаў) — незалежнага княства плямені нальшы ў сярэдзіне таго ж стагоддзя. Уладарыў там князь Даўмонт, бацька Давыда Гарадзенскага, таму Крэва часта называлі Даўмонтаў горад. У 1260-я гады Крэва ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага. У 1338 годзе па спадчыне перайшло да князя Альгерда. Калі ў 1391 годзе загінуў апошні крэўскі князь Вігунд (Вігант), Крэва атрымала статус староства. У 1507 годзе Крэва наведаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары. З 1559 года мела магдэбургскае права. У 1564 годзе Крэва атрымаў Андрэй Курбскі, які ўцёк у Вялікае Княства Літоўскае ад рускага цара Івана IV Жах-

лівага. З 1569 Крэва ў складзе Рэчы Паспалітай, з 2-й паловы XVI стагоддзя мястэчка з'яўлялася каралеўскай (дзяржаўнай) уласнасцю. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе — у складзе Расійскай імперыі.

***Крэўскае княства*** — удзельнае княства, якое існавала ў XIV стагоддзі, цэнтрам было Крэва. Вялікі князь літоўскі Гедымін у 1338 годзе перадаў княства сыну Альгерду. Калі княства перастала існаваць, замест яго было ўтворана староства Віленскага ваяводства.

***Крэўскі замак*** — першы цалкам мураваны замак тыпу кастэль у Вялікім Княстве Літоўскім. Закладзены Гедымінам у сутоках рэчак Краўлянка і Шляхцянка на балоцістым поплаве і насыпанай пясчанай выдме на заходняй ускраіне Крэва ў 30-я гады XIV стагоддзя. Пад глыбокія фундаменты падкладвалі надзейныя падушкі з камення і гліны, дубовых і яловых жэрдак і галін — каб мякка было амаль трохметровай таўшчыні сценам, каб не разносіліся рэхам па наваколлю страшныя падзеі, што часам тварыліся тут.

Калі Крэва па спадчыне перайшло да Альгерда, ён закончыў будоўлю, замак надоўга стаў рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх з дынастыі Гедымінавічаў, сімвалам іхняй дзяржаўнай моцы.

Кажуць, гэткія збудаванні былі пад сілу толькі сапраўдным волатам альбо нават самім багам. Крэўскі замак узводзілі ў адначассе з Медніцкім, да якога было сем міляў. Калі дойлідам з Меднікаў патрэбен быў мулярскі малаток, яго перакідвалі ў паветры з Крэва. Пра волатаўскую сілу крэўскіх дойлідаў сведчаць і вялікія камяні, што на недасягальнай вышыні разам з цэглай завапнаваны ў сцены замка. Ці не з той пары захавалася сярод людзей выслоўе: «Каб ты на Крэўскі замак валуны цягаў».

Разам з Лідскім, Навагародскім, Медніцкім і Трокскім Крэўскі замак складаў адну лінію магутных крапасных умацаванняў, якія, як сведчаць паданні, былі злучаны між са-

бой падземнымі лёхамі. А Крэўскі замак, акрамя таго, меў падземны ход да самой Вільні.

Замак нагадваў няправільны чатырохвугольнік са сценамі ад 71,55 да 108,5 метра, якія сягалі ўвышкі амаль на 13 метраў. У прасторным двары знаходзіліся драўляныя і мураваныя жылыя пабудовы, кузня, стайня, вадзяны стаў. Замкавую магутнасць падкрэслівалі дзве высокія вежы, размешчаныя па дыяганалі. Адна з іх і дагэтуль не страціла сваёй архітэктурнай выразнасці і дасканаласці. Нездарма называлі яе Княскай. Акрамя мясцовых адметнасцей замак меў прыкметы еўрапейскай архітэктуры — нагадваў шырока вядомыя ў Еўропе замкі-кастэлі.

З лёсам замка цесна зніталваны лёс Вялікага Княства Літоўскага. Вялікія князі Альгерд, Кейстут, Ягайла, Вітаўт упісалі ў яго гісторыю свае старонкі. Тут па загадзе Ягайлы ў 1382 годзе ў лёхах Княскай вежы быў задушаны ягоны дзядзька і праціўнік горды сівы Кейстут. Людзі адразу ж назвалі яе вежай Кейстута. Падобны зыход рыхтавалі і Кейстутаваму сыну — будучаму вялікаму князю літоўскаму Вітаўту. Ды разам з жонкай Ганнай ён перахітрыў. Пераапрануўся ў адзенне служанкі, выслізнуў за сцены замка і ўцёк да крыжакоў. Разам з імі помсціў пасля свайму крыўдзіцелю Ягайлу, спапяляў велікакняскія гарады і крэпасці.

Знешняя небяспека, вострыя міжусобныя сваркі, жаданне ўзмацніць дзяржаву змусілі Ягайлу прыняць прапанову аб заключэнні уніі з Каралеўствам Польскім. Адбылося гэта ў Крэве 14 жніўня 1385 года. А ў 1386 годзе па запрашэнні высокага пасольства з Кракава вялікі князь літоўскі Ягайла пераехаў у Вавельскі замак і стаў каралём польскім Уладзіславам II. Крэва ж перадаў свайму брату Аляксандру-Вігунду, які ў 1391 годзе (такі няўдзячны лёс апошняга крэўскага князя) быў атручаны.

Крэўская унія (ад лацінскага «яднаю, аб'ядноўваю» — аб'яднанне розных зямель, арганізацый, дзяржаў; ды-

настычная унія — аб'яднанне на падставе зліцця, звычайна праз шлюб, дзвюх кіруючых дынастый), якая вывела на каралеўскі пасад Ягелонскую дынастыю, умацавала пазіцыі Вялікага Княства ў Еўропе, на доўгі час звязала яго лёс з лёсам польскай дзяржавы. Але не ўратавала яна самога замка. Крэва штурмам браў родны Ягайлаў брат мяцежны князь Свідрыгайла. Замак бамбардзіравалі крыжакі, некалькі разоў безвынікова штурмавалі крымскія татары, ля сцен аблогай стаялі маскоўскія войскі.

Разбурэнне манументальнай сярэднявечнай крэпасці дакончыла Першая сусветная вайна. Больш як тры гады Крэва знаходзілася на лініі фронту. У замку гаспадарылі немцы.

***Нальшаны, Нальшчаны*** — гістарычная вобласць на паўднёва-заходніх беларускіх землях (цяперашнія Смаргонскі, Астравецкі, Мядзельскі, Валожынскі раёны), насельнікамі якой здаўна былі балты. Але сюды раней, чым на іншыя землі, пранiклі крывічы, якія вялікім племянным аб'яднаннем жылі з IX–X стагоддзяў у вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, на поўдні Чудскога возера, і асімілявалі мясцовых жыхароў. У Дублінскім рукапісе (лацінскі зборнік другой паловы XIII стагоддзя, у якім знаходзяцца творы на лацінскай мове: вершы, дыдактычныя трактаты і інш.) Нальшаны згадваюцца як народ, тут упершыню ўпамінаецца назва Белая Русь *(Alba Russia).* Сталіцай Нальшан у адной нямецкай хронiцы называецца Крэва. Нальшанскім князем быў Даўмонт (у праваслаўі Цімафей, ? — 20.05.1299), бацька Давыда Гарадзенскага. Даўмонт падтрымаў Жамойць у барацьбе з Літвой і ў 1263 годзе забіў караля літоўскага Міндоўга. Пасля таго як у 1264 годзе слугамі Міндоўга быў забіты вялікі князь літоўскі Транята (Трайнята), на пасадзе стаў сын Міндоўга Войшалк, які далучыў Нальшаны да Вялікага Княства Літоўскага.

***Гальшаны*** — сёння вёска ў Ашмянскім раёне, якая дагэтуль захавала сваю старажытную планіроўку і мно-

гія гістарычныя будынкі. Раней Гальшаны былі мястэчкам у Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. Пасля смерці Швінтарога на вялікі пасад літоўскі, жамойцкі, новагародскі і рускі заступіў ягоны сын Скірмант. Скірмантаў сын Гілігін княжыў на зямлі літоўскай і рускай, пакуль не памёр. Затым княжыць пачаў Гілігінаў сын Раман (Рамунт). Калі Раман памёр, разышліся пяць яго сыноў княжыць у розных землях. Сярэдні, Гальшан (Гольша) пайшоў за раку Вяллю.

Гэта і быў той далёкі продак, якому зямля гальшанская сваёю назвай абавязана. Сярод прыгожых гор знайшоў Гольша гару найпрыгожую, што над ракою Вільняй. Збудаваў там горад і назваў яго сваім імем — Гальшаны. А калі ехаў аднойчы на ловы, за дзесяць міль ад свайго горада ўбачыў у пушчы гару яшчэ больш прыгожую ды велічную, раўнінамі вялікімі аблеглую ды багаццем поўную. І спадабалася яму, і пасяліўся ён там, і на той гары над ракою, што Караблём называлася, учыніў горад. І перанёсся туды, і там пачаў княжыць. І назваўся князем Гальшанскім...

Так паведамляе пра заснаванне Гальшанаў у XIII стагоддзі і паходжанне князёў Гальшанскіх Хроніка Быхаўца.

Сынам Гольшы быў Альгімонт (1280), таму ўсе князі з роду Гальшанскіх называліся Альгімонтавічамі. Павел Альгімонтавіч Гальшанскі — біскуп Луцкі з 1530-га, а з 1536-га Віленскі, быў апошнім уладаром Гальшан. Падчарка Алена Сямёнаўна з роду Дубровіцкіх атрымала Гальшаны ў спадчыну, а калі яна пашлюбілася (1558) з Паўлам Іванавічам Сапегам, Гальшанамі сталі валодаць Сапегі.

***Гальшанскае княства*** — уладанне князёў Гальшанскіх у канцы XIII — сярэдзіне XVI стагоддзя з цэнтрам у Гальшанах. Тэрыторыя княства спачатку распасціралася паміж Віліяй і Нёманам. Упершыню згадваецца каля 1280 года. У 1440 і 1492 гадах у Гальшанах праходзілі нарады, на якіх абмяркоўваліся кандыдаты на пасад вялікага князя

літоўскага. У сярэдзіне XVI стагоддзя ўладанні Гальшанскіх перайшлі да Сапегаў.

***Гальшанскі замак*** — існаваў у XVII–XX стагоддзях, руіны яго захоўваюцца дагэтуль у Ашмянскім раёне. Узведзены ў канцы XVI — першай палове XVII стагоддзя на левым беразе р. Гальшанкі. Моцна нагадвае сваёй планіроўкай Мірскі замак. Мае прамавугольную форму 88,6 × 95,6 м, на вуглах стаялі 4 шасціграпныя вежы, жылыя памяшканні знаходзіліся ў двары — так і ў Мірскім. Уязная брама размяшчалася ў цэнтры аднае сцяны. Насупраць яе была капліčка, убудаваная ў жылыя памяшканні. Напачатку, пакуль не было гэтага замка, княская рэзідэнцыя была размешчана на правым беразе р. Карабель, прытоку Гальшанкі, непадалёк ад Гальшан. Пазней Багдан Сапега перанёс яе на новае месца. Замак шмат пацярпеў за сваю гісторыю, быў перабудаваны ў другой палове XVIII і на пачатку XX стагоддзя, моцна змяніўся ягоны першапачатковы выгляд. Тут у 1440 і 1492 гадах адбываліся з'езды феадальнай знаці Вялікага Княства Літоўскага.

***Друцк*** — сёння гэта вёска ў Талачынскім раёне. Знаходзіцца на р. Друць. Калісьці Друцк быў горадам. Заснаваны на месцы паселішча IV стагоддзя. Першая згадка ў летапісах адносіцца да 1092 года. Ляжаў на вядомым гандлёвым шляху з варагаў у грэкі — яго заходнім адгалінаванні. Тут існаваў сухапутны «волак», па якім купцы перапраўляліся з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Дняпра. А таму ў горадзе жылі таксама валачане. Пасля смерці ў 1101 годзе полацкага князя Усяслава Брачыславіча Чарадзея ягоныя сыны падзялілі ўладу. У Мінску княжыў Глеб, у Полацку — Давыд, а Друцк дастаўся князю Барысу. Ад яго пачалася лінія князёў Барысавічаў. Друцк належаў князям Друцкім. Тут пасля смерці свайго бацькі Андрэя Гальшанскага выхоўвалася разам з сёстрамі гальшанская князёўна Соф'я, якая стала чацвёртай жонкай караля польскага Ягайлы. Сястра

князя Сямёна Друцкага Аляксандра, у якога Вітаўт сватаў Соф'ю за Ягайлу, была ейнай маці. У Хронiцы Быхаўца пра гэта сказана: Ягайла і Вітаўт вярталіся са смаленскага паходу, заехалі ў Друцк і былі гасцямі — абедалі — у князя Сямёна Дзмітравіча Друцкага. Там і заўважылі маладых князёўнаў гальшанскіх.

Крымскі хан Махмет Гірэй прынёс шмат шкоды Друцку. Пацярпеў горад і ў 1508 годзе падчас мяцяжу князя Міхаіла Глінскага.

***Друцкае княства*** — існавала ў XII–XVI стагоддзях, да гэтага ўваходзіла ў склад Полацкага княства. Князі друцкія і князі мінскія змагаліся за полацкі пасад. У 1345 годзе, калі вялікім князем літоўскім стаў Альгерд, увайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Калі пачалі знікаць асобныя галіны роду князёў Друцкіх, княства дзялілася і па частках пераходзіла да іншых гаспадароў. Пасля адміністрацыйнай рэформы ў ВКЛ 1565–1566 гадоў увайшло ў склад Аршанскага павета.

***Друцкі замак*** — знаходзіўся на ўзвышэнні (22 метры над узроўнем ракі) на правым беразе р. Друць, існаваў у XIV–XVII стагоддзях (каля цяперашняй вёскі Друцк, што ў Талачынскім раёне). Яго акружаў вялікі вал, які і сёння выглядае велічна, і глыбокі роў. Меўся таксама падзамак, што дадавала абарончых магчымасцей самому замку. Пляцоўка замка мела памеры 140 × 80 м. У 2-й палове XVI стагоддзя польскі гісторык Аляксандр Гваньіні (гэта ён выдаў у 1578 годзе «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі», дзе маецца шмат матэрыялаў пра Княства), які служыў у Віцебскім гарнізоне ротмістрам, пісаў пра Друцк, у якім «быў замак драўляны на гары высокай».

***Гародня*** (Гарадзень, Горадня, Горадзен, Гродна) — «каралеўскі» горад Трокскага ваяводства, як цэнтр удзельнага княства ўпершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1127 годзе. А князь гарадзенскі згадваецца ў летапісах пад 1116 го-

дам. Раскопкі сведчаць, што яшчэ ў канцы X стагоддзя ў сутоках ракі Гараднічанкі з Нёманам існавала славянскае паселішча. На Замкавай гары ў даўнасці быў збудаваны княскі палац — практычна магутная крэпасць з нябачанай па тым часе абарончай сцяной. Важны цэнтр палітычнага і дзяржаўнага жыцця ВКЛ. Тут неаднаразова бывалі вялікія князі літоўскія і каралі польскія, праходзілі важныя сходы і з'езды вялікалітоўскіх магнатаў. З 1376 года горад належыць вялікаму князю літоўскаму Вітаўту, які перабудаваў крэпасць і практычна надаў гораду значнасць другой сталіцы Княства. Пасля перамогі літоўска-польскіх войскаў на Грунвальдскім полі ў 1410 годзе Гародня набывае новы статус.

У 1496 гораду нададзена магдэбургскае права. Тут знаходзілася сядзіба вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх, праходзілі соймы Княства — у 1501, 1506, 1522, 1566, 1567, 1568 гадах. Напрыканцы XIV стагоддзя (згадваецца ўпершыню ў 1389 годзе) пабудаваны касцёл Прачыстай Маці Божай, названы Фарай Вітаўта. У 1576–1586 гадах Гародня была рэзідэнцыяй караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя. З 1673 года ў Гародні меў права праводзіцца кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай. Таму замак пачалі значна перабудоўваць. У ім была Сенацкая зала, а ў будынку побач — Пасольская. У 1678 годзе ў замку адбыўся першы сойм, які адкрыў кароль Ян III Сабескі. Да канца XVIII стагоддзя іх было праведзена 11. Апошні сойм адбыўся ў 1793 годзе. На ім было зацверджана рашэнне аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. У каралеўскім замку жыў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. 25 лістапада 1795 года ў сваёй рэзідэнцыі ў Новым замку ён вымушаны быў адмовіцца ад каралеўскага пасада на карысць расійскай імператрыцы.

***Кіеўская Русь*** — раннефеадальная дзяржава ўсходніх славян у другой палове IX — пачатку XII стагоддзя. Утварылася ў выніку аб'яднання зямель, што належалі паля-

нам, драўлянам, ільменскім славенам, дрыгавічам, радзімічам, крывічам і іншым плямёнам. Займала тэрыторыю ад Балтыйскага мора на поўначы да Чорнага мора на поўдні, ад Карпат на захадзе да басейна Акі і верхняй Волгі на ўсходзе. Найбольшай магутнасці дасягнула пры Яраславу Мудрым (1019–1054), аб'яднанне зямель адбывалася падчас праўлення Уладзіміра Манамаха (1113–1125) і яго сына Мсціслава Вялікага (1125–1132). З 1132 года адбываўся распад дзяржавы, феадальная раздробленасць.

На чале стаяў вялікі князь, які лічыўся самым галоўным сярод усіх іншых князёў. Пасля распаду Кіеўскай Русі ў XII–XIV стагоддзях тытул вялікага князя насілі цвярскі, разанскі, маскоўскі, суздальска-ніжагародскі і іншыя князі. З канца XII стагоддзя на паўночна-ўсходніх землях першынство і тытул вялікага князя належалі ўладзімірскаму князю, якога іншыя прызнавалі за «старэйшага брата». З XIII стагоддзя на заходніх і часткова паўднёвых землях першынство меў вялікі князь літоўскі.

***Русь, Руская зямля*** — агульная назва дзяржаўнага ўтварэння ўсходніх славян з цэнтрам у Кіеве з канца IX стагоддзя на сярэднім Дняпры, якая распаўсюдзілася ў XVII стагоддзі на ўсю тэрыторыю Рускай дзяржавы з цэнтрам у Маскве. У XI–XII стагоддзях Руссю называліся землі і княствы, што належалі кіеўскаму князю (Кіеўская Русь). У XII–XIV стагоддзях — назва старажытнарускіх зямель і княстваў у выніку раздробленасці Кіеўскай Русі. У гэты час узніклі назвы Вялікая Русь, Белая Русь, Малая Русь, Чорная Русь, Чырвоная Русь. У сярэдневякоўі — назва этнапалітычнай супольнасці ва Усходняй Еўропе. Адрозніваліся Русь Літоўская і Русь Маскоўская. Беларускія русіны называлі мову маскавітаў маскоўскай, а сваю рускай. Рускія людзі жылі найперш на тэрыторыі Усходняй Беларусі і Смаленшчыне, а многія еўрапейскія народы, у тым ліку палякі, рускія, украінцы, называлі беларусаў літвінамі.

***Беларусь*** — этнічная тэрыторыя беларусаў. У X — пачатку XII стагоддзя знаходзілася ў складзе Кіеўскай Русі. У XIII–XIV стагоддзях у складзе Вялікага Княства Літоўскага, з 1569 года — Рэчы Паспалітай, а з канца XVIII стагоддзя — у складзе Расійскай імперыі.

***Белая Русь*** — у XII–XV стагоддзях назва зямель Паўночна-Усходняй Русі, у XIV–XVII стагоддзях Паўночна-Заходняй Русі. У XII–XIV стагоддзях гэтая назва ўжывалася і адносна наўгародскіх і пскоўскіх зямель. З XVII стагоддзя гэтая назва больш ужывалася ў адносінах да зямель сучаснага беларускага Падняпроўя і Падзвіння. У канцы XVIII стагоддзя ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай беларускія землі далучаны да Расіі.

***Чорная Русь*** — назва ў XIII–XIV стагоддзях паўночна-заходніх беларускіх зямель у басейне верхняга Нёмана. Тут знаходзіліся гарады Гародня, Навагародак, Ваўкавыск, Слонім, Ліда, Нясвіж. У 40–60-я гады XIII стагоддзя была пад уладай вялікага князя літоўскага Міндоўга. Сталіцай з'яўляўся Навагародак. Пасля смерці Міндоўга (1263) часова ўваходзіла ў склад Галіцка-Валынскага княства, а ў XIV стагоддзі разам з літоўскімі землямі складала галоўнае ядро Вялікага Княства Літоўскага.

***Малая Русь*** — гістарычная назва Галіцка-Валынскай зямлі ў XIV–XV стагоддзях і тэрыторыі Падняпроўя з цэнтрам у Кіеве ў XV–XVI стагоддзях. З сярэдзіны XVII стагоддзя назва Малая Расія (Маларосія) дастасоўвалася ў рускіх афіцыйных дакументах да Левабярэжнай Украіны.

***Чырвоная Русь, Галіцкая Русь*** — старажытная назва часткі ўсходнеславянскіх зямель, Галіцыі ў заходнееўрапейскіх пісьмовых крыніцах XIV–XIX стагоддзяў. Сталіцай яе лічыўся Львоў. Займала сучасныя заходнеўкраінскія землі Львоўскай, Івана-Франкоўскай і Цярнопальскай абласцей. У IX–XI стагоддзях уваходзіла ў склад Кіеўскай Русі. У раёне Заходняга Буга знаходзіліся чэрвенскія землі — па на-

зве тутэйшай «сталіцы» Чэрвена. Пазней гэтая тэрыторыя стала вядомай як Чырвоная Русь. У 981 годзе (іншыя называюць 978–981) адбыўся першы паход кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча ў Чэрвенскія землі. З канца XII да сярэдзіны XIV стагоддзя знаходзілася ў складзе самастойнага Галіцка-Валынскага княства. У 1352 годзе Валынская зямля ўвайшла ў Вялікае Княства Літоўскае, а Галіцыя апынулася пад уладай Кароны. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе Галіцыя адышла да Аўстрыі, а ў выніку яе распаду ў 1918 годзе далучана да Польшчы.

***Літва летапісная*** — назва племяннога саюза, пазней гісторыка-геаграфічнай і этнічнай вобласці. Знаходзілася на паўночным захадзе сучаснай Беларусі і паўднёвым усходзе сучаснай Літвы. Ва ўсходнеславянскіх летапісах упершыню згадваецца пад 1040 годам у сувязі з паходам Яраслава Мудрага на Літву. У X–XII стагоддзях на тэрыторыі сучаснай Літвы ўтварыліся аб'яднанні плямёнаў, частку з якіх у 1230–1240 гадах князь Міндоўг аб'яднаў у адзіную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае.

***Аўкштайцдія (Аўкштота)*** — Верхняя Літва, землі ў Вялікім Княстве Літоўскім, што былі заселены балтамоўнымі жыхарамі, на захад ад Жамойці, у верхнім цячэнні Нёмана і на ягоных правых прытоках.

***Жамойць, Жэмайція, Жмудзь (польская назва), Самагіція (лацінская назва)*** — гістарычная і этнаграфічная вобласць у Вялікім Княстве Літоўскім, якая займала заходнія і часткова цэнтральныя землі сучаснай Літвы. Назва паходзіць, як лічаць некаторыя вучоныя, ад літоўскага слова *žemas*, што азначае нізкі, і звязана з рассяленнем жэмайтаў у ніжнім цячэнні Нёмана. Знаходзілася паміж Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі, у выніку чаго часта цярпела ад іхніх нападаў. З 1260 года ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Аднак Тэўтонскі ордэн захапіў Жамойць, і ў 1382–1398 гадах яна была пад яго ўладай, з першай паловы XV стагод-

дзя — пасля разгрому крыжакоў на Грунвальдскім полі, зноў у складзе Княства. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, частка паўднёва-ўсходніх зямель адышла да Прусіі.

***Малая Літва*** — літоўскія землі, што ў 1525–1701 гадах уваходзілі ў склад Прускага герцагства, а з 1701-га — Прускага каралеўства.

***Вялікая Літва*** — так гістарычна называліся з XVI стагоддзя літоўскія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, а з 1795 года — у Расійскай імперыі.

***Маскоўскае вялікае княства*** — феадальная дзяржава, якая ўтварылася ў другой палове XIII стагоддзя ў выніку выдзялення з Уладзімірскага вялікага княства. З канца XIII стагоддзя займала дамінуючае становішча. На чале стаяў вялікі князь маскоўскі, які насіў тытул і вялікага князя ўладзімірскага. Да 1462 года на гэткі пасад трэба было атрымаць згоду — «ярлык» ад ханаў Залатой Арды. У канцы XV стагоддзя стала ядром Рускай цэнтралізаванай дзяржавы.

***Руская цэнтралізаваная дзяржава*** — Маскоўская дзяржава, Расійская дзяржава — шматнацыянальная феадальная дзяржава, якая з'явілася ў выніку аб'яднання рускіх зямель у канцы XV — пачатку XVI стагоддзя вакол Маскоўскага вялікага княства. Вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч III (1440–1505) далучыў да княства Наўгародскую рэспубліку (1478), Растоўскае (1474), Цвярское (1485) княствы, у асноўным завяршыў аб'яднанне вакол Масквы іншых рускіх зямель, адваяваў у ВКЛ значныя тэрыторыі і пасля 1485 года стаў называцца вялікім князем і «государем всея Руси».

***Рэч Паспалітая (Rzecz Pospolita, Rzeczpospolita)*** — традыцыйная назва польскай дзяржавы ў канцы XV — XVIII стагоддзі. Існавала ў форме саслоўнай манархіі, улада перадавалася па спадчыне. Упершыню тэрмін ужыты ў пачатку XIII стагоддзя ў хроніцы Вінцэнта Кадлубка. Тэрыторыя Рэчы Паспалітай з залежнымі землямі каля 1500 года склада-

ла 1,1 мільёна квадратных кіламетраў, а ў 1772 годзе — каля 0,7 мільёна. З часу Люблінскай уніі афіцыйная назва аб'яднанай польска-літоўскай дзяржавы. Феадальная федэратыўная дзяржава, у якую аб'ядналіся ў 1569 годзе Карона (Польшча) і Княства (Вялікае Княства Літоўскае), з'яўлялася агульнай дзяржавай двух народаў. Існавала да 1795 года, пасля чаго была ліквідавана ў выніку трох падзелаў яе тэрыторыі. На чале стаяў пажыццёва абраны кароль, які адначасова насіў тытул вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага. Аднак назва гэтая гістарычна ўжывалася і раней. Некаторыя гісторыкі робяць такую выснову: пасля уніі з Вялікім Княствам Літоўскім польская дзяржава стала самай магутнай у Еўропе, у XVII стагоддзі яна аказалася арэнай грамадзянскай вайны, а напрыканцы XVIII стагоддзя стала ахвярай суседзяў.

***Карона*** — назва ўласна Польшчы ў XIV–XVIII стагоддзях. Калі Рэч Паспалітая і Вялікае Княства Літоўскае пасля Люблінскай уніі 1569 года былі аб'яднаны ў адну дзяржаву, ужывалася з мэтай адрозніць яе ад ВКЛ, поўная назва — Карона Каралеўства Польскага.

***Малапольшча, Малая Польшча*** — гістарычная вобласць Польшчы ў верхнім і сярэднім цячэнні Віслы. З канца X стагоддзя землі гэтыя знаходзіліся ў складзе старажытнапольскай дзяржавы Пястаў. Аб'ядноўвала Кракаўскую і Сандамірскую землі, якія пазней ператварыліся ў княствы. У XIV–XVI стагоддзях лічылася найбольш эканамічна развітой і палітычна актыўнай. Кракаў з'яўляўся сталіцай і месцам каранацыі польскіх каралёў. Знікла ў выніку трох падзелаў Польшчы.

***Кракаў*** — горад на поўдні Польшчы, з'яўляўся сталіцай Малапольшчы і месцам каранацыі польскіх каралёў (з 1320 года). У верхнім цячэнні Віслы. Згодна з паданнем, горад заснаваў міфалагічны Крак на месцы паселішча племя віслян. Ягоная дачка Ванда не захацела пайсці замуж за нямецкага рыцара і кінулася ў воды Віслы. Згадваецца ў 996 годзе. З канца X стагоддзя ў складзе польскай дзяр-

жавы. Каля 1040 года стаў рэзідэнцыяй уладароў і сталіцай дзяржавы. У 1241 годзе разбураны і спалены татарамі. Захавалася легенда, што падчас татарскага штурму на вежы самага высокага ў горадзе Марыяцкага касцёла (адна з вежаў мае 81 метр) нёс варту воін. Калі ён заўважыў ворага, падаў сігнал трывогі. Аднак страла татарскага захопніка трапіла яму ў шыю, мелодыя раптоўна перапынілася. І цяпер, як памяць пра тыя падзеі, сігнал, які гучыць з Марыяцкай вежы, перапыняецца на палове такта.

У Кракаве быў самы вялікі па еўрапейскіх мерках (на час пабудовы ў 1257 годзе, пасля знішчэння горада татарамі ў 1241 годзе) Рынкавы пляц, на якім каралі, у тым ліку Ягайла, пасля каранацыі прымалі прысягу мяшчан.

У 1596 годзе каралеўская рэзідэнцыя перанесена ў Варшаву, якая ў 1611 годзе стала сталіцай Рэчы Паспалітай. Самым знакамітым з многіх помнікаў Кракава з'яўляецца Вавельскі замак — рэзідэнцыя каралёў, на цяперашні лад быў перабудавны прадстаўнікамі Ягелонскай дынастыі каралямі Жыгімонтам Старым і Жыгімонтам Аўгустам. У Вавельскім кафедральным касцёле адбываліся каранацыі каралёў і іхніх жонак. Апошняя каранацыя Аўгуста III Саксонскага (1733–1763) разам з жонкай Марыяй Юзэфай адбылася 17 студзеня 1734 года. З 1333 года Кракаў з'яўляецца месцам пахавання каралёў. 25 мая 1339 года памерла каралева польская Альдона (Ганна), дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна, якая была замужам за каралём Казімірам. Яе пахавалі ў Кракаўскай катэдры, гэта было першае пахаванне каралевы ў Вавельскім касцёле. У касцёле знаходзяцца таксама надмагіллі Ягайлы, ягонай жонкі Соф'і Гальшанскай, іхняга сына Казіміра і іншых высокіх асоб, маецца Жыгімонтаўская капліца. На плошчы Яна Матэйкі знаходзіцца помнік пераможцу ў Грунвальдскай бітве каралю Ягайлу. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Кракаў знаходзіўся ў складзе Аўстрыйскай імперыі.

***Велікапольшча, Вялікая, Старая Польшча*** — гістарычная назва адной з абласцей Польшчы ў басейне сярэдняга цячэння ракі Варта. Цэнтрам з'яўляўся горад Познань. У XV стагоддзі існавалі два асобныя генеральныя соймікі для Малапольшчы і Вялікай Польшчы. Знікла ў выніку трох падзелаў Польшчы.

***Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі (лац. Sacrum Imperium Romanum Nationis Teutonica)*** — дзяржаўнае аб'яднанне, створанае ў 962 годзе ў выніку заваёўных паходаў германскага караля Атона І (Папа каранаваў Атона І каронай імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, у выніку чаго нямецкія каралі сталі ўладальнікамі значнай часткі Заходняй Еўропы). Хоць, як сцвярджаюць некаторыя вучоныя, Свяшчэнная Рымская імперыя ніколі не была дзяржавай у поўным сэнсе гэтага слова, была найперш, як сказалі б сёння, віртуальным утварэннем. У склад імперыі ўваходзілі Германія — займала дамінуючае становішча, Чэхія, якая пазней стала самай багатай часткай імперыі, Паўночная і Сярэдняя Італія з Рымам, Бургундыя, Нідэрланды, Швейцарыя, польскія землі і інш. З канца XV стагоддзя называлася Свяшчэннай Рымскай імперыяй германскай нацыі. На чале стаяў імператар, які імператарскую карону атрымліваў з рук Папы Рымскага. Папская вобласць, якая існавала як тэакратычная дзяржава ў Сярэдняй Італіі ў 756–1870 гадах са сталіцай у Рыме, таксама ўваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі (962–1274). Аднак пастаянна вялася як адкрытая, так і таемная барацьба за лідэрства — хто мусіў мець першынство: папская ўлада ці імператарская.

З цягам часу ўлада імператараў слабела. Асабліва ў XI–XIII стагоддзях, калі яны распачалі барацьбу з Папам Рымскім за інвестытуру — так у Сярэднія вякі ў Заходняй Еўропе называўся юрыдычны акт перадачы буйнымі землеўласнікамі: імператарамі, каралямі, герцагамі, графамі і г. д. — зя-

мельнага феода (лена) на спадчыннае валоданне зямлёй, а таксама пасады, сана. Сеньёр перадаваў гэтае права васалу на ўмовах нясення ваеннай службы і інш. З часу Атона I і да канца XI стагоддзя імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі належала права зацвярджаць на пасадзе духоўных асоб і ўзводзіць у сан епіскапаў і абатаў. У 1153 годзе германскі кароль Фрыдрых I Барбароса заключыў з Папам Рымскім дамову аб узаемным прызнанні правоў Папы і імператара, аднак у 1157 годзе, калі стаў адначасова імператарам, Фрыдрых адмовіўся прызнаваць вяршэнства папы.

У XIII стагоддзі імперыя страціла Італію. Германія, якая адыгрывала галоўную ролю, распалася на тэрытарыяльныя княствы. Самыя моцныя князі — курфюрсты выбіралі імператара. Вестфальскі мір 1648 года вымушаны быў прызнаць існаванне незалежных дзяржаў, якія ўтварыліся на тэрыторыі імперыі. У выніку напалеонаўскіх войнаў Свяшчэнная Рымская імперыя 6 верасня 1806 года была ліквідавана, апошні імператар Франц II Габсбург адрокся ад рымска-германскай кароны. Узнік так званы Рэйнскі саюз германскіх дзяржаў 1806–1813 гадоў пад пратэктаратам Францыі.

***Тэўтонскі ордэн, Крыжацкі ордэн, Нямецкі ордэн*** — духоўна-рыцарскі каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў 1198–1199 гадах у Палесціне падчас крыжовых паходаў, ваенная арганізацыя нямецкіх рыцараў, якія вялі агрэсіўныя войны ва Усходняй Еўропе. Яго поўная назва — «Ордэн шпіталя Найсвяцейшай Дзевы Марыі нямецкага дома ў Ерусаліме». Як самастойны ордэн яго прызнаў у 1199 годзе Папа Рымскі Інакенцій III, які намагаўся пашырыць уплыў каталіцкай царквы на землі Усходу. Сапраўднымі членамі Ордэна маглі быць толькі немцы. Браты-рыцары былі не толькі манахамі, але мусілі збройна змагацца з «няверным». З XIII стагоддзя да 1525 года рэзідэнцыя Ордэна знаходзілася ў Прыбалтыцы. Сапраўднымі воінамі лічыліся толькі рыцары. У іх былі слугі,

якія аказвалі дапамогу — вялі ў паходах баявога каня, неслі тарчу, дапамагалі адзяваць даспехі і сесці ў сядло.

Польскі князь Конрад Мазавецкі ў 1226 годзе запрасіў рыцараў-манахаў для барацьбы з язычнікамі-прусамі (Крушвіцкі дагавор 1234 года) і ахвяраваў ім Хэлмінскую зямлю ў нізоўях Віслы. Ордэн за два стагоддзі пашырыў свой уплыў на Мазовію, Прусію, Жамойць, пастаянна ваяваў супраць прусаў і іншых народаў Прыбалтыкі, але іхнія землі не аддаў палякам. У 1237 годзе да яго далучаны Ордэн мечаносцаў, утворана яго аддзяленне — Лівонскі ордэн. Ужо ў 1238 годзе Ордэн захапіў значныя тэрыторыі паміж Віслай і Нёманам, у іхнім вусці.

На чале стаяў пажыццёва выбраны генеральнай капітулай вялікі магістр, які зацвярджаўся Папам Рымскім. Хоць і быў выбраны капітулай, але меў неабмежаваную ўладу. Усе члены Ордэна мусілі яму падпарадкоўвацца, у супольным жыцці з братамі меў шэраг прывілеяў: асобную спальню, багацейшы ўбор, асабісты аршак, у чатыры разы большую порцыю ежы і г. д. Меліся вялікія дастойнікі — вышэйшыя чыноўнікі Ордэна. Да іх належалі вялікі комтур, вялікі маршалак, вялікі шатны, вялікі шпітальнік і вялікі падскарбі.

Вялікі комтур быў намеснікам вялікага магістра і яго найбліжэйшым супрацоўнікам. Жыў у замку ў Мальбарку. Акрамя таго, кантраляваў рахункі вялікага падскарбія.

Вялікі маршалак загадваў складамі зброі і вайсковага рыштунку. З 1309 года знаходзіўся ў Круляўцы, быў комтурам, адказваў за абарону замка з боку Вялікага Княства Літоўскага, а таксама за выправы на язычніцкія землі.

Вялікі эканом кіраваў гандлёвай дзейнасцю Ордэна. Іх было два — адзін у Мальбарку, другі ў Круляўцы.

Вялікі шатны займаўся ўборамі братоў сталічнага канвента, але паколькі гэтым жа практычна займаўся мальбаркскі дамовы комтур, пасада вялікага шатнага стала проста ганаровай.

Вялікі шпітальнік кіраваў лячэбнымі справамі ў сталічным замку. Сядзібу меў у Эльблонгу, дзе знаходзіўся галоўны шпіталь Ордэна.

Членамі Ордэна былі браты-капеланы, браты-рыцары, якіх, дарэчы, было не надта шмат, тым не менш, яны займалі дамінуючае становішча. Былі і паўбраты — свецкія браты для службы, якія вытрымлівалі гадавыя іспыты, павінны былі вучыцца веры і маліцца. Насілі верхні шэры плашч з паловай чорнага крыжа, таму часта іх называлі «шэрымі плашчамі». Армія Ордэна была на той час самай лепшай. Ордэнскія браты-рыцары складалі цяжкую кавалерыю, прусы — лёгкую кавалерыю. Нямецкія сяляне-кнехты служылі ў пяхоце і абозе. Падчас крыжовых паходаў у войска ўступала шмат еўрапейскіх паломнікаў. Усе ўдзельнікі паходаў лічыліліся крыжаносцамі, за подзвігі ў славу Хрыста атрымлівалі адпушчэнне грахоў. Часта Ордэн запрашаў у паходы рыцараў з Еўропы.

Паўнамоцным прадстаўніком комтура на пэўнай тэрыторыі быў пракуратар — кіраўнік адміністрацыйнай акругі, званай пракуратарыяй. Комтур — кіраўнік канвента і адміністрацыйнай акругі, званай камтурыяй, падпарадкоўваўся вялікаму магістру і меў значныя адміністрацыйныя і судовыя правы. Канвент — гэта ўсе законнікі, што жылі ў замку-кляштары. Акрамя комтура ў склад канвента ўваходзілі 12 братоў-рыцараў і 6 братоў-капеланаў.

Рэзідэнцыяй Ордэна спачатку быў палесцінскі Ако, з 1291 года — Венецыя, з 1309 — Мальбарк (Марыенбург). У 1466 годзе быў заключаны другі пасля Грунвальдскай бітвы Торуньскі мірны дагавор, які закончыў Трынаццацігадовую вайну (1454–1466). Ордэн стаў васалам Польскага Каралеўства. Сталіца перанесена ў Крулявец (Каралевец, Кёнігсберг, Калінінград). У 1525 годзе апошні вялікі магістр Ордэна Альбрэхт Брандэнбургскі перайшоў у пратэстантызм, правёў секулярызацыю Ордэна, ператварыў

яго ў свецкае Прускае герцагства і стаў першым правіцелем. З 1701 года герцагства стала называцца Прускім каралеўствам. Вялікі магістр стаў васалам караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога. Аднак на некаторых нямецкіх землях Ордэн захаваў свае валоданні. У 1809 годзе Тэўтонскі ордэн быў ліквідаваны, але ў 1834 годзе ў Аўстрыі рэарганізаваны і адноўлены як ганаровая духоўная карпарацыя. Сядзіба яго знаходзіцца ў Вене.

***Лівонія, Інфлянты*** — гістарычна ў XII — пачатку XIII стагоддзя так называліся землі Паўночнай Прыбалтыкі (сучасныя Латвія і Эстонія), дзе на ўзбярэжжы Рыжскага заліва ў нізоўях рэк Даўгава і Гаўя сяліліся лівы — фіна-ўгорскае племя. Ад назвы племені пайшла назва зямель. З другой чвэрці XIII стагоддзя назва пашырана на заваяваную крыжакамі тэрыторыю сучасных Латвіі і Эстоніі. Пасля падзей, звязаных з паразай і распадам Лівонскага ордэна, і ў выніку Лівонскай вайны 1558–1583 гадоў частка зямель перайшла пад уладу Вялікага Княства Літоўскага, і яны сталі называцца Лівоніяй, або Інфлянтамі. У выніку пазнейшых войнаў былая лівонская тэрыторыя дзялілася, перападпарадкоўвалася, аж пакуль не была далучана да Расіі ў выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе.

***Лівонскі, Інфлянцкі ордэн*** — створаны на ўсходнепрыбалтыйскіх землях як ваенна-палітычная арганізацыя нямецкіх рыцараў-крыжакоў у XIII–XVI стагоддзях. Узнік у 1237 годзе пасля паразы Ордэна мечаносцаў у бітве ля Саўлы (Шаўляй). Існаваў як частка Тэўтонскага ордэна. Нямецкія рыцары захапілі амаль 2/3 латышскіх і эстонскіх зямель (гістарычная назва Лівонія). На чале Ордэна стаяў магістр, які выбіраўся пажыццёва. Яго рэзідэнцыя знаходзілася ў ордэнскім замку ў Рызе ці Вендэне (зараз Цэсіс). Паходам Ордэна на ўсход перашкодзіла Лядовае пабоішча ў 1242 годзе. Пасля паразы ў час Лівонскай вайны 1558–1583 гадоў Ордэн распаўся і ў 1562 годзе быў ліквідаваны, яго тэрыторыя ўвайшла ў склад ВКЛ, Даніі і Швецыі.

***Крыжаносцы, крыжакі*** — так называлі членаў Тэўтонскага і Лівонскага духоўна-рыцарскіх ордэнаў у сярэднявеччы, з-за таго што на іхнім верхнім адзенні была выява крыжа. Гэтак жа называлі і ўдзельнікаў крыжовых паходаў — рэлігійных войнаў, што вяліся пад апекай каталіцкай царквы заходнееўрапейскімі феадаламі ў XI–XV стагоддзях. Іх называлі яшчэ «змагарамі за веру».

***Мечаносцы*** — нямецкія рыцары, члены духоўна-рыцарскага Ордэна мечаносцаў, які ў 1202 годзе быў заснаваны рыжскім епіскапам Альбертам. Меў на мэце прымусовую хрысціянізацыю і абарону каталіцкай царквы ў Лівоніі. Наладжваў крыжовыя паходы супраць славян і балтаў. Афіцыйна называўся Браты воінства Хрыстовага. Мечаносцамі ж рыцараў называлі з-за таго, што на іхніх белых плашчах былі выявы мяча і крыжа. Узначальваў ордэн выбраны магістр, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Рызе. У 1236 годзе ордэн быў разбіты каля сучаснага літоўскага горада Шаўляй. Ягоныя рэшткі ў 1237 годзе аб'ядналіся з Тэўтонскім ордэнам і ўтварылі Лівонскі ордэн.

***Залатая Арда, Кіпчацкая Арда, Улус Джучы*** — мангола-татарская дзяржава, створаная ў пачатку 40-х гадоў XIII стагоддзя ў выніку мангола-татарскіх заваёў. Яе выдзеліў з мангольскай імперыі Чынгісхан і аддаў гэтыя землі свайму старэйшаму сыну Джучы, таму існавала таксама назва Улус Джучы (улус — удзельнае княства). У арабскім свеце часта называлася Кіпчацкай Ардой (Дэшт-і-Кіпчак). Яе самастойнасць забяспечыў хан Батый — сын Джучы, унук Чынгісхана (кіраваў у 1227–1256 гадах). Падчас праўлення Узбека і ягонага сына Джанібека (кіравалі 43 гады) Залатая Арда стала адной з магутных дзяржаў сярэднявечча. Уваходзілі землі Заходняй Сібіры (пазней называліся Блакітнай Ардой), Паўночнага Харэзма, Волжскай Булгарыі, Паўночнага Каўказа, Крыма, стэпаў ад Волгі да Дуная. Першай сталіцай з'яўляўся Сарай-Бату, кіламетраў за сто ад сучаснай Астрахані. Сюды

з'явіліся рускія князі на чале з вялікім князем уладзімірскім Яраславам Усеваладавічам, якія вымушаны былі прыняць палітычную залежнасць ад Арды. Хоць рускія княствы непасрэдна ў склад Арды не ўвайшлі, аднак былі пад кантролем баскакаў — прадстаўнікоў мангольскіх ханаў, а рускія князі, у тым ліку вялікія князі, атрымлівалі ўладу з рук хана, які даваў ім спецыяльную грамату, што называлася ярлыком, і штогод плацілі даніну. Ажно да Кулікоўскай бітвы 1380 года — цягам 138 гадоў доўжылася мангола-татарскае іга. І яшчэ сто гадоў татары патрабавалі даніну. Толькі Тураўскае, Віцебскае і Полацкае княствы не былі пад уладай Арды. У 1395 годзе войскі Цімура (Тамерлана) разграмілі Залатую Арду. У XIV стагоддзі сталіца была перанесена ў Сарай-Берке паблізу сённяшняга Валгаграда.

У 1413 годзе па прапанове вялікага князя літоўскага Вітаўта Вялікага малодшы сын Тахтамыша, які меў у Лідзе свой двор, Бетсуб-Улан заняў пасад хана Залатой Арды. Упершыню залатаардынскі хан быў каранаваны ў Княстве і прыняў шапку хана з рук вялікага князя літоўскага.

З 1414 года, у канцы якога Бетсуб-Улан быў забіты, пачаўся заняпад Залатой Арды, уладанні апошніх ханаў сталі называцца Вялікай Ардой. У другой палове XV стагоддзя Арда распалася, утварыліся самастойныя ханствы — Астраханскае, Казанскае, Крымскае, Сібірскае, Узбекскае, Нагайская Арда і інш. У 1480 годзе ад ардынскай залежнасці канчаткова пазбавіліся рускія землі.





## ЧАСАПІС

*862* — у «Аповесці мінулых гадоў» упершыню згадваецца заснаваны крывічамі Полацк (Полотеск, Полотьск, Полтеск) на рацэ Палата. Ён з'яўляецца самым старажытным беларускім горадам і адным з самых старэйшых усходнеславянскіх гарадоў. У X–XIII стагоддзях быў цэнтрам значнага па сваёй магутнасці Полацкага княства. У 907, 911, 941 і 944 гадах полацкія дружыны хадзілі паходамі на сталіцу Візантыйскай імперыі Царград, або Канстанцінопаль.

*882* — узяцце Кіева Алегам, які забіў кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра. Кіеў стаў сталіцай старажытнарускіх зямель. Заснаванне Кіеўскай Русі. Алег княжыў у 879–912 гадах. Па тэрыторыі і іншых прыкметах гэтая дзяржава з цэнтрам у Кіеве не саступала імперыі Карла Вялікага і Візантыйскай імперыі. Пра жыццё і дзейнасць Алега вядзецца гаворка ў паэме А. С. Пушкіна «Песнь о вещем Олеге».

*907* — па моры і па сушы вялікая колькасць вояў вялікага князя кіеўскага пайшла на сталіцу Візантыі Канстанцінопаль. Калі падышлі да горада, Алег загадаў паставіць ладдзі на калёсы, зладзіць ветразі, і такім чынам яны сталі абыходзіць перашкоды, зробленыя грэкамі на вадзе. Страх апанаваў жыхарамі горада, калі яны ўбачылі такое. Грэкі папрасілі міру. Алег павесіў на варотах горада свой шчыт як сімвал заваёвы.

Мір з Візантыяй быў падпісаны ў 911 годзе. Гэта быў першы ў гісторыі Усходняй Еўропы пісьмовы дагавор.

*912–945* — княжанне ў Кіеўскай Русі Ігара, які загінуў на зямлі драўлян падчас паўторнага збору даніны.

*922* — утварэнне Полацкай епархіі.

*941–944* — руска-візантыйская вайна, якую вёў супраць грэкаў кіеўскі князь Ігар. Летам 941 года вялікія сілы па моры і па сушы рушылі на Канстанцінопаль, аднак горада не захапілі. Паход Ігара паўтарыўся ў 944 годзе. У выніку быў заключаны мір.

*945* — драўляне забілі вялікага князя кіеўскага Ігара, які надта захапіўся зборам даніны. Абышліся з ім вельмі сурова: прывязалі да двух нагнутых дрэў і адпусцілі іх. Засталася ягоная адзіная жонка Вольга, бо Ігар не скарыстаў тадышняй магчымасці мець некалькі жонак.

*945–957* — праўленне ў Кіеве ўдавы Ігара княгіні Вольгі.

*957* — пасольства княгіні Вольгі ў Канстанцінопаль, яе хрышчэнне.

*964–972* — княжанне ў Кіеўскай Русі Святаслава Ігаравіча (загінуў у бітве з печанегамі).

*966* — польскі князь Мешка I (960–992) з дынастыі Пястаў са сваімі слугамі прыняў хрысціянства па лацінскім (каталіцкім) абрадзе. Неўзабаве новая рэлігія і пісьменства на латыні пашырыліся па ўсёй Польшчы.

Мешка I меў за жонку чэшскую княжну Добраву (Дуброўку), а яна была хрысціянкай. Іменна яго ў 990 годзе Папа Рымскі прызнаў першым польскім каралём.

*974* — кіеўская княгіня Вольга, паводле Віцебскага летапісу, заснавала Віцебск.

*978* — бітва пад Полацкам, князь Уладзімір Святаславіч, які валодаў Ноўгарадам, а пазней быў вялікім князем кіеўскім, разам з дзядзькам Дабрыняй пайшоў на Полацк, па-

сля таго як атрымаў адмову Рагнеды на прапанову аб шлюбе. Полацкі князь Рагвалод, бацька Рагнеды, выступіў супраць войска Уладзіміра. У суровай бітве Рагвалод атрымаў паразу і ўцёк. «На плячах» Рагвалода воі Уладзіміра ўварваліся ў добра ўмацаваны горад. Князя Рагвалода, ягоную жонку і дзяцей забілі. Рагнеда стала адной з жонак князя Уладзіміра Святаславіча. Гэтая перамога змяніла суадносіны ў супрацьстаянні Уладзіміра Святаславіча і Яраполка Святаславіча на карысць Уладзіміра.

*978* — бітва на Друці. Пасля падзення Полацка князь Яраполк выступіў супраць брата Уладзіміра, не жадаючы дапусціць войска Уладзіміра ў Кіеў. На рацэ Друць, за 100 кіламетраў ад Смаленска, адбылася бітва. Яраполк пацярпеў паразу і ўцёк у Кіеў, аднак паслухаўся ваяводаў і таемна пакінуў горад, накіраваўся ў старую крэпасць Радню. Уладзімір стаў кіеўскім князем 11 чэрвеня 978 года. Князь Яраполк здаўся і быў забіты.

*980–1015* — княжанне ў Кіеўскай Русі Уладзіміра I Святаславіча. Быў пазашлюбным сынам вялікага князя кіеўскага Святаслава Ігаравіча. Пасля ўцёкаў у выніку міжусобнай барацьбы ў Скандынавію вярнуўся ў Ноўгарад, выгнаў свайго брата Яраполка. Выправіўся пайсці на Кіеў (каля 980). Захапіў Полацк, забіў Рагвалода з сынамі і жонкай, забраў з сабой князёўну Рагнеду. Захапіўшы Кіеў, пашырыў тэрыторыю Кіеўскай Русі. На галоўным пасадзе ўсталяваў выявы язычніцкіх багоў на чале з Перуном. Другой жонкай пасля Рагнеды была сястра візантыйскага імператара Васіля II Ганна. Усяго меў 5 жонак. Ад іх было 12 сыноў. У 988 годзе сам прыняў ад Візантыі хрышчэне і пачаў хрысціць спачатку Кіеў, а пасля Кіеўскую Русь. У сярэдзіне XIII стагоддзя праваслаўнай царквой быў кананізаваны.

*980* — у «Аповесці мінулых гадоў» упершыню згадваецца Тураў, які ў канцы I тысячагоддзя стаў палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам Тураўскага княства.

У X стагоддзі горад лічыўся адзіным на абсягу пасялення дрыгавічоў. Тут жыў выдатны рэлігійны і культурны дзеяч, пісьменнік (захавалася каля 70 ягоных твораў), багаслоў Кірыла Тураўскі (каля 1113 — пасля 1190). Тут была створана самая ранняя на беларускай зямлі рукапісная кніга — «Тураўскае Евангелле» (XI стагоддзе), якое цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

*981* — як паведамляецца ў летапісах, князь рускі Уладзімір Краснае Сонейка пайшоў з войскам на ляхаў, захапіў Перамышль, Чэрвен і іншыя гарады. Гэта самая першая ваенная сутычка з палякамі.

*983* — рэфармаванне язычніцтва і стварэнне ў Кіеве і Ноўгарадзе агульнадзяржаўнага пантэона багоў, у які ўваходзілі галоўны бог Пярун, бог сонца Дажбог, бог ветру Стрыбог, апякунка жаночага пачатку Мокаш.

*988* — хрышчэнне Кіеўскай Русі вялікім князем кіеўскім Уладзімірам Святаславічам. Гэты працэс доўжыўся не адно стагоддзе. На беларускія землі хрысціянства прыйшло пасля хрышчэння ў 992 годзе Полацка, была створана Полацкая епархія.

*989–996* — будаўніцтва першай мураванай Дзесяціннай царквы ў Кіеве.

*992* — заснавана самая старадаўняя на беларускай зямлі Полацкая праваслаўная епархія, адносілася да Кіеўскай мітраполіі. З гэтай даты прынята лічыць увядзенне хрысціянства на Беларусі. Полацкі Сафійскі сабор з'яўляўся кафедральным храмам Полацкай епархіі. Епархія адноўлена ў 1989 годзе.

*1005* — заснавана другая (пасля Полацкай) з ліку самых старажытных на беларускай зямлі Тураўская праваслаўная епархія, адносілася да Кіеўскай мітраполіі. Да яе належалі гарады Барысаў, Менск, Навагародак, Пінск. Тураўскім епіскапам з 1161 года з'яўляўся Кірыла Тураўскі. У 1984 годзе ён уключаны ў Сабор беларускіх святых. Дзень яго памяці

адзначаецца 28 красавіка (па старым стылі). Калі ў сярэдзіне XIII стагоддзя Тураў быў разбураны, кафедра епіскапа перанесена ў Пінск. Епархія атрымала назву Турава-Пінская. Аднаўлена Тураўская праваслаўная епархія ў 1992 годзе ў складзе Беларускага Экзархата Рускай Праваслаўнай Царквы.

*1013* — паход польскіх вояў на Кіеў.

*1015–1019* — барацьба за кіеўскі стол паміж Святаполкам і Яраславам Уладзіміравічам. Кіеўскі паход польскага князя Баляслава I Храбрага (967–1025).

*1018* — на пачатку жніўня польскія воіны пад кіраўніцтвам польскага князя Баляслава I, саюзніка Святаполка, падышлі да Кіева. Не маючы харчавання, 14 жніўня абаронцы Кіева здаліся. Велікакняскі пасад заняў Святаполк.

*1019–1054* — княжанне ў Кіеўскай Русі Яраслава Уладзіміравіча Мудрага.

*1025* — Баляслаў I прыняў каралеўскі тытул у Польшчы. Каранацыя адбывалася ў Гнезне. Такім чынам было ўтворана Польскае Каралеўства. І так павялося, што ад кожнай каранацыі шляхта чакала новых прывілеяў.

*1037* — пачатак будаўніцтва ў Кіеве галоўнага храма Кіеўскай Русі Сафійскага сабора. Закончаны ў 1043 годзе.

*1039* — Польскае Каралеўства ўступіла ў саюз з Кіеўскай Руссю, які доўжыўся да 1047 года.

*1043* — князь польскі Казімір I Аднавіцель ажаніўся з сястрой кіеўскага князя Яраслава Мудрага Марыяй (Дабрагневай), а пазней сын Яраслава Ізяслаў ажаніўся з сястрой Казіміра.

*1044–1101* — княжанне ў Полацку князя Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем.

*1044* — вялікі князь Яраслаў Мудры заснаваў Навагародак. Адбылося гэта падчас ягонага паходу на ВКЛ.

*1044* — шлюб караля французскага Генрыха I і Ганны Кіеўскай, дачкі Яраслава Мудрага.

*1045–1050* — будаўніцтва ў Вялікім Ноўгарадзе Сафійскага сабора. Будавалі яго кіеўскя майстры на ўзор кіеўскага, толькі крыху меншых памераў. У адным з мясцовых летапісаў было сказана: «Где святая София, ту Новгород». Верагодна, першапачаткова Ноўгарад называўся Славенск Вялікі. Названы так у гонар свайго заснавальніка Славена, родапачынальніка славян і нашчадка Скіфа, які, у сваю чаргу, быў праўнукам біблейскага Іясафата. Значыць, Русь — краіна нашчадкаў Іясафата, у той час калі, згодна са «Словам аб паходзе Ігаравым», Русь лічылася як «жыццё Дажбожа ўнука», што, па сутнасці, азначае — спадчына нашчадкаў Дажбога. Гэта адна з многіх версій паходжання славян.

*Сярэдзіна XI стагоддзя* — у Кіеўскай Русі на ўзор іншых дзяржаў Еўропы ўтвараецца княскі дамен — комплекс заселеных зямель, якія належалі непасрэдна кіраўніку дзяржавы, галаве дынастыі.

*1050–1060* — пабудова Сафійскага сабора ў Полацку падчас праўлення князя Усяслава Брачыславіча Чарадзея (некаторыя лічаць, што будаўніцтва пачата ў 1044 годзе). У сярэдзіне XI стагоддзя ў саборы пачала працаваць самая старажытная на беларускай зямлі бібліятэка. Існавала да 1579 года.

*1054* — памёр Яраслаў Мудры. Рускія землі былі падзелены паміж ягонымі сынамі. Кіеў і Ноўгарад апынуліся ў старэйшага Ізяслава. Святаслаў атрымаў Чарнігаў і Тмутаракань. Пераяслаў, Растоў, Суздаль і Белаазер'е дасталіся Усеваладу. Ігар валодаў Валынню, Вячаслаў — Смаленскам. У Ізяслава, Святаслава і Усевалада аказалася зямель больш, і яны заключылі дамову аб сумесным кіраванні на Русі.

*1054–1073, 1076–1078* — княжанне ў Кіеве Ізяслава Яраславіча.

*1057* — самай даўняй з вядомых рукапісных кніг, што дайшлі да нас, з'яўляецца Астрамірава Евангелле 1057 года, а таксама Ізборнікі Святаслава 1073 і 1076 гадоў.

*1065* — полацкія дружыны стаялі аблогай каля Пскова.

*1066* — полацкі князь Усяслаў Брачыславіч Чарадзей пасля няўдалага паходу на Пскоў заваяваў Ноўгарад, вывез званы Сафійскага сабора. У адказ тры князі — браты Яраславічы на чале з кіеўскім князем Ізяславам пайшлі на полацкую зямлю і захапілі Менск.

*1067* — праз 12 гадоў пасля смерці Яраслава кіеўскі князь Ізяслаў быў разбіты полаўцамі, незадаволеныя кіяўляне сабралі на гандлёвай плошчы горада веча і запатрабавалі, каб князь зноў выступіў супраць полаўцаў. Ізяслаў адмовіўся падпарадкавацца, у адказ веча змусіла яго ўцячы з Кіева, аб'явіла сваім князем Усяслава Полацкага, які на той час быў палонным у Кіеве. Калі ж праз 7 месяцаў Ізяслаў з'явіўся каля Кіева з вялікім польскім войскам, а Усяслаў уцёк, дык кіеўскае веча паслала сказаць братам Ізяслава — князям чарнігаўскаму і пераяслаўскаму, каб яны ішлі абараняць горад свайго бацькі, у адваротным выпадку пагражалі самі спаліць Кіеў і пайсці ў грэцкую зямлю, тым самым змусілі іх уступіцца за Кіеў і патрабаваць ад Ізяслава, каб адаслаў польскае войска.

*3 сакавіка 1067* — бітва на рацэ Нямізе паміж войскамі паўднёварускіх князёў Яраславічаў — Ізяслава, Святаслава і Усевалада і полацкага князя Усяслава Брачыславіча Чарадзея за падпарадкаванне Полацкага княства кіеўскаму князю. Войскі Полацкага княства пацярпелі паразу. Першая згадка пра Менск у «Слове аб паходзе Ігаравым».

*1068* — параза дружын Ізяслава, Святаслава і Усевалада Яраславічаў ад полаўцаў на рацэ Альта. Ізяслаў і Усевалад уцяклі ў Кіеў, Святаслаў — у свой Чарнігаў. У Кіеве адбылося паўстанне. У верасні месцічы выгналі князя Ізяслава, і на кіеўскім стале апынуўся пасаджаны імі полацкі князь Усяслаў Брачыславіч Чарадзей. Ізяслаў уцёк у Польшчу. З дапамогай войска свайго стрыечнага брата караля польскага Баляслава ён прыйшоў да Кіева і праз

год захапіў горад, перабіў арганізатараў паўстання. Усяслаў Чарадзей уцёк.

*1073–1077* — Святаслаў і Усевалад абвінавацілі старэйшага брата Ізяслава ў імкненні ўзурпіраваць уладу і выгналі яго з Кіева. Месца кіеўскага князя заняў Святаслаў, чарнігаўскі стол дастаўся Усеваладу. Ізяслаў знаходзіўся ў Польшчы, Германіі, у 1076 годзе ён памёр.

*1076* — смерць кіеўскага князя Святаслава. Кіеўскім князем стаў Усевалад, але неўзабаве добраахвотна саступіў месца Ізяславу, які ў гэты час знаходзіўся ў Польшчы, а сам Усевалад вярнуўся ў Чарнігаў.

*1092–1094* — вайна Кіеўскай Русі з полаўцамі.

*1095* — на невялікім полі каля сабора ў французскім Клермоне Папа Урбан II (1042–1099) выступіў з палымяным заклікам вырушыць ваенным паходам на вызваленне свяшчэннага горада Ерусаліма і пазбаўленне хрысціян ад ярма мусульманскага праўлення. Пачатак Крыжовых паходаў.

*1096–1270* — восем Крыжовых паходаў заходнееўрапейскіх католікаў за вызваленне хрысціянскіх святыняў у Святой Зямлі ад мусульман і з мэтай далучэння тэрыторый іншых краін (пазней былі і еўрапейскія крыжовыя паходы: у 1193 годзе — супраць язычнікаў у Паўночнай Еўропе, у 1209 годзе — супраць ерэтыкоў у Францыі).

*1096–1099* — першы Крыжовы паход.

*14 красавіка 1101* — памёр князь полацкі Усяслаў Брачыславіч, сын полацкага князя Брачыслава Ізяславіча, унук святога роўнаапостальнага Уладзіміра I Святаславіча, вялікага князя кіеўскага. Княжыў з 1044 года, пасля смерці свайго бацькі. Пры ім быў збудаваны Сафійскі сабор.

*Каля 1104* — нарадзілася Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава) — беларуская асветніца, ігумення Полацкага манастыра Св. Спаса, беларуская святая (памерла 23 або 25.5.1167).

*Пачатак XII стагоддзя* — на правым беразе ракі Палата, на ўскраіне горада Полацка, у в. Сяльцо князёўна Ефрасіння Полацкая заснавала Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Спачатку з'яўляўся абарончым збудаваннем. У 1910 годзе з Кіева ў манастыр перавезены мошчы святой Ефрасінні Полацкай. Аднавіў сваю дзейнасць у 1989 годзе.

*1110-я* — стварэнне ў Кіева-Пячэрскім манастыры «Аповесці мінулых гадоў».

*1111* — Кіеўская Русь арганізавала вялікі паход супраць полаўцаў, дайшлі да іхняга галоўнага горада Шарукань, што паблізу Дона. Войска вёў Уладзімір Манамах, які надаў гэтаму паходу характар крыжовага — на ўзор крыжовых паходаў заходніх рыцараў супраць мусульман.

*1112* — памёр вялікі князь кіеўскі (з 1093) Святаполк II Ізяславіч (нар. у 1050).

*1113* — вялікім князем кіеўскім становіцца Уладзімір II Усеваладавіч Манамах (памёр 19.05.1125), князь смаленскі (з 1067), чарнігаўскі (з 1078), пераяслаўскі (з 1093). Княжыў да 1125 года.

*1116* — новы паход Уладзіміра Манамаха супраць полаўцаў.

*1117* — князь менскі, сын полацкага князя Усяслава Брачыславіча, Глеб Усяславіч у Менску ўзяты ў аблогу за непакору вялікаму князю кіеўскаму Уладзіміру Манамаху. У 1118 годзе сын Манамаха Мсціслаў захапіў Менск, паланіў Глеба, які пасля гэтага апынуўся ў Кіеве. Там ён і памёр. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай Лаўры.

*1125* — 19 мая памёр вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах, ён скончыў зямны шлях на рацэ Альта, непадалёк ад дома, які быў пабудаваны побач з капліцай на месцы забойства святога Барыса. На кіеўскім пасадзе стаў сын Уладзіміра наўгародскі князь Мсціслаў (1076–1132).

*1127* — у Іпацьеўскім летапісе ўпершыню згадваецца Гародня (Гарадзень, Горадня, Гродна) у сувязі з паходам гара-

дзенскага князя Усевалада на Полацкае княства. З 1376 года горадам валодаў Вітаўт, які ператварыў яго ў другую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. Гэта ён збудаваў тут у 1398 годзе замест згарэлага драўлянага замка мураваны ў гатычным стылі. А яшчэ раней на Замкавай гары быў больш старажытны княскі палац — магутная крэпасць з небывала трывалай для таго часу абарончай сцяной. У 1496 годзе гораду нададзена магдэбургскае права. У 1576–1586 гадах Гародня была рэзідэнцыяй караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя, які перабудаваў замак у стылі рэнесансу па праекце вядомага італьянца Санці Гучы. У XVIII стагоддзі побач са Старым замкам вырас новы, збудаваны каралём польскім Аўгустам III Саксонскім. У 1793 годзе тут адбыўся сойм, на якім прыняты рашэнні аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. 23 лютага 1795 года апошні кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў у Новым замку акт аб адмаўленні ад трона.

*1130* — прымусовае паломніцтва з беларускіх зямель у Візантыю. У летапісах захаваліся звесткі, што ў гэтым годзе вялікі князь кіеўскі Мсціслаў I Уладзіміравіч выслаў у Канстанцінопаль разам з жонкамі і дзецьмі полацкіх князёў, якія не хацелі падпарадкоўвацца яму і адмовіліся прыняць удзел у паходзе на полаўцаў. Полацкае княства ён аддаў свайму сыну Ізяславу. У сталіцу Візантыйскай імперыі была выслана практычна ўся вялікая сям'я Полацкага княскага дома:

Давыд Усяславіч — полацкі князь, сын Усяслава Брачыславіча, пасля смерці бацькі атрымаў княскі пасад. У Канстанцінопалі і памёр;

Расціслаў Усяславіч — полацкі князь, сын Усяслава Брачыславіча. Пасля высылкі лёс невядомы;

Святаслаў Усяславіч — віцебскі князь, сын Усяслава Брачыславіча, пасля выслання ў Канстанцінопаль на радзіму не вярнуўся. Ён быў бацькам Ефрасінні Полацкай;

Брачыслаў Давыдавіч — князь лагойскі і ізяслаўскі, сын Давыда Усяславіча, быў у шлюбе з дачкой вялікага князя кіеўскага Мсціслава I Уладзіміравіча Ксеняй Мсціслаўнай. Ён падтрымаў сваіх полацкіх родзічаў і выступіў супраць цесця, за гэта разам з жонкай быў высланы ў Канстанцінопаль, далейшы лёс невядомы;

Рагвалод Барысавіч — князь друцкі і полацкі, сын друцкага князя Барыса Усяславіча. У высылцы ў Канстанцінопалі знаходзіўся да 1140 года. У 1143 годзе узяў шлюб з дачкой вялікага князя кіеўскага Ізяслава II Мсціславіча. У 1144 годзе атрымаў княскі пасад у Полацку, аднак вымушаны быў з'ехаць з Полацкага княства ў Друцк (у 1159 годзе);

Васілька Рагвалодавіч — полацкі князь, старэйшы сын полацкага князя Рагвалода Усяславіча. Пасля высылкі ў Канстанцінопаль у 1132 годзе вярнуўся ў Полацк і стаў княжыць там;

Ксеня Мсціслаўна — княгіня лагойская і ізяслаўская, жонка Брачыслава Давыдавіча, дачка вялікага князя кіеўскага Мсціслава I Уладзіміравіча. Бацька разам з іншымі выслаў яе ў Канстанцінопаль, дзе яна і памерла. Некаторыя лічаць, што Ксеня добраахвотна паехала за мужам з надзеяй вызваліць усіх полацкіх князёў, бо спадзявалася на прыхільнае стаўленне імператарскага двара: яе родная сястра была замужам за імператарам Іаанам Комнінам.

Дынастычныя шлюбы з візантыйскім імператарскім домам былі характэрныя для прадстаўнікоў вялікалітоўскіх родаў. Дачка Усяслава Брачыславіча Полацкага выйшла замуж за сына візантыйскага імператара Аляксея (у 1106 годзе), а Святаполк Ізяславіч меў трэці шлюб з родзічкай імператара Варварай.

*1132* — у Кіеве пасля смерці сына Уладзіміра Манамаха Мсціслава пачаў княжыць старэйшы з роду Манамахавічаў сын Уладзіміра Манамаха Яраполк (памёр у 1139).

*1136* — паўстанне жыхароў Ноўгарада, паўстанцы выгналі свайго князя Усевалада Мсціславіча, было аб'яўлена стварэнне Наўгародскай рэспублікі.

*1139* — вялікім князем кіеўскім становіцца Усевалад II Алегавіч.

*1140* — Польшча падзялілася на княствы, пачаліся міжусобныя сутычкі.

*1146* — пасля смерці вялікага князя кіеўскага Усевалада II Алегавіча вялікім кіеўскім князем становіцца Ігар Алегавіч. Аднак у гэтым жа годзе ў Кіеве адбылося паўстанне супраць Алегавічаў, забіты вялікі князь Ігар Алегавіч, вялікім князем кіеўскім стаў сын наўгародскага князя Мсціслава Уладзіміравіча Ізяслаў Мсціславіч, у хрышчэнні Панцеляймон (памёр у 1154), унук Уладзіміра Манамаха. У тым жа годзе выгнаў з Турава свайго дзядзьку Вячаслава Уладзіміравіча.

*4 красавіка 1147* — у Іпацьеўскім летапісе з'явілася першая згадка пра Маскву.

*1147–1149* — другі Крыжовы паход.

*1149, 1155* — паходы Юрыя Далгарукага на Кіеў.

*1152–1161* — па заказу Ефрасінні Полацкай дойлід Іаан узвёў у Полацку Спаса-Праабражэнскую царкву, якая знаходзіцца ў цэнтры манастырскага комплексу. Гэта выдатны помнік Полацкай школы дойлідства. Тут дагэтуль захаваліся непаўторныя фрэскі XII стагоддзя. Адна з дзвюх невялічкіх келляў царквы належала Ефрасінні Полацкай.

*1154* — вялікім князем кіеўскім пасля смерці Ізяслава Мсціславіча становіцца смаленскі князь Расціслаў Мсціславіч (памёр у 1167).

*1156* — пабудаваны драўляны Крэмль у Маскве.

*1161* — для Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку па заказу Ефрасінні Полацкай майстар Лазар Богша стварыў Крыж, які стаў не толькі выдатным помнікам старажытнабеларускага мастацтва, а святыняй беларускага народа (знік у гады Вялікай Айчыннай вайны). Крыж шасціканцовы,

з кіпарысавага дрэва, якое лічылася асабліва каштоўным. Крыж у вышыню мае каля 52 см, верхняя папярэчына 14 см, ніжняя 21 см, таўшчыня крыжа 2,5 см. Крыж пакрыты залатымі пласцінкамі. На ім змешчаны выявы Хрыста, Багародзіцы, Іаана Прадцечы, евангелістаў Іаана, Лукі, Марка, Мацвея, Пятра, Паўла, архангелаў Гаўрыіла і Міхаіла. Малюцца і іншыя выявы. Былі змешчаны рэлігійныя рэліквіі: часцінка крыжа, на якім укрыжавалі Хрыста, з кроплямі Ягонай крыві, часцінка каменя ад пахавальні Багародзіцы, часцінкі мошчаў святых Стэфана і Панцеляімана.

*1162* — паміж Туравам і Кіевам было падпісана пагадненне аб міры, у выніку чаго самастойнасць Турава была пацверджана афіцыйна.

*1167* — памёр князь кіеўскі Расціслаў Мсціславіч, вялікім князем кіеўскім стаў Мсціслаў II Ізяславіч (1167–1170).

*1170* — памёр вялікі князь кіеўскі Мсціслаў II Ізяславіч. Ягоныя сыны падзялілі паміж сабою Валынскую зямлю. Раман атрымаў Уладзімір-Валынскі, Усевалад — Белз, Уладзімір — Бярэсце.

*1171* — на кіеўскі пасад уступіў Раман Расціславіч.

*1184* — у вусці Дзвіны высадзіліся першыя нямецкія місіянеры на чале з манахам Майнгардам. Яны атрымалі згоду полацкага князя Валодшы на будаўніцтва тут каталіцкага храма — першага на прыбалтыйскіх землях. Гамбургскі архіепіскап зацвердзіў Лівонскае (з 1201 — Рыжскае) каталіцкае епіскапства, пачалося распаўсюджанне каталіцызму ў Прыбалтыцы.

*1186* — смаленскі князь Давыд Расціславіч са смалянамі і наўгародцамі пайшоў на Полацкую зямлю, па рашэнні веча жыхары Полацка без згоды сваіх князёў накіравалі ад свайго імя з дарамі насустрач смаленскаму князю пасольства, якое не дапусціла яго на сваю зямлю, заключыла з ім мір ад імя Полацкай зямлі, а не ад імя полацкіх князёў.

*Каля 1186* — створана «Слова аб паходзе Ігаравым».

*1189–1192* — трэці Крыжовы паход.

*1193* — Папа Цэлестын III аб'явіў крыжовы паход супраць язычнікаў у Паўночнай Еўропе.

*1198* — у Палесціне створаны Тэўтонскі ордэн, поўная назва якога — «Ордэн шпіталя Найсвяцейшай Дзевы Марыі нямецкага дома ў Ерусаліме». Уступіць у яго маглі толькі нямецкамоўныя рыцары.

*1202* — Рыжскі епіскап Альберт заснаваў духоўна-рыцарскі Ордэн мечаносцаў. Ягонай задачай была прымусовая хрысціянізацыя і абарона каталіцкай царквы ў Лівоніі, альбо Інфлянтах. Наладжваў крыжовыя паходы супраць славян і балтаў. Афіцыйна называўся Браты воінства Хрыстовага. Мечаносцамі ж рыцараў называлі таму, што на іхніх белых плашчах былі выявы мяча і крыжа.

*1202–1204* — чацвёрты Крыжовы паход.

*1206–1227* — на чале мангольскіх плямёнаў стаяў Чынгісхан. На агульным саборы, альбо курултаі, у 1206 годзе Цемучын атрымаў ханскі тытул, каб стаць лідарам усіх мангольскіх плямёнаў. Ён быў аб'яўлены Чынгісханам — «правіцелем свету». У 1227 годзе ён упаў з каня і памёр ад ліхаманкі.

*1209* — Папа Інакенцій III аб'явіў крыжовы паход супраць ерэтыкоў у Францыі — Альбігойскі крыжовы паход.

*1209* — нямецкія рыцары напалі на Полацкія землі, на правым беразе Заходняй Дзвіны захапілі старажытныя гарады Герцыке і Кукенойс, якія ў XI–XIII стагоддзях належалі Полацкаму княству.

*1215* — Папа Рымскі Інакенцій III заснаваў Святую інквізіцыю для барацьбы з ерассю і высвятлення абвінавачанняў у чарадзействе. Гэта быў асаблівы від царкоўнага суда, які дазваляў катаванні. Інквізіцыя высвятляла, ці вінаваты чалавек, і прызначала яму пакаранне: замольванне грахоў і фізічную працу — за малазначныя грахі, а за вялікія грахоўныя правіны — зняволенне або спальванне на кастры.

*1217–1221* — пяты Крыжовы паход.

*1219* — утварыўся родавы саюз «старэйшых князёў» Літвы, на чале якога сталі пяць найвышэйшых асоб, у тым ліку Міндоўг, які ўпершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе.

*1219–1221* — Чынгісхан заваяваў у Сярэдняй Азіі, якая была аблытана міжусобнымі войнамі, гарады Герат, Самарканд, Харэзм. Манголы працягвалі сваё пераможнае шэсце і далей па землях Афганістана, Ірана, Паўночнага Каўказа, заваявалі Сураж у Крыме і рушылі ў Палавецкія стэпы.

*1222* — сутыкненне паміж смаленскімі войскамі і полацкімі, якое адбылося пасля смерці Уладзіміра Полацкага. Пры ягоным жыцці смаляне, якія ў 1195 годзе выступілі на Полацк, былі пераможаны ў бітве ля Віцебска. На гэты раз ім удалося захапіць Полацк.

*31 мая 1223* — бітва на рацэ Калцы (цяпер Кальчыск, Украіна), параза рускага і палавецкага войскаў ад мангола-татараў.

*1226* — польскі мазавецкі князь Конрад запрасіў да аховы Мазавецкага памежжа ад наездаў язычніцкіх прусаў Крыжацкі ордэн. Пачатак каланізацыі Прусіі рыцарамі Тэўтонскага ордэна, якая праз 50 гадоў была спынена.

*1227* — смерць Чынгісхана (1155–1227).

*1228–1229* — шосты Крыжовы паход.

*1229* — заключаны дагавор трох усходнеславянскіх гарадоў — Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгай і Гоцкім берагам, што сведчыла аб імкненні крывіцкіх зямель аб'яднацца.

*1229* — па загадзе галіцкага князя Данілы Раманавіча, які ў гэты час закончыў аб'яднанне валынскіх зямель, куды ўвайшлі Бярэсце, Кобрын, Камянец, пінскі князь Уладзімір разбіў яцвягаў ля Бярэсця.

*1229* — у Тулузе адбыўся царкоўны сабор, які прызнаў інквізіцыю — спецыяльны царкоўны суд для барацьбы з ерэтыкамі.

*30 чэрвеня 1230* — Крушвіцкі прывілей, у выніку чаго польскі князь Конрад Мазавецкі надаў крыжакам княжае права ў Хэлмінскай зямлі, а таксама перадаваў ім землі, якія яны здабудуць у Прусах. Пачатак заваёвы Прусіі Тэўтонскім ордэнам.

*3 лістапада 1231* — памёр кароль польскі Уладзіслаў Танканогі.

*1233* — польскі князь Конрад Мазавецкі падзяліў свае княства паміж сынамі: Баляслаў атрымаў Мазоўша, а Казімір — Куявы. Сам князь пакінуў сабе Ленчыцка-Серадзскую зямлю.

*1233* — Папа Рымскі Грыгорый IX перадаў інквізіцыю каталіцкаму манаскаму жабрацкаму ордэну братоў-прапаведнікаў дамініканаў (яго заснаваў у 1216 годзе Дамінік дэ Гусман, прадстаўнік вядомага іспанскага роду). Царкоўны трыбунал супраць ерэтыкоў пачынае дзейнічаць актыўна.

*1235* — горад Драгічын Надбужскі (цяпер на тэрыторыі Польшчы), які разам з Бярэсцем уваходзіў у склад Уладзіміра-Валынскага княства, захоплены мазавецкім князем Конрадам, у 1327 годзе ён пасяліў там крыжакоў. У гэтым жа годзе галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч адбіў горад.

*1235* — Ноўгарад далучаны да Вялікага Княства Літоўскага.

*1236* — кароль Міндоўг заключыў саюз з галіцкім князем Данілам супраць мазавецкага князя Конрада І, які падтрымліваў крыжакоў.

*1236–1251* — у Ноўгарадзе княжыў Аляксандр Яраславіч, які пасля перамогі на Няве над шведскімі рыцарамі ў 1240 годзе стаў называцца Аляксандрам Неўскім.

*1237–1240* — пад кіраўніцтвам хана Батыя, унука Чынгісхана, мангола-татары накіроўваюцца на захад і рабуюць Русь. Захапілі Разань, Суздаль, Каломну, Маскву, Уладзімір, амаль 250 гадоў на Русі доўжылася мангола-татарскае іга. Кіраваліся да Ноўгарада, але не дайшлі. Да гэтай небяспекі

дадавалася крыжацкая — у гэты час узнік Тэўтонскі ордэн, які не пакідаў у спакоі ні прускія, ні польскія, ні літоўскія і беларускія землі. Але ў гэты ж час на палітычнай арэне з'явіліся такія магутныя постаці, як князь Міндоўг, у Галіцка-Валынскай зямлі — князь Даніла Раманавіч, на ўладзіміра-суздальскіх землях — Аляксандр Неўскі.

*1237* — войска Міндоўга разбіла Ордэн мечаносцаў у бітве пад Шаўляем. Гэта падштурхнула крыжакоў заключыць унію. Папа Рымскі загадаў, каб рэшткі разбітага ордэна ўліліся ў Тэўтонскі ордэн.

*1237* — аб'яднанне Тэўтонскага ордэна і Ордэна мечаносцаў.

*1238–1241* — паход мангола-татараў на паўднёвыя рускія землі, заваёвы і спусташэнні многіх гарадоў. Аднак большасць беларускіх зямель заваёўнікі абмінулі.

*1239* — полацкі князь Брачыслаў з роду Ізяславічаў, які жыў у Віцебску, аддаў сваю дачку за наўгародскага князя Аляксандра Неўскага. Яны вянчаліся ў Тарапцы абразом Багародзіцы Адзігітрыі Эфескай, які заснавальніца манастыра, Спаса-Праабражэнскай царквы і царквы Прасвятой Багародзіцы Ефрасіння Полацкая набыла ў Канстанцінопалі і які нібыта быў напісаны самім евангелістам Лукой. Абраз у Полацк не вярнуўся.

*1239* — валынскі князь Даніла Раманавіч завалодаў Кіевам і стаў вялікім князем кіеўскім.

*15 ліпеня 1240* — наўгародскі князь Аляксандр Яраславіч (1220 альбо 1221–1263) быў названы Неўскім за тое, што атрымаў перамогу на Няве над шведскімі рыцарамі, якія змагаліся пад кіраўніцтвам Біргера. Удзельнікам «вялікай сечы» быў і Якаў Палачанін, які служыў у войску Аляксандра.

*1240* — мангольскія атрады хана Батыя пад кіраўніцтвам Менгухана пераправіліся праз Днепр, падышлі да Кіева і сталі каля яго аблогай. Абаронцы горада пад кіраўніцтвам ваяводы Дзмітрыя збудавалі дадатковыя драўляныя ўмаца-

ванні вакол Дзесяціннай царквы. Менгухан выслаў у горад паслоў з прапановай перайсці пад уладу манголаў. Кіяўляне забілі паслоў, што было неверагодным парушэннем тагачасных традыцый, і іхняй крывёю напісалі клятву змагацца да апошняга. 19 лістапада ў выніку штурму манголы захапілі горад, разрабавалі і дашчэнту разбурылі, знішчылі Дзесяцінную царкву, паланілі кіраўніка абароны баярына (баяры — служылыя людзі, феадалы, якія першапачаткова атрымлівалі зямлю па месцы вайсковай службы (памесце) толькі пры ўмове яе нясення) Дзмітрыя. У снежні многія паселішчы Кіеўскай зямлі апусцелі — насельніцтва сышло перад мангольскай пагрозай. Галоўныя сілы на чале з Батыем накіраваліся на Уладзімір-Валынскі і Галіч і захапілі іх. Манголататары ўварваліся ў Польшчу і Сілезію. Еўропа баялася, што манголы пойдуць далей.

*1240-я гады* — утварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Сталіцай (стальцом) з'яўляўся Навагародак, і гэты перыяд (каля ста гадоў) лічыцца навагародскім у гісторыі ВКЛ. На чале ўсё больш моцнага аб'яднання становіцца Міндоўг (гады жыцця: 1195(?)–1263). Багатай крыніцай інфармацыі пра ўтварэнне ВКЛ і дзейнасць Міндоўга з'яўляюцца сярэдневяковыя гістарыяграфічныя творы пад агульнай назвай «Інфлянцкія хронікі» («Лівонскія хронікі»).

*Пачатак 1240-х* — утварэнне Батыем на Волзе Залатой Арды як дзяржавы.

*1241–1243* — у Кракаве на галоўным пасадзе знаходзіцца Конрад I — князь мазавецкі, куяўскі, ленчыцкі і кракаўскі. Быў сынам Казіміра II Справядлівага і Алены Кіеўскай. У выніку бунту магнатаў яго выгналі з Кракава.

*28 сакавіка 1241* — татары штурмам захапілі Кракаў, які каля 1040 года стаў польскай сталіцай і рэзідэнцыяй уладароў дзяржавы. Горад зруйнаваны, кракаўскія і сандамірскія рыцары разбіты. 9 красавіка загінуў Генрык Пабожны. Кракаў заняў князь Конрад Мазавецкі, а Сандамір —

князь Баляслаў Сарамлівы, Велікапольшчу — князі Пржэмыслаў I і Баляслаў Пабожны. Пазней Кракаў адноўлены і да 1596 года заставаўся каралеўскай рэзідэнцыяй, пасля чаго яна была перанесена ў Варшаву, якая з 1611 года стала і сталіцай Рэчы Паспалітай.

З той пары і да гэтага часу над Кракавам гучыць мелодыя так званага «Гейнала», які голасам горна адзначае кожную новую гадзіну.

Раскажам пра гэта словамі народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля: «"Гейнал" гэты, шчымлівы, прыгожы, глыбока гістарычны голас горна з акна высачэннай вежы Марыяцкага касцёла, гучыць на ўсе чатыры бакі свету кожную гадзіну. І кожны раз мелодыя яго абрываецца *недагукам.* На ўспамін пра тую татарскую стралу, што — па легендзе — упілася ў напружанае горла гарніста ў адзін з жахлівых для стольнага Кракава дзён 1241 года. Я гэты "гейнал" — хвалюючы, радасна-ўрачысты, з сямівекавым абрывам у канцы — ведаю яшчэ з тых даваенных, заходнебеларускіх дзён, калі і ў нашу хату маленькім і вялікім цудам прыйшоў чорны эбанітавы радыёпрыёмнічак з навушнікамі. Чуў яго потым і непасрэдна, у Кракаве, то знарок, то міжвольна спыніўшыся на прасторнай, гладка забрукаванай плошчы, з найбольшай сілай адзначанай тою плітой з надпісам, на месцы якое наш высакародны, палымяны зямляк Касцюшка, паўстаўшы на няроўную барацьбу, прысягаў сваю вернасць паняволенаму народу.

"Гейнал" гучыць, лунае з аднаго акна. Пасля чуваць завучаны мерны крок гарніста, які няспешна ідзе да акна другога. Потым ён нясе свой урачысты голас да трэцяга, да чацвёртага...»

*1241–1242 —* паход хана Батыя на Венгрыю і Польшчу, зімой мангола-татары захапілі Венгрыю і пайшлі наўздагон за венгерскім каралём аж да Адрыятычнага ўзбярэжжа. Спусташалі землі Малдавіі, Букавіны, Румыніі, Славакіі, Чэхіі і іншыя. Такім чынам з Ніжняга Паволжа мангола-та-

тары дайшлі ажно да Далмацінскага ўзбярэжжа бліз Італіі. Далейшы захоп еўрапейскіх зямель спыніла смерць 11 снежня 1241 года мангольскага вялікага хана Угедэя, правіцеля Мангольскай імперыі. Таму вясной 1242 года хан Батый, які даведаўся пра гэта, прыпыніў паход.

*5 красавіка 1242* — перамога наўгародскага князя Аляксандра Неўскага на Чудскім возеры (Лядовае пабоішча) над нямецкімі рыцарамі-крыжакамі, гэтым самым былі спынены набегі на Русь нямецкіх рыцараў.

*1242* — пачатак мангола-татарскага іга на Русі. Рускія князі прызналі васальную залежнасць ад ханаў Залатой Арды. З гэтага часу яны мусілі браць у мангольскага хана ярлык на вялікае княжанне на рускіх землях. Да 1312 года ханы былі язычнікамі, а затым мусульманамі. У 1242 годзе першы такі ярлык атрымаў на вялікае ўладзімірскае княжанне Яраслаў Усеваладавіч. Больш як 200 гадоў (да 1445 года) да ханаў па розных справах ездзілі 96 рускіх князёў і 2 княгіні. Яны агулам здзейснілі 231 паездку. І сама паездка, і знаходжанне ў ханскім двары былі небяспечнымі. За гэты час было пакарана смерцю 11 рускіх князёў. Паміралі і па дарозе: у 1246 годзе, едучы з Арды, памёр Яраслаў Усеваладавіч, князь уладзімірскі; ягоны сын Аляксандр Неўскі памёр 14 лістапада 1263 года ў Гарадцы, калі вяртаўся з Арды. У 1271 годзе з Арды вяртаўся сын Яраслава Усеваладавіча вялікі князь уладзімірскі Яраслаў, першы рускі князь, які быў названы імем бацькі — да гэтага імёны жывых стараліся не даваць. Ён ездзіў да хана з сынамі Аляксандра Неўскага Васілём і Дзмітрыем, памёр па дарозе назад. У двары хана, як паведамляецца ў рускіх летапісах, памерлі 6 рускіх князёў: 1277 — Барыс Васількавіч Растоўскі, 1292 — Аляксандр Дзмітравіч Пераяслаўскі, 1307 — сын Барыса Васількавіча Канстанцін Растоўскі, 1333 — Барыс Давыдавіч Дзмітраўскі, 1346 — Канстанцін Міхайлавіч Цвярскі, 1497 — Юрый Святаславіч Смаленскі.

*1243* — Ноўгарад заключыў з крыжакамі мір, а крыху раней — летам 1242 года крыжацкае пасольства, якое прыехала да наўгародцаў з паклонам, прасіла згоды на абмен палоннымі.

*1243* — у выніку паўстання, якое пачалося ў Кракаве ў 1242 годзе, Конрад Мазавецкі выгнаны з Кракава, а ягонае войска разбіта ля Сухадола. Улада ў Кракаве пераходзіць да сандамірскага князя і апошняга з дынастыі Пястаў Баляслава Сарамлівага, які пачынае ўладарыць над усёй Малапольшчай (знаходзіўся на пасадзе ў 1243–1279).

*1243* — вялікі князь літоўскі Міндоўг пачаў паход супраць Лівонскага ордэна, які закончыўся няўдала.

*1246* — Міндоўг «прыняў веру хрысціянскую ад Усходу з многімі сваімі баярамі».

*30 жніўня 1247* — памірае Конрад Мазавецкі (нар. каля 1187) — малодшы сын Казіміра ІІ Справядлівага і Алены, княгіні кіеўскай, князь мазавецкі, куяўскі, серадзскі, ленчыцкі, кракаўскі. На Мазоўшы пачаў кіраваць яго сын Баляслаў, а пасля яго смерці ў 1248 годзе — сын Конрада Земавіт І (1224–1262). Ленчыцка-Серадзская зямля далучана да Куяў, пераходзіць да сына Конрада куяўскага князя Казіміра.

*З першай паловы XIII стагоддзя* — згодна з некаторымі сведчаннямі гісторыкаў, Крэва з'яўлялася сталіцай Нальшанаў (Нальшчанаў). Нальшаны — гэта гістарычная вобласць на беларускіх землях (цяперашнія Смаргонскі, Астравецкі, Мядзельскі, Валожынскі раёны), насельнікамі якой здаўна былі балты. Але сюды раней, чым на іншыя землі, праніклі крывічы, якія вялікім племянным аб'яднаннем жылі з IX–X стагоддзяў у вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, на поўдні Чудскага возера, і асімілявалі мясцовых жыхароў. Нальшанскім князем быў Даўмонт, бацька Давыда Гарадзенскага. Даўмонт падтрымаў Жамойць у барацьбе з Літвой і ў 1263 годзе забіў караля літоўскага Міндоўга. Пасля таго як у 1264 годзе слугамі Міндоўга быў забіты вялікі князь літоўскі

Транята, на пасадзе стаў сын Міндоўга Войшалк, які далучыў Нальшаны да Вялікага Княства Літоўскага.

*1248–1254* — сёмы Крыжовы паход.

*1248* — бітва маскоўскага і вялікалітоўскага войскаў на рацэ Протва, у час якой загінуў уладзімірскі і маскоўскі князь Міхаіл Яраславіч Харобры.

*1249* — Міндоўг разбіў ля Крутагор'я войскі татарскага хана Койдана, з таго часу паселішча стала называцца Койданавам (цяпер Дзяржынск Мінскай вобласці, захавалася толькі назва чыгуначнай станцыі — Койданава).

*1250–1263* — княжанне ў Полацку Таўцівіла. Забіты вялікім князем літоўскім Транятам.

*Канец 1250 альбо пачатак 1251* — вялікі князь літоўскі Міндоўг прыняў хрышчэнне з удзелам лівонскага магістра Андрэаса фон Штырлянда і заключыў мірную дамову з Тэўтонскім ордэнам, каб аслабіць ягоны ўплыў.

*17 ліпеня 1251* — Папа Рымскі Інакенцій IV выдаў булу аб наданні Міндоўгу каралеўскага тытула. У Рызе з дазволу Папы лівонскі магістр загадаў вырабіць 2 кароны: для Міндоўга і ягонай жонкі Марты. Верагодна, у гэты ж прыблізна час Папа прапанаваў каралеўскую карону галіцкаму князю Данілу Раманавічу, каб той падтрымаў каталіцкі касцёл. Аднак Даніла не згадзіўся.

*1251–1263* — вялікім князем уладзімірскім з'яўляецца Дзмітрый Іванавіч Данскі.

*1252–1254* — пачатак акцыі Лівонскага ордэна супраць Жамойці, заснаванне Клайпеды.

*1252* — войска на чале з галіцкім князем Данілам Раманавічам напала на Навагародак, спустошыла яго, дайшло да Гародні. Галіцка-валынскія князі былі супраць узмацнення ўлады Міндоўга і ўмацавання Вялікага Княства Літоўскага, бо самі трымалі Панямонне пад кантролем. Міндоўг узяў саюзнікам Лівонскі ордэн, якому паабяцаў прыняць каталіцкую веру. Гэта падтрымаў і Папа Рымскі Інакенцій IV, які

спадзяваўся на пашырэнне каталіцтва на вялікалітоўскіх землях.

*1252* — князь Аляксандр Неўскі атрымаў у хана Залатой Арды Батыя ярлык на велікакняскі стол ва Уладзімірскім княстве. Княжыў да 1263 года.

*Сярэдзіна XIII ст.* — узвядзенне Новагародскага мураванага замка, дзе знаходзілася рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх.

*6 ліпеня 1253* — вялікі князь літоўскі Міндоўг каранаваны ў сваёй рэзідэнцыі ў Новагародку на першага літоўскага караля. Папа Інакенцій IV, які даў згоду на каранацыю яшчэ ў 1251 годзе, калі Міндоўг прыняў каталіцтва, і які прыслаў у Новагародак карону, спадзяваўся, што Міндоўг правядзе хрысціянізацыю па лацінскім абрадзе язычніцкай часткі Княства. Каранацыю правёдзіў Хэлмінскі епіскап Гайданрэйх. Адначасова была каранавана і жонка Міндоўга. Некаторыя даследчыкі лічаць часам атрымання кароны ліпень 1252 года. На дакументах, што сыходзілі ад Міндоўга ў 1253–1261 гадах, быў подпіс: *«Dei gracia rex Letthowe (Lettonie) Littowie»*. Сустракаецца таксама адзін запіс: *«primus rex Lettowie»* — першы кароль Літвы.

*8 верасня 1253* — Папа Рымскі Інакенцій IV кананізаваў святога Станіслава, які стаў патронам не толькі Кракава, а і ўсяе Польшчы. Ягонае цела змешчана на алтары ў сярэдзіне Кракаўскага кафедральнага касцёла. І адразу ўзніклі легенды. Адна з іх сцвярджае, што часткі цела Станіслава, якое было пасечана, цудоўным чынам зрасліся. Гэта сведчыла пра тое, што памерлы біскуп паслужыць з'яднанню самой польскай дзяржавы.

*1253* — Міндоўг заключыў дагавор з галіцкім князем Данілам і аддаў за ягонага сына Шварна сваю дачку.

*1253* — калі галіцкі князь Даніла Раманавіч знаходзіўся ў князя польскага Баляслава ў Кракаве, да яго з'явіліся па-

слы ад Папы Рымскага з каронай на караля. Даніла адмовіўся ад сустрэчы.

*1254* — падчас паходу на яцвягаў галіцкі князь Даніла Раманавіч паддаўся ўгаворам польскай шляхты і сваёй маці і згадзіўся прыняць ад папы каралеўскую карону, каранаваўся ў Драгічыне Надбужскім (цяпер Польшча). Гэтым самым ён спадзяваўся ўмацаваць свае пазіцыі ў стварэнні еўрапейскай кааліцыі супраць мангола-татараў. А вось абяцанні, якія даваў Папу аб падтрымцы рымскай царквы, практычна не выканаў.

*1254* — мірная дамова Міндоўга з галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам.

*1254* — далучэнне да Галіцка-Валынскага княства Чорнай Русі — паўночна-заходніх беларускіх зямель у басейне верхняга Нёмана, у т. л. гарадоў Гародня, Навагародак і інш.

*1255* — Міндоўг атрымаў ад Папы Рымскага Аляксандра IV булу з дазволам хадзіць паходамі на Валынскую і Галіцкую землі. Гэта была папская адплата галіцкаму князю Данілу Раманавічу, які пасля атрымання каралеўскай кароны не дбаў пра выкананне дамоўленасцей з Папам. Міндоўг захапіў і спаліў польскі горад Люблін.

*1255* — заснаваны горад Крулявец (Каралевец), прускі Кёнігсберг, цяпер Калінінград. Назву атрымаў у гонар чэшскага караля Пржэмыслава II Атакара (каля 1230 — 26.8.1278) з дынастыі Пржэмыславічаў, якая знаходзілася ва ўладзе да XIV стагоддзя. Пржэмыслаў II быў каралём у 1253–1278 гадах. Браў удзел у крыжовых паходах Тэўтонскага ордэна на прусаў і Вялікае Княства Літоўскае ў 1254 і 1267 гадах. Каралевец з'яўляўся сталіцай Нямецкага ордэна і Прускага герцагства.

*1255–1256* — паход на яцвягаў, яго арганізавалі Даніла і Васілька Раманавічы, у ім бралі ўдзел князі Панямоння.

*1256* — смерць у Залатой Ардзе хана Батыя.

*1256–1266* — у Залатой Ардзе кіруе хан Берке.

*1257* — перапіс татарамі рускага насельніцтва.

*1258* — на Нальшаны і іхнюю сталіцу Крэва напалі мангола-татары, а таксама валынскі князь Васілька Раманавіч.

*1258* — літоўскія князі Войшалк (сын Міндоўга) і Таўцівіл паланілі новагародскага князя Рамана Данілавіча і забілі яго.

*1258* — вялікалітоўскія воі на чале з Таўцівілам адабралі Чорную Русь і Гародню ў галіцкага князя.

*1259–1260* — другі паход татараў на Малую Польшчу. Хан Бурундай здзейсніў паход па паўднёва-заходняй Русі і Польшчы. Былі знішчаны Сандамір і Люблін, спустошаны Кракаў, татары рушылі на Русь.

*1260-я* — у склад Вялікага Княства Літоўскага ўключана Жамойць (Жмудзь).

*1260* — у палацы Міндоўга адбыўся сойм, на якім прынята рашэнне, што ў выпадку адсутнасці ў Міндоўга нашчадкаў Літоўскае каралеўства пяройдзе пад уладу Лівонскага ордэна.

*13 ліпеня 1260* — войскі Міндоўга разбілі аб'яднанае войска лівонскіх, дацкіх і прускіх мечаносцаў ля возера Дурбэ. Пасля гэтага Міндоўг адрокся ад хрысціянства, перайшоў у язычніцтва і пачаў узаемадзейнічаць з Аляксандрам Неўскім.

*1261* — заснаванне праваслаўнай епархіі ў сталіцы Залатой Арды Сараі.

*1262* — сын Міндоўга Войшалк заснаваў на левым беразе Нёмана самы першы на гарадзенскіх землях і адзін са старэйшых у Беларусі праваслаўны манастыр і стаў там манахам Лаўрышам. Манастыр стаў называцца Лаўрышаўскім, а яго першы настаяцель Елісей Лаўрышаўскі быў кананізаваны ў 1514 годзе, у 1996 годзе ў в Лаўрышава яму пастаўлены помнік. Манастыр праславіўся знакамітым рукапісным Лаўрышаўскім Евангеллем (1-я палова XIV стагоддзя), якое

захоўваецца ў Кракаве, у бібліятэцы Чартарыйскіх. Цяпер манастыр адноўлены.

*1262* — дамова караля літоўскага Міндоўга і вялікага князя ўладзімірскага Аляксандра Неўскага аб сумеснай барацьбе супраць Лівонскага ордэна. Паход руска-вялікалітоўскага войска на лівонскія гарады Дэрпт (Тарту) і Вендэн (Цэсін).

*23 чэрвеня 1262* — паход вялікалітоўскага войска на Мазоўша, падчас якога быў забіты князь Земавіт Конрадавіч. Ягоны сын Конрад II трапіў у палон, аднак у 1264 годзе быў вызвалены і стаў на чале Мазоўша. Мазавецкае княства распадаецца на Плоцкае і Чэрскае.

*1263* — забойства Міндоўга і ягоных сыноў Рукліса і Рупейкіса ў выніку змовы князёў жамойцкага Трайняты, полацкага Таўцівіла і нальшанскага Даўмонта. Сын Войшалк уцёк у Пінск і жыў там. Загінуў Міндоўг у выніку змовы і помсты нальшанскага князя Даўмонта (у праваслаўі Цімафей, ? — 20.05.1299), бо ў 1262 годзе адабраў у Даўмонта жонку: калі памерла жонка Міндоўга, на пахаванне прыехала яе сястра — жонка Даўмонта. Яна спадабалася Міндоўгу, і ён стаў яе мужам. Войшалк жорстка адпомсціў за забойства бацькі, пазбавіўшы жыцця змоўшчыкаў, за выключэннем Даўмонта, які ўцёк у Пскоў, пазней храбра абараняў горад ад крыжакоў і стаў пскоўскім князем.

*14 лістапада 1263* — смерць Аляксандра Неўскага — наўгародскага князя з 1236 года, вялікага князя ўладзімірскага з 1252 года, які быў жанаты з дачкой полацкага князя Брачыслава. У 1547 годзе залічаны да ліку праваслаўных святых.

*1263* — воі Княства напалі на бранскага князя Рамана, які ў гэты час знаходзіўся на вяселлі — аддаваў дачку за Уладзіміра Васількавіча Уладзімірскага.

*1263* — велікакняскі пасад заняў Транята. Аднак у 1264 годзе ён забіты слугамі Міндоўга.

*1264* — вялікім князем літоўскім стаў сын Міндоўга Войшалк. Знаходзіўся на пасадзе да 1267 года, пасля гэтага сышоў у манастыр, уладу перадаў свайму зяцю валынскаму князю Шварну. У 1269 годзе брат Шварна Леў пасварыўся з Войшалкам і забіў яго.

*1266–1282* — рускія князі бяруць удзел у паходах Залатой Арды на Каўказ, Візантыю і Вялікае Княства Літоўскае.

*1266–1299* — княжанне ў Пскове Даўмонта (у праваслаўі Цімафей, ? — 20.05.1299). Пасля таго як Даўмонт — нальшанскі князь — забіў Міндоўга і двух ягоных сыноў, вялікім князем літоўскім стаў Транята. Праз год яго забілі Міндоўгавы слугі, і на высокім пасадзе апынуўся сын Міндоўга Войшалк. Помсцячы за бацьку, ён захапіў Нальшаны. Даўмонт вымушаны быў уцячы ў Пскоў, прыняў праваслаўе і стаў Цімафеем. У 1266 годзе ён выправіўся на Полацк, дзе княжыў Гердзень. Абрабаваў землі, узяў палонных і адступіў. Падчас трэцяга паходу на Полацк у 1267 годзе Даўмонт разрабаваў горад, Гердзень быў забіты.

*1267* — першы дакладна вядомы ярлык ханаў Залатой Арды Рускай царкве, які зацвярджаў недатыкальнасць веры, духавенства і царкоўнай маёмасці.

*1267–1270* — на велікакняскім пасадзе ў Княстве знаходзіцца Шварн (Сварамір) Данілавіч, адзін з галіцка-валынскіх князёў, які быў пашлюблены з дачкой Міндоўга.

*Каля 1270* — знак «Пагоня» зафіксаваны як герб князя Нарымунта і, верагодна, Навагародка.

*1270* — восьмы Крыжовы паход.

*1270–1282* — велікакняскі пасад у Княстве займае Трайдзен, які з'яднаў усе вялікалітоўскія землі і ў 1279 разбіў крыжакоў.

*1274* — Залатая Арда зрабіла сваім васалам Смаленскае княства.

*1275* — у германскім Аўгсбургу адбыўся з'езд, на якім чэшскі кароль Атакар II быў адхілены ад улады, у яго адабралі ўсе землі, у тым ліку Чэхію і Маравію. Войска германскага караля Рудольфа І пайшло на аўстрыйскія землі і стала аблогай каля Вены.

*Каля 1275* — узнік замак тэўтонскіх рыцараў-крыжакоў у Мальбарку — вялізны комплекс гатычных збудаванняў, цяпер на тэрыторыі Польшчы.

*1276–1303* — праўленне першага маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча.

*1277* — адхілены ад улады кароль чэшскі Атакар II папрасіў міру і стаў васалам у караля германскага Рудольфа І.

*26 жніўня 1278* — кароль чэшскі Атакар II разарваў мір з каралём германскім Рудольфам І і вырушыў супраць яго, але быў разбіты каля Вены. Атакар II загінуў, а ягоны сын Вацлаў І стаў каралём чэшскім і заключыў мір з каралём германскім Рудольфам І.

*1279* — Леў Данілавіч Галіцкі няўдала спрабуе захапіць Кракаў.

*1279* — польскі плоцкі князь Баляслаў (Мазоўша) пашлюбіўся з дачкой Трайдзена Гаўдэмундай, якая ахрысцілася на Соф'ю.

*1280* — жыхары Бярэсця пад кіраўніцтвам ваяводы Ціта адагналі ад горада дружыны польскага князя Баляслава, якія занялі каля 10 берасцейскіх сёл.

*1280* — галіцкі князь Леў Данілавіч няўдала спрабуе захапіць Малапольшчу і Кракаў.

*1283* — крыжакі-тэўтонцы заваявалі яцвягаў і прусаў і сталі на мяжы з Літвой, апошнімі язычніцкімі землямі ў Еўропе.

*1283* — пачатак вайны Тэўтонскага ордэна з Княствам. Крыжакі спасылаліся на тое, што была грамата Міндоўга, згодна з якой ён перадаваў Княства Ордэну.

*1284* — дагавор Ноўгарада з Лівоніяй і Рыгай.

*1284* — аблога Гарадзенскага Старога замка войскам Тэўтонскага ордэна на чале з магістрам Конрадам Цырнбергам. Замак мужна абараняўся, але ў выніку здрады двух прусаў, якія 8 гадоў таму былі паселены ў Гародні вялікім князем Трайдзенам, быў захоплены. Аблогі паўтараліся ў 1296 (двойчы), 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы), 1312, 1328, 1361, 1363, 1373, 1375, 1377, 1390, 1393, 1402 гадах. Усяго ж за час з 1284 да 1410 года адбылося каля 150 паходаў крыжакоў на вялікалітоўскія землі.

*1285–1287* — паходы залатаардынскага хана Тулабуга, цемніка Нагая, і рускіх князёў на Каралеўства Польскае.

*1287–1288* — трэці паход татараў на Малапольшчу. Сандамір і Кракаў здолелі абараніцца.

*1291–1294* — вайна за Кракаў паміж каралём чэшскім Вацлавам II і Уладзіславам Лакеткам, у выніку чаго Вацлаў II захапіў землі Малой Польшчы і выгнаў Лакетку з Серадзскай зямлі.

*1292–1293* — уладарыць новы гаспадар Вялікага Княства Літоўскага Путувер (Пукавер, Лютувер).

*1291–1292* — чэшскі кароль Вацлаў II захапіў землі Малой Польшчы.

*1293–1316* — у Княстве ўладарыць сын Путувера (Лютувера) Віцень.

*1293* — «Пагоня» стала гербам Вялікага Княства Літоўскага. Густынскі летапіс паведамляў, што князь Віцень «нача княжити над Литвою змысли себе герб и всему княжеству печать: рыцер збройный на коне с мечем, еже ныне наречут погоня».

*1294* — вялікі князь літоўскі Віцень заваяваў Жамойць і ліквідаваў там паўстанне.

*26 чэрвеня 1295* — у Гнезне адбылася каранацыя Пржэмыслава II на караля польскага. Каралявал у Вялікапольшчы

і на Гданьскім Памор'і. Забіты 8 лютага 1296 годзе ў выніку змовы магнатаў.

*1295* — Пржэмыслаў II практычна ўвёў польскі герб — гэта быў белы арол у кароне. На вялікай пячатцы вакол арла знаходзіўся надпіс: «Сам Бог вярнуў палякам пераможныя знакі».

*1298* — паход вялікага князя літоўскага Віценя на Тэўтонскі ордэн. Лічаць, што да 1313 года ён 11 разоў хадзіў на Прусію.

*1299* — мітраполія перанесена з Кіева ва Уладзімір на Клязьме. Зрабіў гэта кіеўскі мітрапаліт Максім, бо Кіеў быў разбураны залатаардынцамі.

*2-я палова XIII ст.* — у Навагародскім замку, рэзідэнцыі князёў Вялікага Княства, узведзена мураваная абарончая вежа.

*1300* — польскія магнаты выгналі з Велікапольшчы Уладзіслава Лакетку. Чэшскі кароль Вацлаў II (27.9.1271 — 21.6.1305) прыняў польскую карону і далучыў да Чэхіі польскія землі — Верхнюю Сілезію, Малую і Вялікую Польшчу. У Гнезне адбылася яго каранацыя. Знаходзіўся на пасадзе да сваёй смерці 21 чэрвеня 1305 года.

*Каля 1300* — кароль Вацлаў II увёў у Польшчы грош — сярэбраную манету; спачатку 1 грыўня складалася з 60 (капа) грошаў; з часу Казіміра Вялікага капа раўнялася 48 грошам, каля 1400 года грош важыў 4–5 грамаў; за палову вала плацілі 24 грошы, за карац жыта — 5 грошаў, пшаніцы — 7 грошаў, за пару ботаў простых — 4 і 6 грошаў, за пару ботаў панскіх — 12 грошаў.

*1305* — крыжакі чарговы раз напалі на Княства і спалілі некалькі вёсак вялікага князя Віценя. Той кінуўся ў пагоню і забіў сына крыжацкага войта. Аднак войт Піліп фон Голанд сваім двуручным мячом адсек галаву Віценю.

*1305* — каралём чэшскім і польскім стаў сын Вацлава II Вацлаў III (1289 — 4.8.1306), апошні з роду

Пржэмыславічаў. Быў забіты 4 жніўня ў Аламінцы падчас паходу на Кракаў.

*1306* — крыжакі захапілі Полацк, аднак іх удалося выгнаць адтуль.

*1306–1333* — гады панавання Уладзіслава Лакеткі: У 1306–1320 гадах як князь, а ў 1320–1333 — як кароль польскі.

*1307* — вялікі князь літоўскі Віцень вызваліў Полацк ад нямецкіх рыцараў і далучыў Полацкае княства да Вялікага Княства Літоўскага, аднак аўтаномія Полацкага княства захоўвалася.

*1307* — кароль Францыі Філіп IV Прыгожы з падтрымкі Папы Рымскага Клімента V забараніў Ордэн тампліераў, штаб-кватэра якога знаходзілася ў Францыі, ён абвінаваціў усіх яго членаў у пакланенні д'яблу. Следства па гэтай справе вялося сем гадоў і было закончана ў 1314 годзе, тады быў спалены на кастры магістр Ордэна Жак дэ Малэ.

*1308* — уварванне Уладзіслава Лакеткі на Галіцка-Уладзімірскую Русь з мэтай пасадзіць на трон сыноў памерлага князя Юрыя I — Андрэя і Льва, пляменнікаў Лакеткі.

*1309–1343* — захоп крыжакамі Гданьскага ўзбярэжжа, вайна Тэўтонскага ордэна з Польскім Каралеўствам за Памор'е.

*1309–1377* — у гэтыя гады Папы Рымскія знаходзіліся ў французскім Авіньёне. Іх выгнала туды вайна, якая пачалася ў Італіі. У гэтым паўднёвым горадзе Францыі яны знаходзіліся да Вялікай схізмы 1378–1417 гадоў: царква раскалолася падчас выбараў Папы Урбана VI. Цягам 30 гадоў адзін папа знаходзіўся ў Рыме, а другі, якога называлі антыпапам, — у Авіньёне.

*Верасень 1309* — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Зігфрыд фон Фейхтванген перанёс сталіцу духоўна-рыцарскага брацтва з Венецыі ў горад-крэпасць Марыенбург, што ў Прусіі. Сюды ж пераехала ўсё кіраўніцтва Ордэна.

*1311* — бітва вялікалітоўскага войска з тэўтонскімі рыцарамі каля крэпасці Рустэнберг.

*1312* — гарадзенскім старастам стаў князь Давыд Даўмонтавіч (каля 1288 — 1326), сын нальшчанскага князя Даўмонта (? — 20.5.1299).

*1312* — Залатая Арда прыняла мусульманства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі.

*1313* — першая згадка пра Варшаву.

*1314* — перамога ля Навагародка гарадзенскай дружыны на чале з княскім намеснікам Давыдам Гарадзенскім над нямецкімі рыцарамі, якіх узначальваў вялікі магістр Генрых фон Плотцке. У час гэтай сутычкі быў разбураны і каталіцкі храм, які збудаваў Віцень, каб адабраць у Тэўтонскага ордэна падставы хадзіць паходамі на вялікалітоўскія землі з мэтай хрысціць язычнікаў.

*1315* — у склад Княства ўвайшлі Берасцейская зямля і Бярэсце, Гародня і Гарадзенская зямля.

*1315* — смерць вялікага князя літоўскага Віценя.

*1316–1341* — гаспадаром Княства становіцца Гедымін, заснавальнік новай дынастыі. Пры ім завяршылася аб’яднанне галоўных беларускіх зямель, у склад ВКЛ увайшлі Віцебская, Тураўская землі (горад Тураў вядомы з 980 года, узнік на землях дрыгавічоў), Менскае княства. Беларускія землі мелі ў ВКЛ дамінуючую ролю.

*1316* — упершыню ўтворана самастойная Літоўска-Навагародская праваслаўная мітраполія (Літоўская мітраполія) са сталіцай у Навагародку. Яна аб’ядноўвала Полацкую і Тураўскую епархіі. Адбылося гэта пры патрыярху Іаану Глікісу. Мітраполія ахоплівала праваслаўную царкву Княства і Галіцыі. Гэтую справу ініцыяваў вялікі князь літоўскі Гедымін, падтрымліваў Канстанцінопальскі патрыярхат. Першым літоўска-навагародскім мітрапалітам быў Феафіл, грэк па нацыянальнасці. У 1317, 1327 і 1329 гадах ён браў удзел у пасяджэннях патрыяршага Сінода ў Канстанціно-

палі. Кафедральным саборам мітрапаліта была Барысаглебская царква, а манастыр служыў рэзідэнцыяй мітрапалітаў.

*1316* — шлюб дачкі Гедыміна Эльжбеты з сынам мазавецкага князя Баляслава II плоцкім князем Вацлавам.

*1317* — Папа Рымскі Іаан XXII накіраваў Гедыміну ліст, у якім настойліва раіў прыняць хрышчэнне. Гедымін не спяшаўся з адказам. І толькі напрыканцы 1322 года ён даў адказ, у якім выклаў сваё бачанне сітуацыі наконт каталіцкай веры: яны мо і не супраць касцёла, але змушаны абараняцца ад крыжакоў, якія больш рабуюць народ, чым прагнуць ахрысціць яго.

*1317* — на польскіх землях вялікі голад.

*1320* — польскі князь Уладзіслаў Лакетак (Лакетка, 1320–1333), які дасягнуў значных поспехаў у аб'яднанні польскіх зямель, каранаваўся на караля польскага разам са сваёй жонкай Ядвігай. Уладзіслаў першы адступіў ад традыцыі каранавацца ў Гнезне і правёў гэтую ўрачыстую цырымонію ў Кракаве. З гэтага часу Кракаў стаў каранацыйным горадам для польскіх каралёў. А з 1333 года — месцам іхняга пахавання. Каранацыя адбывалася ў Вавельскай катэдры. Для гэтага яна мела адметныя асаблівасці: угары на фасадзе знаходзілася скульптура святога Станіслава — патрона касцёла і Каралеўства Польскага, крыху ніжэй — шчыт з гербам дзяржавы, на дзвярах — шматкроць паўтораныя манаграмы Казіміра Вялікага. Акрамя таго, у гэты дзень кароль абвяшчаў шляхце загадзя падрыхтаваныя новыя прывілеі.

Для каранацыі існавалі спецыяльна распрацаваныя правілы, якія ўлічвалі заходнееўрапейскія традыцыі. Яна насіла як літургічны, так і заснаваны на грунце права свецкі характар. Праводзіў яе Гнезненскі арцыбіскуп у саслужэнні біскупаў і абатаў. Прысутнічалі высокія дзяржаўныя асобы і прадстаўнікі грамадства. Адбывалася заўсёды ў нядзелю, мела восем цырымоній, аб'яднаных у тры часткі.

Напачатку ўрачыстая працэсія прыводзіла электа (абранніка) з каралеўскага замка ў кафедральны касцёл (катэдру). Тут ён найперш прысягаў захоўваць і абараняць веру, апекавацца касцёлам і яго вернікамі і каралязаць справядліва. Затым караля намашчвалі святым алеем. Гэта пацвярджала, што яго ўлада паходзіць ад Бога. Пасля гэтага яму ўручалі ўладныя сімвалы: меч — сімвал вайсковай, судовай і адміністрацыйнай улады ў Каралеўстве, наплечны бранзалет, плашч і пярсцёнак, жэзл (пазней — меч, яблык і інш.). Заканчвалася ўсё ўласна каранацыяй і інтранізацыяй.

Кароль у атачэнні біскупаў кленчыў на прыступках алтара, арцыбіскуп ускладаў яму на галаву карону. Побач стаялі высокія дзяржаўныя асобы, якія пачаргова падавалі сімвалы каралеўскай улады. Уся цырымонія суправаджалася малітвамі, блаславеннямі і зваротамі да ўлады. Біскуп некалькі разоў бласлаўляў караля, а найвышэйшае блаславенне гучала пасля ўручэння ўсіх сімвалаў улады і перад інтранізацыяй, якая была апошнім актам каранацыйнай цырымоніі. Манарх садзіўся на троне перад алтаром, каб сімвалічна атрымаць усю паўнату ўлады ў Каралеўстве. Галоўную ролю ў каранацыі адыгрывала духавенства. Аднак з 1447 года ў ёй бралі актыўны ўдзел і высокія дзяржаўныя асобы: яны няслі падчас працэсіі ўладныя сімвалы і падавалі іх у касцёле ў ходзе абраду.

Каранацыя была адным — найважнейшым — з актаў працяглага працэсу інаўгурацыі караля. Пачыналася яна за некалькі дзён да каранацыі і доўжылася пасля яе. Калі кароль атрымліваў уладу не па спадчыне (напрыклад, Ягайла), яго павінен быў абраць элекцыйны з'езд. Не пазней як за два дні да каранацыі новы кароль урачыста прыбываў у сталіцу. Напярэдадні каранацыі ён рабіў пакаяльную пілігрымку ў касцёл Святога Станіслава на Скалцы (першая пілігрымка праходзіла падчас каранацыі Аляксандра ў 1501 годзе).

Пасля каранацыі адбываўся баль, а назаўтра кароль разам са світай выпраўляўся на Кракаўскі рынак, дзе прымаў прысягу і клятву месцічаў.

Акрамя таго, у катэдры падчас каранацыі альбо адразу пасля яе кароль у каранацыйным уборы ў атачэнні дзяржаўных асоб і духоўных служкаў, седзячы пад балдахінам з выявай Арла і Пагоні, прымаў клятву вернасці леннікаў, колькасць і размаітыя нацыянальныя ўборы якіх сведчылі пра магутнасць і значнасць асобы манарха.

Каранацыя каралевы адбывалася таксама ў Вавельскай катэдры, урачыста, з удзелам высокіх духоўных і дзяржаўных асоб, з ускладаннем кароны, але ў адпаведнасці з іншай цырымоніяй.

*1320* — дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна Марыя ўзяла шлюб з цвярскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам Грозныя Вочы. Памерла ў 1349 годзе.

*1320* — у бітве з крыжакамі ля Меднікаў перамогу атрымаў Гедымін, загінуў вялікі маршал Лівонскага ордэна Генрых фон Плотцке.

*1320* — віцебскім князем стаў сын Гедыміна Альгерд.

*1320* — у склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшло Віцебскае княства.

*1320* — вялікі князь літоўскі Гедымін заснаваў Беласток.

*1321* — Гедымін перамог нямецкі Ордэн і вярнуў назад Жамойць, далучыў да Княства Дабжынскую зямлю.

*1322* — на рацэ Ірпень воі Гедыміна перамаглі рускіх князёў і захапілі Кіеў і Кіеўскую зямлю, а таксама далучылі да Вялікага Княства Літоўскага Валынскае і Северскае княствы.

*1322* — у Пскове пачаў княжыць вялікалітоўскі князь Давыдка, першы князь, незалежны ад Ноўгарада.

*1322* — заключаны саюз паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Мазавецкім княствам (сталіца Варшава), якое знаходзілася ў сярэднім цячэнні Віслы і ніжнім цячэнні Наравы і Буга.

*1322, 1333* — воіны Давыда Гарадзенскага (каля 1287 — 1326), сына нальшчанскага князя Даўмонта (у праваслаўі Цімафей), па просьбе пскавічоў абаранялі іхні горад ад лівонскіх рыцараў.

*1323* — Гедымін перанёс сталіцу Вялікага Княства Літоўскага ў Вільню. З гэтага часу пачынаецца віленскі перыяд гісторыі ВКЛ. У сваіх граматах Гедымін называў Вільню каралеўскім горадам, а сябе «каралём Літвы і Русі». У той час Літвой лічылася верхняе і сярэдняе Панямонне, а Руссю — сучаснае беларускае Падняпроўе і Паўночная Украіна. Пазней гаспадароў Княства выбіралі на вальных соймах, а інаўгурацыя адбывалася ў Вільні. У кафедральным касцёле Святога Станіслава на галаву ім ускладалі мітру Гедыміна, маршалак земскі ўручаў меч і скіпетр.

*2 кастрычніка 1323* — у Вільні заключаны мірны дагавор Вялікага Княства Літоўскага (вялікі князь літоўскі Гедымін) з Лівонскім ордэнам і Рыгай. Акрамя міру пагадненне дазваляла свабодны гандаль паміж дамоўнымі бакамі.

*1323* — пачатак будаўніцтва замка ў Лідзе.

*1324* — да Гедыміна прыбылі паслы ад Папы Рымскага Іаана XXII з прапановай прыняць каталіцтва. Гэтага дамагаўся таксама Лівонскі ордэн, супраць якога Ягайла ў 1323 годзе заключыў дамову з Рыжскім архіепіскапам. А Папа мусіў асудзіць Ордэн за крыўды хрысціянам, якія толькі што адышлі ад язычніцтва.

*1324* — першы паход крыжакоў на Полацк.

*1324* — Давыд Гарадзенскі зрабіў набег на Мазовію — саюзніцу крыжакоў, знішчыў горад Пултуск, спаліў 120 мястэчак і вёсак, захапіў 4000 палонных.

*Пачатак 1325* — кароль польскі Уладзіслаў I Лакетка заключыў першае ў гісторыі мірнае пагадненне і ваенны саюз з вялікім князем літоўскім Гедымінам супраць крыжакоў. Абодва бакі абавязваліся аказваць узаемную дапамогу ў барацьбе супраць Нямецкага ордэна. Такім чынам утварыўся польска-вялікалітоўскі саюз супраць Тэўтонскага ордэна.

*Пачатак 1325* — пасольства польскага караля Уладзіслава Лакеткі прыбыло ў Вільню да вялікага князя Гедыміна прасіць для каралевіча Казіміра, які стаў пазней каралём польскім Казімірам III Вялікім, рукі княжай дачкі Альдоны (1309 ці каля 1310 — 26.05.1339). Паслы мелі на мэце таксама выбавіць з палону енцаў, якіх шмат пабрала Княства падчас паходаў на Карону.

*Красавік 1325* — Альдона прыбыла ў Кракаў, дзе 30 красавіка прыняла хрышчэнне і стала Аннай, а сучаснікі часта называлі яе Ганнай. Аднак шлюб адкладваўся, бо Ганна мусіла вывучыць мову, а палякі прасілі ў Папы Рымскага згоды на шлюб з язычніцай. Каралевіч Казімір на гэты час ужо быў заручаны з Ютай з Люксембургаў — каралеўнай чэшскай, будучай каралевай Францыі, таму супраціўляўся шлюбу з Альдонай. Бацька дамогся згоды, бо дбаў пра дабро і мір для Кароны.

*16 кастрычніка 1325* — урачысты шлюб 15-гадовай дачкі вялікага князя літоўскага Гедыміна Альдоны-Анны і Казіміра — 16-гадовага сына караля польскага Уладзіслава Лакеткі. Тым самым Лакетак заключыў перамір'е з вялікалітоўцамі, якія часта хадзілі паходамі на польскія землі. Замест пасагу Альдона прывяла ў Кракаў выбаўленых з палону каля 20 тысяч палякаў. Шлюб меў вялікае сімвалічнае значэнне: упершыню хрысціянская Польшча так цесна збліжалася з язычніцкай Літвой (Княствам), бо была зацікаўлена зменшыць пагрозу з боку вялікалітоўцаў і спыніць набегі крыжакоў. Сучасныя тым падзеям хронікі адзначалі, што гэта быў шлюб «для дабра і міру Каралеўства Польскага». Пазней такіх шлюбаў было шмат.

Праз 60 гадоў адбыўся шлюб вялікага князя літоўскага Ягайлы, якога, дарэчы, палякі таксама называлі «дзікім язычнікам», з польскай каралевай Ядвігай. А яшчэ праз 250 гадоў, напярэдадні Люблінскай уніі 1569 года, калі Карона і Княства злучаліся ў адну дзяржаву «двух народаў», палякі спасыла-

ліся на даўнюю традыцыю іхніх цесных повязяў, маючы на ўвазе сяброўскія стасункі Лакеткі і Гедыміна і шлюб Альдоны і Казіміра. Пасля 1326 года ў Альдоны і Казіміра нарадзілася дачка Эльжбета, 25 мая 1335 года — дачка Кунігунда. Пасля смерці Альдону пахавалі ў Кракаўскай катэдры, гэта было першае пахаванне каралевы ў Вавельскім касцёле. Сыноў жа, каб перадаць па спадчыне каралеўскую карону, не было.

*1325–1340* — у Маскве княжыць Іван I Данілавіч Каліта.

*1326* — выправа войска Давыда Даўмонтавіча Гарадзенскага (1200 лепшых коннікаў) разам з воямі польскага караля Уладзіслава Лакеткі на нямецкае курфюрства Брандэнбург — адно з княстваў у Свяшчэннай Рымскай імперыі, якое існавала з 1157 года да ліквідацыі імперыі ў 1806 годзе. Паход стаў вынікам паяднання сілы пасля жаніцьбы польскага каралевіча Казіміра з Альдонай. Пачатак польска-брандэнбургскай вайны (1326–1329). Давыд Гарадзенскі захапіў каля 6 тысяч палонных, разбіў тэўтонцаў. Дайшлі да ваколіц Франкфуртана-Одэры. Гэты паход моцна напалохаў не толькі германцаў, а і іхніх суседзяў. У час вяртання з паходу Давыд Гарадзенскі быў забіты наймітам — мазавецкім рыцарам Андрэем, які кінжалам забіў яго ва ўласным шатры. Дружыннікі прывезлі цела Давыда ў Гародню і пахавалі ў Барысаглебскім манастыры. Папа Рымскі, які хацеў збліжэння з Літвой, не мог не ўлічваць грамадскі настрой і мусіў адмежавацца ад язычнікаў. Гедымін не здолеў атрымаць падтрымкі Авіньёна, хоць ягоны паход на Брандэнбург лічыўся ўдалым і дапамог умацаваць сувязі з каралём польскім.

*1326* — перанясенне мітраполіі з Уладзіміра-на-Клязьме ў Маскву, якая стала праваслаўнай сталіцай Русі. Зрабіў гэта мітрапаліт Пётр. Іван Каліта назваў сябе вялікім князем «всея Руси».

*1326* — Мінскае княства далучана да Вялікага Княства Літоўскага.

6 Зак 1939

*Сакавік 1327* — паход Альгерда — сына вялікага князя літоўскага Гедыміна на тэўтонцаў, дайшоў да Франкфурта-на-Одэры.

*1327* — паўстанне ў Цвяры супраць баскака Чалхана, яно было задушана маскоўскім князем Іванам Данілавічам (1325–1340) з дапамогай войска Залатой Арды. З гэтага часу ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае амаль заўсёды заставаўся ў руках маскоўскіх князёў. Вялікі князь уладзімірскі Аляксандр Міхайлавіч уцёк у Пскоў, а затым у Вялікае Княства Літоўскае.

*1327–1332* — польска-крыжацкая вайна, у якой крыжакоў падтрымліваў кароль чэшскі Ян Люксембургскі, а палякаў — кароль венгерскі Карл I Роберт Анжуйскі.

*1328–1329* — паходы крыжакоў і чэшскага караля Яна Люксембургскага на Жмудзь, у пачатку верасня 1328 года войска Ордэна падышло да Гародні, пасля трохтыднёвай аблогі захапіла горад, спустошыла яго і ваколіцы. Набегі на Гародню паўтараліся ў 1362, 1364, 1373, 1375, 1377, 1379, 1393, 1402 гадах.

*1328* — Масква становіцца вялікім княствам, хан Залатой Арды дае Івану Каліце ярлык на вялікае княжанне, такім чынам ён перамог свайго праціўніка князя Аляксандра Цвярскога і стаў вялікім князем маскоўскім.

*1329* — Навагародак як цэнтр удзельнага княства належыць сыну вялікага князя літоўскага Гедыміна Карыяту (каля 1306 — паміж 1358 і 1366).

*1329* — кароль польскі Лакетак, скарыстаўшы выправу крыжакоў на землі Вялікага Княства Літоўскага, напаў на Хэлмскую зямлю. Гэта была дапамога Гедыміну пасля шлюбу дачкі вялікага князя літоўскага Альдоны-Ганны з каралевічам Казімірам. У адказ крыжакі разам з чэшскім каралём Янам Люксембургскім занялі Дабжынскую зямлю і ўступілі на Мазоўша. Плоцкі князь Вацлаў склаў каралю чэшскаму ленную залежнасць. Лакетак заключыў мір з нямецкім курфюрствам Брандэнбургам.

*Канец 1329* — каралевіч Казімір, сын польскага караля Уладзіслава Лакеткі, паехаў у Венгрыю да сваёй сястры Эльжбеты і швагра караля венгерскага Карла І Роберта (Караберта). Там яму спадабалася Клара Зах — дваровая служанка каралевы. Сястра Казіміра паспрыяла іхняму збліжэнню. Калі Казімір вярнуўся ў Польшчу, у Венгрыі выбухнуў скандал. Клара была цяжарная, і бацька яе Феліцыян вырашыў адпомсціць венгерскай каралеўскай сям'і. 17 красавіка 1330 года ён накінуўся на караля Карла Роберта з мячом і параніў яго, а Эльжбеце, якая хацела засланіць мужа, адсек чатыры пальцы. Дваровым удалося забіць Феліцыяна, але помста Анжуйцаў была скіравана на ўвесь род Захаў. Цела Феліцыяна чацвертавалі і разаслалі па найбольшых гарадах, а галаву выставілі ў замку. Клары адрэзалі нос, губы і рукі. Ледзь жывую яе вазілі па вуліцах і прымушалі крычаць: «Няхай так будзе кожнаму, хто падыме руку на караля». Замучылі сястру Клары і яе мужа, коньмі разарвалі яе брата, а цела кінулі сабакам. Усіх сваякоў-мужчын ажно да трэцяга калена забілі, іншых аддалі ў няволю. Многіх выгналі з гаспадарства, і яны знайшлі прытулак на польскіх землях.

*Сакавік 1330* — акружаная ордэнскім войскам здалася Рыга. ВКЛ страціла важнага саюзніка, а Лівонскі ордэн атрымаў свабоду дзеянняў.

*1330* — памёр першы вялікалітоўскі Новагародскі мітрапаліт Феафіл. Канстанцінопальскі патрыярх новага мітрапаліта не прызначыў. І толькі ў 1354 годзе, пасля смерці мітрапаліта ўсяе Русі Феагноста, вялікі князь літоўскі Альгерд атрымаў згоду Канстанцінопальскага патрыярха, каб мітрапалітам Літоўскай і Малой Русі стаў Раман, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Новагародку.

*1330* — кароль польскі Уладзіслаў Лакетак пад уплывам зяця — венгерскага караля Карла І Роберта (Караберта), які супраціўляўся паразуменню палякаў з язычнікамі, парваў адносіны з Гедымінам, за што мусіў зрабіць грашовыя выплаты.

Калі ж падобная сітуацыя паўтарылася годам пазней, вялікалітоўцы ў адказ пачалі нападаць на польскія землі.

*1330* — Гедымін зрабіў сваім намеснікам у Кіеве Фёдара.

*Верасень 1330* — каб падтрымаць Польскае Каралеўства, Гедымін з вялікім войскам уступіў у Паўднёвую Прусію. Аднак у пачатку 1331 года ваенны саюз Княства і Кароны распаўся.

*1331* — шлюб дачкі Гедыміна Офкі (Яўфіміі, каля 1310 — 5.2.1342) з галіцка-валынскім князем Юрыем II Баляславам.

*2 сакавіка 1333* — памёр кароль польскі Уладзіслаў Лакетак — унук Конрада Мазавецкага, бацька Казіміра III Вялікага. У Вавельскай катэдры адбылося першае каралеўскае пахаванне. 25 красавіка 23-гадовы адзіны сын Уладзіслава Казімір быў каранаваны на караля польскага, караляваў да 1370 года.

*1333* — у Маскве адбыўся самы пышны ў той час шлюб сына маскоўскага князя Івана Каліты 17-гадовага Сямёна (Сімяона) Гордага (7.9.1317 — 27.4.1353) з вялікалітоўскай княжной дачкой Гедыміна Аўгустай (Айгустай), якая ў праваслаўі стала Настассяй (каля 1316/1321 — 11.3.1345). Пра гэта паведамляў нават Сяміонаўскі летапіс. Шлюб павінен быў палепшыць маскоўска-вялікалітоўскія і вялікалітоўска-ардынскія адносіны. Некаторыя даследчыкі лічаць, што шлюб мог адбыцца толькі з дазволу хана Залатой Арды Узбека, які даваў маскоўскім князям ярлыкі на княжанне. Тым больш што ардынцы моцна непакоіліся кантактамі паміж маскоўскімі князямі і вялікалітоўцамі. Хан спадзяваўся, што пасля гэтага ВКЛ будзе менш дакучаць Ардзе, што палепшацца яго адносіны з Гедымінам. Тады існавала традыцыя, што бацька жаніха павінен прасіць рукі нявесты ў яе бацькі. Гедымін у выніку такога кантакту разлічваў, што вырасце вага яго самога і ягонага гаспадарства — ВКЛ. У іх была дачка Васіліса, сын

Васіль — памёр праз год пасля нараджэння, Канстанцін — памёр адразу. Сямён быў жанаты яшчэ двойчы. Памёр ад чумы 26.04.1353 года.

*1333* — на польскі пасад уступіў зяць Гедыміна Казімір III Вялікі (1310–1370), апошні польскі кароль з дынастыі Пястаў. Ягонай жонкай была Альдона-Ганна — дачка Гедыміна. Ён не быў настроены на вайну з Ордэнам, што ўскладніла становішча Княства, напады крыжакоў на якое не спыняліся. Аднак не абышлося без прыгод. Удава каралева Ядвіга не хацела каранацыі сынавай жонкі Альдоны-Ганны: яна ж сама жывая, навошта Польшчы яшчэ адна каралева. Казімір ледзь угаварыў маці. Урачыстая каранацыя адбылася ў Кракаве 25 красавіка 1333 года. Кароль прыклаў шмат выніковых намаганняў для з'яднання польскіх зямель і далучэння да сваёй дзяржавы новых, заснаваў новыя гарады.

*1333* — магістр Тэўтонскага ордэна Эберхарт Мангейм напаў на вялікалітоўскія землі, дайшоў да Полацка.

*1334* — магістр Тэўтонскага ордэна Эберхарт Мангейм разрабаваў і спаліў ваколіцы Вільні, многіх захапіў у палон, забіў каля тысячы мірных жыхароў.

*Люты 1336* — атрад рыцараў-тэўтонцаў пад кіраўніцтвам гросмайстра Дзітрыха фон Альтэнбурга напаў на Жмудзь і стаў аблогай каля замка Піленай (Піленэ), у якім схаваліся каля 4 тысяч мясцовых жыхароў са сваім скарбам. Абарону ўзначальваў кіраўнік Жамойці князь Маргірыс. Немцы беспаспяхова штурмавалі драўляныя сцены замка. Тады нехта прыдумаў запаліць іх вогненнымі стрэламі. Каб не здавацца захопнікам, абаронцы вырашылі знішчыць замак і саміх сябе. Яны спачатку спалілі на вогнішчы ўсю маёмасць, пасля бацькі сталі забіваць сваіх дзяцей, мужы — жонак і аддавалі іх агню. Затым мужчыны падзяліліся на пары і забівалі адзін аднаго мячамі ў грудзі. Хто застаўся жывы, знайшоў смерць ад сякеры адной старой жрыцы. Выканаўшы свой абавязак, яна таксама кінулася ў агонь. Кіраўнік абароны замка Маргірыс пасля

ўсяго гэтага забіў сваю жонку і сябе самога. Крыжакі не маглі надзівіцца гэткай адчайнай вернасці язычнікаў сваёй зямлі і такой жорсткасці ў адносінах да сябе перад страхам апынуцца ў палоне альбо пад уладай нямецкага Ордэна.

*1336* — Тураў і Пінск увайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

*8 красавіка 1336* — у ваколіцах Самарканда нарадзіўся адзін з наймагутных заваёўнікаў у свеце Цімур (Тамерлан). Сучаснік маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога, залатаардынскіх ханаў Тахтамыша і Мамая. Яго імя перакладалася як «жалезны». Быў кульгавым. У склад створанай ім імперыі ўваходзілі Сярэдняя Азія, Іран, Ірак, Грузія, Азербайджан, Арменія, Афганістан, частка Сірыі, Турцыі, Грэцыі, Егіпта. Быў страшна жорсткім. Сведчаць, што ў іранскім горадзе Ісфахан, дзе ўспыхнула паўстанне, ён узвёў гару з 70 000 чарапоў мясцовага насельніцтва, а ў Дэлі пакараў смерцю сто тысяч палонных. Памёр у паходзе 19 студзеня 1405 года.

*1337* — упершыню на беларускіх землях з'явіліся манеты — пражскія грошы — чэшскага караля Вацлава II (1278–1305). У Чэхіі іх пачалі чаканіць у 1300 годзе. Пасля гэтага на беларускіх землях хадзілі манеты Яна I (1310–1346), Карла I (1345–1378). Аднак галоўны масіў грашовых запасаў складалі чэшскія манеты — пражскія срэбныя грошы — Вацлава IV (1378–1419), яны пачалі выпускацца з 1378 года і хадзілі ажно да сярэдзіны XVI стагоддзя.

*1337* — пабудова крыжакамі замка Баербург на Нёмане, які меў для іх важнае стратэгічнае значэнне.

*1338* — пабудаваны Крэўскі замак як адзін з дзяржаўных замкаў ВКЛ і першы жылы мураваны замак на беларускіх землях. З ім звязаны імёны вялікіх князёў літоўскіх Альгерда, Гедыміна, Кейстута, Вітаўта, Ягайлы. Руіны замка сёння знаходзяцца ў Смаргонскім раёне.

*1338* — захопніцкія войны крыжакоў супраць Княства. Іх падтрымлівалі англічане, французы. А годам раней імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Людвік Баварскі «падараваў» Княства Ордэну.

*1 лістапада 1338* — заключана пагадненне паміж Княствам (вялікі князь Гедымін) і Лівоніяй. У абедзвюх краінах выдзялялася паласа зямлі, дзе заўсёды павінен панаваць мір, тут не павінна быць ні забойстваў, ні рабаванняў з абодвух бакоў. Купцам дадзены дазвол развіваць гандаль паміж Княствам і Лівоніяй. Гэтае пагадненне было зацверджана рытуалам крыжацалавання, што надавала сапраўдную моц дакументу. Крыж цалавалі Гедымін і два ягоныя сыны — правіцелі Полацка і Віцебска Глеб-Нарымонт і Альгерд разам з епіскапам і прадстаўнікамі Полацка і Віцебска.

*1338* — вайна Залатой Арды з Княствам. Войскі захопнікаў дайшлі да Смаленска, відаць, помсцілі за тое, што смаленскі князь Іван Аляксандравіч прызнаў сябе васалам Гедыміна і заключыў з ім дамову аб узаемнай дапамозе. Аднак горад узяць не ўдалося, Залатая Арда мусіла адмовіцца ад даніны са Смаленска, хоць не заўсёды вытрымлівала гэта.

*1338* — князь Аляксандр Міхайлавіч Цвярскі атрымаў у Залатой Ардзе ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае.

*Ліпень 1339* — у венгерскі Вышгарад прыехаў кароль польскі Казімір Вялікі і заключыў з венгерскім каралём Людвікам дамову аб тым, што калі ён сыдзе з гэтага свету і не пакіне пасля сябе сыноў, то спадчыннікамі будуць дзеці венгерскага караля і іхнія нашчадкі.

*1339* — у Залатой Ардзе пакараны смерцю вялікі князь цвярскі Аляксандр Міхайлавіч і яго сын Фёдар. Гэта адбылося ў выніку інтрыганскіх дзеянняў Івана Каліты.

*26 мая 1339* — раптоўна памерла Альдона-Ганна Гедымінаўна — дачка Гедыміна і жонка караля польскага Казіміра Вялікага. Спадчыннікаў трона не пакінула, бо мела толькі дзве дачкі — Эльжбету і Кунігунду. Пахавана ў Вавель-

скай катэдры, гэта было першае пахаванне каралевы менавіта тут.

*1330-я гады* — закончана будаўніцтва Лідскага замка, які разам з Новагародскім, Крэўскім, Медніцкім, Трокскім, Гарадзенскім і Віленскім замкамі складаў адну лінію крапасных умацаванняў Вялікага Княства Літоўскага.

*7 красавіка 1340* — забіты галіцка-ўладзімірскі князь Баляслаў-Юрый, якога на пасад узвёў у 1323 годзе Казімір Вялікі. Баляслава змяніў Любарт, што мацней прывязвала Валынь да Княства. Галіцкая зямля далучана да Кароны, Валынь — да Княства. Кароль польскі Казімір III Вялікі рушыў на Русь і заняў Львоў — спасылаўся пры гэтым на унію, што была падпісана ў 1338 годзе ў Вышаградзе. Каралеўскім намеснікам застаецца Дымітр. У чэрвені галіцка-валынскае войска сумесна з ардынцамі наносіць контрудар палякам і даходзіць да Віслы. Казімір мусіў падпісаць дагавор аб нейтралітэце.

*1340–1410* — крыжакі каля 100 разоў нападалі на Вялікае Княства Літоўскае, ваявалі за Гародню, Вільню, Трокі, Бярэсце, Ліду, Новагародак. Вялікалітоўцы ў адказ зрабілі больш за 50 паходаў.

*1341* — купцы Торуня атрымалі дазвол князя Кейстута і князя Любарта на гандаль у Луцку з пропускам праз гарады Дарагічын, Мельнік і Берасце.

*1341* — няўдалая асада Мажайска воямі маладога літоўскага князя Альгерда. Быў спалены гарадскі пасад, але крэпасць утрымалася. Альгерд адступіў. Як засведчылі даследчыкі, гэта было першае нападзенне вялікалітоўскіх вояў непасрэдна на маскоўскія землі.

*1341–1349* — у Пскове на княскім пасадзе знаходзіцца Вігунд (Андрэй Альгердавіч) — чацвёрты сын вялікага князя літоўскага Альгерда.

*1341* — падчас аблогі аднаго з крыжацкіх замкаў Баербург быў забіты вялікі князь літоўскі, заснавальнік княскай дынастыі Гедымін. Гедымін пакінуў пасля сябе 7 сыноў, паміж якімі падзяліў свае ўладанні. Старэйшы Альгерд (1296–1377, у хрышчэнні Аляксандр або Дзмітрый, быў вялікім князем літоўскім у 1345–1377 гадах) асеў у Крэве, валодаў землямі ажно да Віцебска, Монтвід (Манівід, каля 1300–1348) атрымліваў у спадчыну гарады Кернаў і Слонім, Нарымонт (Нарымунт, каля 1300–1348, у хрышчэнні Глеб) — Пінскае княства, якое за яго нашчадкамі заставалася да канца XIV стагоддзя, у Кейстута (1297–1382) заставаліся Трокі, Коўна, Ліда, Гарадзенская і Берасцейская землі, у 1381–1382 гадах ён быў вялікім князем літоўскім, у 1345–1377 — адначасова з Альгердам. Любарт (каля 1300–1384, у хрышчэнні Дзмітрый) атрымаў Уладзімір, бо быў жанаты з дачкой вялікага князя ўладзімірскага, Луцк і Валынь. Карыяту (каля 1300–1362, у хрышчэнні Міхаіл) дасталіся Новагародак і Ваўкавыск. Гедымін аддаў Яўнуту (малодшы сын, у хрышчэнні Іван) Вільню, Ашмяны, Браслаў і Вількамір, а таксама пакінуў яму гаспадарскі пасад, на якім ён знаходзіўся ў 1341–1345 гадах. Старэйшыя браты не маглі з гэтым пагадзіцца і адмовіліся падпарадкоўвацца Яўнуту. У 1345 годзе Альгерд і Кейстут арганізавалі змову, Яўнут быў адхілены ад гаспадарання, высланы ў Заслаўе, пасля ён уцёк у Маскву.

*1341* — першы паход вялікага князя літоўскага Альгерда на Русь, спаліў Мажайск, але захапіць яго не здолеў.

*1341* — воі князя Альгерда і ягонага брата Кейстута, які валодаў Трокамі, дапамаглі Пскову адбіць крыжакоў.

*29 верасня 1341* — кароль польскі Казімір Вялікі пасля смерці сваёй першай жонкі Альдоны ўзяў шлюб з Адэлаідай, дачкой ландграфа Гесіі. У Пазнанскай катэдры яна каранавана на каралеву. Аднак сямейнага ладу не было, і кароль аддаліў Адэлаіду ад сябе і ад спраў.

*1341–1345* — вялікім князем літоўскім з'яўляўся малодшы сын Гедыміна Яўнут (Яўнуцій, Іван). У выніку змовы сваіх братоў Альгерда і Кейстута ў 1345 годзе ён страціў уладу. Лічыцца, што Альгерд пачаў кіраваць усходняй паловай Княства, цэнтрам якога з'яўлялася Вільня, сюды ўваходзілі беларускія землі, а Кейстут асеў у Троках, яму належалі Гародня, Ваўкавыск, Падляшша, Жамойць і іншыя землі, дзе жылі балты-язычнікі.

*1342–1382* — час праўлення венгерскага караля Людвіка І (Лайаша), які з 1370 года стаў і каралём польскім (Казімір Вялікі быў ягоным дзядзькам).

*1342* — князі Альгерд і Кейстут абаранілі ад крыжакоў Пскоў, пасля чаго пскоўскім князем стаў старэйшы сын Альгерда Андрэй, які ў гэтым жа годзе перайшоў на Полацкае княства.

*Ноч з 22 на 23 сакавіка 1343* — Вялікае паўстанне эстонцаў (паўстанне Юр'евай ночы) у Паўночнай Эстоніі, якая знаходзілася пад кіраўніцтвам датчан. Гэта прымусіла Тэўтонскі ордэн умяшацца ў падзеі. Эстонцаў пакаралі, а Данія ў 1346–1347 гадах прадала Паўночную Эстонію Ордэну.

*1343* — паход крыжакоў на Нёман, у яго ніжняе цячэнне, з мэтай пераносу крэпасці Баербург у больш бяспечнае месца.

*8 ліпеня 1343* — польскі кароль Казімір Вялікі падпісаў у Калішы вечны мір з Тэўтонскім ордэнам, да якога перайшло Памор'е. 23 ліпеня адбылася цырымонія зацвярджэння дамовы: падчас кароткай сустрэчы караля польскага і вялікага магістра яны, не злазячы з коней, зрабілі «пацалунак міру». Ордэн атрымліваў Памор'е і павінен быў плаціць за яго штогадовую даніну. Ды князь Уладзіслаў Апольчык, у якога захоўваўся гэты дакумент, прадаў яго крыжакам, што не перашкодзіла палякам збіраць даніну. Ордэн вярнуў Польшчы Куявы і Дабжынскую зямлю.

*1345* — нечаканы зімовы паход трокскага князя Кейстута на Вільню. Вялікі князь Яўнут быў напалоханы і ўцёк з горада. Кейстут паланіў яго, адаслаў у Заслаўе. Прыхільнікі дапамаглі Яўнуту ўцячы з-пад варты. Ён уцёк спачатку ў Пскоў, затым у Ноўгарад, пасля ў Маскву. Там яго прыняў маскоўскі князь Сямён Горды, жонкай якога была дачка Гедыміна Аўгуста. Яўнут упершыню ў вялікалітоўскай практыцы паспадзяваўся на дапамогу Масквы ў барацьбе за гаспадарскі пасад. У верасні ахрысціўся па праваслаўным звычаі і атрымаў імя Іван. А ў Вільню з Крэва быў пакліканы Альгерд, якога абвясцілі гаспадаром Княства. Кейстут і яго спадчыннікі атрымалі ў вечнае валоданне Трокскае княства.

*1345–1377* — вялікакняскі пасад займаў Альгерд, сын Гедыміна, бацька Ягайлы, меў імя Андрэй. Тэрыторыя Княства пры ім павялічылася амаль удвая. Акадэмічны летапіс так паведамляе пра заняцце Альгердам высокага пасада: «Князь великии Кестутии рече брату своему, великому князю Олгирду: “Тобе подобаеть великимь князем быти во Вилни; ты стареишии брать, а с тобою заодно дръжу”. И посадить его на великомь княженьи во Вилни, а Евнутию дали Жеславль».

*1346* — смерць Альгердавай жонкі Марыі, дачкі віцебскага князя Яраслава Васільевіча.

*1346* — тэўтонскія рыцары ўстанавілі кантроль над Эстоніяй.

*1346–1378* — на чэшскім каралеўскім пасадзе знаходзіцца Карл I, які з 1355 года стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі, а з 1346-га і германскім каралём пад імем Карл IV.

*1347* — у Вільні пазбаўлены жыцця хрысціянскія прапаведнікі Антоній, Іаан і Яўстафій (у язычніцтве Няжыла, Кумец і Круглец), якіх прывязла з сабой жонка Альгерда віцебская княжна Марыя. На месцы іхняй пакутніцкай смерці збудавана капліца, а пасля Свята-Троіцкая царква. У 1374 годзе віленскія пакутнікі кананізаваны, уваходзяць у Сабор беларускіх святых.

*1347* — Яўнут вярнуўся з Масквы ў Княства і атрымаў удзельнае Заслаўскае княства. Пасля гэтага не спрабаваў захапіць вышэйшы гаспадарскі пасад.

*1348* — бітва вялікалітоўцаў з крыжакамі на р. Стрэве. З кожнага боку ўдзельнічала каля 40 тысяч вояў. На чале вялікалітоўскага войска стаялі Альгерд і Кейстут. З боку вялікалітоўцаў загінула каля 10 тысяч вояў, сярод іх быў і брат Альгерда Нарымунт. Аднак перамога дорага каштавала і крыжакам.

*1348* — Ноўгарад заключыў з Княствам мір і прыняў нейтралітэт.

*1349* — кароль польскі Казімір Вялікі разам з Папам Рымскім Кліментам VI і Кейстутам абмяркоўвалі пытанне аб хрышчэнні Літвы.

*1349* — Альгерд паслаў Карыята і ягонага сына Эйкшу да хана Залатой Арды Джанібека, каб яны дамовіліся аб агульных дзеяннях супраць Масквы, але хан меў прыхільнасць да маскоўскага князя Сямёна Гордага (дарэчы, ягонай жонкай была дачка Гедыміна Аўгуста, у хрышчэнні Настасся) і выдаў яму пасланцоў. Альгерд выручыў іх.

*1349* — чарговы паход польскага караля Казіміра III Вялікага на Галіцкую Русь («Рускае каралеўства»). Былі заняты Галіцкая зямля, гарады Львоў, Галіч, Бярэсце і Уладзімір. У руках Любарта знаходзіўся толькі Луцк. У 1366 годзе Казімір захапіў частку Валыні, далучыў новаўтворанае Малдаўскае княства.

*Май 1350* — паход вялікага князя літоўскага Кейстута на Польшчу, войска спаліла Варшаву і Чэрск. Аднак у бітве пад Жукавам вялікалітоўцы не атрымалі перамогі. У паходзе бралі ўдзел і татары.

*1350–1351* — паходы вялікага князя маскоўскага і ўладзімірскага Сямёна Іванавіча Гордага на Вялікае Княства Літоўскае.

*1350* — Альгерд бярэ другі шлюб з Уллянай Аляксандраўнай Цвярской — дачкой вялікага князя цвярскога

Аляксандра Міхайлавіча, сястрой жонкі вялікага князя маскоўскага Сямёна (Сіміяона) Іванавіча Гордага і жонкі цвярскога князя Міхаіла. Аднак для Масквы гэты шлюб не прынёс палітычных выгад. Не спынілася маскоўска-цвярская вайна. Альгерд не перастаў хадзіць паходамі на маскоўскія землі і тройчы хадзіў на Маскву.

*1350* — чарговыя выправы на Галіцка-Уладзімірскую Русь караля польскага, якому дапамагалі венгерскія атрады. Людвік Венгерскі адмовіўся ад свайго права на Русь на карысць Казіміра Вялікага. Калі б Казімір памёр беспатомным, Русь засталася б з Каронай Польскай, калі ж у караля з'явіўся б спадчыннік, венгры выкупілі б Русь за 100 тысяч флорынаў.

*1351 (1352?)* — у вялікага князя літоўскага Альгерда і ягонай другой жонкі цвярской княжны Улляны (Юліяніі) нарадзіўся сын Ягайла.

*1351* — венгерскі кароль Людвік накіраваўся на дапамогу свайму дзядзьку каралю польскаму Казіміру Вялікаму ў барацьбе за галіцка-валынскія землі. У гэтым змаганні ў палон да палякаў трапіў Ягайлаў брат Любарт. А Казімір, які дайшоў да Любліна, захварэў. Паход працягваў Людвік на чале польска-венгерскага войска. Калі дасягнулі мяжы Княства, ён паслаў сваіх людзей да Кейстута, які пакінуў іх заложнікамі, а сам накіраваўся да Людвіка. Кейстут прапанаваў венгерскаму каралю мір і абяцаў ахрысціцца разам з падданымі, калі Папа Рымскі даруе яму каралеўскую карону, а каралі венгерскі і польскі будуць дапамагаць у барацьбе супраць крыжакоў і татараў.

У дзень Успення Прасвятой Багародзіцы адбылося прыняцце пагаднення. Літоўскі князь Кейстут, пацвярджаючы пагадненне з Людвікам Венгерскім, падмацаваў сваё абяцанне клятвай па язычніцкім звычаі: да каралеўскай палаткі прывялі рыжага быка, прывязалі яго да двух слупоў. Кейстут перарэзаў быку жылу, крывёю з якой сам

і ягоныя спадарожнікі абмылі рукі і твар, заклікаючы вярхоўнага бога ў сведкі сваёй клятвы. Пасля Кейстут адсек быку галаву і тройчы перайшоў паміж галавой і тулавам жывёліны. Людвік адпусціў захопленага ў палон Кейстутавага брата Любарта і абяцаў выконваць дамову. Пасля разам з Кейстутам накіраваўся ў Венгрыю, дзе павінна было адбыцца іх хрышчэнне. Але на трэці дзень Кейстут нечакана ўцёк, вярнуўся дамоў і адпусціў заложнікаў. Людвік і Казімір паехалі, засмучаныя, кожны ў сваю сталіцу. Кейстут перахітрыў іх: выбавіў з бяды брата і адвёў небяспеку ад сваёй зямлі.

*1352* — кароль польскі Казімір Вялікі заключыў кампрамісны дагавор з князямі літоўскімі Альгердам і Кейстутам. Княства атрымала Уладзімірскую, Луцкую, Бельскую, Хэлмскую і Берасцейскую землі, а Карона — Галіцкую.

*1354* — суздальскі князь Барыс шлюбуецца з дачкой Альгерда Агрыпінай.

*1355* — польска-венгерская выправа супраць Вялікага Княства Літоўскага.

*1356* — вялікалітоўскія войскі ўзялі Ржэў.

*1356* — памёр бранскі князь Васіль, і Бранскае княства ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

*1356* — Карыят бярэ шлюб з дачкой вялікага князя маскоўскага Івана II Краснага.

*1358* — Мсціслаўскае княства ўвайшло ў склад ВКЛ. Лугвен (Сямён у хрышчэнні), сын Альгерда, стаў заснавальнікам дынастыі князёў Мсціслаўскіх.

*1358* — Навагародак належыць сыну князя Карыята Фёдару.

*1358* — кароль польскі Казімір Вялікі заключыў пад Люблінам перамір'е з вялікалітоўцамі, якое трывала да 1364 года. Пазней гэтае перамір'е было падмацавана шлюбам (каля 1369/1360) каралеўскага ўнука слупскага князя Казіміра з дачкой вялікага князя літоўскага Альгерда Кеннай.

*1359–1389* — вялікае княжанне ў Маскве Дзмітрыя Іванавіча Данскога (нар. 12 лістапада 1350). З 1362 года — вялікі князь уладзімірскі.

*1360–1361* — Альгерд, Кейстут і ягоны сын Патрыкій сутыкнуліся з нямецкім крыжацкім войскам. Кейстут трапіў у палон. Аднак яго абмянялі на палонных крыжакоў. Ды неўзабаве ён зноў стаў вязнем замка ў Мальбарку. Яго ахоўваў былы жыхар Княства Альф (Адольф), які трапіў калісьці ў палон, прыняў хрышчэнне і пачаў служыць крыжацкаму магістру. У лістападзе 1361 года Альф паспрыяў Кейстуту, які пераапрануўся у вопратку крыжака, уцячы, яны абодва апынуліся ў Княстве.

*1361* — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Алексій дабіваецца ў Канстанцінопальскага патрыярха ліквідацыі Літоўскай мітраполіі.

*1362* — перамога вояў Вялікага Княства Літоўскага на чале з вялікім князем літоўскім Альгердам над аб'яднанымі сіламі Залатой Арды каля ракі Сінія Воды (цяпер рака Сінюха, левы прыток Паўднёвага Буга, тэрыторыя Украіны). У склад Княства ўвайшлі землі, што ў басейне Днястра і Паўднёвага Буга, а таксама Кіеўская, Чарнігаўская, Валынская, Падольская і Пераяслаўская землі. З гэтага часу Альгерда пачалі лічыць выразнікам ідэй антыардынскай барацьбы і прыхільнікам агульнарускага адзінства, аб'яднання рускіх зямель вакол Княства.

*16 красавіка 1362* — крыжакі пасля шматдзённай аблогі штурмам авалодалі Ковенскім замкам. У палон трапіў брат Вітаўта Войдат. Вітаўт на руінах замка даў клятву адпомсціць крыжакам за разбой на роднай зямлі. Пра гэта мастак Я. Стык у 1901 годзе напісаў карціну «Клятва Вітаўта».

*1362* — Кіеў захапілі воі вялікага князя літоўскага Альгерда. Ягоны сын Уладзімір, унук Гедыміна, становіцца першым удзельным кіеўскім князем. Княжыў 30 гадоў.

Кіеўская зямля далучана да Вялікага Княства Літоўскага. Пасля, калі Вітаўт умацаваўся на велікакняскім пасадзе, Уладзімір быў адпраўлены ў Капыль, дзе і правёў рэштку жыцця, пахаваны ў Кіева-Пячэрскай Лаўры. Кіеўскі пасад Вітаўт аддаў Скіргайлу, які правіў толькі 4 гады. Затым Вітаўт, каб умацаваць адзінаўладдзе, увёў сваіх намеснікаў, альбо ваявод. Першым з іх у Кіеве быў Іван Альгімонтавіч, князь Гальшанскі.

*1362* — вялікае княства Уладзімірскае аб'яўлена спадчынным уладаннем (вотчынай) маскоўскіх князёў.

*12 мая 1364* — кароль польскі Казімір III Вялікі абвясціў акт аб адкрыцці ў Кракаве Акадэміі (фундаменты былі закладзены ў 1361 годзе), з XIX стагоддзя — Ягелонскі ўніверсітэт. Гэта была другая пасля Пражскага ўніверсітэта вучэльня ў Сярэдняй Еўропе. Адроджаны пасля заняпаду 26 ліпеня 1400 года каралём польскім і вышэйшым князем літоўскім Ягайлам (па-польску Ягелонам, ад чаго і атрымаў сваю назву Ягелонскі). У розны час тут вучыліся многія выхадцы з вялікалітоўскіх зямель. Сярод ягоных студэнтаў былі прадстаўнікі родаў Сапегаў, Радзівілаў, Гальшанскіх і іншых. Другім рэктарам пасля аднаўлення быў абраны ў 1401 годзе ўнук Кейстута князь Ян (Войдат). У 1504 годзе сюды паступіў вучыцца Францыск Скарына.

*Канец жніўня — верасень 1366* — паміж вялікім князем літоўскім Альгердам і каралём польскім Казімірам III Вялікім заключаны дагавор аб размежаванні іхніх уладанняў. Свае подпісы пад дагаворам паставілі таксама Кейстут, Яўнут і Любарт з літоўскага боку. Дагавор з'явіўся пасля паходу Казіміра ў Галіцка-Валынскае княства.

*1366* — Казімір III Вялікі арганізаваў чарговы паход супраць Вялікага Княства Літоўскага з мэтай адабраць забраную вялікалітоўцамі частку Уладзімірскай Русі. У выніку Карона захапіла Валынь і Падолію — Уладзімір, Крамянец,

Бэлз і Хэлм. У Бэлзе і Хэлме Казімір пакінуў князя літоўскага Юрыя Нарымунтавіча, ва Уладзіміры — Аляксандра Карыятавіча.

*1367–1369* — будаўніцтва першага ў Паўночна-Усходняй Русі мураванага Маскоўскага Крамля. Адной з прычын гэтага некаторыя гісторыкі называюць імкненне маскоўскіх князёў мецъ надзейныя абарончыя збудаванні ў будучай непазбежнай сутычцы з Вялікім Княствам Літоўскім.

*21 лістапада 1368* — параза маскоўскіх палкоў на беразе ракі Тросна (цяпер Рузскі раён Маскоўскай вобласці) ад вялікалітоўскага войска на чале з Альгердам, якога летапісцы лічылі выдатным палкаводцам. Ён быў адважным воінам, які часта ўступаў у адзінаборствы і атрымліваў перамогі. У бітве на рацэ Тросна загінулі ўсе воі рускага старажавога палка: «князья, воеводы и бояре все погибли». Альгерд падышоў да Масквы, тры дні стаяў аблогай, нарабаваў шмат дабра, захапіў многа палонных, пагнаў усю дамашнюю жывёлу. Князь Дзмітрый Данскі мусіў вярнуць саюзніку Альгерда Міхаілу Цвярскому захопленыя раней Гарадок і іншыя землі. Як пісаў С. М. Салаўёў: «Впервые по прошествии сорока лет, то есть начиная от первого года княжения Калиты, Московское княжество испытало теперь неприятельское нашествие».

*1368, 1370, 1372* — паходы вялікага князя літоўскага Альгерда на Маскву, першая вайна паміж ВКЛ і Масквой. Лічыцца, што паходы былі інспіраваны цвярскім князем Міхаілам Аляксандравічам, з сястрой якога Ульянай быў жанаты Альгерд. Першы паход адбыўся ў 1368 годзе. Новазбудаваны мураваны Крэмль мусіў адразу ж прадэманстраваць моц сваіх сцен. Аднак трохдзённая аблога — «першая літоўшчына» — закончылася беспаспяхова.

*1368* — падчас паходу Альгерда на Маскву, калі ён адсутнічаў у сталіцы, віленскія язычнікі, незадаволеныя

тым, што іхні ваявода Пётр Гаштольд прывёз у Вільню францысканскіх манахаў, напалі на манастыр і спалілі яго. Сямёра манахаў было забіта, а сем іншых прывязалі да крыжоў і пусцілі па Вяллі са словамі: «Да нас вы прыйшлі з заходу сонца — на захад і плывіце». Альгерд моцна пакараў вінаватых.

*5 лістапада 1370* — памёр кароль польскі Казімір III Вялікі, апошні з Пястаў, не пакінуўшы пасля сябе спадчынніка, — прастудзіўся падчас ловаў. Каралём польскім стаў сын Казіміравай сястры Эльжбеты, унук Уладзіслава I Лакеткі кароль венгерскі з 1342 года Людвік I — па бацькавай лініі належаў да Анжуйскай дынастыі, таму яго называлі і Венгерскім, і Анжуйскім (Луі, Лаяш Вялікі, 1326–1382), каранацыя адбылася 17 лістапада. Да 1382 года Польскае Каралеўства знаходзілася ў дынастычнай уніі з Венгрыяй. Усе 12 гадоў кіравання жыў у Венгрыі.

*1370* — паход вялікага князя літоўскага Альгерда на землі Тэўтонскага ордэна. 17 лютага быў захоплены замак Рудау (сучасны горад Мельнікаў непадалёк ад Калінінграда).

*17 лістапада 1370* — венгерскі кароль Лаяш (Людвік I Вялікі) каранаваны на караля польскага, аднак практычна ўсе 12 гадоў каралявання жыў у Венгрыі. Адначасова атрымаў і Галіч, за які вялася барацьба паміж Княствам і Каронай. У Каралеўстве Польскім вышэйшая пасада перадавалася па спадчыне, аднак у сувязі з тым, што ў Казіміра не было спадчынніка, Людвік павінен быў атрымаць згоду шляхты, за што мусіў плаціць ёй усё новымі прывілеямі. У выніку такога аб'яднання славянскіх зямель у Венгрыі пачалі пераважаць славянскія інтарэсы, скіраваныя найперш на барацьбу з туркамі. Людвік не меў сыноў, таму спадчынна аддаваў Венгрыю сваёй сярэдняй дачцэ Марыі, згодна з дамовай з Карлам IV яна стала нявестай ягонага сына Сігізмунда, які такім чынам станавіўся каралём венгер-

скім. У Сігізмунда было шмат прыхільнікаў у Славакіі, бо ён быў братам чэшскага караля Вацлава. У снежні кароль Людвік І пакінуў Польшчу, а ўладу перараказаў намесніку — сваёй маці Эльжбеце, дачцэ Лакеткі, сястры Казіміра Вялікага.

*Лістапад 1370* — другі паход вялікага князя літоўскага Альгерда на Маскву — другая літоўшчына. Альгерд захапіў крэпасць Вярэя, якая стаяла на дарозе да Масквы, а вось Валакаламск вытрымаў двухдзённую аблогу. Дзесяцідзённая аблога Масквы не дала поспеху, Альгерд заключыў перамір'е з маскоўскім князем Дзмітрыем Іванавічам Данскім.

*Снежань 1370* — князь літоўскі Любарт захапіў Уладзімірскую зямлю.

*1370–1405* — у Самаркандзе правіцелем з'яўляецца эмір Цімур (Тамерлан).

*1372* — Залатая Арда распалася на 7 уладанняў: царства Мамая — паміж Донам і Дняпром, Новы Сарай, былая Балгарыя на Каме, Мардовія, Астрахань, Сарайчык, Крым.

*1372* — трэці паход вялікага князя літоўскага Альгерда на Маскву. «Стаянне» маскоўскіх і літоўскіх вояў пад Любуцкам на рацэ Ака, якое закончылася Любуцкім мірам, заключаным паміж маскоўскім князем Дзмітрыем Іванавічам Данскім і вялікім князем літоўскім Альгердам.

*1372* — кароль венгерскі і польскі Людвік увёў пасад намесніка ў Русі Чырвонай, тым самым падкрэсліваючы асобнасць гэтай зямлі ад Польшчы і Венгрыі. Новы пасад заняў Уладзіслаў Апольчык.

*1372* — на Пераяслаў з вялікім войскам напаў Кейстут — брат вялікага князя літоўскага. Кейстут быў саюзнікам вялікага князя цвярскога Міхаіла, які спрачаўся з вялікім князем Дзмітрыем Іванавічам за маскоўскі велікакняскі стол. Працяглая асада Пераяслава вынікаў не дала, Кейстут адступіў.

*Восень 1373* — у Кошыцах, што ў Венгрыі, адбыўся з'езд польскай шляхты, на якім кароль венгерскі і польскі Людвік Анжуйскі дабіўся права на спадчыннасць трона для сваіх дачок Кацярыны і Марыі, аднак каралём (менавіта так) польскім пазней стала трэцяя дачка Ядвіга.

*18 лютага 1374* — у сям'і венгерскага і польскага караля Людвіка I Анжуйскага нарадзілася Ядвіга, якая з 1384 года стала каралём (менавіта так) польскім. Яна была першай жонкай вялікага князя літоўскага Ягайлы (1386), які пасля заключэння ў 1385 годзе Крэўскай уніі стаў і каралём польскім. Маці яе — баснійская княжна Эльжбета.

*1374* — вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч перастаў плаціць даніну Ардзе.

*17 верасня 1374* — кароль венгерскі і польскі Людвік выдаў Кошыцкі (у Славакіі) прывілей для Польскага Каралеўства, згодна з якім польскія паны і шляхта вызваляліся ад усіх дзяржаўных павіннасцей у краіне. Гэта быў першы прывілей панам і шляхце як саслоўю ўзамен за згоду прызнаць спадчынніцамі польскага пасада дачок.

*1374* — нечаканы паход на Арду войскаў Вялікага Княства Літоўскага.

*1375* — Канстанцінопальскі патрыярх згадзіўся на адкрыццё асобнай мітраполіі «Кіеўскай Русі і Літвы» ў супрацьвагу больш старой мітраполіі «Кіеўскай і ўсяе Русі». Балгарын Кіпрыян 2 снежня 1375 стаў мітрапалітам «кіеўскім, рускім і літоўскім» і меў права (пасля смерці мітрапаліта маскоўскага Аляксія ў лютым 1378 года) узяць на сябе паўнамоцтвы мітрапаліта ўсяе Русі. Гэткім чынам Княства выйграла ў Масквы спрэчку за мітраполію.

*1375* — Вітаўт атрымаў ад свайго бацькі князя Кейстута значную частку Трокскага княства з гарадамі Гародня, Драгічын, Мельнік, Бярэсце, Камянец, да яго перайшлі землі на Палессі і на паўночным захадзе княства з цэнтрам у Мерачы.

*13 лютага 1375* — у выніку намаганняў Уладзіслава Апольчыка ў Галіцкай Русі арганізуецца лацінская мітра-

полія, у якую ўваходзяць біскупствы ў Галічы, Уладзіміры, Пржэмыслі і Хэлме.

*Лета 1375* — дачка князя Кейстута Марыя, сястра Вітаўта, пашлюбілася ў Цвяры з Іванам — сынам вялікага цвярскога князя Міхаіла Аляксандравіча.

*1376* — князь Кейстут перадаў свайму сыну Вітаўту Гарадзенскае княства, куды ўваходзілі гарады Бярэсце, Камянец, Дарагічын. Яму ж намерваўся перадаць Кейстут і ўсё Трокскае княства.

*1376* — падчас родаў памерла першая жонка Вітаўта Марыя Лукомская. Народжаная дачка Соф'я стала пасля жонкай маскоўскага князя Васіля I — сына Дзмітрыя Данскога.

*Канец 1376* — воі Княства на чале з Кейстутам, Ягайлам, Вітаўтам, Любартам і Юрыем вырушылі на Малапольшчу, аднак на самай справе мелі на мэце завалодаць Чырвонай Руссю (Галіцыяй) са сталіцай у Львове. Вітаўт і Любарт, якіх падтрымаў бельскі князь Юрый Нарымонт, па правым беразе Віслы дайшлі амаль да Кракава: спыніліся за сорак з паловай кіламетраў ад горада. Спалілі Люблін, занялі Бэлз і Хэлм. У палон трапіла 23 тысячы чалавек.

*Сакавік 1377* — у Брэсце-Куяўскім кароль польскі і венгерскі Людвік Анжуйскі заключыў дамову з вялікім магістрам крыжацкім аб паходзе на Княства. Вырашылі наступаць з двух бакоў, каб не даць злучыцца войскам Кейстута і Альгерда. Але на самым пачатку вайны памёр Альгерд, уладу пераняў Ягайла.

*1377* — каралева венгерская Эльжбета Лакеткаўна, жонка караля венгерскага і польскага Людвіка Анжуйскага, пакінула Карону, а сваім намеснікам зрабіла Уладзіслава Апольчыка, што выклікала незадавальненне шляхты.

*Май 1377* — смерць вялікага князя літоўскага Альгерда, які быў самым магутным за гісторыю ВКЛ. Лічыцца, што пасля гэтага наступіў другі крызіс улады ў Княстве. Цела Альгерда было спалена ў Мейшагале на рытуальным

кастры. Пасад заняў яго старэйшы сын ад другой жонкі Улляны Цвярской Ягайла (Якаў), якому было 26 гадоў. Пасля з'явілася версія, што Ягайла не быў родным сынам Альгерда і нарадзіўся пазней — каля 1362 года, а калі ўступіў у валоданне Княствам, яму было 16 гадоў. Княжыў у ВКЛ у 1377–1381, 1382–1392, з 1386 года — кароль польскі Уладзіслаў II, з 1392 — найвышэйшы (вярхоўны) князь літоўскі.

*Каля 1377 — 1378* — канфлікт полацкага князя Андрэя Альгердавіча з Ягайлам. Андрэй уцёк у Пскоў, а затым у Маскву. А зімой 1378–1379 на бок Масквы перайшоў Дзмітрый Альгердавіч.

*1377* — вялікі князь літоўскі Ягайла ў хаўрусе са сваім былым слугой Вайдылам, якому ён аддаў за жонку сваю родную сястру-ўдаву і Кейстутаву пляменніцу Марыю, самога ж зрабіў намеснікам у Лідзе, адабралі Полацк у Кейстутавага сына Андрэя Гарбатага і аддалі роднаму брату Ягайлы Скіргайлу. Аднак за ягоную прыхільнасць да язычніцтва праваслаўныя палачане не прынялі Скіргайлу і ў 1381 годзе схапілі яго, пасадзілі спіной наперад на старую клячу, прывязалі і прагналі з горада. Доўга яшчэ ў народзе жыла прымаўка: «Паехаў, як Скіргайла з Полацка». Затым ён на працягу чатырох месяцаў беспаспяхова намагаўся захапіць Полацк.

*1378* — кароль венгерскі і польскі Людвік Анжуйскі ўвёў на Галіцкай Русі венгерскую адміністрацыю — старастаў, чым спрабаваў адлучыць Русь ад Кароны.

*1378* — у Камянецку-Падольскім утвараецца лацінскае біскупства.

*15 чэрвеня 1378* — згодна з кананічным правам адбыўся так званы «шлюб на будучыню» *(sponsalia de futuro)* венгерскай каралеўны Ядвігі з аўстрыйскім княжычам Вільгельмам Габсбургам. Адбывалася гэта так. Аўстрыйскі князь Леапольд III роўна праз 6 месяцаў пасля нараджэння Ядвігі — 18 жніўня 1374 года звярнуўся да караля венгер-

скага і польскага Людвіка Анжуйскага з прапановай паяднаць шлюбам ягоную дачку Ядвігу і свайго старэйшага сына Вільгельма. Людвік 4 сакавіка 1375 года спецыяльным актам даў згоду. Ядвіга мела стаць княжной аўстрыйскай. Дасягнута была дамова, што кожны з бакоў выплаціць маладой пары па 200 тысяч залатых чырвоных флорынаў. У іншых крыніцах згадваецца, што кароль венгерскі і польскі Людвік меў бы выплаціць гэткую ж суму, калі б шлюб не адбыўся. Ядвізе на час заключэння шлюбнага пагаднення было 4 гады, Вільгельму — 5 (у іншых крыніцах называецца ўзрост 8 гадоў); з гэтай пары ён выхоўваўся ў Будзе, у двары Людвіка Анжуйскага — бацькі Ядвігі, а Ядвіга — у Вене. Згодна з тадышнім правам для рэальнага здзяйснення шлюбу павінна была адбыцца кансумацыя — фізічнае зблiжэнне, а сямейнае жыццё магло наступіць толькі пасля дасягнення хлопцам чатырнаццаці гадоў, дзяўчынай — дванаццаці. За 6 месяцаў да паўналецця Ядвігі, а менавіта ў жніўні 1385 года, магло стацца афіцыйнае афармленне шлюбу. Таму ў жніўні 1385 года Вільгельм прыехаў у Кракаў са спадзяваннем на акт кансумацыі: першую шлюбную ноч, што фактычна засведчыла б правамоцнасць іхняга колішняга шлюбавання. Але кракаўская шляхта дамаглася, каб шлюб не адбыўся, бо пачаліся зашлюбіны Ядвігі з Ягайлам.

*1378–1417* — «Вялікая схізма»: раскол у каталіцкай царкве.

*Жнівень 1379* — трэці з'езд у Кошыцах падтрымаў права Марыі, дачкі караля венгерскага і польскага Людвіка Анжуйскага, на польскі трон. Дзеля гэтага бацька пайшоў нават на прымус. Ён замкнуў вароты горада і загадаў не выпускаць удзельнікаў з'езда, пакуль тыя не прымуць ягоную прапанову. А 25 ліпеня 1382 года паклікаў у венгерскі Зволін польскіх паноў і змусіў іх скласці прысягу Сігізмунду Люксембургскаму як будучаму мужу спадкаемцы Польшчы ягонай дачкі Марыі.

*29 верасня 1379* — вялікі князь літоўскі Ягайла, яго брат Лінгвен, Кейстут і яго сын Вітаўт заключылі ў Троках першы мірны дагавор з крыжакамі на 10 гадоў. Пазней былі іншыя дамовы, у выніку якіх Ордэн атрымліваў новыя землі: у 1382 годзе Ягайла са Скіргайлам прызналі за Ордэнам права на частку Жмудзі; у 1384 годзе Вітаўт заключыў з Ордэнам дагавор, у якім абяцаў прызнаць сваю залежнасць ад Ордэна і аддаць частку Літвы і Жмудзі; у 1385 годзе Ордэн заключыў дагавор з Андрэем Полацкім, які аддаваўся крыжакам у ленную залежнасць; у 1390 годзе Вітаўт пацвердзіў свае ранейшыя абяцанні.

*Зіма 1379–1380* — маскоўскія войскі робяць наезды на ўсходнія землі Княства, захапілі Бранск, Трубчэўск, разрабавалі Старадубскую зямлю. Бранскі князь Дзмітрый Альгердавіч перайшоў на бок Масквы, годам раней гэта ж зрабіў Андрэй Альгердавіч.

*1380* — ардынскі цемнік Мамай (ваенны кіраўнік, які меў у сваім падпарадкаванні «цьму» — 10 000 вояў) і вялікі князь літоўскі Ягайла заключылі дамову супраць вялікага князя ўладзімірскага і князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча Данскога.

*1380–1395* — у Залатой Ардзе кіруе хан Тахтамыш.

*1380* — ардынскі цемнік Мамай (ваенны кіраўнік, які меў у сваім падпарадкаванні «цьму» — 10 000 вояў) і вялікі князь літоўскі Ягайла заключылі дамову супраць вялікага князя ўладзімірскага і князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча Данскога.

*8 верасня 1380* — адбылося «Мамаево побоище». Вялікі князь уладзімірскі і князь маскоўскі Дзмітрый Данскі атрымаў перамогу на Куліковым полі (Кулікоўская бітва) — першую перамогу над мангола-татарскімі войскамі цемніка Мамая. У бітве бралі ўдзел Андрэй Альгердавіч Полацкі, Дзмітрый Альгердавіч Друцкі — адзін з кіраўнікоў рэзерваў, і іншыя ваяводы. А вось Ягайла ад бітвы ўхіліўся. Некаторыя

расійскія гісторыкі паведамляюць пра гэта наступнае. Мамай са сваім войскам рухаўся ў вярхоўе Дона, каб злучыцца з Ягайлам і Алегам Разанскім у вусці ракі Няпрадва. 5 верасня руская конніца з'явілася ля Дона. Армію Мамая ад іх аддзялялі тры дні паходу — яна была на поўдні ад Дона. Ягайла на такой жа адлегласці знаходзіўся на захадзе. 7 верасня руская армія перайшла Дон. Аб адзінаццатай гадзіне 8 верасня, калі разышоўся туман, рускія і татарскія воіны пачалі спускацца з пагоркаў і кіравацца да сярэдзіны Куліковага поля. Адбылася пераможная для рускага войска бітва. Ягайла ж знаходзіўся за 35–40 кіламетраў адсюль. Калі да яго дайшлі весткі аб татарскай паразе, ён адразу ж адступіў.

Пасля бітвы Мамай уцякаў па вялікалітоўскіх землях, тут застаўся ягоны сын Мансур-Кіят, які меў дачыненне да заснавання роду Глінскіх, прадстаўнікамі іх з'яўляліся Міхаіл Львовіч Глінскі, які разбіў татараў у 1506 годзе каля Клецка, і Алена Глінская (1508–1538), дачка князя Васіля Львовіча і ягонай жонкі Ганны, у 1526 годзе стала другой жонкай вялікага князя маскоўскага Васіля III, які сваю першую жонку адправіў у манастыр, і маці рускага цара Івана IV Грознага.

Гэтая перамога ўмацоўвала пазіцыі маскоўскіх прыхільнікаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Бо з часу бліскучай перамогі Альгерда над татарамі ля ракі Сінія Воды існавала пэўная насцярожанасць да маскоўскіх князёў, якія мелі лаяльныя зносіны з Ардой, што давала падставы Альгерду для ваенных паходаў на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гадах. Ідэя Альгерда зрабіць Вялікае Княства Літоўскае аб'яднаўчым цэнтрам для ўсіх рускіх зямель не мела поспеху — пачала ўмацоўвацца Масква.

Ягайла ж намагаўся ўмацаваць сувязі з Маскоўскім княствам. Гэтаму павінен быў паспрыяць ягоны шлюб з дачкой Дзмітрыя Данскога Соф'яй, які, аднак, не адбыўся. Не адбылося і збліжэння Маскоўскага княства і ВКЛ, бо

маскоўскі князь хацеў, каб Ягайла прызнаў васальную залежнасць.

*1380* — у Маскве праваслаўная царква ўстанавіла дзень памяці воінаў, якія загінулі на Куліковым полі, — Дзмітраўскую суботу перад 26 кастрычніка.

*1380* — тайная дамова Ягайлы з Ордэнам, у выніку якой крыжакам развязваліся рукі ў адносінах да зямель Кейстута і выказвалася маўклівая згода з прэтэнзіямі на Жамойць. Гэта паслужыла прычынай збройнага канфлікту Кейстута з Ягайлам. Кейстут вырашыў адабраць пасад у Ягайлы.

*29 снежня 1380* — у венгерскай Будзе памерла Эльжбета Лакеткаўна — каралева венгерская, сястра Казіміра Вялікага, маці Людвіка, бабуля Ядвігі. Пры адсутнасці ў Польшчы Людвіка выконвала ролю прадстаўніцы вышэйшай улады. Гэта паскорыла ўладны крызіс у Польшчы. Намеснікамі Каралеўства Польскага заставаліся правенгерскія прыхільнікі — біскуп Кракаўскі Завіша з Курозвак і чатыры члены вялікай рады.

*1381* — выступленне полацкіх гараджан супраць Скіргайлы. Яны не захацелі прызнаць Скіргайлу сваім князем, выгналі яго з горада. Зняважаны Скіргайла звярнуўся па дапамогу да Лівонскага ордэна і стаў аблогай ля Полацка. Палачане накіравалі паслоў у Вялікі Ноўгарад прасіць дапамогі. Скіргайла прастаяў каля Полацка 4 месяцы і адступіўся.

*Лістапад 1381* — Кейстут, які ад крыжакоў даведаўся пра таемныя зносіны вялікага князя літоўскага Ягайлы з Ордэнам, напаў на Вільню, захапіў горад, паланіў Ягайлу і ягоную радню, павесіў Вайдылу. Лічыцца, што наступіў трэці крызіс улады ў ВКЛ. Але калі Ягайла пісьмова прызнаў Кейстута вялікім князем і паабяцаў больш не ваяваць супраць яго, той аддаў яму Віцебскую зямлю.

*12 студзеня 1382* — смерць біскупа Завішы з Курозвак. Кароль венгерскі і польскі Людвік Анжуйскі даверыў намесніцтва ў Кароне свайму зяцю (мужу Марыі), маркграфу брандэнбургскаму Сігізмунду Люксембургскаму.

*Чэрвень 1382* — войска вялікага князя літоўскага Ягайлы нечакана напала на Трокскі замак, Вільня зноў апынулася ў руках Ягайлы. Ён паланіў Вітаўта і Кейстута. Апошні магутны язычнік Кейстут быў задушаны ў Княскай вежы Крэўскага замка. Акадэмічны летапіс так апавядае пра гэта: Ягайла «князя великого Кестютья, дядю своего, оковавь, послали Креву и всадили у вежю, а князя великого Витовта оставили были еще у Вилни. И тамо у Креве пятое ночи князя великого Кестутья удавили коморники князя великого Ягаиловы: Прокше, што воду даеть ему, а были иннии, Мостевь брать а Кучюкь, а Лисица Жибндяи. Таков конець стался князю великому Кестутью».

А Вітаўта выратавала знаходлівасць ягонай жонкі Ганны Смаленскай, ён пераапрануўся ў сукенку служанкі Алены, уцёк за сцены замка і разам з братам Таўцівілам сышоў да мазавецкага князя Януша — брата Земавіта, які быў жанаты з іхняй сястрой Данутай (Ганнай) і меў свае ўласныя інтарэсы адносна пасады караля польскага. Алену забілі. Акадэмічны летапіс так піша пра гэта: «и онь, нарядився в одное жонки порты, да и з другою вышоль, да спусился з города да утекь у Немци, у Прусы». Яны спадзяваліся на дапамогу Земавіта супраць Ягайлы. Той і сапраўды вырушыў у паход, захапіў Драгічын і Мельнік, але для сябе, а не для Вітаўта. Таўцівіл спыніўся ў сястры, хрысціўся і атрымаў імя Конрад. Абураны Вітаўт пайшоў шукаць дапамогі ў крыжакоў, каб адабраць сваю бацькаўшчыну — Трокскае княства, якое належала цяпер Скіргайлу.

*23–26 жніўня 1382* — аблога Масквы войскам хана Залатой Арды Тахтамыша, які перамог Мамая і стаў вялікім ханам, у саюзе з разанскім і ніжагародскім князямі. Масква была спалена. Князь Дзмітрый Данскі прызнаў уладу Залатой Арды. Была адноўлена выплата Ардзе даніны.

*Ноч з 10 на 11 верасня 1382* — смерць караля венгерскага і польскага Людвіка Анжуйскага (Венгерскага), які

з'яўляўся паважанай асобай сярод еўрапейскіх манархаў. На каралеўскім пасадзе застаецца ягоная дачка Марыя (яе прызналі каралевай на з'ездзе ў Кошыцах у 1379 годзе), якая мела 12 гадоў і была зашлюблена з Сігізмундам — сынам чэшскага караля і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла IV. Аднак аб'яднаная малапольская і велікапольская шляхта не хацела дапусціць яго да ўлады. 18 студзеня 1383 года на з'ездзе ў Пыздрах велікапольскія паны склалі прысягу вернасці Марыі з умовай, што яна пераедзе ў Польшчу. Аднак яе маці, жонка Людвіка Эльжбета Баснячка, не хацела, каб мужамі дачок сталі германцы. Палякі таксама не жадалі, каб утварылася персанальная унія з венграмі, і хацелі выбраць каралеве, якая мела быць на польскім троне, новага мужа, без увагі на раней праведзеныя зашлюбіны. У выніку венгерскую карону аддалі Марыі. Палякі адмовіліся ад ранейшай прысягі ёй. На з'ездах у Радамску і Вісліцы шляхта ўтварыла братні саюз для бяспекі краю. Першае бескаралеўства ў Польшчы.

*Верасень 1382 — лістапад 1384* — «Час каптуроў» — час бескаралеўства ў Каралеўстве Польскім.

*Верасень 1382* — князь Уладзіслаў Апольчык прыводзіць з Венгрыі ў Чанстахоў Ордэн эрэмітаў святога Паўла — паўлінаў. Праз два гады ён ахвяруе чанстахоўскім паўлінам ікону з Бельскага замка з выявай Маці Божай, якая стала пасля найвялікшай святыняй.

*1 лістапада 1382* — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад Валенрод заключыў з Ягайлам чартырохгадовае перамір'е на рацэ Дубіса, што ў Літве. Узамен князі Ягайла, Скіргайла, Карыбут, Лінгвен, Карыгайла, Вітаўт і Свідрыгайла па ўзаемнай згодзе ўступілі частку Жмудзі крыжакам. Аднак у сувязі з тым, што Ягайла не аддаў Вітаўту яго бацькоўскія трокскія землі, Вітаўт сумесна з крыжакамі намагаўся сам адабраць іх, праз год яны парушылі пагадненне.

*25 лістапада 1382* — на з'ездзе ў Радамску малапольская і велікапольская шляхта падтрымала малодшую дачку караля венгерскага і польскага Людвіка Ядвігу ў якасці кандыдаткі на каралеўскі пасад.

*1382* — у «Хроніцы Польшчы» Полацк згадваецца як крэпасць Белай Русі, а ўвогуле ён упершыню названы ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам.

*1383* — Тэўтонскі ордэн пераконваў жамойтаў перайсці на яго бок. Магістр прускі рыхтаваўся да вайны з Ягайлам і пасылаў жмудзінам зброю, коней, вопратку і інш.

*26 лютага 1383* — у Серадзе адбыўся з'езд паноў польскіх і венгерскіх, на якім аб'яўлена, што ўдава-каралева Эльжбета (жонка караля венгерскага і польскага Людвіка, дачка баснійскага караля Стэфана Катраманіча; варта сказаць, што маці Людвіка была таксама Эльжбета, толькі з роду Лакеткаў) не будзе настойваць на тым, каб польскі пасад заняла старэйшая дачка Марыя, якая была абрана каралевай венгерскай. На польскі пасад яна вызначае малодшую, Ядвігу, аднак адбудзецца гэта толькі праз 3 гады, бо каралеўне было ўсяго 9 гадоў.

*26 сакавіка 1383* — другі з'езд у Серадзе. На ім велікапольская апазіцыя вылучыла кандыдатам на польскі пасад мазавецкага князя Земавіта IV. У сувязі з гэтым яго наважваюцца зрабіць мужам Ядвігі (ён хацеў і дамагаўся стаць каралём польскім), каб гэткім чынам узаконіць ягонае права на пасад. На 10 мая, так званыя Зялёныя святкі, быў прызначаны выезд Ядвігі з Венгрыі ў Кракаў. Земавіт вылучыў смелы план: па дарозе ўкрасці Ядвігу, ажаніцца і каранавацца разам з ёй. Земавіт нават вырушыў у дарогу, але кракавяне даведаліся пра намер і не пусцілі яго ў горад. Ад'езд Ядвігі быў перанесены на 11 лістапада. Малапольскія паны з падтрымкі венгерскага войска змусілі Земавіта адступіцца ад задумы. Аднак ён захаваў для сябе Куявы.

*1383–1384* — пасля некаторага аслаблення пазіцый вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога ў сувязі з пе-

рамогай войска татарскага хана Тахтамыша пачынаецца перыяд аднаўлення рэпутацыі і моцы Дзмітрыя Іванавіча. Каб яшчэ больш умацаваць гэтыя пазіцыі і ў Княстве, прыхільнікі Данскога вядуць перамовы аб жаніцьбе вялікага князя літоўскага Ягайлы з дачкой Дзмітрыя Данскога, ставяць яму папярэднюю ўмову ахрысціцца па праваслаўным звычаі, а таксама прызнаць сябе васалам маскоўскага князя. Аднак да рэалізацыі гэтыя перамовы не дайшлі — да Ягайлы з'явіліся польскія паслы з іншай прапановай: стаць каралём польскім, ажаніцца з Ядвігай і стаць каталіком.

*1383* — старэйшы сын Дзмітрыя Данскога Васіль у якасці заложніка быў адпраўлены ў Арду, непасрэдна да хана Тахтамыша. Так мусіў паступіць ягоны бацька — за абяцанне выплаціць даніну ў памеры 8 тысяч рублёў серабром. Там ён прабыў 4 гады. Знаходжанне ў Ардзе скончылася не выплатай доўгу, а ўцёкамі Васіля з Арды ў Вялікае Княства Літоўскае.

*5 красавіка 1383* — вялікі князь літоўскі Ягайла разам з братам Скіргайлам у Вільні надалі мяшчанам Любліна прывілей (так называліся ў Вялікім Княстве Літоўскім і Каралеўстве Польскім заканадаўчыя акты, якія абвяшчаліся вялікімі князямі і каралямі; прывілей дараваў альбо пацвярджаў правы шляхце, баярам і інш.) гандляваць у Княстве без усякіх перашкод, гарантуючы любельскім купцам бяспеку. Гэта можна лічыць першым крокам зацікаўленасці Ягайлы, які парваў з Крыжацкім ордэнам, у кантактах з Польшчай. Ёсць меркаванне, што ў гэты час да Ягайлы кіравалася польскае пасольства з прапановай узяць за жонку Ядвігу.

*Вясна 1383* — малапольскія паны вырашылі звязаць лёс Кароны з вялікім князем літоўскім Ягайлам, але цягам усяго года нават не казалі пра тое самому Ягайлу — рыхтаваліся нейтралізаваць Земавіта, які ўсяляк дамагаўся каралеўскай кароны, а самі больш вывучалі і самога князя, і жыццё Вялікага Княства Літоўскага.

*16 чэрвеня 1383* — Земавіт склікаў у Серадзе з'езд, на якім спадзяваўся дабіцца падтрымкі ў справе выбрання

яго на караля польскага. Тут яго і «выгукнулі» каралём. Замест звычайнай урачыстай каранацыі скарысталі са старога цырыманіялу: падняцце на шчыце. Аднак унутранай барацьбы гэта не спыніла.

*24 верасня 1383* — Ягайла разам са Скіргайлам акружыў Трокі, зруйнаваны горад здаўся 3 лістапада. Першая выправа Вітаўта сумесна з крыжакамі на Княства не мела поспеху. Ён сышоў разам з крыжакамі.

*1383–1384* — паход вялікалітоўскага войска на Ноўгарад.

*1383* — вялікі князь літоўскі Ягайла вырушыў у паход на Мазовію і вярнуў Княству замкі Драгічын, Сураж, Камянец, заваяваныя некалі мазавецкім князем Янушам, зяцем Кейстута, які падчас захопу тых замкаў вёў барацьбу з Ягайлам.

*21 кастрычніка 1383* — крыжакі схілілі Вітаўта да хрышчэння па лацінскім абрадзе. Яны рабілі гэта з мэтай пасварыць Вітаўта з Ягайлам, а, калі ўдасца, то і адхіліць Ягайлу ад улады. Вітаўта хрысцілі ў Таплаве, яму далі імя ягонага хроснага бацькі комтура Віганда фон Бальдэрсгайма Віганд. Як леннік Ордэна Вітаўт атрымаў замак Марыенбург на літоўскім памежжы, дзе Дубіса ўпадала ў Нёман. Тут сабралася вызваленая Ягайлам уся сям'я Вітаўта, акрамя Таўцівіла, які знаходзіўся ў Мазовіі. Праз нейкі час Вітаўт выправіўся з Марыенбурга ў крыжацкую сталіцу Мальбарк.

*1383* — аб'яўленая 30 ліпеня вялікім магістрам Ордэна вайна супраць Княства пачалася. Крыжакі сумесна з Вітаўтам напалі на Княства, занялі Коўна, 12 жніўня — Трокі, якія магістр аддаў Вітаўту, і падышлі да Вільні, 11 дзён рабавалі горад, пасля чаго адышлі ў Прусію.

*30 студзеня 1384* — у Мальбарку Вітаўт падпісаў акт аб перадачы крыжакам усёй Жмудзі, а ў выпадку атрымання Трокскай зямлі і Гародні быў згодны атрымаць іх ад крыжакоў у лена. А пазней, у чэрвені, у дадатак да гэтага Вітаўт згадзіўся, каб у выпадку адсутнасці ў яго сыноў ягоныя землі перайшлі да Ордэна. Ягайла мусіў настойліва шукаць

магчымасці таемных перамоў з Вітаўтам і схілення яго на свой бок.

*1384* — Ягайла вёў перамовы з вялікім князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам Данскім, выказваючы згоду ажаніцца з адной з ягоных дачок Соф'яй і прыняць прапанову аб хрышчэнні па праваслаўным абрадзе, а таксама падтрымаць Маскву ў барацьбе супраць Тэўтонскага ордэна. Маецца даканчальная грамата вялікай княгіні Улляны, жонкі Альгерда, вялікаму князю Дзмітрыю Іванавічу: «о женитьбе великого князя Ягайлы Ольгердовича, женитися ему у великого князя Дмитрея Ивановича на дочери, а великаму князю Дмитрею Ивановичю дочь свою за него дати, а ему, великому князю Ягайлу, быти в их воле и креститися в православную веру и крестьянство свое объявити во все люди». У выніку Ягайла павінен быў павянчацца з маскоўскай княжной, а Княства — з праваслаўем. Гэтаму, відаць, перашкодзілі татары сваімі ваеннымі дзеяннямі супраць Масквы, а таксама намер палякаў запрасіць Ягайлу на польскі пасад праз ягоны шлюб з каралевай польскай Ядвігай. Соф'я пасля пашлюбілася з адным з сыноў вялікага князя разанскага.

*2 сакавіка 1384* — адбыўся чарговы з'езд польскай шляхты і прадстаўнікоў гарадоў у Радамску адносна караля польскага. Вырашана ажыццявіць апошнюю спробу выклікаць у Польшчу Ядвігу. Дзеля гэтага згадзіліся накіраваць да венгерскай каралевы Эльжбеты, Ядвізінай маці, пасла з прапановай прыслаць Ядвігу не пазней як 29 мая, бо інакш ёй адмовяць у мажлівасці атрымаць польскую карону. Паны польскія, якія рабілі стаўку на Літву, гатовы былі зрабіць Ягайлу каралём «і без Ядвігі» — арганізаваць ягонае абранне на сойме. Справамі польска-літоўскіх сувязей найперш займаліся ваявода сандамірскі Ян з Тарнова, ягоны брат Спытак і іхні стрыечны брат кракаўскі ваявода Спытак з Мельштына. Але пра ўсё гэта не ведалі пакуль што ні Ядвіга, ні Земавіт. Дзяржава, дзе хрысціянства існавала ўжо чатыры стагоддзі,

вырашыла запрасіць на вышэйшы ўладны пасад язычніка. Прыхільнікі гэткага рашэння разумелі, што саюз з венграмі не даваў бы ім спакою, не спыніў бы літоўскіх набегаў, а вялікалітоўцы паспрыялі б у барацьбе з крыжакамі, якіх лічылі сваімі ворагамі. Кандыдатура Ягайлы задавальняла з многіх абставін, бо давала палякам спадзеў на поспех у справах Чырвонай Русі і паморскіх. Калі б Ягайла і сапраўды ахрысціў язычнікаў, а Княства стала каталіцкім, то адпала б мэтазгоднасць існавання Ордэна, які змагаўся за пашырэнне каталіцызму, не спатрэбілася б еўрапейскім манархам аказваць яму дапамогу. Аб'яднаныя ж Княства з Каронай мелі б вялікую сілу і здолелі б не адно супрацьстаяць крыжакам, а і ўплываць на еўрапейскую палітыку. Чаго не здолеў зрабіць Тэўтонскі ордэн за паўтара стагоддзя свайго існавання, здавалася, было блізка да ажыццяўлення праз жаніцьбу Ягайлы з Ядвігай і ягонае абяцанне ахрысціць літоўскіх язычнікаў, праз пашырэнне заходняй культуры.

Пра гэткі намер, аднак, не было розгаласу ні ў Кароне, ні ў Княстве, бо не ведалі нават, ці згодзіцца Ягайла. Невядома, хто напачатку ездзіў да Ягайлы, усё рабілася ціха, публічныя заявы з'явіліся толькі тады, калі ўсё было дамоўлена.

*Май 1384* — 40 тысяч узброеных крыжакоў на чале з вялікім магістрам Ордэна перайшлі Нёман і ўварваліся на землі Княства, здабылі Коўна, замак разбурылі, а на левым беразе Нёмана, насупраць Старога замка, узвялі новую магутную крэпасць Новы Марыенвэрдар (Ноенгартэн).

*14 чэрвеня 1384* — вялікі магістр пацвердзіў ленныя стасункі Вітаўта з Ордэнам, а Вітаўт зноў прызнаў сябе ленікам крыжакоў.

*Чэрвень 1384* — вялікі князь літоўскі Ягайла раіцца з Вітаўтам адносна польскай кароны для сябе, з чаго вынікае, што ўжо ў яго пабывалі паслы з Кароны. Акадэмічны летапіс так паведамляе пра гэта: «И начаша ляхове слати ис Кракова ко князю великому Ягаилу, дабы приняль крещение старого

8 Зак. 1939

Рима и понял бы у них королеву Ядвигу собе жоною и стал бы у нихъ королем у Кракове на все земли Лядскои. Он же, князь великии Ягаило, советь сотвори своею матеръю, з великою княгинею Ульяною, и з братьею своею, и с всими князьми и бояры Литовъское земли, и поехав Кракову в Лядскую землю. Тамо же сам крестися и брать его, и князи, и бояре Литовъское земли. И взяль за себе королеву Адвигу, и корунован бысть того королевьства коруною».

*1384* — у выніку перамоў паміж Вітаўтам і Ягайлам дасягнута дамоўленасць аб тым, што Гародня становіцца другой сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. Пасля гэтага ў Гародні будуецца першы драўляны касцёл Прачыстай Маці Божай, названы Фарай Вітаўта. Упершыню касцёл згадваецца ў 1389 годзе. Быў самым вялікім і самым прыгожым у Княстве.

*Лета 1384* — унутраная вайна паміж Кейстутавічамі і Альгердавічамі змушала Ягайлу шукаць паразумення з Вітаўтам. Вітаўт прыняў прапановы Ягайлы і спыніў зносіны з Ордэнам. Сам ён так пісаў пра гэта: «І пачаў князь Ягайла раз за разам слаць да нас баяр і лісты свае, абяцаючы аддаць усю маю бацькоўскую спадчыну і даючы на гэта сваю прысягу. Я паверыў ягонай клятве і прыхільна паставіўся да яе, і конна выбраўся да яго». Але не хацеў прызнацца, што ўцякае ад крыжакоў, а паведаміў, што выступае супраць Ягайлы. Тым часам Вітаўт спаліў некаторыя крыжацкія замкі і ў ліпені быў ужо ў лагеры Ягайлы. Пазней Вітаўт скардзіўся: «А князь Ягайла абяцання свайго не стрымаў і выракся ўласнай прысягі — спадчыны маёй бацькоўскай не аддаў мне, а спадчыну маю бацькоўскую аддаў брату свайму князю Скіргайлу (Скіргайла валодаў Трокамі з 1382 года. — *А. Б.*). А Скіргайла не належыць да нашай хрысціянскай веры, ён рускай веры, якой трымаецца да гэтага дня». Атрымаў ад Ягайлы Гарадзеншчыну, Падляшша, Бярэсце, Ваўкавыск, Драгічын, Мельнікі, Бельск, Сураж, Камянец. Вітаўт прыняў праваслаўную веру, атрымаў імя

Аляксандр. Гэтым самым Ягайла зрабіў мудры крок — аддаліў Вітаўта ад крыжакоў. Не пашкадаваў Ягайла маёмасці і багацця іншым прыхільнікам Вітаўта. Івану Альгімонтавічу, як пісаў Вітаўт, «падаў князь Ягайла ў маёй прысутнасці сваю руку, што ніколі не падумае адабраць ягоную бацькоўскую спадчыну; дзеля гэтага князь Іван таксама аддаў яму праз мае рукі залаты ланцуг». У Княстве наступаў час паразумення.

*9 верасня 1384* — разам са Скіргайлам і Вітаўтам Ягайла пачаў аблогу Новага Марыенвэрдара, каб канчаткова выцесніць крыжакоў з літоўскай зямлі, бо іхняе знаходжанне на Нёмане, амаль у цэнтры Княства, не дадавала спакою. Зацятая барацьба доўжылася некалькі месяцаў. 17 кастрычніка на дапамогу магутнай крэпасці прыйшоў вялікі маршалак Ордэна Конрад Валенрод. Аднак мусіў адступіцца. 6 лістапада крэпасць здалася. 250 жаўнераў і 55 братоў-законнікаў было ўзята ў палон. Калі пазней паўстала неабходнасць абмяняцца палоннымі, вялікі магістр Цолнер падлізліва і пашаноўна называў Ягайлу «вялікім каралём літвінаў».

*Кастрычнік 1384* — 11-гадовая каралеўна Ядвіга, дачка караля венгерскага і польскага Людвіка, прыязджае з Венгрыі ў Кракаў, каб стаць на чале Польшчы.

*Нядзеля, 15 кастрычніка 1384* — у Кракаўскай катэдры адбылася ўрачыстая каранацыя Ядвігі на караля (менавіта так — *rex Polonae*) польскага. Прычына хавалася ў тым, што ў такім разе мужа не абавязкова было каранаваць — гэта залежала ад жадання каралевы і народа. А шляхце не хацелася, каб Вільгельм Габсбургскі, з якім Ядвіга была пашлюблена «на будучыню», атрымаў карону. І яшчэ важная дэталь — паколькі Ядвіга была спадчынніцай Уладзіслава Лакеткі і Казіміра Вялікага (каралёў польскіх), а таксама таму, што яе прызналі законнай спадчынніцай Кароны польскай, яе і абралі менавіта к а р а л ё м. Ёсць меркаванне, што Ягайла выслаў у Кракаў сваё пасольства, каб ушанаваць Ядвігу падчас каранацыі.

*1384, 1392, 1394* — аблогі Лідскага замка крыжакамі.

*18 студзеня 1385* — у Кракаў прыбыло пасольства вялікага князя літоўскага Ягайлы з просьбай рукі Ядвігі, што здзівіла ўвесь свет і напалохала крыжакоў. Здзівілася і сама Ядвіга. Але гэта была не першая сустрэча палякаў і вяліка-літоўцаў, бо яна з'яўлялася афіцыйнай паездкай. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, у кастрычніку 1384 года ў Вільні таемна пабывала высокая польская дэлегацыя з прапановай адносна Польшчы і Ядвігі. У адказ на гэта Ягайлавы пасланнікі таксама таемна наведалі Кракаў у той жа час.

Узначальваў пасольства самы давераны чалавек — брат Ягайлы Скіргайла, у яго складзе былі стрыечны брат вялікага князя Барыс Карыятавіч, падольскі і віленскі староста Ганул. Іншыя крыніцы называюць яшчэ Альгімунта, верагодна, бацьку князя Івана Гальшанскага. Яны перадалі Ядвізе ад Ягайлы багатыя дарункі. Згодна з цырыманіялам двара, адказ замежным пасольствам даваў не сам манарх. Ад імя трона Ягайлу адказалі, што ён мусіць накіраваць пасольства да маці Ядвігі венгерскай каралевы-ўдавы Эльжбеты. Скіргайла застаўся ў Кракаве. Барыс і Ганул разам з польскімі пасламі Уладкам з Аградзенца — падчашым кракаўскім, Мікалаем Багорыям — кашталянам завіхойскім і Крыстынам з Астрова — старастам кажмерскім паехалі ў Буду. Было гэта ў сакавіку. Ядвіга спадзявалася, што справа задоўжыцца, а яна паспее выйсці замуж за Вільгельма. Аднак папскі легат у Венгрыі і Польшчы быў зацікаўлены ў каранацыі Ягайлы і таму давёў справу да таго, што Эльжбета дадала да польскага пасольства сваіх прадстаўнікоў, і яны са згодай вярнуліся ў Кракаў.

*25 красавіка 1385* — вялікі магістр Крыжацкага ордэна Цолнер заключыў з паморскімі князяміВарціславам і Багуславам саюз супраць Княства і Кароны. Але не драмалі і літвіны з палякамі.

*Лета 1385* — інфлянцкі магістр Робін фон Эльзэ ад імя Ордэна вёў перамовы з родным братам Ягайлы князем по-

лацкім Андрэем Гарбатым. Ордэн хацеў атрымаць у лена Полацк і ўзамен гарантаваў любую падтрымку.

*Чэрвень 1385* — генеральны з'езд у Кракаве вяльможаў з розных мясцін, дзе большасць яго ўдзельнікаў дала згоду на шлюб Ягайлы з Ядвігай і вырашыла звярнуцца да яго з прапановай стаць на чале Каралеўства Польскага. Пасля гэтага польскія паслы Пётр Шафранец, Уладак з Харбіновіц, Мікалай з Асаліна, Крыстын з Астрова, Гінчка з Рашковіц і два паны венгерскія павезлі гэтае рашэнне да Ягайлы ў Крэва. А ў гэты час у Кракаве намеснік Людвіка Венгерскага ў Польшчы Уладзіслаў Апольчык перадаваў шляхце згоду венгерскай каралевы Эльжбеты Баснячкі на завяршэнне шлюбу з Вільгельмам. Ды шляхта была ўжо настроена на Ягайлу. Кракаўскі кашталян Дабяслаў з Курозвак загадаў замкнуць вароты замка і не пускаць Вільгельма, які прыехаў да «сваёй» Ядвігі. Вільгельм знайшоў прыстанішча ў свайго спрыяльніка — у палацы Гневаша з Далевіц на вуліцы Легацкай. Тут ён і атрымаў загад неадкладна пакінуць Кракаў і Польшчу. А Уладзіслаў Апольчык і Гневаш з Далевіц, убачыўшы такі паварот справы, хутка перакінуліся на бок Ягайлы, Апольчык нават быў ягоным хросным бацькам.

*Панядзелак, 14 жніўня 1385* — напярэдадні Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Крэўскі замак да вялікага князя літоўскага Ягайлы прыбыло польскае і венгерскае пасольства ў вышэйназваным складзе са згодай на шлюб з Ядвігай і запрасінамі на караля польскага. Падпісана дэкларацыя, якую назвалі персанальнай Крэўскай уніяй, — дзяржаўны саюз паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім. Акт падпісалі з літоўскага боку князі Скіргайла, Лінгвен, Карыбут, Вітаўт, з польскага — члены пасольства. У выніку аб'яднаныя Карона і Княства займалі каля 800 тысяч квадратных кіламетраў, распасціраліся ад Шлёнска да Акі, ад Балтыкі да чарнаморскіх стэпаў. Ягайлавай маці Уляны ў гэты час у Крэве не было. Яна,

верагодна, не хацела такога шлюбу і хрышчэння сына па рымскім абрадзе. Пад імем манашкі Марыны яна знаходзілася ў Пячэрскім манастыры ў Кіеве, дзе дажыла да сваёй смерці ў 1391 годзе.

Да сённяшніх дзён не сціхаюць спрэчкі наконт мэт і задач уніі. Падаецца, што маюць рацыю польскія даследчыкі Ядвіга Крыжанякова і Ежы Ахманьскі, якія ў сваёй кнізе «Уладзіслаў ІІ Ягайла» зазначаюць, што, дабіваючыся паразумення з Вялікім Княствам Літоўскім, польскія паны кіраваліся шматлікімі выгадамі для сваёй краіны. Найперш яны спадзяваліся на вяртанне страчаных зямель, у тым ліку Гданьскага Памор'я, занятага ў 1308 годзе крыжакамі, бо адсутнасць доступу да мора стрымлівала развіццё польскай гаспадаркі. Яны мелі надзею апанаваць Галіцкай Руссю (старажытная назва часткі ўсходнеславянскіх зямель, сталіцай якіх лічыўся Львоў), якая займала сучасныя заходнеўкраінскія землі Львоўскай, Івана-Франкоўскай і Цярнопальскай абласцей, чаго дабіваўся яшчэ кароль польскі Казімір Вялікі. Прага пашырэння межаў дзяржавы не выключала інтарэсаў на ўсходзе. Унія з ВКЛ спрыяла гэтаму, бо спыняла набегі вялікалітоўскіх вояў на ўсходнія польскія землі. Купцы атрымлівалі новыя рынкі і бяспеку гандлёвых шляхоў. Унію падтрымлівала і польскае духавенства, якое бачыла ў гэтым магчымасць хрысціянізацыі Літвы і ўмацаванне касцёла на вялікалітоўскіх землях. А абедзве дзяржавы яднала магчымасць супольнымі намаганнямі супрацьстаяць крыжакам. І ўсё ж даследчыкі схіляюцца да думкі, што унія была, калі браць пад увагу літоўскі бок, прадуктам дынастычнай палітыкі Ягайлы, хоць і мела падтрымку літоўскага баярства. Таму і шлюб Ядвігі з Ягайлам меў выразны палітычны аспект, мо нават большы, чым у іншых еўрапейскіх краінах.

## *Крэўская унія, 14 жніўня 1385 года*

**_Крэва, 14 жніўня 1385 г._**

*Мы, Ягайла, з Божае ласкі вялікі князь літоўскі, а Русі гаспадар і дзедзіч законны, падаём да ведама ўсіх, каго гэта датычыць, і тым, якія ліст гэты бачыць будуць, тое, пра што нам паведамілі ад найяснейшай пані з Божае ласкі каралевы венгерскай, польскай, далмацкай etc. шаноўныя і шляхетныя мужы: Штэфан, пробашч Ханадыенскі; Ладзіслаў, сын Какаса дэ Каза, кашталян з Патока; Уладка, падчашы Кракаўскі; Мікалай, кашталян Завіхойскі; і Крыстын, дзяржаўца Казімірскі. Найперш яны паведамілі, як дастойны князь Ягайла, вялікі князь літоўскі etc., выправіў урачыстае пасольства да паноў зямян польскіх, а пасля і да яе каралеўскай мосці. Тыя ж, хто быў адасланы да найяснейшай каралевы, узялі з сабой даверчыя лісты ад дастойнага, найвялікага і найзнакамітага пасла, а менавіта ад яго мосці Скіргайлы, брата вялікага князя пана Ягайлы, які з-за пэўных прычын не мог прыбыць асабіста да найяснейшай каралевы. Паслы ж ягоныя князь Барыс і староста віленскі Ганка, той жа пані каралеве венгерскай, такім чынам справу выкладаючы, казалі: Многія імператары, каралі і князі розныя дамагаліся, жадалі і радыя былі з тым жа вялікім князем літоўскім увайсці ў вечныя стасункі парадненя, ды Бог усемагутны захаваў гэта для асобы найяснейшай каралевы. Таму, найяснейшая княгіня, няхай ваша высокасць прыме да збаўчага саюзу таго ж пана вялікага князя Ягайлу як сына, а найяснейшую княжну Ядвігу, дачку вашу найулюбёную, каралеву Польшчы, няхай пашлюбіць ён законна за сваю жонку. Мяркуем, што з таго вынікла б хвала Богу, збавенне душам, пашана людзям і памнажэнне Каралеўству. Як толькі тое, што абяцана, дойдзе да выніковага здзяйснення, адразу ж вялікі князь пан Ягайла з усімі сваімі яшчэ не ахрышчанымі братамі, крэўнымі, са шляхтай, зямянамі вялікімі і малымі,*

*што жывуць на ягоных землях, гатовы, хоча і жадае прыняць веру каталіцкую святога рымскага Касцёла. Як ні дамагаліся гэтага шмат якія імператары і розныя князі, ды не здолелі аж да гэтага часу згоды яго атрымаць, бо сапраўды гонар гэты Бог усемагутны захаваў для самой яе каралеўскай высокасці. Для замацавання гэтай справы, для яе несумненнасці і моцы той жа вялікі князь Ягайла абяцае ўвесь свой скарб сабраць і выкарыстаць для вяртання страт абодвух гаспадарстваў, як Польшчы, так і Літвы, і толькі тады гэта зробіць, калі гаспадыня Венгрыі дачку сваю Ядвігу, каралевай польскай названую, шлюбам сямейным злучыць з ім. Акрамя таго, абяцае той жа вялікі князь Ягайла, што гатовы ўрэгуляваць грашовую дамову, заключаную паміж паняй каралевай венгерскай, з аднаго боку, і князем аўстрыйскім, з другога, а менавіта выплаціць двойчы сто тысяч фларынаў. Таксама той жа вялікі князь Ягайла абяцае і абавязуецца ўсе адабраныя землі і страты Каралеўства Польскага, чыімі б ні было рукамі зробленыя, вярнуць уласным коштам і стараннямі. Таксама той жа вялікі князь Ягайла абяцае ўсім хрысціянам, у першую чаргу людзям абодвага полу, забраным у краі польскім і звычаем ваенным захопленым, вярнуць першасную вольнасць так, каб кожны з іх, без увагі на пол, мог падацца, куды яму захочацца, згодна з уласным жаданнем. Нарэшце, названы тут князь Ягайла таксама абяцае землі свае літоўскія і рускія на вечныя часы далучыць да кароны Каралеўства Польскага.*

*А мы, вышэйназваны вялікі князь літоўскі Ягайла і паслы, пра якіх мова была, абяцанні і згоды, дадзеныя польскім панам ад нашага імя згаданым Скіргайлам, нашым улюбёным братам, а таксама абяцанні, выказаныя найяснейшай каралеве Эльжбеце праз высланых ад таго ж брата нашага паўнамоцнікаў, у прысутнасці паслоў пані каралевы венгерскіх, так і польскіх, да нас прысланых, пацвярджаем разам з братамі нашымі, князямі літоўскімі Скіргайлам, Карыбутам, Вітаўтам, Лінгвенам, а таксама ад імя іншых*

*братоў нашых, прысутных і не прысутных, лічым прымальным ратыфікаваць і сцвердзіць пячаткамі нашай і прысутных братоў нашых вышэйзгаданых.*

*Дадзена ў Крэве, у панядзелак, напярэдадні Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, году Гасподняга 1385.*

Арыгінал гэтага акта, напісанага на латыні на пергаменце, захоўваўся ў Архіве Кракаўскай капітулы пад № 186. Ён меў пячаткі, на пасках з пергаменту прывешаныя, сярод якіх у 1817 годзе заставаліся тры: Вітаўта, Карыбута і Лінгвена. Пазней і гэтыя пячаткі зніклі.

Некаторыя польскія даследчыкі анансуюць гэты акт такімі словамі: «Ягайла, вялікі князь літоўскі, разам з братамі пацвярджае абавязацельствы, якія прыняў на сябе на выпадак, калі стане мужам каралевы польскай Ядвігі».

*15 жніўня 1385* — згодна з версіяй некаторых даследчыкаў, 15-гадовы аўстрыйскі князь Вільгельм з Габсбургаў менавіта ў гэты дзень нечакана з'явіўся ў Кракаве, каб атрымаць абяцаную руку Ядвігі, з якой ён быў пашлюблены «на будучыню». Ядвіга чакала свайго абранніка і прызначыла на 23 жніўня ягоны ўезд у Вавель. На гэты конт у гістарычнай літаратуры існуе шмат версій. Адны лічаць, што Вільгельм з дапамогай Уладзіслава Апольчыка ўехаў у Вавельскі замак, і там сапраўды 23 жніўня адбыўся кансумацыйны акт — *consummatio matrimonia.* Іншыя даводзяць, што да шлюбнай ночы не дайшло — Вільгельм мусіў праз акно, спушчаны ў кашы на вяроўцы, уцякаць з каралеўскага замка. Яму не дазволілі нават жыць у Кракаве, ён пераапрануўся купцом і жыў у прадмесці. Ядвігу не выпускалі з замка.

Крыжакі, каб перашкодзіць Ягайлу, праз два дні пасля падпісання Крэўскай уніі распачалі вайну супраць Княства. Яны ж абвінавачвалі атачэнне Ядвігі ў тым, што змусілі яе да бігаміі (жыць з двума мужамі), а таму не прызнавалі шлюбу з Ягайлам. Іхнія намаганні прывялі да таго, што

Папа Рымскі Урбан VI нават не прыслаў свайго віншавання ні з аказіі хрышчэння, ні з нагоды каранацыі Ягайлы. Аднак пазней Папа змяніў свой погляд і пасля хрышчэння Літвы 17 красавіка 1388 года накіраваў Ягайлу пахвальную булу, у якой назваў яго «найдарожшым у Хрысце сваім сынам».

А калі пазней ксёндз Мікалай Тромба, які стаў пасля першым прымасам Польшчы, прывёз у Вену абяцаную Ягайлам выплату за парушэнне дамовы аб зашлюбінах Ядвігі і Вільгельма, яго арыштавалі.

*Жнівень 1385* — вялікі магістр крыжацкі Цолнер напаў на Княства. Скіргайла не здолеў яму перашкодзіць і ўцёк, пакінуўшы свае дакументы. Крыжакі абмінулі Вільню і спустошылі ваколіцы Меднікаў. Літвіны намерыліся адсекчы ім адыход. Крыжакам паспрыялі два літвіны, што былі ў іх шпегамі, — Тумаш і Ганс Сурвілы. З цяжкасцю заваёўнікі адступілі.

*21 жніўня 1385* — князь Уладзіслаў Апольчык, паўнамоцнік Эльжбеты Баснячкі — удавы караля венгерскага і польскага Людвіка Анжуйскага і маці польскай каралевы Ядвігі, а пры Людвіку венгерскі намеснік на Галіцкай Русі, паспрабаваў зрабіць уладны пераварот. Са сваімі людзьмі ён заняў Вавель, прывёз туды Вільгельма Габсбургскага. Апольчык пачаў рыхтаваць урачысты шлюб Ядвігі і Вільгельма на 23 жніўня, з гэтай нагоды ў Кракаве, згодна з традыцыяй, нават вызвалілі ўсіх вязняў. Аднак малапаляне пад кіраўніцтвам кашталяна Дабяслава з Курозвак выгналі з Вавеля людзей Апольчыка і самога Вільгельма.

*10 кастрычніка 1385* — родны брат Ягайлы полацкі князь Андрэй Гарбаты меў з'езд з інфлянцкім магістрам і даў яму дакумент аб адпісанні Ордэну «каралеўства Полацкага» на вечныя часы і стаў яго леннікам. Ордэн браў абавязак берагаць Андрэя і ягоных спадчыннікаў ад розных нечаканасцей перад стратай «каралеўства». Андрэй дамовіўся з князем

смаленскім Святаславам, што разам адбяруць у Ягайлы Віцебск і Оршу для Андрэя, а Святаслаў возьме Мсціслаў.

*12 снежня 1385* — Земавіт, які прэтэндаваў на польскі пасад, таксама прызнаў факт запросін Ягайлы на караля польскага і заключыў з Ядвігай, а хутчэй, з малапалянамі, дамову аб вяртанні Куяў за 10 000 коп пражскіх грошаў. У Княства выехала пасольства ў ранейшым складзе з дадаткам Пятра Шафранца, каб ад імя ўсёй супольнасці польскай запрасіць Ягайлу на пасад.

*1385–1392* — Лінгвен, сын Альгерда і цвярской княгіні Улляны, быў князем у Ноўгарадзе. Ён жа займаў гэты пасад і ў 1407–1412 гадах.

*11 студзеня 1386, нядзеля* — у Ваўкавыску адбылася сустрэча польскіх паслоў, якія выбраліся з Кракава напрыканцы 1385 года, з Ягайлам, які з братамі і баярамі накіроўваўся ў Кракаў. У складзе пасольства былі тыя самыя асобы, што раней ужо наведвалі Крэва, а таксама падстолі кракаўскі Пётр Шафранец. Пасольства перадало яму дэкларацыю, падтрыманую ўсімі панамі польскімі і шляхтай, і ад імя ўсяго польскага грамадства аб выбранні Ягайлы каралём польскім, а таксама аб згодзе аддаць яму за жонку Ядвігу і з запросінамі ў Люблін на з'езд шляхты, які меў адбыцца 2 лютага. Тут жа абмяркоўваліся варункі Княства і Кароны ў будучым саюзе. Пасля гэтага абоз Ягайлы, у якім былі цэлыя вазы са срэбрам і іншымі дарункамі для Ядвігі, вырушыў у Кракаў. А польскае пасольства пажадала, каб у якасці закладнікаў у іх засталіся Скіргайла, Карыгайла, Вігунт, Свідрыгайла, Вітаўт і Барыс — як гаранты, што Ягайла выканае ўсе свае абяцанні.

### *Пісьмовы акт польскага пасольства, зачытаны ў Ваўкавыскім замку вялікаму князю літоўскаму Ягайлу*

***Ваўкавыск, 11 студзеня 1386 г.***

*Мы, Уладка, люблінскі стараста, Пётр Шафранец, Кракаўскі падстолі, Мікалай, Завіхойскі кашталян, і Крыстын, дзяржаўца Казімірскі, аб'яўляем да ўсеагульнага ведама, што ў пятніцу перад актаваю Трох каралёў 1386 года прыбылі мы да неперыможнага князя Ягайлы, міласцю Божай вялікага князя Літоўскага, гаспадара Русі, — у пасольстве ад шляхты і вяльмож польскіх, як вышэйшых, так і ніжэйшых, і наогул ад усяго Каралеўства Польскага, з даверчымі граматамі святлейшага князя Уладзіслава, той жа самай міласцю Божай гаспадара Апольскай зямлі, а таксама згаданых вышэй вяльмож Каралеўства. Моцаю гэтых самых грамат і ад імя тых жа вяльмож згадзіліся мы дамоўна са згаданым вялікім князем Ягайлам і канчаткова пастанавілі, што выбіраем і бяром яго за гаспадара і за караля таго ж Каралеўства, г. зн. Польшчы, і зацвярджаем за ім, аддаём і пераказваем Ядвігу, прыроджаную каралеву польскую, для заключэння з ім праз вянчанне законнага шлюбу. Гэтай вось нашай пастановай дамоўна даём клятву і абяцаем, згодна з даручаным нам пасольствам ад усіх жыхароў Польскай кароны, непарушную моц, уладу і захаванне. Акрамя таго, мы дамовіліся яшчэ і пастанавілі з тым жа вышэйшым князем Ягайлам, ад імя згаданых жыхароў, правесці ўсеагульны з'езд у Любліне ў дзень ачышчэння Прасвятой Багародзіцы, які мае неўзабаве надысці. На гэты з'езд той жа князь Ягайла можа з'явіцца спакойна і бяспечна, разам са сваімі братамі і падданымі рознага стану. І будзе яму гэтаксама дазволена выслаць у той час з поўнай бяспекай свае пасольствы альбо ж паслоў сваіх ва*

*ўсе памежныя месцы Каралеўства Польскага для свабоднага завяршэння ягоных спраў. А мы, вышэйзгаданая шляхта, абяцаем гонарам і нашай добрай славай, ад імя ўсіх падданых Каралеўства Польскага, вышэйшаму князю Ягайлу, таксама ўсім яго братам і людзям, якія маюць быць на згаданым з'ездзе, а таксама паслам ягоным, якія будуць ехаць цераз польскую зямлю перад Люблінскім з'ездам, альбо ж тым, хто жыве там пастаянна, — поўную бяспеку і поўную свабоду рабіць і здзяйсняць тое, што ім будзе патрэбна. У сведчанне ж і дакладнасць таго загадалі мы да гэтай граматы прывесіць нашыя пячаткі. Адбылося і дадзена ў Ваўкавыску, год і дзень, як сказана вышэй.*

Некаторыя польскія даследчыкі суправаджаюць гэты дакумент наступным тлумачэннем: «Польскія паслы сведчаць, што паведамілі Ягайлу, вялікаму князю літоўскаму, аб выбранні на караля польскага і **мужа Ядвігі** (выдзелена намі. — *А. Б.*) і забяспечваюць бяспеку ў Польшчы для Ягайлы і ягоных паслоў».

*2 лютага 1386* — Ягайла прыбывае ў Люблін. Тут агульны элекцыйны з'езд польскай шляхты ўсімі галасамі прысутных выбірае Ягайлу «каралём і панам польскай зямлі». Польска-літоўская унія стала фактам. Дарэчы, пазней каралеўская дарога з Ваўкавыска праз Бярэсце ў Люблін стала важным купецкім шляхам у гандлі палякаў з вялікалітоўскімі землямі.

*3 лютага 1386* — Ягайла публічна прысягнуў на вернасць Крэўскаму акту.

*12 лютага 1386, панядзелак* — Ягайла з братамі і дружынай прыбыў у Кракаў. У Вавелі яго вітала Ядвіга разам з Уладзіславам Апольчыкам і Земавітам Мазавецкім.

*15 лютага 1386* — Ядвізе споўнілася 12 гадоў, цяпер яна сама магла зрабіць шлюбны выбар. І яна адмовілася ад Вільгельма, ахвяраваўшы сваю руку Ягайлу. А ён, нібыта

ў чаканні, затрымаўся ў Сандаміры. Ягайла выслаў у Мальбарк падскарбія кароннага Дымітра з Гарая да вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Конрада Цолнера, каб паведаміў пра намер Ягайлы змяніць веру і ад Ягайлавага імя папрасіў магістра быць хросным бацькам. А Ядвіга паслала на сустрэчу з Ягайлам свайго дваровага Завішу з Алясьніцы, каб добра разгледзеў Ягайлу: ці ўсё ў яго як мае быць, ці нармальны целам і воблікам. Ягайла раскусіў хітрыкі каралевы і добра паказаўся падасланцу ва ўсіх сваіх вартасцях.

*15 лютага 1386* — у Кракаўскай катэдры адбылася ўрачыстая цырымонія хрышчэння Ягайлы з братамі ў каталіцкую веру. Абрад выконваў арцыбіскуп гнезненскі Бадзанта. Ягайла атрымаў новае імя — Уладзіслаў. Карыгайла стаў Казімірам, Свідрыгайла — Баляславам, Віганд — Аляксандрам. Не захацелі ахрысціцца Скіргайла Іван, Карыбут Дзмітры і Лінгвен Сямён, яны засталіся праваслаўнымі. Вітаўт хрысціўся ўжо трэці раз. Ён пакінуў сабе праваслаўнае імя Аляксандр, якое ўзяў некалі, калі вяртаўся ў праваслаўную веру. Вялікі магістр Ордэна Конрад Цолнер, запрошаны быць хросным бацькам Ягайлы, не з'явіўся. Гэта было палітычнае рашэнне. Бо акурат у той самы час крыжацкія войскі ўступілі на тэрыторыю Княства. Ордэн, падахвочаны Вільгельмам да супрацiўлення, не мог адмовіцца ад намаганняў ахрысціць паганаў. Ролю хроснага ў Ягайлы выканаў князь Уладзіслаў Апольчык, у гонар якога, як сведчаць некаторыя гісторыкі, і было дадзена імя Ягайлу, адначасова яно злучала новаахрышчанага караля з пястаўскай традыцыяй, з Уладзіславам Лакеткам. Але вядома, што той жа Апольчык 24 жніўня 1385 года зрабіў спробу захапіць Вавель і дабіцца шлюбу Ядвігі з аўстрыйскім княжычам Вільгельмам Габсбургскім. Хроснай маці Ягайлы была Ядвіга Пілецкая — з Пільчы — удава ваяводы сандамірскага, маці будучай трэцяй Ягайлавай жонкі Эльжбеты, сястра Спытка з Мельштына. Ягайла не надта імпэтна ўвайшоў у новую веру. Ён і надалей пад-

трымліваў сваіх крэўных, што не сталі каталікамі, а Княства аддаў праваслаўнаму Скіргайлу Івану.

*18 лютага 1386, нядзеля* — у Кракаўскім кафедральным саборы Ядвіга аб'явіла, што зашлюбіны яе з Вільгельмам Габсбургскім скасоўваюцца. Арцыбіскуп Гнезненскі Бадзанта правёў абрад вянчання Ягайлы і Ядвігі. Праз некалькі гадзін пасля гэтага новы гаспадар і апякун Кароны Польскай абвясціў свой акт свабоды, які змяшчаў усе галоўныя прынцыпы пазнейшага каралеўскага кіравання. Аднак у акце былі значна пашыраны ільготы і шляхецкія выгоды ў параўнанні з дараванымі Людвікам Анжуйскім. Шляхта і дзяржаўныя мужы атрымалі свае палітычныя і маёмасныя выгады, ахвяраваўшы маладзенькай Ядвігай, якая воляй бацькі павінна была мець іншы лёс і да апошняга змагалася за яго. Але праз гэта Польша пазбегла міжусобіц, засталася адзінай, непадзельнай дзяржавай, узмацніла свой еўрапейскі ўплыў і распачала спрыяльную Ягелонскую эпоху. Ягайла зрабіў падарунак і Ядвізе: аддаў ёй Магілёў і шэраг літоўскіх вёсак.

*20 лютага 1386* — вясельныя ўрачыстасці Ягайлы і Ядвігі ў Вавельскім замку.

*Люты 1386* — крыжакі напалі на Княства. Іх падтрымлівалі смаленскі князь Святаслаў, які стаў аблогай каля Мсціслава, і родны брат Ягайлы полацкі князь Андрэй, які захапіў Віцебскі замак.

*1386–1392* — некаторыя гісторыкі лічаць, што ў Вялікім Княстве Літоўскім адбывалася грамадзянская вайна, якая закончылася Востраўскім пагадненнем.

*4 сакавіка 1386, нядзеля,* — урачыстая каранацыя Ягайлы. Ён стаў польскім каралём Уладзіславам II. Яму надалі афіцыйны тытул «*dominus et tutor Regni Poloniae*» — пан і апякун Каралеўства Польскага. Карону, выробленую кракаўскімі майстрамі спецыяльна да гэтага дня (традыцыйныя рэгаліі каралеўскай улады знаходзіліся ў Венгрыі, іх некалі вывез

туды кароль венгерскі і польскі Людвік Анжуйскі), на галаву яму ўсклаў арцыбіскуп Гнезненскі Бадзанта, якому асісціравалі біскупы: Пазнанскі Дабрагост, Кракаўскі Ян Радліца. Ядвіга таксама не пазбаўлялася сваёй кароны і заставалася каралём польскім, яна, як і Ягайла, мела свой уласны двор і нават канцлера. Ягайла шчодра абдарыў людзей са свайго будучага атачэння. Сведчаць, што асабліва багатыя падарункі з золата, перлаў, кляйнот і каштоўных камянёў атрымаў Спытак з Мельштына, якому Ягайла аддаў і свае сандалі — з удзячнасцю за спрыянне ў атрыманні кароны польскай.

У гэты ж дзень Вільгельм выправіўся з Кракава ў Вену, бо не знайшоў падтрымкі сваім памкненням пашлюбіцца з Ядвігай.

Напачатку Ягайла паслугоўваўся сваёй вялікалітоўскай пячаткай з надпісам «*Jagalo magnus dux Lithuanie*», што азначала «Ягайла, вялікі князь літоўскі», і толькі праз некалькі месяцаў яму вырабілі новую, якой ён мусіў пазначыць і ўсе раней падпісаныя дакументы. Поўная назва Ягайлавай пасады гучала наступным чынам: Уладзіслаў з Божае ласкі кароль польскі, а таксама гаспадар зямлі кракаўскай, сандамірскай, серадзскай, ленчыцкай, куяўскай, найвышэйшы князь Літвы, пан і дзедзіч (спадчыннік) Паморʼя і Русі.

Ягайла караляваў да 1434 года. Пры ім уладныя органы мелі такую структуру. Галоўнай была каралеўская канцылярыя на чале з канцлерам і падканцлерам. У канцлера знаходзілася пячатка, якую ён часам насуперак жаданню караля адмаўляўся прывесіць да таго альбо іншага падпісанага ім дакумента, — таго, які канцлер лічыў нявыгадным. Так сталася, напрыклад, калі Ягайла надаў сыну сваёй трэцяй жонкі Эльжбеты Яну Граноўскаму тытул графа, а канцлер Войцех Ястшэмбец адмовіўся прыкласці каралеўскую пячатку да гэтага дакумента. Фінансамі распараджаўся падскарбі, які акрамя таго апекаваўся каралеўскімі сімваламі ўлады і дзяржаўнымі дакументамі. Нагляд над дваровымі ажыццяўляў маршалак каронны. Існавала таксама рада,

у якую ўваходзілі найвышэйшыя асобы дзяржавы — канцлер і падканцлер, скарбнік і падскарбі, маршалкі, а таксама ваяводы, кашталяны, вышэйшыя духоўныя асобы і іншыя, хто быў даспадобы каралю. Членаў рады прызначаў і вызваляў кароль, аднак без згоды радных ён не мог прыняць важных гаспадарчых рашэнняў. Кароль для сакрэтных спраў меў з ліку радных сваіх асабліва давераных людзей.

*5 сакавіка 1386* — згодна са звычаем, Ягайла зрабіў урачысты аб'езд Кракаўскага рынка, бо звычайна на каранацыі мяшчане не прысутнічалі. Кароль пасядзеў на троне перад ратушай, прыняў прысягу мяшчан і гарадской рады, а горад атрымаў каралеўскі прывілей на чарговыя вольнасці.

*Сярэдзіна сакавіка 1386* — Ягайла разам з Ядвігай выехаў у Вялікую Польшчу, наведаў Гнезна, Познань, дзе адсвяткаваў Вялікдзень. Заадно Ягайла намерваўся суцішыць тут міжусобную барацьбу. Арцыбіскупскія вёскі адмовіліся даваць утрыманне каралеўскім войскам, Ягайла загадаў браць яго «звычаем літоўскім», г. зн. сілай. Знаходзіліся ў Вялікай Польшчы да сярэдзіны мая. Захавалася цікавае сведчанне пра ад'езд каралеўскай пары з Вавеля. Калі караля не было ў горадзе, усе жыхары Кракава замянялі ў сваіх вокнах шыбы са шкла жывёльнымі пухірамі — берaглі дарагое шкло, якое абавязаны былі ўстаўляць у вокны пры каралі. У Вавелі былі створаны два двары: адзін для Ягайлы, другі для Ядвігі. Нават канцлер у кожнага быў свой. І калі Ягайла ахвоча прымаў у сваім замку гасцей з вялікалітоўскіх зямель, браў іх на службу, то Ядвіга аддавала перавагу рыцарам, мела ў іхнім асяроддзі сваіх прыхільнікаў. А праз гэта яна спадзявалася пазбегнуць канфліктаў з Тэўтонскім ордэнам. Ягайла найбольш займаўся справамі палітычнымі, а Ядвіга — культурнымі і навуковымі. Любіла каралева шумныя і шматлюдныя вандроўкі па малапольскіх гарадах.

*Красавік 1386* — Скіргайла, Вітаўт, Карыбут і Лінгвен-Сямён з Кракава, дзе яны мусілі знаходзіцца пасля хрышчэння Ягайлы і свайго, вярнуліся ў Княства і на рацэ

Вяхры разбілі вояў Святаслава Іванавіча Смаленскага. Сам Святаслаў загінуў, а ягоныя два сыны трапілі ў палон. Вітаўт у захопленым Смаленску паставіў на княжанне Юрыя Святаславіча. Была знята аблога Мсціслава. Перад выездам з польскай сталіцы яны павінны былі даць пісьмовую прысягу Ягайлу і Ядвізе. Атрымлівалася, што дагэтуль яны нібыта былі заложнікамі Кароннай Рады Каралеўства Польскага.

*1386* — Папа Рымскі выдаў польскаму паслу дэкларацыю аб прызнанні несапраўднымі зашлюбін Ядвігі і Вільгельма.

*9 чэрвеня 1386* — з Венгрыі выгналі Карла Дураца з Неапаля — захопніка кароны памерлага караля Людвіка Анжуйскага, пасля чаго быў заключаны абарончы і наступальны саюз паміж венгерскай каралевай-удавой Эльжбетай, якая зноў атрымала ўладу, і Уладзіславам-Ягайлам.

*9 ліпеня 1386* — у жорсткай бітве са швейцарцамі ля Земпача разам з нямецкімі рыцарамі загінуў Леапольд III Габсбургскі — бацька Вільгельма, таго, што спадзяваўся на руку Ядвігі.

*1386* — сын вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога Васіль, які знаходзіўся ў Залатой Ардзе ў якасці заложніка, уцёк і праз Княства вяртаўся ў Маскву. Прыехаў у Луцк да Вітаўта. Гасцяваў тут (ці мо быў у якасці палоннага?), як сведчаць гісторыкі, да студзеня 1388 года, пасля чаго накіраваўся ў Маскву. Перад гэтым адбыліся яго зашлюбіны з дачкой Вітаўта Соф'яй. А ў 1387 годзе Дзмітрый Данскі накіраваў у Полацк дэпутацыю з вяльможаў, каб яны сустрэлі там Васіля.

*1386* — Мсціслаўская бітва. Смаленскі князь Святаслаў Іванавіч разам з сынамі Юрыем і Глебам пайшоў з войскам на Мсціслаў. Горад некалі належаў смалянам, пазней быў захоплены вялікалітоўцамі. Як піша расійскі гісторык С. М. Салаўёў, «идучи Литовскою землею, смольняне воевали ее, захватывали жителей, мучили их нещадно различными казнями, мужчин, женщин и детей: иных, заперши в из-

бах, сжигали, младенцев на кол сажали. Жители Мстиславля затворились в городе с наместником своим, князем Коригайлом Ольгердовичем, десять дней стояли смольняне под Мстиславлем и ничего не могли сделать ему...» У выніку бітвы з літоўскім войскам смаленскі князь быў забіты, а ягонае войска пацярпела паразу. Літоўскія князі аддалі княжы пасад Юрыю Святаславічу — сыну Святаслава Іванавіча. Юрый Святаславіч заключыў дагавор вернасці з Княствам, цалаваў крыж за ўсю сваю зямлю і за ўсіх сваіх людзей.

*1386* — княствы Луцкае, Уладзімірскае, Ноўгарад-Северскае прызналі васальную залежнасць ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Ягайлы.

*1386* — Навагародак належыць князю з роду Гедымінавічаў — сыну вялікага князя літоўскага Альгерда Карыбуту.

*1386* — збройнае выступленне полацкага князя Андрэя Альгердавіча супраць Крэўскай уніі. Аднак ён атрымаў паразу і ўцёк з Княства.

*Восень 1386* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла з польскімі святарамі, сярод якіх быў і арцыбіскуп Бадзанта, выехаў на свае вялікалітоўскія землі.

*1386–1387* — міжусобная вайна ў Венгрыі. Інсургенты захапілі маці Ядвігі венгерскую каралеву-ўдаву Эльжбету і яе дачку Марыю, сястру Ядвігі. Каралева была пакарана смерцю на вачах у дачкі ў Новіградскай турме, а цела яе выставілі на сценах цытадэлі для постраху тых, хто стаяў ля крэпасці. У сярэдзіне лютага цела Эльжбеты пахавалі. Сігізмунд Люксембургскі, муж Марыі, якая знаходзілася ў няволі, 31 сакавіка 1387 года стаў венгерскім каралём. Пазней ён дабіўся пасады караля чэшскага і германскага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі.

Але адначасова з'явілася мажлівасць вярнуць Чырвоную Русь, якую адабраў ад Польшчы Людвік. Ядвіга ўмоўна стала на чале войска, што кіравалася ў Венгрыю, на самай жа справе ім кіраваў Спытак з Мельштына. 18 лютага 1387 года палякі занялі Перамышль, 8 сакавіка — Львоў.

*Люты 1387* — прыхільнікі Вільгельма Габсбургскага распачалі ў Рымскай курыі працэс супраць жаніцьбы Ягайлы і Ядвігі. Яны звярнуліся да Папы Рымскага Урбана VI з просьбай прызнаць несапраўдным шлюб Ягайлы і Ядвігі. Дамаганні аўстрыйскага боку падтрымаў вялікі магістр Тэўтонскага ордэна. Працэс у Рыме доўжыўся цэлы год. І толькі напрыканцы года, 30 снежня, Папа Рымскі прызнаў слушнасць шлюбавання каралеўскай пары. Канчаткова Папа прызнаў шлюб толькі 12 сакавіка 1388 года.

*1387* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла выехаў у Літву «з апостальскай» місіяй, каб ахрысціць язычнікаў літоўцаў (аўкштайтаў), якія жылі на захад ад Жамойці — вышэй па цячэнні Нёмана. Некаторыя гісторыкі сведчаць, што хрышчэнне адбывалася на рацэ Вяллі, сам Ягайла браў у гэтым непасрэдны ўдзел. Людзей дзялілі на групы — жанчын і мужчын асобна, акраплялі святой вадой і кожнай групе замест ранейшых язычніцкіх імёнаў давалі адно новае імя для ўсіх і кожнага з прысутных, напрыклад Станіслаў, Павел, Пятро і г. д. Простых людзей заахвочвалі тым, што кожнаму ахрышчанаму выдавалі белую суконную світку. Ягайла выступаў і перакладчыкам польскіх святароў, сведчаць, што ён сам пераклаў для літоўцаў малітву «Ойча наш». Аднак гэткая паспешлівасць шкодзіла якасці. Таму язычніцтва існавала яшчэ шмат стагоддзяў. У 1388 годзе за паспяховую хрысціянізацыю Літвы Папа Рымскі Урбан VI выказаў Ягайлу словы найвышэйшага прызнання і згадзіўся на стварэнне Віленскага біскупства. «Сярод усіх каралёў зямлі, — пісаў Папа, — табе належыць першае месца ў пачуццях удзячнасці святой Рымскай царквы, нашай маці! Вітаем цябе, улюблёны сын, верны слуга, які за справы свае атрымаў вартую ўзнагароду, вянец зямной велічы і, вядома, з часам атрымае "вянец нябесны". Суцяшай сябе, сыне, што, маючы загінуць з цэлым народам, як таемны скарб ты знойдзеш! Суцяшай сябе ў глыбіні твае душы, што гэткая вялікая слава ходзіць па ўсім

свеце пра дзеі твае, і што ты, такі прыязны і мілы, знаходзішся ў бляску славы ў лоне маці-царквы!» Канчаткова Папа Урбан VI прызнаў Літву каталіцкай у буле ад 19 красавіка 1389 года. Крыжаносцы ж не прызнавалі хрышчэння.

*Люты 1387* — Ядвіга на 6 тыдняў зачынілася ў Вавельскім замку і насіла жалобу па сваёй маці — венгерскай каралеве Эльжбеце, якую ганебна забілі інсургенты. Такой жалобы вымагаў звычай.

*17 лютага 1387* — на самым пачатку хрышчэння Літвы Ягайла выдаў прывілей аб заснаванні ў Вільні лацінскага біскупства (адміністрацыйная адзінка рымска-каталіцкай царквы) і 7 парафій. Папа Рымскі зацвердзіў біскупства ў 1388 годзе. Першым біскупам у 1388–1398 гадах быў францысканец Андрэй Ястшэмбец (Анджэй Васіла герба Ястраб). Будаваліся касцёлы ў Медніках, Мейшаголе, Вількаміры, Немянчыне, Крэве, Гайнаве, Абольцах. Усё гэта паблізу і на саміх беларускіх землях.

*20 лютага 1387* — пачаўся сойм у Вільні, на які прыехалі Ягайла з Ядвігай, ягоныя браты, літоўская знаць. У першы дзень Ягайла выдаў прывілей наваствораному Віленскаму біскупству, аказаў матэрыяльную падтрымку. А праз колькі дзён пашырыў гэты прывілей на ўвесь касцёл у Княстве.

*22 лютага 1387* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла абвясціў на сойме ў Вільні спецыяльны прывілей — акт наконт вызнаўцаў каталіцтва, у якім ураўнаваў феадальныя правы баяр-католікаў Княства з правамі шляхты ў Кароне. Прывілей гарантаваў ім уласнасць на родавыя маёнткі, даваў права свабодна распараджацца імі. З гэтага часу ўсе шлюбы павінны былі адбывацца згодна з патрабаваннямі касцёла, забараняліся шлюбы католікаў з праваслаўнымі, а ў змешаных сем'ях павінна была панаваць каталіцкая вера. Пра язычніцтва не магло быць і гаворкі. Гэты акт Ягайла выдаў са згоды князя трокскага Скіргайлы, князя гарадзенскага Вітаўта, князя навагародскага Карыбута, князя мсціслаўскага

Казіміра, князя кіеўскага Уладзіміра і іншых. Кароль загадаў, каб усе жыхары Княства, незалежна ад стану і годнасці, пераходзілі ў каталіцтва з усіх іншых веравызнанняў.

Усе набыткі касцёлаў вызваляліся ад розных падаткаў. Пачалі актыўна будавацца касцёлы, кляштары. У Вільні быў патушаны вечны Зніч, разбурана капішча, забіты ўсе вужы, якіх шанавалі язычнікі, высечаны святы гай. Ужо ў канцы XIV стагоддзя ў Княстве існавала 12 касцёлаў, у тым ліку на беларускіх землях 6, да 1430 года іх было адпаведна 27 і 12, а вось у сярэдзіне XVI стагоддзя касцёлаў у ВКЛ было ўжо 259, з іх на беларускіх землях — 170. Кляштары — ордэнаў францысканцаў, аўгусцінцаў, бернардзінаў узніклі ў Лідзе (1397), Старых Ашмянах ( 90-я гады XIV ст.), адзін з найбуйнейшых — у Пінску (пачатак XV ст.), Быстрыцы (1390), Бярэсці (пачатак XV ст.), Полацку (1498).

*21 сакавіка 1387* — Ягайла сваім прывілеем надаў Вільні — першаму з гарадоў Вялікага Княства — магдэбургскае права, што азначала прызнанне права на самакіраванне. Затым былі Бярэсце (1390, паўторна ў 1408, горад вядомы з 1017, 1019 г., узнік на зямлі дрыгавічоў), Гародня (1391, горад вядомы з 1127 г., узнік на зямлі дрыгавічоў), Драгічын (1429, 1498), Слуцк (1441, горад вядомы з 1097 г., узнік на зямлі дрыгавічоў), Высокае (1494), Полацк (1498, горад вядомы з 862 г., узнік на зямлі крывічоў), Менск (1499, горад вядомы з 1067 г., узнік на зямлі дрыгавічоў), Браслаў (1500, горад вядомы з 1065 г.), Ваўкавыск (1503, горад вядомы з 1252 г., узнік на зямлі дрыгавічоў), Навагародак (1511, горад згадваецца ў 1044, 1117, 1119, 1228, 1235 гг., узнік на зямлі дрыгавічоў) і інш.

*28 красавіка 1387* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла пісьмова засведчыў права Скіргайлы на Полацкае і Трокскае княствы, даручыў яму кіраўніцтва Віленскім княствам. Скіргайла даў клятву вернасці Польскай Кароне. Іншыя крыніцы сведчаць, што Ягайла нават прызначыў Скіргайлу сваім намеснікам у ВКЛ — вялікім

князем літоўскім, а за сабой пакінуў тытул «вышэйшага», альбо «найвышэйшага» князя.

*1387* — Ягайла выдаў прывілей баярам Княства, якія прынялі каталіцкую веру, аб адмене «ярма няволі» і даў ім права свабодна распараджацца маёмасцю і інш.

*1387* — паход войска пад непасрэдным кіраўніцтвам Спытка з Мельштына, хоць паход адбываўся ад імя караля польскага, на Галіцкую Русь. Далучэнне гэтай зямлі да Польшчы. Ядвіга выехала туды, каб ліквідаваць венгерскіх стараст і дапамагчы зноў злучыць гэтыя землі з Каралеўствам Польскім.

*18 чэрвеня 1387* — у Лідзе Скіргайла прызнаў сябе васалам Ягайлы і Польскай Кароны.

*Канец ліпеня 1387* — Ягайла вярнуўся ў Кракаў з апостальскай паездкі па літоўскіх землях, дзе ахрысціў апошні ў Еўропе язычніцкі народ.

## *Апісанне Янам Длугашам у «Гісторыі Польшчы» хрышчэння Літвы Ягайлам у 1387 годзе*

*Уладзіслаў, кароль польскі, вырашыўшы народ літоўскі, згодна з абяцаннем, дадзеным палякам і каралеве Ядвізе, з паганства і цемры балванахвальства вывесці і скіраваць да праўдзівай веры хрысціянскай, перадусім прагнучы пашырэння і ўзвышэння гэтай веры, у таварыстве Бадзанты, арцыбіскупа гнезненскага, і шмат якіх іншых мужоў духоўных з Каралеўства Польскага […] выбраўся на Літву, дзе яшчэ да таго часу Хрыстос быў невядомы і не шанаваны. […] Прыбыўшы на Літву, правёў у Вільні ў Дзень Пяльцовы вальны з'езд. Калі па просьбе караля на з'езд сабраліся каралеўскія браты Скіргайла, князь трокскі, Вітаўт, князь гарадзенскі, Уладзімір, князь кіеўскі, Карыбут, князь навагародскі, і значная колькасць рыцараў і люду, кароль*

*польскі Уладзіслаў з дапамогай хрысціянскіх князёў, якія разам з ім прыбылі, угаворваў шляхту і люд, каб, пакінуўшы фальшывых багоў, якіх дагэтуль у слепаце паганскай вызнавалі, схіліліся да прызнання і шанавання аднаго праўдзівага Бога і прыняцця Яго праўдзівай хрысціянскай рэлігіі. А калі варвары літвіны супраціўляліся гэтаму, даказваючы, што было б бязбожнасцю насуперак звычаям і даўняй веры продкаў разбурыць уласныя боствы (былі ў іх найбольш шанаванымі: агонь, які лічылі адвечным і які аберагалі жрацы, дзень і ноч падкладваючы дровы ў касцёр, гаі, што лічыліся святымі, а таксама вужы і змеі, у якіх згодна з іхнім уяўленнем жылі боствы), кароль Уладзіслаў той агонь, што лічыўся адвечным і знаходзіўся ў Вільні, галоўным горадзе і сталіцы Літвы, і які аберагаў жрэц, што на іхняй мове называўся Зніч, які малельнікам і жадаючым ведаць будучыню абвяшчаў фальшывыя прадказанні нібыта ад боства, яму даверанага […], загадаў свядомым паганам патушыць, а святыню і алтар, на якім яму прыносілі ахвяраванні, разбурыць. Гэтаксама гаі і сады, што лічыліся святымі, загадаў павысякаць, а таксама пазабіваць вужоў і змей, якія нават у хатах жылі і якіх, як боствы, шанавалі. Варвары ж толькі выказвалі скруху ад разбурэння і ганьбавання тых ідалаў, не смеючы выступаць супраць караля.*

*Пасля разбурэння і знішчэння паганскіх providing боствaў, калі літвіны ўвачавідкі ўбачылі іхнюю фальшывасць, якой да гэтай пары падманваліся, нарэшце здаліся і з пакорай схіліліся да прыняцця веры хрысціянскай, выракаючыся сваёй даўняй аблуды. Некалькі дзён ад святароў польскіх, а яшчэ больш ад караля Уладзіслава, які ведаў іхнюю мову і якога яны ахвотна слухалі, вывучалі галоўныя правілы рэлігіі, альбо дагматы веры, апостальскі склад і малітву «Сімвал веры», а затым прыступілі да святога хрышчэння. Уладзіслаў, як набожны кароль, раздаваў простым людзям вопратку, кашулі і новыя ўборы з сукна, прывезеныя спецы-*

*яльна з Польшчы. Гэткая каралеўская шчодрасць і ласкавасць паўплывалі на тое, што цёмны люд, і нават маёмны, толькі дзеля атрымання суконнага адзення гуртам збягаўся з усіх бакоў да месца прыняцця святога хрышчэння. А паколькі было б вялікай працай хрысціць асобна кожнага з новых вызнаўцаў, шматлікі тут люд літоўскі абодвух полаў па загаду караля дзялілі на групы і кожнай групе, а дакладней кожнаму, хто да гэтай грамады належаў, давалі адно з імёнаў, ужываных у хрысціянстве, замест даўніх паганскіх; такім чынам, першай групе далі імя Пётр, другой Павел, трэцяй Ян, чацвёртай Якуб, пятай Станіслаў і г. д. Кабетам жа, якія ўтваралі асобныя групы, гэтаксама давалі імёны — Кацярына, Малгажата, Дарота і г. д., колькі было ўсіх груп новаахрышчаных. Шляхце ж і старэйшынам з народу ўдзялялі хрышчэнне асобна, дзеля гэтага яны з'язджаліся ў Вільню з жонкамі, дзецьмі і сваімі роднымі, жадаючы хутчэй прыняць хрышчэнне і засвоіць дагматы хрысціянскай веры. Стараючыся асабліва пра тое, каб новая вера, прынятая ў Літве, штораз больш пашыралася і ўмацоўвалася, набожны кароль Уладзіслаў заклаў у горадзе Вільні кафедральны касцёл у гонар Святой Тройцы, пад назвай Святога Станіслава, ухвальнага і слаўнага біскупа і пакутніка, каб два народы, польскі і літоўскі, якія еднасцю веры і рэлігіі, як і роўнасцю жэзла і панавання з сабой з'яднаў, мелі таксама агульнага патрона і заступніка, і каб у літвінаў трывала вечная памяць, што з удзелам палякаў выцерабіліся з паганскай цемры і што ад іх заблішчэла святло веры хрысціянскай і ім, і нашчадкам іхнім. Таксама паставіў вялікі алтар на тым месцы, дзе некалі палілі агонь, называны вечным, каб гэтая аблуда паганская стала для ўсіх больш відочнай.*

*1387* — у выніку паспяховых дзеянняў была нанесена параза антыягайлаўскай кааліцыі ў складзе Андрэя Альгердавіча (Полацкага), які меў падтрымку інфлянцкага

магістра коштам леннай прысягі, і Святаслава Смаленскага. Скіргайла перамог Андрэя Полацкага і на доўгія гады зрабіў яго вязнем Хэнцінскага замка.

*1387* — магістр інфлянцкіх рыцараў заключыў гадавое перамір'е на Курцанскім полі з каралём польскім і найвышэйшым князем літоўскім Ягайлам і вялікім князем Скіргайлам.

*Восень 1387* — Ягайла прыехаў у Львоў. Туды ж з'явіўся гаспадар малдаўскі Пётр. Дагэтуль Малдавія належала венграм. З гэтага часу яна ўвайшла ў стан васальнай залежнасці ад Польшчы. Малдаўскі ваявода аддаўся пад польскае падпарадкаванне. Польшча атрымала доступ да Чорнага мора.

*1387* — Сігізмунд Люксембургскі стаў мужам Марыі, дачкі караля венгерскага Людвіка Анжуйскага і малодшай сястры польскай каралевы Ядвігі, атрымаў венгерскі трон, шматкроць выступаў на баку крыжакоў. Ягоны брат кароль чэшскі Вацлаў лічыў сябе пратэктарам Ордэна. Нямецкія князі палітычна і збройна падтрымлівалі крыжакоў. Сігізмунд меў напружаныя адносіны з Польшчай з-за Галіцкай Русі і Малдавіі. Такі расклад сіл быў пасля Крэўскай уніі. Прыхільна адносілася да крыжакоў і Ядвіга, якая спадзявалася, што такім чынам здолее засцерагчы дзяржаву ад іхніх нападаў.

*3 снежня 1387* — Ядвіга абвясціла пісьмовае рашэнне, якое абавязвала ўсіх жыхароў Кракава скласці прысягу вернасці Ягайлу, як некалі Ядвізе, а ў выпадку смерці каралевы прызнаць яго сваім каралём і гаспадаром.

*1388* — польскі кароль Ягайла, адсвяткаваўшы Божае нараджэнне ў Вільні, у новай катэдры, наведаў Віцебскую, а затым Полацкую зямлю. Яго суправаджалі польскія і літоўскія вяльможы і князі.

*1388* — Ноўгарад-Северскае і Кіеўскае княствы сталі васаламі Кароны.

*1388* — Дзмітрый Альгердавіч прысягнуў на вернасць Ягайлу.

*1388* — заключаны мір паміж каралём венгерскім Сігізмундам і каралём польскім Ягайлам.

*24 чэрвеня 1388* — Вітаўт упершыню ў гісторыі Княства выдаў яўрэйскаму кагалу Бярэсця прывілей, які стаў першым заканадаўчым актам адносна статусу яўрэяў ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. З другой паловы XIV стагоддзя яўрэі пачалі найбольш актыўна сяліцца на заходніх землях (найперш у гарадах) Княства.

*1388* — Ягайла выдаў у Любліне пісьмовы дакумент, што нікому не аддасць Чырвоную Русь, а пакіне яе «разам з Каралеўствам Польскім сабе, жонцы сваёй і дзецям, нажытым з ёю».

*1388* — у Вавелі адбыўся з'езд вялікалітоўскіх князёў з удзелам Ягайлы і Ядвігі, дзе абмяркоўваліся пытанні ўзаемадносін з Маскоўскім княствам.

*1388* — Вітаўт заключыў дамову з Тэўтонскім ордэнам і выступіў супраць Ягайлы, які аддаў самы высокі пасад у Княстве не яму, а свайму роднаму брату Скіргайлу. Каб пазбегнуць розных нечаканасцей, якія часта здараліся раней, калі Вітаўт падманваў крыжакоў, немцы ў якасці заложнікаў узялі двух малых сыноў Вітаўта, а таксама ягонага брата. Барацьба Вітаўта з Ягайлам доўжылася больш за тры гады.

*1388* — як сведчыць Ян Длугаш, кароль Ягайла аддае сваю родную сястру Аляксандру за жонку мазавецкаму князю Земавіту, які стаў леннікам караля польскага, ахвяруе яму Белзскую зямлю, а сястру Вітаўта Дануту, якая пасля хрышчэння мела імя Ганна, Ягайла пашлюбіў з братам Земавіта мазавецкім князем Янушам. Абодва шлюбы адбываліся ў Вільні.

*2 красавіка 1389* — Ягайла выехаў з Вавеля ў Новы горад Корчын на спатканне з магнатамі. Каралю падабаўся гэты горад і замак, закладзены яшчэ Казімірам Вялікім. Ягайла ўклаў шмат сродкаў на яго адбудову, любіў тут бываць, прымаць вялікалітоўскіх гасцей і высокіх асоб з іншых мясцін. Паляваў на тутэйшых балотах на птушак. Пасля разбудовы замка напрыканцы 1408 года Ягайла перавёз сюды з Вавеля

каралеўскі скарбец, дзеля чаго быў пастаўлены спецыяльны будынак. Відаць, гэткім чынам Ягайла хацеў мець бяспеку ад магчымага нападу крыжакоў на Кракаў.

*25 красавіка 1389* — Ягайла спрабуе падпарадкаваць Вялікі Ноўгарад і Пскоў. У Ноўгарадзе на княжанне пасаджаны праваслаўны брат Ягайлы Лінгвен Сямён, які ў Сандаміры склаў ленную прысягу Ягайлу і Кароне.

*1389* — упершыню згадваецца самы вялікі ў Княстве і самы прыгожы каталіцкі касцёл у Гародні — касцёл Прачыстай Маці Божай, названы пазней Фарай Вітаўта.

*17 мая 1389* — у Новы горад Корчын разам са сваім дваром прыехала Ядвіга.

*Сярэдзіна мая 1389* — спроба Вітаўта захапіць Вільню. Ён быў моцна незадаволены сваім надзелам — берасцейска-гарадзенскімі землямі, бо не атрымаў ад Ягайлы бацькоўскіх Трокаў, якія аддалі Скіргайлу. Але яго задуму выкрылі. Тады Вітаўт пачаў рыхтаваць пераход да крыжакоў і паслаў закладнікаў, сярод якіх быў князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі з жонкай. Імі сталі таксама брат Жыгімонт з сынам Міхаілам, сястра Рымгайла і больш за сто баяр, якіх крыжакі ўтрымлівалі пад аховай у розных замках. Вялікі магістр прыслаў у Гародню сваіх прадстаўнікоў. На пачатку 1390 года Вітаўт перайшоў да крыжакоў, 19 студзеня падпісаў дамову, дзе прызнаў вярхавенства Ордэна. Свой подпіс паставіў і Іван Гальшанскі. У Гародні застаўся крыжацкі гарнізон на чале з Марквардам Зальцбахам, які да гэтага ў якасці ганаровага госця жыў пры двары Вітаўта (хоць на самай справе комтур Зальцбах быў палонным).

З дапамогай Ордэна Вітаўт спрабаваў атрымаць уладу, абяцаючы за гэта крыжакам Гародню і Жмудзь. Але Ягайла вырашыў апярэдзіць Вітаўта і вырушыў на землі Княства, пачаў займаць ягоныя гарады і замкі, каб не дасталіся тэўтонцам.

*16 мая 1389* — Ягайла знаходзіўся ў Магільскім кляштары каля Кракава. У гэты час хросны бацька караля князь Уладзіслаў Апольчык робіць спробу захапіць Вавель. Яго людзі тайна прабраліся ў замак. Аднак былі выкрыты кракаўскім старастам Тапорчыкам Сяндзівай. Гарадскія вароты зачынілі. Апольчыка затрымалі і пад вартай адвезлі ў кляштар, каб там бунтар апраўдаўся перад каралём. Ягайла, які меў лагодны характар і вельмі часта забываўся на крыўды, дараваў. Затое быў паскораны шлюб Аляксандра Вігунда з дачкой Апольчыка.

*19 мая 1389* — памёр вялікі князь маскоўскі і ўладзімірскі Дзмітрый Данскі. Ягоны сын Васіль І стаў вялікім князем маскоўскім (уладзімірскім), княжыў да 1425. А Юрый Дзмітравіч стаў князем звенігародскім і галіцкім.

*Ліпень 1389* — Ягайла і Ядвіга выехалі ў Востраў на прымірэнчы з'езд Вітаўта і Скіргайлы.

*1389* — з'яўленне на Русі агнястрэльнай зброі.

*26 мая 1390* — жамойты і Тэўтонскі ордэн падпісалі дамову аб прызнанні Вітаўта сваім гаспадаром.

*1390–1392* — унутраная вайна ў Княстве ператварылася ў вайну паміж Каронай і Тэўтонскім ордэнам за Княства. Ягайла ў пачатку лютага вырушыў на вялікалітоўскія землі — супраць замкаў Бярэсце (Брэст-Літоўскі) і Малы Камянец (Камянец-Літоўскі). 16 красавіка 1390 года (на пяты дзень Вялікадня) ён здабыў Гародню і іншыя гарады, што належалі Вітаўту. У маі стаў каля Вільні. У канцы лета значныя сілы крыжакоў разам з Вітаўтам, які зноў уцёк да іх, рушылі на вялікалітоўскія землі. Разам з імі былі 300 англічан на чале з Генрыхам Болінгброкам, ён жа граф Дэрбі — будучы кароль Англіі Генрых IV. 11 верасня пачалася аблога Вільні, якая доўжылася пяць тыдняў. Абарону драўлянага Крывога замка вёў адзін з сыноў вялікага князя літоўскага Альгерда мсціслаўскі князь Карыгайла. Тут ён загінуў, а галаву яго крыжакі насілі на жэрдцы каля мураваных сцен Верхняга і Ніж-

няга замкаў, каб выклікаць страх у абаронцаў. Замкі, аднак, не паддаліся. Не спрыяла і надвор'е, таму Вітаўт адступіў. Восенню 1391 года крыжакі разам з Вітаўтам паўторна рушылі на Вільню. Вітаўт вярнуў назад Гародню і на пачатку 1392 года паглыбляўся далей. Ягайлу з улікам унутраных праблем давялося шукаць паразумення з Вітаўтам.

*28 ліпеня 1390, пятніца* — складзены дакумент аб заснаванні ў Польшчы ордэна славянскіх бенедыктынаў.

*1390* — Вітаўт аддаў сваю дачку Соф'ю, маці якой Ганна была сястрой смаленскага князя Юрыя Святаславіча, будучага цесця князя Юрыя Звенігародскага, за маскоўскага князя Васіля I — старэйшага сына вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога. 25 снежня, на Божае Нараджэнне, адбыўся шлюб. Сам Вітаўт з сям'ёй знаходзіўся ў крыжакоў, калі да яго ў сталіцу Прускага ордэна Марыенбург прыехалі паслы ад маладога маскоўскага князя. Вітаўт адпусціў дачку з вялікай світай на чале са сваім паплечнікам гальшанскім князем Іванам Альгімонтавічам — бацькам Андрэя Вязынскага, дачка якога Соф'я Гальшанская стала пазней жонкай Ягайлы. Соф'я Вітаўтаўна выехала па моры з Данцыга (цяпер польскі горад Гданьск) і праз Лівонію трапіла ў Маскву. Тут у пачатку студзеня 1391 года мітрапаліт Кіпрыян абвянчаў маладых. Соф'і было дадзена другое велікакняскае імя — Настасся. Гэтым шлюбам маскоўскія князі спадзяваліся знайсці ў асобе Вітаўта падтрымку супраць Ягайлы.

Летапіс Красінскага так паведамляе пра гэта: «Того же лета к великому князю Витовту пришли послы из города з Москвы от великого князя Василя Дмитръевича, просячи у него дочки за князя Василя Дмитръевича. Князь великыи Витовт дасть княжну свою на имя Софю за великого князя Василя Дмитръевича, и отпустил ее з Марина города, а с нею послал князя Ивана Олкгиминтовича со Кгданска. И пошли с княжною у великих кораблех морем, и приехали ко Пскову. Псковичи великую честь им дали и проводили их чесно до

Великого Новагорода. Такеж новьгородцы великую честь им вздали и проводили их с честию до Москвы…»

*20 жніўня 1390* — у Мальбарку памёр вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад Зёльнэр (Цолнер).

*1390* — Ягайла прыняў ленную залежнасць князя паморскага Варціслава VII, які ўзяў абавязак дапамагаць Кароне ў барацьбе з Крыжацкім ордэнам.

*1390* — Ягайла заключыў дамову з каралём чэшскім Вацлавам IV Люксембургскім.

*1390* — у лістападзе кароль польскі Ягайла прыбыў у Княства, каб дапамагчы жыхарам, якія цярпелі ад вайны з крыжакамі і Вітаўтам. Кароль вёз не толькі зброю, але і тканіны, вопратку, харчаванне.

*1391* — Васіль I Дзмітравіч з мноствам срэбра і золата паехаў у Залатую Арду на паклон да хана Тахтамыша і быў зацверджаны ім вялікім князем маскоўскім (атрымаў ярлык).

*13 сакавіка 1391* — вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны Конрад фон Валенрод.

*1391* — паход Тэўтонскага ордэна на Княства. На чале войска стаяў Конрад Валенрод, які толькі што быў выбраны вялікім магістрам. Другі паход крыжакоў на Вільню меў на мэце ўмацаваць на велікакняскім пасадзе Вітаўта. Паход аказаўся няўдалым. Каб хоць як змякчыць няўдачу, крыжакі збудавалі на Нёмане, непадалёк ад Гародні і Коўна, тры драўляныя замкі: Рытэрсвердар (Рыцарскі востраў), Нойгардэн і Мітэмбург. Іх аддалі ў валоданне Вітаўту. Вітаўт здолеў заняць Гародню і вярнуць частку бацькоўскай Трокскай зямлі. Жмудзь заставалася ў руках Ордэна. Вітаўт рознымі спосабамі пачаў вызваляць сваіх заложнікаў, якія знаходзіліся ў Ордэне.

*1391* — крыжацкія войскі на чале з Конрадам Валенродам беспаспяхова спрабуюць захапіць Новагародскі замак.

*Красавік 1391* — войска Цімура (Тамерлана) на рацэ Кандурача разбіла войскі ардынскага хана Тахтамыша (які ў 1382 годзе спаліў Маскву, тым самым ён помсціў за пара-

зу на Куліковым полі). Гэта значна аслабіла ўплыў Залатой Арды. Ардынскае войска сышло з Паволжа на Каўказ, дзе вайна доўжылася яшчэ 4 гады.

*1391* — у Залатой Ардзе з'явіўся Мангыцкі Юрт (Нагайская Арда) — гэткая своеасаблівая «краіна ў краіне», цэнтр яго быў у горадзе Сарайчык. Стварыў яго хан Едыгей, будучы кіраўнік усёй Арды, які ў 1408 годзе дайшоў да Масквы, забіў лютага ворага Русі хана Тахтамыша.

*1391* — каралева польская Ядвіга, карыстаючыся сваімі добрымі зносінамі з крыжакамі, вяла з імі пастаянныя перамовы, двойчы звярталася да вялікага магістра Конрада Валенрода з прапановай спыніць напады на вялікалітоўскія землі. Аднак выніку гэта не дало.

*1391* — з красавіка да сярэдзіны ліпеня доўжыліся перамовы Конрада Валенрода з Ягайлам. Адначасова Ягайла пачаў таемна наводзіць кантакты з Вітаўтам, схіляючы яго разарваць дамоўленасці з крыжакамі і вярнуцца на свае землі. За гэта Ягайла абяцаў выканаць усе ягоныя патрабаванні. На пачатку 1392 года Ягайла выслаў у Прусію свайго тайнага пасланніка, каб ён сустрэўся з Вітаўтам. Ім быў Плоцкі епіскап Генрых, які перадаў Вітаўту прапановы вярнуцца ў Княства, абяцанне аддаць Трокскае княства і зрабіць Вітаўта намеснікам караля ў Княстве. Генрых нават пасватаўся да сястры Вітаўта Рымгайлы і неўзабаве ўзяў з ёю шлюб, адмовіўся ад епіскапства. Вітаўт згадзіўся з прапановамі Ягайлы, бо гэта давала яму магчымасць быць фактычным кіраўніком Княства.

*Пачатак 1392* — крыжакі адпусцілі большасць родных Вітаўта, якія разам з вялікалітоўскай знаццю знаходзіліся ў Кёнігсбергу ў якасці заложнікаў. Вітаўтава жонка Ганна таксама была адпушчана. Заложнікам заставаўся ягоны брат Таўцівіл, у хрышчэнні Жыгімонт, і двое малалетніх Вітаўтавых дзяцей — Іван і Юрый. У чэрвені Вітаўт з дапамогай Маркварда Зальцбаха рушыў на Княства. Ён захапіў замак Рытэрсвердар, разбурыў крэпасці Новая

Гародня і Метэн і вярнуўся ў Вільню. Раз'ятраныя крыжакі атруцілі Вітаўтавых дзяцей і забілі брата. Зрабіў гэта крыжак Зананберг.

*Сакавік 1392* — крыжакі разам з Вітаўтам падышлі да Лідскага замка. Да іх далучыліся англійскія рыцары. Горад захапілі, сталі аблогай каля замка. Князь Дзмітрый Карыбут, які ўзначальваў абарону, пакінуў замак і накіраваўся да Ягайлы ў Навагародак.

*1392* — вялікі князь маскоўскі Васіль I, сын Дзмітрыя Данскога, муж Соф'і Вітаўтаўны, і ягоны брат Юрый Дзмітравіч, князь звенігародскі, падпісалі «братні дагавор» аб тым, каб быць разам да смерці. Юрый быў абавязаны ваяваць з ворагамі па просьбе старэйшага брата і не выступаць супраць яго. Юрый слова стрымаў, ён не раз перамагаў ворагаў і ніколі не выступаў супраць брата, нават на шкоду сваім уласным інтарэсам.

*1392* — Вітаўт пасадзіў на велікакняскі пасад у Смаленску замест Юрыя Святаславіча ягонага брата Глеба, які, як лічыцца, быў больш згаворлівы.

*1392* — памёр прападобны Сергій Раданежскі.

*1392* — заключаны саюз вялікага князя маскоўскага Васіля I, які быў пашлюблены з Соф'яй Вітаўтаўнай, сына Дзмітрыя Данскога, з Вялікім Княствам Літоўскім для барацьбы з татарамі. Саюз распаўся пасля захопу Вітаўтам Смаленска і Вязьмы.

*1392* — Ягайла з Ядвігай выехалі ў Княства, каб вырашыць справу з намеснікам — гаспадаром Княства. Дагэтуль вялікім князем быў Скіргайла. Супраць яго выступаў Вітаўт. Каля Ліды, у Востраве, Ягайлу спаткаў Іван Гальшанскі, які калісьці бываў у Вавелі.

*4 жніўня 1392* — Востраўскае пагадненне (заключана ў Востраве каля Ліды) паміж Вітаўтам і Ягайлам аб падзеле ўлады і гарантаванні самастойнасці Княства ў саюзе з Каронай. Некаторыя даследчыкі называюць яго адменай Крэў-

скай уніі. Удзельнічалі ў з'ездзе Ягайла з Ядвігай, якія спецыяльна прыехалі сюды, і Вітаўт з Ганнай. Ягайла прызнаў асобнасць Вялікага Княства Літоўскага пад уладай Вітаўта і надаў яму пажыццёвы тытул вялікага князя (*magnus dux*), а сабе пакінуў тытул вышэйшага князя (*supremus dux*).

Летапіс Красінскага так паведамляе пра гэта: «...князю великому Витовту, будучи в Немцах у мистра, у Марином городку, прислал к нему корол полскии Якгаило посла з братом своим Скиргаилом, а рекучи ему: "Брате милыи, болшеи того не кази земли Литовское и не пустоши отчизны своее и нашое, и поиди к нам у еднане и в великую братскую приязнь, возми собе великое княжене Вилню и сядь на столцы дяди своего, великого князя Олкгирда, и отца своего, великого князя Кестутя". И князь великыи Витовт… поиде в Литву и сяде на великом княженьи Литовском на Вилни. И были ему рады вся земля Литовская и Руская».

Вітаўт з Ганнай прысягнуў на вернасць Кароне і самой каралеве Ядвізе. Гэта спыніла іхнія міжусобныя сутычкі. З Ліды ўсе разам — Ягайла з Ядвігай, Вітаўт з Ганнай — паехалі ў Вільню, дзе ў верасні біскуп Андрэй у кафедральным праваслаўным саборы ўганараваў Вітаўта велікакняскай мітрай. Вітаўт атрымаў не толькі бацькава Трокскае княства, а і ўладу ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Ягайла аддаў Скіргайлу Паўднёвую Русь і Кіеўскае княства. З гэтага часу Вітаўт пачынае ўмацоўваць сваю ўладу ў Княстве, пашыраць яго землі, меркаваць аб лёсе рускіх зямель і ўплыве на татарскія падзеі. Княства пачынае свой паскораны шлях у Еўропу. Аднак гэта выклікала насцярожанасць кракаўскіх паноў, якія не хацелі аддалення Княства ад Польшчы і дабіваліся яго інкарпарацыі ў склад Кароны.

Вось той прысяжны дакумент Вітаўта:

## *Вітаўт, князь літоўскі, пан трокскі, луцкі і г. д., паразумеўшыся з каралём Уладзіславам, прысягае на вернасць каралеве Ядвізе і Кароне Польскай*

***Вострава, 4 жніўня 1392 г.***

*У імя Пана амін. Вітаўт, з ласкі Божае князь Літвы, пан трокскі, луцкі і г. д. На вечныя часы памятаць. Даводзім да ведама ўсіх, каму належыць, аднолькава люду цяперашняму, як і будучаму, які гэты дакумент чытаць будзе, што калі з-за атрутнага шыпення старажытнага вужа паміж найяснейшым панам Уладзіславам, знакамітым каралём польскім, братам і панам нашым найласкавым, з аднаго боку, і намі, з другога, з'яўляліся падставы для непатрэбных спрэчак і шкодных сварак, якія трывалі доўгі час, ажно пакуль той жа пан кароль Уладзіслаў, падтрымліваючы тое, што служыць міру, а не пакутам, і дзеля таго, каб народ пана пасля знікнення ўсялякіх падстаў для нянавісці, падтрымліваючы клопаты абодвух уладароў, жывучы ў абставінах міру, мог атуліць яшчэ большым шацункам спраўцу міру, усялякія непрыязнасці і крыўды, якія, як нам здаецца, паўставалі ў сувязі са згаданымі сварамі і нягодамі, нам і ўсім нашым на гэты час падуладным ласкава ў сваёй прыроднай дабрыні цалкам адпусціў і прабачыў, абяцаючы ніколі не памятаць названым ні сварак, ні спрэчак. Таксама ўсю нашу спадчыну і бацькаўшчыну, якія адабраў у нас у сувязі са згаданымі вышэй сваркамі і спрэчкамі, аддаў і вярнуў нам, акрамя таго, з нагоды дабрыні са шматлікіх сваіх маёнткаў уладанні, нерухомасці, даброты нанава нам аддаў і адпісаў у свабоднае карыстанне. За гэта ўсё згаданаму пану, каралю Уладзіславу, выказваем нязмерную ўдзячнасць. Мы ж, жадаючы зраўняцца з добрай воляй пана караля Уладзіслава, найяснейшай уладарцы пані Ядвізе, каралеве польскай, жонцы згада-*

*нага караля Уладзіслава, а таксама Каралеўству і Кароне Каралеўства Польскага агулам і з асобнымі маёнткамі прысягаем у добрай веры і пацвярджаем гонарам, без усялякага падману і здрады, што той жа каралевы, Каралеўства і Кароны Каралеўства Польскага з усімі асобнымі спадчыннымі валоданнямі, індывідуальнай нерухомасцю, маёмасцю, багаццямі, дабром і ўсёй бацькаўшчынай, а таксама тымі ж жыхарамі, не жадаем ніколі пакінуць, не шукаць іншай пані, акрамя яе, а нават, наадварот, хочам клапаціцца пра яе гонар, спажыткі, годнасць і славу, а яе самую і разам з ёю іншых перад усімі і кожным асобна непрыяцелямі і ворагамі aберагаць, абараняць, з усіх нашых сіл супрацiўляцца і змагацца супраць іх, колькі б разоў ні ўзнікала такая патрэба, на вечныя часы ў будучым. Акрамя таго, усім падуладным згаданага караля Уладзіслава ўсялякі гнеў і злосць з часу сварак і спрэчак прычыненых адмяняем, нядобрасці, якія ім рабілі, замяняючы на любоў. У сведчанне гэтага дакумента прывешана наша пячатка. Адбывалася і напісана ў Востраве ў самы дзень святога Даміініка ў год Панскі 1392.*

А гэта ***прысяга Вітаўтавай жонкі Ганны***:

***Вострава, 4 жніўня 1392 г.***

*Ганна, з ласкі Божае княжна Літвы, пані трокская, луцкая і г. д. ніжэйшым знаёмім усіх, каго належыць, як цяперашніх, так і спадчынных, што ў добрай веры, без усялякага падману і здрады прысягаем за найяснейшага князя Аляксандра, альбо Вітаўта, нашага найдаражэйшага мужа, што ўсе разам і кожны паасобку артыкулы, напісаныя і ўнесеныя ў ягоны дакумент, выдадзены найяснейшаму ўладару, пану Уладзіславу, каралю Польшчы, захавае непарушна і без якога-небудзь ашуканства будзе прытрымлівацца.*

*Асабліва ж, што той жа пан Аляксандр, альбо Вітаўт, найдарожшы муж наш, ніколі не пакіне Каралеўства і Карону Каралеўства Польскага, а таксама не зробяць гэтага ягоныя наступнікі, а зусім наадварот, што будзе заўсёды знаходзіцца пры тым жа каралю Уладзіславу і змагацца з яго праціўнікамі і ворагамі, колькі разоў ні надарыцца такая патрэба ў будучым. Мы, згаданая Ганна, усяго вышэй сказанага таксама прысягаем прытрымлівацца і без ашуканства выконваць. У сведчанне гэтага дакумента прывешана наша пячатка. Адбывалася і напісана ў Востраве ў дзень святога Дамініка ў год Панскі 1392.*

*1392 (1393?)* — бунт навагародскага князя Дзмітрыя Карыбута, сына Альгерда і Ульяны Цвярской. Карыбут адмовіўся прысягнуць Вітаўту як вялікаму князю. Вітаўт узяў яго ў палон, адабраў Новагародскае княства і адправіў у Польшчу. Ягайла аддаў яму Ноўгарад-Северскі, але і адтуль Карыбута выгналі. Атрымаў прыватнае памесце на Валыні.

*1392* — авантурны і напорысты польскі князь Уладзіслаў Апольчык у Мальбарку прапанаваў вялікаму магістру Крыжацкага ордэна Конраду Валенроду план падзелу Польшчы паміж суседнімі гаспадарствамі — Ордэнам, Чэхіяй і Венгрыяй. Аднак магістр быў заняты вайной з Княствам і не хацеў памнажаць шэрагі сваіх непрыяцеляў, не прыняў прапановы.

*1392–1394* — помсцячы за здраду Вітаўта Ордэну, рыцары-крыжакі шэсць разоў нападалі на землі Княства. У 1392 годзе яны спалілі Суражскі замак, з яго ледзь паспеў уцячы зяць Вітаўта Генрых з жонкай Рымгайлай.

*Студзень 1393* — нямецкія рыцары захапілі і спалілі Гарадзенскі замак, разбурылі горад. Праз пэўны час замак аднавілі, але ў 1398 годзе там адбыўся вялікі пажар, у якім ледзь не загінуў Вітаўт. Пазней ён збудаваў каменныя ўмацаванні, дзе знаходзіўся і ягоны двухпавярховы палац.

*25 ліпеня 1393* — у Мальбарку памёр вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад фон Валенрод.

*30 лістапада 1393* — вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны на генеральнай капітуле Конрад фон Юнгінген.

*1393–1395* — Вітаўт скасаваў буйныя ўдзельныя княжанні ў Віцебскай, Полацкай, Кіеўскай землях, на Валыні, Падоллі, у Ноўгарадзе-Северскім. Ва ўсіх вызваленых удзелах Вітаўт паставіў сваіх намеснікаў. У Віцебску быў Фёдар Вясна, у Кіеве — Іван Гальшанскі. Каб не абуджаць незадаволенасці, захаваў асобныя дробныя ўдзельныя княствы: Кобрынскае (існавала да 1519), Давыд-Гарадоцкае (існавала да 1524), Клецкае (існавала да 1524), Пінскае (існавала да 1524), Мсціслаўскае (існавала да 1529), Слуцкае (існавала да 1592).

*1393* — бунт у Віцебску малодшага Альгердавага сына Свідрыгайлы, які хацеў заняць велікакняскі пасад. Ён забіў прызначанага Вітаўтам віцебскага намесніка Фёдара Вясну. Войскі Вітаўта сталі каля горада. Свідрыгайлу выгналі, ён трапіў да крыжакоў.

*1394* — у канцы года вялікае войска крыжакоў выйшла з Прусіі і па лёдзе Нёмана рушыла ў глыбіню вялікалітоўскіх зямель. У складзе войска было шмат рыцараў з Францыі, Германіі і Бургундыі. Вялікі магістр Крыжацкага ордэна Конрад фон Юнгінген намагаўся захапіць горад і крэпасць Навагародак. Вітаўт спрабаваў на лёдзе Нёмана спыніць крыжакоў. Аднак мусіў адступіць. Крыжацкія войскі ўзялі кірунак на Вільню. Тут іх атакаваў Вітаўт. Бакі панеслі значныя страты. Вітаўт адступіў, а крыжакі сталі аблогай. На восьмы дзень аблогі да Вільні прыбыў магістр Лівонскага ордэна з войскам. Адбываліся баявыя вылазкі акружаных абаронцаў Вільні. Крыжакі разбурылі адну з мураваных вежаў. Вітаўт папаўняў войска і рыхтаваўся да нападу. Знясіленае крыжацкае войска мусіла адступіць.

*1394* — шлюб князя Лінгвена з дачкой князя Дзмітрыя Данскога і сястрой тагачаснага вялікага князя маскоўска-

га Васіля Дзмітравіча Марыяй, якая памерла ў Мсціславе 15 мая 1399 года, пахавана ў Маскве. У іх быў сын Юрый Мсціславіч (нарадзіўся паміж вясной 1395 і 15 мая 1399).

*23 снежня 1394* — смерць кіеўскага князя Скіргайлы — сына Альгерда і Уляны Цвярской, брата Ягайлы. Летапіс Красінскага так паведамляў пра гэта: «И тот Фома чернець дасть князю Скиргаилу зелье отравное пити, и князь Скиргаило того не ведаючи. И с того пиру таки поехал в ловы за Днепр к Милославовичом, и там в ловех разболелелся на канун крещеня, у четверг, и на тых мест вернулся до Киева немоцон, болел же князь Скиргаило сем днеи и вмер в середу. И кияне вси понесли его на головах, священници поюще песни отходныи, с свещами, из города Киева до святое Богородици Печеръское…»

*Люты 1395* — на польска-венгерскім памежжы ў Старой Вёсцы адбылася сустрэча караля польскага Ягайлы, каралевы Ядвігі і вялікага князя літоўскага Вітаўта з Сігізмундам Люксембургскім і Марыяй, сястрой Ядвігі, — каралём і каралевай венгерскай. Дасягнута згода венгерскіх уладароў на польскае верхавенства над Малдовай.

*Сакавік 1395* — войскі мангольскага эміра Цімура (Тамерлана) падчас трохдзённай бітвы на рацэ Церак разбілі армію ардынскага хана Тахтамыша. Пачатак ягонага паходу на Русь. Эмір Тамерлан, які доўгі час змагаўся супраць хана Тахтамыша, пазбавіў яго кіраўніцтва Залатой Ардой. Тахтамыш мусіў уцякаць у Вялікае Княства Літоўскае. Яго разам з сям'ёй і дружынай прыняў Вітаўт, у выніку спрыяльнага стаўлення якога неўзабаве ў Лідзе быў узведзены Тахтамышаў двор. За гэта Вітаўта назвалі халіфам, «белым» ханам, што значыла — вядомым, знатным. Нават Тахтамыш, а разам з ім татары прысягнулі Вітаўту — як старэйшаму сярод іх.

*17 мая 1395* — памерла сястра польскай каралевы Ядвігі каралева венгерская Марыя — жонка венгерскага караля Сігізмунда Люксембургсага, які быў настроены супраць Польшчы

і спагадаў крыжакам. Дзяцей у іх не было. Ядвіга заставалася адзінай спадкаемцай спраў свайго бацькі былога караля венгерскага Людвіка Анжуйскага, прыняла тытул дзедзічкі і каралевы Венгрыі. 30 мая 1396 года ёй склаў прысягу як венгерскай каралеве гаспадар бесарабскі Улад. А вось у Вавелі не праглі новай уніі з Венгрыяй. Некаторыя лічылі, што Сігізмунд пасля смерці жонкі страціў права на венгерскі пасад.

*1395* — Залатая Арда распалася на амаль што незалежныя орды — хана Кюрчака паблізу Сарая, хана Цімур-Кутлука каля Астрахані, хана Тахтамыша ў Крыме і найбольш моцны Мангыцкі Юрт Едыгея. Усе яны варагавалі між сабой.

*1395* — бунт у Кіеве брата Ягайлы князя Уладзіміра, які ў выніку страціў сваё княства.

*1395* — бунт у Падольску Фёдара Карыятавіча.

*1395* — бунт Вітаўтавага зяця смаленскага князя Глеба Святаславіча.

*1395–1404* — ваенныя паходы Вітаўта з мэтай далучыць Смаленскае княства, якое ў выніку ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

*1395, 1396, 1398, 1403, 1404* — мірныя перамовы Княства з Тэўтонскім ордэнам.

*Восень 1395* — войска Тамерлана вырушыла на Маскву. Аднак захапіла толькі Ялец і далей не пайшло. Вялікі князь маскоўскі Васіль I Дзмітравіч, сын Дзмітрыя Данскога, намагаўся ўратаваць горад. Вырашылі перанесці з Уладзіміра ў Маскву цудатворны абраз Багародзіцы Уладзімірскай. Яго напісаў некалі сучаснік Хрыста евангеліст Лука. Абраз прывезлі 8 верасня па новым стылі. У гэты дзень Божая Маці з'явілася ў сне Тамерлану. Яе акружалі вогненныя воі. Багародзіца загадала Тамерлану адступіць ад Масквы. Ён паслухаўся. Горад быў уратаваны. А 8 верасня з таго часу лічыцца праваслаўным святам — днём абраза Уладзімірскай Божай Маці.

*1395* — Ягайла ў пошуку шляхоў супрацьстаяння крыжацка-венгерскаму паяднанню зблізаецца з Вацлавам IV

Люксембургскім — каралём чэшскім (1378–1419), імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі (1378–1400), які арганізаваў кааліцыю супраціўлення з князёў паморскіх і ганзейскіх гарадоў. У наступным годзе да гэтай кааліцыі далучыўся Вітаўт. У выніку палітычных інтрыг і паражэння ў бітве з туркамі ля Нікапаля венгерскі кароль Сігізмунд Люксембургскі хваляваўся за абарону паўднёвых межаў.

*1395* — Масква і Звянігарад, а таксама іншыя ўдзелы сыноў Дзмітрыя Іванавіча Данскога перастаюць плаціць даніну Ардзе (так доўжылася да 1408 года, калі на Русь напаў Едыгей).

*1395* — войскі князя Юрыя Дзмітравіча, сына Дзмітрыя Данскога, зрабілі хуткі паход у Волжскую Булгарыю і Закам'е. Захапілі і разбурылі сталіцу — горад Булгар, крэпасці Крамянчуг, Джуке-Таў і вялікую Казань і з перамогай вярнуліся ў Звянігарад. Частку здабычы згодна з «братнім дагаворам» Юрый аддаў брату, вялікаму князю маскоўскаму Васілю І.

*1396* — кароль польскі Ягайла сумесна з мітрапалітам Кіпрыянам звярнуўся да Канстанцінопальскага патрыярха з прапановай склікаць уніяцкі сабор на «рускіх землях» Княства і разгледзець пытанні, што вынікаюць з жадання аб'яднаць каталіцкую і праваслаўную цэрквы. Пазней да гэтага пытання звярталіся вялікія князі Вітаўт і Свідрыгайла.

*1396* — дарчая грамата вялікага князя літоўскага Вітаўта Манівіду на Геранёны. Гэта самы старажытны дакумент гэткага віду — дарчая грамата на землі і сялян.

*1396* — каралева Ядвіга, жонка Ягайлы, накіравала Вітаўту пасланне, у якім пажадала, каб Вялікае Княства Літоўскае плаціла ёй штогадовую даніну. Удзельнікі Віленскага з'езда абурана адказалі: «Мы не падданыя Польшчы... Мы заўсёды былі вольнымі, нашыя продкі ніколі не плацілі палякам даніны, не будзем і мы плаціць ім, застаёмся пры нашай ранейшай вольнасці».

*1396* — выправы Ягайлы супраць свайго зацятага ворага Уладзіслава Апольчыка. Войска каралеўскае пад

кіраўніцтвам Спытка з Мельштына заняло Аполе, а Уладзіслаў страціў усе лены ў Каралеўстве Польскім.

*1396* — кіеўскім намеснікам прызначаны адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Вітаўта першы вядомы прадстаўнік роду Гальшанскіх Іван Альгімонтавіч Гальшанскі. Гэта ён узначальваў пасольства, якое адвозіла ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, бо яна стала жонкай вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітравіча. Меў сыноў Андрэя Вязынскага — бацьку Соф'і Гальшанскай, Сямёна Лютага, Аляксандра Нялюба, дачку Улляну, якая стала пасля жонкай Вітаўта.

*1397* — венгерскі кароль Сігізмунд Люксембургскі па сваёй ініцыятыве прыехаў у Кракаў, сустрэўся з Ягайлам і заключыў мір на 16 гадоў. Крыжацкі ордэн страціў свайго магчымага саюзніка. З гэтага часу Ядвіга перастала называцца каралевай венгерскай. Сігізмунд шукае магчымасці стварэння антытурэцкай уніі. Ён адмаўляецца ад верхавенства над Малдовай і ад жадання мець Галіцкую Русь.

*1396–1398* — Вітаўт, каб падтрымаць скінутага татарскага хана Тахтамыша, наладжвае паходы ў Залатую Арду. Палонных татараў сяліў на беларускіх землях.

*10 студзеня 1397* — не пакінуўшы нашчадкаў, памёр Скіргайла, які апошнім часам валодаў Кіевам (менш за год знаходзіўся там). Кіеўская зямля апынулася ў Вітаўта, які прызначыў сваім намеснікам князя Івана Гальшанскага.

*1397* — Вітаўт пасяліў каля Вільні, Гародні, Ліды, Навагародка захопленых у палон татараў. З гэтага часу пачынаецца сталае асадніцтва татараў на землях Княства. Ліда, дзе знаходзіўся Тахтамышаў двор, стала своеасаблівым цэнтрам татарскага жыцця. Вітаўт разам з Тахтамышам накіроўваецца ў стэпы Кіпчака і на Дон. Яны атрымалі перамогу каля Азова, у выніку чаго ў Ліду быў пераселены цэлы татарскі ўлус. Вітаўт спрыяў і іншым татарскім паселішчам на вялікалітоўскіх землях, татары захоўвалі тут свае тытулы і званні, мелі ад вялікага князя прывілеі.

*1397* — каралева польская Ядвіга працягвае свае сустрэчы з крыжакамі. Яна намагалася вярнуць Добрынскую (Дабжынскую) зямлю. Але хітры вялікі магістр Конрад фон Юнгінген на сустрэчы з каралевай не ездзіў, а высылаў звычайных і ніжэйшых супрацоўнікаў Ордэна, якія не мелі паўнамоцтваў вырашаць справы.

*1397* — каралева польская Ядвіга заснавала ў Пражскім універсітэце літоўскі калегіум для навучэнцаў з Вялікага Княства Літоўскага.

*1397* — чарнаморскі паход Вітаўта Вялікага на Залатую Арду з мэтай паспрыяць Тахтамышу, які страціў свой пасад. Гэтае выступленне стала вядомым Папу Рымскаму Баніфацыю IX, які аб'явіў крыжовы паход, што сведчыла аб прызнанні Княства пагранічным бастыёнам каталіцтва. Да ВКЛ далучаны землі Паўночнага Прычарнамор'я. Вітаўт дайшоў да Чорнага мора і на кані ўехаў у ваду, гэта сведчыла аб тым, што ён бярэ пад сваю ўладу і Чорнае мора. Літоўскі мастак Й. Мацкявічус у 1932 годзе напісаў карціну «Вітаўт з войскам на беразе Чорнага мора».

*1397* — з'яўленне «Дзённіка графа Конрада Кібурга» — кіраўніка шпіталяў Тэўтонскага ордэна, якога з даручэннем накіравалі ў Княства да вялікага князя. Кібург пакінуў цікавыя звесткі пра Вільню, землі і замкі Княства, пра звычаі і побыт ягоных жыхароў, пра самога Вітаўта, з якім меў сустрэчу.

*23 красавіка 1398* — у Гародні, куды прыехалі прадстаўнікі Тэўтонскага ордэна на чале з вялікім комтурам Вільгельмам Гельфенштэйнам, заключаны папярэдні мірны дагавор з Вітаўтам. Жмудзь перадавалася Ордэну, Вітаўт браўся дапамагчы ў пабудове двух альбо трох замкаў узамен за дапамогу ў ягоным паходзе на татараў. Вітаўт вярнуў палонных, а крыжакі — Вітаўтавага брата Жыгімонта, які быў у заложніках з 1392 года. Пскоў быў прызнаны ў інтарэсах Ордэна, а Ноўгарад — Княства.

*12 кастрычніка 1398* — Салінскі дагавор паміж Княствам і Тэўтонскім ордэнам. Ён меў для Ордэна асаблівае значэнне, бо Вітаўт адмовіўся ад Жмудзі, якая здаўна была вабнай для крыжакоў. Тэкст дамовы быў узгоднены ў Гародні 23 красавіка, абмен граматамі паміж Вітаўтам і вялікім магістрам крыжацкім Конрадам фон Юнгінгенам адбыўся на востраве Салін (Залінвердэн) на Нёмане. Вялікі магістр запрасіў туды Вітаўта з жонкай і з усёй світай. Умовы дагавора былі не вельмі спрыяльныя для Княства. Без парады з Польшчай Вітаўт заключыў дамову з крыжакамі, згодна з якой акрамя іншага абяцаў саступіць частку Жмудзі Тэўтонскаму ордэну і браў абавязкі паспрыяць падпарадкаванню яе нямецкім рыцарам. Сам Вітаўт меў тады інтарэсы на поўдні, у Залатой Ардзе. Падчас Салінскай сустрэчы літоўскія баяры 12 кастрычніка аб'явілі Вітаўта каралём Літвы і Русі, мо такім чынам папярэджвалі палякаў: не патрабаваць інкарпарацыі Княства. Гэткае рашэнне імпанавала крыжакам, бо давала спадзеў на адарванне Княства ад Польшчы і аслабленне абодвух гаспадарстваў. Разумеючы гэта, Вітаўт не згадзіўся на каранацыю.

*Зіма 1399* — у Смаленску адбыўся з'езд Вітаўта з вялікім маскоўскім князем Васілём І Дзмітравічам, сынам Дзмітрыя Данскога, для перамоў аб паходзе на Арду. Дамовіліся, што Васіль у час паходу Вітаўта ў чарнаморскія землі ўдарыць па казанскіх татарах. Летапіс Красінскага пра гэта паведамляў: «А тогды зима была велми люта. Тое жь зимы на весну приехал к князю великому Витовту князь Василеи Дмитръевич московски ко цьстю своему, великому князю Витовту, до Смоленска у великии пост».

*1399* — каралём Англіі стаў Генрых IV Ланкастэрскі, які падтрымліваў рыцараў-крыжакоў у той час, калі Ягайла з Вітаўтам рыхтаваліся да Грунвальдскай бітвы. Каб схіліць англійскага караля на свой бок, Ягайла пасылаў да яго пасла, але безвынікова.

*Пачатак 1399* — каралева польская Ядвіга стала цяжарнай, аднак адчувала сябе не надта добра. Быццам у прадчуванні самага горшага падрыхтавала тастамент, у якім усе свае каштоўнасці прызначала на развіццё Кракаўскага ўніверсітэта. А выкананне гэтага даручыла кашталяну Яську з Тэнчына і біскупу Пятру Вышу. Ягайла ж, наадварот, — жыў чаканнем спадкаемцы. Пра тое, што ён неўзабаве можа стаць бацькам, кароль паведаміў Папу Рымскаму, еўрапейскім каралям і іншым высокім асобам. Асабліва ўшаноўваў і аберагаў Ядвігу. Яе ложак аздобіў багатымі ўпрыгожаннямі, золатам і пурпуровым уборам.

*4 мая 1399* — Папа Рымскі Баніфацый IX выдаў булу да духавенства Кароны і Княства, у якой маючаму быць паходу Вітаўта супраць татараў абяцаў усялякае спрыянне і адпушчэнне грахоў усім удзельнікам паходу супраць няверных мусульман. Польская каралева Ядвіга не падтрымлівала гэты паход. 18 мая Вітаўт выступіў з Кіева ў Дзікае поле (назва ўкраінскага стэпу). 5 жніўня па беразе Дняпра войска дайшло да ракі Ворскла, дзе пазней адбылася бітва.

*15 мая 1399* — памерла жонка князя Сямёна Лінгвена Альгердавіча, сястра вялікага князя маскоўскага Васіля Марыя Дзмітраўна.

*22 чэрвеня 1399, нядзеля* — у Ядвігі і Ягайлы нарадзілася дачка Эльжбета, якую назвалі ў гонар Ядвізінай маці. Яна мела і другое імя — Баніфацыя, па хросным бацьку, якім быў Папа Рымскі Баніфацый IX. Ягайла выслаў у многія сталіцы Еўропы ганцоў, каб яны паведамілі аб гэтым, як раней такім жа чынам абвясціў ім пра цяжарнасць сваёй жонкі. У Кракаў з'ехаліся высокія госці з розных краін. Быў тут і Вітаўт з жонкай Ганнай.

*13 ліпеня 1399* — Эльжбета Баніфацыя памерла.

*17 ліпеня 1399, пятніца* — памерла 25-гадовая жонка Ягайлы каралева польская Ядвіга. Перад смерцю яна зрабіла духоўнае распараджэнне. Даручыла, каб усе каштоўна-

сці, усе ўборы, усе наяўныя грошы яе казны, уся рухомая маёмасць пайшлі на дапамогу бедным і на аднаўленне Кракаўскага ўніверсітэта. А Ягайлу параіла, каб ён не страціў польскай кароны і таму ўзяў шлюб з Ганнай Цылейскай, забытай унучкай Казіміра Вялікага. Паколькі шлюб лічыўся найперш палітычным, то некаторыя даследчыкі мяркуюць, што смерць для Ядвігі стала вызваленнем, магчыма, яна чакала яе, калі казала, што «час мацярынства часта становіцца часам смерці», горыч нясправаджанага кахання аслабіла яе волю і прагу да жыцця, бо Ягайла не быў для яе князем і мужам, пра якога яна сніла сны. Ядвігу пахавалі ў Вавельскай катэдры поруч з дачкой. Паны польскія паўторна склалі прысягу Ягайлу як каралю. Жалобу дэманстратыўна насіў у Вене і аўстрыйскі княжыч Вільгельм Габсбургскі.

*12 жніўня 1399, аўторак* — Вітаўт заключыў саюз з татарскім ханам Тахтамышам супраць Цімура (Тамерлана) і ягоных васалаў у Залатой Ардзе. 70-тысячнае хрысціянскае войска на чале з Вітаўтам вырушыла з Кіева ў стэп, каб чарговы раз дапамагчы Тахтамышу атрымаць уладныя паўнамоцтвы ў Залатой Ардзе, якіх ён быў пазбаўлены эмірам Тамерланам. У войску было таксама 50 удзельных князёў, шмат польскіх і нямецкіх рыцараў. На рацэ Ворскле (левы прыток Дняпра на ўкраінскіх землях) адбылася бітва. Перад гэтым былі праведзены перамовы. Вітаўт патрабаваў, каб хан Цімур плаціў даніну, а на ардынскіх грашах ставілі кляймо вялікалітоўскага гаспадара Вітаўта. «Тады будзеш мне сынам, а я табе — бацькам», — сказаў Вітаўт. Аднак ханскі настаўнік сівы эмір Едыгей адказаў: «Ты справядліва ўзяў за сына нашага хана, таму што ты стары, а ён малады; але я яшчэ старэйшы за цябе, таму неабходна табе быць маім сынам, даваць даніну і ставіць маё кляймо на літоўскіх грашах».

Пачалася бітва. Татары заманілі кавалерыю Вітаўта ў стэп, а іншыя войскі акружылі. Вітаўт пацярпеў паразу ад войска Залатой Арды на чале з ханам Цімур-Кутлукам і цемнікам

Едыгеем. Тут загінулі 74 князі, сярод іх браты Ягайлы Андрэй Альгердавіч Полацкі і Дзмітрый Бранскі, а таксама князь смаленскі Глеб Святаславіч, Міхаіл Заслаўскі, Андрэй Друцкі. Вітаўт разам з другім братам Ягайлы Свідрыгайлам цудам уратаваўся. Татары гналіся за ўцекачамі да Кіева, дзе ўзялі багатыя трафеі. Пасля пайшлі на Валынь і разрабавалі яе і Луцк. Пра гэтыя падзеі распавядае летапісная «Повесть о побоище Витовта с Темир-Кутлуем». Тахтамыш жа накіраваўся ў Сібір, каб там захапіць уладу, аднак быў забіты ханам Шадыбекам. У Княстве заставаўся ягоны сын Джэлал ад-Дзін, які пазней браў удзел у Грунвальдскай бітве на чале татарскіх атрадаў.

Хан адступіў у стэп, пакінуўшы спустошанымі вялікалітоўскія землі. Летапіс Красінскага так паведамляе пра гэта: «И стретилися з Витовтом на поли, на реце на Ворскле, и была им битва великая августа вторыи на десять день, во второк, долго велми билися, и поможет бог татаром поразити Витовтово воиско. И князь великыи Витовт побежить у малои дружине. И царь Тимир-Тиклуи тогды приидеть под Киев, и стоял под Киевом 3 дни, и кияне дали з города окупу за себе три тисячеи рублев литовских. И Тимир-Тиклуи татарскую орду роспустил по Великом княжестве Литовском, и воевали татарове оли ж до Великого Луцка, и много зла учинили Литовъскои земли...»

*15 жніўня 1399* — пахаванне каралевы польскай Ядвігі ў кафедральным саборы Вавельскага замка.

*Канец 1399* — амаль уся Вільня была знішчана пажарам.

*22 ліпеня 1400* — на вуліцы Святой Ганны ў Кракаве пачалася праца адноўленай за сродкі каралевы Ядвігі Кракаўскай акадэміі. А праз 4 дні адбылася інаўгурацыйная лекцыя па кананічным праве, якую прачытаў Кракаўскі біскуп і канцлер універсітэта Пётр Выш. Рэктар доктар права Станіслаў са Скальбмежа склаў спісы 205 студэнтаў. Першым у ганаровым спісе быў Ягайла. Са згоды Папы Рымскага Баніфацыя IX ён дабіўся адкрыцця ўніверсітэта з тэалагічным факультэтам

(з 1364 года існавалі тры факультэты: права, медыцынскі і свабодных мастацтваў), чаго не ўдалося здзейсніць нават Казіміру Вялікаму. Бо тэалагічны факультэт у сярэднявеччы лічыўся абавязковым для кожнага ўніверсітэта. Акрамя таго, меліся факультэты філасофіі, права і медыцыны. Акадэмія ў Кракаве была заснавана ў 1369 годзе, цяпер жа яна была рэфармавана на ўзор парыжскай Сарбоны. Рэктара выбіралі прафесары, для якіх былі збудаваны калегіі, а для студэнтаў — бурсы. Другім рэктарам універсітэта ў 1401 годзе быў абраны ўнук колішняга вялікага князя літоўскага Кейстута драгічынскі князь Ян (Войдат). У 1400–1424 гадах ва ўніверсітэце вучылася каля 3 тысяч студэнтаў, з іх каля 40 працэнтаў — іншаземцы. У 1409 годзе адбыўся незвычайны выпадак — упершыню студэнткай стала дзяўчына, і то таемна. Яна хадзіла на заняткі пераапранутай у мужчынскую вопратку, за што ёй пагражала смерць — яе павінны былі ўтапіць у Вісле. У 1409 годзе яна здала экзамены і стала бакалаўрам. Што яна жанчына, выкрылася выпадкова: нехта жартам выліў на яе вядро вады, адзенне прыліпла да цела, і ўсё стала зразумела. Касцельны суд пакараў яе пажыццёвай ссылкай у кляштар.

*Канец XIV стагоддзя* — на беларускіх землях павялічваецца колькасць польскіх манет. Сярод іх — пенязі, паўграшы Ягайлы, пенязі Уладзіслава III, пенязі, паўграшы Казіміра IV і Яна I Ольбрахта. Аднак сапраўднымі былі і манеты Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў — шылінгі Конрада фон Ратэнштайна, Конрада фон Юнгінгена, Марціна фон Ветцхаўзена і іншыя.

*1400* — уз'яднанне з Польшчай у якасці васала Старадубскага княства.

*1400* — Жмудзь прызнала ўладу Ордэна.

*18 студзеня і 11 сакавіка 1401* — Віленска-Радамская унія аб урэгуляванні адносін паміж Княствам і Каронай, вялікім князем літоўскім Вітаўтам і каралём польскім Уладзіславам II

Ягайлам. Пасля бітвы на Ворскле, дзе Вітаўт пацярпеў паразу, заключана Віленска-Радамскае пагадненне. Гэта дзяржаўная і палітычная дамова, згодна з якой Вялікае Княства заставалася самастойным у саюзе з Польшчай, а Вітаўт лічыўся пажыццёва гаспадаром літоўскім. Ягайла называўся вышэйшым (вярхоўным) князем (*supremus dux*). Гэта быў кампраміс паміж літоўскім сепаратызмам і інкарпарацыйнымі памкненнямі палякаў. Вітаўт станавіўся давечным кіраўніком ВКЛ, пасля яго смерці ўсе землі павінны былі належаць Каралеўству Польскаму. Адрознасцю ад ранейшых дамоўленасцей з'яўлялася тое, што Віленска-Радамская унія прымалася паасобку — 18 студзеня 1401 года ў Вільні літоўскімі баярамі, дзе Вітаўт падпісаў прысяжны акт Ягайлу, і 11 сакавіка ў Радаме польскімі панамі. Да Віленскага акта было прывешана 40 пячатак літоўскіх баяр, князёў, біскупаў, да Радамскага — 49 пячатак польскай знаці. Пасля смерці Вітаўта Княства пераходзіла да Ягайлы і ягоных сыноў. Калі ж памрэ Ягайла, то вялікалітоўская знаць, у выпадку адсутнасці ў Ягайлы сыноў, будзе прымаць удзел у выбарах агульнага манарха.

*1401* — Жмудзь пачала барацьбу з Ордэнам. Вітаўт падтрымаў паўстанне жмудзінаў, аказваў ім розную дапамогу, пачалася чарговая вайна Княства і Ордэна. Ягайла ж збройна не далучыўся да Вітаўта. У выніку ў 1422 годзе Жмудзь уключана ў склад Княства.

*1401* — вялікі князь смаленскі Юрый Святаславіч з дапамогай свайго цесця князя Алега Разанскага вярнуў Смаленск, выгнаў вялікалітоўцаў і пачаў княжыць там самастойна Былі забіты ўсе баяры, якія мелі вялікалітоўскія настроі. Аднак ужо ў верасні вялікі князь літоўскі Вітаўт стаў аблогай ля сцен Смаленска, які раней належаў яму.

*11 чэрвеня 1401* — на з'ездзе ў Тапальчанах венгерская апазіцыя прапанавала аддаць карону святога Стэфана каралю польскаму, які меў стаць і каралём венгерскім, але Ягайла не згадзіўся з гэтым.

*16 ліпеня 1401* — Ягайлавы паслы прывезлі ў Кракаў у якасці магчымай ягонай жонкі ўнучку Казіміра Вялікага з Пястаў, дачку графа Вільгельма з Цыліі Ганну. Яе маці Ганна была дачкой Казіміра Вялікага. Нявесту ўрачыста сустракаў сам Ягайла, рыцары і касцельныя працэсіі. Аднак шлюб быў адкладзены ці то сапраўды з-за занятасці караля важнымі дзяржаўнымі справамі, ці то з-за таго, што Ганна не спадабалася гаспадару Вавеля, бо не вызначалася прыгажосцю, не ведала польскай мовы. Кароль загадаў Ганне вучыць мову, бо «на якой мове мусім між сабой размаўляць, калі я не ведаю нямецкай?».

*4 лістапада 1401* — падпісана вясельнае пагадненне Ягайлы з Ганнай Цылейскай — дачкой цылейскага графа Вільгельма, унучкай Казіміра Вялікага.

*29 студзеня 1402, нядзеля* — шлюб Ягайлы з Ганнай Цылейскай (пасля 1380 — 1416), дачкой графа Цыліі Вільгельма і дачкі Казіміра Вялікага Ганны.

*1402* — вялікалітоўскае войска далучыла да Княства Вязьму.

*1402* — жмудзіны накіравалі скаргу імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі, нямецкім князям і Папу Рымскаму на нечалавечы ўціск з боку крыжакоў.

*1402* — Свідрыгайла з'явіўся да крыжакоў у Мальбарк, заключыў з імі саюз супраць Вітаўта (2 сакавіка). За вяртанне велікакняскага пасада абяцаў крыжакам Жмудзь. Але пасля хіснуўся да Масквы (1407), дзе вярнуўся ў праваслаўе, затым (1409) зноў уцёк да крыжакоў.

*1403* — крыжакі двойчы нападалі на Княства з мэтай падтрымкі Свідрыгайлы. У гэтым годзе яны вырушылі на Ашмяны. Вітаўт у адказ спустошыў Прусію.

*9 верасня 1403* — Папа Рымскі Баніфацый IX з падтрымкі палякаў выдаў булу, якая забараняла Ордэну крыжовыя паходы на новаахрышчаныя літоўскія землі аж да моманту разгляду літоўска-крыжацкай справы папскім судом. Бо да

гэтага крыжакі не аднойчы палілі княскія крэпасці. У чэрвені 1402 года вялікі комтур Гельфенштэйн выступіў на Вільню, спаліў Меднікі і Ашмяны. Паход паўтарыўся ў студзені 1403 года.

*1403* — Вітаўт Вялікі на Дубісе правёў перамовы з Ордэнам, з вялікім магістрам Конрадам фон Юнгінгенам, адносна заключэння мірнай дамовы. Ягайла палічыў гэта сепаратызмам і дабіўся, каб Вітаўт абараняў на перамовах і польскія інтарэсы. Аднак перамовы не далі станоўчых вынікаў.

*1403* — вялікалітоўскае войска разбіла разанцаў каля Любуцка і захапіла Вязьму.

*1404* — Вітаўт накіраваў у Жмудзь двух кашталянаў — Сунігайлу і Мініўіда, каб ад яго імя схіляць жмудзінаў скарыцца Ордэну.

*1404* — Ковельскі з'езд вялікага магістра Тэўтонскага ордэна, вялікага князя літоўскага Вітаўта і найважнейшых жмудскіх паноў, якія далі ўрачыстую клятву не толькі самім падпарадкавацца Ордэну, але і іншых схіляць да гэтага.

*1404* — Вітаўт Вялікі зноў далучыў да Княства Смаленск, удзельнае Смаленскае княства перастала існаваць. Баяры адчынілі яму вароты горада, выдалі жонку смаленскага князя Юрыя Святаславіча, які ў гэты час знаходзіўся ў маскоўскага князя Васіля I Дзмітравіча, просячы дапамогі, аднак той не згадзіўся, каб не псаваць адносіны са сваім цесцем Вітаўтам. Не дапамог, згодна з «братнім дагаворам» з Васілём I, і ягоны брат Юрый Звенігародскі. Вітаўт пакінуў у Смаленску свайго намесніка.

*22 мая 1404* — у замак біскупаў у Рацянж над Віслай (цяпер Куяўска-Паморскае ваяводства Польшчы) прыехалі кароль польскі Ягайла з найважнейшымі членамі Кароннай Рады, прадстаўнікі вялікага князя літоўскага Вітаўта і вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад фон Юнгінген, каб падпісаць дамову аб урэгуляванні спрэчных пытанняў паміж Княствам і Каронай, з аднаго боку, і Ордэнам, з другога, аб

«вечным» міры з Ордэнам. Гэтая дамова вядома як польска-літоўска-крыжацкі мір у Рацянжы. Карона пацвердзіла ўмовы міру з Ордэнам, заключанага ў 1343 годзе ў Калішы, і атрымала права выкупіць Дабжынскую зямлю. Княства мусіла пацвердзіць сваю адмову ад Жмудзі. Але і Княства і Карона з'ядналі тут свае пазіцыі ў барацьбе з Ордэнам, не павінны былі праяўляць сепаратызму. Свідрыгайла пазбаўляўся падтрымкі Ордэна, мусіў падпарадкавацца вялікаму князю літоўскаму.

*1405* — барацьба жмудзінаў за незалежнасць ад крыжакоў. Адмова іх ад прапановы вялікага магістра добраахвотна падпарадкавацца Ордэну.

*1405* — Вітаўт канчаткова завалодаў Смаленскам і замест Рурыкавічаў перадаў смаленскія землі вялікалітоўскім намеснікам.

*1406–1408* — вайна Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскім княствам за Смаленск. У верасні 1406 года Вітаўт выступіў на Маскву. Аднак многія князі не падтрымалі яго і пераходзілі на бок Масквы. Калі на рацэ Плава каля горада Тула адбылася сустрэча войскаў, замест бітвы было заключана перамір'е паміж Вітаўтам і князем Васілём. Вялікі князь маскоўскі Васіль I мусіў прызнаць факт уваходжання Смаленскага і Вярхоўскіх княстваў у ВКЛ.

*1406* — кіраўнік Арды Едыгей са сваім сынам Шадыбекам забіў хана Тахтамыша, які быў ворагам Русі, і знішчыў ягонае войска.

*Канец верасня 1406* — вялікі князь літоўскі Вітаўт паслаў у Канстанцінопаль Полацкага епіскапа Феадосія на кандыдата ў сан Вялікалітоўскага мітрапаліта. Канстанцінопальскі патрыярх не згадзіўся з прапановай, бо чакаў прыезду кандыдата з Масквы. Калі той не з'явіўся, патрыярх 2 верасня 1408 года паставіў свайго — Фоція, які быў абраны на мітрапаліта «Кіеўскага і ўсяе Русі». Яго рэзідэнцыя была ў Маскве, што не задавальняла Вітаўта, бо мітрапаліт рэдка прыязджаў у Кіеў.

*30 сакавіка 1407* — у Мальбарку памёр вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад фон Юнгінген.

*26 чэрвеня 1407* — вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны Ульрык фон Юнгінген, брат памерлага вялікага магістра і прыхільнік вострага курсу супраць Кароны і Княства.

*1408* — падканцлер, кашталян вісліцкі і стараста кракаўскі Клеменс з Маскажэва выказаў меркаванне, што каралева польская, жонка Ягайлы Ганна Цылейская мае занадта блізкія кантакты з маладымі рыцарамі. Кароль пачаў расследаванне. У выніку Якуб з Кабылян ажно на тры гады трапіў у львоўскую вязніцу. Мікалай з Хранстова кінуўся ўцякаць. Схапілі Анджэя з Тэньчына. Пачаліся разборы. Але караля ўгаварылі не рабіць скандалу. Арцыбіскуп Мікалай з Курова на з'ездзе ў Непаломіцах аб'явіў Ганну невінаватай. Клеменс страціў свае пасады і пазбавіўся жыцця.

*8 красавіка 1408* — у каралевы польскай Ганны Цылейскай і Ягайлы нарадзілася дачка, якую ў гонар першай Ягайлавай жонкі назвалі Ядвігай (памерла ў 1430). Апекуном яе быў прызначаны Вітаўт.

*1408* — стрыечная сястра польскай каралевы Ганны Цылейскай Барбара выйшла замуж за Сігізмунда Люксембургскага.

*1408* — у Княстве здарыўся неўраджай. Ягайла па Вісле выслаў Вітаўту 20 суднаў са збожжам. Аднак у Прусіі іх захапілі крыжакі, якія разлічвалі даражэй прадаць вялікалітоўцам сваё збожжа, а таксама лічылі, што на караблях схавана зброя для жмудзінаў, якіх крыжакі прыціскалі ўсё больш настойліва.

*14 верасня 1408* — пасля неаднаразовых паходаў на рускія землі вялікі князь літоўскі Вітаўт заключыў «Вечны мір» са сваім зяцем маскоўскім князем Васілём I, сынам вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога, на памежнай рацэ Угра (каля Калугі). Гэтае замірэнне ўсталявала трывалыя межы, умацавала пазіцыі Княства. Пачалося ж усё

з таго, што на вялікалітоўскія землі пайшоў Васіль І Дзмітравіч, і сталася гэта пасля таго, як у 1405 годзе Вітаўт хадзіў на пскоўскія землі, захапіў Каложу, а ў 1407 годзе Вітаўтавага намесніка Лінгвена Альгердавіча прыняў Ноўгарад Вялікі. Смаленск таксама належаў Княству, Пскоў прыняў літоўскага намесніка. Пасля гэтага Вітаўт да 1425 года (памёр Васіль І) не хадзіў на маскоўскія землі.

*Каля 1408* — з'яўленне ў Польшчы рэлігійнай песні «Багародзіца», якая здабыла вялікую вядомасць. Гэта першы друкаваны па-польску паэтычны твор. Рыцары спявалі яе, ідучы на бітву. «Багародзіца» гучала і падчас бітвы народаў на Грунвальдскім полі. А пры першых Ягелонах яна выконвала ролю польскага гімна.

*1408* — нашэсце войскаў Едыгея на рускія землі. Спустошыў Серпухаў, Вярэю, Дзмітраў, Клін і Ніжні Ноўгарад. Залатая Арда не здолела захапіць Маскву, але аднавіла сваю ўладу над Маскоўскім княствам.

*Снежань 1408* — на Каляды ў Навагародку сустрэліся Вітаўт і Ягайла. Падчас сустрэчы быў распрацаваны план вайны з крыжакамі.

*31 мая 1409* — выбух антыкрыжацкага паўстання на Жмудзі, вялікі князь літоўскі Вітаўт падтрымаў паўстанцаў харчам і зброяй. Ордэн хацеў, каб Польшча заняла нейтральную пазіцыю.

*17 ліпеня 1409* — каронная рада Каралеўства Польскага на з'ездзе ў Ленчыцы вырашыла, што ў крыжацка-літоўскім канфлікце Польшча акажа дапамогу Княству. А перад гэтым вялікі магістр Ордэна звярнуўся з запытам да Ягайлы, ці падтрымае польскі кароль крыжакоў у барацьбе супраць Вітаўта.

*1 жніўня 1409* — польскае пасольства паведаміла вялікаму магістру Ордэна Ульрыку фон Юнгінгену, што ў выпадку нападу на Княства Каралеўства Польскае будзе змагацца на баку свайго саюзніка. Да гэтага ж аб сваёй падтрымцы Ордэна заявілі кароль венгерскі Сігізмунд Люксембургскі і кароль чэшскі Вацлаў.

*16 жніўня 1409* — вялікі магістр Ордэна Ульрык фон Юнгінген пераслаў Ягайлу, які знаходзіўся ў Новым Корчыне, пісьмовае абʼяўленне вайны, якая ўжо ішла з Вітаўтам. Праз два дні пачалася Вялікая вайна з Ордэнам, якая закончылася падпісаннем Торуньскага міру 1 лютага 1411 года. Гэтую вайну называлі таксама «жмудскай», бо яна вялася за Жмудзь. Для Ордэна здабыццё Жмудзі было «справай жыцця і смерці», а для Княства задачай мінімум было адабраць Жмудзь, задачай максімум — знішчыць сам Ордэн як крыніцу напружання ў рэгіёне.

*2 кастрычніка 1409* — для вяртання сваіх зямель і ўлады ў Княстве Свідрыгайла зноўку заключыў дамову з крыжакамі, аднак быў зняволены Вітаўтам і прабыў у вязніцы каля 9 гадоў.

*8 кастрычніка 1409* — дамова аб спыненні ваенных дзеянняў паміж Ордэнам, з аднаго боку, і Княствам і Каронай — з другога да 24 чэрвеня 1410 года. Ордэн вярбуе сабе прыхільнікаў. Яго падтрымліваюць заходнепаморскія князі, кароль венгерскі Сігізмунд Люксембургскі, да Ордэна схіляецца кароль чэшскі Вацлаў Люксембургскі (брат Сігізмунда), князь плоцкі Земавіт V. Верным Кароне застаўся толькі князь варшаўскі Януш. Сігізмунд Люксембургскі, які зʼяўляўся і імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі, намагаецца дабіцца каралеўскай кароны Вітаўту. З абодвух бакоў вядзецца інтэнсіўная ваенная падрыхтоўка.

*26 лістапада 1409* — Вітаўт, які знаходзіўся ў Навагародку, разам з ханам Джэлал ад-Дзінам, сынам Тахтамыша, вырушыў у Бярэсце. Ехалі праз Слонім, Ружаны, Пружаны, Шарашоў.

*30 лістапада — 8 снежня 1409* — тайная нарада (доўжылася 8–9 дзён) у Бярэсці Ягайлы, Вітаўта і падканцлера Мікалая Тромбы аб сумесных ваенных дзеяннях Княства і Кароны супраць Тэўтонскага ордэна. Былі ўзгоднены дэталі ранейшага навагародскага плана і вызначана тактыка ваенных дзеянняў

супраць Ордэна. Узгоднены пароль і водгук для вялікалітоўскага і польскага войска: «Кракаў» і «Вільня». Прысутнічаў тут і сын Тахтамыша Джэлал ад-Дзін. Ён паабяцаў прывесці сваю конніцу. Джэлал ад-Дзін прывёз багатыя падарункі Вітаўту і Ягайлу, у тым ліку коней і вярблюдаў. Вітаўт падараваў свайго вярблюда вялікаму магістру крыжацкаму, аднаго са сваіх Ягайла перадаў чэшскім воям.

*11 снежня 1409* — пасля заканчэння перамоў кароль польскі Ягайла і вялікі князь літоўскі Вітаўт разам з Джэлал ад-Дзінам паехалі на паляванне ў Белавежскую пушчу. Ехалі праз Камянец, Камянёў Мост (цяпер Камянюкі ў Польшчы). Палявалі 8 дзён каля каралеўскага гасцінца Кракаў–Люблін–Бярэсце–Вільня. Гэтая дата лічыцца першай згадкай пра Белавежскую пушчу. Мяса здабытага звера кароль загадаў засаліць у бочках і адаслаць у Плоцк, каб пакінуць для будучай бітвы з крыжакамі як харчаванне для войска. Бочак было 50. Пасля палявання Вітаўт з Джэлал ад-Дзінам накіраваліся ў Княства. Кароль праз Бярэсце, вёску Блоткаў (цяперашні Цярэспаль), праз Парчэва, Востраў і Люблін вярнуўся ў Кракаў.

*23 студзеня 1410* — Папа Рымскі Аляксандр V, выбраны на Пізанскім саборы ў 1409 годзе, заклікаў вялікага магістра Ордэна заключыць мірную дамову з Ягайлам. А заходнееўрапейскае рыцарства аказвала актыўную падтрымку і дапамогу крыжакам.

*Сакавік 1410, вербная нядзеля* — крыжакі на чале з вялікім магістрам Ульрыкам фон Юнгінгенам нечакана ўварваліся ў святочны Ваўкавыск, учынілі разбой, перабілі амаль палову жыхароў.

*Красавік 1410* — вялікі князь літоўскі Вітаўт у Кежмарку сустрэўся з каралём венгерскім Сігізмундам. Разам з ім у сустрэчы ўдзельнічалі шматлікія вяльможы, рыцары. Іхняя задача — пацвердзіць умовы мірнай дамовы паміж венграмі і палякамі, заключанай у 1397 годзе, каб лепш

падрыхтавацца да паходу супраць крыжакоў і пазбегнуць варагавання ў тыле.

*Чэрвень 1410* — пярэдадзень Грунвальдскай бітвы, саюзныя велікакняскае і польскае войскі пачалі збірацца ў вызначаным на колішняй нарадзе ў Бярэсці месцы. 30 чэрвеня войскі Ягайлы і Вітаўта сышліся каля Чэрвінца на Вісле. Дбайна прадумвалася тэхнічнае забеспячэнне будучай бітвы. Так, напрыклад, каля Плоцка быў сабраны «нябачны раней», як зазначаў Ян Длугаш, пантонны мост, каб польская армія магла як мага хутчэй пераправіцца цераз Віслу.

*21 чэрвеня 1410* — кароль венгерскі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, які быў пашлюблены з малодшай кузінай Ганны Цылейскай — другой жонкі Ягайлы (дарэчы, яна мела антыкрыжацкі настрой), аб'явіў вайну польскаму каралю, загадаў кракаўскім купцам пакінуць Венгрыю і паланіў тых, хто не выехаў. У адказ на гэта польскія рыцары, якія знаходзіліся пры двары венгерскага караля і ў яго на службе, сышлі з Венгрыі, пакінуўшы ўсе свае ўладанні і не прымаючы розных дабрадзейных абяцанняў караля. Яны вярнуліся да караля польскага Ягайлы, каб сумесна ваяваць супраць ворага. Ягайла даведаўся пра аб'яўленне вайны 12 ліпеня і нічога не паведаміў сваім рыцарам.

*Чэрвень 1410* — у чацвер, перад святам Сёмухі, кароль польскі Ягайла выехаў з Кракава, каб заняцца справамі паходу супраць крыжакоў. Замест сябе пакінуў у Вавелі арцыбіскупа Гнезненскага Мікалая Куроўскага, які павінен быў вырашаць усе справы за караля. Кароль спыніўся ў новым горадзе Корчын. Затым кароль пераехаў у Слупню, дзе знаходзіўся два дні. Адтуль ён кожнай раніцай пешшу выпраўляўся ў манастыр Святога Крыжа на Лысай гары, там цэлы дзень у малітве стаяў на каленях, вяртаўся назад толькі позна вечарам. Выехаў з манастыра ў чацвер.

*24 чэрвеня 1410* — дзень святога Іаана Хрысціцеля, заканчваўся тэрмін крыжацка-польскага перамір'я, якое было дасягнута з Ордэнам 8 кастрычніка 1409 года. Кароль польскі Ягайла ў гэты дзень знаходзіўся ў горадзе Вальбаж. Сюды прыехалі венгерскія паслы з паведамленнем, што прапануецца перамір'е на 10 дзён. Ягайла згадзіўся, бо гэта спрыяла і ягоным войскам лепш падрыхтавацца да баявых дзеянняў.

*5 ліпеня 1410* — на рацэ Укра каля Яжова, што на Мазавецкай зямлі, Вітаўт Вялікі займаўся пастраеннем свайго войска. Згодна са старадаўнім звычаем, ён падзяліў яго на кліны і харугвы. Затым ён раздаў сваім воям «сорак сцягоў, якія мы завём харугвамі, загадаў пры гэтым, каб кожная харугва і клін ішлі пад сваім сцягам і падпарадкоўваліся свайму камандзіру», пра што пісаў Ян Длугаш. А кароль польскі Ягайла ў гэты дзень стаў лагерам каля Яжова, куды да яго прыехалі венгерскія паслы з прапановай заключыць мір з каралём венгерскім Сігізмундам.

*8 ліпеня 1410* — польскае войска пераходзіць Віслу ля Чэрвінца і злучаецца з вялікалітоўскім войскам. У ваколіцах Лізбарка Вармінскага яны ступаюць на зямлю Ордэна. Гэта стварае пагрозу сталіцы Ордэна Мальбарку. Таму крыжакі перагароджваюць дарогу польска-вялікалітоўскаму войску ў раёне Грунвальда і Таненберга. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што падчас паходу да Грунвальда ў войску адбываліся розныя парушэнні, якія сурова караліся. У прыватнасці, у «Хроніцы канфлікту Уладзіслава, караля Польшчы, з крыжакамі ў год Хрыстоў 1410» прыводзіцца прыклад пакарання ў форме самапавешання вінаватых у рабаванні касцёлаў. А польскі гісторык Ян Длугаш апісвае працэс пакарання: самі вінаватыя мусілі збудаваць шыбеніцу, самі ўзысці на яе, самі ўскласці на шыю вяроўку. Бо калі асуджаны не зробіць гэтага сам, то яго жорстка паб'юць, знявечаць і ўсё адно павесяць. За гэтым назірала ўсё войска, страх павінен быў змусіць прысутных да пакоры, каб ніхто не мог працягнуць свае прагныя рукі да касцельнага дабра.

*14 ліпеня 1410* — крыжацкія войскі і харугвы Ягайлы і Вітаўта сталі непадалёк ад вёскі Стэнбарк (Таненберг) і паблізу вёскі Грунвальд (Грунфельдэ) на Дубровенскім полі, што ва Усходняй Прусіі (цяпер тэрыторыя Польшчы). У войску Тэўтонскага ордэна была вайсковая эліта ўсёй Заходняй Еўропы: з Аўстрыі, Баварыі, Швейцарыі, Францыі, Даніі, Англіі, Іспаніі і інш. У войску Ягайлы і Вітаўта таксама знаходзіліся прадстаўнікі многіх народаў.

*15 ліпеня 1410* — у прамым і пераносным сэнсе самы гарачы дзень гэтага года, ды і не толькі. Адбылася адна з найвялікшых бітваў сярэднявечча — Грунвальдская бітва, бітва народаў. Разгром арміі Тэўтонскага ордэна на Грунвальдскім полі аб'яднанымі сіламі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага пад кіраўніцтвам караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы і вялікага князя літоўскага Вітаўта Вялікага. Вялікі магістр Ордэна Ульрык фон Юнгінген, Валенрод, Ліхтэнштэйн і ўсе вышэйшыя дастойнікі Ордэна, больш за 600 самых знакамітых рыцараў былі забіты. Захоплены 52 крыжацкія харугвы, якія пасля гэтага былі вывешаны ў кафедральных касцёлах Кракава і Вільні як напамінак аб вялікай перамозе. А нямецкія захопнікі больш за 500 гадоў не ступалі на славянскія землі. Цікавая дэталь: паролем у бітве былі словы «Кракаў» і «Вільня». Як сцвярджае гістрык Ян Длугаш, войскі Ягайлы і Вітаўта ішлі ў бітву, спяваючы рэлігійны гімн «Багародзіца», гэты тэкст у якасці нацыянальнага сімвала пазней быў уключаны ў I Статут Вялікага Княства Літоўскага. Згадкі пра бітву можна знайсці ў летапісах Аўраамкі, Быхаўца, Новагародскім, Супрасльскім, Львоўскім і інш. Ян Вісліцкі прысвяціў бітве паэму «Пруская вайна» (1516). А вядомы мастак XIX стагоддзя Ян Матэйка ў 1878 годзе напісаў свой знакаміты твор, прысвечаны гэтай бітве, памер карціны амаль 5 на 10 метраў, яна захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

Ягайла проста з поля бітвы адаслаў сваёй жонцы Ганне Цылейскай ліст, у якім пісаў: «*Найсвятлейшая Княгіня, знакамітая і вельмі любая нам Жонка нашая! Ад самага нашага з Вамі расстання заўсёды і няспынна Творца неба і зямлі падтрымліваў нас і людзей нашых сваёй міласэрнасцю і ласкавасцю і ў добрым здароўі захоўваў. А пад ягонай апекай на зямлю ворага ступіўшы, мы шматразова, калі ля якога горада ні станем, каб яго здабыць, заўсёды без цяжкасці здабывалі. Тады ж, у аўторак, на свята Разаслання Апосталаў, крыжацкі магістр з усімі сваімі сіламі да нашых войскаў наблізіўся, прагнучы распачаць бітву з намі, мы ж асабіста слухалі святую імшу. Набожна даслухаўшы яе з усім нашым войскам да канца, выйшлі на поле бітвы, дзе сталі ў баявы парадак і пачалі рыхтавацца да бою. Калі мы ўжо адзін на аднаго паглядвалі, крыжацкі магістр і маршалак праз сваіх герольдаў прыслалі нам і найсвятлейшаму князю Вітаўту, брату нашаму найдарожшаму, два мячы са словамі: "Ведайце, кароль і Вітаўт, што, неадкладна пачынаючы бітву з вамі, гэтыя вось мячы ў падмогу вам як дар ахвяруем. Дазвольце нам выбраць месца бітвы альбо самі выбірайце!" На гэта мы адказалі лагодна: "Мячы, якія вы нам прыслалі, прымаем і ў імя Хрыста, які шыі ганарлівых схіляе, біцца з вамі будзем, але месца бітвы паказаць вам не жадаем і не хочам, бітву з вамі пачнём у месцы, якое Бог усемагутны нам паказаць захоча". Пасля гэтага войскі без затрымкі, бо, як гаварылася, былі падрыхтаваныя, пачалі бітву, у якой сярод незлічоных забітых — самі мы, аднак, мелі вельмі нязначныя страты (не дзякуючы нашай магутнасці і шматлікасці войска, а выключна дзякуючы моцы і спагадзе Божай, каб заўсёды ён дараваў нам сваё спрыянне) — былі згаданыя вялікі магістр і маршалак, комтуры Шварцбургскі і Эльблонгскі, а таксама многія іншыя комтуры крыжацкія забіты, іншых жа змусілі ўцякаць, а мы ўласнай асобай даганяць іх пачалі. Дзве мілі была пагоня, вялікая колькасць уцекачоў у азёрах*

*і рэках, якія сустракаліся на іхнім шляху, патанула, іншыя былі забітыя, так што няшмат іх уратавалася. Ваюючы ж з прусакамі, якіх з ласкі Божае перамаглі мы і разграмілі, Конрада малодшага Алясьніцкага і Шчэцінскага, венгерскага Крыштофа і многіх іншых "гасцей" ордэнскіх узялі ў няволю і як палонных трымаем.*

*Напісана пад Дуброўнам на полі бітвы, у сераду, назаўтра пасля свята Разаслання Апосталаў».*

*25 ліпеня 1410* — войскі Ягайлы і Вітаўта, якія праследавалі крыжакоў, з'явіліся ля сцен крыжацкай сталіцы — замка Мальбарк. 26 верасня адбылася няўдалая спроба завалодаць замкам, абаронай якога кіраваў комтур Швеца Генрык фон Плаўэн. Аднак узяць замак польска-вялікалітоўскія войскі не здолелі. 19 верасня яны адышлі ад Мальбарка.

*10 кастрычніка 1410* — чарговая перамога аб'яднанага войска над крыжакамі ля Каранова, заключэнне пераміра заканчвае кампанію супраць крыжакоў.

*9 лістапада 1410* — новым вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны Генрык фон Плаўэн.

*1 лютага 1411* — заключаны першы Торуньскі мір (у горадзе Торунь, нямецкі — Торн) паміж Княствам і Каронай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога, хоць можна хутчэй сказаць, не з Ордэнам, а з ягоным комтурам Генрыкам фон Плаўэнам. Жмудзь зноў вярнулася ў падпарадкаванне Княства, але толькі на час жыцця Ягайлы і Вітаўта. Крыжакі заплацілі кантрыбуцыю ў памеры 300 тысяч залатых дукатаў і былі гатовы выплаціць Кароне высокую суму наяўнымі грашыма (100 тысяч срэбных пражскіх грошаў — амаль 18 тон) за выкуп палонных і замкаў. Гэтай паразы Ордэн не здолеў перанесці і ў 1466 годзе спыніў сваё існаванне.

*1411* — арцыбіскуп Гнезненскі Мікалай Куроўскі, які два гады, калі кароль адсутнічаў у Вавелі, выконваў высокія абавязкі яго намесніка, абвінавачаны ў тым, што намагаўся схіліць каралеву Ганну да здрады. Арцыбіскупа выклікалі на

суд у Гліняны. Ён узяў з сабой шмат золата, каб падкупіць патрэбных людзей, і конна рушыў у дарогу. Але па дарозе зваліўся з каня і памёр: відаць, не вытрымала сэрца.

*Лета 1411* — вялікі князь літоўскі Вітаўт чарговы раз падтрымаў сына татарскага хана Тахтамыша Джэлала ад-Дзіна, які да гэтага разам з бацькам жыў у Тахтамышавым двары ў Лідзе. Джэлал ад-Дзін завалодаў Крымам, а неўзабаве захапіў ханскі пасад у Залатой Ардзе. Аднак у жніўні 1412 года ён быў забіты.

*12 ліпеня 1411* — венгерскі кароль Сігізмунд Люксембургскі абраны імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. Ён намагаўся пасля знакамітай перамогі аб'яднаных сіл Княства і Кароны ля Грунвальда ўрэгуляваць з імі адносіны, аднак не хацеў адрывацца і ад Ордэна, выступаючы ягоным абаронцам і пратэктарам.

*Студзень 1412* — кароль венгерскі Сігізмунд прапанаваў вялікаму магістру Ордэна збройную дапамогу ўзамен на грашовыя субсідыі.

*Вясна 1412* — да Ягайлы прыбылі венецыянскія паслы з прапановай саюза супраць Сігізмунда, яны ж хацелі схіліць Ягайлу стаць кандыдатам на імператарскую карону. У Кракаў з'явіўся і аўстрыйскі князь Эрнэст Жалезны, які быў пашлюблены з дачкой Земавіта IV і Ягайлавай сястры Аляксандры. Ён таксама далучаўся да супраціву Сігізмунду.

*Красавік — май 1411* — кароль польскі Ягайла ўстанавіў кантакты з Венецыянскай Рэспублікай, італьянскім ваяводам Мірчам, малдаўскім гаспадаром Аляксандрам і з'яднаў іх супраць венгерскага караля Сігізмунда, які хацеў перадзяліць з дапамогай Ордэна сферы ўплыву.

*15 сакавіка 1412* — з ініцыятывы рыцара Завішы Чорнага адбыўся польска-венгерскі з'езд Ягайлы і Вітаўта з венгерскім каралём Сігізмундам у Любамлі, мястэчку на Валыні, якое было сядзібай Спішскага староства, падпісаны трактат аб перамір'і. Згодна з ім Галіцкая Русь і Падолле

(землі на Паўднёва-Заходняй Украіне) належалі Польшчы да смерці Сігізмунда і Ягайлы і цягам 5 гадоў пасля. Гаспадар малдаўскі заставаўся пад уплывам Польшчы, а ў выпадку вайны Сігізмунда з туркамі павінен быў дапамагаць яму. Кароль польскі Ягайла і вялікі князь літоўскі Вітаўт былі запрошаны на з'езд у венгерскую Буду.

*24 мая — 24 чэрвеня 1412* — на з'ездзе ў Будзе венгерскі кароль Сігізмунд Люксембургскі пазычыў у Ягайлы 37 тысяч коп чэшскіх грошаў, даючы ў заклад 13 гарадоў спішскіх, якія заставаліся за Польшчай да 1769 года, бо венгры не выплацілі пазыкі.

*2 кастрычніка 1413* — агульны польска-літоўскі сойм у замку Гародля над Бугам (непадалёк ад Уладзіміра-Валынскага) з удзелам Вітаўта і Ягайлы, «вялікі сойм», «парламент». Гарадзельская унія 1413 года, якая замацавала палітычную самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага на чале з вялікім князем. Дакумент падпісалі не адно Вітаўт і Ягайла, а і па 47 магнатаў польскіх і літоўскіх. Ягайла і Вітаўт дамовіліся прызначаць на гаспадарскія пасады толькі католікаў. Пацверджана унія Княства і Польшчы, але з захаваннем самастойнасці Княства і яго гаспадара — вялікага князя. У выпадку смерці Вітаўта Княства не мусіла выбіраць вялікага князя без згоды палякаў, а палякі ў выпадку смерці Ягайлы не павінны выбіраць караля без згоды Княства. Гарадзельскі прывілей датычыць выключна паноў і баяр каталіцкага веравызнання і ўмацоўвае пазіцыі каталіцкага касцёла ў Княстве. Польская шляхта ўзяла пад свае гербы 47 найбольш знаных літоўскіх баяр. Быў прыняты акт дваранства Літвы. Літоўская шляхта атрымлівала шэраг аднолькавых з польскай правоў і вольнасцей. Баяры і дружыннікі, якія раней цалкам залежалі ад вялікага князя, станавіліся людзьмі вольнага саслоўя, якія валодалі спадчыннымі правамі. Украінскія землі пасля смерці Вітаўта не пераходзілі пад уладу польскага караля,

як гэта прадугледжвалася ранейшай Віленскай уніяй, а заставаліся ў складзе ВКЛ.

*1413* — Вітаўт Вялікі вылучыў малодшага сына Тахтамыша, які меў у Лідзе свой двор, Бетсуб-Улана на пасаду хана Залатой Арды. Упершыню залатаардынскі хан быў каранаваны ў Вялікім Княстве Літоўскім і прыняў шапку хана з рук вялікага князя літоўскага. З 1414 года, у канцы якога Бетсуб-Улан быў забіты, пачаўся заняпад Залатой Арды, уладанні апошніх ханаў, як сведчаць беларускія гісторыкі, сталі называць Вялікай Ардой.

*1413* — Геранім Пражскі — паплечнік Яна Гуса, чэшскага тэолага і рэфарматара, які патрабаваў рэформы царквы, прапаноўваў падпарадкаваць царкву каралю, адабраць яе багацці і весці службу на чэшскай мове, Свяшчэннае Пісанне лічыў адзінай крыніцай веры, — прыехаў у Княства, каб распаўсюджваць тут гусіцкія ідэі. Наведаў гарады Віцебск, Полацк і Вільню.

*1413* — Ковенскі з'езд, на якім жмудзіны выказалі пратэст супраць той умовы Торуньскага мірнага трактата, згодна з якой Жмудзь пасля смерці Ягайлы і Вітаўта павінна перайсці пад уладу Ордэна.

*Канец 1413* — у выніку змовы ад улады адхілены герой вайны 1409–1411 гадоў вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Генрык фон Плаўэн, які праяўляў занадта ваяўнічасці і тыраніі. На пасаду вялікага магістра ў студзені 1414 года выбраны Міхаэль (Міхаіл) Кюхмайстар фон Штэрнберг, які некалі ўцёк з поля Грунвальдскай бітвы.

*Зіма 1413–1414* — Ягайла, які разам з Вітаўтам восенню 1413 года выправіўся па Нёмане да Дубісы, праводзіў хрышчэнне вернутай ад крыжакоў язычніцкай Жмудзі ў лацінскае хрысціянства. У Медніках было ўтворана асобнае біскупства (1417). Але жмудзіны ўзбунтаваліся і выгналі епіскапа і лацінскіх святароў. Тады Вітаўт загадаў пакараць смерцю 60 жмудзінаў, «каб жмудскае бязбожжа не здавалася ягонайвіной». Крыніцы сведчаць, што жмудзіны вель-

мі дзівіліся таму, што польскія воі, якія высякалі святыя лясы, не атрымлівалі ніякага калецтва і шкоды, як было гэта шматкроць з імі самімі. Бо язычнікам нельга было не толькі секчы святыя гаі, а нават галінку зламаць у іх забаранялася.

*Восень 1414 альбо 1415 (некаторыя называюць дату 15 лістапада 1415 года)* — вялікі князь літоўскі Вітаўт склікаў у Навагародку чацвёрты царкоўны сабор праваслаўных епіскапаў ВКЛ і Галічыны. І толькі на ім (тры папярэднія не далі выніку) Вітаўту, які сам прысутнічаў тут, удалося дабіцца свайго: была абвешчана незалежнасць царквы Вялікага Княства Літоўскага ад мітраполіі ўсяе Русі. Мітрапалітам Кіеўскім у Княстве выбраны, а праз год рукапакладзены балгарын Рыгор (свецкае імя Гаўрыіл) Цамблак (1364 — 1419/1420?, мітрапаліт Кіеўскі ў 1414–1419). Гэта адбылося без згоды Канстанцінопальскага патрыярха Яўфімія (ён адмовіўся прызначаць Цамблака). Кафедра спачатку знаходзілася ў Кіеве, а пасля яго разбурэння ў 1416 годзе ханам Едыгеем — у Вільні, рэзідэнцыя ж была ў Навагародку. Рыгор Цамблак у 1402–1406 гадах быў ігуменам знакамітага не толькі ў сербскай зямлі Дзечанскага манастыра, вядомы як балгарскі і старажытнарускі пісьменнік. Захаваўся рукапісны зборнік ягоных Словаў, прамоўленых на вялікія царкоўныя святы перад праваслаўнымі вернікамі ў Вільні і Навагародку. Напрыклад, «Слова на Узвіжанне Святога Крыжа», сказанае ў Вільні 27 верасня 1417 года.

Летапіс Красінскага так паведамляе пра гэта: «Того же году на Възвестоване матки божи в понеделок на страстьнои недели было знамя великое: как бы у-в обедную пору звезды явилися как бы в ночи, слонце потемнело, страх был великии на землю Рускую. Того же лета Москва вся згорела и Смоленеск. А князь великыи Витовт собрал тогды вси владыки Литовское земли, полоцкого и черниговского, и туровского, и луцкого, и володимеръского, и тыми владыками поставил у Великом княжестве Литовском митрополита на имя Григоря з Болгарское земли Цамивлака».

*1414* — польская шляхта на Едлненскім з'ездзе прызнала дачку Ягайлы і Ганны Цылейскай шасцігадовую Ядвігу спадчынніцай трона. Вітаўт быў абраны апекуном яе на выпадак смерці Ягайлы. Палякі згадзіліся на гэта, каб не разарваць сувязі Княства і Кароны.

*1414* — перанясенне сталіцы Галіцкай лацінскай мітраполіі з Галіча ў Львоў.

*1414* — аднаўленне ваеннага канфлікту Кароны з Ордэнам, так званая «галодная вайна». Палякі беспаспяхова намагаліся захапіць крыжацкія замкі. Гэтую спрэчку меў разгледзець сабор у Канстанцы. Аднак на гэты конт ён не прыняў ніякага рашэння.

*5 лістапада 1414 — 22 мая 1418* — сабор у Канстанцы. Ён павінен быў разгледзець справу адзінства касцёла і выбараў аднаго Папы, бо дагэтуль іх было два — рымскі і авіньёнскі. 8 лістапада 1417 года Папам Рымскім быў выбраны Марцін V (Атон Калона), прыхільнік Тэўтонскага ордэна. У саборы браў удзел мітрапаліт Кіеўскі ў ВКЛ Рыгор Цамблак, які на чале праваслаўнай дэлегацыі меў сустрэчу з новым Папам. Цамблак агучыў праект Вітаўта аб царкоўнай уніі — паразуменні візантыйскага імператара і Канстанцінопальскага патрыярха. Аднак неўзабаве Вітаўт прызнаў першынство Маскоўскага мітрапаліта Фоція, які ў 1421 годзе пабываў у Навагародку. Адным з ініцыятараў і ўдзельнікаў сабора быў імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі венгерскі кароль Сігізмунд I.

На саборы ў 1415 годзе ерэтыкам аб'яўлены чэх Ян Гус, які быў рэктарам Пражскага ўніверсітэта, прапаведнікам у Віфлеемскай капліцы і духоўнікам каралевы Сафіі. Ён з'явіўся ў Канстанцу згодна з ахоўным лістом караля венгерскага і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунда. Аднак гэта не дапамагло. 23 чэрвеня ў кафедральным храме ў прысутнасці імператара адбылося апошняе пасяджэнне сабора. Гус не адмовіўся ад сваіх поглядаў, хацеў апраўд-

вацца, але яму не далі гаварыць. Тады ён упаў на калені і пачаў маліцца за сваіх ворагаў і крыўдзіцеляў. Суддзі вырашылі: спаліць творы Яна Гуса, а яго самога за тое, што не пакаяўся і не прызнаў сябе ерэтыком, пазбавіць сана і перадаць у рукі свецкай улады. Пасля гэтага Гуса ўзвялі на памост у храме, апранулі ў святарскае адзенне, далі ў рукі чашу і яшчэ раз прапанавалі адрачыся ад свайго вучэння. Ён адмовіўся. Пачаўся абрад расстрыжэння. На галаву надзелі высокі папяровы вастраверхі каўпак з выявамі чарцей, якія даймаюць грэшную душу. Па загадзе імператара Сігізмунда Яна Гуса перадалі гарадскому магістрату для неадкладнага спалення. Каля тысячы ўзброеных стражнікаў павялі Гуса на загадзя падрыхтаванае месца за горадам, дзе быў гатовы касцёр. Кат распрануў Гуса да пояса, прасмоленай вяроўкай яго прывязалі за ногі і шыю да слупа, абклалі дровамі і саломаю да самай шыі. Падпалілі. А пасля асобна спалілі некаторыя часткі цела, а попел высыпалі ў раку, каб прыхільнікі не скарысталі яго ў якасці святыні. 2 верасня 1415 года чэшская шляхта скіравала да сабора пратэст супраць пакарання Гуса, у якім усіх вінаватых назвала здраднікамі Каралеўства Чэшскага. Захавалася 8 дакументаў з іхнімі подпісамі і прывешанымі да іх 452 пячаткамі.

А праз год па тых самых матывах быў спалены на кастры яшчэ адзін чэшскі рэфарматар Геранім Пражскі.

На саборы вострa выступіў нямецкі дамініканін Ян Фалькенберг, які раней жыў у Кракаве, а цяпер падтрымліваў Ордэн. Ён абвясціў напісаны на саборы трактат, у якім даводзіў, што палякі разам з паганамі «спустошылі касцёл... і, як ерэтыкі, павінны быць пазбаўлены каралеўства і ператвораны ў нявольнікаў». Напісаў таксама «Сатыру» супраць палякаў і «бажка Ягайлы», якога абвінавачваў у адступленні ад веры і ва ўсіх магчымых грахах. «Кароль Уладзіслаў — гэта бажок, якога шануюць падданыя, таму яны з'яўляюцца балванахвальцамі»; «Па-

лякі і іхні кароль — гэта ерэтыкі, якія заслугоўваюць вечнага пакарання. Хто іх знішчыць, здабудзе вечнае шчасце»; «Палякі з’яўляюцца больш небяспечнымі, чым сапраўдныя пагане, бо адышлі ад касцёла. Трэба іх як найхутчэй пазабіваць! Караля, князёў і рыцараў належыць павесіць на шыбеніцах». Гэта некаторыя з абвінавачанняў. Фалькенберг не толькі патрабаваў забіць польскага караля, але палохаў еўрапейцаў «сынам шаўца» Вітаўтам, які «абяцаў напаіць сваіх коней з Рэйна». Выбухнуў скандал. Польская дэлегацыя дамагалася, каб сабор аб’явіў Фалькенберга ерэтыкам і загадаў спаліць на кастры разам з трактатам. Скандал удалося пагасіць толькі 14 мая 1418 года, калі спецыяльная камісія прызнала Фалькенбергава пісанне пасквілем, аўтара змясцілі ў папскую вязніцу ў падзямеллях замка Святога Анёла ў Рыме. І толькі калі атрымаў выбачэнне Ягайлы, Яна Фалькенберга выпусцілі — у 1424 годзе. Аднак актыўнасці сваёй не страціў. Пачаў канфліктаваць са сваімі ранейшымі спрыяльнікамі і напісаў яшчэ больш злосную сатыру на крыжакоў. Меў абвясціць яе на саборы ў Базелі, аднак па дарозе крыжакі выкралі тэкст.

А да гэтага, паколькі палякі настойвалі на спаленні пасквіля і пасля заканчэння сабора, напісанае Фалькенбергам мусілі прызнаць фальшывым і бессаромным і патапталі нагамі.

Акрамя таго, на саборы разглядаліся і свецкія справы. У прыватнасці, Стогадовая вайна Англіі і Францыі, польска-крыжацкія адносіны. Дэлегацыю Кароны на саборы ўзначальваў Мікалай Тромба.

*1415* — Вітаўт у змаганні за пашырэнне тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага дайшоў да Чорнага мора і, каб засведчыць усталяванне тут сваёй улады, урачыста заехаў на кані ў марскую ваду. Тут была паўднёвая мяжа Княства.

*1415* — у Троках вялікі князь літоўскі Вітаўт прымаў караля польскага Ягайлу.

*1415* — у сям'і вялікага маскоўскага князя Васіля І Дзмітравіча і Соф'і Вітаўтаўны нарадзіўся сын, названы Васілём, будучы пераемнік бацькі на маскоўскім пасадзе — Васіль II Васільевіч Цёмны.

*15 лістапада 1415* — у Барысаглебскім храме Навагародка адбылася хіратонія на епіскапа архімандрыта Рыгора Цамблака з узвядзеннем яго ў сан мітрапаліта. Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Фоцій, які жыў у Маскве і быў прызначаны Канстанцінопальскім патрыярхам, выказаў сваё абурэнне і накіраваў вернікам ВКЛ пасланне з патрабаваннем не прызнаваць Рыгора Цамблака.

*21 сакавіка 1416* — смерць другой жонкі Ягайлы Ганны Цылейскай, унучкі Казіміра Вялікага, маці каралеўны Ядвігі (1408–1430).

*1416* — залатаардынскі хан Едыгей напаў на Кіеў, разрабаваў горад і ваколіцы, захапіў шмат дабра, падпаліў цэрквы і манастыры.

*1416* — мітрапаліт Рыгор Цамблак перанёс кафедру Кіеўскага мітрапаліта ў Вялікім Княстве Літоўскім у Вільню, хоць рэзідэнцыя яго знаходзілася ў Навагародку.

*Кастрычнік 1416* — разам з Вітаўтам Ягайла паехаў у Княства, каб прыняць удзел у з'ездзе з вялікім магістрам Ордэна Міхаілам Кюхмайстрам, дзе абмяркоўваліся справы Жмудзі. З'езд адбываўся ў Велоне над Нёманам. Крыжак паводзіў сябе пагардліва, не захацеў сустракацца з каралём польскім, а толькі вёў перамовы праз сваіх прадстаўнікоў. Пасля нечакана з'ехаў з Велоны. А Ягайла яшчэ наладзіў паляванне ў ваколіцах Трок і Коўна.

*9 мая 1417* — шлюб у Саноку Ягайлы з трэцяй жонкай — Эльжбетай Пілецкай (з Пільчы), альбо Гранoўскай (каля 1372 — 1420). А да гэтага Ягайла пасватаўся да другой Эльжбеты — дачкі згажалецкага князя Яна, унучкі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла IV. На час сватання яна была ўдавой князя брабанцкага. Калі сваты прапанавалі

ёй шлюб, адказала, што не хоча ісці замуж, бо мае агіду да паўторнага шлюбавання. Тым не менш неўзабаве выйшла за баварскага князя Яна. Ягайла ж звярнуўся тады да Эльжбеты Граноўскай, дачкі ваяводы сандамірскага. Так параіла таемна ад каронай рады ягоная сястра Аляксандра. Кароль выклікаў членаў рады ў Саноку, пазнаёміў іх з будучай жонкай. Радцы заўпарціліся. Але ўпартым аказаўся і Ягайла. У парафіяльным касцёле ў Саноку іх павянчаў Львоўскі арцыбіскуп Ян з Жэшава. Эльжбета мела не надта добрую славу. Была адзінай дачкой сандамірскага ваяводы Атона з Пільчы, тройчы замужам: першым мужам з'яўляўся Вішал Чамбар з Маравіі, у яго адабраў Эльжбету Янчык Гічынскі. Пасля яго смерці Эльжбета выйшла за накельскага кашталяна Вінцэнта з Гранова, які неўзабаве пасля Грунвальдскай бітвы быў атручаны торуньскімі жыхарамі. На час шлюбавання з каралём мела дарослых дзяцей. Акрамя таго, Эльжбета лічылася кананічнай дачкой караля, бо яе маці Ядвіга некалі з'яўлялася хроснай маці Ягайлы, калі ён хрысціўся ў Кракаве па каталіцкім абрадзе. Касцёл такія шлюбы забараняе. Давялося звяртацца да Папы Рымскага, які згоду выдаў, але папярэдзіў, што ў выпадку смерці Эльжбеты кароль не будзе мець права жаніцца. Аднак гісторыкі дагэтуль спрачаюцца, што тут праўда, а што легенды. Праўда ж тое, што акурат у гэты час да караля дайшлі звесткі пра пасквіль Яна Фалькенберга, які на саборы ў Канстанцы абняславіў Ягайлу на цэлы свет. А тут яшчэ каралеўскі пісар Станіслаў Цёлак, які быў праціўнікам шлюбу, выпусціў на лаціне свой пасквіль «Ліст, што ацэньвае шлюб, які ўзяў кароль Уладзіслаў Ягайла з Эльжбетай Граноўскай». Заявіў нават, што гэта шлюб арла са свіннёй. Каралеву назваў мацёрай, гэта значыць удавой, схуднелай ад родаў, якая дабілася шлюбу за скарбы, выкапаныя з зямлі сваім рылам, апанавала львом хітрасцю і кламствам.

*1417* — усё лета працягвалася хрышчэнне Жмудзі, Ягайла стварыў біскупства ў Медніках. У Жмудзь прыехалі

дэлегаты Канстанцкага сабора, у Коўне іх сустрэў Вітаўт. У гэтым жа годзе на Жмудзі ўжо існавала 8 прыходаў.

*19 лістапада 1417* — пасля шматлікіх перасварак была нарэшце каранавана трэцяя жонка Ягайлы Эльжбета Граноўская.

*22 ліпеня 1418* — у маладым веку памёр падканцлер Дунін са Скрыньска. За гэту пасаду пачалі змагацца каралеўскі сакратар Збігнеў Алясьніцкі і Ян Шафранец. Перамог адзін з самых выбітных і адукаваных людзей Кароны Шафранец.

*1418* — Ягайла разам з жонкай Эльжбетай прыехаў у Гародню, дзе 19 лістапада адбыўся ўрачысты шлюб Вітаўта з Уллянай (Юліяніяй) Карачэўскай — князёўнай гальшанскай, Соф'інай цёткай. Яна была дачкой Івана Альгімонтавіча Гальшанскага, удавой пасля князя Карачэўскага. Пасля гэтага каралева ад'ехала ў Кракаў, а Ягайла застаўся ў занёманскіх лясах на ловы. Аднак стала вядома, што крыжакі хочуць арганізаваць на караля напад. Ягайла вярнуўся ў Гародню, а пасля ў Кракаў.

*1418* — кароль польскі і найвышэйшы князь літоўскі Ягайла замовіў для замкавай капліцы Святой Тройцы ў Любліне роспіс на царкоўныя тэмы ў руска-візантыйскім (праваслаўным) стылі. Выконвалі гэтую працу рускія мастакі на чале з майстрам Андрэем. Усе ўнутраныя сцены пакрыты фрэскамі на сюжэты са Старога і Новага Запавету, пададзены партрэты святых і праайцоў праваслаўнай царквы. Маюцца і дзве выявы самога караля: у адным выпадку як фундатара роспісу, у другім як воя — на кані. Цікава, што яшчэ ў 1383 годзе вялікі князь літоўскі Ягайла надаў «нашым улюбёным мяшчанам люблінскім» права гандляваць з ВКЛ. Сама ж капліца была збудавана ў XIV стагоддзі каралём польскім Казімірам III (яна захавалася да нашага часу) і з'яўляецца разам з круглай вежай-данжонам найстарэйшай пабудовай Люблінскага замка, у якім у 1386 годзе быў выбраны каралём

польскім вялікі князь літоўскі Ягайла і дзе ў 1569 годзе адбылася аб'яднаўчая для Княства і Кароны Люблінская унія. Капліца ў Любліне — адна са шматлікіх праваслаўных святынь, якія былі створаны альбо распісаны ў руска-візантыйскім стылі з ініцыятывы Ягайлы. На сённяшняй гістарычнай карце Люблінскага ваяводства пазначана каля 20 былых і дзеючых праваслаўных цэркваў. А капліца Святой Тройцы з'яўляецца помнікам сусветнага значэння.

*15 ліпеня 1419* — Ягайла і Вітаўт заключылі саюз супраць Тэўтонскага ордэна з Эрыкам Паморскім (каля 1382 — 1459) — каралём Даніі, Нарвегіі і Швецыі. Меркавалася перасяліць Лівонскі ордэн на Кіпр, а яго землі падзяліць.

*5 верасня 1419* — цікавае здарэнне з Ягайлам, які падчас выезду трапіў пад навальніцу. Пярун забіў чатырох коней, запрэжаных у ягоную карэту, і двух дваровых, што сядзелі на козлах. Былі забіты таксама коні пад ваяводамі сандамірскім і пазнанскім, якія таварышавалі Ягайлу ў дарозе, хоць самі гаспадары засталіся жывымі. Ягайла ў выніку меў клопат са слыхам, у яго балела правая рука. Ён лічыў, што гэта кара язычніцкіх багоў за адмову ад веры продкаў. А пазней палічыў, што гэта кара хрысціянскага Бога за шлюб з кананічнай сястрой, бо яго трэцяя жонка Эльжбета была дачкой Ядвігі з Пільчы — хроснай маці Ягайлы.

*1419 (па некаторых звестках 1420)* — памёр Рыгор (свецкае імя Гаўрыіл) Цамблак — мітрапаліт Кіеўскі ў Княстве.

*1419* — адбылося пагадненне залатаардынскага хана Едыгея і вялікага князя літоўскага Вітаўта, Едыгей фактычна прызнаў верхавенства Вітаўта.

*1419* — смерць чэшскага караля Вацлава IV. Прызнаваць каралём ягонага брата імператара Сігізмунда, які быў вінаваты ў смерці Яна Гуса, чэхі не захацелі і таму накіравалі просьбу да Ягайлы, які заняць пасад адмовіўся, бо гэта не надта падтрымлівала шляхта. Не захацеў ён згадзіцца з прапановай і другі

раз. Тады чэхі звярнуліся да Вітаўта, які неўзабаве накіраваў у Чэхію ў якасці свайго намесніка Жыгімонта Карыбутавіча.

*1419–1434* — гусіцкія войны ў Чэхіі.

*1420* — кароль венгерскі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі ў Вроцлаве вынес вырак у польска-крыжацкай спрэчцы. Згодна з гэтым Гданьскае Памор'е, Хэлмінская зямля і Жмудзь (Жмудзь толькі пасля смерці Ягайлы і Вітаўта) павінны былі належаць Ордэну. Карона і Княства не прызналі такога прысуду і звярнуліся да Папы Рымскага.

*1420* — калі Ягайла адмовіўся ад чэшскай кароны, гусіты абвясцілі каралём чэшскім Вітаўта.

*12 мая 1420* — смерць трэцяй Ягайлавай жонкі Эльжбеты Пілецкай, якая не пакінула пасля сябе сумесных з каралём дзяцей. Ягайла ў гэты час знаходзіўся ў Брэсце-Куяўскім. Эльжбету пахавалі ў Вавелі без прысутнасці караля.

*1421* — свята Божага Нараджэння Ягайла правёў у Троках разам з Вітаўтам. Адначасова яны абмяркоўвалі магчымыя дзеянні ў стасунках з чэхамі і Крыжацкім ордэнам.

*1421* — у двары вялікага князя літоўскага Вітаўта ў Камянцы быў прыняты пасланнік Бургундскага герцага дыпламат і падарожнік Жыльбер дэ Лануа. Ён пакінуў успаміны, у якіх адзначаў, што Вітаўт абдарыў яго шматлікімі дарункамі. Але паколькі Жыльбер быў сапраўдным і прынцыповым рыцарам Заходняй Еўропы, то адмовіўся ад прапанаваных яму 100 залатых дукатаў і 25 срэбных зліткаў. А перад гэтым ён сустракаўся з каралём польскім і найвышэйшым князем літоўскім Ягайлам у Галічыне і таксама атрымаў ад яго шмат падарункаў. Сярод іх — 100 флорынаў венгерскіх і 100 флорынаў багемскімі грошамі. Ад Вітаўта ён не браў грошы таму, што «акурат у гэты час Вітаўт быў у саюзе з гусітамі супраць нашай веры». Аднак Жыльбер прыняў прысланую жонкай Вітаўта «залатую стужку і вялікі татарскі флорын, каб насіць на шыі як знак яе двара».

*8 красавіка 1421* — заключаны саюз Польшчы з Брандэнбургскім курфюрствам супраць крыжакоў. Прызнаны мэтазгодным шлюб адзінай дачкі Ягайлы Ядвігі з сынам маркграфа Фрыдэрыка I Гогенцолерна — Фрыдэрыкам II, які мусіў знаходзіцца ў Польшчы, каб вучыць польскую мову.

*24 лютага 1422* — на Запусты [у традыцыйным календары каталікаў былой Рэчы Паспалітай Запусты (або Запускі) — назва апошніх дзён (як правіла, апошняга тыдня) перад Вялікім постам. У Заходняй Еўропе Запусты называюць карнавалам (ад італ. *carne* — «мяса» і *valere* — «панаваць», «загадваць», бо гэта апошнія дні, калі мяса яшчэ «пануе» на сталах). У гэты тыдзень, запоўнены шумнымі і вясёлымі забавамі, які пачынаўся Тлустым чацвяргом, народ імкнуўся быццам запасціся весялосцю і забавамі на ўвесь 40-дзённы Вялікі пост. У праваслаўнай традыцыі аналагічны перыяд называюць Масленіцай. У 1422 годзе каталіцкі Вялікдзень быў 12 красавіка] у Новагародку ў касцёле (Фара Вітаўта) адбылося вянчанне караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы, якому было 70 гадоў, з 17-гадовай князёўнай Соф'яй Гальшанскай і яе хрышчэнне па лацінскім абрадзе. Імя свайго не змяніла. Абрад выконваў Віленскі біскуп Мацей. Аб гэтай падзеі нагадвае памятная дошка ў Навагрудскім касцёле (на польскай мове): «У гэтай святыні ў 1422 годзе Уладзіслаў Ягайла, кароль польскі і вялікі князь літоўскі, браў шлюб з Соф'яй, княжной гальшанскай, будучай маткай каралёў польскіх Уладзіслава Варненьчыка і Казіміра Ягелончыка. Кароль Казімір Ягелончык быў бацькам св. Казіміра і каралёў польскіх Яна Ольбрахта, Аляксандра, Жыгімонта I, а таксама Уладзіслава, караля венгерскага і чэшскага, і Фрыдэрыка, кардынала касцёла рымскага, прымаса Польшчы, дзедам Жыгімонта Аўгуста, апошняга з дынастыі Ягелонаў, якія на вышэйшую ступень магутнасці і славы ўзнеслі Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае». Пасля шумнага шлюбу Ягай-

ла з жонкай паехаў у Ліду, дзе адбылося спатканне з папскім легатам Зянонам, які павінен быў дапамагчы развязаць справу з крыжакамі. Пасля гэтага каралеўская пара накіравалася ў Кракаў.

*Люты 1422* — чэшскія пасольствы дамагаліся, каб Вітаўт прыняў каралеўскую карону. Аднак ён «не захацеў быць жураўлём, які на двух дрэвах гняздо ладзіць», і рэкамендаваў чэхам у якасці свайго намесніка Жыгімонта Дзмітравіча Карыбутавіча.

*Сакавік 1422* — вясельны картэж караля польскага Ягайлы і князёўны Соф'і Гальшанскай прыбыў у Кракаў. Разам з Соф'яй у Вавельскі замак прыехала шмат яе землякоў, многія аказаліся ў яе блізкім атачэнні.

*10 сакавіка 1422* — ад сваёй пасады вялікага магістра Тэўтонскага ордэна адмовіўся Міхаіл Кюхмайстар. Генеральная капітула новым вялікім магістрам выбрала Паўла (Паўля) фон Русдорфа.

*14 ліпеня 1422* — Карона і Княства абвілі вайну Тэўтонскаму ордэну. Была скарыстана тактыка Грунвальдскай бітвы. Аб'яднаныя вайсковыя сілы перайшлі межы Ордэна, спустошалі крыжацкія землі. Дайшлі да Эльблонга, занялі іншыя гарады і замкі. Аднак хваробы воінаў і недахоп харчу прымусілі спыніць паход. Крыжакі таксама не мелі неабходных магчымасцей, каб належна супраціўляцца. Таму абодва бакі вымушаны былі пайсці на мір.

*27 ліпеня 1422* — кароль польскі Ягайла выдаў прывілей шляхце (было гэта ў лагеры пад Чэрвінскім) аб недатыкальнасці шляхецкага набытку без судовага выраку, асуджэнні за правіннасці згодна з напісаным правам, аб падзеле пасад старасты і земскага суддзі. Наступныя прывілеі аб асабістай і маёмнай недатыкальнасці былі выдадзены ў 1430 і 1433 гадах.

*27 верасня 1422* — каля возера Мельна ў сутоках Віслы і Асы заключаны Мельнскі мір паміж Каронай, Княствам і Тэўтонскім ордэнам, закончылася другая вайна з крыжакамі, якія

мусілі зусім адмовіцца ад прэтэнзій на Жэмайцію (Жмудзь), яна стала часткай Княства — Жэмайцкім староствам. Гданьскае Памор'е і Хэлмінская зямля засталіся за Ордэнам. З гэтай пары Княства не брала ўдзелу ў польска-крыжацкіх канфліктах.

*4 снежня 1422* — памёр Мікалай Тромба — арцыбіскуп Гнезненскі (з 1412), першы прымас польскі, каралеўскі сакратар, з 1404 — падканцлер. Пачаліся дваровыя перыпетыі адносна наступніка на гэты пасад. У гэтай справе ўпершыню ўладна заявіла пра сябе Соф'я, якая дабілася «кадравых перастановак» не ў адпаведнасці з меркаваннем мужа. Ягайла хацеў бачыць на пасадзе Гнезненскага арцыбіскупа Войцеха Ястшэмбца, а вызваленае ў выніку гэтага Кракаўскае біскупства меў намер аддаць Яну Шафранцу (з 1419 — падканцлер каронны).

*1423* — Соф'я Гальшанская прыняла актыўны ўдзел у вырашэнні «кадравых пытанняў» у каралеўскім двары. З яе падачы каралеўскі сакратар Збігнеў Алясьніцкі стаў Кракаўскім біскупам. Войцех Ястшэмбец заняў пасаду арцыбіскупа Гнезненскага, падканцлерам стаў Станіслаў Цёлак, а канцлерам — Ян Шафранец, які на самай справе меў больш за Алясьніцкага шанцаў стаць Кракаўскім біскупам. З гэтага моманту ўзрастае яе роля ў палітычным жыцці дзяржавы. У гэты ж час узмацніўся антыгусіцкі настрой у польскім асяроддзі, чаму моцна спрыяў Алясьніцкі.

*30 сакавіка 1423* — Соф'я, а таксама Збігнеў Алясьніцкі паспрыялі таму, каб у Старой Вёсцы адбыўся з'езд Ягайлы і Сігізмунда Люксембургскага — венгерскага караля і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. У выніку Ягайла адклікаў з Чэхіі Жыгімонта Карыбутавіча, накіраванага туды Вітаўтам, якога гусіты прымалі як каралеўскага намесніка (аднак да 1431 года ён самастойна працягвае змагацца за карону), і перастаў вадзіць гульні з гусітамі.

*28 кастрычніка 1423* — Збігнеў Алясьніцкі пасля Войцеха Ястжэмбца ўзначаліў Кракаўскае епіскапства і стаў Кракаўскім біскупам, найбліжэйшым дарадцам Ягайлы.

*5 сакавіка 1424* — каранацыя Соф'і Гальшанскай на каралеву польскую ў Вавельскай катэдры. Абрад выканаў Гнезненскі арцыбіскуп Войцех Ястшэмбец, асістэнтамі былі арцыбіскуп Львоўскі, трое біскупаў і папскі легат кардынал Бранд. На цырымоніі прысутнічалі кароль венгерскі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, ягоная жонка Барбара, дацкі кароль Эрык, баварскі князь Людвік, многія Пясты, князі літоўскія на чале з Жыгімонтам Карыбутавічам. Вітаўта на каранацыі не было. У замку да вечара гучалі песні. І яшчэ цэлы тыдзень доўжыліся ў Вавелі ўрачыстасці, рыцарскія турніры, забавы, якія закончыліся ў доме Завішы Чорнага. Гэта была самая ўрачыстая каранацыя з усіх, што адбываліся дагэтуль адносна каралеўскіх жонак.

*11 сакавіка 1424* — Ягайла адпісаў у пасаг сваёй жонцы Соф'і Радамль, Сонч, Бечу, Жартавец, Санок, Інаўроцлаў, Няшаву, а крыху пазней — Богуць і Загосць.

*9 красавіка 1424* — кароль польскі Ягайла выдаў эдыкт (лац. *edictum* — «аб'яўленне», ад *edicere* — «аб'яўляць нарматыўны акт») аб забароне польскаму насельніцтву падтрымліваць гусітаў. Забараняўся гандаль з чэхамі, а палякам, якія знаходзіліся ў Чэхіі, неабходна было вярнуцца ў Польшчу. Старасты былі абавязаны затрымліваць і караць ерэтыкоў. Сам Ягайла, каб не сварыцца з каталікамі і Папам Рымскім, а таксама з Кракаўскім біскупам Збігневам Алясьніцкім, яшчэ раней адмовіўся ад пасады караля чэшскага, якую яму прапаноўвалі гусіты.

*Красавік 1424* — да Вітаўта ў Гародню прыехалі паслы імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і караля венгерскага Сігізмунда і дацкага караля з просьбай аб садзейнічанні ў падпісанні шлюбнага дагавора з Ягайлам наконт шлюба-

вання Ядвігі, ягонай дачкі ад другой жонкі, і памеранскага князя Багуслава. Каб задобрыць Вітаўта, вельмі хвалілі яго, казалі, што сваімі дзеямі і славай ён нагадвае цэсара. Аднак яшчэ раней Ягайла падпісаў шлюбны дагавор Ядвігі з маркграфам брандэнбургскім. Таму дамовы не атрымалася.

*31 кастрычніка 1424* — у Соф'і і Ягайлы нарадзіўся першынец — сын Уладзіслаў, які стаў пазней каралём польскім і венгерскім. Ягайла атрымаў гэтую вестку 1 лістапада ў Пржэмыслі, і яна была самай радаснай у ягоным жыцці. З гэтай нагоды кароль доўга і старанна маліўся, складаючы падзяку Богу за ажыццяўленне ягонай жыццёвай мары. Да Папы Рымскага выслаў свайго сакратара Марціна, каб перадаў гэтую доўгачаканую вестку і папрасіў быць хросным бацькам.

*1424* — пляменнік Вітаўта Жыгімонт Карыбутавіч, які ў 1422 годзе ўвайшоў у Прагу, а чэшскі сойм прызнаў яго каралеўскім намеснікам, выбраны чэшскім каралём. Ён перад усімі пражанамі прыняў прычасце згодна з гусіцкімі патрабаваннямі.

*1420-я гады* — створаны «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» — выдатны помнік беларускага летапісання.

*18 лютага 1425* — урачыстае хрышчэнне Ягайлавага сына Уладзіслава ў Кракаве. Хроснымі бацькамі былі запісаны ажно дваццаць пяць асоб, у тым ліку кароль венгерскі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, Папа Рымскі Марцін V, ад імя якога абрад выканаў прымас. На гэтыя ўрачыстасці Вітаўт прыслаў срэбную калыску вагой ажно 100 пудоў, а Папа Рымскі падараваў Соф'і каштоўныя аксаміты з залатой ніткай. Не ўсе, аднак, выяўлялі шчырасць. Асабліва непакоіла нараджэнне Уладзіслава імператара Сігізмунда, якому не хацелася дынастычнай каралеўскай улады.

*27 лютага 1425* — смерць вялікага князя маскоўскага (уладзімірскага) Васіля I, сына Дзмітрыя Данскога. Перад смерцю Васіль, зяць Вітаўта (ягоная дачка Соф'я была жон-

кай Васіля), папрасіў цесця стаць апекуном яго сына, дзесяцігадовага Васіля, якому перадаў сваю ўладу, не захаваўшы тастаменту бацькі, згодна з якім пасад павінен быў заняць брат Васіля Юрый. Пакуль Вітаўт жыў, Масква была верная яго ўнуку Васілю II Васільевічу Цёмнаму. Праз год пасля смерці Вітаўта (1430) на Васіля пайшоў яго дзядзька — сярэдні сын Дзмітрыя Данскога Юрый Дзмітравіч, які быў князем звенігародскім і галіцкім і згодна з тадышнімі звычаямі павінен быў заняць пасад пасля Васіля I. Але хан Залатой Арды Улу-Мухамед выбраў на княжанне Васіля II.

*1425–1462* — вялікае княжанне ў Маскве Васіля II Васільевіча Цёмнага — сына Васіля I і Соф'і Вітаўтаўны, унука Вітаўта Вялікага. У Маскоўскім княстве пачынаюцца міжусобныя сваркі.

*1425–1453* — міжусобная вайна ў Вялікім княстве Маскоўскім.

*25 красавіка 1425* — пачаўся з'езд польскай шляхты ў Брэсце-Куяўскім, дзе 30 красавіка было прызнана права, абумоўленае рознымі агаворкамі, малалетняга Ягайлавага сына Уладзіслава на каралеўскі пасад. Гэты акт, як і дакументы аб пацвярджэнні прывілеяў духавенству і шляхце, аддалі на захаванне Збігневу Алясьніцкаму — біскупу Кракаўскаму. Ён мусіў аддаць дакумент каралю толькі тады, калі той пячаткай пацвердзіць абяцаныя шляхце новыя прывілеі. У выпадку смерці Вітаўта Уладзіслаў-меншы меў стаць і вялікім князем літоўскім. Адобраны змест прывілею «*Nieminet captivabimus nisi iure victum*» («Нікога не знявolім без судовага выраку»), які канчаткова быў прыняты ў 1430 годзе ў Едлні і пашыраны ў 1433 годзе ў Кракаве.

*Лета 1425* — у Кароне пачалася эпідэмія заразы, яна касіла людзей ажно да зімы. Ягайла з Соф'яй уцёк ад яе ў Княства. Аднак і туды дабралася хвароба. Тады разам з Вітаўтам яны хаваліся не ў аддаленых замках і палацах, а ў бязлюдных барах ды лясах.

*Пачатак студзеня 1426* — Ягайла, які другі раз пасля 1409 года знаходзіўся на паляванні ў Белавежскай пушчы, зламаў нагу, мусіў лячыцца ў Любамлі і Красным Ставе.

*16 мая 1426* — у Соф'і і Ягайлы нарадзіўся другі сын, якога 2 чэрвеня ахрысцілі Казімірам. З нагоды нараджэння каралеўскага сына адбыўся рыцарскі турнір з высокімі ўзнагародамі ад Ягайлы. Каралеўскі пісар Станіслаў Цёлак напісаў паэму, якая славіла каралеву за двух сыноў для Польшчы. У гэты час у Вавелі гасцявала Соф'іна маці княгіня Аляксандра Дзмітраўна з роду Друцкіх. Калі яна вярталася дадому ў Княства, па дарозе памерла ў Гліняна х.

*Чэрвень 1426* — вальны з'езд польскай шляхты ў Ленчыцы. Ягайла адмовіўся прыняць патрабаванні аб новых прывілеях, не захацеў пацвердзіць даўнія. Збігнеў Алясьніцкі вярнуў удзельнікам з'езда дакумент аб прызнанні паўнамоцтваў Ягайлавага сына Уладзіслава на спадчыннае валоданне каралеўскім пасадам, які быў прыняты год таму на з'ездзе ў Брэсце-Куяўскім. Удзельнікі Ленчыцкага з'езда на вачах у караля рассеклі дакумент мячамі. Ягайла пакінуў з'езд і пачаў збіраць пісьмовыя сведчанні аб падтрымцы ад уплывовых магнатаў і гарадоў адносна права ягонага сына на каралеўскі пасад.

*1426* — створана камісія па засведчанні цудаў польскай каралевы Ядвігі для пачатку справы аб яе кананізацыі. Камісію ўзначаліў ранейшы канцлер Ядвігі, а з 1433 года Гнезненскі арцыбіскуп Войцех Ястшэмбец. Ядвіга была кананізавана толькі ў 1997 годзе.

*1426* — няўдалы паход Вітаўта на пскоўскія землі, параза ля крэпасці Апочка.

*1426* — адбылося аб'яднанне Вялікага княства Уладзімірскага з Маскоўскім. Сталіца была перанесена ў Маскву.

*1426–1428* — паходы вялікалітоўскага войска на Ноўгарад і Пскоў.

*25 снежня 1426 — 15 лютага 1427* — да вялікага князя літоўскага Вітаўта «з дыпламатычнай місіяй» прыехаў мітрапаліт маскоўскі Фоцій.

*2 сакавіка 1427* — памёр другі Ягайлаў сын Казімір, які не пражыў і года.

*1427* — у каралеўскім замку на Вавелі разгарэўся шумны скандал. Каралеву Соф'ю абвінавацілі ў здрадзе мужу і паставілі пад сумненне праўдзівасць яе сына Уладзіслава і маючага быць трэцяга сына. Некаторыя сведчаць, што зрабіў гэта на з'ездзе ў Гародлі вялікі князь літоўскі Вітаўт. Іншыя кажуць пра іншых асоб, пра ўдзел у гэтым Люксембургаў і Габсбургаў. Так ці інакш, а пагалоска выйшла далёка за межы Кароны і Княства. Ягайла паверыў і пачаў пошукі вінаватых. Дзве дваровыя служанкі каралевы Катажына і Эльжбета Шчукоўскія назвалі семярых рыцараў, якія нібыта мелі інтымныя адносіны з Соф'яй. Сярод іх былі Пётр з Курава, Генрык (Гінча) з Рогава, Ваўжынец Зарэмба і Ян Краска. Кароль загадаў арыштаваць вінаватых. Некаторыя ўцяклі — Ян з Канецполя, браты Пётр і Дабяслаў са Шчакаціна. Генрыка (Гінчу) кінулі ў вязніцу, але ён на ўсіх допытах паўтараў адну фразу: «Каралева не здраджвала каралю...» На судзе, які напрыканцы лістапада загадаў правесці Ягайла, Соф'я і восем дваровых паняў мусілі прынесці ачышчальную прысягу вернасці каралю. Рыцараў апраўдалі.

*30 лістапада 1427* — нарадзіўся трэці сын Соф'і і Ягайлы, ахрышчаны біскупам Збігневам Алясьніцкім 21 снежня на Казіміра Андрэя. Другое імя было дадзена ў гонар ягонага дзеда Андрэя Гальшанскага. Пазней Казімір стаў вялікім князем літоўскім і каралём польскім.

*1427* — вялікі разанскі князь Іван Фёдаравіч стаў васалам Вітаўта, «отдался ему на службу: служить мне ему верно, без хитрости и быть с ним всегда заодно...»

*1427* — вялікі цвярскі князь Барыс Аляксандравіч стаў васалам Вітаўта і прызнаў яго сваім гаспадаром. Дзед

Барыса Іван Міхайлавіч быў першым шлюбам пашлюблены з сястрой Вітаўта.

*1427* — ваенны паход Вітаўта на суздальскія землі. Вітаўта прызналі Пераяслаўскае, Адоеўскае, Варатынскае і іншыя княствы.

*14 жніўня 1427* — вялікі князь літоўскі Вітаўт у пісьме магістру Лівонскага ордэна паведамляе: «Наша дачка, вялікая княгіня маскоўская, сама нядаўна была ў нас і разам са сваім сынам, з землямі і людзьмі аддалася пад нашу абарону». Гэта магло азначаць, што Масква паддаецца Вітаўту.

*1427* — Жыгімонт Карыбутавіч, які паўторна і самастойна з'явіўся ў Чэхіі, каб стаць на чале ўлады, быў пазбаўлены яе і зняволены — ён хацеў схіліць гусітаў да адмаўлення ад сваіх жорсткіх рэлігійных патрабаванняў.

*1428* — вялікі князь Вітаўт аб'язджаў падпарадкаваныя яму землі, пабываў у Смаленску, Кіеве і Луцку.

*1428* — заснавальнік Крымскага ханства Хаджы Гірэй з пасольствам 15 жніўня наведаў у Менску вялікага князя літоўскага Вітаўта. Беларускі пісьменнік Янка Сіпакоў зазначаў: «Пасля аддзялення ханства ад Залатой Арды яно рабавала, спусташала суседнія краіны — Русь, Украіну, Польшчу, Малдовію, Валахію, — а да Вітаўта хан, бачыце, прыехаў з пасольствам. І так, здаецца, усё проста, нават будзённа было: "заснавальнік", "наведаў з пасольствам", "у Менску Вітаўта". Узяў і наведаў».

*1428* — пачалося паўстанне гусітаў у Сілезіі (1428–1433).

*1428* — стала вядома першая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту» — «Похвала о великом князи Витовте», «Сказание о великом князи Витовте». Гэта адзін з першых свецкіх панегірычных твораў, помнік беларускай літаратуры XV стагоддзя. Напісаны невядомым аўтарам у Смаленску. Існуюць яшчэ тры рэдакцыі «Пахвалы...».

Летапіс Красінскага таксама змясціў «Пахвалу...». У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «И князь великыи Витовт у вели-

кои славе и у великои чти пребывал по всим землям. Царь ордынскии и князи ордынские приежчали к великому князю на службу, и просячи собе царя на царство; много было ордынских цареи и князеи, што в дворе его служили».

*Студзень 1429* — з'езд у валынскім горадзе Луцку еўрапейскіх манархаў — караля польскага Ягайлы, вялікага князя літоўскага Вітаўта (ад яго зыходзіла ініцыятыва з'езда) і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунда. Мэтай было вырашэнне пытанняў аб лёсе Малдавіі, гусітаў, барацьбе супраць туркаў і аб каранацыі Вітаўта (з ініцыятывы Сігізмунда) на караля літоўскага. У любімы Вітаўтам горад прыехалі арцыбіскуп Гнезненскі Войцех Ястшэмбец, біскуп Кракаўскі Збігнеў Алясьніцкі, унук Вітаўта — малады маскоўскі князь Васіль II Цёмны, мітрапаліт Фоцій, князі цвярскі і разанскі, хан Перакопскай Арды, магістры Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, папскі легат Андрэй, пасол візантыйскага імператара, прадстаўнікі Германскай і Візантыйскай імперый, Даніі, Залатой Арды, Ганзы, Малдавіі, Ноўгарада, Пскова, многія ўдзельныя князі, падпарадкаваныя Вітаўту.

Імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, які падбіваў Вітаўта каранавацца на караля літоўскага і абяцаў падтрымку і спрыянне перад Папам Рымскім, па звычцы, каб надаць значнасці ўласнай асобе, з'явіўся не 6 студзеня, як усе, а толькі 22 — з жонкаю Барбарай, світай вяльмож венгерскіх, чэшскіх і нямецкіх. Гэта было другое пасля візіту Атона III у 1000 годзе ў Гнезна наведванне рымскім імператарам дзяржавы на ўсходзе Цэнтральнай Еўропы. Сігізмунд і прапанаваў на сустрэчы каранаваць Вітаўта на караля.

Са шматлікімі святынямі многія высакаўладныя асобы ўрачыста сустракалі Сігізмунда перад горадам. Сведчаць, што гасцей было каля 15 тысяч. Усім не хапіла месца ў горадзе, таму яны сяліліся ў навакольных маёнтках і вёсках. Сігізмунд на з'ездзе намагаўся ўгаварыць Ягайлу, каб ён згадзіўся

на каранацыю Вітаўта. Бо Ягайла займаў незразумелую пазіцыю — то згаджаўся на каранацыю, то пад напорам праціўнікаў гэтага са свайго атачэння супраціўляўся. Ягайла ўрэшце аказаўся на баку Вітаўта. Сваю ролю, відаць, адыграла і тое, што Ягайла спадзяваўся: пасля смерці бяздзетнага Вітаўта вялікалітоўская каралеўская карона пяройдзе ягонаму сыну Уладзіславу, які будзе адразу на двух каралеўскіх пасадах — у Польшчы і Княстве. Аднак Збігнеў Алясьніцкі, а за ім канцлар Ян Шафранец, падканцлер Уладзіслаў Апароўскі выступілі супраць. Алясьніцкі разумеў: калі ВКЛ набудзе каралеўскі статус, то збанкрутуе ягоны намер дабіцца інкарпарацыі (улучэння) Княства ў Карону. Карона (ВКЛ) не можа быць далучана на правах падпарадкавання да Кароны (Польшчы). Падбухтораныя Алясьніцкім польскія паны раптоўна з'ехалі з Луцка, каб сарваць абмеркаванне гэтага пытання. Ягайла павінаваціўся перад Вітаўтам і паціху накіраваўся за імі, ён, відаць, адступіўся ад намеру падтрымаць каранацыю Вітаўта. У выніку, 29 студзеня паехаў і Сігізмунд, паабяцаўшы Вітаўту сабрацца на новы з'езд, дзе абавязкова павінна адбыцца каранацыя.

Палякі ж закрылі свае межы, каб нямецкія паслы не здолелі прывезці карону для Вітаўта. Не паспеў Сігізмунд вярнуцца ў Венгрыю, як па дарозе атрымаў ліст ад Ягайлы, у якім ён з падачы Каароннай Рады абгрунтоўваў права Кароны Польскай на Княства і лічыў непатрэбнай каранацыю Вітаўта. Сігізмунд перадаў копію ліста Вітаўту і Тэўтонскаму ордэну. Вітаўт даў грунтоўны адказ Ягайлу, пасля чаго кароль польскі мусіў прызнаць, што не ўлічыў усіх матываў і аргументаў Вітаўта. Ягайла і тут праявіў свой хісткі характар — ён шукаў кампрамісаў паміж Кароннай Радай і Вітаўтам. Каронная Рада, якая баялася, што Ягайла прыме бок Вітаўта, пачала дзеянні супраць яго. У канцы верасня 1429 года ў Княства прыбылі Збігнеў Алясьніцкі і Ян Тарноўскі. Вітаўт прыняў іх у Гародні. Тут, як сведчаць некаторыя гісторыкі,

польскія прадстаўнікі прапанавалі Вітаўту польскую карону замест літоўскай, гэта значыць наважваліся адхіліць Ягайлу ад пасада. Калі ж Вітаўт адмовіцца прыняць прапанову, палохалі яго вайной супраць Княства. Вітаўт адмовіўся. Ён паабяцаў спецыяльна не дабівацца каранацыі, але калі літоўская карона будзе яму прапанавана, ён прыме яе. А што да вайны, то ён яе не хоча, але, калі пачнецца, будзе ваяваць. І правёў гасцей да Ваўкавыска, дзе сустрэўся з прадстаўнікамі імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Яны ўручылі вялікаму князю літоўскаму ордэн Дракона.

Луцкі з'езд доўжыўся каля сямі тыдняў і дорага каштаваў Вітаўту. Як сведчаць летапісцы, для ўтрымання гасцей штодзённа выдаткоўвалася 500 бочак мёду акрамя віна мускатнага, мальвазійскага і іншых напояў, 500 ялавіц, 500 бараноў і вепрукоў, па 100 зуброў, па 100 ласёў ды шмат чаго іншага.

Летапіс Красінскага прыводзіць тэкст «Похвалы о великом князи Витовте», дзе так апісвае гэта: «И мешкаючи ему у Великом Луцку и хотел был на себе коруну взложити, и его неприятели поляки не перепустили ему коруны. И тогды призвал к собе короля полского Владислава, цесаря римского с цесаревною, московского великого князя Василя Василевича, короля угорского с королевою, и князь великии тверскоии Борис Александрович был, и мистр прускии, немецкии и лифлянскии мистр. И инъшии великие послы были: от Ивана царя царягородцкого и от мирского царя послы приходили, Одоевские князи сами были, и от Великого Новагорода и от Пскова послы приходили и от волоского воеводы, и от иных немецких земель были. И мешкали вси тыи гости у великого князя Витовта сем недель на его страве, а на день выходило им оброку по пятисот бочок меду а по пятисот яловиць, по пятисот баранов, по пятисот вепров, а по сту зубрев, по сту лосеи, а инших речеи личбы нет. Тогды цесар римскии у великои милости был з Витовтом. И бывши ему во своем городе в Луцку, и там тых гостеи честив и даровал размаи-

тыми дары коштовными. И от того ся утвердила великая милость межи них, иж не можем выписати…»

*Пачатак 1430-х* — утварэнне Вялікай Арды (Волжская Арда, Улуг Улус) са сталіцай у Новым Сараі.

*4 сакавіка 1430* — польскі з'езд у Едлні. Ягайла выдаў прывілей, у якім пацвердзіў ранейшыя правы і льготы шляхце, у тым ліку адносна пакарання і зняволення. Узамен атрымаў згоду на пераемнасць улады пасля смерці караля адным з ягоных сыноў, што было пацверджана затым у Кракаве ў 1433 годзе. Перамог прынцып элекцыйнасці трона, што назвалі пазней пройгрышам Ягайлы, бо гэта сведчыла пра перамогу шляхты і духавенства над каралём. Яшчэ больш умацоўваліся пазіцыі біскупа Збігнева Алясьніцкага, які ў апошнія гады гаспадарання Ягайлы меў разам з групай магнатаў вялікі ўплыў на караля і на вырашэнне дзяржаўных спраў у Кароне. Затое шляхта атрымала гарантыі ўласнай недатыкальнасці: без выраку суда шляхціца нельга было зрабіць вязнем. Гэта датычыла таксама адабрання ягонай маёмасці.

*1430* — сойм нямецкіх князёў. На ім прадстаўнік Польшчы заявіў, што «Вітаўт, а таксама прэлаты, князі, паны, баяры і шляхта Літоўскай зямлі дабіваюцца ў імператара Сігізмунда, каб з яго дапамогай стварыць каралеўства Літоўскае і каранаваць Вітаўта».

*Лета 1430* — Вітаўт накіраваў імператару Свяшчэннай Рымскай імперыі і каралю венгерскаму Сігізмунду Люксембургскаму ліст, у якім паведамляў, што ў сувязі з такімі абставінамі ён адмаўляецца ад кароны. 4 ліпеня Сігізмунд даў адказ, у якім не раіў рабіць гэтага. Пісаў, што справа рухаецца ў патрэбным кірунку. Па сведчанні некаторых гісторыкаў, у Нюрнбергу ўжо былі падрыхтаваны кароны для Вітаўта і яго жонкі і ўсе патрэбныя паперы.

Тады Вітаўт склікаў у Вільні з'езд (некаторыя сведчаць, што з'езд адбываўся ў Троках), такі ж, як і ў Луцку. Запрасіў вялікага князя маскоўскага Васіля II, хана Залатой Арды,

вялікага магістра Тэўтонскага ордэна, іншых высокіх гасцей з Княства і Кароны. Каранацыю прызначылі на дзень Успення Багародзіцы, 15 жніўня (па старым стылі). Аднак палякі адабралі карону, якую везлі Вітаўту. Сярод паслоў да Папы Рымскага, якія павінны былі прывезці карону, знаходзіўся і ваявода віленскі Гедыгольд.

Каранацыю перанеслі на дзень Нараджэння Святой Дзевы Марыі — 8 верасня. Ды стража польская не драмала, яна атрымала загад быць яшчэ больш пільнай. Мінула і гэтая дата. Была прызначана трэцяя — на дзень святога Міхаіла, 29 верасня. Сігізмунд гатовы быў перасляць кароны праз Прусію, аб чым паведаміў Вітаўту.

9 кастрычніка ў Княства разам з Кароннай радай прыбыў Ягайла. Насуперак супраціўленню членаў рады ён рашуча падтрымаў намер Вітаўта каранавацца. Аднак пакуль ішлі перамовы, спрэчкі, пакуль чыніліся перашкоды, Вітаўт захварэў. Яго адправілі ў Трокі. 27 кастрычніка вялікага князя літоўскага не стала. Так збанкрутавала ідэя другой пасля Міндоўга літоўскай каранацыі.

*27 кастрычніка 1430* — у Троках памёр вялікі князь літоўскі 80-гадовы Вітаўт Вялікі. Цела яго ўрачыста перанесена з Трокаў і 7 лістапада пахавана ў віленскай катэдры Святога Станіслава поруч з жонкай Ганнай. Скончыў свой зямны шлях трэці пасля Гедыміна і Альгерда магутны аб'яднаўца і ўзвышэнец велікакняскіх зямель. Летапісцы засведчылі розныя прыродныя прадвызначэнні, выкліканыя смерцю Вітаўта. У Смаленску, напрыклад, тым годам аб'явіўся голы, зусім без поўсці, воўк і паеў шмат люду. Трокскае возера на сем дзён пакрылася барвовай крывёю. А сын Дзмітрыя Данскога Юрый пачынае актыўныя дзеянні па вяртанні сабе маскоўскага пасада, на якім знаходзіцца ўнук Вітаўта Васіль II Васільевіч.

*Лістапад 1430* — з'езд беларускіх, літоўскіх і украінскіх баяр у Вільні без узгаднення з каралём польскім Ягайлам выбраў вялікім князем літоўскім 60-гадовага Свідры-

гайлу Альгердавіча (1370–1452), малодшага брата Ягайлы. Княжыў да верасня 1432 года, пасля чаго быў адхілены ад улады ў выніку змовы вялікалітоўскіх баяр-католікаў і часткі польскай шляхты. Свідрыгайла падтрымліваў праваслаўных прадстаўнікоў ва ўладзе, практычна разарваў унію з Каронай, заявіў, што не хоча быць васалам польскага караля, бо сам ён спадчынны гаспадар у Княстве.

8 лістапада Свідрыгайла накіраваў ліст імператару Сігізмунду, у якім прапаноўваў саюз і разлічваў, што да яго далучыцца Ордэн. 19 чэрвеня 1431 года было заключана пагадненне Свідрыгайлы з вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна Паўлем фон Русдорфам. У адказ Сігізмунд паабяцаў Свідрыгайлу каралеўскую карону. Тут ужо актывізаваліся палякі, шляхта хацела мацней прывязаць Княства да Кароны.

Свідрыгайла заняў сваімі людзьмі ўсе замкі у Княстве і выгнаў з іх служкаў, якія прадстаўлялі караля, а таксама запатрабаваў вяртання Падолля. Каралеўства Польскае адказала на гэта ваеннымі дзеяннямі. Цэнтрам супраціўлення стаў Алыцкі замак на Валыні. Свідрыгайла акружыў войскі караля польскага і хацеў нават захапіць Ягайлу. Але з умяшаннем Папы Рымскага канфлікт пагасілі. 7 лістапада ў Троках паміж Княствам і Каронай было заключана перамір’е. Тым не менш ваенныя дзеянні Свідрыгайла вёў актыўна.

Польская шляхта з падтрымкі вялікалітоўскіх князёў, якія былі прыхільнікамі каталіцызму, арганізавала змову супраць Свідрыгайлы і скінула яго. Вялікім князем аб’явілі Жыгімонта Кейстутавіча (1432–1440). Ён аднавіў унію паміж Княствам і Каронай, вярнуў ёй Заходняе Падолле і іншыя землі.

Некаторыя сённяшнія ўкраінскія (і не толькі) гісторыкі лічаць, што ў гэты час, калі Літва прызнала верхавенства Польшчы, Украіна аддалілася і ад Кароны, і ад Княства. Гэты перыяд яны называюць Вялікае княжанне Рускае. Яны ж сцвярджаюць, што на тэрыторыі Усходняга Падолля, Валыні, Кіеўшчыны, Сівершчыны, Смаленшчыны, Віцебшчыны,

Полацкай зямлі пачалося стварэнне **Украінска-Беларускай дзяржавы**. Уладу на месцах атрымлівалі прадстаўнікі ўкраінскай і беларускай праваслаўнай арыстакратыі. А Свідрыгайла з падтрымкі нямецкіх рыцараў пачаў ваенныя дзеянні супраць ВКЛ. Каб пазбавіць Свідрыгайлу падтрымкі ўкраінскай знаці, Ягайла ў 1432 годзе выдаў прывілей, згодна з якім ураўноўваліся ў правах літоўскія баяры-каталікі і рускія баяры, якія стаялі на баку Жыгімонта. Пачаўся пераход многіх на бок Ягайлы. У 1435 годзе пад Вількамірам адбылася бітва паміж войскамі Свідрыгайлы, якому дапамагалі крыжакі, і польска-літоўскім войскам Жыгімонта. Свідрыгайла атрымаў паразу, адмовіўся ад далейшай барацьбы і з'ехаў на Валынь.

*6 снежня 1430* — з'езд у Варце над ракой Вартай у Серадзскім павеце, на якім польская шляхта вырашыла 15 студзеня 1431 года са зброяй выступіць з-пад Кіянаў над Вепрам супраць Свідрыгайлы.

*Люты 1431* — з'езд польскай шляхты ў Сандаміры, які накіраваў паслоў да Свідрыгайлы з пагрозай распачаць вайну. Праз некалькі месяцаў пачаліся ваенныя дзеянні на Валыні пад кіраўніцтвам Ягайлы. Як зазначаў польскі гісторык Ян Длугаш, «гарчэй за смерць была яму гэтая вайна супраць роднай зямлі і роднага брата». Палякі сталі аблогай ля Луцка, у адказ, як сведчаць некаторыя гісторыкі, жыхары Валынскай зямлі разбуралі і палілі касцёлы. 1 верасня ў Чартарыйску было заключана перамір'е.

*Лета 1431* — вялікі князь літоўскі Свідрыгайла заключыў саюз з Ордэнам і Малдавіяй, скіраваны супраць Польшчы. Падбухторваў яго на гэта кароль венгерскі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, які абяцаў каранаваць Свідрыгайлу на караля літоўскага. Падчас падпісання гэтай дамовы прысутнічалі некаторыя князі Друцкія і Гальшанскія. Як вядома, малодшая сястра Соф'і Гальшанскай Марыя была замужам за Эліяшам — малдаўскім гаспадаром, што накладвала пэўны адбітак на гэтую сітуацыю.

*Чэрвень 1431* — польскі з'езд у Сандаміры, на якім прысутнічалі Ягайла і Соф'я. З падтрымкі караля з'езд прызнаў Свідрыгайлу гаспадаром Княства. З'езд прызнаў таксама права Польшчы на Падолле (землі ў Паўднёва-Заходняй Украіне), што выклікала рэзкую нязгоду Свідрыгайлы.

*8 ліпеня 1431* — памерла дачка Ягайлы і Ганны Цылейскай Ядвіга. Некаторыя абвінавачвалі каралеву Соф'ю, мачыху Ядвігі, што яна атруціла каралеўну, каб не стала перашкодай на шляху да кароны яе сынам.

*Ліпень 1431* — польска-вялікалітоўскія збройныя сутычкі, інспіраваныя Свідрыгайлам, які здабыў частку Падолля. Ягайла перайшоў памежную раку Буг і напаў на валынскія землі. Свідрыгайла адступіў ад Луцка, спаліў яго, каб не дастаўся палякам. А Тэўтонскі ордэн як саюзнік Свідрыгайлы аб'явіў вайну Кароне. Пачалася трэцяя вайна палякаў з крыжакамі, якая закончылася ў 1435 годзе.

*1431* — Ягайла арганізаваў у Вавельскім замку вялікі дыспут чэшскіх гусітаў і тэолагаў з вучонымі Кракаўскай акадэміі, які доўжыўся некалькі дзён. Кароль намагаўся дасягнуць кампрамісу, але кожны з бакоў настойліва абараняў свой пункт гледжання, паразумення знайсці не ўдалося.

*1431–1433* — каралева Соф'я з падтрымкі Ягайлы збудавала ў кафедральным касцёле ў Вавелі капліцу Святой Тройцы, якая стала пазней месцам яе вечнага спачыну. Капліца была аздоблена візантыйскімі фрэскамі і абразамі. Гэткія ж аздобы ўжо меліся ў катэдры ў Гнезне, у касцёле на Лысай Гары, у капліцы Святой Тройцы ў Любліне, у каралеўскай спальні ў Вавелі, у Сандамірскім і Вісліцкім касцёлах. Для Вавельскай капліцы Соф'я спецыяльна заказала алебастравыя пліты з рэлігійнымі сюжэтамі ў візантыйскім стылі. Капліца захавана і да гэтага часу, толькі вось цела самой Соф'і ў ёй няма.

*1431–1432* — вялікі князь маскоўскі Васіль II Васільевіч і князь Юрый Дзмітравіч, сын Дзмітрыя Данскога, накіраваліся ў Арду, каб хан вырашыў іхнюю спрэчку адносна ўлады.

Ярлык на вялікае княжанне хан выдаў Васілю, а Юрый атрымаў ярлык на Дзмітраўскі ўдзел.

*1432–1439* — грамадзянская вайна ў Вялікім Княстве Літоўскім, у выніку чаго Княства раскалолася. Гэта была вайна за гаспадарскі пасад Жыгімонта Кейстутавіча, якога прызналі берасцейскія і мінскія землі, прынёманскія воласці, іншыя ж беларускія і ўкраінскія землі захоўвалі вернасць Свідрыгайлу. Пасля прывілея Жыгімонта 1434 года Свідрыгайла страціў падтрымку, а Жыгімонт умацаваў свае пазіцыі.

*Красавік 1432* — з'езд шляхты ў Серадзе займаўся справай ваенных дзеянняў Свідрыгайлы, якія можна назваць грамадзянскай вайной. Свідрыгайла не згаджаўся з тым, каб пасля яго смерці вялікалітоўскі пасад займалі сыны караля польскага. На з'ездзе прысутнічалі Ягайла з Соф'яй і іхнія сыны. З'езд прызнаў права старэйшага сына Ягайлы на каралеўскі трон, прапанаваў Свідрыгайлу прымірэнне, пасад вялікага князя літоўскага і абяцаў яму такія ж правы, як некалі Вітаўту. А пасля Свідрыгайлы спадчынную ўладу ў Княстве павінен быў пераняць старэйшы сын Ягайлы.

*Ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1432* — вялікалітоўскія паны каталіцкага веравызнання, польская шляхта, падбухтораныя Збігневам Алясьніцкім, змовіліся аб адхіленні ад улады Свідрыгайлы. На чале змоўшчыкаў стаў Лаўр Зарэмба. Сярод іх былі гальшанскі князь Сямён Іванавіч Люты, навагародскі намеснік Пётр Манцігірдавіч, дворны маршалак Іван Гаштольд. Свідрыгайла, які накіроўваўся ў Бярэсце на перамовы з палякамі, знаходзіўся ў Ашмянах. Тут і напалі на яго змоўшчыкі. Ён мусіў пакінуць цяжарную жонку і ўцячы ў Полацк і Смаленск, там заявіў аб існаванні незалежнага Вялікага Княства Рускага са сталіцай у Полацку. Летапісец так засведчыў гэта: «Литва же посадиша великаго князя Жикгимонта Кесьтутевичь на великое княжение на Вилни и на Троцех месяца сентября 1 день. И приде Швитригайло на Полотескь и на Смоленскь, и князи руськыи и бояре поса-

диша князя Швитрыгайла на великое княжение на Руское». На гаспадарскім пасадзе ў Княстве апынуўся брат Вітаўта Жыгімонт Кейстутавіч, які з'явіўся на літоўскіх землях з польскімі воямі і нават заняў Вільню. Жыгімонт аб'явіў, што Свідрыгайла мёртвы, і таму яго прызналі Гародня, Трокі, Коўна, Жамойць.

Аднак пэўная частка зямель, найперш з праваслаўнымі жыхарамі (Віцебская, Смаленская, Чарнігава-Северская, Кіеўская, частка Валыні і Падолля) падтрымлівала Свідрыгайлу, прызнавала яго сваім князем. Свідрыгайла схіліў на свой бок Смаленскага епіскапа Герасіма, для якога дабіўся сана мітрапаліта. Але неўзабаве западозрыў яго ў сувязях з палякамі і загадаў спаліць у Віцебску. Пасля гэтага праваслаўныя жыхары Княства пачалі з насцярожанасцю адносіцца да Свідрыгайлы, што паскорыла яго падзенне.

Пачалася барацьба Свідрыгайлы за пасад. У гэты час уся ўвага вялікалітоўскіх князёў была скіравана на вырашэнне ўнутраных праблем, таму ўзаемаадносіны з рускімі княствамі сталі больш спакойнымі. Пасля забойства ў 1440 годзе Жыгімонта Кейстутавіча Свідрыгайла вярнуўся ў валынскі Луцк, стаў прыхільнікам вялікага князя літоўскага Казіміра. Свідрыгайла памёр у 1452 годзе, пахаваны ў Віленскім кафедральным касцёле.

*15 кастрычніка 1432* — у Княства прыбыло польскае пасольства на чале са Збігневам Алясьніцкім. У Гародні падпісана унія аб польска-літоўскім паразуменні. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч атрымліваў згоду пажыццёва ўладарыць у Княстве пры ўмове прысягі на вернасць каралю польскаму і Кароне, разрыву саюза з крыжакамі і вяртання Кароне Падолля ўзамен на Валынь. Вялікалітоўцы згадзіліся, каб ВКЛ пасля Жыгімонта па спадчыне перайшло да караля польскага і яго сыноў Уладзіслава і Казіміра. Жыгімонт аддаў Польшчы паўднёва-заходнія ўкраінскія землі — Падолле і заявіў, што ні ён, ні на-

шчадкі не будуць дамагацца тытула караля. Ад імя караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы Збігнеў Алясьніцкі правёў неабходны рытуал і ўручыў Жыгімонту меч. Ад імя Ягайлы і са згоды вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча выдадзены прывілей, згодна з якім праваслаўныя князі і баяры ўраўноўваліся ў асабістых і маёмасных правах з феадаламі-католікамі. Гэты заканадаўчы акт быў прыняты ў дзень заключэння новай, Гарадзенска-Трокскай уніі (1432–1433). 3 студзеня 1433 года Ягайла зацвердзіў гэтыя дамовы.

*1432–1439* — феадальная грамадзянская вайна ў Княстве паміж князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам. У 1432 войскі Жыгімонта сталі аблогай каля Мсціслава, які знаходзіўся ў руках Свідрыгайлы. Аблога доўжылася тры тыдні, але вынікаў не дала. Жыгімонта падтрымліваў мітрапаліт праваслаўнай царквы ў Княстве Герасім, за што Свідрыгайла ў 1435 годзе зняволіў яго і праз 4 месяцы загадаў спаліць у Віцебску, дзе тады знаходзіўся сам Свідрыгайла.

*1432* — Ноўгарад абʼявіў аб падтрымцы вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы.

*1432* — Свідрыгайла сабраў значныя сілы і вырушыў углыб Літвы. 30 лістапада пад Ашмянамі ён быў разбіты. Пскоўскі летапіс сведчыць: «оу Свидригаила падоша полочани…» Тут трапіў у палон да Жыгімонта Кейстутавіча і Юрый Мсціслаўскі.

*1433* — Віцебскі зʼезд, альбо вальны сойм Вялікага Княства Літоўскага, на якім большасць князёў, паноў, рыцарства і мяшчан прынялі зварот-скаргу да Папы Рымскага Яўгена IV на вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча.

*1433* — Свідрыгайла заняў Лідскі замак і штурмам авалодаў Крэўскім замкам. Летапіс Красінскага так паведамляў пра гэта: «И стоял Швитригаило во Иешишках чотыри дни, и поидеть проч от Троков на свою землю Рускую, и напервеи приидеть ко Креву. И стоял 2 недели и добыл Крева города мурованого,

и выжже огнем, а людии много посекоша и в полон повели. И оттоле князь Швитригаило поидеть на Молодечно…»

*1433* — жмудзіны адмовіліся ад удзелу ў барацьбе вялікага князя Жыгімонта са Свідрыгайлам.

*8 лютага 1433* — знакаміты шлюб Васіля II Васільевіча (яму 17 гадоў) з Марыяй Яраслаўнай — сястрой серпухаўскага князя Васіля Яраславіча. На ім ягоная маці вялікая княгіня Соф'я Вітаўтаўна сарвала залаты наследны пояс Дзмітрыя Данскога з сына Юрыя Дзмітравіча — Васіля Касога ў прысутнасці ягонага брата Дзмітрыя Шамякі. Зганьбаваныя Юр'евічы на чале са сваім бацькам пачынаюць ваенныя дзеянні супраць Масквы. Юрый Дзмітравіч упершыню з'яўляецца на маскоўскім пасадзе, але неўзабаве адмаўляецца ад яго на карысць Васіля II Васільевіча.

*15 снежня 1433* — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Паўль фон Русдорф падпісаў з палякамі мір на 12 гадоў, што пазбаўляла Свідрыгайлу падтрымкі крыжакоў. Аднак імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі выказаў рэзкі пратэст, і Ордэн зноў стаў падтрымліваць Свідрыгайлу. Не падтрымліваў Свідрыгайлу мітрапаліт Герасім, якога Свідрыгайла ў 1432 годзе вылучыў на мітрапаліта праваслаўнай царквы ў Княстве, а таксама мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі. Мітрапаліта абвінавацілі нават у тым, што ён хоча перадаць Смаленск прыхільнікам Жыгімонта. Герасіма зняволілі, а праз 4 месяцы, 26 ліпеня 1435 года, спалілі на плошчы ў Віцебску. Гэта не дадало павагі Свідрыгайлу і садзейнічала ягонай паразе.

*1434* — войскі Свідрыгайлы занялі Менск, Віцебск, Полацк. Летапіс Красінскага так паведамляў пра гэта: «…и пришли к Менску. И Менско взяли и выжгли, и людеи много в полон повели, мужеи и жон, и много лиха учинивши князьству великому Литовскому, и пошли во свою землю Рускую. И пришли к Борисову, и там зымали князя Михаила Ивановича Голшанского на реце на Березыни, и послали

его к Витебску, и там его велел утопити под Витебск у Двине, а иняли его невинного. А потом мистр лифлянскии поидеть во свою землю з лифлянты, а князь великии Швитригаило поидеть к Лукомлю. И тут воиско свое роспустил, князеи и бояр, а сам поидеть до Склева».

*1434* — князь Юрый, сын Дзмітрыя Данскога, разбіў войска вялікага князя маскоўскага Васіля II Васільевіча і заняў высокі пасад. Аднак 5 чэрвеня вялікі князь маскоўскі (уладзімірскі), князь звенігародскі і галіцкі Юрый Дзмітравіч памёр.

*1434* — у адказ на запросіны Жыгімонта Кейстутавіча Ягайла паехаў на пачатку года у Княства, каб урачыста ўвесці ў сталіцу вялікага князя. Пасля гэтага выехаў на Русь.

*5 красавіка 1434* — Ягайла выехаў з Корчына (цяпер Новы Корчын) у Галіч, каб прыняць прысягу малдаўскага князя Штэфана.

*30 красавіка 1434* — Ягайла прыехаў у вёску Медыка. Тут раптоўна пахаладала, пайшоў снег. Аднак кароль не прамінуў выпадку, каб паслухаць начныя спевы сваіх любімых салаўёў. Выходзіў да іх у сваім звыклым кажушку. Прамёрз, прастудзіўся. Загадаў адвезці яго ў Гарадок, заснаваны ў 1213 годзе, якому Ягайла надаў магдэбургскае права, а ў 1419 годзе заклаў тут фарны касцёл. 17 дзён лекары намагаліся вылечыць манарха. Але поспеху не мелі: 31 мая ён памёр.

Вось як пра тое пісаў Бельскі хранікёр: «Па дарозе затрымаўся кароль у лесе, як звычайна, бо вельмі любіў паляванне і слухаў салаўіны пошчак ажно да поўначы, а паколькі была халодная пара, прастудзіўся, занямог, а прыехаўшы ў Гарадок на куццю, седзячы за сталом з пасламі валашскага ваяводы, моцна занядужаў і ў святочны панядзелак памёр…»

*У ноч на 1 чэрвеня 1434* — у Гарадку ля Львова на 82-м годзе жыцця на руках свецкіх і духоўных саноўнікаў, якія знаходзіліся каля яго, памёр кароль польскі і найвышэйшы (вярхоўны) князь літоўскі Ягайла. Хоць існуе версія, што памёр Ягайла 31 мая а трэцяй гадзіне ночы. 48 гадоў знахо-

дзіўся Ягайла на ўладных пасадах у Княстве і Кароне. Перад смерцю прасіў, каб на караля абралі старэйшага сына Уладзіслава, а апеку над абодвума сынамі даручаў Збігневу Алясьніцкаму. Пасцельнічаму Яну Слабошу аддаў пярсцёнак ад шлюбу з Ядвігай, які ўвесь гэты час насіў на пальцы. Загадаў перадаць пярсцёнак Збігневу Алясьніцкаму. І ўжо на самым астатку сіл яшчэ раз заявіў аб перадачы ўлады свайму сыну Уладзіславу.

З цела караля дасталі сэрца, якое пахавалі ў касцёле Гарадка. Гэта быў першы выпадак падобнага рытуалу ў Польшчы. А вось дзе дакладна яно было пахавана, невядома. Бо пазней касцёл быў скарыстаны пад вайсковыя патрэбы — як склад, кляштар — спачатку як кватэра палкоўніка аўстрыйскага войска, а затым як казармы. У Гарадку ж захавалася легенда, што над тутэйшым возерам штогод у дзень смерці караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы цэлую ноч выспеўваюць салаўі, якія прылятаюць нават з Львова, які знаходзіцца за 33 кіламетры ад Гарадка.

Цела Ягайлы паклалі ў драўляную труну, аблітую смалой і пазначаную каралеўскімі гербамі, павезлі ў Кракаў. Па дарозе адбываліся жалобныя набажэнствы, паніхіды, на якія сцякаўся люд просты і панскі. Чуўся плач, гучалі словы жалю, павагі і шанавання.

*11 чэрвеня 1434* — у Кракаў прыбыў жалобны картэж з трунай Ягайлы. Кароль быў у кароне і ў каралеўскім адзенні. Ля варот горада картэж сустракала каралева Соф'я з сынамі, на вуліцы выйшлі не толькі працэсіі з усіх касцёлаў, а і рамесныя цэхі, прадстаўнікі ўсіх саслоўяў. Атрымаўшы вестку пра смерць караля, вярнуліся з дарогі на Базельскі сабор Кракаўскі біскуп Збігнеў Алясьніцкі і канцлер Ян з Канецполя — у гэткі час біскуп не мог пакінуць без нагляду справы Кароны, якімі ў адсутнасць караля апекаваўся ўжо даўно. Труну паставілі ў касцёле Святога Міхаіла ў Вавельскім замку.

*18 чэрвеня 1434, пятніца* — пахаванне Ягайлы. Пахавальны абрад адбыўся ў Вавельскай катэдры Святога Станіслава, якая пасля смерці караля Уладзіслава Лакеткі (1333) служыла каралеўскім некропалем. Як зазначаў Ян Длугаш, труну з целам да касцёла везлі пакрытыя ярка-пурпуровым убраннем коні, якіх вялі рыцары ў поўным узбраенні. Паперадзе ішоў рыцар з высока ўзнятай харугвай. У касцёле ярка гарэлі свечкі і факелы. Труна была накрыта пурпурам і аксамітам. Соф'я плакала на ўвесь касцёл. Як таго патрабаваў даўні звычай, у касцёл увялі і коней, пакрытых каштоўнымі пакрываламі. Жалобную ўрачыстую службу вёў арцыбіскуп Войцех Ястшэмбец, якому асісціравалі ўсе польскія біскупы. А майстар Павел з Заторы называў усе тытулы памерлага, ды так жаласна, што выклікаў слёзы у прысутных.

Пасля труну паставілі ў саркафаг з чырвонага мармуру, які быў зроблены на заказ самога Ягайлы, верагодна, каля 1421 года, і пахавалі насупраць алтара святога Крыштофа — месца яшчэ пры жыцці выбраў сам Ягайла. Надмагілле ўяўляе высокамастацкі твор, на якім змешчана фігура караля, майстрамі выразаны падвойныя шчыты з гербамі Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага і адзіночныя шчыты з гербамі Русі, Велікапольшчы і Дабжанскай і Вялюньскай зямель. Ля ног манарха ляжыць гідра — сімвал зла, галава супакоілася на падушцы, якая пакладзена на галовы ільвоў. Сімвалічнае значэнне маюць выявы ўнізе саркафага сабак, якія паўзком даганяюць сокалаў. Адны звязваюць гэта з моцным захапленнем Ягайлы паляваннем. Іншыя бачаць у гэтым праяву адвечнай барацьбы дабра са злом. Было ў сярэднявеччы і такое меркаванне: сабака — гэта стораж дому, сімвал чуйнасці і добрага пастыра.

Выбары новага караля прызначылі на 29 чэрвеня, але пасля перанеслі на 25 ліпеня.

*20 ліпеня 1434* — апазіцыйны з'езд у Кракаве, на якім апазіцыя дынастыі Ягайлы (Спытак з Мельштына — сын

Спытка, які загінуў у бітве Вітаўта на Ворскле, пазнанскі суддзя Абрахам Збарскі, Ян з Касцельніка, унук прымаса Дзержыслаў з Рытвян) намагалася не дапусціць да ўлады Ягайлавага сына Уладзіслава. Ды раптоўна на з'ездзе з'явіўся біскуп Алясьніцкі, якому Соф'я паслала коней, бо ягоныя былі загнаныя. Яму ўдалося змяніць сітуацыю на карысць Соф'інага сына, за што яна пазней выказала публічную падзяку.

*25 ліпеня 1434* — элекцыйны з'езд у Кракаве, у Белай зале Вавельскага замка. На ім 10-гадовы Ягайлаў сын Уладзіслаў меў быць абраным на караля польскага. Аднак і тут не абышлося без выступу апазіцыі. Збігнеў Алясьніцкі адстойваў правa Уладзіслава, спасылаўся на статуты Казіміра Вялікага, якія не забаранялі малалетнім каранавацца. Дапамог і ягоны брат маршалак каронны Ян Галавач Алясьніцкі. Па яго прапанове прыхільнікі Ягайлавіча мусілі стаць справа, а праціўнікі — злева. «Левых» аказалася ўсяго трое: Спытак, Абрахам і Ян з Касцельніка, але і іх сапхнулі пасля да агульнага грона.

У той жа дзень адбылася каранацыя, якая трывала ад дванаццатай гадзіны да вечара. Урачысты абрад выконваў прымас Войцех Ястшэмбец.

Асабістае апякунства над Уладзіславам III было заменена на апеку ўсёй Кароннай Рады, у якой галоўную ролю адыгрываў Збігнеў Алясьніцкі. З яго ініцыятывы польскае пасольства накіравалася да імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунда прасіць рукі ягонай старэйшай унучкі Ганны для маладога караля. Алясьніцкі меў надзею гэткім чынам (ажаніўшы і другога Ягайлавага сына Казіміра з другой унучкай імператара Эльжбетай) прывязаць састарэлага венгерскага караля да інтарэсаў Кароны. Аднак Сігізмунд пажадаў апякунства над малалетнім Уладзіславам, на што палякі не згадзіліся. Тады Сігізмунд аб'явіў сябе прыхільнікам Ордэна і Свідрыгайлы.

*8 мая 1435* — з'езд польскай шляхты ў Серадзе, на якім Соф'я дамагалася вызвалення з-пад варты свайго швагра

Іллі — мужа сястры Марыі, былога малдаўскага гаспадара, які ў выніку перавароту быў адхілены ад улады, уцёк у Кракаў, дзе Ягайла мусіў зняволіць яго. З'езд, каб не парушыць прысягі новага малдаўскага гаспадара Штэфана на вернасць Кароне, не вызваліў Іллю. Аднак Соф'я паспрыяла таму, каб Ілля ўцёк і зноў апанаваў пасадам. 29 верасня ён склаў у Львове прысягу на вернасць каралю польскаму. Разам з трыццаццю пяццю баярамі ён стаў на калені перад Уладзіславам, ламаў дрэўкі харугваў і кідаў іх да ног караля, які пасля пацалаваў Іллю на знак прымірэння, а баярам даў пацалаваць сваю правую руку.

*1435* — у Ноўгарадзе абвалілася толькі што збудаваная царква Іаана Залатавуста. Наўгародцаў апанаваў страх: яны ўбачылі ў гэтым знак падзення Ноўгарада ад рук Івана IV Грознага, які нарадзіўся 22 студзеня 1440 года. Калі ён нарадзіўся, юродзівы старац Міхаіл пачаў званіць на званіцы Клопскага манастыра і крычаў, што «в Москве родился Иван, победитель Новгорода; что он упразднит гордыню Новгорода; разрушит самовластие, изменит самовольные обычаи и за непокорство многую беду, посечение, плен сотворит и богатства и села новгородские примет!»

*1435* — Жыгімонту Кейстутавічу здаліся Смаленск і Орша.

*26 ліпеня 1435* — на плошчы ў Віцебску па загадзе Свідрыгайлы быў спалены мітрапаліт Кіеўскі для ВКЛ Герасім. Адной з прычын названа яго здрада Свідрыгайлу і падтрымка Жыгімонта.

*1 верасня 1435* — у бітве пад Вількамірам Свідрыгайла, якога падтрымлівалі крыжакі, пацярпеў страшную паразу ад войска Жыгімонта Кейстуваіча. 42 князі былі захоплены ў палон. Свідрыгайла ўцёк з поля бітвы ў Віцебск, а пасля на Валынь. У бітве загінуў Жыгімонт Карыбутавіч, які ад гусіцкіх чэхаў перакінуўся да Свідрыгайлы.

*31 снежня 1435* — у Брэсце-Куяўскім заключаны «вечны» мір Кароны з крыжакамі. Свідрыгайла канчаткова стра-

цыю падтрымку Тэўтонскага ордэна, які адмовіўся спрыяць дзеянням, скіраваным на шкоду Каралеўству Польскаму.

*1436* — у Княстве ўведзена інквізіцыя. Як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, гэта было зроблена каталікамі-езуітамі для барацьбы з ідэямі гусізму, якія атрымалі пашырэнне на велікакняскіх землях.

*1436* — у Ноўгарадзе заключаны з Жыгімонтам «мир и любовь по старине как было издавна от начала» — так піша Патрыяршы, або Ніканаўскі летапіс. У Ноўгарад прыехаў добра вядомы наўгародцам князь Юрый Мсціслаўіч.

*21 мая 1436* — вялікі князь маскоўскі Васіль II Васільевіч загадаў здзейсніць чарговае асляпленне — «выкалалі вочы» Васілю Юр'евічу, якога празвалі Касым. Ён ваяваў з Васілём Васільевічам за маскоўскі пасад.

*1436* — Жыгімонту Кейстутавічу здаліся Полацк і Віцебск.

*1436* — у пошуку новых саюзнікаў Свідрыгайла прыехаў у Кракаў. Ён намагаўся перашкодзіць саюзу караля польскага Уладзіслава (пазней, пасля гібелі пад Варнай, празванага Варненьчыкам) з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмундам. Аднак гэта не ўдалося. Тады праз некаторы час Свідрыгайла заключыў сепаратную дамову з прадстаўнікамі шляхты рускіх зямель Кароны, якая прадугледжвала перадачу Луцкай зямлі Польшчы.

*4 верасня 1437* — у Львове падпісана паразуменне, згодна з якім Свідрыгайла ставіў сябе ў васальную залежнасць ад Каралеўства Польскага і абяцаў, што пасля яго смерці ўсе ўладанні будуць перададзены Кароне.

*6 снежня 1437* — у Гародні вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч разам з прэлатамі, князямі, панамі, баярамі і рыцарамі вялікалітоўскімі абяцаў палякам выканаць умову уніі 1432 года аб тым, што пасля яго смерці землі будуць перададзены Кароне.

*9 снежня 1437* — памёр кароль венгерскі і чэшскі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Люксембургскі, спадчыннікам якога на троне станавіўся ягоны зяць Альбрэхт Габсбургскі. Аднак, паколькі ён быў прыхільнікам антыгусіцкіх настрояў і таму не меў папулярнасці ў чэхаў, апазіцыя прапанавала запрасіць на пасад сына Ягайлы Казіміра Ягелончыка. Калі пра гэта даведаліся ў Кракаве (4 мая 1438), Казіміру было 11 гадоў. Аднак яму не ўдалося апанаваць пасадам, хоць да гэтага вельмі імкнулася маці — каралева польская Соф'я.

*20 красавіка 1438* — на з'ездзе ў Новым Корчыне польская шляхта дала панам чэшскім згоду на іхнюю прапанову запрасіць Казіміра Ягелончыка на чэшскі пасад (папярэдні гаспадар Чэхіі Сігізмунд Люксембургскі памёр у 1437). Гэтаму супраціўляўся Збігнеў Алясьніцкі. Выправа Казіміра па карону скончылася няўдала.

*29 мая 1438* — на з'ездзе ў Мельніках 12-гадовы Ягайлаў сын Казімір абраны чэшскім каралём, справе гэтай спрыялі гусіты. Аднак 25 чэрвеня ў Празе на караля каранаваўся Альбрэхт Габсбургскі, які стаў пасля смерці Сігізмунда каралём венгерскім.

*Верасень 1438* — Уладзіслаў III, першы сын Ягайлы, разам з братам Казімірам вырушыў на чэхаў, каб падтрымаць справу каранацыі Казіміра.

*16 снежня 1438* — на Пётркаўскім з'ездзе польскай шляхты 14-гадовы Уладзіслаў III быў афіцыйна прызнаны паўналетнім, хоць гадавіна гэтая споўнілася 31 кастрычніка. Скончылася роля рэгента, якую выконвала ў дачыненні да яго Каронная Рада.

*27 кастрычніка 1439* — раптоўная смерць імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, караля венгерскага і караля чэшскага Альбрэхта Габсбургскага, зяця папярэдняга імператара Сігізмунда Люксембургскага.

*1439* — луцкія жыхары аддаліся пад уладу вялікага князя літоўскага Жыгімонта.

*1439* — Кіеўская зямля прызнала ўладу вялікага князя літоўскага Жыгімонта.

*Снежань 1439* — у венгерскую Буду да ўдавы караля венгерскага Эльжбеты прыбыло польскае пасольства з наказам Алясьніцкага заключыць шлюбную унію Венгрыі і Польшчы — пашлюбіць Уладзіслава, першага Ягайлавага сына, з Эльжбетай — каралеўскай дачкой.

*Студзень 1440* — венгерскі сойм, які быў настроены супраць крыжакоў, каб спыніць бескаралеўства, настойваў на шлюбе ўдовай каралевы Эльжбеты (якая была цяжарная) і караля польскага Уладзіслава III альбо сербскага Лазара. Пад націскам сойма ўдава згадзілася на шлюб з Уладзіславам, які быў у два разы маладзейшы за яе. А 22 лютага 1440 года ў яе нарадзіўся сын, якога назвалі Уладзіславам (Ласла) па мянушцы Паграбовец (Пасмяротны). Эльжбета і абвясціла яго манархам, адначасна забрала назад згоду выйсці замуж за польскага караля. Уладзіслаў III таксама палохаўся такога шлюбу, але некаторыя польскія шляхціцы, якія намагаліся запрыязніць венграў да Кароны, настойвалі на гэтым.

*1440* — суровая зіма на польскіх землях. Пачаўся вялікі голад, людзі елі кару з дрэў, з травы пяклі хлеб, здзіралі стрэхі з будынкаў і кармілі жывёлу.

*8 сакавіка 1440* — у Кракаўскай катэдры 16-гадовы сын Соф'і і Ягайлы Уладзіслаў, празваны пазней Варненьчыкам, урачыста прыняў прапанаваны яму венгерскі пасад і паабяцаў ажаніцца з Эльжбетай-маці. Стаў каралём венгерскім пад імем Уласла (Ласла) I. На 1 мая была прызначана каранацыя. Уладзіслаў ад'ехаў у Буду. Такім чынам завяршылася барацьба за венгерскі пасад паміж Уладзіславам III Ягелончыкам і прыхільнікамі малалетняга сына Эльжбеты.

*20 сакавіка 1440* — у выніку змовы, арганізаванай валынскімі князямі Іванам і Аляксандрам Чартарыйскімі, кіеўскім баярынам Скабейкам і ваяводамі віленскім Іва-

нам Доўгірдам і трокскім Пятром Лелушам, забіты вялікі князь літоўскі, брат Вітаўта Жыгімонт Кейстутавіч, які апошнія гады свайго жыцця праводзіў нелюдзіма ў Старатрокскім замку, нікому не давяраючы, апроч прыручанай мядзведзіцы, якая мела права свабодна хадзіць па замку і нават у княскія пакоі, што скарысталі змоўшчыкі. Ноччу перад Вербнай нядзеляй на двор Трокскага замка заехала 300 саней з сенам, у якім хаваліся змоўшчыкі. Яны тайна трапілі ў княскі пакой і забілі Жыгімонта качаргой для каміна, вывезлі цела на возера і пакінулі на лёдзе. Пазней Жыгімонт быў урачыста пахаваны ў Віленскім саборы побач з Вітаўтам.

Летапіс Красінскага так паведамляў пра гэта: «Того же князя великого Жикгимонта в Троцех зарезали у вербную неделю передо обедом, и была замятня великаа в Литовскои земли».

Пасля смерці бацькі пасад намерваўся заняць ягоны сын Міхаіл, але пачаліся паўсюдныя хваляванні. Бунт адбыўся і ў Смаленску. Бунтаўшчыкі захапілі крэпасць, перабілі літоўскі гарнізон, а каменданта ўтапілі ў Дняпры. Тады вялікалітоўскія паслы накіраваліся да польскага караля Уладзіслава III, сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, які ў гэты час знаходзіўся ў Венгрыі, дзе павінен быў разабрацца са сваімі каранацыйнымі справамі, з просьбай адпусціць роднага брата Казіміра на гаспадарства ў Вялікае Княства Літоўскае. Кароль згадзіўся, але не хацеў бачыць Казіміра вялікім князем, а толькі намеснікам караля. Аднак вялікалітоўскія мужы перахітрылі і каранавалі Казіміра на гаспадара.

*Красавік 1440* — перад выездам у Венгрыю кароль польскі Уладзіслаў сабраў у Новым Сончы з'езд, на якім вяліся дыскусіі наконт таго, як кіраваць Каронай у адсутнасць караля. Новы Сонч быў абраны месцам высокай рады дзеля таго, каб лягчэй адысці ад фармальных звычак вядзення з'ездаў і мець большы ўплыў на прыняцце рашэнняў. Кароль вызначыў

сваіх наместнікаў, прадстаўнікоў у дзвюх найбольшых тэрыторыях Кароны — Велікапольшчы і Малапольшчы. Тут жа Уладзіслаў прыняў рашэнне аб ад'ездзе свайго малодшага брата Казіміра ў Княства ў якасці намесніка. Казімір выправіўся ў Княства з вялікай групай каралеўскіх прадстаўнікоў, яго суправаджалі таксама каля дзвюх тысяч польскіх рыцараў. Тут (у Чорштыне) 23 красавіка Уладзіслаў апошні раз бачыўся з маці — каралевай Соф'яй, якая спецыяльна дзеля гэтага прыехала разам з меншым сынам Казімірам.

*29 чэрвеня 1440* — паны-рада Вялікага Княства Літоўскага выбралі Казіміра Ягайлавіча сваім гаспадаром. У Віленскім кафедральным саборы абрад выканаў Віленскі епіскап, Казіміра каранавалі мітрай Гедыміна, вялікі маршалак уручыў меч. У звычайным жыцці абрад каранацыі неўзабаве атрымаў назву «ўзвышэнне мячом». Абранне Казіміра выклікала незадавальненне польскіх паноў і самога караля. Вялікаму князю было 14 гадоў, таму да яго прыставілі раду з вялікалітоўскіх сенатараў на чале з біскупам Мацеем. Сам каралевіч пачаў старанна вучыць літоўскую і беларускую мовы. Сведчаць, што прыход да ўлады Казіміра звязаны з дзейнасцю Гальшанскай групоўкі на чале з Іванам Гаштольдам. Гальшанскай назвалі таму, што ў Гальшанскім замку ў князя Юрыя сабраліся людзі, якія не хацелі ўмацавання пазіцый Свідрыгайлы, рабілі стаўку на Казіміра — брата караля польскага Уладзіслава III Ягайлавіча. Гэты збор палічылі Гальшанскім з'ездам, які некаторыя літоўскія гісторыкі адносяць да найважнейшых у справе захавання літоўскай дзяржаўнасці, гэта значыць, самастойнасці Княства.

Летапіс Красінскага так паведамляў пра гэта: «Тогды рада Литовская княжене, князи и панове и вся земля, дорадившися, и взяли собе з Ляхов князем великим Казимира королевича и посадили его с честию на столечном городе на Вилни и на Троцех и на всеи земли Литовскои и на Рускои».

У гэты час узніклі буйныя рознагалоссі Княства і Кароны адносна права на Валынь і Падолле. Княства рыхтавалася да вайны з палякамі і ўступіла ў зносіны з Ордэнам, каб ён дапамог у барацьбе з Польшчай. Не аціхалі дэцэнтралізацыйныя настроі ў самім Княстве. Смаленская зямля запрасіла князем Юрыя Лінгвенавіча, Дарагавіцкая зямля аддалася мазавецкаму князю Баляславу. Сілай зброі Казімір уз'яднаў гэтыя землі з Княствам. Аднак і пры ім у складзе ВКЛ існавалі асобныя княствы: Валынскае, Кіеўскае, Мсціслаўскае і інш.

У канцы княжання Казіміра, з часу далучэння да Маскоўскага княства Вялікага Ноўгарада, пачаліся складаныя адносіны паміж ВКЛ і Масквою. Да маскоўскага ўладара перайшлі вялікалітоўскія князі Іван Міхайлавіч Варатынскі, Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі, Іван Васільевіч Бялеўскі.

Казімір княжыў больш як паўвека — да 1492 года, з 1447 года быў і каралём польскім.

*17 ліпеня 1440* — Ягайлаў сын, кароль польскі Уладзіслаў III каранаваны на караля венгерскага (папярэднік Альбрэхт II Габсбургскі раптоўна памёр 27 кастрычніка 1439 года). Польска-венгерская персанальная унія. А перад гэтым удовая каралева Эльжбета выкрала карону святога Стэфана, каб ёю каранаваць свайго трохмесячнага сына Уладзіслава Паграбоўца. Сойм, які выбраў польскага караля Уладзіслава III, не прызнаў каранацыі Паграбоўца. Пачаліся двухгадовыя ўнутраныя збройныя сутычкі.

*1440* — Вялікае Княства Літоўскае прызнала самастойнасць Пскова.

*1441* — вайна паміж Псковам і Ноўгарадам.

*Студзень 1441* — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Павел (Паўль) фон Русдорф адмовіўся ад сваёй пасады.

*12 красавіка 1441* — вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны Конрад фон Эрліхсгаўзен.

*1442* — вялікі князь літоўскі Казімір заключыў дамову з Ноўгарадам аб узаемнай дапамозе ў барацьбе супраць Вялікага княства Маскоўскага.

*8 ліпеня 1442* — Вялікае Княства Літоўскае падпісала дагавор з малдаўскім гаспадаром Іллёй супраць усіх непрыяцеляў, акрамя караля польскага і татарскага хана.

*1442* — устаноўлена незалежнасць (аўтакефалія) рускай мітраполіі ад Візантыі.

*1442* — Свідрыгайла, які 6 чэрвеня 1440 года прысягнуў на вернасць Ягелонам, вярнуўся з Малдавіі на Валынь. У гэты час на вялікалітоўскіх землях пашыраўся сепаратызм, ішлі вострыя спрэчкі аб урэгуляванні ўлады і прыналежнасці зямель вялікалітоўскім і польскім уладальнікам.

*Верасень 1443* — намоўлены папскім легатам Юліянам Цэзарыні кароль польскі Уладзіслаў Ягелончык на чале венгерскага войска і польскіх добраахвотнікаў выправіўся супраць Турцыі, атрымаў перамогу ў Сербіі і здабыў балгарскую Сафію.

*1443* — вялікі князь літоўскі Казімір накіраваў у суправаджэнні татараў і з атрадам вояў пад кіраўніцтвам Радзівіла ў Крым Хаджы-Гірэя, які жыў у Лідзе. Ён стаў першым крымскім ханам і заснавальнікам Крымскага ханства, якое было створана ў Крыме і Паўночным Прычарнамор'і і з'яўлялася незалежным ад Залатой Арды.

*1443* — Уладзіслаў Ягелончык ураўнаваў правы праваслаўнага духавенства з правамі каталіцкіх святароў.

*Снежань 1443* — Збігнеў Алясьніцкі набыў ва ўласнасць Кракаўскага біскупства Сіверскае княства. З гэтага часу кракаўскія біскупы мелі тытул князёў сіверскіх.

*Пачатак 1444* — вялікалітоўскія войскі ўступілі на Падляшша і Мазовію.

*1 красавіка 1444* — кароль польскі Уладзіслаў Ягелончык падпісаў выгадны для Венгрыі і хрысціянскага свету мір у Шэгедыне.

*26 жніўня 1444* — Пётркаўскі з'езд прыняў заклік да караля польскага Уладзіслава III Ягелончыка тэрмінова прыехаць з Венгрыі ў Польшчу для вырашэння неадкладных дзяржаўных спраў. Кароль паабяцаў вярнуцца пасля перамогі над туркамі, у паходзе супраць якіх ён у гэты час знаходзіўся.

*21 верасня 1444* — кароль польскі Уладзіслаў Ягелончык з намовы папскага легата Юліяна Цэзарыні сарваў мір і пачаў другі турэцкі паход, перайшоў Дунай, рушыў на Адрыянопаль.

*10 лістапада 1444* — у бітве з туркамі ля балгарскай Варны асманскі султан Мурад II разбіў хрысціянскае войска, выстаўленае польскім каралём Уладзіславам III Ягелончыкам і венграм Янашам Хуньядзі. Тут загінуў і сам Уладзіслаў. Вестка пра паразу дайшла да Польшчы толькі ў снежні. Аднак цела 20-гадовага караля польскага на полі бітвы не знайшлі, што доўгі час давала падставы лічыць яго жывым. А пасля гэтага Уладзіслава сталі называць Варненьчыкам.

*1444–1447* — другое бескаралеўства ў Польшчы.

*23 красавіка 1445* — на элекцыйным з'ездзе ў Серадзе вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык завочна абраны на караля польскага. Моц гэтага рашэння павінен быў засведчыць з'езд у Пётркаве, прызначаны на 24 жніўня таго ж года. Аднак пакуль канчатковы лёс караля Уладзіслава III быў невядомы (многія лічылі, што ён жывы), Казімір адмовіўся займаць каралеўскі пасад і на з'езд не прыехаў. Палякі ў кастрычніку выслалі да Казіміра ў Гародню афіцыйнае пасольства сената. У яго ўваходзілі архіепіскап Гнезненскі Вінцэнт, кардынал польскі Збігнеў Алясьніцкі, ваяводы кракаўскі Тэньчынскі, пазнанскі — Гурка і іншыя, канцлер Ян Канецпольскі і маці Казіміра Соф'я. Маці не бачылася з сынам пяць гадоў, нарэшце яны спаткаліся ў Гародні. Казіміру прапанавалі пайсці на выбары караля. Ён не згадзіўся. Пачаліся двухгадовыя перамовы і ўгаворы. Палякі дабіліся толькі, што Казімір даў

згоду склікаць агульны сойм Літвы, Жмудзі і Русі, каб вырашыць пытанне аб лёсе польскай кароны.

*30 лістапада 1445* — вальны сойм Княства ў Вільні, у ім удзельнічаў і Свідрыгайла, які выступаў за спадчыннасць польскай кароны, а не элекцыйнасць (выбарнасць) караля.

*Ліпень — кастрычнік 1445* — няўдалы паход маскоўскага вялікага князя Васіля II, сына Васіля I і Соф'і Вітаўтаўны, на Казань, князь трапіў у палон.

*1446* — прыхільнікі Збігнева Алясьніцкага, які не хацеў аддаляць Княства ад Кароны, вылучаюць прапанову аддаць польскі пасад маркграфу брандэнбургскаму Фрыдрыху Гогенцолерну. Апазіцыйная Алясьніцкаму шляхта прапанавала іншы варыянт. 30 чэрвеня на Пётркаўскім сойме яна настойвала на каранацыі князя мазавецкага Баляслава IV, падмацоўваючы гэта пазіцыяй вялікага князя літоўскага Казіміра.

*6 студзеня, 27–30 сакавіка 1446* — чарговыя з'езды ў Пётркаве, на якіх вырашаўся лёс польскай кароны. Вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык па-ранейшаму ўпарціўся, адмаўляўся, таму 30 чэрвеня каралём польскім назвалі мазавецкага князя Баляслава IV, робячы гэткім чынам націск на Казіміра Ягелончыка. Аднак Баляславу паставілі ўмову, што каралеўскі пасад ён зойме толькі тады, калі чарговы раз адмовіцца Казімір.

*Люты 1446* — мяцеж князя Дзмітрыя Шамякі. Ён захапіў Маскву і асляпіў маскоўскага вялікага князя Васіля II — унука Вітаўта Вялікага. Толькі ў снежні 1446 года Шамяку выгналі з Масквы і ў яе вярнуўся Васіль II.

*Верасень 1446* — Берасцейскі вялікалітоўскі сойм і Парчоўскі з'езд паноў польскіх. Абмеркаванне «каралеўскага пытання». 17 верасня Казімір згадзіўся прыехаць у Кракаў да канца чэрвеня наступнага года. Узамен на згоду ён патрабаваў адмяніць усе ранейшыя акты аб інкарпарацыі Княства ў Карону і захаваць яго ў ранейшых межах. Казімір

паабяцаў пацвердзіць правы і вольнасці польскай шляхты. 19 верасня палякі выдалі прывілей, у якім згадзіліся, каб афіцыйным месцам знаходжання манарха лічыліся Карона і Княства. У падпісаных дакументах, якія насілі дынастычны характар, не згадвалася слова «унія» і не ішла гаворка пра верхавенства Кароны над Княствам. Да самай Люблінскай уніі 1569 года два гаспадарствы існавалі як самастойныя дзяржавы, паяднаныя адзінствам манарха.

*Снежань 1446* — выгнанне з Масквы Дзмітрыя Шамякі і вяртанне вялікага князя маскоўскага Васіля II.

*2 мая 1447* — пакідаючы Вільню і пераязджаючы ў Кракаў, Казімір Ягелончык выдаў агульнадзяржаўны прывілей, названы Казіміравым. Ён гарантаваў непарушнасць межаў, што існавалі пры Вітаўце, а шляхце — асабістую вольнасць, якую мела польская шляхта, дараваў іншыя прывілеі, што паступова абмяжоўвалі ўладу вялікага князя і ўзмацнялі феадальную залежнасць сялян. Ён забараніў раздаваць маёмасць і пасады іншаземцам, чым аберагаў інтарэсы Княства і вялікалітоўскай знаці. Прывілей стаў адным з найважнейшых дзяржаўных актаў адносна правоў вялікалітоўскіх баяр ва ўсіх сферах жыцця.

*25 чэрвеня 1447* — урачыстая каранацыя ў Кракаве вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка (1427–1492, сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай) на караля польскага Казіміра IV.

*Май 1448* — польска-вялікалітоўскі сойм у Любліне. Прадстаўнікі Княства патрабавалі выключыць з ранейшых актаў уніі, складзеных пры Ягайлу і Вітаўце, выказванні, у якіх саюз Літвы з Польшчай вызначаўся як інкарпарацыя. Запатрабавалі, каб заходняя частка Падолля і Валыні згодна з дамовай на Берасцейскім сойме 1446 года была аддадзена Княству. Палякі далі невыразны адказ.

*1448* — аб'яўлена аўтакефалія рускай царквы. Епіскап Разанскі Іона выбраны мітрапалітам Маскоўскім і ўсяе Русі.

*1448* — вялікі маскоўскі князь Васіль II Цёмны абʼявіў, што адначасна з ім будзе кіраваць і сын ягоны Іван, будучы вялікі князь Іван III Васільевіч.

*31 жніўня 1449* — вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык заключыў мір і падпісаў дагавор з вялікім князем маскоўскім Васілём II Цёмным, што надоўга забяспечыла спакой на вялікалітоўска-маскоўскай мяжы. Некаторыя гэтае пагадненне назвалі «вялікім актам падзелу Русі паміж Масквой і Вільняй». ВКЛ мела ўплыў на Вярхоўскія княствы, а Маскве даставаліся Ноўгарад, Пскоў, Разань. Казімір павінен быў не падтрымліваць Дзмітрыя Шамяку, які намагаўся заняць маскоўскі пасад, не ўмешвацца ў маскоўскія міжусобіцы, не прэтэндаваць на Пскоў і Ноўгарад.

*7 лістапада 1449* — памёр вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад фон Эрліхсгаўзен.

*1449* — Масква і Вялікае Княства Літоўскае прызналі самастойнасць Ноўгарада і Пскова.

*21 сакавіка 1450* — вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна выбраны Людвік фон Эрліхсгаўзен, брат памерлага вялікага магістра.

*1451* — польска-вялікалітоўскі зʼезд у Парчове. Прадстаўнікі Княства дамагаліся новай дамовы аб уніі, без слова «інкарпарацыя».

*1451* — з праўлення Мехмеда II пачалося ператварэнне Асманскай імперыі ў сусветную дзяржаву. 29 мая 1453 года Мехмед падавіў супраціўленне хрысціянскага Канстанцінопаля і рушыў далей у Еўропу, пакуль у 1456 годзе яму не ўдалося захапіць Бялград, што спыніла заваёўнікаў і вызначыла мяжу Асманскай імперыі з Заходняй Еўропай на наступныя 60 гадоў. Пасля 1750 года Асманская імперыя перайшла ў стадыю паступовага няспыннага затухання. У канцы Першай сусветнай вайны ў 1918 годзе яна спыніла сваё існаванне.

*1451* — вялікі князь літоўскі Казімір склікаў у Вільні генеральны сойм усіх зямель Княства, дзе было ўзнята пытан-

не аб адабранні Падольскай і Валынскай зямель ад Польшчы. Але рашэнне адклалі. Пасля сойма вялікі князь наведаў Віцебск, Смаленск і Полацк, дзе прабыў амаль усю зіму.

*10 лютага 1452* — памёр Свідрыгайла Альгердавіч, які ў апошнія гады валодаў Валынскім княствам. Разам з ім у многіх згінула апошняя надзея аб'яднаць рускія землі вакол Вільні. Вялікалітоўскае войска заняло даўнюю валынскую сталіцу Луцк, было ліквідавана Валынскае княства. Землямі кіраваў вялікалітоўскі намеснік. Калі пра гэта даведаліся палякі, яны пагражалі адабраць землі сілай, а як стала вядома, што гэта адбылося не без ведама караля, пагражалі Казіміру дэтранізацыяй — пазбаўленнем улады. Частка кіеўскіх зямель перайшла пад пратэкцыю кіеўскага князя Алелькі Уладзіміравіча. Яго сын Сямён Алелькавіч, з роду князёў слуцкіх, працягваў справу бацькі, ён нават прэтэндаваў на вялікакняскі пасад. Каб не дапусціць самастойнасці Кіеўскага княства, пасля смерці Сямёна ў Кіеў быў прысланы Марцін Гаштольд, а не Міхаіл Алелькавіч, які павінен быў атрымаць уладу па спадчыне.

*1452* — у Вільні адсвяткавана 50-годдзе каталіцкага біскупа Мацея, які быў напачатку на чале рады сенатараў, прыстаўленай да малалетняга вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка. Дагэтуль падобныя юбілеі адзначаліся ў Рыме.

*1452* — на з'ездах у Сандаміры і Серадзе кароль польскі Казімір зрабіў удалыя спробы адсунуць апазіцыю на чале са Збігневам Аляснiцкім, які стаў ужо кардыналам, ад уплыву на палітыку Кароны і ад спраў гаспадарства. Аднак шляхта змусіла караля даць абяцанне зацвердзіць каронныя прывілеі, што занепакоіла вялікалітоўскіх магнатаў магчымасцю аднаўлення пытання аб інкарпарацыі Княства. Рыхтаваўся нават план адхілення Казіміра ад гаспадарання ў Княстве і перадачы ўлады віленскаму ваяводу Радзівілу Осцікавічу. Казіміру ледзьве ўдалося дасягнуць кампрамісу.

*1453* — вялікалітоўскія паны накіравалі пасольства да вялікага магістра са скаргай на вялікага князя Казіміра з мэтай выклікаць спрыянне нямецкага Ордэна.

*29 мая 1453* — туркі-асманы захапілі цэнтр праваслаўя Канстанцінопаль, назвалі яго Стамбулам, ператварылі ў сталіцу Асманскай імперыі. Канец Візантыйскай імперыі. Гэта прынята лічыць канцом сярэднявечча і пачаткам Новага часу. З гэтай пары праваслаўнае першынство ўсё больш звязваецца з Масквой. У 1492 годзе мітрапаліт Засіма аб'явіць яе «Новым Градом Константина», а ў 1524 годзе інак Філафей назаве Маскву «Трэцім Рымам» і цэнтрам праваслаўя.

*15 чэрвеня 1453* — «...июня пятнадцатаго скончалась великая княгиня Софья, черницей в Вознесенском монастыре». Памерла вялікая княгіня маскоўская Соф'я — жонка сына Дзмітрыя Данскога Васіля I Дзмітравіча, дачка Вітаўта Вялікага, маці вялікага князя маскоўскага Васіля II Васільевіча Цёмнага.

*30 чэрвеня 1453* — на з'ездзе ў Пётркаве кароль польскі Казімір пад націскам кароннай апазіцыі пацвердзіў шляхецкія прывілеі і прывілеі Кароне без згадкі, аднак, пра залежнасць Княства і спрэчныя землі.

*1453* — адмена ўлады князя ў Валынскай зямлі і пераход яе ў падпарадкаванне вялікаму князю літоўскаму. Скасаванне Валынскага княства.

*17 ліпеня 1453* — памёр галіцкі князь Дзмітрый Юр'евіч Шамяка, разам з гэтым спынілася міжусобная барацьба за маскоўскі пасад. Кажуць, што ён быў атручаны падчас знаходжання ў Ноўгарадзе. Яго сын перайшоў у Вялікае Княства Літоўскае.

*1453* — Уладзіслаў Паграбовец, сын каралевы венгерскай Эльжбеты, каранаваны на караля венгерскага, аднак яго не хацелі прызнаваць.

*1453* — па загадзе каралевы Соф'і Гальшанскай пачынаецца першы пераклад Бібліі на польскую мову. Стары Запа-

вет быў перакладзены ў 1455 годзе, Новы Запавет — каля 1460 года. Пераклад рабіўся рукапісным чынам на пергаменце. Усяго было 470 старонак, пісаліся яны ў Новым Месце за 10 кіламетраў ад Кракава. З чэшскай мовы тлумачыў ксёндз Андрэй з Яшчовіц — капелан каралевы. Пісараў было ад пяці да сямі, таму тэкст адрозніваўся сваёй каліграфіяй.

*Жнівень 1453* — у Вроцлаве падпісаны шлюбныя ўмовы паміж каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам, якому ўжо споўнілася 26 гадоў і настаў час жаніцьбы, і другою сястрою Уладзіслава Паграбоўца Эльжбетай. Праз паўгода яна прыбыла ў Кракаў.

*4 лютага 1454* — у Прусіі выбухнула антыкрыжацкае паўстанне, кіраваў якім Саюз Прускі.

*10 лютага 1454* — шлюб у Кракаве 27-гадовага караля польскага Казіміра Ягелончыка з 18-гадовай Эльжбетай Ракушанкай (1436–1505), дачкой караля нямецкага, чэшскага і венгерскага Альбрэхта II і Эльжбеты Люксембургскай, сястрой Уладзіслава Паграбоўца, які ўладарыў у Венгрыі і Чэхіі. У Польшчы былі адразу дзве каралевы: Соф'я Гальшанская, маці Казіміра, і ягоная жонка Эльжбета. Гэты шлюб аказаў вялікі ўплыў на пазнейшую палітыку Кароны.

*Люты 1454* — пасольства Саюза Прускага звяртаецца да Казіміра Ягелончыка з просьбай інкарпараваць Прусію ў Карону Польскую. Члены Саюза завалодалі Гданьскам, Эльблонгам, Грудзянцам і інш.

*6 сакавіка 1454* — кароль польскі Казімір насуперак супраціўленню Збігнева Алясьніцкага выставіў інкарпарацыйны акт Прусіі і аб'явіў вайну Ордэну, якая доўжылася 13 гадоў. Усе прускія землі павінны былі назаўсёды злучыцца з Каронай.

*21 красавіка 1454* — вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна ўручаны акт Каралеўства Польскага аб аб'яўленні вайны супраць Ордэна. Пачатак Трынаццацігадовай вайны. Княства займала ў ёй нейтральную пазіцыю.

*18 верасня 1454* — велікапольскае і куяўскае паспалітае рушэнне (каля 16 тысяч) атрымлівае паразу ў бітве з крыжакамі (каля 11 тысяч) ля Хойніцаў.

*1454* — мажайскі князь уцёк у ВКЛ.

*1454* — кароль польскі Казімір IV Ягелончык выдаў Нешаўскія статуты, якія сталі сапраўднай вяршыняй прывілеяў для шляхты ў XV стагоддзі.

*1455* — надрукавана «Біблія» Гутэнберга. Нямецкі друкар Іаган Гутэнберг стаў пачынальнікам кнігадрукавання ў Еўропе.

*1 красавіка 1455* — на шэсцьдзесят шостым годзе жыцця памёр кардынал польскі Збігнеў Алясьніцкі, прыхільнік палітыкі паланізму і каталіцызму ў адносінах да Княства, яго інкарпарацыі ў Карону.

*Люты 1458* — у вялікага князя маскоўскага Івана III Васільевіча (1440–1505), якому было 18 гадоў, нарадзіўся першы сын Іван. Сам Іван III у 10-гадовым узросце быў аб'яўлены суправіцелем бацькі Васіля II Васільевіча Цёмнага, а як толькі дасягнуў паўналецця (12 гадоў), Іван першы раз ажаніўся з Марыяй Барысаўнай Цвярской.

*1457* — Польшча адваявала ў тэўтонскіх рыцараў іхнюю сталіцу Марыенбург. Ордэн перанёс сталіцу ў Кёнігсберг (цяперашні Калінінград).

*1458* — з-пад улады мітрапаліта Маскоўскага выйшла літоўска-галіцкая частка Рускай царквы — праваслаўная царква ў Княстве стала падпарадкоўвацца непасрэдна Канстанцінопальскаму патрыярху. Гэта стала пачаткам фактычнага падзелу Рускай праваслаўнай царквы на Усходнюю (Маскоўскую) і Заходнюю (Кіеўскую, Літоўскую) мітраполіі.

*1460* — пасольства польскага караля і вялікага князя літоўскага Казіміра IV прыбыло ў Маскву з патрабаваннем адхіліць мітрапаліта Іону, які аб'яўлены ў Рыме «адступнікам», і прыняць на маскоўскую кафедру мітрапаліта Грыгорыя.

*21 верасня 1461* — ва ўзросце 56 гадоў памерла Соф'я Гальшанская, жонка караля польскага Ягайлы і маці каралёў Уладзіслава і Казіміра. Яе пахавалі ў капліцы кафедральнага касцёла ў Кракаве, якую яна сама збудавала. Пахавалі ля заходняй сцяны, што было характэрна для праваслаўных.

*26 сакавіка 1462* — ад цяжкай хваробы памёр маскоўскі вялікі князь Васіль II Цёмны — чацвёрты сын Васіля I і Соф'і Вітаўтаўны, унук Вітаўта Вялікага.

*15 верасня 1463* — апошняя значная бітва Трынаццацігадовай вайны Каралеўства Польскага з крыжакамі. Аб'яднаны флот прускіх гарадоў Гданьска і Эльблонга — дваццаць пяць караблёў — перамог у Віслянскім заліве крыжацкі флот — сорак чатыры караблі. Пад уладу Казіміра Ягелончыка перайшлі многія кіраўнікі наёмных войскаў.

*Сакавік 1462 — 1505* — на маскоўскім пасадзе знаходзіцца вялікі князь Іван III Васільевіч. Ён перастаў плаціць даніну Залатой Ардзе. Канец мангола-татарскага іга.

*1463* — Княства накіравала ў Польшчу паноў з патрабаваннем, каб былі вернуты Падольская і Белзская землі, а таксама паветы Алеска і Ратна. Пагражалі вайной.

*28 верасня 1466* — польскае войска здабыло Хойніцы, апошні крыжацкі замак на Гданьскім Памор'і.

*19 кастрычніка 1466* — заключаны Т725руньскі мір паміж Тэўтонскім ордэнам і Польшчай. Закончылася Трынаццацігадовая вайна (1454–1466) з тэўтонамі. Прусія саступіла Польшчы  Гданьскае Памор'е (страчана ў 1308 годзе) пад назвай Прусы Каралеўскія, Мальбарк, Эльблонг, Штум, Хрыстбург і інш. Усходняя частка Прусіі са сталіцай у Кёнігсбергу засталася за Ордэнам, але ў васальнай залежнасці ад Польшчы. Тэўтонскі ордэн прызнаў сябе васалам польскага караля. Усе вялікія магістры мусілі прысягаць яму на вернасць.

*1466* — памёр заснавальнік дынастыі крымскіх ханаў Хаджы-Гірэй. На пасад з дапамогай турэцкага султана быў узведзены сын Хаджы-Гірэя Менглі-Гірэй.

*29 лютага 1468* — вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык выдаў Судзебнік юрыдычных нормаў крымінальнага права, напісаны на беларускай мове. Ён стаў першым кодэксам крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права Вялікага Княства Літоўскага. Яго называлі Судзебнікам, Статутам Казіміра.

*Май 1468* — кароль чэшскі Георгій з Падэбрадаў назваў сваім пераемнікам сына Казіміра Ягелончыка Уладзіслава.

*1470* — ператварэнне Кіева ў вялікалітоўскае ваяводства.

*1470* — у Вялікім Ноўгарадзе перамагла партыя прыхільнікаў арыентацыі на Вялікае Княства Літоўскае. Гэтага дабілася ўдава пасадніка Ісака Барэцкага Марфа (Пасадніца) і яе сын Дзмітрый Ісакавіч. Ноўгарад разарваў дамову з Масквой, падпісаную ў 1456 годзе ў Яжэлбіцах, і падпісаў унію з Княствам, прызнаў сваім князем і гарантам суверэннасці Казіміра, заключыў дагавор аб падданстве. Уладарыць тут стаў Міхаіл Алелькавіч, унук вялікага князя літоўскага Альгерда.

*1471* — заключана дамова паміж Ноўгарадам і каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам IV аб прызнанні Ноўгарадам васальнай залежнасці ад Польшчы і Княства.

*14 ліпеня 1471* — вялікі князь маскоўскі Іван III атрымаў перамогу ў бітве з наўгародскімі воямі на рацэ Шэлонь, падпісана дамова аб тым, што Ноўгарад прызнаў сябе «вотчынай» вялікага князя маскоўскага.

*1471* — смерць кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча. Кіяўляне прасілі Казіміра, каб прызначыў на княжанне Міхаіла Алелькавіча альбо іншага праваслаўнага князя. З Княства ў Кіеў накіраваны Марцін Гаштольд як ваявода. Гэтым самым спынялася існаванне ўдзельнага Кіеўскага княства. Пасля пэўнага супраціўлення кіяўляне згадзіліся.

*16 чэрвеня 1471* — у Кракаўскім замку Уладзіслаў, сын караля польскага Казіміра і Ягайлаў унук, згадзіўся на кіраўніцтва Каралеўствам Чэшскім. 25 ліпеня ён на чале 10-тысячнага войска вырушыў у Чэхію. 26 жніўня прыняў у Празе каралеўскую карону.

*Кастрычнік 1471* — разам з 12-тысячным войскам 13-гадовы польскі каралевіч Казімір (1458–1484), сын караля Казіміра Ягелончыка, які лічыў Венгрыю спадчынай сваёй жонкі Эльжбеты з Габсбургаў, выправіўся па венгерскую карону. Аднак не знайшоў падтрымкі і вярнуўся назад.

*1471–1479* — барацьба за чэшскі пасад паміж каралём венгерскім Мацеем Корвінам (1443–1490) і Уладзіславам Ягелончыкам закончылася мірнай дамовай у Аламінцы (1479) — Мацей Корвін атрымаў у пажыццёвае валоданне Шлёнск, Маравы і Лужыцы, а Уладзіслаў Ягелончык утрымаўся на высокім пасадзе ў Чэхіі — да 1516 года, а ў 1490 годзе ён стаў і каралём венгерскім.

*1472* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір заключыў саюз з ханам Залатой Арды Ахматам супраць Масквы, а праз год — дамову з вялікім князем цвярскім Міхаілам аб узаемнай дапамозе.

*1472* — да вялікага княства Маскоўскага далучана Пермская зямля.

*1473* — шматлюдны сойм у Вільні, які ўстанавіў надзвычайны падатак з усіх зямель Княства на дапамогу ў вайне з Венгрыяй.

*21 лютага 1474* — у спішскай Старой Вёсцы заключаны мірны дагавор паміж палякамі і венграмі, што канчаткова адабрала ў Ягелончыкаў надзею атрымаць венгерскую карону.

*1474* — да вялікага княства Маскоўскага далучана Растоўскае княства і Растоў Вялікі.

*1474–1569* — за гэты перыяд крымскія татары зрабілі 75 набегаў на вялікалітоўскія землі.

*1475* — антымаскоўскае паўстанне ў Ноўгарадзе, аднаўляюцца яго сувязі з Вялікім Княствам Літоўскім.

*1475* — васалам Турцыі стала Крымскае ханства, пасля чаго татары нападалі на вялікалітоўскія землі сумесна з туркамі.

*1478* — з-за таго, што вялікі князь літоўскі Казімір быў заняты польскімі і венгерскімі справамі і доўга адсутнічаў у Княстве, узнік намер выбраць на гаспадарскі пасад асобнага князя. Казімір не дапускаў гэтага і нават адмовіў сыну свайму Яну Ольбрахту называцца намеснікам у Княстве. І толькі ў 1480 годзе ён на чатыры гады прыехаў разам з сям'ёй у Княства. Справы Кароны на гэты час даверыў свайму сыну Казіміру.

*1478* — Вялікі Ноўгарад і Наўгародская феадальная рэспубліка, якая існавала ў 1136–1478 гадах, канчаткова далучаны да Масковіі. Наўгародцы падпісалі прысягу («крыжацалавальны запіс»). Сімвал незалежнасці горада — вялікі вечавы звон вывезлі ў Маскву, ліквідавалі веча. Вялікае Княства Літоўскае хацела аб'явіць вайну маскоўскаму князю Івану III, але Казімір адхіліў гэта.

*1479–1480* — антымаскоўскае паўстанне ў Ноўгарадзе. З горада было пераселена ў іншыя рускія гарады больш за 15 тысяч жыхароў. У 1480 годзе наўгародцы пачалі перамовы з прадстаўнікамі Вялікага Княства Літоўскага, запрасілі да сябе князя Міхаіла Алелькавіча.

*19 мая 1480* — памёр Ян Длугаш — знаны гісторык польскага Сярэднявечча, аўтар хронік Каралеўства Польскага, якія налічваюць 12 кніг, выхавацель каралеўскіх сыноў, Кракаўскі канонік, яму было 65 гадоў. Падрабязна апісаў Грунвальдскую бітву, у якой браў удзел ягоны бацька. У 2010 годзе ў 1–10 нумарах часопіса «Маладосць» друкавалася ў перакладзе на беларускую мову «Грунвальдская бітва» Яна Длугаша.

*Лета 1480* — кіеўскі ваявода Марцін Гаштольд становіцца трокскім ваяводам, а ў Кіеў накіраваны адданы каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру баярын Іван Хадкевіч.

*1480* — да вясны сфарміраваліся дзве кааліцыі: саюз Масквы з Крымам і саюз татарскай Арды з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам. Летам залатаардынскі хан Ахмат пайшоў супраць рускай дзяржавы, якая апынулася ў цяжкім становішчы. Войскі сутыкнуліся на рацэ Угра, прытоку Акі. Аднак «стаянне на Угры» закончылася поўнай паразай Ахмата. Канец мангола-татарскага іга для Расіі. Саюз з Крымам супраць Ягайлавічаў і нашчадкаў Ахмата стаў адным з галоўных напрамкаў рускай знешняй палітыкі да канца княжання Івана III.

*З 80-х гадоў XV ст.* — крымскія татары пачалі нападаць на паўднёвыя ўскраіны Княства.

*1481* — да Вялікага княства Маскоўскага далучаны валагодскія землі.

*30 жніўня 1481* — у Кіеве выкрыта змова праваслаўных князёў супраць вялікага князя літоўскага і караля польскага Казіміра Ягелончыка і ягоных сыноў. Падставай паслужыла адабранне ад Сямёна Алелькавіча з роду князёў слуцкіх Кіеўскай зямлі і прызначэнне намеснікам Івана Хадкевіча. Змоўшчыкі хацелі ўзвесці на велікакняскі пасад Міхаіла Алелькавіча, якому па спадчыне павінна была належаць улада ў Кіеве. Скарысталі тое, што Фёдар Бельскі, стрыечны брат Міхаіла, спраўляў вяселле з дачкой Аляксандра Чартарыйскага. Казіміра запрасілі на ўрачыстасць, каб там паквітацца. Але змову выкрылі. Завадатарам, князям Міхаілу Алелькавічу і Івану Гальшанскаму, 30 жніўня адсеклі галовы перад варотамі кіеўскага замка. Фёдар Бельскі, напаўапрануты, ноччу проста з пасцелі ўцёк у Маскву. А суддзямі над змоўшчыкамі былі трокскі ваявода Марцін Гаштольд, які быў пашлюблены з сястрой Івана Гальшанскага Ганнай, віленскі ваявода Судзімонтавіч, дачка якога была пашлюблена з братам Івана Гальшанскага Аляксандрам.

*Жнівень 1482* — вялікія сілы Крымскага ханства напалі на кіеўскія землі і Падолле. 1 верасня крымскі хан Менглі-

Гірэй завалодаў Кіевам, спаліў яго, многіх паланіў, разрабаваў Пячэрскую царкву і манастыр. У палон трапіў і ваявода кіеўскі Іван Хадкевіч з сям'ёй. У няволі ён і памёр. Сына Аляксандра і ўдаву ўдалося вызваліць за вялікі выкуп. Да Менглі-Гірэя гэткія ж спусташэнні Кіеву прычынялі Батый і Едыгей. Былі захоплены яшчэ 10 замкаў. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір у гэты час знаходзіўся ў Троках. У Княстве ён быў і ўвесь 1483 год.

*1483* — вялікі князь цвярскі Міхаіл Барысавіч узяў шлюб з унучкай польскага караля Казіміра. Заключаны антымаскоўскі дагавор аб саюзе паміж Цвер'ю і каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам IV.

*1484* — у Будзе падпісана пагадненне паміж маскоўскім княствам і венгерскім, скіраванае супраць Ягелончыкаў.

*4 сакавіка 1484* — у Гародні памёр 26-гадовы каралевіч Казімір, другі сын Казіміра IV Ягелончыка і Эльжбеты з Габсбургаў. У 1602 годзе залічаны да ліку святых, лічыцца патронам Літвы.

*1485* — Казімір Ягелончык арганізаваў паход на Малдавію. Хоць захапіць чарнаморскія парты не здолеў, аднак прымусіў стаць леннікам гаспадара малдаўскага Штэфана Вялікага.

*1485* — вялікі князь маскоўскі Іван III прыняў тытул «государя всея Руси».

*15 верасня 1485* — паход вялікага князя маскоўскага Івана III на Цвер, далучэнне Цвярскога княства да Масквы. Цвярскі князь Міхаіл ледзь паспеў уцячы ў Княства. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір Ягелончык падараваў яму землі ў Слонімскім і Луцкім паветах.

*1487–1537* — руска-вялікалітоўскія войны, якія вяліся паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам за права валодаць усходнеславянскімі землямі. Кожная з дзяржаў мела жаданне стаць іхнім аб'яднаўчым цэнтрам. Княства Літоўскае валодала старадаўнімі княствамі: Галіц-

кім, Уладзіміра-Валынскім, Кіеўскім, Турава-Пінскім, Полацкім, Ноўгарад-Северскім, Чарнігаўскім і Смаленскім. У леннай залежнасці ад Княства знаходзіліся Вярхоўскія княствы, якія размяшчаліся ў вярхоўях Акі.

*1487* — малдаўскі гаспадар Штэфан Вялікі заключае мір з Турцыяй, Малдаўскае княства становіцца турэцкім леннікам, а гаспадар лавіруе паміж Каронай, Вялікім Княствам Літоўскім, Венгрыяй і Турцыяй.

*Каля 1487* — створаны ўнікальны летапісны звод — Радзівілаўскі летапіс, названы іначай Кёнігсбергскім. Яго адносяць да пачатку XIII стагоддзя, аднак вядомы толькі адзіны спіс канца XV стагоддзя, які ўпрыгожваюць 618 каляровых ілюстрацый. Магчыма, зроблены ён у Смаленску. Доўгі час захоўваўся на беларускіх землях, пакуль апошні ўладальнік Багуслаў Радзівіл — ваенны і дзяржаўны дзеяч, мецэнат — разам з іншымі каштоўнымі выданнямі, сярод якіх было 15 інкунабул, не завяшчаў яго Кёнігсбергскай бібліятэцы. Рукапіс трапіў туды ў 1671 годзе. З 1758 года знаходзіцца ў Расіі.

*1489* — нямецкі скульптар Віт Ствош (1440–1533) закончыў працу над выразаным з ліпы алтаром для самага вялікага Марыяцкага касцёла ў Кракаве.

*Каля 1490* — у Полацку нарадзіўся беларускі першадрукар і асветнік Францыск Скарына.

*Лета 1490* — да вялікага князя літоўскага і караля польскага Казіміра Ягелончыка даведзены словы скаргі маскоўскага князя Івана III наконт непрызнання захопу рускіх зямель: «А нам от короля великие кривды делаются: наши городы и волости и земли наши король за собой держит».

*6 красавіка 1490* — смерць караля венгерскага Мацея Корвіна. Уладзіслаў Ягелончык займае Маравы, Шлёнск, Лужыцы. Казімір Ягелончык вылучае Яна Ольбрахта на венгерскі пасад.

*7 чэрвеня 1490* — частка венгерскай шляхты прызнала каралём Яна Ольбрахта, а вось сабраны магнатамі сойм 15 лі-

15 Зак 1939

пеня 1490 года выбраў каралём Уладзіслава Ягелончыка, першага сына Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, дачкі караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта. Уладзіслаў стаў каралём венгерскім пад імем Уласла (Ласла) II.

*1491* — венгерскі сойм у Кошыцах закончыў спрэчку паміж Ягелонамі адносна панавання ў Венгрыі. Каралеўскую карону атрымаў Уладзіслаў Ягелончык. Ян Ольбрахт у якасці кампенсацыі атрымаў Глогаўскае княства ў Ніжняй Сілезіі.

*1492* — у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні заснаваны Віленскі манетны двор. Існаваў да 30 снежня 1667 года. Тут выпускалі розныя манеты: сярэбраныя і залатыя — з XVI стагоддзя, медныя — у 1664–1666 гадах. Падчас гаспадарання Жыгімонта II Аўгуста з'яўляўся дзяржаўным манетным дварам Рэчы Паспалітай. Манеты мелі выяву Пагоні.

*1492* — Маскоўскі праваслаўны сабор у адпаведнасці з візантыйскай традыцыяй пастанавіў перанесці навагоддзе з 1 сакавіка (так было ва ўсходніх славян) на 1 верасня (так было ў Візантыйскай імперыі). А 22 снежня 1699 года быў абнародаваны указ Пятра I, якім было загадана з 1700 года весці адлік часу ад Нараджэння Хрыстовага, а год пачынаць 1 студзеня.

*7 чэрвеня 1492* — у Гародні нечакана памёр вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір IV, сын Соф'і Гальшанскай і Ягайлы. Пахаваны ў капліцы Святога Крыжа ў кракаўскай катэдры на Вавелі, якая аформлена ў візантыйска-рускім, праваслаўным стылі. Капліца Соф'і знаходзіцца злева ад уваходу ў касцёл, капліца Казіміра — справа. Як і ягоная маці, наказаў пахаваць ля заходняй сцяны, што адпавядала праваслаўнай традыцыі. Надмагільны помнік выканаў вялікі майстар скульптуры Віт Ствош.

*1492* — пасля смерці Казіміра былі накіраваны паслы да князёў і паноў Валынскай зямлі, Кіеўскай, Смаленскай, Віцебскай і Полацкай з запрашэннем з'явіцца ў Вільню на сойм для абрання пераемніка. Сярод амаль 200 удзель-

нікаў былі віленскі ваявода Мікалай Радзівіл, ваявода трокскі Пётр Янавіч Мантыгердавіч, кашталян трокскі і наменік полацкі Ян Заберазінскі, віленскі кашталян князь Аляксандр Юр'евіч Гальшанскі, намеснік смаленскі Юрый Глебавіч, званы «вежай Літвы супраць Масквы», пасол у Маскве Ян Літавар Храптовіч.

*20 ліпеня 1492* — паны-рада Княства без узгаднення з палякамі на Віленскім з'ездзе (гэта быў, па сутнасці, першы сапраўдны вальны сойм) выбралі вялікім князем літоўскім Аляксандра — сына Казіміра Ягелончыка, унука Ягайлы. Такая была воля памерлага караля: адзін сын павінен стаць на чале Кароны, а другі — Княства. Аляксандра блаславілі ў Віленскім касцёле Святога Станіслава. Біскуп Войцех выканаў абрад, а літоўскі маршалак Ян Літавар Храптовіч уручыў Аляксандру меч, скіпетр і жэзл. Пры гэтым Ян прамовіў наказ, каб вялікі князь не італьянскім звычаем альбо чэшскім ці нямецкім паслугоўваўся, а «праўдзівым літоўскім і Вітаўтавым прыкладам нас гаспадарыў і судзіў». Аляксандр выдаў прывілеі ў 1492 і 1506 гадах, якія насілі канстытуцыйны характар і датычылі прававога ўрэгулявання ўзаемаадносін жыхароў Княства. Княжыў Аляксандр да 1506 года. З 1501 года стаў і каралём польскім.

*6 жніўня 1492* — у Вільні выдадзены агульнадзяржаўны заканадаўчы акт, названы Аляксандравым прывілеем, аб дзяржаўным кіраванні — феадальная канстытуцыя Вялікага Княства Літоўскага. Вялікі князь літоўскі Аляксандр выдаў яго пасля абрання на гаспадарскі пасад у Княстве. Згодна з ім усе найважнейшыя справы павінны былі вырашацца вялікім князем сумесна з панамі-радай — вышэйшым кіруючым органам Княства. Суверэннасць Княства падкрэслівалася непарушнасцю яго межаў і самастойным вядзеннем дыпламатычных стасункаў з суседзямі. Замацоўваліся асновы дзяржаўнага і грамадскага ладу Княства, накірункі знешняй палітыкі, паўнамоцтвы Рады ВКЛ.

*27 жніўня 1492* — на Пётркаўскім з'ездзе сын Казіміра IV Ягелончыка і брат вялікага князя літоўскага Аляксандра Ян Ольбрахт з роду Ягелонаў выбраны каралём польскім, каранаваны 23 верасня.

*1492–1494* — першая вайна вялікага княства Маскоўскага на чале з Іванам III, які заключыў саюз з крымскім ханам Менглі-Гірэем, з Вялікім Княствам Літоўскім. У жніўні 1492 года рускае войска ўвайшло ў Вярхоўскія княствы і захапіла Мцэнск і Любуцк, Рагачоў, Хлепень.

*1492* — вялікі князь літоўскі Аляксандр накіраваў у Смаленск князя Івана Львовіча Глінскага, каб той пераканаў смаленскага намесніка, епіскапа, акольнічых, княжат і баяр перад наступам маскоўскага войска заставацца вернымі Княству.

*Студзень 1493* — вялікі князь літоўскі Аляксандр накіраваў у Вярхоўскія землі войска пад камандаваннем Юрыя Глебавіча.

*1493* — у Каралеўстве Польскім пачаў дзейнічаць двухпалатны сойм, які складаўся з сената (знаць і вышэйшая адміністрацыя) і пасольскай палаты (прадстаўнікі шляхты). Першы вальны сойм.

*5 лютага 1494* — перамовы вялікага князя літоўскага Аляксандра з Іванам III, заключаны «адвечны мір» (які хутчэй можна назваць перамір'ем) паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам. «Государь всея Руси» вярнуў Княству Бранск, але затрымаў Вярхоўскія княствы. Вялікае Княства Літоўскае мусіла «на вечныя часы» адмовіцца ад прэтэнзій на Ноўгарад, Пскоў, Разань. Затое Іван III не парушаў абяцання Васіля II не ўступаць у Смаленск. Мірнаму развіццю ўзаемаадносін паміж Княствам і Масквой павінен быў садзейнічаць шлюб вялікага князя літоўскага Аляксандра з дачкой маскоўскага князя Івана III Аленай. Аднак не дапамог і шлюб, бо Іван III не вытрымліваў умоў і раз за разам парушаў «вечны мір».

*23 жніўня 1494* — крымскія татары нанеслі паразу вялікалітоўскім войскам пад Вішнёўцам.

*15 лютага 1495* — у Вільні адбыўся шлюб вялікага князя літоўскага Аляксандра, якому было 34 гады, з дачкой Івана III Васільевіча, «божьей милостью государя всея Руси и великого князя владимирского, и московского, и новгородского, и псковского, и тверского, и югорского, и болгарского, и иных» (кажуць, што ў экзэмпляры дамоўнай граматы, якая заставалася ў Княстве, словы «всея Руси» адсутнічалі), 18-гадовай Аленай, якая і пасля гэтага заставалася праваслаўнай. Шлюб меў на мэце спыніць спрэчкі паміж Княствам і Масквой. Пасля смерці Аляксандра ў 1506 годзе Алена адзінока жыла ў Трокскім замку, дзе і памерла ў 1513 годзе.

*1495* — вялікі пажар у Кракаве і Вавельскім каралеўскім замку. Абвінавацілі ў падпале яўрэяў, за што іх перасялілі ў прадмесце Казімір.

*1495–1500* — у Вільні ў тэхніцы гатычнай муроўкі пабудаваны цагляны касцёл Святой Ганны — выдатны архітэктурны помнік, які захаваўся да нашых дзён. Яго ўзвядзенне фундаваў вялікі князь літоўскі Аляксандр.

*1496* — Пётркаўскі прывілей. На сойме ў Пётркаве шляхта атрымала ад Яна Ольбрахта прывілей, названы Пётркаўскім статутам, які абмежаваў правы сялян і мяшчан. Ён забараніў мяшчанам валодаць маёнткамі, што перашкаджала ім пераходзіць у шляхецкае саслоўе. Пётркаўскі статут заканадаўча замацаваў сялян да зямлі, забараніў ім пераходзіць з месца на месца і купляць зямлю.

*1496–1499* — эпідэмія чумы ва ўсёй Польшчы.

*1497* — няўдалы паход польскага караля Яна Ольбрахта ў Малдову з мэтай здабыць чарнаморскія парты. Яго паход на сталіцу — горад Сучава — не даў поспеху, войска трапіла ў засаду і панесла паразу.

*1497* — з'яўленне двухгаловага арла на расійскім гербе. Гэта было зафіксавана на пячатцы Івана III.

*1497* — паходы крымскіх татараў на вялікалітоўскія землі. Татарскія вoi дайшлі ажно да Палесся, дзе ад іхніх рук загінуў мітрапаліт Кіеўскі Макарый. Аднак князь Канстанцін Астрожскі разбіў іх каля Мазыра, на рацэ Вуша і каля Ачакава.

*Верасень 1497* — вялікі князь літоўскі Аляксандр прызначыў князя Канстанціна Астрожскага вялікім гетманам. Яму было ў той час 37 гадоў, ніхто да яго не займаў гэтую пасаду такім маладым.

*1497* — з'явіўся першы агульнарускі звод законаў — Судзебнік Івана III.

*1498* — першы турэцкі паход разам з татарамі на Карону як помста за паход на Малдавію. Спустошана Кракаўскае ваяводства.

*1498* — у Кракаве падпісана польска-венгерская дамова, якая прадугледжвала супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў, што пачало мяняць міжнародную ізаляцыю Кароны.

*1499* — паход рускага войска на Вялікае Княства Літоўскае, прычынай якога палічылі патрэбу абараніць права Алены Іванаўны вызнаваць праваслаўе; дачка маскоўскага князя Івана III Алена была жонкай вялікага князя літоўскага Аляксандра.

*1499* — Кракаўска-Віленская польска-вялікалітоўская унія. Спачатку ў Кракаве (6 мая), пасля ў Вільні (24 ліпеня) прыняты акт аб узаемаадносінах Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага і сумесных дзеяннях супраць знешніх ворагаў. Дзяржавы заставаліся суверэннымі, але сваіх гаспадароў выбіралі са згоды іншага боку, кароль Ян Ольбрахт меў тытул найвышэйшага князя літоўскага.

*1499* — згарэў гатычны Вавельскі замак у Кракаве. Аднаўленне і пашырэнне каралеўскай рэзідэнцыі адбывалася ў 1504–1506 гадах падчас каралявання Аляксандра Ягелончыка (1501–1506) і Жыгімонта I Старога (1506–1548).

*1500* — вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык, унук Ягайлы, утварыў Навагародскае ваяводства і далучыў да яго землі, што некалі належалі Валынскаму княству.

У ваяводстве былі тры паветы: Навагародскі са Слуцкім княствам, Слонімскі і Ваўкавыскі. Гербам з'яўлялася белая Пагоня на чырвоным полі.

*1500* — вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык прыехаў у Браслаў і 8 кастрычніка надаў яму магдэбургскае права.

*1500* — саюзнік вялікага князя маскоўскага Івана III татарскі хан Менглі-Гірэй вялікімі войскамі напаў на паўднёвыя вялікалітоўскія землі. Пацярпелі Падолле, Валынь, Галіцыя. Татары дайшлі да Бярэсця, жыхары якога адкупіліся ад ворага.

*1500–1503* — другая Руска-вялікалітоўская вайна. Прычынай для яе паслужыў пераход у падпарадкаванне да маскоўскага князя Івана III некаторых вялікалітоўскіх князёў. У сакавіку гэта зрабіў Сямён Іванавіч Бельскі, праўнук вялікага князя літоўскага Альгерда. Кажуць, што прычынай паслужыла прыцясненне праваслаўных вернікаў у Княстве. За ім пайшлі пад апеку маскоўскага князя князі Масальскія, Трубяцкія, Старадубскія і іншыя. Вялікі князь літоўскі Аляксандр не мог гэтага забараніць, але і пагадзіцца з гэтым таксама не мог. А тым часам маскоўскія войскі 3 мая пайшлі на Княства. Яны занялі Гомель, Любеч, Оршу, іншыя гарады, Смаленскую, Мсціслаўскую, Віцебскую, Полацкую і іншыя землі. Да Рускай дзяржавы далучаны Бранск, Курск, Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў. І толькі 25 сакавіка 1503 года вялікаму князю літоўскаму Аляксандру ўдалося заключыць з Іванам Васільевічам перамір'е на 6 гадоў. Аднак да Масквы адышлі практычна ўсе тыя землі, што некалі далучыў да Княства Вітаўт, і нават больш. У 1503 годзе Масква падпісала перамір'е на тыя ж 6 гадоў і з Лівонскім ордэнам.

*14 ліпеня 1500, аўторак* — бітва на р. Вядрошы каля Дарагабужа на Смаленшчыне паміж вялікалітоўскім і маскоўскім войскамі падчас вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім (1500–1503). Літоўскае войска

налічвала каля 7–8 тысяч, на 3–4 тысячы менш, чым было ў маскоўскім войску. Кіраўнік вялікалітоўскага войска князь Канстанцін Астрожскі, які за жыццё атрымаў трыццаць тры ваенныя перамогі, на гэты раз выступіў няўдала, яго войска пацярпела паразу, а сам Астрожскі, будучы параненым, трапіў у палон і тры гады знаходзіўся ў вязніцы ў Волагдзе. Іван III прапанаваў яму пайсці на службу ў царскае войска. Рабіць не было чаго, і Канстанцін Астрожскі згадзіўся. У якасці ваяводы ўзначаліў маскоўскія войскі і атрымаў перамогу над татарамі, якія намагаліся заваяваць рускія землі. Пасля гэтага на пачатку 1507 года (пасля смерці Івана III) Астрожскаму ўдалося ўцячы з няволі, ён вярнуўся ў Княства і годна служыў Айчыне. Кароль польскі Жыгімонт I Стары прызначыў (1511) Астрожскага вялікім гетманам літоўскім.

*1501* — вялікі князь літоўскі Аляксандр 3 сакавіка ў Вільні падпісаў дамову з лівонскім магістрам Вальтэрам фон Плетэнбергам (ад Лівоніі падпісана 21 чэрвеня ў г. Вендэн). Пагадненне заключалася аб сумесных ваенных дзеяннях супраць вялікага княства Маскоўскага і павінна было дзейнічаць 10 гадоў.

*17 чэрвеня 1501* — у Торуні памёр кароль польскі і найвышэйшы князь літоўскі Ян Ольбрахт (меў 41 год). Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў ліпені.

*3 кастрычніка 1501* — на элекцыйным з'ездзе польскай шляхты ў Пётркаве каралём выбраны Аляксандр (1460–1506) — сын Казіміра Ягелончыка, унук Ягайлы.

*23 кастрычніка 1501* — новаабраны кароль польскі і вялікі князь літоўскі з 1492 года Аляксандр з Ягелонаў падпісаў у г. Мельнік (Падляшскае ваяводства) дзяржаўны акт, названы Мельніцкай уніяй, аб умовах саюза Княства і Каралеўства. Аднак у выніку таго, што ён абвяшчаў падпарадкаванасць Княства Кароне пад уладай аднаго манарха, сойм ВКЛ не зацвердзіў рашэння. А 25 кастрычніка Аляксандр падпісаў прывілей, названы Мельніцкім, якім надаваў значныя правы сенату, апошняе слова ў дзяржаўных справах на-

лежала сенату, а не соймавай большасці. Гэта было ўступкай вялікага князя польскім магнатам пры заключэнні Мельніцкай уніі. Аднак артыкулы пра верхавенства сената над каралём не працавалі, як не працавалі артыкулы пра верхавенства сената Кароны над Княствам. У 1505 годзе Радамскі сойм цалкам скасаваў гэты прывілей.

*Зіма 1501* — у Маскве вяліся перамовы з польскімі, вялікалітоўскімі і венгерска-чэшскімі пасламі. Іван III заняў цвёрдую пазіцыю, аднак перамовы не далі station ўчых вынікаў, было дасягнута пагадненне аб кароткачасовым пераміры'і.

*12 снежня 1501* — у Вавельскай катэдры адбылася ўрачыстая каранацыя вялікага князя літоўскага Аляксандра на караля польскага, якую выканаў каралеўскі брат кардынал Фрыдэрык Ягелончык.

*Снежань 1501* — пачаўся новы паход рускага войска на Вялікае Княства Літоўскае.

*15 чэрвеня 1502 — кастрычнік 1503* — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр Ягелончык правёў гэты час у Княстве, спрабуючы аднавіць ягоную магутнасць і павагу з боку дужых суседзяў. На пачатку ліпеня ён знаходзіўся ў Навагародку, у жніўні–верасні — у Менску.

*1502* — параза хана Вялікай Арды Шах-Ахмета ад крымскага хана Менглі-Гірэя ў бітве ля ракі Сула (левы прыток Дняпра). Уладанні Вялікай Арды ўключаны ў склад Крымскага ханства.

*14 ліпеня 1502* — вялікае наступленне рускага войска на Смаленск. Велікакняскі (маскоўскі) летапіс паведамляў аб гэтым: «прииде на Москву Октября 23, в неделю, великого князя сын, князь Дмитрий Иванович, землю Литовскую повоевав и попленив, града Смоленска не взял, понеже крепок бе». А Хроніка Быхаўца паведамляла наступнае наконт бітвы за Смаленск: «Князь... великий Александр... двинулся к Минску, а в Минске пришла к нему весть, что князь великий Московский отправил сына своего князя Дмитрия Жилку с большим войском с пушками и со всем снаряжением добывати земли и

отпустил его к Смоленску, и что теперь все москвичи под Смоленском и, обложив город, упорно осаждают его. Услышав это, великий князь Александр послал против него пана Трокского старосту жемайтского, пана Станислава Яновского со всею силою великого княжества Литовского и... со всеми чужеземцы... Москвичи же, находясь под Смоленском, воевали на все стороны и город Смоленск едва ли не весь пушками окружили, день и ночь непрестанно его осаждали и из-за больших тур, наполненных песком и землей, несказанные штурмы против него предпринимали. Однако же, милосердьем Божьим и помощью Пречистые Богородицы, не могли принести ему никакого вреда. Приняв на себя немало трудов, неся потери и губя своих людей, со скорбью и со слезами терпели с великими насмешками поражение под городом, и с помощью и с бесчестием от города отбиваемы были. Войско же великого князя Александра, которое вел пан староста жемайтский, пришло со всеми силами к городу Орше, и, перейдя реку Днепр, двинулось к горам. И как только об этом услышал князь Дмитрий Жилка, который находился под Смоленском, что Литва идет против него, он, не взяв города Смоленска, возвратился к Москве, к своему отцу великому князю Московскому».

*1502* — пачынаецца перабудова каралеўскага Вавельскага замка (доўжылася да 1516), на фасадах з'явіліся гербы Польшчы, Вялікага Княства Літоўскага і Габсбургаў. Працамі кіраваў спачатку італьянец Францішак Фларэнтчык, а пасля Барталамей Бярэчы. У выніку паўстала новая каралеўская рэзідэнцыя ў стылі тасканскага рэнесансу.

*1502* — італьянскі разьбяр Францішак Фларэнтчык, прывезены з Буды, падчас перабудовы каралеўскага замка выканаў (1502–1506) надмагілле для Яна Ольбрахта, якое стала адным з першых рэнесансных твораў у Кароне.

*1502–1505* — крымскія татары нападалі на вялікалітоўскія землі, рабавалі Нясвіж, Слуцк, Клецк, Навагародак, дабіраліся ажно да Вільні.

*4 сакавіка 1503* — у Кракаве памёр кардынал Фрыдэрык Ягелончык, брат караля Аляксандра. Ён пахаваны пад прыступкамі галоўнага алтара ў Вавельскай катэдры.

*4 сакавіка 1503* — падпісана перамір'е на 6 гадоў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і вялікім княствам Маскоўскім, у выніку чаго ВКЛ мусіла саступіць Маскве 29 гарадоў і 70 воласцей, у тым ліку Чарнігаў, Бранск, Старадуб, Дарагабуж, Гомель, Бельск, Мцэнск, Ноўгарад-Северскі, Тарапец і частку Мсціслаўскага княства. Да гэтага перамір'я спрычынілася жонка вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра Ягелончыка Алена — дачка вялікага князя маскоўскага Івана III. 2 студзеня 1503 года па просьбе польскага кардынала мужавага брата Фрыдэрыка і іншых уладцаў яна напісала 4 лісты: да бацькі, маці і братоў Васіля і Юрыя з просьбай заключыць перамір'е. Лісты адвёз у Маскву Ян Сапега.

*21 студзеня — 13 сакавіка 1504* — на сойме ў Пётркаве абмяркоўваліся фінансавая і адміністрацыйная рэформы ў Кароне. Быў адменены Мельніцкі прывілей (1501).

*27 кастрычніка 1505* — памёр гасудар расійскі Іван III Васільевіч, цесць вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка. Яму ішоў 67-ы год, 44 з якіх ён займаў пасад вялікага маскоўскага князя.

*1505–1533* — на маскоўскім пасадзе знаходзіўся вялікі князь Васіль III — сын Івана III і другой ягонай жонкі Соф'і Палеалог. Ён працягваў палітыку бацькі па падпарадкаванні Маскве ўдзельных княстваў. У 1510 годзе быў далучаны Пскоў, які славіўся сваім вольналюбствам. Ён жа падавіў супраціўленне апошняга разанскага князя Івана Іванавіча, які намагаўся дамовіцца з Вялікім Княствам Літоўскім. Васіль III далучыў да Масквы Смаленск. Ён быў памяркоўным князем, не караў смерцю баяр. Але ў сям'і выяўляў круты нораў.

*1505* — на сойме ў Радаме прыняты акт, названы Канстытуцыяй *«Nihil novi»* — «Нічога новага», або Радамскай канстытуцыяй. Шляхта дабілася прыняцця гэтага акта ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра,

сына Казіміра з роду Ягелонаў. Гэта азначала, што кароль не мог без агульнай згоды сената і шляхецкіх паслоў прымаць новыя законы. З гэтага часу ўсе пастановы сойма маглі набыць дзейснасць толькі са згоды трох раўнапраўных суб'ектаў: караля, сената і шляхецкіх паслоў. Прычым павінна было быць абавязковае адзінагалоссе — *liberum veto.* Заканадаўчым органам стаў сойм, які складаўся з сената — уваходзілі арыстакраты і пасольскай палаты — прадстаўнікі шляхты. Прыняты таксама Статут Ласкага — збор правоў і прывілеяў, ініцыяваў яго прыняцце канцлер Ян Ласкі (1455–1531), фактычны арганізатар палітыкі дзяржавы.

*30 жніўня 1505 —* памерла каралева польская Эльжбета Ракушанка, якую называлі «маткай каралёў».

*1505, 1506 —* ваяўнічыя набегі крымскіх татараў на беларускія землі, марныя спробы асадзіць Навагародак і Слуцк.

*5 жніўня 1506 —* Клецкая бітва, у якой вялікалітоўскае войска пад кіраўніцтвам князя Міхаіла Глінскага перамагло крымскіх татараў на чале з ханамі Фетыхам і Бурнашам, якія былі сынамі Менглі-Гірэя. Татараў было ад 8 да 12 тысяч. Яны пераадолелі раку Прыпяць, дайшлі да Слуцка і Клецка, які рабавалі яшчэ ў 1503 годзе. А калі сталі тут лагерам, вырашылі накіравацца да Навагародка і Ліды, дзе ў той час знаходзіўся хворы вялікі князь літоўскі Аляксандр. Ён вымушаны быў вярнуцца ў Вільню. Сойм у Лідзе аб'явіў мабілізацыю. Гетман Станіслаў Кішка і дворны маршалак Міхаіл Глінскі сабралі пад Навагародкам каля 7 тысяч коннага войска і вырушылі да Клецка, дзе быў галоўны татарскі лагер. 5 жніўня войска пад кіраўніцтвам Міхаіла Глінскага, бо Кішка захварэў, спынілася на рацэ Лань. Адбылася бітва, якая прынесла перамогу Глінскаму. Як сведчаць некаторыя гісторыкі, Глінскі вызваліў з палону каля 40 тысяч літвінаў, а сам захапіў каля 30 тысяч татарскіх коней. Гэтая бітва спыніла пастаянныя набегі татараў углыб вялікалітоўскіх зямель.

*19 жніўня 1506* — на 45-м годзе жыцця памёр кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр, сын Казіміра з роду Ягелонаў. Адзіны кароль з дынастыі Ягайлавічаў, які пахаваны (11 кастрычніка) у Віленскай катэдры, побач з братам — святым Казімірам. Пасля смерці Аляксандра ў Кракаве і Вільні панавала пэўная разгубленасць, ім пагражала Маскоўскае княства, не давалі спакою крымскія татары. Усё гэта падштурхнула вялікага князя маскоўскага Васіля III да нязвыклай задумы: ён прапанаваў сябе на караля польскага. Васіль паведаміў пра гэта ўдаве Аляксандра сваёй сястры Алене (19.5.1476–20.1.1513) і польскім панам. Васіль абяцаў палякам вялікія выгоды і цярпімасць веры. Але было позна. У Княства з Сілезіі прыехаў брат Аляксандра Жыгімонт, 10 верасня ён быў у Вільні. Васіль III не ўваходзіў з ім у кантакты і ў верасні 1507 года паслаў войскі рабаваць княскія землі. Жыгімонт прапанаваў мір, аднак не прыніжаўся, а патрабаваў вяртання раней адабраных зямель.

*13 верасня 1506* — вялікім князем літоўскім абраны панамі-радай малодшы брат памерлага караля Жыгімонт Ягелончык (1467–1548). Яго ўганаравалі мітрай Гедыміна. Гаспадарыць пачаў 20 кастрычніка. Княжыў да 1548 года.

*8 снежня 1506* — каралевіч Жыгімонт на сойме ў Пётркаве выбраны каралём польскім — Жыгімонтам I, празваны Старым. З гэтага часу пачынаецца змена ўкладу польскага жыцця з традыцый сярэднявечча да Рэнесансу.

*1506–1510* — узвядзенне прыватнага Мірскага замка.

*24 студзеня 1507* — каранцыя Жыгімонта I у Вавельскай катэдры на караля польскага. На пасадзе знаходзіўся да 1548 года.

*Люты 1507* — сойм у Вільні прыняў рашэнне аб вяртанні зямель, якія былі страчаны ў выніку ваенных дзеянняў з Масковіяй.

*1507* — першы набег на Маскву крымскіх татараў.

*Сакавік–красавік 1507* — пасольства караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І да вялікага князя маскоўскага Васіля III з патрабаваннем вярнуць гарады і землі, якія адабраў ягоны бацька Іван III, а менавіта чарнігаўскія і северскія.

*29 красавіка 1507* — маскоўскае войска пайшло на Княства, пачалася Руска-вялікалітоўская вайна. Яна вялася з-за Смаленска. У 1508 годзе адбылася няўдалая аблога рускімі войскамі Оршы. Васіль III атрымаў паразу, вымушаны быў 8 кастрычніка падпісаць новае пагадненне аб «вечным міры».

*Студзень 1508* — мяцеж пад кіраўніцтвам дворнага маршалка князя Міхаіла Львовіча Глінскага, які ў 1506 годзе атрымаў выдатную перамогу над татарамі пад Клецкам. Выхаваны ў Германіі, Міхаіл быў добра адукаваным, храбрым, ведаў вайсковую справу. У Княстве ён вельмі наблізіўся да вялікага князя Аляксандра, валодаў велізарнымі багаццямі. Калі Аляксандр стаў і каралём польскім, Глінскі атрымаў яшчэ большыя магчымасці. Аднак пры каралі Жыгімонце, які змяніў памерлага Аляксандра, Глінскі ўжо не меў такога ўплыву. Усе гэтыя абставіны змусілі яго пачаць мяцеж. Адной з мэтаў, лічаць некаторыя гісторыкі, было стварэнне на беларускіх і ўкраінскіх землях праваслаўнай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве. Да яго далучыліся браты Іван, які ў 1507 годзе быў пазбаўлены Кіеўскага ваяводства, і Васіль. Як сведчыць летапіс, «пристали те ж до него княжата Друцкие и князь Михаил Мстиславский з замком своим, той з Друцким, а сей Мстиславский, тактеж и оршанцы, и Кричев, Гомель поддались яму».

Аднак Жыгімонт І Стары, калі стаў каралём, намагаўся пазбавіцца ад уплыву груповак і аддаліўся ад Міхаіла Глінскага. У выніку міжусобных інтрыг Глінскі вырашыў выступіць збройна. Ён вырушыў з атрадам беларускіх і ўкраінскіх вояў на Навагародак, а пасля на свае землі на Палессі. Хоць сам быў католікам, ды агітаваў абараняць

праваслаўе. Івана Глінскага падтрымаў вялікі князь маскоўскі Васіль III Іванавіч, які прыслаў свае войскі. Войска князя Шамякі на два тыдні стала аблогай каля Менска, рабавала ваколіцы Слуцка, Навагародка, Слоніма. Мяцеж падтрымалі і кіяўляне, якія спадзяваліся, што горад зноў стане цэнтрам вялікага рускага княства. Але Глінскім не ўдалося вярнуць былыя пасады і ранейшае становішча. Супраць мяцежнікаў выступіла войска гетмана Канстанціна Астрожскага. Мяцеж у рэшце рэшт пацярпеў паразу, а маскоўскія войскі змусілі Вялікае Княства Літоўскае да выгаднага на сваю карысць дагавора: 8 кастрычніка быў заключаны «вечны мір» паміж Масквой і Княствам. Да Масквы адышлі шмат якія вялікалітоўскія землі. Міхаілу Глінскаму з групай прыхільнікаў было дазволена перабрацца ў Маскву. Васіль III дараваў яму Малы Яраславец і Мядынь. Аднак «вечны мір» трываў толькі чатыры гады. Пазней, у 1514 годзе, Міхаіл Глінскі браў удзел у асадзе Смаленска маскоўскімі войскамі з надзеяй атрымаць гэты горад сабе. Не атрымаўшы, вырашыў уцячы ў Княства. Яго злавілі з ахоўнай граматай караля Жыгімонта. Глінскага кінулі ў маскоўскія лёхі, дзе ён правёў 12 гадоў. Толькі ў лютым 1527 года Васіль III па просьбе сваёй маладой жонкі Алены Глінскай вызваліў яе дзядзьку Міхаіла. Ды пазнейшыя абставіны змусілі Алену ў жніўні 1534 года схапіць Міхаіла Глінскага, асляпіць яго і зноў кінуць у лёхі. Праз некалькі тыдняў ён памёр ад голаду.

*Лістапад 1509* — няўдалы паход маскоўскага войска на Смаленск, аблога горада вялікім князем маскоўскім Васілём III.

*1509–1510* — аднаўленне вайны паміж польскім войскам і малдаўскім. Гаспадар Малдовы Багдан III Аднавокі пажадаў рэалізацыі дамовы аб ягоным шлюбе з сястрой караля польскага Аляксандра Эльжбетай. Малдаўскае войска заняло Пакуцце, рушыла на Русь Чырвоную, дайшло ажно да Львова.

З пасрэдніцтва Венгрыі ў Львове падпісана мірнае пагадненне, а Венгрыя часова атрымала верхавенства над Малдовай. Эльжбета не стала жонкай Багдана III, бо памёр Аляксандр Ягелончык, які падтрымліваў гэты шлюб.

*15 студзеня 1510* — да Рускай дзяржавы далучаны Пскоў. У Пскове зняты вечавы звон.

*1510* — сойм ВКЛ абмяркоўваў арганізацыю абароны краіны.

*14 снежня 1510* — памёр вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Фрыдэрык Саксонскі, які рашуча адмаўляўся складаць ленную прысягу каралям польскім і не прытрымліваўся Торуньскай пастановы аб міры 1466 года.

*6 ліпеня 1511* — сваяк караля польскага Жыгімонта І Альбрэхт Гогенцолерн Брандэнбургскі (1511–1525) абраны вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна. Жыгімонт спачатку супраціўляўся такому выбару, але пасля згадзіўся. Альбрэхт быў апошнім вялікім магістрам Ордэна і першым прускім князем. У 1525 годзе правёў секулярызацыю Ордэна, у выніку чаго ён ператварыўся ў Прускае герцагства, якое з 1701 года стала Прускім каралеўствам. Вялікі магістр Альбрэхт стаў васалам караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога. Памёр 20 сакавіка 1568 года.

*7 лютага 1512* — шлюб у Кракаве 45-гадовага караля польскага Жыгімонта І Старога з венгерскай княжной Барбарай Запольяі (1495–1515), якая была сястрой Янаша Запольяі — прадстаўніка аднаго з самых магутных родаў Венгрыі, сына надора-палатына (надор — першая пасада ў Венгерскай саслоўнай дзяржаве, пасрэднік паміж каралём і саслоўямі, намеснік караля ў яго адсутнасць) Іштвана Запольяі. Шлюбная дамова з Запольяі была таемна падпісана ў снежні папярэдняга года з братам Барбары Янашам.

*19 лютага 1512* — кароль польскі Жыгімонт І Стары падпісаў таемную дамову з братам сваёй жонкі Янам Запольяі супраць Габсбургаў.

*9 лістапада 1512* — у Падуанскім універсітэце (Італія) адбыўся экзамен для Францыска Скарыны. У выніку члены святой Калегіі мастацтваў і медыцыны аб'явілі Скарыну, сына Лукі з Полацка, доктарам медыцынскіх навук. Адпаведны дакумент дагэтуль захоўваецца ў Падуанскім універсітэце.

*1512–1522* — «вечны мір» паміж Княствам і Масквой парушаны. 14 лістапада 1512 года рускія войскі рушылі на землі Княства. Руска-вялікалітоўская вайна. Вялікі князь маскоўскі Васіль III абяцаў ваяваць да той пары, пакуль конь ягоны будзе хадзіць, а шабля секчы. Ён накіраваў каралю польскаму Жыгімонту прэтэнзіі, што служылі падставай для пачатку вайны. Адной з прычын было тое, што ў Княстве дрэнна адносяцца да ўдовай каралевы Алены, дачкі Васіля. Акрамя таго — невыкананне ўмоў, падбухторванне татараў на Маскву. Аб'яўляючы вайну, Васіль напісаў у дакуменце імя Жыгімонта I Старога без тытула. Рускія войскі ступілі на княскія землі з некалькіх напрамкаў.

*Снежань 1512 — люты 1513* — аблога рускім войскам Смаленска. Дабіцца ўзяцця горада не ўдалося.

*Студзень 1513* — у Вільні памерла ўдовая каралева польская Алена. У Маскве пачаліся гаворкі, што яе атруцілі.

*1513* — у канцы верасня рускія войскі на чале з Васілём III пайшлі на Смаленск. 6 тыдняў доўжылася аблога, але выніку не дала, войска адышло, абрабаваўшы вакольныя мясцовасці.

*1513* — Папа Рымскі Леў X надзяліў караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога правам прызначаць епіскапаў.

*Лета-зіма 1513* — няўдалы паход маскоўскага войска на Смаленск.

*1514* — сойм ВКЛ прыняў рашэнне аб прадаўжэнні вайны з Маскоўскім княствам.

*29 чэрвеня — 1 жніўня 1514* — паход маскоўскага войска на Смаленск. Вялікаму князю маскоўскаму Васілю III дапа-

магаў імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімільян, ён накіраваў на падмогу атрад нямецкай пяхоты, гарматы і некалькі італьянцаў, якія добра зналіся ў аблозе крэпасцей. Да Смаленска ішла 80-тысячная руская армія. Умацаваны горад вытрымаў атакі і абстрэл з трохсот гармат, трох тысяч пішчаляў, аднак не вытрымаў здрады. У выніку подкупу (князь Міхаіл Глінскі, які ў 1508 годзе перайшоў да маскоўскага князя Васіля III, які абяцаў аддаць Смаленск Глінскаму, падкупіў смаленскіх военачальнікаў, і яны здалі горад Васілю III, а пасля ўгаварылі месцічаў капітуляваць) 30 ліпеня 1514 года пасля месячнай аблогі капітуляваў і далучаны да Рускай дзяржавы. 1 жніўня Васіль III урачыста ўехаў у горад. Аднак Глінскага князем смаленскім не прызначыў. Рускія войскі пачалі рухацца ўглыб тэрыторыі ВКЛ. Міхаіл Глінскі здрадзіў Васілю III і паведаміў Жыгімонту I пра колькасць рускага войска і яго маршрут. Маскоўскае войска захапіла Дуброўна, рухалася на Оршу і далей да Друцка, захапіла яго. Вялікалітоўскае войска кіравалася ад Мінска да Барысава, 27 жніўня 1514 года адбылася бітва на левым беразе Бярэзіны, падчас пераправы, было разбіта некалькі маскоўскіх палкоў. Польскі кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт застаўся ў Барысаве, а іншае (большае) войска рушыла на друцкія палі. Па шляху авангард пад кіраўніцтвам Івана Багданавіча Сапегі разбіў маскоўскія атрады падчас пераправы праз Друць. Калі маскоўскае войска даведалася аб гэтым, яно перайшло на левы бераг Дняпра і спынілася паміж Оршай і Дуброўнам, на рацэ Крапіўне, дзе 8 верасня абдылася знакамітая бітва.

Пасля захопу Смаленска ў Маскву перанесены цудатворны Смаленскі абраз Найсвяцейшай Багародзіцы «Адзігітрыя». У Маскве быў збудаваны Новадзявочы манастыр, галоўным саборам у якім з'яўляўся Смаленскі. Смаленск знаходзіўся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага з 1404 года. За час маскоўскіх войнаў тэрыторыя Княства з 900 тысяч квадратных кіламетраў скарацілася на 380–350 тысяч квадратных кіламетраў.

*8 верасня 1514* — бітва пад Оршай паміж войскамі маскоўскага вялікага князя Васіля III на чале з Іванам Чалядніным і аб'яднанымі войскамі Вялікага Княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім. Атрымаўшы перамогу над Смаленскам, моцнае рускае войска вырушыла на Оршу. Насустрач яму выступала вялікалітоўскае войска на чале з князем Канстанцінам Астрожскім. Харугвамі конніцы Вялікага Княства камандаваў Юрый Радзівіл, якога за мужнасць і адвагу, за палкаводчыя здольнасці ў народзе назвалі Літоўскім Геркулесам, Віктарам Пераможцам. Перамогу ў Аршанскай бітве атрымалі войскі Княства. Жыгімонт I накіраваў свае лісты еўрапейскім уладарам, лівонскаму ландмайстару Тэўтонскага ордэна аб Аршанскай перамозе. З Вільні ў Венецыю было накіравана пасольства, якое павінна было перадаць Сенату вестку аб перамозе, у доказ перамогі да Папы Рымскага былі пасланы палонныя, захопленыя падчас бітвы. Аднак на нямецкіх землях трафеі былі адбіты.

Рускі бок панёс вялікія страты: як паведамляў кароль польскі Жыгімонт I Стары магістру Лівонскага ордэна, страты маскоўскага войска склалі забітымі 30 тысяч, у палон трапілі 6 з 11 вярхоўных ваявод, у тым ліку Іван Чаляднін, 2 было забіта, паланілі 37 ніжэйшых ваявод і 1500 дваран, усяго забіта і ўзята ў палон 30 тысяч з 80-тысячнага войска. Гэтая перамога змяніла ход Руска-вялікалітоўскай вайны 1512–1522 гадоў, наступіла пэўнае зацішша — на 3 гады. Рускае войска адступіла да Смаленска. Вялікалітоўцы вярталі сабе адабраныя гарады — Друцк, Дуброўна, Крычаў, Мсціслаў. Смаленск таксама хацелі здаць вялікалітоўцам, аднак маскоўскія ваяводы выкрылі гэта і павесілі ініцыятараў на гарадскіх сценах на час падыходу да Смаленска войска Канстанціна Астрожскага.

*7 снежня 1514* — вялікі князь літоўскі Жыгімонт выдаў у Гародні прывілей, у якім пацверджаны ранейшыя правы

і вольнасці цэрквам, гарадам і асобным жыхарам Княства, а таксама нададзены некаторыя новыя, у прыватнасці, права падданых скардзіцца на несправядлівыя дзеянні кіруючых асоб.

*4 лютага 1515* — у Нясвіжы, у драўляным замку, нарадзіўся Мікалай Радзівіл Чорны (памёр 28.5.1565), вялікі канцлер літоўскі, ваявода віленскі, дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. У 1547 годзе стаў называцца князем Свяшчэннай Рымскай імперыі на Алыцы і Нясвіжы. Стаяў на чале дзяржаўнай камісіі, якая праводзіла аграрную рэформу, падрыхтавала «Уставу на валокі». Быў старшынёй камісіі, якая 28 лістапада 1561 года падпісала ў Вільні акт аб падпарадкаванні Інфлянтаў Польшчы, а сам Мікалай Радзівіл Чорны быў намеснікам у Інфлянтах. Ён стаў актыўным прыхільнікам пратэстантызму. Пры ім буйнымі цэнтрамі пратэстантызму сталі Нясвіж і Бярэсце, дзе былі створаны друкарні. У Берасцейскай друкарні ў 1563 годзе на яго сродкі надрукавана знакамітая Брэсцкая, або Радзівілаўская Біблія. Адзін з экзэмпляраў яе захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве.

*17–22 ліпеня 1515* — урачыстае спатканне ў Вене Жыгімонта І Старога і яго старэйшага брата Уладзіслава, які панаваў у Чэхіі і Венгрыі, з каралём германскім, імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімільянам І з Габсбургаў (1459–1519), які, як і яго папярэднікі, меў ахвоту атрымаць высокія пасады на венгерскіх і чэшскіх землях. У выніку заключылі дамову, згодна з якой павінны былі б адбыцца шлюбы дзяцей Уладзіслава Ягелончыка Людвіка (1506–1526) і Ганны (1503–1547) з унукамі імператара Марыяй і Фердынандам. Дамова ўвайшла ў гісторыю як «венскія шлюбы», дынастычна наладзіліся сувязі паміж Габсбургамі і Ягелонамі. Абодва бакі дамовіліся, што, калі знікне чэшска-венгерская лінія Ягелонаў, панаваць будуць Габсбургі, і наадварот — калі не будзе спадчыннікаў у Габсбургаў, аўстрыйскі пасад дастанецца Ягелонам. Вый-

гралі Габсбургі, якія неўзабаве дабіліся Чэхіі і Венгрыі — Максімільян II Габсбург, сын Фердынанда I з Габсбургаў і Ганны з Ягелонаў, быў каралём чэшскім і венгерскім, імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1564–1576 гадах, а ў 1575 годзе нават прэтэндаваў на польскі пасад.

*2 кастрычніка 1515* — памерла жонка караля польскага Жыгімонта I Старога Барбара Запольяі.

*1515, 1516* — рускае войска беспаспяхова намагалася захапіць Віцебск.

*1516* — сойм ВКЛ прызначыў мабілізацыю паспалітага рушэння і збор надзвычайнага падатку (серабшчыны) для патрэб войска.

*1516* — выйшла паэма Яна Вісліцкага «Пруская вайна» пра перамогу на Грунвальдскім полі. Яна была прысвечана Жыгімонту I Старому — «непераможнаму каралю еўрапейскай Сарматыі». Польская шляхта лічыла, што яна паходзіць ад старажытных сармацкіх плямёнаў, пра якія пісалі Герадот, Пталемей, Ювенал. Сармацкія тэрміны ўвёў ва ўжытак польскі гісторык Ян Длугаш. У сярэднявеччы лічылася, што існавалі Сармацкія горы (Карпаты), Сармацкія Альпы, Сармацкі акіян (Балтыйскае мора), а Палессе называлі Сармацкай багнай. Да сармацкага народа адносілі ўсю шляхту (польскую, літоўскую і рускую) Рэчы Паспалітай пасля Люблінскай уніі. Найлепшым каралём-сарматам лічыўся Ян III Сабескі (1674–1696). З апошняй чвэрці XVI стагоддзя на польскіх і вялікалітоўскіх землях набыло асаблівае пашырэнне паняцце «сарматызм» і сармацкая самасвядомасць, якія існавалі ў Рэчы Паспалітай да сярэдзіны XVIII стагоддзя.

*13 сакавіка 1516* — у венгерскай Будзе памёр Уладзіслаў II Ягелончык, кароль чэшскі і венгерскі Уласла (Ласла) II, брат Жыгімонта I. Пасля бацькі пасад заняў малалетні Людвік — Лаяш II.

*6 жніўня 1517* — Францыск Скарына надрукаваў у Празе першую беларускую кнігу — «Псалтыр». Гэта адбыло-

ся раней, чым кнігадрукаванне было адзначана на рускіх і польскіх землях. Біблія Скарыны стала трэцяй пасля нямецкай (1445) і чэшскай (1488), яна была ў карыстанні ўсёй усходняй часткі славянскай Еўропы. Кнігі Скарыны выходзілі з неверагоднай хуткасцю: 10 верасня 1517-га — «Кніга Іова», 6 кастрычніка 1517-га — «Кніга прытчаў», 5 снежня 1517-га — «Прамудрасць Сіраха», 2 студзеня 1518-га — «Эклезіяст», 9 студзеня 1518-га — «Песня Песняў», 19 студзеня 1518-га — «Прамудрасць Саламона», 10 жніўня 1518-га — чатыры «Кнігі царстваў», 20 снежня 1518-га — «Кніга Ісуса Навіна», 9 лютага 1519-га — «Юдзіф», 5 снежня 1519-га — «Кніга суддзяў». Такім чынам — 23 кнігі за 28 месяцаў.

*1517* — рускія войскі рушылі на ВКЛ. З трох напрамкаў яны ўступілі на княскія землі: з Ноўгарада — Шуйскі, са Старадуба — Курбскі, ваявода Гадуноў і князь Ялецкі рабавалі ваколіцы Віцебска і Полацка. Захапіць гэтыя гарады не ўдалося. А ў верасні вялікі князь маскоўскі Васіль III Іванавіч заключыў на паўгода мір з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам I Старым.

*22 студзеня 1517* — Папа Рымскі Леў X увёў адпушчэнне грахоў за грошы, можна было купіць індульгенцыю. Касцёл адчуваў вострую патрэбу ў грашовых сродках і гэткім чынам вырашыў папраівіць сваё становішча.

*10 сакавіка 1517* — папярэдне ўзгодненая яшчэ два гады таму дамова аб перамір'і Тэўтонскага ордэна з Рускай дзяржавай была падпісана 10 сакавіка. Альбрэхт Гогенцолерн (1490–1568) атрымаў абяцанне вялікага князя маскоўскага Васіля III выдзяляць Ордэну сродкі для вярбоўкі войска, пасля чаго павінны разам выступіць супраць караля польскага Жыгімонта I Старога.

*31 кастрычніка 1517* — нямецкі святар і рэлігійны рэфарматар Марцін Лютэр (1483–1546) вывесіў свае 95 тэзісаў супраць гандлю індульгенцыямі на варотах дваравой царквы Вітэнберга. Пачатак Рэфармацыі ў Еўропе. Тых, хто

пратэставаў супраць парушэння традыцый у каталіцкай царкве, называлі пратэстантамі.

*1517* — у Вавельскай катэдры пачынаецца будаўніцтва Жыгімонтаўскай капліцы. Будоўлю вядуць італьянскія архітэктары (каля 30 чалавек) на чале з Барталамеем Бэрэці (каля 1480 — 1537). Жыгімонт І прызначае капліцу для сваёй памерлай жонкі. Скончана капліца ў 1533 годзе. Названа адразу каралеўскай, альбо Ягелонскай. Дагэтуль яна лічыцца адным з першых выдатных помнікаў Рэнесансу. Пазней Ганна Ягелонка (1523–1596) пакрыла яе дах золатам.

*18 красавіка 1518* — шлюб караля польскага Жыгімонта І Старога з італьянскай князёўнай Бонай Сфорцай (1494–1557). Разам з Бонай у Кракаў прыбыло каля 300 італьянцаў.

*1518* — маскоўскі вялікі князь Васіль ІІІ паслаў на аблогу Полацка войска з 5 палкоў і нарада гармат — усяго 7 тысяч чалавек на чале з наўгародскім намеснікам ваяводам князем Васілём Шуйскім. Пазней на дапамогу яму быў прысланы з маскоўскімі палкамі ваявода князь Міхаіл Гарбаты. Аднак гарнізон на чале з Альбрэхтам (Альбертам) Гаштольдам рашуча супраціўляўся. Палкі Шуйскага не вытрымалі ўдару вялікалітоўскага войска і адступілі. 11 верасня яны падышлі да Вязьмы.

*1519–1521* — апошняя вайна Польшчы з Тэўтонскім ордэнам, названая Прускай. Польскае войска пад кіраўніцтвам гетмана кароннага Мікалая Фірлея захапіла амаль усе прускія землі, пачала аблогу сталіцы Ордэна Каралеўца (Кёнігсберг, цяпер Калінінград). Вялікім магістрам у гэты час быў пляменнік польскага караля Альбрэхт з роду Гогенцолернаў. Крыжакоў падтрымлівалі імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі і Папа Рымскі, якія прасілі за Альбрэхта ў караля (не надта падтрымліваў ягонае абранне магістрам). Жыгімонт І Стары змушаны быў падпісаць мірнае пагадненне на 4 гады.

*1519* — агульнае наступленне рускага войска на землі Вялікага Княства Літоўскага. Сам вялікі князь маскоўскі

Васіль III выехаў да Смаленска 15 снежня. Пасля беспаспяховай двухмесячнай аблогі рускія войскі адышлі. Пачатак мірных перамоў з Княствам у Маскве.

*2 жніўня 1519* — другая за ўсю ваенную біяграфію князя Канстанціна Астрожскага параза на полі бітвы — з татарамі пад Сокалам. Вялікі гетман вымушаны быў адступіць і схавацца ў Сакольскім замку.

*Вясна 1519* — вялікі князь маскоўскі Васіль III заключыў ваенную дамову з крымскім ханам Мухамедам-Гірэем супраць Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.

*1520-я гады* — створана «Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага».

*1 жніўня 1520* — у караля польскага Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы нарадзіўся сын, якога назвалі Жыгімонтам Аўгустам (памёр у 1572). Для Ягелонаў гэта было выдатнай падзеяй, бо працягвалася іхняя дынастыя. А вось для іхніх праціўнікаў гэта з'явілася непрыемнай нечаканасцю.

*1520* — польскі сойм прыняў закон, які абавязваў усіх сялян — уладальнікаў зямлі адпрацоўваць паншчыну.

*1521* — паны-рада ВКЛ пісалі Жыгімонту, што з-за яго доўгай адсутнасці ў Княстве яны церпяць ад татараў, і прасілі прыехаць.

*1521* — Торуньскі статут увёў паншчыну для польскіх сялян.

*1521* — Францыск Скарына заснаваў у Вільні першую ва Усходняй Еўропе друкарню.

*1521* — разанскі князь Іван Іванавіч уцёк з вязніцы ў Вялікае Княства Літоўскае. Далучэнне Разанскага княства і Угліцкага ўдзельнага княства да вялікага княства Маскоўскага. Гэта адбывалася пры вялікім князю маскоўскім Васілю III, сыну Соф'і Палеалог.

*1521* — імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Карл V з Габсбургаў аб'явіў Марціна Лютэра ерэтыкам.

*9 ліпеня 1521* — у Вавельскай катэдры ў Кракаве ўсталяваны звон Жыгімонта, які быў адліты з крыжацкіх гармат,

захопленых у вайне з Ордэнам. Звон важыў каля 11 тон, меў амаль 2 метры ўвышкі, дыяметр каля 2,5 метра. Каб давесці яго да звону, патрабавалася 8 мужчын. Звон існуе і цяпер, звоніць толькі ў значныя народныя альбо касцельныя святы.

*1521–1522* — беларускі паэт-лацініст Мікалай Гусоўскі (нарадзіўся ў 1470-я гады, верагодна, у в. Уса альбо Усава ў Цэнтральнай Беларусі ў сям'і лоўчага; памёр каля 1533 года ў Польшчы) стварыў у Рыме ліра-эпічную паэму на лацінскай мове «Песня пра зубра», у якой уславіў вялікага князя літоўскага Вітаўта Вялікага. Аўтар прысвяціў паэму каралеве Боне Сфорцы. Паэма была надрукавана ў Кракаве ў 1523 годзе. Да беларусаў жа выдатны твор дайшоў толькі праз 444 гады. У 1967 годзе ўпершыню на беларускую мову паэму пераўвасобіў выдатны перакладчык многіх класічных твораў Язэп Семяжон.

Мікола Гусоўскі ў сталыя гады нёс службу пры двары свайго мецэната плоцкага біскупа Эразма Вітэлія, які ў 1492–1499 гадах меў пасаду сакратара велікакняскай канцылярыі ў стольнай Вільні. У 1518 годзе разам з пасольствам Вялікага Княства і Польшчы Гусоўскі выправіўся да Папы Рымскага Льва X у Рым, дзе прабыў пяць гадоў. Менавіта тут ён напісаў «Песню пра зубра» і 11 вершаў. Першы паэтычны зборнік з гэтымі творамі выйшаў у тагачаснай польскай сталіцы Кракаве ў 1523 годзе.

Мікола Гусоўскі, якога ставілі ўпоравень з выдатным італьянскім паэтам эпохі Адраджэння Петраркам, узяўся давесці да еўрапейскага свету, што існуе такі запаведны і запаветны край, дзе вольна пачуваецца не толькі цар тутэйшай прыроды зубр, але і гаспадар усяго гэтага — тутэйшы чалавек. А дзяржава тая — гэткая ж цывілізаваная, як і іншыя. І завецца яна Вялікім Княствам Літоўскім. Гусоўскі стварыў паэму на лацінскай мове, далёка ад беларускіх краявідаў — «на зямлі апенінскай», ён паабяцаў: «Я прысягаю: заўжды, да апошняга слова пець толькі праўду». І спраўдзіў сваё абяцанне.

*1522* — у Кракаве адбыўся першы працэс супраць лютэран.

*1522* — смерць ваяводы віленскага і канцлера літоўскага Мікалая Радзівіла. Віленскім ваяводам і канцлерам стаў Альберт (Альбрэхт) Гаштольд, трокскі ваявода.

*1522* — сойм ВКЛ абмяркоўваў пытанні замірэння з Маскоўскім княствам.

*14 верасня 1522* — у Маскве падпісана дамова аб спыненні ваенных дзеянняў супраць Княства на пяць гадоў згодна з існуючым тэрытарыяльным становішчам. Смаленск заставаўся за Масквой.

*1523* — у Маскве арыштаваны ноўгарад-северскі князь Васіль Шамячыч. Ноўгарад-Северскае княства далучана да Масковіі.

*1524* — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт I Стары заключыў з Францыяй антыгабсбургскі саюз.

*1524* — напад туркаў на Чырвоную Русь, а татараў — на Падолле і Валынь.

*1524* — у Кракаве пачалі выдавацца друкаваным спосабам Канстытуцыі, як называліся тады пастановы соймаў і вальных соймаў. Яны былі часовыя — разлічаныя на пэўны час *(constitutiones temporales)* і доўгатэрміновыя — на ўсе вякі *(constitutiones perpetuae)*. Першыя выданні ахоплівалі 1507–1523 гады і друкаваліся на лацінскай мове, бо так яны прымаліся на соймах. З 1543 года самі Канстытуцыі пісаліся на польскай мове. Падпісаныя маршалкам і канцлерам, з пячаткай караля экзэмпляры рассылаліся па ўсіх ваяводствах.

*1525* — у Прусіі кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт I Стары правёў секулярызацыю Тэўтонскага ордэна, ён пераўтвораны ў свецкае Прускае княства, якое знаходзілася ў леннай залежнасці ад Рэчы Паспалітай. Апошні вялікі магістр Ордэна Альбрэхт Брандэнбургскі з роду Гогенцолернаў распусціў Ордэн, перайшоў у пратэстанцтва,

10 красавіка на Рынкавай плошчы ў Кракаве склаў ленную прысягу Жыгімонту І. З 55 рыцараў, што заставаліся ў Прусіі, толькі некалькі захавалі прыхільнасць Статуту неіснуючага ўжо Ордэна. Іншыя пашлюбілі сабе жонак і ўліліся ў шэрагі мясцовай знаці, стварыўшы такім чынам аснову прускага юнкерства. Альбрэхт стаў васалам караля польскага Жыгімонта І Старога і спадчынным князем, гэта значыць мог перадаваць уладу сваім нашчадкам альбо родным. А прускія князі як леннікі мусілі складаць прысягу вернасці кожнаму польскаму каралю. Калі б у Альбрэхта не аказалася дзяцей, то Прусія павінна перайсці пад уладу польскага караля.

*10 красавіка 1525* — на Кракаўскім рынку ў прысутнасці многіх людзей першы прускі князь Альбрэхт Гогенцолерн прынёс прысягу каралю польскаму Жыгімонту Старому. Перад усімі ён урачыста заявіў: «Я, Альбрэхт, маркграф брандэнбургскі, а таксама князь у Прусах, шлюбую і прысягаю (...), што з гэтай хвіліны на вечныя часы буду верны, адданы і паслухмяны з усімі маімі падданымі найяснейшаму міласціваму пану Жыгімонту, каралю польскаму і ягоным нашчадкам, а таксама цалкам Кароне Польскай, як належыць і павінна леннаму князю і прыхільніку міру». Тэўтонскі ордэн з гэтага часу перастаў існаваць.

*21 студзеня 1526* — вялікі князь маскоўскі Васіль III пашлюбіўся з Аленай Васільеўнай Глінскай, дачкой Васіля Львовіча. Дзеля гэтага ён мусіў узяць развод са сваёй першай жонкай Саламоніяй Сабуравай, з якой у яго не было дзяцей, і адправіць яе ў Пакроўскі дзявочы манастыр у Суздаль. Князю было на той час 47 гадоў, Алене — трынаццаць. Каб дагадзіць маладой жонцы, Васіль мусіў парушыць традыцыю і першым з маскоўскіх князёў збрыць бараду. Алену ж князь пакахаў, як паведамляе летапісец, «лепоты ради лица и благообразна возраста, наипаче ж целомудрия ради». Па просьбе жонкі Васіль III вызваліў з цямніцы па-

сля 12-гадовага зняволення яе дзядзьку князя Міхаіла Глінскага, які ўцёк з Вялікага Княства Літоўскага пасля няўдачы свайго мяцяжу ў 1508 годзе, служыў інтарэсам Масковіі, а пасля задумаў уцячы назад у Княства, аднак намер яго выкрылі і зрабілі вязнем. Брат Міхаіла Васіль Глінскі памёр падчас знаходжання ў двары маскоўскага князя «ничтожным царедворцем ни в опале, ни в милости». Ён пакінуў жонку-ўдаву і траіх дзяцей — двух сыноў і дачку Алену, рэдкай прыгажосці, разумную і адукаваную дзяўчыну, аднак гордую і самалюбівую. Алена 25 жніўня 1530 года нарадзіла сына Івана, будучага цара Івана IV Грознага. Вялікая княгіня маскоўская Алена Глінская памерла 3 красавіка 1538 года. Хоць дагэтуль існуе версія, што яе атруцілі, бо не карысталася яна падтрымкай ганарлівых баяр, якія ні з кім не хацелі дзяліцца ўладай. Кажуць, прадстаўнікі магутнага роду Шуйскіх дамешвалі ёй у ежу ртуць. Крыніцы сведчаць, што памерла яна а 2-й гадзіне ночы і ў той жа дзень была пахавана ў Вазнясенскім манастыры.

*29 жніўня 1526* — на Венгрыю напалі асманскія туркі. У бітве ля Мохача, паблізу паўднёвай мяжы Венгрыі, венгры панеслі страшную паразу ад пераўзыходзячых сіл асманскага султана Сулеймана II. У гэты дзень загінулі ўсе лепшыя сілы венгерскай арыстакратыі, забіты кароль венгерскі і чэшскі Уладзіслаў (Уласла) II Ягелончык. Сулейман дайшоў да венгерскай сталіцы Буды і захапіў яе. Каралём Венгрыі 23 кастрычніка выбраны Фердынанд Габсбургскі (брат Карла V — караля Аўстрыі і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, муж сястры Ганны з Ягелонаў), што стала пачаткам нараджэння аўстра-венгерскай манархіі. Аднак частка венграў не хацела бачыць на сваім пасадзе Габсбурга. 10 лістапада падтрымкі часткі венгерскіх феадалаў дабіўся Янаш Запольяі, які быў абраны каралём і назаўтра ў Сехешфехервары быў каранаваны каронай святога Стэфана.

Пачалася ўнутраная вайна, у выніку якой туркі захапілі значную частку тэрыторыі. Каб захаваць ад небяспекі свае паўднёвыя межы, Жыгімонт I Стары заключыў у 1530 годзе з турэцкім уладаром «вечны мір», які пазней быў пацверджаны Жыгімонтам Аўгустам і існаваў да пачатку XVII стагоддзя. Гэта засцерагала і ад нападаў крымскіх татараў, бо яны былі леннікамі Турцыі. У Венгрыі адбыліся падвойныя выбары: каралём назвалі Янаша Запольяі — 10 лістапада і Фердынанда — 17 снежня. Неўзабаве паміж імі пачынаецца вайна, якая доўжылася да 1538 года.

*1526* — Чэхія пераходзіць пад уладу аўстрыйскіх Габсбургаў.

*1526* — у друкарні Унглера ў Кракаве выйшла першая геаграфічная карта Польшчы і заходняй Літвы выбітнага картографа Бернарда Вапоўскага. Аж да XVII стагоддзя яна рабіла вялікі ўплыў на польскую картаграфію.

*1526* — паны-рада Княства вырашылі накіраваць да караля польскага Жыгімонта I паслоў з просьбай прыехаць у Вільню і дазволіць свайму сыну Жыгімонту Аўгусту стаць гаспадаром Княства. Рада таксама прасіла караля, «абы они (палякі) тую корону, которая послана Великому Княжеству Литовскому (падчас намеру каранаваць Вітаўта), вернули к князю великому его милости, сыну вашея милости... Когда то княզьство будет иметь корону, тогда не так легко уже будет присоединить его к короне Польской, потому что одна корона не может быть вцелена в состав другой короны». Кароль згадзіўся аддаць Княства свайму сыну, аднак на яго каранацыю згоды не даў.

*12 студзеня 1527* — бітва каля ракі Альшаніца (прыток Дняпра) непадалёк ад Кіева паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і крымскіх татараў. Татарскія орды былі цалкам разгромлены. Перамогу здабывалі воі Канстанціна Астрожскага, які ўзначальваў войска і ў бітве каля Оршы ў 1514 годзе. Удзел

у бітве браў Юрый Радзівіл — Геркулес Літоўскі, як называў яго народ. Было вызвалена каля 80 тысяч палонных.

*28 лютага 1527* — прадоўжана перамір'е паміж Расійскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім, якое было заключана ў 1522 годзе.

*1526* — Варшава ўключана ў склад Польшчы.

*1527* — бітва войска вялікага гетмана літоўскага Канстанціна Астрожскага з татарамі ля Пінска. Заваёўнікі пацярпелі паразу, Астрожскі вызваліў каля 40 тысяч вязняў-хрысціян.

*Люты 1528* — у Польшчы знайшоў прыстанішча кароль венгерскі Янаш Запольяі, які пацярпеў паразу ад Фердынанда Габсбурга. Янаш асеў у Тарнове. У лістападзе на тэрыторыі Рэчы Паспалітай ён сфарміраваў войска і аднавіў вайну з Фердынандам Габсбургам.

*11 лютага 1529* — упершыню ў Варшаве адбыўся сойм, які ўхваліў інкарпарацыю Мазоўшы ў Карону Польскую.

*Люты-сакавік 1529* — у Вялікім Княстве Літоўскім знаходзіцца аўстрыйскі дыпламат і палітык Сігізмунд Герберштэйн з цяжкай дыпламатычнай місіяй — дабіцца ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога ваеннай дапамогі супраць асманаў. Знаходжанне Герберштэйна ў Вільні з 20 сакавіка да 7 красавіка не дало вынікаў. Пазней, з 11 ліпеня да 6 жніўня, ён вёў перамовы ў Кракаве. Аднак поспеху не дабіўся: атрымаў адмову ў ваеннай і матэрыяльнай дапамозе і нават не меў падтрымкі ў справе пасрэдніцтва Жыгімонта І Старога паміж Фердынандам і Сулейманам.

*29 верасня 1529* — прыняты адзін з першых у Еўропе сістэматызаваны збор законаў — першы Статут Вялікага Княства Літоўскага. У ім, каб засцерагчыся ад паўсюднай паланізацыі і акаталічвання вялікалітоўскіх зямель, было запісана, што палякі, як замежнікі, не маюць права набы-

ваць зямлю і займаць дзяржаўныя пасады ў Княстве. Аднак на справе гэта ігнаравалася.

*18 кастрычніка 1529* — на сойме ў Вільні вялікім князем літоўскім абраны 9-гадовы Жыгімонт II Аўгуст — сын Жыгімонта Старога. Гэта было зроблена ў выніку намаганняў другой жонкі Жыгімонта I Старога Боны Сфорцы. Такім чынам, на пасадзе знаходзіліся два кіраўнікі. Сапраўдным гаспадаром Княства і Кароны Жыгімонт Аўгуст стаў пасля смерці бацькі 1 красавіка 1548 года. Больш за іншых гаспадароў праводзіў час на землях Княства. Жыгімонт II Аўгуст быў добрым прамоўцам, валодаў лацінскай, нямецкай і італьянскай мовамі, добра пісаў. Меў багатую бібліятэку з каштоўнымі кнігамі, калекцыі карцін, дываноў, зброі і даспехаў, пры двары працавала капэла. Пахаваны ў Кракаве.

*18 снежня 1529* — Жыгімонт II Аўгуст на сойме ў Пётркаве стараннямі сваёй маці каралевы польскай Боны Сфорцы выбраны каралём польскім яшчэ пры жыцці бацькі. Фактычна ж улада ў Княстве яму перададзена на Берасцейскім сойме ў кастрычніку 1544 года. Знаходзіўся на каралеўскім пасадзе да 1572 года.

*Канец 1529* — Жыгімонт I Стары выехаў у Польшчу, дзе прабыў да пачатку чэрвеня 1533 года.

*20 лютага 1530* — каранацыя 10-гадовага вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста на караля польскага. Ён быў выбраны на караля яшчэ пры жыцця свайго бацькі — 18 снежня 1529 года. З гэтага моманту Жыгімонт I стаў называцца Жыгімонтам I Старым. А сейм, які адбыўся неўзабаве, прыняў рашэнне аб тым, што выбіраць караля трэба толькі пасля смерці папярэдніка.

*25 жніўня 1530* — у вялікага князя маскоўскага Васіля III і Алены Глінскай нарадзіўся сын Іван (25.8.1530 — 18.3.1584), які ў 1533 годзе стаў вялікім князем маскоўскім і ўсяе Русі Іванам IV Васільевічам Грозным (Жахлівым), а з 1547 года —

першым рускім царом. Але паколькі многія ў Маскве не прызнавалі гэтага шлюбу, дык пайшло гуляць шмат пагалосак, казалі, што нарадзіўся будучы тыран: «злое чадо, от коего царство наполнится ужаса и печали, кровь польется рекою, падут главы вельмож, запылают грады». Казалі, што ў час нараджэння Івана ў Ноўгарадзе грымеў гром, траслася зямля і завываў звон.

*1530* — памёр вялікі гетман літоўскі князь Канстанцін Астрожскі.

*1532–1533* — вайна паміж Асманскай імперыяй і Аўстрыяй за Венгрыю.

*10 красавіка 1532* — руска-вялікалітоўскае перамір'е прадоўжана на адзін год.

*1 мая 1533* — кароль польскі Жыгімонт I Стары заключае дамову аб міры і дружбе з турэцкім султанам Сулейманам на час жыцця абодвух уладароў. Дамова трывала амаль 90 гадоў.

*3 снежня 1533* — памёр вялікі князь маскоўскі і ўсяе Русі Васіль III — сын Івана III ад другога шлюбу з Соф'яй Палеалог. На троне аказаўся малалетні сын Васіля Іван IV, будучы цар Іван Грозны (Жахлівы).

*1533–1538* — рэгенцтва вялікай княгіні Алены Глінскай над малалетнім сынам Іванам. Кіруюць дзяржавай баяры.

*1534* — пасля смерці Васіля III вялікалітоўскае войска нападае на памежныя з Масквой тэрыторыі. Апошняя вайна паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, якая доўжылася да 1537 года. У 1535 годзе гетман Ян Тарноўскі здабыў Гомель і Старадуб. У 1537 годзе ў Маскве заключана перамір'е на 5 гадоў.

*1533–1584* — на вялікім маскоўскім пасадзе знаходзіцца Іван IV Васільевіч Грозны (Жахлівы), сын Васіля III і княгіні Алены Глінскай. Лічыўся і вялікім князем усяе Русі, а з 1547 года — першым рускім царом. Цікава, што паміж палякамі і маскавітамі ўзнікла спрэчка аб паходжанні царскага тытула. Кароль польскі не хацеў прызнаваць не пацвер-

джаны адпаведнымі дакументамі тытул і не называў у сваіх граматах Івана IV царом, а Іван у сваіх граматах не называў каралём Жыгімонта II Аўгуста.

*Верасень 1534* — кіеўскі ваявода Андрэй Няміравіч увайшоў у Северскую зямлю, а князь Вішнявецкі пайшоў на Смаленск. Палякі сталі аблогай каля Чарнігава. Аднак рускія абараняліся годна і з трох напрамкаў — ад Смаленска, Пскова і Старадуба накіраваліся на землі ВКЛ. Іхняе войска налічвала каля 150 тысяч. Толькі 15 вёрст не дайшлі яны да Вільні, дзе знаходзіўся сам Жыгімонт I Стары.

*1535* — да ўлады на Каўказе прыйшоў хан Сафа-Гірэй, аднавіліся напады Казані на ўсходнія межы Русі. У адказ Алена Глінская, маці і рэгентша малалетняга вялікага князя Івана, у 1538 годзе арганізавала вялікі ваенны паход на Казань.

*18 кастрычніка 1536* — вялікі пажар у Кракаве. Была знішчана новапабудаваная частка Вавельскага замка.

*18 лютага 1537* — у Маскву да вялікага князя Івана прыбыў ваявода полацкі Ян Глябовіч, каб дабіцца вяртання Ноўгарада і Смаленска, ад яго ж запатрабавалі Кіеў. У выніку гарачых спрэчак заключана перамір'е паміж Маскоўскім вялікім княствам і Вялікім Княствам Літоўскім на пяць гадоў. За ВКЛ засталіся Гомель, Старадуб і Мсціслаў, а Маскве належалі Крычаў, Рослаў, Чарнігаў, новапабудаваныя на вялікалітоўскай зямлі замкі Завалочча (Ржэўскі павет), Себеж і Веліж (Тарапецкі павет).

*1537* — польская шляхта, якая сабралася каля Львова, каб паспалітым рушэннем пайсці супраць малдаўскага гаспадара, распачала сойм. Тут прагучалі папрокі ў адрас Боны Сфорцы ў тым, што яна несправядліва дамагаецца ўлады і наносіць крыўду шляхце — яе сын Жыгімонт выбраны і каранаваны на караля пры жывым бацьку. Паколькі шляхта, замест таго каб змагацца з малдаўскім гаспадаром, змагала-

ся з курамі, якія ідуць на сталы, вайну гэтую палякі назвалі «курынай вайной». У выніку супраціўлення шляхты кароль Жыгімонт I Стары прызнаў яе права выбіраць караля. Адбылося гэта пасля смерці самога Жыгімонта Аўгуста.

*18 мая 1537* — у Геранёнах, якія цяпер у Іўеўскім раёне, адбыўся ўрачысты шлюб 30-гадовага навагародскага ваяводы (на гэтую пасаду віленскі сойм выбраў яго ў 15-гадовым узросце), члена Рады ВКЛ Станіслава Гаштольда і 17-гадовай Барбары Радзівіл. Гаштольд быў не толькі вядомым магнатам, але і блізкім супольнікам у справах караля польскага Жыгімонта I Старога, а Барбара стала пасля смерці мужа жонкай караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста і каралевай польскай. Яе бацька Юрый Радзівіл быў кашталянам віленскім і вялікім гетманам літоўскім.

*3 красавіка 1538* — нечакана памерла вялікая княгіня маскоўская, жонка вялікага князя маскоўскага Васіля III Алена Васільеўна Глінская. Яе дзядзькам быў князь Міхаіл Глінскі, які ў 1506 годзе атрымаў перамогу над татарамі каля Клецка, а ў 1508 годзе разам з братамі падняў мяцеж супраць вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I Старога. Пасля смерці мужа на высокім пасадзе яна была толькі тры гады і тры месяцы. Сучаснікі лічылі, што яе атруцілі Шуйскія, дамешваючы ў ежу ртуць.

*22 лютага 1539* — дачка Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы Ізабэла Ягелонка (1519–1559) была пашлюблена з Янашам Запольяі і каранавана на венгерскую каралеву. 7 ліпеня 1540 года ў іх нарадзіўся спадчыннік Янаш, а праз 2 тыдні Запольяі памёр. У 1551 годзе Ізабэла пераехала ў Кракаў. Яна памерла 15 верасня 1559 года.

*1540* — афіцыйнае зацвярджэнне Папам Рымскім Паўлам III Ордэна езуітаў.

*1541* — Асманская Турцыя захапіла Буду і заваявала ўсю Венгрыю. Падзел Венгрыі паміж Асманскай ім-

перыяй і аўстрыйскімі Габсбургамі. У выніку былі створаны Венгерскае каралеўства, Трансільванскае княства (1571–1699).

*25 сакавіка 1542* — роўна праз пяць гадоў пасля заключэння перамір'я Вялікага Княства Літоўскага з Масквой было падпісана пагадненне аб прадаўжэнні перамір'я яшчэ на сем гадоў.

*6 мая 1543* — кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст узяў шлюб з княжной Эльжбетай Габсбургскай (1526 — 15.6.1545), 17-гадовай дачкой аўстрыйскага князя Фердынанда (1503–1564) і Ганны Ягелонкі, каралевы венгерскай і чэшскай.

*1543* — з гэтага года соймавыя канстытуцыі ў Кароне абвяшчаюцца па-польску.

*6 кастрычніка 1544* — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст (1520–1572) атрымаў ад бацькі ўладу як намеснік Вялікага Княства Літоўскага. Жыгімонт I Стары пакінуў сабе тытул найвышэйшага князя — *dux supremus.*

*1544* — Альбрэхт Гогенцолерн заснаваў універсітэт у Каралеўцы (Кёнігсберг, сёння Калінінград), які становіцца буйным цэнтрам пратэстантызму.

*1545* — у Княстве пачалі сваю дзейнасць пратэстанцкія прапаведнікі, актывізавалася Рэфармацыя.

*Сакавік 1545* — да рускага цара Івана прыехала пасольства караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, каб пацвердзіць мірныя зносіны з Руссю.

*15 чэрвеня 1545* — у Вільні памерла хворая на эпілепсію жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста Эльжбета з Габсбургаў (нарадзілася ў 1526). Пахавана 24 жніўня.

*18–27 студзеня 1546* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст едзе на паляванне ў Белавежскую пушчу, мо каб адысці ад тых непрыемных перы-

петый, што спадарожнічалі яму пры знаёмстве з Барбарай Радзівіл.

*16 студзеня 1547* — ва Успенскім саборы маскоўскага Крамля мітрапаліт Макарый вянчаў вялікага князя маскоўскага Іван IV Васільевіча (1530–1584) Грознага (Жахлівага) царскім вянцом. З гэтага часу цырымонія вянчання на царства стала абавязковай для ўсіх манархаў.

*28 ліпеня 1547* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст таемна шлюбуецца з Барбарай Радзівіл (1520–1551), з якой пазнаёміўся ў 1544 годзе. Барбара, дачка віленскага кашталяна і вялікага гетмана літоўскага Юрыя Радзівіла, 10 гадоў таму стала жонкай ваяводы навагародскага і трокскага, члена Рады ВКЛ Станіслава Гаштольда, які нечакана памёр. Шлюб Жыгімонта і Барбары выклікаў вялікае незадавальненне ў Кароне і Княстве. Ягоны бацька Жыгімонт I Стары, і асабліва маці Бона Сфорца не хацелі прызнаваць гэты шлюб. Бона ні разу не сустракалася з Барбарай. Барбары прысвечана п'еса Аляксея Дударава «Чорная панна Нясвіжа», спектакль па якой ідзе на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

У гісторыі засталіся лісты, якія пісала Барбара да мужа. Яны сведчаць пра добрае выхаванне Барбары і валоданне ёю пэўнымі літаратурнымі здольнасцямі. Некаторыя з лістоў былі апублікаваны ў Польшчы ў XIX стагоддзі, а ў 1997 годзе асобныя з іх у перакладзе на беларускую мову змешчаны ў шостым нумары часопіса «Спадчына». У цяперашні час лісты Барбары Радзівіл да сваіх родных і да мужа апублікаваны ў трохтомніку польскага даследчыка Казіміра Рымута з Кракава «Listy polskie XVI wieku» (1998–2004).

*1 красавіка 1548* — у Кракаве ва ўзросце 81 год памёр кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт I Стары. Пахаваны ў Вавельскай катэдры.

*31 кастрычніка — 12 снежня 1548* — у Пётркаве адбыўся першы пры Жыгімонце II Аўгусце сойм, які павінен прызнаць яго ўладу як караля. Аднак узнік канфлікт са шляхтай, якая не жадала прызнаваць ягоны шлюб з Барбарай Радзівіл. Усе паслы на каленях прасілі караля пакінуць Барбару. На гэта нязломны Жыгімонт адказаў: «Я даў прысягу жонцы, ад яе не адступлюся, пакуль мне Пан Бог даруе жыццё, а наймілейшай за ўсе на свеце каралеўствы для мяне з'яўляецца вера».

*1548–1572* — вялікім князем літоўскім з'яўляецца сын Жыгімонта Старога Жыгімонт II Аўгуст. Пры ім у Княстве адбыліся значныя палітычныя, эканамічныя і вайсковыя рэформы.

*7 снежня 1550* — пасля працяглых спрэчак са шляхтай у Кракаве адбылася каранацыя жонкі караля польскага Жыгімонта II Аўгуста Барбары Радзівіл на каралеву польскую.

*1550* — пачатак пашырэння на беларускіх землях ідэй Рэфармацыі. Гэты працэс падтрымлівалі многія феадалы на чале з ваяводам віленскім і канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Мікалаем Радзівілам.

*8 мая 1551* — памерла жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста Барбара Радзівіл. Пахавана згодна са сваёй папярэдняй просьбай у кафедральным касцёле ў Вільні. Амаль месяц рухаўся да Вільні жалобны картэж. Кароль суправаджаў яго конна, а ў кожным паселішчы ішоў пешкі. Лічылі, што Барбару атруціла свякроў Бона Сфорца, маці Жыгімонта II Аўгуста.

*26 кастрычніка 1552* — узяцце Казані 150-тысячным рускім войскам на чале з Іванам IV Грозным, далучэнне Казанскага ханства да Рускай дзяржавы. У тытул цара ўключана азначэнне «цар казанскі».

*1553* — віленскі ваявода, берасцейскі стараста, канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны, які садзейнічаў пашырэнню ў Вялікім Княстве Літоўскім кальвінізму, падтрымліваў пе-

раход шляхты ў пратэстантызм, заснаваў у Вільні першы кальвінскі збор. Пасля яны з'явіліся ў Бярэсці, Нясвіжы, Клецку, Слуцку, Менску, Полацку, Заслаўі і інш. Мікалай Радзівіл Чорны заснаваў у Бярэсці першую на тэрыторыі сучаснай Беларусі друкарню для выпуску рэфармацкіх выданняў. Тут было выдадзена каля 40 кніг, а ў 1563 годзе надрукавана знакамітая Брэсцкая, альбо Радзівілаўская Біблія. Да сярэдзіны XVII стагоддзя на беларускіх землях было збудавана 85 кальвінісцкіх і 5 арыянскіх храмаў.

*30 ліпеня 1553* — кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст бярэ трэці шлюб з эрцгерцагіняй Кацярынай (1533–1572) — дачкой караля чэшскага, венгерскага і нямецкага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I Габсбурга, сястрой сваёй першай жонкі, удавой пасля князя Мантуі. Вяселле доўжылася 9 дзён. Гэта быў палітычны шлюб, які меў на мэце зблізіць Карону з Габсбургамі. Кацярына таксама хварэла на эпілепсію. Памерла 28 лютага 1572 года. Кароль застаўся ўдаўцом.

*1554* — Ордэн мечаносцаў у Інфлянтах, каб пазбегнуць пагрозы з боку Кароны, заключыў саюз з Масквой.

*1554–1557* — Руска-шведская вайна.

*22 красавіка — 15 чэрвеня 1555* — польская пратэстанцкая шляхта склікала сойм, на якім абвясціла праект склікання народнага сабора, які павінен давесці да рэлігійнага аб'яднання дзяржавы (разам з праваслаўем). Сярод патрабаванняў — правядзенне службы па-польску, адмена цэлібату, што не падтрымаў Папа Рымскі, таму ідэя сабора згасла.

*1556* — заключана перамір'е паміж Руссю і Вялікім Княствам Літоўскім на 6 гадоў.

*1556* — заваёва Рускай дзяржавай Астраханскага ханства.

*1 лютага 1556* — каралева польская Бона Сфорца пакінула Карону і з'ехала ў Італію — свой спадчынны горад

Бары. На 24 вазах яна везла свае багацці і вялікую суму грошай, у тым ліку 430 тысяч дукатаў, якія пазычыла іспанскаму каралю Філіпу II. Жыгімонт Аўгуст і яго спадкаемцы марна намагаліся вярнуць гэтыя горшы, названыя неапалітанскімі.

*5 верасня 1557* — Лівонскі ордэн, Польшча і Вялікае Княства Літоўскае заключылі ваенны саюз супраць Рускай дзяржавы.

*1557* — аграрная рэформа ў Вялікім Княстве Літоўскім, якую падрыхтавала яшчэ Бона Сфорца. Рэформа доўжылася 100 гадоў — да сярэдзіны XVII стагоддзя. Прыняцце «Уставы на валокі» (кароль Жыгімонт II Аўгуст выдаў «Устав на волоки господаря, короля, его милости, у во всем великом князстве Литовском»), якая з агульнадзяржаўных інтарэсаў падыходзіла да перабудовы велікакняскай гаспадаркі. Згодна з гэтым былі валокі службовыя — для асоб, абавязаных вайсковай службай, і валокі цяглыя — сяляне за іх адбывалі паншчыну і плацілі чынш. Фальварак станавіўся з гэтага часу галоўнай формай арганізацыі гаспадаркі, яму аддаваліся лепшыя землі, а іншыя землі дзяліліся на валокі, каля 19 дзесяцін у кожнай, кожная валока дзялілася на тры палі па 11 маргоў (морг — 1400 квадратных сажняў, або 0,71 га). На валоцы спачатку сялілася адна сялянская гаспадарка, пазней сталі гаспадарыць некалькі сем'яў.

*19 лістапада 1557* — каралева польская Бона Сфорца памерла ў Бары, верагодна, была атручана лекарам, падкупленым іспанскім каралём Філіпам II.

*23 студзеня 1558 — 1583* — рускі цар Іван IV Грозны са сваім 40-тысячным войскам, якое загадзя сабралася каля Пскова, уступіў у Лівонію. Пачалася Лівонская вайна, барацьба Расіі з Лівонскім ордэнам, Швецыяй, Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім за прыбалтыйскія землі (Лівонію), за выхад да Балтыйскага мора, што забяспечвала б Расіі непасрэд-

ныя зносіны з еўрапейскімі краінамі. Быў адлучаны ад улады непаслухмяны вялікі магістр Лівонскага ордэна Фюрстэнберг, а яго месца заняў прапольскі Готхард (Готард) Кетлер. Вайна доўжылася 24 гады і закончылася ў 1583 годзе для Расіі няўдала, яна не атрымала выхаду да Балтыйскага мора. Гэта здзейснілася толькі ў выніку Паўночнай вайны 1700–1721 гадоў.

*31 жніўня 1559* — у Вільні заключана дамова паміж каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам II Аўгустам і магістрам Лівонскага ордэна Кетлерам. У выніку намаганняў Мікалая Радзівіла Чорнага Ордэн падпісаў дагавор аб прызнанні васальнай залежнасці ад Польшчы і Княства.

*28 лістапада 1561* — падпісана дамова ў Вільні паміж Лівонскім ордэнам і Вялікім Княствам Літоўскім. Вялікі магістр Кетлер правёў секулярызацыю Ордэна. У выніку Ордэн спыняў сваё існаванне, а кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст станавіўся гаспадаром Лівоніі. Паўднёва-ўсходняя частка Лівоніі (Курляндыя) — як падвойны леннік — перайшла пад уладу Польшчы і Княства, а паўночная (Эстляндыя) з Рэвелем — пад уладу Швецыі. Утварэнне Курляндскага герцагства. Апошні магістр ордэна Кетлер атрымаў тытул герцага Курляндскага з васальнымі адносінамі ў дачыненні да Жыгімонта Аўгуста.

*5 сакавіка 1562* — ліквідацыя Лівонскага ордэна. Магістр Ордэна Готард Кетлер у Рыжскім замку перадаў канцлеру ВКЛ Мікалаю Радзівілу Чорнаму пячатку Ордэна, ключы ад Рыгі і зняў з сябе ордэнскую мантыю.

*1562* — Сымон Будны заснаваў у Нясвіжы друкарню і на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага выдаў свой «Катэхізіс» на старажытнабеларускай мове.

*13 верасня 1562* — адбыўся палявы сойм ВКЛ каля Віцебска без удзелу вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, якому накіраваны акт з просьбай заключыць новую унію з Польшчай. Прадстаўнікам Жамойці адасла-

на прапанова далучыцца да гэтага дакумента. Жыгімонт Аўгуст, які не меў нашчадкаў, падтрымліваў унітарную ідэю. Супраць выступіла асноўная частка магнатаў на чале з ваяводам віленскім і канцлерам Мікалаем Радзівілам Чорным. Пытанне наконт уніі зноў паўстала ў 1563 годзе на сойме, які праходзіў у Вільні. На ім былі выбраны дэлегаты для перамоў з Каралеўствам Польскім. Магчымасць саюзных повязяў была абумоўлена патрабаваннем аб шырокай самастойнасці Княства. Перамовы доўжыліся не адзін год.

*4 кастрычніка 1562* — у Вільні адбыўся шлюб літоўскай князёўны Кацярыны Ягелонкі, сястры караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, і Яна Вазы (1537–1592), князя Фінляндыі і малодшага брата шведскага караля Эрыка XIV (1533–1577). Кацярына была на 12 гадоў старэйшая за мужа. Існуе меркаванне, што спярша рускі цар Іван IV Грозны хацеў мець за жонку сястру польскага караля, каб такім чынам умацаваць свой уплыў на Вялікае Княства Літоўскае, бо Жыгімонт II Аўгуст быў бяздзетным, і пасад мог бы разам з жонкай перайсці да расійскага цара. Іван нават атрымаў дазвол на шлюб ад мітрапаліта, бо цётка цара Алена была жонкай Кацярынінага дзядзькі.

*Восень 1562* — паход рускага цара Івана IV Грознага з 80-тысячным войскам на Вялікае Княства Літоўскае. Ён склікаў сабор, на якім была вызначана галоўная мэта — Полацк. Сам цар узначаліў войска. 30 лістапада войскі вырушылі ў паход. Ноччу 14 лютага 1563 года Полацк быў падпалены, а ранкам захоплены.

*15 лютага 1563* — рускія войскі Івана IV Грознага (Жахлівага), маючы вопыт узяцця Казані, захапілі Полацк і частку Полацкай зямлі. У горадзе было каля 20 тысяч насельніцтва з вакольных вёсак. 31 студзеня царскае войска стала аблогай каля горада. 100 гармат пачалі абстрэл. Мікалай Радзівіл Руды, які кіраваў войскам Княства і меў каля 3 200 воінаў, не мог да-

18 Зак. 1939

памагчы Полацку. Замак быў амаль цалкам драўляны, гарнізон невялікі. Нападзенне было нечаканым. 13–14 лютага гарэў увесь замак. Камандзір абароны полацкі ваявода з 1542 года Станіслаў Давойна, які не меў баявога вопыту, 15 лютага здаў горад і сам трапіў у палон, закуты ў кайданы і адасланы ў Маскву, пазней быў вызвалены і зноў стаў полацкім ваяводам. Каля 11 тысяч жыхароў, якія хаваліся ў горадзе, здаліся царскаму войску. Адпусцілі толькі польскіх наёмнікаў. Многіх воінаў павесілі. Манахаў-бернардзінцаў забілі, яўрэяў утапілі. Праз два тыдні абароны Іван IV Васільевіч 18 лютага з'явіўся ў горадзе і аб'явіў, што прымае тытул князя полацкага. Калі пра гэта даведаўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст, ён ажно заплакаў. Вайна доўжылася 7 гадоў.

*1563* — Полацкая епархія ўвайшла ў склад Маскоўскай мітраполіі.

*7 чэрвеня 1563* — прывілей караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, названы Віленскім, які адмяніў адпаведны артыкул Гарадзельскай пастановы аб абмежаванні палітычных правоў феадалаў Княства па этнічных і рэлігійных прыкметах і ўраўнаваў усю шляхту «веры праваслаўнай». Некаторыя сцвярджаюць, што гэтае ўраўнаванне ў правах насіла фармальны характар. Выдадзены на беларускай мове ў Вільні. Яго тэкст як прэамбула ўвайшоў у Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года. Гэты прывілей быў пацверджаны і ў 1568 годзе.

*1563* — выдадзена Брэсцкая (Радзівілаўская) Біблія. Сродкі на яе выданне ахвяраваў стараста берасцейскі і адзін з актыўных прыхільнікаў кальвінізму Мікалай Радзівіл Чорны. Маецца тлумачэнне: «Друкавана ў Брэсце Літоўскім паводле загаду і коштам святлейшага пана, пана Мікалая Радзівіла, князя на Алыцы і на Нясвіжы, ваяводы віленскага, у Вялікім Княстве Літоўскім найвышэйшага маршалка і канцлера». З багатымі каментарыямі, малюнкамі і першым

у гісторыі кнігадрукавання на беларускіх землях прадметным паказальнікам. На той час адно з лепшых выданняў у Княстве і Кароне. Аднак лёс кнігі аказаўся незайздросным. Пасля смерці Мікалая ягоны сын Юрый — Віленскі епіскап і кардынал скупіў амаль усе экзэмпляры кнігі і спаліў іх.

*1563* — дагавор Расіі з Даніяй супраць Польшчы і Швецыі.

*7 снежня 1563* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст выдаў у Вільні прывілей, які дазваляў праваслаўным займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім.

*1564* — кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст запрасіў у Польшчу езуітаў для барацьбы з Рэфармацыяй.

*26 студзеня 1564* — бітва на рацэ Ула ля Полацка, дзе рускія войскі на чале з Пятром Шуйскім пацярпелі паражэнне ад вялікалітоўскіх вояў гетмана літоўскага Радзівіла Рудога. Сам галоўнакамандуючы Шуйскі загінуў, у палон трапілі многія знаныя ваяводы.

*13 сакавіка 1564* — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст адмовіўся ад спадчыннага права Ягелонаў на Княства на карысць Кароны.

*30 красавіка 1564* — князь, ваявода, баярын Андрэй Курбскі (1528–1583) уцёк з Юр'ева (Дэрпт, Тарту) ад рускага цара Івана Грознага ў Вялікае Княства Літоўскае, жыў у падараваным яму каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам II Аўгустам Крэўскім замку. Курбскі быў самым знакамітым маскоўскім перабежчыкам і адным з самых актыўных праціўнікаў Івана Грознага. І хоць ён на баку рускага войска атрымліваў у Лівонскай вайне перамогі ў Прыбалтыцы, цар адхіліў яго ад камандавання і прызначыў ваяводам у адваяваны ў лівонцаў Юр'еў (Дэрпт). Будучы на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, А. Курбскі стаяў на чале атрадаў у складзе польска-вялікалітоўскай арміі, якія рабілі паходы на Вялікія Лукі і Полацк. Толькі хвароба пе-

рашкодзіла яму далучыцца да караля польскага Стэфана Баторыя, які ў 1581 годзе стаяў аблогай ля Пскова. З Княства ён вёў перапіску з царом Іванам IV Грозным, якая ўвайшла ў гісторыю як перапіска Курбскага. А ягонай жонкай была прадстаўніца роду Гальшанскіх дачка Юрыя Іванавіча, ваяводы кіеўскага ў 1508–1510 гадах, сястра апошняга гальшанскага князя Сямёна Юр'евіча Дубровіцкага Марыя.

*1 ліпеня 1564* — на сойме ў г. Бельск (Падляшскае ваяводства) кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст падпісаў прывілей, названы Бельскім, у адпаведнасці з якім удасканальваліся нормы Статута Вялікага Княства Літоўскага, павінны былі стварацца выбарныя шляхецкія саслоўныя суды. Аб'яўлялася роўнасць шляхты перад судом і законам.

*1565* — пачатак адміністрацыйнай рэформы ў Княстве. Усе землі былі падзелены на ваяводствы і паветы. Уся тэрыторыя складалася з 13 ваяводстваў, на чале якіх стаяў ваявода, яго прызначаў вялікі князь літоўскі, і толькі ў Віцебскім і Полацкім ваяводствах іх выбіралі на ваяводскіх сойміках.

*18 студзеня — 14 красавіка 1565* — сойм забараніў польскім купцам выязджаць за мяжу, каб такім чынам паспрыяць замежным купцам часцей прыязджаць у Польшчу.

*30 снежня 1565* — у Вільні вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст выдаў прывілей, названы Віленскім, згодна з ім ствараліся перадсоймавыя соймікі, якія павінны былі склікацца ў паветах і ваяводствах напярэдадні вальнага сойма.

*11 сакавіка 1566* — вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст зацвердзіў другі Статут Вялікага Княства Літоўскага, які замацаваў усе грамадска-палітычныя змены ў Княстве.

*1566* — унія Літвы і Лівоніі. Герцаг курляндскі, які гаспадарыў у Лівоніі, заменены вялікалітоўскім намеснікам з тытулам гетмана і адміністратара зямлі Ліфляндскай. Вырашана, што сенатары і паслы Лівоніі будуць збірацца на агульныя соймы з вялікалітоўцамі.

*Чэрвень 1566* — у Маскву з'явілася пасольства Вялікага Княства Літоўскага з прапановай падзяліць Лівонію згодна з тым становішчам, якое фактычна склалася.

*1566* — земскі сабор ў Маскве па лівонскіх справах, адхілена прапанова аб перамір'і з ВКЛ.

*1566* — заключана перамір'е паміж Іванам IV Грозным і каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам II Аўгустам.

*8 кастрычніка 1566* — жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста Кацярына выехала з Польшчы. Прычына гэтага — хвароба на эпілепсію і ў выніку адсутнасць сямейнай згоды.

*1567* — так званы Радашковіцкі агляд войска — удакладненне перапісу (Попісу) вялікалітоўскага войска, праведзенага другі раз пасля 1528 года. Названы так таму, што войска было сабрана ля Радашковіч непадалёк ад Менска. Агляд выявіў даволі моцную вайсковую сілу — сабралася 27 780 конных і 7 200 пешых ваяроў.

*1569* — у Княстве пачаў дзейнічаць Ордэн езуітаў (да 1820 г.) — каталіцкі манаскі Ордэн Таварыства Ісуса, які сярод іншых задач меў на мэце барацьбу з Рэфармацыяй і вяртанне ў каталіцтва пратэстантаў.

*1 ліпеня 1569* — падпісаны міжнародны прававы акт аб аб'яднанні Польскага Каралеўства (Кароны) і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў адну федэратыўную дзяржаву — дзяржаву «двух народаў» Рэч Паспалітую. Дзве сталіцы — Кракаў і Вільня былі заменены на адну — Варшаву. Акт гэты атрымаў назву Люблінская унія. Прыняты пасля працяглых спрэчак, дэбатаў, сварак, узаемных абвінавачванняў, моцнага супраціўлення вялікалітоўскай дэлегацыі. Агульны сойм у Любліне быў склікаdebris каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам II Аўгустам яшчэ 10 студзеня. У склад вя-

лікалітоўскай дэлегацыі ўваходзілі: канцлер, віленскі ваявода пратэстант Мікалай Радзівіл Руды, падканцлер Астафій Валовіч, жамойцкі стараста Ян Хадкевіч, падскарбі Мікалай Нарушэвіч, праваслаўны князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі і іншыя. Усяго з абодвух бакоў удзельнічала каля 160 чалавек. Сойм праходзіў спачатку ў студзені–сакавіку, пасля ў чэрвені. Частка вялікалітоўцаў, якія не згаджаліся з уніяй, пакінулі Люблін (1 сакавіка). Жыгімонт II Аўгуст у адказ скарыстаў «сілавы» прыём — ён далучыў да Кароны Падолле (1 сакавіка), Падляшша (5 сакавіка), Валынь (27 мая), а калі і гэта не дапамагло — Кіеўскае ваяводства (6 чэрвеня). Адзін Мазырскі павет не даў сваёй згоды і далучыўся да Менскага ваяводства. Пасля гэтага тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага значна паменшылася, яна займала практычна этнічныя беларускія і літоўскія землі.

10 мая па прапанове Жыгімонта II Аўгуста ў Княстве прайшлі соймікі, на якіх была атрымана згода шляхты на падпісанне уніі. Урэшце 1 ліпеня рашэнне было прынята, акт падпісаны каралём 4 ліпеня. З гэтага часу з'явілася афіцыйная назва: Рэч Паспалітая абодвух народаў — *Rzeczpospolita Obojga Narodów*, на чале якой стаяў выбарны кароль і вялікі князь літоўскі ў адной асобе. Ягоная пасада насіла назву: Кароль Польскі і вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Мазавецкі, Жамойцкі, Кіеўскі, Валынскі, Падляшскі і Ліфляндскі. Аб'яднаная дзяржава мела агульны сойм, грошы, вяла агульную замежную палітыку. 11 жніўня кароль выдаў акт, які вызначаў склад сената аб'яднанай дзяржавы. На пажыццёвае гаспадаранне караля выбірала шляхта абодвух народаў, ствараўся агульны двухпалатны вальны сойм. Ён складаўся з Сената (сенатары выбіраліся пажыццёва) і Пасольскай палаты (паслоў выбірала шляхта па два чалавекі ад кожнага павета, сваіх прадстаўнікоў мелі і абедзве сталіцы — Вільня і Кракаў).

Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае захоўвалі суверэнітэт, асобную адміністрацыю, войска, скарб, прававую сістэму, законы, суд, мытную сістэму, эмісію грошай. Захоўвалася і назва — Вялікае Княства Літоўскае. Кожная дзяржава мела свае дзяржаўныя мовы: Польшча — польскую і лацінскую, Княства — беларускую. Аднак у 1697 годзе сойм Рэчы Паспалітай выдаў закон аб забароне ўжывання ў афіцыйных дакументах беларускай мовы, карыстацца можна было толькі польскай альбо лацінскай мовамі. ВКЛ захоўвала таксама герб Пагоня, дзяржаўную пячатку. Вышэйшым органам аб'яднанай дзяржавы стаў агульны сойм, які прымаў законы асобна для Княства і Польскага Каралеўства. З сярэдзіны XV стагоддзя кожны трэці сойм склікаўся ў Гародні.

Быў прыняты акт (3 жніўня) аб аб'яднанні герцагства Прусіі і Брандэнбургскага курфюрства. Сенатары і паслы Прусіі былі далучаны да польскага сойма, што азначала інкарпарацыю Прусіі ў Рэч Паспалітую.

У аб'яднанай дзяржаве пражывала каля 5,6 мільёна сялян, каля 1,6 мільёна гараджан, каля 800 тысяч шляхты і каля 40 тысяч духоўных асоб.

Аднак лёс быў не надта спрыяльным да федэратыўнай дзяржавы. Тройчы адбываліся падзелы яе тэрыторыі, пакуль урэшце яна зусім не знікла.

Расія, Аўстрыя і Прусія 5 жніўня 1772 года падпісалі канвенцыю аб першым падзеле Рэчы Паспалітай. Да Аўстрыі адышлі Заходняя Украіна і Львоў, паўднёвая частка Кракаўскага ваяводства без Кракава і Сандамірскае ваяводства. У Прусіі аказаліся Вармія, Памор'е, Куявы, Хэлмінскае ваяводства (акрамя Торуні), Заходняе Памор'е (акрамя Гданьска). Расія заняла паўночна-ўсходнія землі Вялікага Княства Літоўскага да Дзвіны, Друці і Дняпра.

23 студзеня 1793 года адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Прусіяй. Прусія атрымала частку Мазовіі, Кракаўскага ваяводства, ледзь не ўсю Вялікую Польшчу, Гданьск, Торунь. Расія анексіравала «на вечныя часы», як прымусілі прызнаць гэта апошняга караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Правабярэжную Украіну, часткі Полацкага, Віцебскага, Менскага ваяводстваў, якія яшчэ заставаліся, частку Навагародскага, Берасцейскага і Віленскага ваяводстваў з гарадамі Менск, Барысаў, Слуцк, Нясвіж, Тураў, Пінск.

Трэці і апошні падзел адбыўся ў 1795 годзе паміж Аўстрыяй, Расіяй і Прусіяй пасля паразы паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які жыў у Гародні, быў змушаны 25 лістапада 1795 года падпісаць акт адрачэння ад кароны на карысць расійскай імператрыцы Кацярыны II, пасля чаго Рэч Паспалітая, у тым ліку Вялікае Княства Літоўскае, перасталі існаваць. Да Прусіі адышлі большая частка Мазавецкага ваяводства з Варшавай, часткі Падляшскага, Гарадзенскага, Трокскага ваяводстваў і Жамойці. Аўстрыя атрымала Кракаўскае, Сандамірскае, Люблінскае, частку Мазавецкага, Берасцейскага і Падляшскага ваяводстваў. У Расіі апынуліся Валынскае, Навагародскае, Віленскае, частка Берасцейскага, Гарадзенскага, Трокскага ваяводстваў і частка Жамойці з гарадамі Бярэсце, Навагарадок, Гародня, Вільня, Коўна. Новыя тэрыторыі, якія атрымала Расія, склалі Віленскую і Слонімскую губерні.

555-гадовая гісторыя Вялікага Княства Літоўскага як самастойнай дзяржавы закончылася.





# ЯГЕЛОНСКАЯ ДЫНАСТЫЯ

## АГУЛЬНАЯ ГЕНЕАЛОГІЯ

***Ягелоны*** — каралеўская дынастыя ў Еўропе, адна з галін Гедымінавічаў. У сярэдневяковай Еўропе Ягелоны панавалі амаль два стагоддзі (з 1386 да 1572 года). Эпоху Ягелонаў многія даследчыкі называюць «залатым векам» польскай гісторыі, а наступнае XVII стагоддзе — «сярэбраным векам». Каралі польскія пасля Крэўскай уніі 1385 года з'яўляліся і вялікімі князямі літоўскімі. Дынастыя вялікіх князёў літоўскіх у 1377–1392, 1440–1572, каралёў польскіх у 1386–1572, каралёў венгерскіх у 1440–1444, 1490–1526 гадах, каралёў чэшскіх у 1471–1526 гадах. Дынастыя паходзіць ад караля польскага і вышэйшага князя літоўскага Уладзіслава II Ягайлы, сына Альгерда і ўнука Гедыміна, і ягонай чацвёртай жонкі Соф'і Гальшанскай. Яны выхадцы з Вялікага Княства Літоўскага, з нашых беларускіх зямель: вялікі князь літоўскі Ягайла меў сваю рэзідэнцыю ў Крэве, Соф'я спачатку жыла ў свайго бацькі Андрэя Іванавіча Гальшанскага ў Гальшанскім замку, а пасля ягонай смерці — у Друцкім замку, у свайго дзядзькі князя Сямёна Друцкага, сястрой якога была Соф'іна маці. У Княстве іх называлі Ягайлавічамі. На высокіх каралеўскіх пасадах знаходзіліся: у Польшчы — у 1386–1572 гадах: да 1434-га — Уладзіслаў Ягайла, да 1444-га — Уладзіслаў III Варненьчык, да 1492-га — Казімір Ягелончык, да 1501-га — Ян I Ольбрахт, да 1506-га —

Аляксандр Ягелончык, да 1548-га — Жыгімонт I Стары, да 1572-га — Жыгімонт II Аўгуст; у Вялікім Княстве Літоўскім — у 1377, 1401, 1440–1572 гадах: да 1401-га — Ягайла, да 1492-га — Казімір Ягелончык, да 1506-га — Аляксандр Ягелончык, да 1548-га — Жыгімонт I Стары, да 1572-га — Жыгімонт II Аўгуст; у Венгрыі — у 1440–1444, 1490–1526 гадах: да 1444-га — Уладзіслаў Варненьчык, да 1516-га — Уладзіслаў Ягелончык, да 1526-га — яго сын Людвік II; у Чэхіі — у 1471–1526 гадах: да 1516-га — Уладзіслаў II Ягелончык, затым Людвік II.

Пры Ягайлу (у Княстве ў гэты час гаспадаром быў Вітаўт Вялікі) аб'яднаныя землі Княства і Кароны распасціраліся ад мора Чорнага да мора Балтыйскага, а дзяржава лічылася адной з самых магутных у Еўропе. Напрыканцы XV стагоддзя Ягелоны з'яўляліся прызнанай і паважанай еўрапейскай дынастыяй. Дынастыя спынілася ў 1572 годзе пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста. Акрамя таго, сталася так, што ніхто з Ягелонаў, акрамя Жыгімонта Старога, не скончыў свой жыццёвы шлях у Вавелі. Сам Ягайла памёр у Гарадку (Грудку) каля Львова, там жа пахавана ягонае сэрца, а цела спачывае ў Вавельскім кафедральным касцёле. Уладзіслаў Варненьчык згінуў пад Варнай, Казімір Ягелончык памёр у Гародні, Ян Ольбрахт — у Торуні, Аляксандр — у Вільні, Жыгімонт Аўгуст — у Кнышыне. Аднак пахаваны яны, за выключэннем Казіміра, у Вавельскай катэдры.

З роду Ягелонаў былі:

***Эльжбета-Баніфацыя*** (22.6.1399 — 13.7.1399) — дачка Ягайлы і першай ягонай жонкі Ядвігі, каранаванай на караля польскага.

***Ядвіга*** (8.4.1408 — 8.12.1431) — дачка Ягайлы і другой ягонай жонкі Ганны Цылейскай.

***Уладзіслаў III Варненьчык*** (31.10.1424 — 10.11.1444) — старэйшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, кароль польскі ў 1434–1444 гадах, кароль венгерскі Уласла (Ласла) I у 1440–1444 гадах.

***Казімір*** (16.5.1426 — 2.3.1427) — другі сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай.

***Казімір IV Андрэй Ягелончык*** (30.11.1427 — 7.6.1492) — трэці сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, вялікі князь літоўскі ў 1440–1492 гадах, кароль польскі Казімір IV у 1447–1492 гадах: заняў гэты пасад праз тры гады пасля смерці свайго старэйшага брата Уладзіслава. У 1438 годзе спрабаваў заняць чэшскі каралеўскі пасад.

***Уладзіслаў II Ягелончык*** (1.3.1456 — 13.3.1516) — старэйшы сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, кароль Чэхіі ў 1471–1516 гадах, Венгрыі Уласла (Ласла) II у 1490- 1516 гадах.

***Ганна*** (23.7.1503 — 27.1.1547) — дачка Уладзіслава II Ягелончыка і трэцяй ягонай жонкі Ганны — дачкі графа Гастона II дэ Цандале, стала апошняй з чэшска-венгерскай лініі Ягелонаў. У 1521 годзе выйшла замуж за Фердынанда I Габсбурга — з 1526 года кароль чэшскі і венгерскі, з 1556-га — імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі.

***Уладзіслаў, Людвік II*** (1.7.1506 — 29.8.1526) — сын Уладзіслава II Ягелончыка і Ганны, кароль чэшскі і венгерскі Лаяш II з 1516 года, загінуў у бітве з туркамі каля Мохача, на ім чэшска-венгерская лінія Ягелонаў спынілася.

***Ядвіга*** (21.9.1457 — 18.2.1502) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі — другой дачкі караля чэшскага і венгерскага, аўстрыйскага князя Альбрэхта II Габсбурга.

***Казімір Святы*** (3.10.1458 — 4.3.1484) — другі сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, кананізаваны як каталіцкі святы ў 1522 годзе.

***Ян I Ольбрахт*** (27.12.1459 — 17.6.1501) — трэці сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, кароль польскі ў 1492–1501 гадах.

***Аляксандр Ягелончык*** (5.8.1461 — 19.8.1506) — чацвёрты сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, вялікі князь літоўскі ў 1492–1506 гадах, кароль польскі ў 1501–1506 гадах.

***Соф'я*** (6.4.1464 — 5.10.1512) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

***Эльжбета*** (9.5.1465 — 9.5.1466) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

***Жыгімонт І Стары*** (1.1.1467 — 1.4.1548) — пяты сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506–1548 гадах.

***Ян (Януш)*** (8.1.1499 — 18.2.1538) — пазашлюбны сын Жыгімонта І Старога і Кацярыны Тэльнічанкі, біскуп Віленскі ў 1519–1536 гадах, біскуп Пазнанскі ў 1537–1538 гадах.

***Ядвіга*** (15.3.1513 — 7.2.1573) — дачка Жыгімонта І Старога і Барбары Запольяі — дачкі пана на Трэнчыне, графа на Спішы, ваяводы сяміградскага Штэфана Запольяі, у 1535 годзе выйшла замуж за Іяхіма II Гогенцолерна — брандэнбургскага курфюрста.

***Ганна*** (1.7.1515 — 8.5.1520) — дачка Жыгімонта І Старога і Барбары Запольяі.

***Ізабэла*** (18.1.1519 — 15.9.1559) — дачка Жыгімонта І Старога і Боны Сфорцы, у 1539 годзе выйшла замуж за караля венгерскага Янаша І Запольяі.

***Жыгімонт ІІ Аўгуст*** (1.8.1520 — 7.7.1572) — сын Жыгімонта І Старога і Боны Сфорцы, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1548–1572 гадах, апошні з мужчын дынастыі Ягелонаў.

***Соф'я*** (13.7.1522 — 28.5.1575) — дачка Жыгімонта І Старога і Боны Сфорцы, у 1556 годзе выйшла замуж за герцага браўншвейгскага Генрыха.

***Ганна Ягелонка*** (18.10.1523 — 9.9.1596) — трэцяя дачка Жыгімонта І Старога і Боны Сфорцы, каралева польская і вялікая княгіня літоўская ў 1575–1596 гадах. У 1576 годзе пашлюбілася са Стэфанам Баторыем.

***Кацярына*** (1.9.1526 — 16.9.1583) — дачка Жыгімонта І Старога і Боны Сфорцы, у 1562 годзе выйшла замуж за фінляндскага герцага Яна Вазу, які з 1568 года быў каралём швед-

скім Янам III. Іхні сын Жыгімонт у 1587 годзе стаў каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам III Вазам.

***Ольбрахт*** (нарадзіўся і памёр 20.9.1527) — сын Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы.

***Фрыдэрык Ягелончык*** (27.4.1468 — 14.3.1503) — шосты сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, біскуп Кракаўскі (1488), арцыбіскуп Гнезненскі (1493), кардынал-прымас (1495).

***Эльжбета*** (13.5.1472 — паміж 19.5.1480 і 20.5.1481) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

***Ганна*** (12.3.1476 — 12.8.1503) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

***Барбара*** (15.7.1478 — 15.2.1534) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

***Эльжбета*** (13.11.1483 — 16.2.1517) — дачка Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі.

## ШЛЮБНЫЯ ПОВЯЗІ

Заснавальнік дынастыі ***Ягайла, у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Уладзіслаў, па-польску — Władysław Jagiełło*** (1352 — 1.6.1434) — разам з першай жонкай Ядвігай (да 18.2.1374 — 17.7.1399, шлюб 18.2.1386), дачкой караля венгерскага і польскага Людвіка Анжуйскага, меў дачку *Эльжбету Баніфацыю* (22.6.1399 — 13.7.1399); з другой жонкай Ганнай Цылейскай (1380?1381 — 21.3.1416, шлюб 29.1.1402), дачкой графа Цыліі Вільгельма, — дачку *Ядвігу* (8.4.1408 — 8.12.1431), якая была заручана 8 красавіка 1421 года з сынам курфюрста брандэнбургскага Фрыдэрыка I Гогенцолерна Фрыдэрыкам II; з трэцяй жонкай Эльжбетай Граноўскай-Пілецкай (1370 — 12.5.1420, шлюб 2.5.1417), дачкой Атона з Пільчы, сваіх дзяцей не было; з чацвёртай жонкай Соф'яй Гальшанскай (каля 1405 — 21.9.1461,

шлюб 24.2.1422 у Новагародку), дачкой гальшанскага князя Андрэя Іванавіча, мелі сыноў *Уладзіслава* (Уладзіслаў III Варненьчык, 31.10.1424 — 10.11.1444), *Казіміра* (16.5.1426 — 2.3.1427), *Казіміра Андрэя* (30.11.1427 — 7.6.1492).

***Уладзіслаў III Варненьчык*** быў жанаты з удавой караля чэшскага і венгерскага Альбрэхта з Габсбургаў Эльжбетай, сумесных дзяцей не мелі.

***Казімір IV Андрэй Ягелончык*** (30.11.1427 — 7.6.1492) быў жанаты з *Эльжбетай Габсбургскай* (*Ракушанкай;* 1437 — 30.8.1505, шлюб 10.2.1454) — другой дачкой караля чэшскага і венгерскага, аўстрыйскага князя Альбрэхта II Габсбурга (1397–1439) і Эльжбеты, якая пасля смерці мужа пашлюбілася з ягоным старэйшым братам Уладзіславам. Было 13 дзяцей — 6 сыноў і 7 дачок: *Уладзіслаў II Ягелончык* (1.3.1456 — 13.3.1516) — кароль чэшскі (1471–1516) і венгерскі (1490–1516); *Ядвіга* (21.9.1457 — 18.2.1502) — была жонкай баварскага князя Георгія Багатага (Вітэльсбаха), шлюб 14.11.1475; *Казімір (малодшы) Святы* (3.10.1458 — 4.3.1484) — памёр маладым, пахаваны ў Віленскім саборы, стаў патронам Літвы; *Ян Ольбрахт* (27.12.1459 — 17.6.1501) — князь глогаўскі (Глогаўскае княства ў Ніжняй Сілезіі) у 1490–1498 гадах, кароль польскі (каранаваны 23.11.1492; *Аляксандр* (5.8.1461 — 19.8.1506) — вялікі князь літоўскі з 1492 года, кароль польскі з 1501 года, 15 лютага 1495 быў пашлюблены з дачкой вялікага князя маскоўскага Івана III Аленай; *Соф'я* (6.5.1464 — 5.10.1512) — 14 лютага 1479 года стала жонкай Фрыдэрыка, сына Альбрэхта Гогенцолерна, курфюрста брандэнбургскага; *Эльжбета I* (9.5.1465 — 9.5.1466); *Жыгімонт* (1?, 2.1.1467 — 1.4.1548) — князь глогаўскі ў 1498–1506 гадах, опаўскі ў 1501–1506 гадах, намеснік Лужыц, вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт I Стары з 1506 года, быў пашлюблены з Барбарай Запольяі (8.2.1512), пасля з Бонай Сфорцай (18.4.1518); *Фрыдэрык* (27.4.1468 — 14.3.1503) — біскуп Кракаўскі, ар-

цыбіскуп Гнезненскі, кардынал-прымас польскі; *Эльжбета II* (13.5.1472 — паміж 19.5.1480 і 20.5.1481); *Ганна* (12.3.1476 — 12.8.1503) — жонка заходнепаморскага князя Багуслава X Вялікага з 2 лютага 1491 года; *Барбара* (15.7.1478 — 15.2.1534) — з 21.11.1496 года жонка Георгія Барадатага, сына саксонскага князя Альбрэхта; *Эльжбета III* (13.11.1483 — 16.2.1517) — жонка (шлюб паміж 19 і 25 лістапада 1515) князя легніцкага і брэст-куяўскага Фрыдэрыка II з Пястаў.

***Уладзіслаў II Ягелончык***, сын караля польскага Казіміра (Андрэя) Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, дачкі караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта. Унук Ягайлы. Быў жанаты тройчы: з дачкой курфюрста брандэнбургскага Альбрэхта Гогенцолерна Барбарай (шлюб 19.8.1476), Беатрысай Арагонскай — дачкой караля Неапаля Фердынанда (шлюб 4.10.1490, шлюб скасаваны 7.4.1500). Разам з трэцяй жонкай *Ганнай* (1484 — 20.7.1506, шлюб 6.10.1502), дачкой графа дэ Цандале Гастона II, меў дачку *Ганну* (23.7.1503 — 27.1.1547), якая 26.5.1521 года стала жонкай Фердынанда I з Габсбургаў, аўстрыйскага эрцгерцага, караля чэшскага і венгерскага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, была маці імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімільяна II, эрцгерцага аўстрыйскага; сына *Уладзіслава (Людвіка,* 1.7.1506 — 29.8.1526) — кароль чэшскі і венгерскі (Ласла, Лаяш II) у 1516–1526 гадах, пасля ягонай гібелі ў бітве з туркамі пад Мохачам чэшска-венгерская лінія дынастыі Ягелонаў спынілася.

***Жыгімонт I Стары*** з першай жонкай *Барбарай* (1495 — 2.10.1515, шлюб 8.2.1512), дачкой пана на Трэнчыне, графа на Спішы, ваяводы сяміградскага Стэфана Запольяі, меў дачок *Ядвігу* (15.3.1513 — 7.2.1573, жонка (шлюб 29.8.1536) курфюрста брандэнбургскага Іяхіма II Гогенцолерна) і *Ганну* (1.7.1515 — 8.5.1520).

З другой жонкай *Бонай Сфорцай* (2.2.1494 — 19.11.1557, шлюб 18.4.1518) меў дзяцей: *Ізабэлу* (18.1.1519 — 15.9.1559) —

была замужам (шлюб 23.2.1539) за сынам Стэфана Запольяі Янашам — панам на Трэнчыне, графам на Спішы, каралём венгерскім; *Жыгімонта Аўгуста* (1.8.1520 — 7.7.1572) — вялікі князь літоўскі і кароль польскі з 1529 года, быў жанаты тройчы: з Эльжбетай — дачкой караля чэшскага, венгерскага і нямецкага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I Габсбурга (шлюб 6.5.1543); з Барбарай Радзівіл — дачкой віленскага кашталяна, гетмана вялікага літоўскага князя Юрыя Радзівіла (шлюб паміж 28.7 і 6.8.1547); з Кацярынай — дачкой караля чэшскага, венгерскага і нямецкага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынанда I Габсбурга (шлюб 30 альбо 31.7.1553), Жыгімонт Аўгуст стаў апошнім мужчынскім прадстаўніком Ягелонскай дынастыі; *Соф'ю* (13.7.1522 — 28.5.1575) — была замужам за князем браўншвейгскім Генрыхам II (шлюб паміж 22 і 25.2.1556); *Ганну Ягелонку* (18.10.1523 — 9.9.1596) — была жонкай караля польскага Стэфана Баторыя (шлюб 1.5.1576), была каралевай польскай і вялікай княгіняй літоўскай у 1575–1576 гадах; *Кацярыну* (1.9.1526 — 16.9.1583) — была жонкай (шлюб 4.10.1562) князя Фінляндыі Яна (Юхана) III Вазы, з 1568 года — кароль Швецыі Ян III; *Ольбрахта* (нарадзіўся і памёр 20.9.1527). У Жыгімонта Старога быў пазашлюбны сын ад Кацярыны Тэльнічанкі Ян (Януш, 8.1.1499 — 18.2.1538), які стаў Віленскім біскупам, пасля быў біскупам Пазнанскім.

У ***Яна III Вазы і Кацярыны*** быў сын *Жыгімонт III Ваза* (20.6.1566 — 30.4.1632), кароль польскі і шведскі, і дачка *Ганна* (1568–1625), якая не выйшла замуж, заставалася лютэранкай. Таму, калі яна памерла, цела на працягу 11 гадоў не было пахавана.

## ЛЁСАПІС

***Ягайла, Якаў, Уладзіслаў ІІ*** (1351 альбо 1352 — 1.6.1434) — вялікі князь літоўскі (1377–1381, 1382–1392), вышэйшы князь літоўскі (1392–1434), кароль польскі (1386–1434), каранаваны 4 сакавіка 1386 года. Ягонае імя Ягайла перакладалі як «крыклівы, сварлівы, гарлапан, шумны чалавек». Старэйшы сын вялікага князя літоўскага Альгерда і другой ягонай жонкі цвярской князёўны Ульяны, унук Гедыміна. Разам з Соф'яй Гальшанскай (1405–12.9.1461) пачынальнік польскай дынастыі Ягелонаў (на беларускіх землях — Ягайлавічы). Існуе шмат выказванняў і меркаванняў, нават міфаў пра час Ягелонаў. Баляслаў Прус, напрыклад, пісаў: «Не бітвы і не перамогі робяць славу для ягелонскай эпохі, а нешта зусім іншае, штосьці зусім супраціўнае бітвам, а іменна: вольныя і добраахвотныя сувязі народаў. Літва пашлюбіла Польшчу не на грунце нейкага захопу, а ў імя "любові братэрскай" і "дзеля дабра абодвух народаў". Не навязвалі нацыянальнасці, але роды польскія прынялі літоўскіх баяр як сыноў і братоў... Не навязвалі ўлады, але пакінута Літве шырокая аўтаномія. Не прышчэплівалі гвалтам мовы, наадварот, нават Статут Літоўскі быў адрэдагаваны на рускай мове».

Быў нязвыкла спагадлівы ў паводзінах, любіў рабіць дабро нават сваім незычліўцам. Згадваюць шмат такіх выпадкаў. Адзін з іх звязаны з Грунвальдскай бітвай. Пасля яе ў Ягайлы аказалася шмат палонных (енцаў) з ліку крыжакоў. У той час ваеннымі енцамі лічыліся рыцары, якія аддаваліся ў няволю іншаму рыцару, альбо былі пераможаныя падчас дуэлі, альбо злоўленыя падчас уцёкаў, альбо захопленыя ў вайне. У любым выпадку яны маглі разлічваць, што застануцца жывымі і да іх будуць адносіцца згодна з іхнім паходжаннем (гэта, праўда, не датычыла не рыцараў: наёмнікаў, хлопаў). Такі быў кодэкс паводзін рыцара. Хоць

вельмі часта адбываліся і жорсткія выпадкі: пасля нападу нарманаў на Ірландыю ў 1169 годзе пераможца Маўрыкій Фіцжэральд загадаў паламаць енцам рукі і ногі і ўтапіць у моры. Звычайна ж пераможцы скрупулёзна складалі спісы енцаў, дамаўляліся пра выкуп і тэрмін яго выплаты, здаралася, да гэтага дадаваўся абавязак пэўны час не браць удзелу ў бітвах. Пасля гэтага енца адпускалі і ён складаў прысягу, што ў выпадку, калі не здолее ў тэрмін выплаціць выкуп, добраахвотна вернецца ў няволю. Дык вось, Ягайла пасля Грунвальда поўнасцю ў адпаведнасці з рыцарскім кодэксам паводзін аднёсся да енцаў. Усіх параненых крыжакоў ён загадаў лячыць. Усе енцы мелі права нароўні з Ягайлам удзельнічаць у ягоных ганаровых імпрэзах. Усе, хто паабяцаў выкуп, былі вызвалены з няволі. Гэткім жа чынам паступіў Ягайла і пасля вайны ў 1432 годзе. Аднак да звычайных енцаў падчас войнаў з крыжакамі адносіліся згодна з ваеннымі законамі: часта палілі іх жывымі.

Памёр Ягайла пасля таго, як халоднымі майскімі начамі ў лясах каля Львова слухаў спевы салаўёў — гэта было захапленне праз усё ягонае жыццё — і прастудзіўся, вылечыць не змаглі. У Гарадку (Gródek) каля Львова ён і памёр, а Гарадок назвалі Ягелонскім. Сэрца Ягайлы было пахавана ў Гарадку. Гэта быў першы падобны выпадак у Польшчы. Пасля гэтага шмат хто з вядомых палітычных і культурных дзеячаў меў падобны лёс. Цела Ягайлы пахавана ў Вавельскім кафедральным касцёле Кракава. Як згадваў беларускі паэт Максім Танк, у Белавежскай пушчы рос дуб, пад якім Ягайла любіў адпачываць падчас ловаў. Дуб гэты паваліла бура толькі ў 1974 годзе.

***Уладзіслаў III Варненьчык*** (31.10.1424 — 10.11.1444) — першы сын Ягайлы і яго чацвёртай жонкі Соф'і Гальшанскай. Кароль польскі ў 1434–1444 гадах і венгерскі Уласла (Ласла) I (1440–1444). Польскі каралеўскі пасад заняў у 10-гадовым узросце, караваны 25 ліпеня 1434 года. Да да-

сягнення паўналецця, якое наступала ў 14 гадоў, знаходзіўся пад апекай Кароннай Рады і Кракаўскага біскупа Збігнева Алясьніцкага, які разам з магнатамі практычна кіраваў дзяржавай не столькі ад імя караля, як за самога караля. Гэта ў сукупнасці з іншымі прычынамі, звязанымі з пазіцыяй Алясьніцкага па многіх пытаннях унутранай і знешняй палітыкі, і найперш у адносінах да гусітаў, выклікала незадаволенасць супраць яго, што вылілася нават у збройнае супраціўленне пад кіраўніцтвам Спытка з Мельштына. Апазіцыянеры правялі свой з'езд 3 мая 1439 года ў Новым Месце Корчыне, дзе была створана канфедэрацыя на чале са Спыткам з Мельштына супраць алігархічных памкненняў Алясьніцкага. У яе ўвайшлі 168 прадстаўнікоў шляхты, у тым ліку дваровыя Соф'і, а таксама каралеўскі падскарбнік Генрык (Гінча) з Рогава. Аднак апазіцыянеры былі пераможаны — Алясьніцкі паслаў супраць іх войска. У выніку бітвы пад Гротнікамі ён атрымаў перамогу, Спытак быў забіты, а многія з апазіцыянераў перайшлі на бок Алясьніцкага. Пасля гэтага роля Соф'і ў палітычным жыцці яшчэ больш змізарнела.

Уладзіслаў стаў каралём венгерскім пасля смерці гаспадара чэшскага і венгерскага Альбрэхта II (27 кастрычніка 1439 года) насуперак волі ягонай удавы Эльжбеты. Алясьніцкі настойваў на жаніцьбе Уладзіслава са старэйшай дачкой Эльжбеты Ганнай. Венгерскія ж уладцы жадалі, каб 16-гадовы Уладзіслаў стаў мужам удавы, якой было 30 гадоў. Удава мусіла згадзіцца, і 17 лютага 1440 года з Буды ў Кракаў вырушыла венгерскае пасольства — ажно на 100 коней. Але пакуль у польскай сталіцы высвятлялі адносіны, 22 лютага Эльжбета нарадзіла сына — Уладзіслава Паграбоўца (Пасмяротнага) і назвала яго каралём. Аднак 8 сакавіка 1440 года 16-гадовы Уладзіслаў Ягелончык у кракаўскай катэдры прыняў венгерскі трон і паабяцаў пашлюбіцца з Эльжбетай. Удава супраціўлялася і нават загадала

выкрасці карону святога Стэфана, каб сарваць каранацыю паляка і аддаць пасад свайму сыну. Ягелончык вырушыў у Буду, яму спадарожнічалі Алясьніцкі, Генрык з Рогава і іншыя рыцары. Па дарозе 23 красавіка 1440 года ў Сончы адбылася апошняя ў жыцці сустрэча Уладзіслава Ягелончыка з маці — каралевай Соф'яй Гальшанскай. 21 мая Уладзіслаў быў у Будзе, а 29 чэрвеня 1440 года сойм аб'явіў яго венгерскім каралём, адмовіўшы ў гэтым праве Уладзіславу Паграбоўцу. Калі Эльжбета памерла, Уладзіслава абвінавацілі, што ён атруціў яе, а за жонку яму шматкроць прапаноўвалі старэйшую дачку Эльжбеты Ганну.

Знаны польскі гісторык Ян Длугаш зазначаў, што каралевіч Уладзіслаў быў вельмі падобны да свайго бацькі Ягайлы і тварам, і паставай, і нават звычкамі шчодра раздаваць падарункі — «не за заслугі тых, хто атрымліваў іх, а каб пазбегнуць непрыязнасці». Слухаўся дарадцаў, асабліва Алясьніцкага, быў прыхільнікам кампрамісаў. Вельмі любіў прыроду і рыцарскія баі. Гэта было адным з матываў шмат якіх ваенных паходаў.

Калі Уладзіслаў знаходзіўся ў Венгрыі, туркі пачалі наступленне на Балканы, перамаглі сербаў на Косавым полі і пагражалі венграм. Ваяўнічы Уладзіслаў у 1443 годзе разам з войскамі венгерскага палкаводца Хуньядзі вырушыў супраць іх. Атрымаў шэраг перамог, вызваліў Сафію, набыў славу ўзорнага каталіцкага рыцара. 1 красавіка 1444 года заключыў у Сегедзе мірную дамову на 10 гадоў. Аднак неўзабаве, намоўлены ахвотнікамі выгнаць туркаў з Еўропы, разарваў яе і 21 верасня пераправіўся праз Дунай. У баях пад Варнай 10 лістапада 1444 года Уладзіслаў згінуў, за што атрымаў прозвішча Варненьчык. Гэта быў адзіны польскі кароль, які загінуў на полі бітвы. Аднак доўгі час лічылася, што Уладзіслаў застаўся жывы, бо цела ягонага не знайшлі. У сувязі з гэтым у Польшчы наступіў час бескаралеўства,

доўга наогул не выбіралі караля, чакалі вызначэння лёсу Уладзіслава.

Існавалі дзве легенды наконт удзелу Уладзіслава ў бітве пад Варнай. Адна з іх узносіла хвалу адважнаму рыцару — змагару за лёс усяго хрысціянскага свету, што без страху кінуўся супраць янычараў, сілы якіх былі невымерна большыя. Войска каралеўскае пацярпела паразу, а сам ён падаўся пустэльнікам у Іспанію, альбо блукаў бедным рыцарам па землях Кіпра, ці мо захоўваўся сціплым вандроўнікам у адным з балтыйскіх краёў.

Другая легенда больш крытычная да Уладзіслава. Параза ў бітве мела быць адплатай за каралеўскія грахі, за разарваны мір з туркамі, які быў падпісаны ў Сегедзе. І праз шмат часу гісторыкі згадвалі пра тое, што Уладзіслаў не стрымаў свайго слова, парушыў уласную клятву.

***Казімір IV Ягелончык, Андрэй*** (30.11.1427 — 7.6.1492) — трэці сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, унук Аляксандры Друцкай — Соф'інай маці, вялікі князь літоўскі ў 1440–1492 гадах, у 1447–1492 гадах і кароль польскі. 29 мая 1438 года на з'ездзе ў Мельніку Казімір быў абраны на чэшскага караля. А тым часам 29 чэрвеня 1438 года Альбрэхт Габсбург у Празе быў каранаваны на караля Чэхіі. Пасля трагічнай смерці ў 1440 годзе вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча 13-гадовы Казімір у суправаджэнні вялікай групы польскіх паноў быў адасланы ў Княства як намеснік караля Уладзіслава III Варненьчыка. Але віленскія баяры падпаілі польскіх гасцей і ноччу 29 чэрвеня 1440 года ў кафедральным касцёле Вільні ўручылі Казіміру Гедымінаў меч і ўганаравалі мітрай, аб'явілі вялікім князем. Сярод прыхільнікаў Казіміра былі прадстаўнікі магутных родаў Гальшанскіх (Юрый Сямёнавіч — Казімір быў яго стрыечным пляменнікам), Мантыгірдавічаў, Ян Гаштольд, Ян Осцік, Монвід, Алелька Уладзіміравіч, біскуп Віленскі Мацей. Палякі палічылі гэта сепаратыз-

мам, фармальным зрывам уніі, а для вялікалітоўскіх мужоў гэта з'яўлялася доказам суверэннасці Вялікага Княства Літоўскага. Для Соф'і, маці Казіміра, такое рашэнне таксама было прыемным. У атачэнні вялікага князя адразу ж з'явіліся ягоныя родзічы «па кудзелі» — гэта значыць па жаночай лініі.

У красавіку 1445 года адбыўся з'езд у Серадзе, дзе з падачы Збігнева Алясьніцкага польская шляхта абрала Казіміра каралём, хоць сам ён на з'ездзе не прысутнічаў. Удзельнікі з'езда запрасілі яго на чарговы вераснёўскі з'езд у Пётркаў, але ён таксама не прыехаў. Вырашылі выслаць пасольства да Казіміра ў Княства, разам паехала і ягоная маці каралева Соф'я. 15 кастрычніка паслы з'явіліся ў Гародні, прасілі Казіміра заняць каралеўскі пасад. Казімір не хацеў прымаць карону, параіў звярнуцца да паноў-рады. Пры ім наогул павысілася роля паноў-рады, да ВКЛ нанава далучана Жмудзь. 1 снежня 1445 года вялікалітоўская рада не падтрымала просьбу палякаў. Такія паводзіны Казіміра, падтрыманыя панамі-радай, можна вытлумачыць жаданнем захаваць самастойнасць Княства, пазбегнуць яго інкарпарацыі ў Карону. Бо і 17 чэрвеня 1446 года, калі Казімір згадзіўся прыехаць у Польшчу, ён абумовіў гэта патрабаваннем ануляваць усялякія запісы аб уніі Літвы і Польшчы, унія мела быць толькі персанальнай. Пасля было яшчэ некалькі з'ездаў, не адно пасольства да Казіміра, перш чым ён прыехаў у Польшчу, дзе ў Сандаміры спаткаўся з маці. У верасні 1446 года палякі вымушаны былі падпісаць з Княствам дакументы, дзе няма слоў пра унію альбо пра верхавенства Кароны над Княствам. 2 мая 1447 года сваім прывілеем у Вільні даў гарантыю, што Княства застанецца ў сваіх тагачасных межах. Ажно да Люблінскай уніі 1569 года Княства і Карона заставаліся суверэннымі гаспадарствамі.

23 чэрвеня 1447 года Казімір прыбыў у Кракаў, дзе 25 чэрвеня быў каранаваны. Караляваў ён сорак шэсць гадоў. У Княстве пасада вялікага князя заставалася за Казімірам. У яго адсутнасць кіраўнічую ролю выконвалі паны-рада. Аднак сам ён вельмі часта наведваў Княства. Праз каранацыю свайго сына Уладзіслава на караля чэшскага (1471) і караля венгерскага (1490) умацаваў Ягелонскую дынастыю. Пры ім ўзмацнілася роля свецкай улады адносна касцёла, бо Казімір забяспечыў сабе права прызначаць біскупаў.

Пры Казіміры IV асабліва ажывілася жыццё ў Вавелі, тут адбываліся рыцарскія турніры, дыспуты вучоных, высокія прыёмы — усё, чым было пазначана жыццё знаці ў сярэднявеччы. Ён жа дадаў замку абарончай сілы, збудаваў у Вавелі дзве самыя магутныя вежы — Сандамірскую і Сенатарскую. Казімір і ягоная жонка Эльжбета фундавалі з'яўленне ў капліцы Святога Крыжа ў Вавельскай катэдры фрэсак, выкананых каля 1470 года невядомым мастаком у «рускім» стылі, гэта значыць праваслаўным. Гэта было працягам Ягайлавых памкненняў: намаганнямі яго Люблінская замкавая капліца некалі была распісана малярствам візантыйскім, за што яе назвалі Ягайлавай. А ў капліцы Святой Тройцы Вавельскай катэдры са старанняў Казіміра з'явіўся абраз Пакланення Трох Каралёў, дзе маецца дагэтуль вядомая выява караля Ягайлы, які здымае з галавы карону.

Казімір змагаўся супраць магнацкай апазіцыі на чале з Кракаўскім біскупам Збігневам Алясьніцкім. Пры ім быў выдадзены «Земскі прывілей Казіміра», які нагадвае англійскую «Вялікую Хартыю» з яе прывілеямі магнатам. Выйшаў таксама зборнік законаў для суддзяў «Судзебнік». У 1454–1466 гадах вёў Трынаццацігадовую вайну з Тэўтонскім ордэнам, у якой Княства не брала ўдзелу. Вайна закончылася інкарпарацыйным для Прусіі Торуньскім мірам, Польшча атрымала Гданьскае Памор'е (з гэтага часу называлася Ка-

ралеўскай Прусіяй) і важны для яе выхад да Балтыйскага мора, а вялікі магістр Ордэна прызнаў сябе васалам польскага караля. У 1481 годзе супраць Казіміра выкрыта змова, 30 жніўня смерцю пакараны ягоныя сваякі князі Міхаіл Алелькавіч, якога некалі Казімір зрабіў князем кіеўскім, Іван Юр'евіч Гальшанскі, унук Сямёна Лютага. У апазіцыі да Казіміра быў таксама князь бельскі Фёдар Гальшанскі, які пазней уцёк да Івана III у Маскву, — Гальшанскія наогул у гэты час падтрымлівалі маскоўскага князя. Цікава, што бацька Івана Юрый Сямёнавіч Гальшанскі быў адным з арганізатараў выбрання Казіміра на пасад вялікага князя.

А сам кароль меў непрыязныя адносіны з Маскоўскім княствам. Некаторыя згадваюць, што ён нават пасылаў князя Івана Лукомскага, каб той атруціў вялікага князя маскоўскага Івана III. Гэта ўдалося выкрыць, Лукомскага схапілі, пасадзілі ў клетку, а пасля спалілі на беразе ракі Масквы. А вось Княства пры Казіміры страціла частку сваіх зямель на ўсходзе на карысць Масквы.

Жанаты з малодшай дачкой караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта II Габсбурга, сястрой аўстрыйскага князя Уладзіслава V Паграбоўца (чэшскага караля ў 1453–1457, венгерскага караля ў 1440–1457, які памёр беспатомным, што давала Ягелонам спадзеў на кароны чэшскую і венгерскую), аўстрыйскай прынцэсай Эльжбетай з Габсбургаў, званай Ракушкай, Ракушанкай (1437–30.08.1505). Вяселле адбылося 10 лютага 1454 года, жонцы было 17 гадоў. З часу яе каранацыі ў Польшчы стала дзве каралевы: маці Казіміра Соф'я і жонка Эльжбета. Мелі 6 сыноў і 7 дачок. Сыноў аддаў у навуку да знанага гісторыка Яна Длугаша, які вядомы найперш сваімі гістарычнымі творамі, у тым ліку кнігай «Грунвальдская бітва». Гісторыкі назвалі Эльжбету маткай каралёў, бо чатыры яе сыны займалі каралеўскі пасад у розных дзяржавах: Уладзіслаў стаў каралём чэшскім (1471–

1516) і венгерскім пад імем Уласла (Ласла) II (1490–1516); Ян Ольбрахт — кароль польскі (1492–1501); Аляксандр — вялікі князь літоўскі (1492–1506) і кароль польскі (1501–1506); Жыгімонт I Стары — вялікі князь літоўскі (1506–1548) і кароль польскі (1506–1548).

У 1448 годзе быў адзначаны Залатой Ружай Папы Рымскага, а ў 1450-м — Ордэнам Падвязкі англійскага караля Генрыха VI.

У сваім атачэнні па просьбе маці трымаў колішняга старасту інаўроцлаўскага рыцара Гіньчу (Генрыка) з Рогава, якога некалі палічылі ягоным бацькам (Генрыка абвінавацілі ў сувязях з каралевай Соф'яй — жонкай Ягайлы і маці Казіміра). Казімір пасылаў яго разам з брэсцкім ваяводам Мікалаем Шарлейскім да крыжакоў на размовы аб змяненні іхніх адносін да Польшчы. Гэткую пазіцыю падтрымлівалі і ягоная маці каралева-ўдава Соф'я Гальшанская, канцлер Ян Канецпольскі.

Праваслаўнае імя Андрэй, лічыцца, атрымаў таму, што нарадзіўся ў дзень святога Андрэя, маці ахрысціла яго па праваслаўным абрадзе ў гонар свайго бацькі Андрэя Гальшанскага. Не любіў вайну, захапляўся ловамі. Летам 1492 года, калі быў у Княстве, захварэў. Пакінуў наказ аддаць каралеўскі пасад свайму сыну Яну Ольбрахту, а вялікакняскі — сыну Аляксандру. Так і сталася. Ажно 45 гадоў — найдаўжэй як хто іншы — знаходзіўся Казімір на каралеўскім пасадзе, а на гаспадарстве ў Княстве — 52 гады. Памёр у Гародні. Пахаваны ў Кракаве ў капліцы Святога Крыжа ў Вавельскай катэдры.

***Уладзіслаў II Ягелончык*** (1.3.1456 — 13.3.1516) — першы сын Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, дачкі караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта. Кароль чэшскі (1471–1516) і венгерскі пад імем Уласла (Ласла) II (1490–1516). Быў жанаты з Барбарай — дачкой

маркграфа брандэнбургскага Альбрэхта Гогенцолерна. Развёўся (што на той час было надзвычай няпроста), Барбара памерла 4 верасня 1515 года. 2 кастрычніка 1490 года ажаніўся другі раз з Беатрысай Арагонскай — дачкой Фердынанда I, караля неапалітанскага. Жаніцьба прызнана несапраўднай 7 красавіка 1500 года. Беатрыса памерла 13 верасня 1508 года. Трэці раз ажаніўся 6 кастрычніка 1502 года з дачкой графа Гастона II дэ Цандале Ганнай, якая памерла 26 ліпеня 1506 года.

***Уладзіслаў*** (1.7.1506 — 29.8.1526) — сын Уладзіслава II Ягелончыка і Ганны, кароль венгерскі пад імем Ласла II (Лаяш, 1516–1526) і чэшскі ў 1516–1526 гадах. Загінуў у 1526 годзе ў бітве з туркамі ля Мохача. Пасля гэтага венгерска-чэшская лінія дынастыі Ягелонаў спынілася.

***Казімір (малодшы) Святы*** (3.10.1458 — 4.3.1484) — другі сын Казіміра IV Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі. Ягоным выхаваўцам быў Ян Длугаш. Лічыцца патронам Вільні, апекуном зямель Вялікага Княства Літоўскага. Меў добрую адукацыю. Калі яго старэйшы брат Уладзіслаў стаў каралём чэшскім, Казіміра хацелі бачыць на пасадзе вялікага князя літоўскага і караля польскага. Бацька наважыўся паспрыяць яму ў заняцці каралеўскага пасада ў Венгрыі. 2 кастрычніка 1471 года 15-гадовы Казімір вырушыў у Венгрыю. Яго суправаджала войска Пятра Дуніна. Кароль венгерскі Мацей Корвін быў аб'яўлены Казімірам узурпатарам. Аднак старажытная карона караля венграў святога Стэфана Казіміру не дасталася. Многія вайскоўцы з арміі каралевіча Казіміра перайшлі на бок венгерскага караля. 1 студзеня 1472 года рэшткі арміі на чале з каралевічам вярнуліся ў Польшчу. Гэта зрабіла моцны ўплыў на Казіміра. Ён сышоў з каралеўскага двара і пасяліўся ў замку ў Добчыцах. У 1475 годзе старэйшы сын Казіміра IV Уладзіслаў стаў каралём чэшскім, а Казімір — намеснікам караля ў Кароне,

часта бываў у Вільні. Кіраваў вельмі ўдала, набіраючы шмат прыхільнікаў. Вясной 1483 года прыехаў у Княства, дзе атрымаў пасаду падканцлера.

Аднак Казімір неахвоча ставіўся да палітычнай дзейнасці, ён жадаў, каб бацька жыў доўга і шчасліва караляваў, а сам спадзяваўся, што памрэ першы, бо быў моцна хворы на сухоты. Захварэў падчас побыту на вялікалітоўскіх землях, дзе апекаваўся беднымі і хворымі. Бацька хацеў аддаць яму вялікалітоўскі пасад, але юнак бачыў ужо нябесную карону — хвароба даймала яго. Адмовіўся ад жаніцьбы з дачкой імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыха III, захоўваў зарок цнатлівасці. Рабіў частыя паездкі ў Гародню. Прыехаў сюды на Каляды 1483 года. Але яму стала так блага, што з Гародні больш не выязджаў, жыў у старым замку. 4 сакавіка 1484 года Казімір памёр. Пахаваны ў каралеўскай капліцы Віленскага кафедральнага сабора.

Ягоным запаветам было: «Пасля Бога найбольш любі праўду і справядлівасць». Каля магілы Казіміра пачалі адбывацца цуды, вялікі розгалас набылі легенды пра яго спрыянне вялікалітоўскаму і польскаму войску падчас абароны Полацка ад маскоўскіх вояў у 1518 годзе. Усё гэта дало падставы каралю Жыгімонту I Старому, роднаму брату Казіміра, звярнуцца да Папы Рымскага з просьбай аб залічэнні Казіміра да ліку святых. У 1521 годзе Папа Рымскі Леў X выдаў кананізацыйную булу, аднак пасля смерці Папы яна згубілася разам з іншымі дакументамі, звязанымі з кананізацыяй Казіміра, падчас нападу на Рым нямецкіх войскаў. Толькі каралю Сігізмунду III Вазе ўдалося атрымаць новую булу, выдадзеную 7 лістапада 1602 года Папам Клімента VIII на аснове копіі булы Льва X, знойдзенай у Ватыканскім архіве. Цырымонія кананізацыі адбылася ў 1604 годзе ў кафедральным саборы Св. Станіслава ў Вільні.

У яго гонар 4 сакавіка на землях Княства адбываліся малебны, а ў Вільні да гэтага часу праводзіцца святочны кірмаш Казюкас — памяншальнае літоўскае імя ад Казімір, а па-беларуску — Казік.

***Ян Ольбрахт*** (27.12.1459 — 17.6.1501) — трэці сын Казіміра Ягелончыка. Яго малодшы брат Аляксандр быў вялікім князем літоўскім, што азначала нямоцнасць персанальнай літоўска-польскай уніі. Сам Ольбрахт лічыўся вышэйшым князем літоўскім. Пасля смерці бацькі Ян у 1492 годзе стаў польскім каралём, каранаваны 23 верасня. Быў вядомы як адважны на полі бітвы рыцар, чалавек інтэлігентны і амбітны. У 1494 годзе змусіў вялікага магістра Тэўтонскага ордэна да прысягі на вернасць і да прызнання ў Рыме Прусіі як інтэграванай часткі Каралеўства Польскага. З мэтай падтрымкі шляхтай ягонага будучага паходу на Малдову на сойме ў Пётркаве ў 1496 годзе выдаў прывілей, які дазваляў мытныя льготы і абмяжоўваў права сыходу сялян з вёсак.

Хацеў заняць венгерскі каралеўскі пасад, але яго апярэдзіў старэйшы брат Уладзіслаў. Арганізаваў паход на туркаў, каб умацаваць польскія пазіцыі на Чорным моры. У 1497 годзе распачаў малдаўскі паход, каб падпарадкаваць наддунайскія княствы, аднак атрымаў паразу на Букавіне ля Казьміна. Там загінула шмат палякаў. У выніку пра яго казалі, што кароль Ольбрахт вынішчыў шляхту. А было гэта выклікана тым, што браты Ягелоны-Ягайлавічы, якія панавалі на польскім, чэшскім, літоўскім і венгерскім пасадах, не здолелі паразумецца адносна палітыкі на Чорным моры.

У Кароне пазбавіў сялян права мяняць месца жыхарства і перасяляцца ў гарады без згоды паноў. Пры ім канчаткова сфарміраваўся сойм Каралеўства Польскага, які складаўся з караля, сената і пасольскай палаты. Не быў жанаты. Памёр у Торуні, пахаваны ў Вавелі.

***Аляксандр Ягелончык*** (5.8.1461—19.8.1506) — чацвёрты сын Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, унук Ягайлы. Вялікі князь літоўскі ў 1492–1506 гадах, у 1501–1506 гадах кароль польскі, каранаваны 12 снежня. Вялікім князем абраны на віленскім сойме напярэдадні элекцыі Яна Ольбрахта на караля польскага, што сведчыла таксама пра фактычны зрыў літоўска-польскай уніі. За жонку меў Алену (19.5.1476 — 20.1.1513), старэйшую дачку вялікага князя маскоўскага і ўладзімірскага Івана III, сястру Васіля III, якая не ахрысцілася па-каталіцку, а засталася праваслаўнай. Заручыны адбыліся 6 лютага 1494 года ў Маскве, сам Аляксандр на іх не прысутнічаў, яго інтарэсы прадстаўляла пасольства на чале з ваяводам трокскім Пятром Янавічам Мантыгердавічам. Ад імя Аляксандра Станіслаў Кезгайлавіч абмяняўся з Аленай пярсцёнкамі, уручыў ёй падарункі ад будучага мужа і ягоны партрэт. 6 студзеня 1495 года ў Маскву прыбыло ўрачыстае пасольства, у складзе якога быў і кашталян віленскі князь Аляксандр Гальшанскі, каб забраць Алену. 13 студзеня яна выехала з Масквы. У дарозе былі больш за месяц.

15 лютага 1495 года ў Вільні адбылося вянчанне Алены і Аляксандра. Спачатку ў царкве Святой Багародзіцы. Усё адбывалася па праваслаўных звычаях. Баярскія жонкі расплялі Алене косы, на валасы накінулі намітку, абсыпалі кветкамі хмелю. Пасля павялі яе ў замкавую катэдру — касцёл Святога Станіслава. Тут яе чакаў Аляксандр з маці Эльжбетай, братам Фрыдэрыкам, сёстрамі Барбарай і Эльжбетай. Шлюбаваў іх Віленскі біскуп Войцах Табор. Прысутнічаў і мітрапаліт Макарый. А праваслаўны бацюшка Фама, які прыбыў з Аленай, вёў праваслаўны абрад.

Гэты шлюб меў яўны палітычны падтэкст. Іван III разлічваў атрымаць большы доступ да спраў Княства і ўплываць на падтрымку там праваслаўя. Бацька нават пагражаў

Алене пракляццем, калі яна не будзе выконваць ягонай волі. Вялікі князь літоўскі Аляксандр і яго брат кароль польскі Ян Ольбрахт разлічвалі праз гэта спыніць канфлікты Маскоўскага княства з Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай. Супраць шлюбу была маці Аляксандра, але яна пагадзілася з выбарам сына, калі шлюб адобрыў Папа Рымскі.

Хоць муж прыхільна адносіўся да жонкі, Алена няўтульна пачувалася ў віленскай гаспадарскай рэзідэнцыі. Вялікую княгіню літоўскую і каралеву польскую (дарэчы, палякі не хацелі яе каранаваць, муж сам назваў яе каралевай) не раз угаворвалі прыняць каталіцкае хрышчэнне, але яна і слухаць не хацела. Не пажадала падпарадкавацца прымусу перайсці ў каталіцтва, нават не прысутнічала на каранацыі Аляксандра на караля польскага. Падтрымлівала праваслаўе на вялікалітоўскіх землях, каб і па лініі веры нельга было прывязаць іх выключна да Каралеўства Польскага. Ёсць звесткі, што яна з'яўляецца фундатаркай царквы Успення Багародзіцы ў Новым Свержані (сёння Стаўбцоўскі раён).

З-за непаразуменняў і нагавораў даходзіла да ваенных сутычак паміж Княствам і маскоўскім князем. Падставай часам з'яўляліся недакладныя звесткі аб уяўных ганеннях на праваслаўных у Княстве, што мела асаблівае значэнне для Масковіі, каб распачынаць ваенныя дзеянні. Варта згадаць бітву на рацэ Вядрошы 14 ліпеня 1500 года, дзе войска Аляксандра пацярпела паразу і ў палон трапіў знаны Канстанцін Астрожскі.

Жонка перажыла мужа на 7 ґадоў, мела шмат непрыемнасцей. Пасля смерці Аляксандра жыла то ў Вільні, то ў Брацлаве. Існуюць версіі, што Алену атруцілі, калі západозрылі, што яна хоча вярнуцца ў Маскву і далучыць да яе свае землі, падараваныя мужам Аляксандрам і каралём польскім Жыгімонтам. Другая версія — памерла ў Троках, будучы зняволенай. Трэцяя — памерла ў Брацлаве 24 студзеня 1513 года.

Пахавана ў Вільні, у царкве Багародзіцы Прачысценскага манастыра.

Калі 17 чэрвеня 1501 года памёр польскі кароль Ян Ольбрахт, брат Аляксандра, сябры вялікага князя, у тым ліку Радзівілы, пачалі старацца аб выбранні яго на польскі пасад. Ім удалося перахітрыць канкурэнта — старэйшага брата Аляксандра караля венгерскага і чэшскага Уладзіслава. 12 снежня 1501 года вялікі князь літоўскі Аляксандр быў каранаваны сваім братам кардыналам Польскім і арцыбіскупам Гнезненскім Фрыдэрыкам у Вавельскай катэдры на караля польскага. Каранаваць жонку Алену адмовіліся за тое, што была праваслаўнай. Таму яна лічылася не каралевай, а проста жонкай караля Аляксандра, вялікай княгіняй літоўскай. І толькі зварот Аляксандра да папскай курыі дапамог у вырашэнні справы. У 1505 годзе Папа Юлій II зацвердзіў шлюб.

Аляксандр быў высокаадукаваны, захапляўся філасофіяй, старажытнай гісторыяй, меў мастацкі густ, любіў паэзію, дасканала валодаў многімі замежнымі мовамі. Захоўваў вялікую павагу да традыцый Вялікага Княства і ягоных гаспадароў. Падчас каранацыі ў Віленскай катэдры даў прылюднае абяцанне кіраваць падданымі і судзіць іх не па нейкіх замежных законах, якія, дарэчы, добра ведаў, а «па праўдзіваму літоўскаму і Вітаўтаваму звычаю».

У 1501 годзе быў вымушаны выдаць Мельніцкі прывілей аб абмежаванні каралеўскай улады на карысць магнатаў. З-за таго, што кароль больш часу праводзіў у Княстве, а ў Польшчы яго замянялі сенатары і малодшы брат арцыбіскуп Фрыдэрык, на сойме ў Радаме ў 1505 годзе прыняты акт, названы Канстытуцыяй «*Nihil novi*» — нічога новага, або Радамскай канстытуцыяй. Згодна з гэтым дакументам кароль не меў права без згоды сойма аб'яўляць якія-небудзь рашэнні адносна шляхты.

У час гаспадарання Аляксандра адбываліся сутычкі і з крымскімі татарамі, перамогу над якімі ў 1506 го-

дзе атрымаў на рацэ Лань каля Клецка князь Міхаіл Глінскі. З часу Аляксандра пачалося больш цеснае аб'яднанне Княства і Кароны пад уладай аднаго караля, якога выбіралі польскія і вялікалітоўскія феадалы, стала ўжывацца назва Рэч Паспалітая. Пасля яго смерці на пасаду гаспадара Княства прэтэндаваў вялікі князь маскоўскі Васіль III Іванавіч, які разлічваў на падтрымку Алены. Аднак яна падтрымала Жыгімонта, аб чым клапаціўся яе муж Аляксандр.

Аляксандр не меў спадчыннікаў. Памёр ноччу на 19 жніўня 1506 года ў Вільні. Захварэў яшчэ ў Радаме. Ішла працяглая спрэчка, дзе пахаваць вялікага князя літоўскага і караля польскага. І толькі ў нядзелю 11 кастрычніка Аляксандра пахавалі ў Вільні. Першы і адзіны з польскіх каралёў пахаваны не ў Вавельскай, а ў Віленскай катэдры.

У пахавальнай працэсіі браў удзел 31 багата аздоблены жалобны вазок, за імі ехалі 32 кані, пакрытыя каштоўнымі тканінамі, 8 рыцараў неслі харугвы Княства і Кароны, яшчэ чацвёра неслі жэзл, меч, яблык і карону — каралеўскія сімвалы. На пахаванне прыехаў брат Жыгімонт I. Аляксандра пахавалі ў кафедральным касцёле побач з іншымі членамі сям'і Ягелонаў і старэйшым братам святым Казімірам, які быў кананізаваны ў 1604 годзе.

***Жыгімонт I Стары*** (1.1.1467 — 1.4.1548) — пяты сын Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, унук Ягайлы. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1506–1548), каранаваны 24 студзеня 1507 года. Прозвішча Стары далі дзеля таго, каб адрозніць ад сына Жыгімонта Аўгуста, які пры жыцці бацькі стаў вялікім князем літоўскім і каралём польскім. Быў такі дужы, што яшчэ ў падлеткавым узросце мог ламаць падковы, пальцамі рваў калоду карт. З'яўляўся князем глогаўскім (1498–1506) і опаўскім (1501–1506).

Пасля смерці вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра абраны 20 кастрычніка 1506 года на гаспа-

дара Княства, а 8 снежня — каралём польскім. На момант ўступлення на трон не быў жанаты, а жыў з Кацярынай Тэльнічанкай, шляхцянкай з Тэльніцаў, што ў Маравіі, ад якой меў пазашлюбнага сына Яна і дзвюх дачок.

Пазней аддаў Кацярыну за магната Андрэя Касцялецкага. Адна з дачок караля Беата стала ягонай прыёмнай дачкой. З ёй у 1538 годзе пашлюбіўся сын Канстанціна Іванавіча Астрожскага і Таццяны Сямёнаўны з роду Гальшанскіх Ілля. Аднак неўзабаве Ілля памёр, і ўжо без яго Беата нарадзіла дачку Эльжбету Астрожскую, вядомую ў гісторыі як Галшка і празваную Чорнай княгіняй.

Князь Дзмітрый Фёдаравіч Сангушка ў 1555 годзе насуперак волі маці ўкраў каралеўскую ўнучку чатырнаццацігадовую Эльжбету, гвалтоўна пайшоў з ёю пад вянец. Аднак маці Эльжбеты Беата аказалася настойлівай і ўпартай. Дайшла да караля, дабілася ад яго дэкрэта аб скасаванні шлюбу. Бяспраўны муж мусіў уцякаць ад помслівай цешчы ажно за мяжу. Але і ў Чэхіі дагнала яго помста — родзічы пакрыўджанай маці паквіталіся з ім: забілі Дзмітрыя Сангушку.

Аднак дарэмна святкавала перамогу Беата. Кароль аддаў Эльжбету за польскага магната графа Лукаша, які стаў пазней ваяводам пазнанскім. Бунтоўнае сэрца маці не супакоілася. Яна выкрала дачку, звезла з Польшчы ў Львоў, схавала ў манастыры. А тады паклікала ў кляштар князя Сямёна з вядомага роду князёў Слуцкіх-Алелькавічаў і аддала за яго Эльжбету. Ды і на гэтым не спыніліся авантурныя прыгоды каралеўскай унучкі. Другі яе муж Лукаш адабраў Эльжбету ў Сямёна і схаваў у сваім замку. Колькі пакут давялося выцерпець беднай Галшцы, вядома толькі ёй самой. Аднак апошні прытулак яна знайшла ў свайго дзядзькі Канстанціна (Васіля) Астрожскага. І, відаць, нездарма назвалі яе Чорнай княгіняй. Замест бацькоўскай ласкі спа-

знала здзек, замест шчасця ў шлюбе ледзь не ўсё жыццё давялося насіць чорны ўбор — жалобу па сапраўдным каханні. Беата ж пазней выйшла за Ольбрыхта Ласкага, у замку якога і памерла ў зняволенні.

Першай жонкай Жыгімонта была Барбара (8.2.1512), дачка Стэфана Запольяі з венграў. Пасля яе смерці (2.10.1515) Жыгімонт ажаніўся 18 красавіка 1518 года з Бонай Сфорцай (2.2.1494 — 19.11.1557) — італьянскай княжной, малодшай за караля на 27 гадоў, амбітнай і ахвочай да ўлады, прагматычнай у гаспадарскіх пытаннях. Яна намагалася замацаваць вышэйшыя гаспадарскія пасады ў Княстве і Кароне за сваім сынам Жыгімонтам ІІ Аўгустам. У 1556 годзе пакрыўджаная тым, што не можа ўплываць на дзяржаўныя справы, з'ехала ў Італію, забрала з сабой амаль усе багацці, Жыгімонту Аўгусту практычна нічога не засталося. Жыгімонт Стары і Бона Сфорца мелі дзяцей: Ізабэлу, Жыгімонта, які стаў каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам ІІ Аўгустам, Соф'ю, Ганну, Кацярыну, Ольбрахта.

Пры двары Жыгімонта да 1533 года выхоўваўся будучы вядомы магнат і дзяржаўны дзеяч, фундатар Брэсцкай і іншых друкарняў, арганізатар выдання знакамітай Брэсцкай Бібліі Мікалай Радзівіл Чорны, які пазней спрычыніўся да шлюбавання стрыечнай сястры Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста. Жыгімонт зацвердзіў Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года. Вядомы як мецэнат, меў вялікую бібліятэку, у двары працавалі знаныя скульптары, архітэктары, мастакі. У 1520 годзе па яго даручэнні быў адліты для Вавельскай катэдры звон, названы «Жыгімонт». Звон быў самы вялікі ў Польшчы, важыў каля 11 тон, быў 2 метры ўвышкі, язык меў 2,5 метра. «Жыгімонт» ажываў толькі падчас самых значных рэлігійных і дзяржаўных свят. Існуе меркаванне, што Жыгімонт падпісаў дзве ахоўныя граматы Францыску Скарыне.

Жыгімонт не меў вялікага шацунку да шляхты, за што ў Каралеўстве Польскім выспела апазіцыя і ў 1537 годзе пачалася так званая «курыная вайна», альбо рокаш (паўстанне) шляхты супраць палітыкі каралеўскага двара і магнатаў. Вёў войны супраць Масковіі — бітвы пад Оршай у 1508, 1514 гадах, страціў Смаленск у 1514-м, у 1534 годзе здабыў Гомель. У 1515 годзе падпісаў дамову з Габсбургамі. У 1533-м заключыў дагавор з Турцыяй, падчас вайны з крыжакамі (1519–1521) дабіўся секулярызацыі Ордэна і падпарадкавання Прусіі Польшчы, у 1526 годзе далучыў да Польшчы Мазоўша. Быў мецэнатам, не шкадаваў грошай на мастацтва і архітэктуру, перабудаваў Вавель, пры ім Польшча дасягнула сапраўднага росквіту мастацтва і архітэктуры.

Пахаваны ў спецыяльна збудаванай у Вавельскай катэдры ў якасці маўзалея апошніх Ягелонаў капліцы Жыгімонта. Капліца з'яўляецца выдатным помнікам рэнесанснай архітэктуры, праект выканаў італьянец Барталамей Бярэччы.

***Ян (Януш)*** (8.1.1499 — 18.2.1538) — пазашлюбны сын караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога і Кацярыны Тэльнічанкі, шляхцянкі з Тэльніцаў, што ў Маравіі. Нарадзіўся і выхоўваўся ў Кракаве. Пайшоў па царкоўнай лініі. Быў канонікам Кракаўскім, Пазнанскім і Плоцкім. Вучыўся ў Балонскім універсітэце. Меў працу ў каралеўскай канцылярыі. Калі ў 1519 годзе памёр Віленскі біскуп Войцех Радзівіл, Ян быў прызначаны кіраўніком біскупства, а пасля і біскупам. Браў удзел у кананізацыі каралевіча Казіміра, у стварэнні Статута ВКЛ 1529 года. Меў цесныя адносіны з першадрукаром Францыскам Скарынам, калі той пераехаў у Вільню, дапамагаў яму ствараць друкарню. Сведчаць, што з сярэдзіны 1520-х гадоў нават быў сакратаром Скарыны. Не цураўся свецкіх спраў. Браў удзел у распрацоўцы нязздзейсненага праекта прызнання Вялікага Княства Літоўскага кара-

леўствам, гэта адбывалася ў 1526 годзе. Палякі супраціўляліся гэтаму, а праз непаразуменні з магнатамі вялікалітоўскімі мусіў адмовіцца ад біскупства ў Вільні і з'ехаў у Пазнань, дзе таксама стаў біскупам (з 1537).

***Жыгімонт II Аўгуст*** (1.8.1520 — 7.7.1572) — сын Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы, вялікі князь літоўскі з 1529 года і кароль польскі з 1548-га (фармальна — з 1530-га), апошні прадстаўнік Ягелонскай дынастыі па мужчынскай лініі на каралеўскім польскім пасадзе. З намаганняў ягонай маці, якая ад самага пачатку старалася забяспечыць сыну дынастычнае права на каралеўскі трон і вялікалітоўскі пасад, у 1522 годзе сойм Вялікага Княства Літоўскага паабяцаў Жыгімонту I Старому, што пасля яго смерці пасад будзе аддадзены ягонаму сыну Жыгімонту II, практычна прызнаў яго гаспадаром літоўскім. 18 кастрычніка 1529 года ў Віленскай катэдры ён быў каранаваны на вялікага князя літоўскага яшчэ пры жыцці бацькі. А 18 снежня 1529 года на польскім сойме абраны і каралём польскім, каранаваны ў Вавельскай катэдры 20 лютага 1530 года. 6 лістапада 1544 года Жыгімонт I Стары на сейме ў Бярэсці аб'явіў акт перадачы сыну ўлады над ВКЛ, сам заставаўся вышэйшым князем літоўскім. З гэтага моманту сын стаў рэальна гаспадарыць у Княстве. Брэсцкі сейм значна змяніў як жыццё Боны Сфорцы, маці Жыгімонта II Аўгуста, так і ўсяго Княства. Жыгімонт фактычна стаў каралём з 1548 года. Улада ж заставалася ў руках бацькі. Спраўджвалася памкненне Жыгімонта і Боны Сфорцы забяспечыць уладу сыну яшчэ пры сваім жыцці. Гэта быў першы выпадак, калі караля абралі не пасля смерці ягонага папярэдніка і не як дзеючага вялікага князя.

6 мая 1543 года 23-гадовы Жыгімонт ажаніўся з 17-гадовай дачкой караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Фердынанда I эрцгерцагіняй Эльжбетай Аўстрыйскай

(1526 — 15.6.1545). Яна мела хваробу святога Віта — была эпілептычкай, што напалохала караля, які вельмі хацеў мець спадчыннікаў трона. Кажуць, што адбылося гэта насуперак жаданню маці Боны Сфорцы, якая баялася яе ўплыву на сына і таму пакінула нявестку каля сябе, а сына накіравала ў ВКЛ, у Геранёны, якія былі рэзідэнцыяй Гаштольдаў. Там ён і пабачыў Барбару. Акрамя таго, Бона Сфорца намагалася прывязаць сына да сябе, дзеля гэтага ахвотна знаёміла яго з італьянскімі паненкамі. Кажуць, што яшчэ да жаніцьбы першае каханне Жыгімонт зведаў з Дыянай Кардонай, якая была хворая на «французскую хваробу» (сіфіліс), праз што, відаць, кароль застаўся бясплодным.

У 1548–1550 гадах ішла барацьба маткі Боны Сфорцы з сынам, каб не браў за жонку Барбару Радзівіл, якую ён моцна пакахаў. Барбара была ўдавой пасля смерці ваяводы навагародскага і трокскага Станіслава Гаштольда. 1539 год стаў пачаткам нягод 19-гадовай Барбары. Памерлі яе свёкар, пасля свякроў, затым бацька і праз два гады сумеснага жыцця памёр муж. Насуперак супраціўленню маці Жыгімонт таемна ў 1547 годзе (паміж 28 ліпеня і 6 жніўня) ажаніўся з Барбарай, якой было трыццаць гадоў. Мяркуюць, што Барбара была надта прыгожая і менавіта яе рысы ўвасоблены ў іконе Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні. Аднак, кажуць, Барбара была надта ахвочай да кахання, таму да шлюбу з Жыгімонтам у яе было каля сарака каханкаў. Гэткую пагалоску падтрымлівала і Бона Сфорца, якая не жадала дапусціць Радзівілаў да кароны.

У выніку такога шлюбу родны брат Барбары Мікалай Радзівіл Руды і стрыечны брат Мікалай Радзівіл Чорны атрымалі значны ўплыў на палітыку Княства. Бона Сфорца не хацела каранаваць яе і падбухторвала да гэтага ўладных асоб. Аднак заўпарціўся кароль, і ў 1550 годзе каранацыя адбылася.

8 мая 1551 года Барбара Радзівіл ад цяжкай хваробы памерла. Сведчаць, што была яна цяжарнай і магла даць каралю спадчынніка. Ходзяць показкі, што яе атруцілі па загадзе Боны Сфорцы. А прывід Чорнай дамы, як назвалі яе пасля смерці, дагэтуль з'яўляецца па начах у родавым гняздзе князёў Радзівілаў — Нясвіжскім замку (хоць Барбара не належала да нясвіжскай лініі Радзівілаў).

Жыгімонт моцна перажываў і, кажуць, нават каханак сваіх пазней падбіраў, зыходзячы з іхняга падабенства да Барбары. Трэці раз Жыгімонт ажаніўся з 18-гадовай эрцгерцагіняй Кацярынай Аўстрыйскай (1533–1572), сястрой сваёй першай жонкі. Яна таксама была ўдавой — праз чатыры месяцы пасля сумеснага жыцця яе муж памёр. Сама яна хварэла на эпілепсію. Таму кароль нават хацеў узяць з ёй развод. Кацярына памерла 28 лютага 1572 года. Кароль застаўся ўдаўцом, вёў вольнае жыццё.

Гэтыя падзеі, а таксама адна з польскіх легенд з часу Ягелонаў пэўным чынам паўплывалі на польскую пісьменніцу Элізу Ажэшку, якая жыла каля Гродна, а пасля і ў самім горадзе. У сваім рамане «Над Нёманам» яна прыводзіць легенду пра Яна і Цэцылію, якія здалёку прыйшлі на гарадзенскія землі і, моцна кахаўшы адно аднаго, шчасліва пражылі сваё жыццё, даўшы пачатак мясцовай хлебаробскай дынастыі. Іхняя смерць прыпадае на 1549 год. Гэта быў час самых цесных повязяў Жыгімонта Аўгуста з Вялікім Княствам Літоўскім. Ажэшка прыводзіць маладога польскага ўладара, які наладзіў ловы ў тутэйшых лясах, у тыя самыя мясціны, дзе жылі Ян і Цэцылія. Кароль, узрушаны іхнім жыццём і каханнем, надае іхнім нашчадкам шляхецкае званне і надзяляе прозвішчам Багатыровічы.

Сучаснікі лічылі Жыгімонта прыхільнікам палітыкі міру і згоды як на міжнародным узроўні, так і ўнутры дзяржавы. Гэта быў час моцнага эканамічнага развіцця.

Пры ім Вавель стаў адным з галоўных асяродкаў гуманізму ў Еўропе, а ў Княстве і Кароне пашырыліся ідэі Рэфармацыі. У 1561 годзе кароль атрымаў верхавенства над Інфлянтамі і вёў супраць іх сямігадовую вайну (1563–1570). Клапаціўся пра развіццё ваеннага флоту, у 1568 годзе арганізаваў Марскую камісію. Ягонае знаходжанне на каралеўскім пасадзе — гэта росквіт культуры і навукі, значнае развіццё гаспадаркі. У 1563 годзе выдаў прывілей, якім цалкам ураўнаваў палітычныя правы праваслаўнай шляхты Княства з каталіцкай. Зацвердзіў Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года. Пры двары караля працавалі літаратары Ян Каханоўскі, Лукаш Гурніцкі. У Вільні заклаў у 1546 годзе першую мастацкую галерэю. Пры ім пачалася Лівонская вайна, распаўся Лівонскі ордэн, які пацярпеў паразу ў вайне і ў 1562 годзе быў ліквідаваны, яго тэрыторыя ўвайшла ў склад ВКЛ, Даніі і Швецыі.

Пры ім у 1569 годзе заключана Люблінская унія, супраць чаго выступалі многія вялікалітоўскія магнаты, у тым ліку Радзівілы. Была абвешчана унія Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, на карце з'явілася новая дзяржава — Рэч Паспалітая абодвух народаў — *Rzeczpospolita Obojga Narodów*. Памёр бяздзетным удаўцом. На ім скончылася мужчынская лінія дынастыі Ягелонаў. Аднак ён даказаў у жыцці сваю моц і настойлівасць, кажуць, ягоным дэвізам было: «Упарты цярплівасцю бярэ»: сабе пашлюбіў Барбару, а Літву — Кароне.

У сваім тастаменце кароль польскі і вялікі князь літоўскі пісаў: «Гэтым нашым тастаментам абодвум гаспадарствам, Кароне Польскай і Вялікаму Княству Літоўскаму, даем і пераказваем і пакідаем міласць, згоду, еднасць, якія продкі нашыя на лаціне уніяй звалі... А каторы з тых двух народаў, гэтую унію ад нас з удзячнасцю прыняўшы, моцна трымацца яе будзе, таму бласлаўленне даем.... А каторы ж народ няўдзячным будзе і будзе шукаць дарог да раздва-

ення, няхай баіцца гневу Божага... Спрыяй, Божа, тым двум гаспадарствам усё тое сцвердзіць, што ў іх пры нас справіў. Спрыяй абодвум тым народам, у адзінства звязаным, у незвычайнай міласці вечна захоўвацца».

Памёр у Кнышыне, пахаваны ў капліцы Жыгімонта ў Вавельскай катэдры.

Пасля яго смерці бескаралеўства доўжылася больш за паўтара года. У гэты час цікавасць да Польшчы праяўлялі гаспадары суседніх краін. У тым ліку меў ахвоту заняць польскі каралеўскі пасад рускі цар Іван Грозны. Але ён трохі хітраваў і перад сабой, і перад іншымі, аднак жа паслаў да палякаў ганца Фёдара Мясаедава і наказаў: «...проведать ему того, которым обычаем то слово в Литве и Польше в людях носится, что хотят взять на великое  княжество и на Польшу царевича Ивана и почему то слово в люди пущено, обманкою ли, или в правду того хотят и все ли люди того хотят, и почему то слово делом не объявится, а в людях носится». А яшчэ ў 1570 годзе польска-вялікалітоўскія паслы прыехалі ў Маскву, каб абмеркаваць умовы перамір'я ў Лівонскай вайне. Яны і заявілі Івану Грознаму, што раз у іхняга караля няма дзяцей, то «ради Короны Польской и Великого Княжества Литовского желают избрать себе государя от славянского рода и склоняются к тебе, великому государю и твоему потомству». Іван аднёсся да гэтага з недаверам. Бо ў ВКЛ і сапраўды не хацелі бачыць рускага цара на польскім і вялікалітоўскім пасадзе. Адразу пасля смерці Жыгімонта Аўгуста маршалак надворны ВКЛ Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка пісаў свайму дзядзьку ваяводу віленскаму Мікалаю Радзівілу Рудому: «Божа барані, каб намі камандаваў маскоўскі каўпак, і таму напрамілы Бог раю вам своечасова прыняць меры супраць маскоўскага пасла». У выніку ўсіх перыпетый Іван Грозны так і не заняў польскі і вялікалітоўскі пасад.

Каралём польскім і вялікім князем літоўскім 21 лютага 1573 года стаў Генрык Валуа (Валезы), пазней, з 30 мая 1574 года апошні кароль Францыі з дынастыі Валуа. Гэта былі першыя выбары караля (у пасяленні Камень каля Варшавы), у якіх брала ўдзел толькі польская шляхта.

***Ганна Ягелонка*** (18.10.1523 — 9.9.1596) — дачка Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы, сястра Жыгімонта II Аўгуста. Каралева польская і вялікая княгіня літоўская ў 1575–1576 гадах. У перыяд бескаралеўства (кароль Жыгімонт II памёр у ліпені 1572 года) пачалася барацьба розных плыняў шляхты за карону. Сярод кандыдатаў на высокі пасад называлі нават цара маскоўскага Івана IV Грознага (Жахлівага). Аднак маскоўскае пасольства спазнілася з дакументамі, якія неабходна было прадставіць на сойме пад Варшавай, дзе на элекцыйным полі сабралася каля 20 тысяч шляхты.

Існуе меркаванне, што Ганну хацелі аддаць замуж за караля Францыі Генрыха III, разлічвалі, што такім чынам ён можа стаць уладаром Рэчы Паспалітай — пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста. Але калі 15 снежня 1575 года Ганна была абрана (выкрыкнута шляхтай) на польскі пасад, што не ўдалося нават яе амбітнай маці Боне Сфорцы, шляхта адразу ж дамагалася, каб Ганна пашлюбілася са Стэфанам Баторыем як каралём. 1 мая 1576 года адбыўся шлюб Ганны, якой было больш за 52 гады, і на 10 гадоў маладзейшага трансільванскага князя са старажытнага венгерскага роду Стэфана Баторыя, да якога перайшла каралеўская карона і вялікакняскае гаспадарства. Сваю рэзідэнцыю ён меў у Гародні, дзе з 1673 года стаў праводзіцца кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай. Значная частка магнатаў і нават епіскапаў выступала супраць абрання каралём Стэфана Баторыя, ім быў больш даспадобы Максіміль-ян II Габсбург — імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, кароль чэшскі і венгерскі.

Партовы горад Гданьск не прызнаў улады Стэфана Баторыя і нават выплаціў яму кампенсацыю, што дазволіла ўмацаваць польскае войска для ўдзелу ў Лівонскай вайне.

Сямейнага шчасця Ганна не мела, муж не кахаў яе, бо не вызначалася асаблівай прыгажосцю, ажаніўся толькі дзеля таго, каб завалодаць тронам. Дзяцей у іх не было. Калі 12 снежня 1586 года Ганна аўдавела, у 1587 годзе падтрымала абранне на трон свайго пляменніка Жыгімонта III Вазы.

Была дужа набожная, амбітная, падтрымлівала мастакоў і навукоўцаў. Памерла, маючы 73 гады, пахавана ў Вавельскай катэдры.

***Фрыдэрык Ягелончык*** (27.4.1468 — 14.3.1503) — малодшы сын Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, біскуп Кракаўскі (1488), арцыбіскуп Гнезненскі (1493), кардынал (1495). Гэта быў адзіны ў польскай сярэдневяковай гісторыі выпадак, калі прадстаўнік пануючай дынастыі займаў аднačасова тры высокія царкоўныя пасады. Пасля смерці бацькі дапамог узысці на каралеўскі пасад старэйшаму брату Яну Ольбрахту, які, у сваю чаргу, паспрыяў Фрыдэрыку стаць арцыбіскупам Гнезненскім і кардыналам. Моцна клапаціўся пра дынастычныя інтарэсы, касцельным скарбам падтрымліваў дзяржаўныя справы. Пасля смерці Яна Ольбрахта прыкладаў намаганні для абрання на каралеўскі пасад свайго брата Аляксандра. Быў інтэлігентны і добра адукаваны, захапляўся мастацтвам, меў аўтарытэт не толькі ў вернікаў. З'яўляўся канцлерам Кракаўскага ўніверсітэта. Пахаваны ў Вавельскай катэдры.





## ПЕРСАНІФІКАВАНЫ ЯГАЙЛАЎ ЧАС

***Алелькавічы (Алелькі, Слуцкія)*** — праваслаўны княскі род герба Пагоня, адгалінаванне Гедымінавічаў. У XV–XVI стагоддзях займалі высокае становішча ў дзяржаўным і палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Заснавальнік роду Аляксандр (Алелька, ? — пасля 1.2.1455) — сын кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, унук вялікага князя літоўскага Альгерда, праўнук Гедыміна. У 1443–1454 гадах князь кіеўскі. У 1417 годзе ажаніўся з Настассяй — дачкой вялікага князя маскоўскага Васіля I Дзмітравіча і Соф'і Вітаўтаўны, унучкай вялікага князя літоўскага Вітаўта.

Калі ў 1430 годзе памёр вялікі князь літоўскі Вітаўт Вялікі, сярод тых, каго хацелі бачыць яго пераемнікам, называлі Алельку Уладзіміравіча Слуцкага. Яго ведалі не толькі як дбайнага гаспадара сваёй зямлі, але і як таленавітага военачальніка, удумлівага дыпламата. Разам са сваім палком і братамі Іванам і Андрэем ён браў удзел у бітве народаў на Грунвальдскім полі. У ліку іншых пераможцаў браты Слуцкія падпісалі мірны Мельнскі дагавор з Тэўтонскім ордэнам, у выніку чаго крыжакі змушаны былі назаўсёды спыніць набегі на нашы землі. Але вялікім князем літоўскім ён не стаў. Памёр у Кіеве, пахаваны ў Кіева-Пячэрскай Лаўры.

Старэйшы сын Алелькі Сямён (1420 — 3.12.1470) выхоўваўся ў двары сваёй бабулі вялікай княгіні Соф'і

Вітаўтаўны ў Маскве. Пасля атрымаў у валоданне Кіеў. У якасці ганаровага госця Кракава ўдзельнічаў у каранацыі караля польскага Казіміра — сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. Калі польскі кароль і вялікі князь літоўскі Казімір IV адмовіўся прызнаць Кіеўскае княства спадчынным для Алелькавічаў, знаходзіўся ў апазіцыі да вялікага князя. У 1454 і 1456 гадах з падтрымкі некаторых прадстаўнікоў знаці меў жаданне стаць гаспадаром у Княстве, нават шукаў падтрымкі ў Маскве. Памёр у Кіеве. Але да гэтага адбудаваў Успенскую царкву ў Кіева-Пячэрскай Лаўры, там і пахаваны.

Малодшы сын Алелькі Міхаіл (1425 — 30.8.1481) быў князем слуцкім і капыльскім. У 1470–1471 гадах з'яўляўся намеснікам вялікага князя літоўскага Казіміра IV у Вялікім Ноўгарадзе. Але амбіцыі князя былі большымі. Яму карцела заняць вялікалітоўскі пасад. Разам з Іванам Гальшанскім і Фёдарам Бельскім ён арганізаваў змову супраць караля і вялікага князя літоўскага Казіміра IV Ягелончыка. Змоўшчыкі дабіваліся абароны праваслаўнай царквы, незалежнасці Кіева і некаторых іншых украінскіх і беларускіх зямель. Замах на жыццё Казіміра меркавалі здзейсніць 15 красавіка 1481 года падчас шлюбу Фёдара Бельскага з князёўнай Ганнай Кобрынскай. У Кобрынскі замак павінен быў прыехаць Казімір. Вядома, што ён вельмі любіў паляванне. Таму былі распрацаваны два варыянты забойства: у лесе альбо ў замку. Аднак змову выкрылі. Міхаіла Слуцкага і Івана Гальшанскага схапілі. Фёдар Бельскі ўцёк у Маскву. Алелькавіча і Гальшанскага пакаралі смерцю — перад усім людам Вільні ім адсеклі галовы проста на плошчы горада.

Сын Міхаіла Аляксандравіча, унук Алелькі, Сямён Міхайлавіч (каля 1460 — 14.11.1505) не раз абараняў родны горад ад татарскіх набегаў. Летам 1502 года на чале вялікалітоўскага войска ён разбіў татараў на рацэ Уша. У жніўні гэтага ж года хан Баты-Гірэй са сваім шасцітысячным войскам зноў напаў на Слуцкае княства, захапіў пасады горада.

Але замак не паддаўся. Там схаваліся ад ворага ўсе ацалелыя жыхары. Са злосці татары абрабавалі не толькі Слуцк, яны спалілі Капыль, Койданава, Нясвіж, Клецк. Наступным летам зноў кінуліся помсціць беларускім землям. Не маглі абмінуць і непакорлівы Слуцк, хацелі змыць сваю ранейшую ганьбу.

Сведчаць, што князя ў гэты час у горадзе не было. Абарону ўзначаліла ягоная жонка Настасся (каля 1470 — пасля 1524), дачка князя Івана Юр'евіча Мсціслаўскага. Яна апранула ваенныя даспехі, асядлала баявога каня. Вывела вояў на поле і адагнала ворага ад горада. А калі прыехаў муж, яны дагналі татараў каля Давыд-Гарадка і добра правучылі ахвотнікаў кваціцца на чужое. Нават пасля смерці мужа Настасся працягвала мужна змагацца з захопнікамі. З гісторыі вядома, што ў 1508 годзе дворны маршалак Вялікага Княства Літоўскага Міхаіл Глінскі, які два гады перад гэтым атрымаў бліскучую перамогу над татарамі каля Клецка, разам з братамі ўзначаліў мяцеж вялікалітоўскіх феадалаў супраць караля польскага Жыгімонта І Старога. Са сваімі вершнікамі Глінскі вырушыў на Гродна. Па дарозе збочыў у Слуцк. Спадабалася яму ўдовая княгіня. Вырашыў пасватацца. Аднак Настасся адмовіла. Сваю злосць Глінскі вырашыў вымесціць на жыхарах Слуцка. Пачаў паліць горад. Аднак не паддаўся яму замак. Адстаяла яго Настасся. Некаторыя гісторыкі, праўда, даказваюць, што Глінскі сам не хадзіў паходам на Слуцк. Не скарыўся Слуцк і татарам, якія апошні раз спрабавалі захапіць яго ў 1521 годзе. Настасся аказалася не толькі вопытным ваярам, але і мужнай жанчынай, сапраўднай Жаннай д'Арк. У 1522 годзе яна аддала дачку Аляксандру за гетмана Канстанціна Астрожскага, парадавалася іхняму шчасцю і неўзабаве (апошнія зямныя дзеі яе невядомыя) адышла з жыцця.

Сын Сямёна Міхайлавіча Юрый Сямёнавіч (1492 — 17.4.1542) быў членам Рады Вялікага Княства Літоўскага, браў удзел у абароне Слуцка ад войска князя Міхаіла

Глінскага (1508), у разгроме татарскага набегу на Княства ў 1511 годзе, у Аршанскай бітве 1514 года і шмат якіх іншых бітвах. Жанаты з Аленай, дачкой канцлера Вялікага Княства Літоўскага А. Гаштольда. З'яўляўся адным з апекуноў Кіева-Пячэрскай Лаўры.

Старэйшы сын Юрыя Сямёнавіча Юрый Юр'евіч (1531 — 9.11.1578), князь слуцкі, член Рады ВКЛ, удзельнічаў у Лівонскай (Інфлянцкай) вайне. Пасля Люблінскай уніі 1569 года, якую ён прызнаў, пазбаўлены права быць членам Рады Княства, да гэтага слуцкія князі заўсёды валодалі гэтым правам. Жанаты з дачкой кракаўскага ваяводы Станіслава Тэньчынскага Кацярынай. Быў багатым чалавекам, даваў грашовыя пазыкі вялікаму князю літоўскаму. Пры двары князя была бібліятэка, кнігамі якой карыстаўся вядомы польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі пры напісанні гісторыі ВКЛ. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай Лаўры.

Апошні з роду Алелькавічаў — старэйшы сын Юрыя Юр'евіча Юрый (17.8.1559 — 6.5.1586), князь слуцкі. Дарэчы, ён уласнаручна перапісаў у 1585 годзе для Слуцкага Свята-Троіцкага манастыра Евангелле, якое было выяўлена толькі на самым пачатку XXI стагоддзя. Быў пашлюблены з Барбарай — дачкой падляшскага ваяводы Я. Кішкі. Іхняя дачка Соф'я Слуцкая (1.5.1585 — 9(19).3.1612) была апошняй з княскага роду Алелькавічаў. Яна стала беларускай святой. Праз год пасля нараджэння засталася поўнай сіратой. У 15-гадовым узросце выйшла замуж за Януша Радзівіла. Муж вызнаваў кальвінізм, аднак Соф'я і пасля шлюбу не здрадзіла праваслаўю, як і само Слуцкае княства. Актыўна падтрымлівала манастыры, цэрквы, апекавалася вернікамі, дапамагала ім. Перад смерцю свае ўладанні пераказала мужу. Так Радзівілы сталі гаспадарамі Слуцкага княства. Мошчы Соф'і захоўваюцца ў Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску, яна ўваходзіць у Сабор беларускіх святых. Дзень памяці Сафіі Слуцкай адзначаецца 19 сакавіка.

***Альгерд*** (1296 — май 1377) — трэці сын вялікага князя літоўскага Гедыміна ў другім шлюбе з княжной Вольгай, бацька Ягайлы, князь крэўскі (княства атрымаў ад бацькі) і віцебскі, заснавальнік велікакняскай дынастыі Альгердавічаў. Вялікі князь літоўскі ў 1345–1377 гадах. Існуе меркаванне, што Альгерд і Кейстут гаспадарылі ў Княстве сумесна, Кейстут — на заходніх літоўскіх і беларускіх землях: Жамойць, Трокі, Гарадзенская і Берасцейская землі. У 1342 годзе дапамог Пскову адбіць аблогу нямецкіх рыцараў. Гэта выклікала перапалох у стане крыжакоў, што прывяло да аб'явы Тэўтонскім ордэнам крыжовага паходу на Княства. У 1370 годзе разам з Кейстутам атрымаў перамогу над Тэўтонскім ордэнам пры Рудаве ля Круляўца (Калінінград). Трохі раней, у 1362 годзе, разбіў татараў на р. Сінія Воды. Вёў барацьбу з польскім каралём Казімірам III за Галіцкую і Валынскую землі. У 1377 годзе адваяваў Валынь. Пры ім тэрыторыя Княства павялічылася ўдвая, а беларускія землі занялі ў ім цэнтральнае месца.

Многія расійскія даследчыкі лічаць, што пасля перамогі над татарамі Альгерд набыў значны аўтарытэт як змагар супраць Залатой Арды і стаў сур'ёзным прэтэндэнтам на лідэрства ў ажыццяўленні ідэі агульнарускага адзінства, аб'яднання рускіх зямель вакол Вялікага Княства Літоўскага. Некаторыя нават аналізуюць «агульнарускую праграму» Альгерда ў гэтым аб'яднальніцкім накірунку. У 1368, 1370 і 1372 гадах узначальваў няўдалыя паходы на Маскву.

За час свайго кіравання Альгерд далучыў да Княства Бранскую, Северскую, Кіеўскую, Валынскую, Чарнігаўскую і Падольскую землі. Усе гэтыя, як і іншыя тэрыторыі, большасцю далучаліся да Княства ў выніку мірных перамоў. Гэта сталася таму, што вялікалітоўскія князі кіраваліся прынцыпам: «Старыны не рушыць, навіны не ўводзіць».

Ад двух жонак: дачкі апошняга віцебскага князя з роду Рурыкавічаў Яраслава Васількавіча Марыі (шлюб адбыўся

ў 1318) і Улляны — дачкі вялікага князя цвярскога Аляксандра і сястры вялікага князя цвярскога Міхаіла Аляксандравіча (шлюб у 1350) — меў 12 сыноў і 9 дачок. Марыіны дзеці: Вігунд Андрэй (1325–1399) — князь полацкі, а пазней цвярскі; Дзмітрый (? — 1399) — князь бранскі, друцкі, трубчэўскі, старадубскі; Канстанцін (? — 1393) — князь чарнігаўскі; Уладзімір (? — 12.10.1398) — князь кіеўскі з 1362 года, аднавіў з руін Сафійскі сабор, з 1393 года — князь капыльска-слуцкі, ягоны сын Алелька стаў родапачынальнікам слуцкіх князёў Алелькавічаў, якія княжылі ў Кіеве больш як 100 гадоў; Фёдар (? — 1400) — князь ратненскі, тры дачкі: Тэадора — выйшла замуж за князя карачэўскага і звенігародскага Святаслава Цітавіча; Агрыпіна Марыя (1354–1393) — выйшла замуж за суздальска-гарадзецкага князя Барыса; імя трэцяй невядома. Дзеці Улляны: Ягайла Уладзіслаў (1351, 1352? — 1434, вялікі князь літоўскі і кароль польскі); Скіргайла Іван (? — 1397) — князь трокскі, полацкі; Дзмітрый Карыбут (? — 1404) — князь новагародскі і северскі; Лінгвен Сямён (? — 1431) — князь мсціслаўскі, намеснік у Вялікім Ноўгарадзе; Карыгайла Казімір (? — 1390) — намеснік у Мсціславе; Вігунд Аляксандр (? — 1392) — князь кернаўскі; Свідрыгайла Баляслаў (? — 1452) — князь падольскі, князь чарнігаўскі, наўгародска-северскі і бранскі, вялікі князь літоўскі ў 1430–1432 гадах, князь валынскі; дочкі: Кенна Іаанна (1350–1368) выйшла замуж за паморскага князя Казіміра; Гелена (? — 1438) выйшла замуж за князя ў Бароўску і Серпухаве; Марыя была замужам двойчы: за старастам лідскім Вайдылам і князем гарадзецкім Давідам Дзмітравічам; Вілгейда Кацярына (? — 1422) выйшла замуж за князя мекленбургскага Яна II; Аляксандра (? — 1434) выйшла замуж за князя мазавецкага Земавіта; Ядвіга выйшла замуж за князя асвяцімскага Яна II.

Вялікімі князямі былі Ягайла і Свідрыгайла. Сыны захоўвалі праваслаўе, таму мелі і імя па бацьку — Альгерда-

вічы. У 1386 годзе (пасля Крэўскай уніі) разам з Ягайлам некаторыя прынялі каталіцтва. Ёсць меркаванне, што Альгерд, які прадчуваў свой зыход, запрасіў святара замкавай царквы і ахрысціўся па ўсходнім абрадзе. Акрамя таго, са згоды жонкі Ульяны цела яго было спалена на кастры ў Мейшаголе ля Вільні, а попел пахаваны ў царкве.

***Альдона (Ганна)*** (1309 — 25.5.1339) — дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна, якая 16 кастрычніка 1325 года стала жонкай 16-гадовага каралевіча Казіміра — сына польскага караля Уладзіслава Лакеткі, у 1333 годзе Казімір стаў каралём польскім, названым пазней Вялікім. Калі ахрысцілася па лацінскім абрадзе, ёй далі імя Анна, хоць многія называлі Ганнай. Шлюб, які з'яўляўся першым дынастычным шлюбаваннем высокіх асоб Княства і Кароны, меў на ўвазе ўзмацніць польска-вялікалітоўскія сувязі, стрымаць паходы вялікалітоўскіх вояў на польскія землі. Падчас шлюбавання з Княства было адпушчана больш за 20 тысяч палонных палякаў.

Пасля 1326 года ў Альдоны і Казіміра нарадзілася дачка Эльжбета, 25 мая 1335 года — дачка Кунагунда. Сыноў жа, каб перадаць па спадчыне каралеўскую карону, не было. 25 мая 1339 года Альдона памерла. Яе пахавалі ў Кракаўскай катэдры, гэта было першае пахаванне каралевы ў Вавельскім кафедральным касцёле.

***Аляксандра (Вольга)*** (? — 19.6.1434) — дачка Альгерда, унучка Гедыміна, любімая сястра Ягайлы, жонка Земавіта IV з 1387 года — аднаго з мазавецкіх князёў, які быў прэтэндэнтам на польскі пасад, яго падтрымлівалі вялікапаляне. Аддаўшы сястру за жонку Земавіту, Ягайла нейтралізаваў яго ў змаганні за карону. Аляксандра ўгаварыла Ягайлу на жаніцьбу з Эльжбетай Пілецкай-Граноўскай, якая была яе сяброўкай. Яна спрабавала разам з Эльжбетай наладзіць нармальныя адносіны крыжакоў з Каронай, перапісвалася з вялікім магістрам, нават напярэдадні Ґрун-

вальдскай бітвы напісала яму. А сваіх дачок аддала замуж за нямецкіх князёў, якім спрыялі крыжакі.

***Алясьніцкі Збігнеў*** (Збышак, 5.12.1389, в. Сянно — 1.4.1455) — сын земскага кракаўскага суддзі Яські з Алясьніцы (? — 1413). Польскі палітык, дзяржаўны і рэлігійны дзеяч, хоць не меў высокай адукацыі. Пасля Грунвальдскай бітвы, падчас якой засланіў сабой Ягайлу і забіў нямецкга рыцара Дыпольда фон Кікерыца пры нападзе на караля, увайшоў у таемную каралеўскую раду — каралеўскі сакратар (з 1411). У 1412 стаў святаром. З 9 ліпеня 1423 года — Кракаўскі біскуп, што давала яму права лічыцца галоўнай пасля караля фігурай у Кароне, са снежня 1439-га — першы польскі кардынал, які стаў на пасадзе, не прайшоўшы праз усе неабходныя кар'ерныя прыступкі. Пасля смерці Ягайлы ў 1434 годзе стаў рэгентам пры малалетнім Уладзіславе, а пасля яго смерці ў 1444 годзе фактычна кіраваў Каралеўствам Польскім — да выбараў каралём у 1447 годзе Казіміра Ягелончыка. Сакратаром Алясьніцкага працяглы час быў Ян Длугаш. У 1434 годзе праводзіў каранацыю Ягайлавага сына Уладзіслава, падтрымліваў ягоныя памкненні на венгерскі пасад і на вайну супраць туркаў.

Намагаўся падпарадкаваць каралеўскую ўладу каталіцкай царкве. Выступаў супраць падтрымкі Ягайлам гусітаў. У 1437 годзе сарваў магчымую унію Польшчы з гусіцкай Чэхіяй. Пасля знікнення пад Варнай Уладзіслава выступаў з падтрымкай яго малодшага брата Казіміра. Аднак калі той заняў у 1447 годзе каралеўскі пасад, то намагаўся аслабіць уплыў Алясьніцкага на палітыку Кароны і на караля. У 1449 годзе адбываліся асабліва вострыя спрэчкі паміж Казімірам і кардыналам. Справа ішла пра першынство ў Кароннай Радзе Алясьніцкага альбо Гнезненскага прымаса-арцыбіскупа Уладзіслава Апароўскага.

Алясьніцкі ўзначальваў малапольскую апазіцыю (сандамірскі ваявода і ягоны брат Ян Галавач Алясьніцкі,

кракаўскі ваявода Ян Тэньчынскі і інш.) супраць караля Казіміра Ягелончыка, ігнараваў нават удзел у Кароннай Радзе і з'ездах. Галоўныя разыходжанні датычылі месца Княства ў саюзе з Каронай. Прыхільнікі Алясьніцкага дамагаліся інкарпарацыі ВКЛ у польскую дзяржаву. Гэтаму супраціўляўся, хоць і не надта актыўна, Ягайла, а пасля і Казімір. З-за гэтага Алясьніцкі і ягоныя прыхільнікі сарвалі каранацыю Вітаўта на караля Вялікага Княства Літоўскага. Калі 1 кастрычніка 1436 года памёр прымас Войцах Ястшэмбец, праціўнікі Алясьніцкага, у тым ліку і каралева Соф'я, прапанавалі яму заняць гэтую пасаду, каб такім чынам адаслаць далей ад Кракава і ад улады. Алясьніцкі адмовіўся.

Акрамя вялікай прыхільнасці да касцёла Збігнеў не грэбаваў і свецкімі справамі, спрыяў развіццю Кракаўскага ўніверсітэта, з яго старання будаваліся мураваныя замкі і касцёлы, палацы, шпіталі і бурсы. У 1443 годзе выкупіў Сіверскае княства, што надало Кракаўскім біскупам тытул князёў. Апекаваўся культурай, падтрымліваў Яна Длугаша, дапамагаў яму дакументамі і матэрыяламі для выдання гістарычных «Штогоднікаў». Таму погляд Алясьніцкага на Грунвальдскую бітву, якой Длугаш прысвяціў асобную кнігу, найбольш прысутнічае ў працах гісторыка.

У 1424–1454 гадах збудаваў за вялікую на той час суму — 20 тысяч грыўнаў — родавую рэзідэнцыю ў Пінчове. Гэты замак быў больш магутны, чым у іншых дзяржаўных асоб, і яскрава сведчыў пра далучанасць Алясьніцкага да самай высокай у Кароне ўлады. Сам сабе загадзя справіў надмагілле з бронзы, якое не захавалася. Памёр 1 красавіка 1455 года ў Сандаміры. Пахаваны ў Кракаўскай катэдры.

***Алясьніцкія*** — Дабяслаў з Алясьніцы (? — 1440) — войніцкі кашталян, ваявода сандамірскі, дзядзька Кракаўскага біскупа Збігнева; Ян з Алясьніцы (? — 1460), за вялікі розум празваны Галавачом, брат Збігнева, маршалак каронны ў 1431–1440 гадах, стараста кракаўскі, кашталян і ваявода

сандамірскі; Ян Лашка з Канецполя — каронны канцлер і швагер Збігнева, пазней стаў паслом на Базельскім саборы. Яны знаходзіліся ў пэўнай апазіцыі да караля і падтрымлівалі Збігнева Алясьніцкага ў ягоным супрацьстаянні Ягайлу. Алясьніцкі Завіша з Рушкова (? — каля 1433) — шляхціц каралевы Ядвігі ў 1386–1397 гадах, ваявода любельскі, стараста бецкі, брат Яські.

***Андрэй*** (1325–1399) — сын Альгерда ад першага шлюбу з дачкой апошняга віцебскага князя з роду Рурыкавічаў Яраслава Васількавіча Марыяй, з 1342 года — князь полацкі, затым пскоўскі, пасля Крэўскай уніі 1385 года пачаў бунтаваць супраць Ягайлы.

***Астрожскія*** — знакаміты магнацкі княскі род герба Астрога. Буйныя землеўладальнікі Беларусі і Украіны, паходзілі з пінскіх і тураўскіх князёў. Згодна з некаторымі сведчаннямі, радавод Астрожскіх бярэ свой пачатак ад унука Яраслава Мудрага — князя полацкага, тураўскага, вялікага князя кіеўскага Святаполка Ізяславіча. Іншыя гісторыкі лічаць, што родапачынальнікам з'яўляецца князь Даніла, які браў удзел у 1341 годзе ў паўстанні супраць караля польскага Казіміра. Род згас у 1620 годзе, калі памёр сын Канстанціна Васіля Януш, які быў ваяводам валынскім, кашталянам кракаўскім. Пры жыцці Януш правёў праз польскі сойм рашэнне аб утварэнні астрожскай ардынацыі. Так называлася непадзельная ўласнасць роду, у якую ўваходзілі зямля, лясы, гарады, мястэчкі, вёскі, мануфактуры, а права на спадчыну вызначалася спецыяльным статутам — ардынацыяй. Пасля смерці Януша ардынацыя перайшла да яго зяця князя Аляксандра Заслаўскага.

Сярод асветнікаў, дзяржаўных і палітычных дзеячаў найбольш вядомы Канстанцін Іванавіч Астрожскі (каля 1460 — 15.8.1530) — найвышэйшы гетман літоўскі ў 1497–1500 гадах і з 1507 года, пасаду атрымаў за свае ваенныя перамогі, кашталян віленскі ў 1511–1522 гадах, ваявода трокскі з 1522 года

(дзве апошнія пасады займаў насуперак існаваўшаму тады правілу, згодна з якім на высокія пасады прызначаліся толькі католікі, быў першым праваслаўным сярод ваявод — за свае высокія заслугі, меў падтрымку караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога), староста луцкі, брацлаўскі, вінніцкі і звенігародскі, маршалак Валынскай зямлі, член Рады ВКЛ. Буйнейшы землеўласнік у Княстве. Быў сынам Івана Васільевіча Астрожскага, празванага Красным. А праз сваіх жонак парадніўся яшчэ з двума знакамітымі родамі. Першай жонкай была княгіня Таццяна Гальшанская, за другую жонку меў дачку князя Сямёна Міхайлавіча з роду Алелькавічаў-Слуцкіх Аляксандру. Актыўна абараняў праваслаўе, пабудаваў шмат цэркваў, у тым ліку дзве ў Вільні.

Праславіўся Канстанцін Іванавіч найперш сваімі ратнымі подзвігамі. Па колькасці коней, якія мог выставіць у выпадку вайны, ён быў на пятым месцы пасля Кезгайлаў, Радзівілаў, Альбрэхта Гаштольда і Юрыя Алелькавіча. У канцы XV — пачатку XVI стагоддзя яму не было роўных у бітвах з ворагамі Вялікага Княства Літоўскага. Лічыцца, што князь атрымаў 64 перамогі, увайшоў у гісторыю як выдатны і непераможны палкаводзец, таленавіты стратэг. У 1511 годзе на брэсцкім сойме яму далі неабмежаваную ўладу на час ваенных дзеянняў. Нават два паражэнні, якія зведаў за жыццё, не зменшылі ягонай славы і вядомасці. У Еўропе яго называлі Ромулам, мясцовым Сцыпіёнам, другім Ганібалам...

Але не толькі сам князь стаў шанаванай постаццю вялікалітоўскай зямлі. Яго сын Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч (каля 1524 — 23.2.1608) — ваенны і дзяржаўны дзеяч, не менш праславіўся ў галіне культуры. Выхоўваўся ў Тураве, якім Астрожскія валодалі з 1508 года. Стаў адным з найбагацейшых магнатаў Княства, яму належалі 25 гарадоў, 10 мястэчак, 670 вёсак, з якіх штогод атрымліваў больш за адзін мільён злотых прыбытку. Багацці, аднак, траціў з розумам. У падараваным роду каралём польскім і вялікім

князем літоўскім Ягайлам валынскім мястэчку Астрог, што над ракой Гарынь, заснаваў першую на Украіне школу вышэйшага ўзроўню. Гэта была Астрожская славяна-грэка-лацінская акадэмія, дзе вучыліся і праваслаўныя духоўнікі. Тут выкладалі грэчаскую і лацінскую мовы, вольныя навукі: граматыку, рыторыку, логіку, арыфметыку, музыку, астраномію і інш. Акрамя таго, навучэнцы грунтоўна вывучалі музыку і харавыя спевы. Вось чаму ў свой час на беларускіх і ўкраінскіх землях шырокае распаўсюджанне набыў так званы астрожскі напеў.

На свае сродкі Канстанцін Канстанцінавіч каля 1578 года стварыў пры Астрожскай акадэміі друкарню. Тут Іван Фёдараў, працягваючы традыцыі беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны, надрукаваў шмат выданняў, якія дагэтуль захоўваюцца як найкаштоўнейшыя рарытэты ў еўрапейскіх бібліятэках. Найбольш вядомая з іх першая кірылічным шрыфтам надрукаваная Фёдаравым поўная Біблія, якая ўвайшла ў гісторыю як Астрожская. Цяпер на месцы Астрожскай друкарні стаіць стэла ў выглядзе разгорнутай кнігі, дзе сярод вядомых асветнікаў значыцца і прозвішча Андрэя Рымшы — беларускага паэта, заснавальніка жанру панегірычнай паэзіі, які выдаў тут на беларускай мове паэтычны твор «Храналогія» — першы друкаваны каляндар, дзе назвы месяцаў пададзены на латыні, яўрэйскай і беларускай мовах.

Напачатку Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч выступаў супраць Люблінскай уніі, прыхільна ставіўся да заключэння антытурэцкай лігі, быў супраць Лжэдзмітрыя I, не прыняў рашэння Берасцейскай уніі 1596 года, а ў Рэчы Паспалітай яго лічылі галоўным апекуном праваслаўнай царквы — падтрымліваў праваслаўныя брацтвы, заснаваў школы ў Тураве і Слуцку. Канстанцін Канстанцінавіч меў цесныя сувязі з рускім князем Андрэем Курбскім, які ўцёк з Масквы ад цара Івана Грознага і жыў у падараваным яму Крэўскім замку.

Другі сын Канстанціна Іванавіча Астрожскага і Таццяны Гальшанскай Ілля пашлюбіўся з Беатай — прыёмнай дачкой кароннага падскарбія князя Андрэя Касцялецкага і Кацярыны Тэльнічанкі. На самай жа справе яна была пазашлюбнай дачкой караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога з роду Ягелонаў-Ягайлавічаў і Кацярыны Тэльнічанкі. Аднак нядоўгім аказалася сямейнае жыццё. Менш як праз год Ілля памёр. У Беаты, да якой перайшоў Астрог, нарадзілася дачка Эльжбета Астрожская, якая мела ў жыцці шмат прыгод і непамыснасцей, за што была празваная Чорнай княгіняй (гл. падрабязней у артыкуле пра Жыгімонта I Старога).

Апошнім з роду па мужчынскай лініі быў Януш Канстанцін (1554 — 12.09.1620), сын Канстанціна (Васіля) Канстанцінавіча. Ён займаў пасады ваяводы валынскага ў 1584–1593 гадах, кашталяна кракаўскага з 1593 года, шмат якія іншыя пасады на землях Княства і Польшчы.

***Барбара Радзівіл*** (6.12.1520 — 8.5.1551) — другая жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, каралева польская і вялікая княгіня літоўская. Дачка віленскага кашталяна і вялікага гетмана літоўскага Юрыя Радзівіла. Да гэтага Барбара была жонкай ваяводы навагародскага і трокскага, члена Рады ВКЛ Станіслава Гаштольда. Калі ён памёр, пачалося моцнае каханне караля польскага Жыгімонта II Аўгуста і Барбары. Маці Жыгімонта Бона Сфорца была супраць гэтага, як і многія магнаты польскія. У 1547 годзе ў Вільні таемна прайшло вянчанне Жыгімонта і Барбары. Нягледзячы на тое, што сейм у Пётркове ў 1548 годзе выказаўся за скасаванне шлюбу, кароль быў настроены рашуча. 7 снежня 1550 года Барбара была каранавана на каралеву польскую. Аднак неўзабаве пасля працяглай і цяжкай хваробы памерла ў Вавелі, пахавана ў кафедральным касцёле ў Вільні. Існуюць версіі аб яе атручэнні, у тым ліку Бонай Сфорцай.

Гэткія абставіны спарадзілі шмат міфаў і легенд аб жыцці і каханні Барбары і Жыгімонта, існуе цэлая народная польская міфалогія на гэты конт. Легенды датычаць двух напрамкаў: светлага — рамантычнага кахання і чорнага — многія ўбачылі ў постаці Барбары прычыну заняпаду магутнага Ягелонскага дома. Створана шмат мастацкіх і літаратурных твораў аб гэтым незвычайным каханні. Пачатак паклала драма польскага аўтара Алаіза Фелінскага «Барбара Радзівіл» (1811).

***Бона Марыя Сфорца*** (2.2.1494 — 19.11.1557) — другая жонка (1518) караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога, маці Жыгімонта II Аўгуста, каралева польская і вялікая княгіня літоўская. Італьянка па паходжанні. З вядомай дынастыі міланскіх герцагаў Сфорца, родапачынальнік якой атрымаў гэтае прозвішча з-за сваёй неверагоднай сілы. Яе бацька — міланскі герцаг Джавані Галеаца Сфорца, памёр у 1494 годзе, Бону выхоўвала маці Ізабэла Арагонская, дачка неапалітанскага караля. У яе двары ў княстве Бары працавалі многія гуманісты, якія былі звязаны з Неапалітанскай акадэміяй. Двор быў узорна загаспадараваны, тут гадавалі добрых коней і разводзілі сокалаў. Маці шмат увагі надавала адукацыі дачкі. Бона добра ведала італьянскую гісторыю, тэалогію, геаграфію, матэматыку. Умела ездзіць конна, магла іграць на многіх музычных інструментах, вучылася танцам і спевам. Ведала на памяць творы Вергілія, Цыцэрона, Петраркі.

Калі аўдавеў кароль польскі Жыгімонт I Стары, у яго засталіся дзве малалетнія дачкі. Пачаліся пошукі другой жонкі для караля. Радзівілы прапаноўвалі яму ўдовую мазавецкую княгіню Ганну з роду Радзівілаў або яе дачку. А Жыгімонтаў брат Уладзіслаў раіў узяць унучку імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Элеанору Кастыльскую ці Бону Сфорцу. У выніку розных перыпетый лёс выпаў Боне. У 1516 годзе большасць сенатараў ВКЛ на сейме ў Вільні выказалася

за Бону. Жыгімонт сустракаў яе каля Кракава ў 1518 годзе. Больш за 10 тысяч прадстаўнікоў шляхты вітала Бону, у тым ліку маршалак двара вялікага князя літоўскага Юрый Іллініч, той самы, што збудаваў пасля Мірскі замак. А пры ўездзе на тэрыторыю Рэчы Паспалітай яе суправаджалі больш за 300 італьянцаў.

Бона выйшла за караля польскага, калі яму было 50 гадоў, ёй — 23, атрымала ў асабістае валоданне шматлікія маёнткі, гарады, вёскі, у тым ліку на беларускіх землях. Ёй належалі, напрыклад, Пінск, Кобрын, Клецк, Рагачоў, Гарадзея і інш. Актыўна займалася эканамічным развіццём, сама ўнікала ва ўсе больш-менш значныя справы. Прыхільна ставілася да развіцця фальваркаў, аграрнай рэформы, асабліва пасля прыняцця «Уставы на валокі». Атрымлівала велізарныя даходы. Больш за 30 гадоў займалася каралева гаспадарчым уладкаваннем беларускіх зямель. Прага актыўнай дзейнасці спрыяла таму, што Бона Сфорца будавала замкі, касцёлы, школы, новыя паселішчы, садзіла сады. Гэтая моцнага характару жанчына была першай, хто дайшоў да неабходнасці асушэння пінскіх балот. Ажно да нашых дзён захаваўся пракапаны па яе загадзе канал ля Кобрына, які ўпадае ў Дняпроўска-Бугскі канал.

Вабіла каралеву і палітыка. Яна дасканала ведала заходнееўрапейскія адносіны, сталася нястомнай праціўніцай Габсбургаў. З яе прыходам у Вавелі на італьянскі манер змяніліся закладзеныя Соф'яй Гальшанскай традыцыі візантыйска-рускай культуры.

Пра Сфорцу створана нямала легенд, адна з якіх абвінавачвае каралеву ў атручэнні сваіх ворагаў альбо нязгоднікаў. Найбольш вядомы выпадак з Барбарай Радзівіл — жонкай Жыгімонта II Аўгуста, сына яе і Жыгімонта I Старога. Але, кажуць, былі і іншыя. Калі ў 1522–1526 гадах пачаргова памерлі гаспадары Мазовіі, княгіня Ганна Радзівіл і яе сыны Станіслаў і Януш, у гэтым убачылі нейкі таемны сэнс. Бо

акурат у гэты час Бона Сфорца актыўна займалася ўмацаваннем пазіцый свайго сына Жыгімонта Аўгуста. Яна хацела перадаць Мазовію яму.

Вось тады і з'явілася пагалоска, што гэта яна загадала атруціць супернікаў. Называлі яе супольнікаў. З гэтай нагоды праводзілася нават следства, якое, аднак, не дало вынікаў. Пасля заўчаснай смерці Барбары Радзівіл пагалоска зноў набыла моц. Яе падтрымліваў і Жыгімонт Аўгуст, які моцна сумаваў па памерлай жонцы. Кароль паведамляў сваім сябрам, што чарговай ахвярай нязгодлівай маткі мае быць ён сам. Канфлікт маці з сынам быў зацяты. Паступова нават яе прыхільнікі сталі на бок сына. Было самотна, Сфорца зразумела, што жыццё не ўдалося. Гэта і прыспешыла яе ад'езд на радзіму ў Італію ў 1556 годзе. З сабой забрала шмат грошай і каштоўнасцей: іх везлі 24 вазы.

Аднак і дома не знайшла ні шчасця, ні разумення. Яе ашукаў іспанскі кароль Філіп II Габсбургскі, якому яна выдала значную пазыку. Не маючы жадання вяртаць доўг, Габсбург знайшоў ахвотнікаў і, кажуць, праз іх атруціў Бону. Яе не стала 19 лістапада 1557 года. Жыццё сурова паквіталася з уладнай жанчынай: некалі яна труціла іншых, ад атруты загінула і сама. Быць пахаванай яна хацела ў кафедральным саборы Неапаля. Але і гэтага ёй не дазволілі. Труна Боны знаходзілася ў касцёле Святога Мікалая ў Бары. Яшчэ ў 1584 годзе князь Мікалай Радзівіл Сіротка, калі вяртаўся з паломніцтва ў Святую зямлю, адзначаў, што цела Боны не было аддадзена зямлі. Толькі ў 1589 годзе дачка Боны Ганна Ягелонка пачала будаваць маўзалей у базыліцы святога Мікалая ў Бары для сваёй маці.

***Васіль I Дзмітравіч*** (30.12.1371 — 27.2.1425) — вялікі князь маскоўскі (1389–1425), старэйшы сын Дзмітрыя Іванавіча Данскога і княгіні Еўдакіі, дачкі суздальскага князя Дзмітрыя Канстанцінавіча. Яго дзедам быў князь Іван Красны, а прадзедам — Іван Каліта. У 1382 годзе бацька паслаў яго ў Арду, каб там пазмагаўся за «ярлык» на веліка-

княскі маскоўскі пасад з цвярскім князем Міхаілам Аляксандравічам. Аднак хан Тахтамыш затрымаў Васіля ў якасці заложніка; праз чатыры гады, у 1386 годзе, яму ўдалося ўцячы ў Княства, знаходзіўся пры двары вялікага князя літоўскага Вітаўта. Тут пазнаёміўся з дачкой Вітаўта Соф'яй. У 1387 годзе бацька вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Данскі выслаў у Полацк высокую дэпутацыю рускіх вяльможаў на сустрэчу Васіля, які вяртаўся ў Маскву. У 1391 годзе яны пажаніліся, Соф'я прыбыла ў Маскву 1 снежня 1390 года, шлюб адбыўся 9 студзеня 1391 года. У 1392 годзе заключыў саюз з Княствам для барацьбы супраць татараў. Аднак іхняя моц палохала Маскву. У 1395 годзе сярэднеазіяцкі ўладар Цімур (Тамерлан) вырушыў на Русь. Адзін толькі цуд мог уратаваць Маскву. І цуд адбыўся. 25 жніўня 1395 года Васіль Дзмітравіч разам з урачыстай працэсіяй сустрэў ля горада цудатворны абраз Багародзіцы, які няслі з Уладзіміра. І ў гэты ж дзень непрыяцельскія войскі адвярнуліся ад межаў Русі.

Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што Васіль занадта прыхільна ставіўся да Княства, а яго палітыка была афарбавана пралітоўскімі настроямі. Падчас яго праўлення да Масквы далучаны Ніжагародскае княства, Мурам, Волагда, а вось Смаленск далучаны да Княства.

Лічыцца, што пры ім сталі пачынаць год з верасня (раней ён пачынаўся з сакавіка).

Мелі з Соф'яй Вітаўтаўнай 5 сыноў і 4 дачкі. Чацвёра сыноў памерлі малымі. Яго сын Васіль Цёмны стаў вялікім князем маскоўскім.

З другой дачкой Васіля Дзмітравіча, унучкай вялікага князя літоўскага Вітаўта Настассяй быў жанаты (1417) заснавальнік роду Алелькавічаў, князёў слуцкіх, Аляксандр (Алелька) — сын кіеўскага князя Уладзіміра, унук вялікага князя літоўскага Альгерда, праўнук Гедыміна, у 1443 — 1454 гадах князь кіеўскі. Ганна з'яўлялася жонкай візантыйскага імператара Іаана VIII Палеалога, Васіліса была заму-

жам за суздальскім князем Аляксандрам Іванавічам, Марыя стала жонкай літоўскага князя Юрыя Патрыкеевіча.

***Васіль II Васільевіч Цёмны*** (10.3.1415 — 17.3.1462) — вялікі князь маскоўскі ў 1425–1433, 1433–1434, 1434–1446, 1447–1462 гадах. Чацвёрты сын Васіля I Дзмітравіча і Соф'і Вітаўтаўны, унук Вітаўта Вялікага. Высокі пасад заняў, калі яму было дзесяць гадоў. Рэгентшай стала маці Соф'я, якая кіравала разам з мітрапалітам Фоціем і баярынам Іванам Усяволжскім. Ярлык на княжанне Васілю выдаў і хан Залатой Арды Улу-Мухамед. Вёў шматгадовую барацьбу з удзельнымі князямі на чале з галіцкім князем Юрыем Дзмітравічам, які меў цвёрды намер заняць велікакняскі пасад. Дабіўся ліквідацыі большасці ўдзелаў у Маскоўскім княстве. Лёс падрыхтаваў яму шмат выпрабаванняў. 8 лютага 1433 года падчас вяселля Васіля II з Марыяй Яраслаўнай адбылася неспадзяваная непрыемнасць. Ягоная маці княгіня Соф'я на вачах у гасцей сарвала з Васіля па мянушцы Касы — сына галіцкага князя Юрыя Дзмітравіча (дзядзька Васіля II, якому перадаваў пасад бацька Дзмітрый Данскі) залаты пояс і заявіла, што яго ўкраў з велікакняскай скарбніцы Іван Дзмітравіч Усяволжскі — баярын, які ўзначальваў апякунскі савет Васіля II. Васіль Юр'евіч Касы разам з братам Дзмітрыем па мянушцы Шамяка, а таксама зганьбаваны Усяволжскі з абурэннем з'ехалі з Масквы.

Вынікам гэтага стала вайна, у якой паразу на рацэ Клязьме атрымалі 25 красавіка 1433 года войскі Васіля II Васільевіча. Вялікі пасад заняў дзядзька Васіля II Юрый Дзмітравіч Галіцкі, а Васілю II аддалі Каломну. Прыхільнікі Васіля пакінулі новага вялікага князя і пайшлі ўслед за сваім гаспадаром. Пачынаюцца міжусобныя сутычкі. 28 верасня 1433 года Васіль II атрымаў новую паразу на рацэ Кусі. Аднак не супакоіўся і вырушыў на Галіч. А перад выхадам з Масквы (Юрый не жадаў незаконна знаходзіцца на пасадзе і саступаў яго Васілю II двойчы) Васіль Васільевіч загадаў асляпіць баярына І. Д. Усяволжскага, якога лічыў пачы-

нальнікам «поясавага» канфлікту. Тое ж самае ён паўтарыў і ў адносінах да палоненага ў час чарговай бітвы Васіля Юр'евіча — брата Дзмітрыя Шамякі.

Аднак ваенныя няўдачы не адступаліся ад Васіля II. Вясной 1445 года ён атрымаў паразу каля Суздаля ад сыноў казанскага хана Улу-Мухамеда (таго самага, што даваў Васілю ярлык на пасад), якія захапілі Ніжні Ноўгарад і дайшлі да Масквы. Васіль II трапіў у палон. За вялікі выкуп, які ён павінен быў сабраць з насельніцтва, яго вызвалілі. Незадаволенасць гэтым, а таксама бездапаможнасцю Васіля II нарастала. Калі ў лютым 1446 годзе ён накіраваўся ў Троіца-Сергіеў манастыр, Дзмітрый Шамяка заняў Маскву і загадаў знайсці і паланіць Васіля. Яго схапілі, вярнулі ў Маскву і ноччу на 14 лютага асляпілі. Праз гэта і атрымаў прозвішча Цёмны. Усё гэта адбывалася на вачах ягонага шасцігадовага сына — будучага вялікага гасудара ўсяе Русі Івана III Васільевіча, якога ў 1448 годзе бацька аб'явіў вялікім князем і сваім суправіцелем. Разам з жонкай і дзецьмі Васіля II выправілі ў ссылку ў Угліч, а ягоную маці Соф'ю Вітаўтаўну — у Чухламу.

Кіраваць стаў Дзмітрый Шамяка. За свае непапулярныя кіраўнічыя дзеянні Шамяка пачаў губляць давер, ягоныя паплечнікі абіралі народ, а скаргаў людскіх не вырашалі, як і сам вялікі князь. Людзі не маглі дабіцца справядлівасці, з таго часу і пайшоў выраз «Шамякаў суд».

Але з палітычнай арэны не сышоў і Васіль II. Ён вёў сутычкі з Дзмітрыем Шамякам. Восенню 1446 года Васіля прыняў у сябе Барыс Цвярскі, княства якога мела тады надзвычайную сілу. Адбыліся заручыны малалетняга сына Васіля Івана з дачкой Барыса Марыяй, вяселле праходзіла 4 ліпеня 1452 года.

Пры ім руская царква стала незалежнай ад Канстанцінопальскага патрыярхата, у 1448 годзе быў выбраны мітрапаліт.

Сутычкі з Шамякам не спыняліся, урэшце па загадзе Васіля 17 ліпеня 1453 года Шамяку атруцілі ў Ноўгара-

дзе. Васіль Васільевіч Цёмны вярнуўся на маскоўскі пасад і стаў называцца вялікім князем маскоўскім, наўгародскім, растоўскім і інш. Дарэчы, ён быў і апошнім вялікім князем уладзімірскім. Здзейсніў паспяховыя паходы на Ноўгарад, Пскоў, Вятку, што паслужыла ўмацаванню Маскоўскай дзяржавы. Пасля яго кіравання эпоха магутнай Уладзімірскай Русі пайшла на схіл на карысць Масквы.

Ягоны сын Іван III (1440–1505) быў вялікім князем маскоўскім у 1462–1505 гадах. Гэта ён упершыню парушыў парадак, які існаваў з часу нашэсця Батыя, і пачаў княжыць на Русі без дазволу хана. А атрыманая ім перамога на рацэ Угра сталася канцом мангола-татарскага іга на Русі. Шмат вялікалітоўскіх зямель далучыў да Масквы, якая стала сталіцай Рускай дзяржавы.

Перад смерцю Васіль даручыў жонку і дзяцей апецы караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра, раздаў ім багатыя надзелы. Ён лічыў, што захварэў на сухотку і спрабаваў лячыць сябе прыпальваннем, але на абпаленых месцах адкрыліся раны. Надзеі на ўратаванне не заставалася.

***Васіль III Іванавіч*** (25.2.1479 — 4.12.1533) — вялікі князь маскоўскі ў 1505–1533 гадах. Сын Івана III Васільевіча і ягонай другой жонкі Соф'і Палеалог. Пры ім завяршылася аб'яднанне рускіх зямель вакол Масквы, стала ўжывацца назва дзяржавы Расія, якая запачаткавалася пры ягоным бацьку Івану III. Быў настойлівым ва ўмацаванні сваёй улады. Калі ў 1506 годзе памёр вялікі князь літоўскі Аляксандр, жанаты з сястрою Васіля III Аленай, Васіль III дамагаўся стаць гаспадаром Княства. Разлічваў на падтрымку праваслаўных князёў. Гэта быў першы выпадак, калі вялікі князь маскоўскі захацеў гаспадарыць на вялікалітоўскім пасадзе.

У жніўні 1505 года наладзіў агледзіны нявест, у якіх, па розных звестках, бралі ўдзел ад 500 да 1500 дзяўчат. Быў жанаты спачатку з Саламоніяй Сабуравай (вяселле адбылося 4 верасня 1505 года, пражылі разам дваццаць гадоў). Род яе пахо-

дзіў з Арды. Аднак яна аказалася бяздзетнай, за што Васіль развёўся з ёю і прымусова адправіў у Суздаль у Пакроўскі манастыр пад імем Соф'і. Ды аказалася, што Саламонія цяжарная, у манастыры яна нарадзіла сына, якога хітрая ігумення разам з маці аб'явілі памерлым. Сына ж аддалі да сваякоў у Зарайск, дзе ён пражыў як просты чалавек.

Другі раз жанаты з княгіняй Аленай Васільеўнай Глінскай (21 студзеня 1526). Гэта давала надзею на ўмацаванне стасункаў з Вялікім Княствам Літоўскім. Муж, каб дагадзіць жонцы, нават збрыў бараду, што не спадабалася царкоўнікам, выпусціў са зняволення яе дзядзьку Міхаіла Глінскага. Іхні сын Іван (25.8.1530 — 18.3.1584) стаў у 1533 годзе вялікім князем маскоўскім і ўсяе Русі Іванам IV Васільевічам Грозным (Жахлівым), а з 1547 года — першым рускім царом.

Васіль III у 1507–1508 гадах вёў вайну з Вялікім Княствам Літоўскім за заходнія рускія землі, за Смаленск. Першы няўдалы паход на Смаленск адбыўся зімой 1512–1513 года. Няўдалым быў і другі паход восенню 1513 года. У час трэцяга паходу ў маі 1514 года ў войску знаходзіўся сам Васіль III, у ліпені горад быў захоплены. Пасля гэтага Расія разлічвала пачаць паспяховую барацьбу за далучэнне іншых беларускіх гарадоў і зямель. У жніўні рускае войска заняло Мсціслаў і Крычаў. А 8 верасня пад Оршай адбылася бітва паміж рускім войскам і войскам князя Канстанціна Астрожскага, які атрымаў выдатную перамогу. Для Васіля III гэтая параза мела непрыемны розгалас у Еўропе.

У 1526 годзе ён здолеў яшчэ на шэсць гадоў прадоўжыць перамір'е з Княствам, захаваўшы Смаленск у складзе Расіі.

У верасні 1533 года, падчас паездкі на маленне, захварэў, пакінуў наказ, каб спадчыннікам улады стаў ягоны трохгадовы сын Іван Васільевіч. Ноччу з 3-га на 4-е снежня Васіль III памёр, аднак паспеў прыняць манаскі пострыг пад імем Варлам.

***Вітаўт Вялікі (у каталіцтве Віганд, у праваслаўі Аляксандр)*** (1350, па іншай версіі — 1344, нарадзіўся

ў Старых Троках — 27.10.1430) — вялікі князь літоўскі з 1392 года. Сын Кейстута і Біруты — дачкі баярына Відмунша, язычніцы-вайдэлоткі з капішча Пяркунаса каля Палангі, стрыечны брат Ягайлы. Капішча — месца, дзе язычнікі ўшаноўвалі сваіх багоў і прыносілі ім ахвяры, размяшчалася звычайна на ўзвышшы, на берагах рэк і азёр. Біруту Кейстут выкраў з капішча і зрабіў сваёй жонкай. Імя Вітаўт некаторыя трактуюць як «сіла народа». У 24 гады Вітаўт ажаніўся першы раз — з Марыяй Апраксіяй Лукомскай, якая памерла ў 1376 годзе. У 1378 годзе ажаніўся другі раз — з Ганнай, дачкой смаленскага князя Святаслава Іванавіча, якая была сястрой Агрыпіны — жонкі Івана Альгімонтавіча Гальшанскага, дзеда польскай каралевы Соф'і. У 1418 годзе, адразу ж пасля смерці Ганны (1 жніўня), ажаніўся з гальшанскай князёўнай Уллянай (19 лістапада), Соф'інай цёткай. Яна была ўдавой пасля князя Карачэўскага. 21 кастрычніка 1383 года, пасля ўцёкаў да крыжакоў, першы раз ахрысціўся па рымска-каталіцкім абрадзе і ўзяў імя Віганд. У 1384 годзе, пасля ўцёкаў ад крыжакоў, вярнуўся ў праваслаўе, атрымаў імя Аляксандр. Чарговы раз прыняў каталіцтва разам з Ягайлам і ягонай дружынай у Кракаве ў 1385 годзе, але захаваў імя Аляксандр. Пад уплывам Улляны пабудаваў на азёрным востраве ля Трокаў царкву Святога Георгія, а на беразе — манастыр з царквою Нараджэння Багародзіцы.

У 1382 годзе Вітаўт уцёк з Крэўскага замка, дзе яму пагражала смерць ад рук Ягайлы, як і ягонаму бацьку Кейстуту, які быў задушаны ў Княскай вежы Крэўскага замка. Вітаўт пасля гэтага падаўся ў Польшчу а затым да крыжакоў. У 1384 годзе памірыўся з Ягайлам, паехаў разам з ім у Кракаў, дзе Ягайла ў 1386 годзе каранаваўся на караля польскага. У 1389–1390 гадах меў намер захапіць уладу ў Княстве. Калі гэта не ўдалося, зноў падаўся да крыжакоў. У 1392 годзе памірыўся з Ягайлам, стаў вялікім князем літоўскім. У 1398 годзе заключыў Салінскі дагавор з кры-

жакамі, аддаў ім Жмудзь за дапамогу ў бітве з Масковіяй і татарамі. У 1399 годзе пацярпеў паразу на рацэ Ворскле ў бітве з татарамі. У 1401 годзе была заключана Віленска-Радамская унія — дзяржаўная і палітычная дамова, згодна з якой Вялікае Княства Літоўскае заставалася самастойным у саюзе з Польшчай, а Вітаўт заставаўся пажыццёва гаспадаром літоўскім. Ягайла стаў называцца вышэйшым (вярхоўным) князем — *supremus dux*. У 1422 годзе Вітаўт заключыў мір з крыжакамі над возерам Мельна і атрымаў назад і назаўсёды Жмудзь.

Усяляк намагаўся захаваць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага ад Каралеўства Польскага. Меў высокі аўтарытэт у Княстве, Польшчы і іншых гаспадарствах Еўропы. Ведаў некалькі моў. Пры ім Княства дасягнула значнай славы, пашырылася тэрытарыяльна. Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме «Песня пра зубра» шмат узнёслых слоў прысвяціў гэтай выбітнай постаці, называў яго, як і сучаснікі вялікага князя, Вітаўтам Вялікім. Вітаўт пашырыў тэрыторыю Княства ажно да Чорнага мора, далучыў да яго Смаленск, Вярхоўскія княствы (землі ў вярхоўях Акі), Пскоў, Вязьму, Казельск, васальную залежнасць ад яго прызналі цвярскі і разанскі князі. У 1406 і 1408 гадах нападаў на землі вялікага княства Маскоўскага. Збудаваў замкі ў Троках, Вільні, Гародні і іншых месцах. Запрашаў у Княства нямецкіх і яўрэйскіх купцоў, падтрымліваў Ганзейскі саюз паўночнагерманскіх гарадоў у XIV стагоддзі на чале з Любекам, які займаўся пашырэннем гандлю. У гэты саюз уваходзіла каля ста нямецкіх гарадоў.

Гісторыкі лічаць, што пасля знакамітай перамогі на Грунвальдскім полі Вітаўт значна ўмацаваў свае пазіцыі незалежнага кіраўніка і аб'яднальніка рускіх зямель вакол Вільні, меў на гэты конт свой план, які працягваў аб'яднаўчыя ідэі і намеры Альгерда. Гэта стварала пэўную небяспеку для Масквы. Аднак заключэнне ў 1413 годзе Гарадзельскай уніі, у выніку якой узмацнілася проціпастаўленне каталікоў праваслаўным,

абмяжоўваліся правы апошніх, у тым ліку права займаць дзяржаўныя пасады, не давала Вітаўту мажлівасці стаць выразнікам і творцам ідэі агульнарускага адзінства.

У 1391 годзе выдаў сваю дачку Соф'ю за вялікага князя маскоўскага Васіля I Дзмітравіча, які таксама меў намер стаць на чале аб'яднання рускіх зямель. З улікам вышэйназваных, а таксама шэрагу іншых абставін Васілю I усё больш удавалася перахапіць ініцыятыву ў Вітаўта. Ён не спалохаўся нават прызначыць Вітаўта (1425) адным з апекуноў свайго малалетняга сына Васіля, Вітаўтавага ўнука, які пасля смерці бацькі стаў на маскоўскім пасадзе (у дзесяцігадовым узросце). Гэта нібыта дазваляла Вітаўту ўплываць на палітыку Масквы і нават кантраляваць яе. Аднак бацька Васіля II перадаваў сыну ўладу без згоды і санкцыі Залатой Арды, што стварала пэўныя праблемы. Ды разлік быў на тое, што апякун Вітаўт паспрыяе падтрымаць дынастычнае права на ўладу для свайго ўнука, а заадно дапаможа вырашыць многія спрэчныя пытанні ўзаемаадносін з Ардой і Цвер'ю. А Масква дзеля палітычнай гульні, як лічаць некаторыя рускія даследчыкі, дала Вітаўту «свабоду» адносна Пскова і Ноўгарада.

Дарэчы, ролю апекуна Вітаўт выконваў не аднойчы. Ён быў прызнаны палякамі апекуном Ядвігі — дачкі Ягайлы і Ганны Цылейскай, пасля яго назвалі апекуном Уладзіслава — першага сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. Але ён і сам ахвотна далучаўся да польскіх спраў, маючы высокі аўтарытэт сярод рыцараў, часткі шляхты. У 1426 годзе палякі назвалі яго «сваім панам», што давала пэўныя спадзяванні на высокі пасад. Разам з польскімі рыцарамі Вітаўт хадзіў на татараў, на Маскву і Ноўгарад. Ён падтрымліваў чэшскіх гусітаў у барацьбе супраць Жыгімонта, што выклікала абурэнне ў каталіцкім свеце і нашкодзіла Польшчы на дыпламатычнай арэне. Пачаў дзейнічаць антывітаўтаўскі рух на чале з Кракаўскім біскупам Збігневам Алясьніцкім.

Вітаўт з'яўляецца прабацькам заснавання Адэсы. Калі ягоныя войскі ў 1415 годзе дайшлі да Чорнага мора, ён заклаў там порт Хаджыбей. У 1795 годзе адноўленыя пасля разбурэння Вітаўтаў порт, ваенная гавань і крэпасць былі пераназваны Адэсай. Ён жа заснаваў Чаркасы, Крамянчуг, узвёў крэпасць Цягін, якая стала называцца пасля Бендэры, на месцы пазнейшага Ачакава таксама збудаваў крэпасць.

У 1428 годзе з'явілася першая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту» — «Похвала о великом князи Витовте», «Сказание о великом князи Витовте». Гэта быў адзін з першых свецкіх панегірычных твораў наогул, з'яўляецца помнікам беларускай літаратуры XV стагоддзя. «Пахвала...» напісана невядомым аўтарам у Смаленску. Існуюць яшчэ тры рэдакцыі «Пахвалы...»

Летапіс Красінскага таксама змясціў «Пахвалу...». У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «И князь великыи Витовт у великои славе и у великои чти пребывал по всим землям. Царь ордынскии и князи ордынские приежчали к великому князю на службу, и просячи собе царя на царство; много было ордынских цареи и князеи, што в дворе его служили».

У 1430 годзе меў намер атрымаць тытул караля літоўскага, карона ўжо была прызначана яму Папам Рымскім, але палякі, якія не хацелі бачыць Вітаўта каралём, перашкодзілі гэтаму. Пасля смерці пахаваны праз 8 дзён у Віленскім кафедральным касцёле побач з жонкай Ганнай. Польская каралева Бона Сфорца ў адзнаку заслуг Вітаўта Вялікага паставіла яму надмагільны помнік з бюстам «вялікага мужа» Княства. Паколькі быў беспатомным, Вялікае Княства Літоўскае пераказаў Ягайлу.

***Гальшанскія*** — старадаўні княскі род герба Гіпацэнтаўр. Паходжанне звязваюць з дынастыяй Кітаўрасаў, якая панавала ў Літве да Віценя і Гедыміна. Гальшанскі замак, што на Ашмяншчыне, быў іхнім родавым гняздом. Згодна з легендай, Гальшаны заснаваў сын князя Рамана (Рамунта) Гольша (Гальшан). А сынам Гольшы быў Альгімонт (год

нараджэння 1280), таму ўсе гальшанскія князі называліся Альгімонтавічамі. Першы вядомы прадстаўнік роду кіеўскі намеснік Іван Альгімонтавіч (1379–1401), жанаты з Агрыпінай — смаленскай князёўнай, сястра якой Ганна была жонкай Вітаўта Вялікага. Іван спрыяў Вітаўту ў барацьбе за велікакняскі пасад, разам з ім двойчы ўцякаў да крыжакоў, падпісаў прысягу Вітаўта Ордэну (19 студзеня 1390), на чале пасольства адвозіў восенню 1390 года ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, якая стала жонкай вялікага князя маскоўскага Васіля І. З 1392 года быў вельмі блізкі да Вітаўта, уваходзіў у велікакняскую раду, з 1396 года — намеснік у Кіеве. Меў сыноў Андрэя Вязынскага, Сямёна Лютага, Аляксандра Нялюба, Міхаіла і дачку Улляну.

Сын Івана Сямён (Люты, ? — 1433) быў намеснікам Вітаўта ў Вялікім Ноўгарадзе (1420). Кажуць, за тое, што кіраваў надта жорстка і сурова, яго назвалі Лютым. А мо за тое, што браў актыўны ўдзел у барацьбе паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам за вялікі пасад у Княстве. Ці мо з-за таго, што ў 1432 годзе ў Ашмянах рыхтаваў змову супраць вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы, намерваўся забіць яго. Ды не ўдалося задуманае. Схапілі змоўшчыкаў, пакаралі, а Сямёна Лютага ўтапілі ў Заходняй Дзвіне ля Віцебска.

Парадокс гісторыі — нават у далёкія часы дзеці аднаго бацькі ў барацьбе за ўладу маглі быць на розных баках. Калі Сямён Іванавіч Гальшанскі змагаўся за перамогу Жыгімонта, то ягоны брат Міхаіл Альгімонтавіч (? — 1433), намеснік кіеўскі ў 1422, у гэты ж самы час адстойваў права Свідрыгайлы на велікакняскі пасад. На чале Свідрыгайлавага войска ў чэрвені 1433 года Міхаіл перамог вояў Жыгімонта, аднак пасля перайшоў на яго бок. Ды неўзабаве трапіў у палон, быў пакараны смерцю.

Сын Івана Альгімонтавіча Андрэй Вязынскі (1365? — 1410) быў жанаты з друцкай князёўнай Аляксандрай Дзмітраўнай. У іх было тры дачкі.

Васіліса (Васа), у лютым 1422 года, перад шлюбам Соф'і і Ягайлы, яе аддалі за князя Івана Уладзіміравіча Бельскага. Іхнюю першую дачку Ганну Бельскую кароль польскі Казімір выдаў у 1448 годзе за Баляслава III Пяста — цешынскага князя. Другая дачка Таццяна Гальшанская была першай жонкай Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Пасля смерці Івана Бельскага Васіліса выйшла за кузэна князя Міхаіла Сямёнавіча, які разам з жонкай уфундаваў у Бельску-Падляшскім царкву. Калі памёр Міхаіл, Васа, верагодна, узяла прозвішча Бельскіх, валодала Смальнянамі, памерла напярэдадні 1484 года, пахавана ў Бельскай царкве.

Соф'я (1405 — 21.9.1461), у 1422 годзе стала жонкай Ягайлы і каралевай польскай.

Марыя выйшла замуж за сына малдаўскага гаспадара Іллю, які пасля смерці бацькі атрымаў уладу. Аднак у выніку перавароту пасад у яго адабралі і ўлада перайшла да яго роднага брата Штэфана. Ілля з жонкай і двума сынамі з'явіўся шукаць падтрымкі ў Вавелі. Алясьніцкі супраціўляўся гэтаму, і Ягайла мусіў прызнаць новага малдаўскага гаспадара, а Іллю нават арыштаваць, нягледзячы на тое, што ён быў блізкім сваяком Соф'і. Пазней Ілля апанаваў пасадам, але ў маі 1443 года адбыўся новы бунт Штэфана, і Ілля быў адлучаны ад трона. Пакінуўшы дзяцей і жонку ў Хоціме, паехаў у Кракаў прасіць дапамогі ў Алясьніцкага. Не атрымаў. Калі вярнуўся назад, яго забілі прыхільнікі Штэфана. Каронная Рада Польшчы не звярнула ўвагі на забойства шваграа каралевы і 20 верасня 1444 года прыняла прысягу Штэфана.

У чэрвені 1448 года польскі кароль Казімір Ягелончык, сын Соф'і Гальшанскай, планаваў аддаць малдаўскі пасад сыну Марыі Разану, але яго атруціў дзядзька Пётр. У 1450 годзе Казімір аддаў уладу другому сыну Марыі Аляксандру II Іллічу, але неўзабаве яго выгнаў другі родны дзядзька — Багдан. У 1451 годзе Казімір у Самбары сустракаўся з Марыяй, а праз год пасля гэтага аддаў Аляксандру палову

Малдавіі. Аднак малады і надта ахвочы да кахання Аляксандр быў забіты.

Пасля смерці мужа — гальшанскага князя Андрэя Вязынскага Аляксандра Дзмітраўна Друцкая (1380? — 1426) перабралася з дочкамі з Гальшан у Друцк да свайго брата Сямёна Друцкага, у якога было шасцёра сваіх сыноў.

Дачка Івана Альгімонтавіча Улляна была спачатку жонкай князя Івана Карачэўскага, а пасля смерці мужа — жонкай Вітаўта Вялікага, шлюб адбыўся ў Гародні 1 лістапада 1418 года. Ёсць меркаванне, што Вітаўт забіў князя Карачэўскага, каб узяць за жонку Улляну. Ёй 1 красавіка 1428 года Вітаўт адпісаў у пасаг Навагародак з ваколіцамі, а калі паміраў, даручыў апеку над ёю каралю Ягайлу-Уладзіславу. У час вайны Жыгімонта і Свідрыгайлы апошні паланіў яе і трымаў у вязніцы. Памерла каля 1448 года, мела 70 гадоў, пахавана ў Вільні, у касцёле Святой Ганны. Яшчэ адна дачка Івана і сястра Андрэя Вязынскага Ганна стала жонкай мазавецкага Пяста — Баляслава III, гэта яна ўфундавала шпіталь Святога Духа ў Варшаве.

Пачынальнік галіны князёў Гальшанскіх-Дубровіцкіх, унук Сямёна Лютага Іван Юр'евіч быў пазбаўлены жыцця за ўдзел у змове разам з князямі Бельскімі супраць вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка. А ягоны бацька Юрый Сямёнавіч (1410? — 1457?) быў сярод тых, хто калісьці насуперак жаданню польскага караля арганізаваў абранне Казіміра на высокі гаспадарскі пасад у Княстве. Унук Івана Юр'евіча, сын Юрыя Іванавіча, князь гальшанскі і дубровіцкі, стольнік літоўскі з 1555 года Сямён Юр'евіч Дубровіцкі, які памёр у 1556 годзе, стаў апошнім прадстаўніком роду Гальшанскіх па мужчынскай лініі. Дарэчы, ягонай жонкай была сястра польскай каралевы Барбары Радзівіл Ганна. Пасля ягонай смерці велізарныя ўладанні былі падзелены паміж шасцю ягонымі сёстрамі, Гальшаны перайшлі да Сапегаў.

Сын Аляксандра Гальшанскага Павел, напрыклад, вучыўся ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве, пасля ў Рыме, меў схільнасці да філасофіі. Добра ведаў літаратуру, сабраў багатую бібліятэку. Быў выхавацелем будучага вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста. Стаў старастам пінскім, прэлатам-архідыяканам касцёла Святога Станіслава ў Вільні, епіскапам Віленскім. Да ліку святых залічана Юліянія, дачка Юрыя Сямёнавіча. Яна памерла ў 16 гадоў і пахавана ў Кіева-Пячэрскай Лаўры, якую падтрымлівалі многія з роду Гальшанскіх. У выніку перакрыжаваных шлюбаў прадстаўнікі роду Гальшанскіх парадніліся з іншымі знакамітымі родамі — Астрожскімі, Гаштольдамі, Сапегамі, Храптовічамі, а адна з сясцёр апошняга князя Гальшанскага Марыя ў трэцім шлюбаванні была жонкай маскоўскага вяльможы Андрэя Курбскага.

Аднак не толькі ваявалі і гінулі Гальшанскія. Прадстаўнікі роду займалі высокія дзяржаўныя пасады, выконвалі пасольскія функцыі, былі актыўнымі ўдзельнікамі грамадскага жыцця, прыхільнікамі навук.

***Ганна Данута*** (каля 1362 — 1448) — дачка Кейстута, каля 1376 года стала жонкай мазавецкага князя Януша.

***Ганна Смаленская*** (? — 1418) — другая жонка Вітаўта Вялікага, дачка Святаслава Іванавіча, смаленскага князя, яе пляменніцай была Уляна, трэцяя жонка Вітаўта. Шлюб адбыўся ў 1378 годзе, пасля таго як у 1376 годзе памерла першая жонка Марыя Лукомская. Памерла Ганна, верагодна, у 70-гадовым узросце ў Дубровіцы. Пасля гэтага Вітаўт ажаніўся з княгіняй Уляной Гальшанскай.

***Ганна Цылейская*** (1380/1381? — 21.3.1416) — другая жонка Ягайлы, дачка Вільгельма, графа Цыліі (Венгрыя) і ягонай жонкі Ганны (1366–1425) — дачкі Казіміра Вялікага, унучка Казіміра Вялікага. 19 верасня 1392 года памёр яе бацька. У 1394 годзе ўдава графа Ганна выйшла замуж за князя Ульрыка, назаўсёды з'ехала з ім і пакінула 13-гадовую дачку Ганну ў Цыліі. Каб умацаваць пазіцыі аўдавелага Ягай-

лы, каралеўскі пасад ад якога мог уцячы — ён не быў спадчынным уладальнікам трона, а апынуўся на вяршыні ўлады праз шлюб з Ядвігай, патрабаваўся адпаведны шлюб з дынастычнай асобай. Ядвіга, першая жонка Ягайлы, намаўляла мужа, калі не стане яе, пашлюбіцца з Ганнай Цылейскай — праўнучкай Лакеткі, унучкай Казіміра. З падтрымкі польскіх паноў на пачатку 1401 года ў Цылію прыбыло пасольства ад Ягайлы. Аднак спярша належала атрымаць згоду Папы Рымскага, бо Ганна была сваячкай Ядвігі. 23 красавіка Папа даў згоду, і 16 ліпеня 1401 года Ганна прыехала ў Кракаў.

Ягайла быў не надта задаволены і зрабіў вымову сваім паслам, што прывезлі такую брыдкую нявесту, пагражаў адмовіцца ад заручын. Шлюб адклалі. Фармальнай прычынай лічылася тое, што Ягайла не ведаў нямецкай мовы, а Ганна— польскай. Ганна жыла ў адным з кляштараў і вучыла мову, а кароль выехаў у Княства, што надта часта рабіў і пасля, пакідаючы жонку адну. 29 студзеня 1402 года адбыўся шлюб. У забавах і турнірах, якія доўжыліся некалькі дзён, браў удзел Вітаўт Вялікі з жонкай Ганнай, а вось малодшага Ягайлавага брата Свідрыгайлы не было, бо ён з'ехаў да крыжакоў, каб паспрыялі ў барацьбе з Вітаўтам за ўладу. На шлюб рада Кракава падаравала манаршай пары 200 грыўнаў.

Праз год, 23 лютага 1403 года, адбылася каранацыя Ганны. Яе маці, дачка польскага караля Казіміра Вялікага, якую запрасілі на ўрачыстасць і якая не толькі забылася польскую мову, але не бачылася з Ганнай 9 гадоў, была да слёз узрушана, калі арцыбіскуп Гнезненскі Дабрагост усклаў карону на галаву дачкі. Ягайла не вельмі дбаў пра Ганну, удзяляў ёй мала ўвагі, заглядваўся на іншых кабет, кажуць, нават сваю будучую пасля Ганны жонку Эльжбету таксама прыгледзеў у гэты час. У 1408 годзе ён абвінаваціў Ганну ў няварнасці, закаваў за гэта ў кайданы рыцара Якуба з Кабыліна і тры гады трымаў у вязніцы. Ганне з цяжкасцю ўдалося апраўдацца, каб неўзабаве зноў быць абвінавачанай у здрадзе з Янам Тэньчынскім.

Аднак у жыцці каралевы быў выпадак, калі яна сама абвінаваціла аднаго з блізкіх да двара людзей у жаданні «звесці» яе з сабой. У 1411 годзе, падчас адсутнасці ў Кракаве караля, Ганна заявіла, што гэткім звадыяшам з'яўляецца Гнезненскі арцыбіскуп Мікалай Куроўскі. Ягайла выклікаў яго для высвятлення справы. Па дарозе Мікалай упаў з каня і памёр — відаць, спынілася сэрца.

Ганна была ціхай жонкай, не ўнікала ў справы караля, не ўплывала на палітыку. Адно толькі цікавілася арганізаваным Ягайлам развядзеннем ільвоў, якіх у 1406 годзе прывезлі з Фларэнцыі.

8 красавіка 1408 года ў іх нарэшце нарадзілася дачка Ядвіга. Дарэчы, усе Ягелоны сваіх старэйшых дачок называлі ў гонар першай Ягайлавай жонкі Ядвігі. У 1413 годзе на Едлінскім з'ездзе Ядвігу назвалі будучай каралевай (у выпадку адсутнасці братоў). Пасля смерці бацькі яна мела атрымаць Карону і Княства.

21 сакавіка 1416 года Ганна памерла ў Кракаве ў прысутнасці караля, які ледзь паспеў вярнуцца з Княства, хоць па дарозе яшчэ заехаў на Лысую гару ля Любліна, дзе любіў бываць часта і дзе пакланяўся часцінцы Святога Крыжа з Галгофы, на якім быў укрыжаваны Хрыстос.

***Ганка*** — віленскі мешчанін нямецкага паходжання, меў добрае спрыянне ў Ягайлы, стараста віленскі, адыграў значную ролю ў жаніцьбе Ягайлы з Ядвігай і хрышчэнні Літвы.

***Гаштольды (Гаштаўты)*** — магнацкі (з 1529 года графскі) шляхецкі род герба Габданк, рэзідэнцыяй з'яўляліся Мураваныя Геранёны. Калі ў 1413 годзе на Гарадзельскім сойме першыя 47 баяр ВКЛ прынялі гербы вядомых польскіх родаў, сярод іх быў і Ян Івашка Гаштольд (? — 1458) — стараста дарсунскі (1422), канцлер літоўскі, маршалак двара вялікіх князёў Вітаўта і Свідрыгайлы (1426–1435), намеснік смаленскі (1436), ваявода трокскі (1440), віленскі (1443). Прадстаўнікі роду займалі ў XIV–

XVI стагоддзях высокія дзяржаўныя пасады, валодалі мноствам памесцяў на землях Усходняй Літвы і Заходняй Беларусі. Былі сярод іх выдатныя гаспадарнікі, духоўныя асобы, ваяры, дзяржаўныя дзеячы.

Калі ў 1440 годзе змоўшчыкамі быў замардаваны ў Трокскім замку вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч, паўстала пытанне аб ягонай замене. Кароль польскі Уладзіслаў III Варненьчык у якасці намесніка адаслаў у Вільню свайго роднага брата Казіміра. Але насуперак волі караля група магнатаў на чале з Янам (Івашкам) Гаштольдам вырашыла па-свойму. Яны падпаілі польскіх гасцей і ноччу 29 чэрвеня ў кафедральным касцёле абвясцілі 13-гадовага сына Ягайлы Казіміра вялікім князем. Яму ўручылі Гедымінаў меч і ўганаравалі мітрай.

Ян Гаштольд, сын Андрэя — віленскага (у 1387) і крэўскага (1398–1401) старасты, стаў апекуном і выхавацелем малалетняга гаспадара Княства Казіміра, а фактычна кіраваў дзяржавай ад яго імя. І не хацеў, каб Казімір станавіўся адначасова і каралём польскім. Калі ж Казімір заняў і гэты вышэйшы пасад, Ян аказаўся ў апазіцыі да яго. Тады кароль адабраў у Яна Геранёны Мураваныя, калісьці падараваныя яму вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам. Ды як і Казіміраў бацька — кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла, сын таксама меў добрую душу. Ён пакінуў Яна віленскім ваяводам (з 1443), пасада якога лічылася адной з найважнейшых у Княстве. А ўжо без Казіміра вярнуліся да Гаштольдаў і Геранёны.

Ян (Івашка) — адзін з галоўных праціўнікаў уніі з Польшчай. Ён падпісаў Гарадзельскую унію 1413 года, пазнейшыя важныя дзяржаўныя дакументы. Быў старастам дарсунскім, маршалкам надворным вялікіх князёў Вітаўта і Свідрыгайлы, намеснікам смаленскім, ваяводам трокскім у 1440–1443 гадах. Удзельнік заключэння Мельнскага дагавора 1422 года. Падтрымліваў Свідрыгайлу, калі той

веў барацьбу супраць Ягайлы, трапіў да Ягайлы ў палон, пазней стаў на бок Жыгімонта Кейстутавіча ў барацьбе супраць Свідрыгайлы. Здолеў дамагчыся вяртання Княству Падляшша (1444).

А вось ягоны сын Марцін (? — 1483), ваявода кіеўскі (1471–1480), трокскі (з 1480), маршалак земскі (1477–1479), аддана служыў каралю польскаму Казіміру Ягелончыку. Калі ж у 1481 годзе супраць караля выкрылі змову, Марцін быў сярод тых суддзяў, хто аддаў Міхаіла Алелькавіча і Івана Юр'евіча Гальшанскага на смерць. Не дапамаглі нават сваяцкія повязі [першай жонкай Марціна была дачка Сямёна Сямёнавіча Гальшанскага, а другой — яе стрыечная сястра Ганна, дачка Юрыя Гальшанскага (Трабскага)].

Згодна з летапісам, пачынальнікам роду лічыцца Крумпа — гетман літоўскага князя Ердзівіла. Пасля пераносу сталіцы ВКЛ з Новагародка ў Вільню Крумпа быў першым віленскім ваяводам. Ад ягонага сына Гаштольда і пайшоў знаны род. Хроніка Быхаўца апавядае, што Гаштольд атрымаў ад вялікага князя літоўскага Альгерда Камянец-Падольскі. Быў закаханы ў каталічку Бугацкую і, каб узяць яе за жонку, памяняў веру, стаў католікам з новым імем Пётр. Гэта ён запрасіў з польскай зямлі ў Вільню 14 манахаўфранцысканаў, пабудаваў для іх манастыр і касцёл Святога Крыжа. Калі ж манахі загінулі пакутлівай смерцю, прывёз яшчэ трыццаць шэсць і ўзвёў для іх касцёл Святой Дзевы Марыі. Згодна з адной версіяй, загінуў і сам князь. Другая ж сцвярджае, што Гаштольд стаў першым Віленскім біскупам. Летапісы сведчаць, што ў 1364 годзе Гаштольд самааддана абараняў ад крыжакоў замак Вялена, які на правым беразе Нёмана, у яго ніжнім цячэнні. Калі сілы абаронцаў аслабелі, раз'ятраныя заваёўнікі ўварваліся ў замак і забілі ўсіх разам з кіраўніком абароны Гаштольдам. Пасля гэтага патомкі Гаштольда перабраліся ў ваколіцы Геранён.

Мястэчка Геранёны, якое цяпер у Іўеўскім раёне, называлі і Гаштольдавымі, і Мураванымі. Імі валодаў Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд (? — снежань 1539), ваявода навагародскі (1508–1513), полацкі (1513–1519), трокскі (1519–1522) і віленскі (з 1522), канцлер ВКЛ (з 1522) . Ён стаў не толькі найбольш вядомым у родзе Гаштольдаў, але і прызнаным палітычным дзеячам Княства. Рана страціў бацькоў, выхоўваўся ў сваёй бабулі Ганны Гальшанскай. Каб умацаваць і дадаць славы валоданням, на пачатку XVI стагоддзя Альбрэхт збудаваў у Геранёнах магутны замак. Утрымліваўся ён з усімі належнымі высокім асобам патрабаваннямі. Быў багата аздобленым, прыветна сустракаў гасцей, не паддаваўся заваёўнікам. Калі ў Рэчы Паспалітай наступіў час бескаралеўства, тут праходзілі агульныя з'езды польскай шляхты і вялікалітоўскіх баяр, на якіх вырашаўся лёс дзяржавы двух народаў.

Альбрэхт быў самым багатым землеўласнікам у Княстве, меў вялікія надзелы ў Ашмянскім, Трокскім, Віленскім, Луцкім і Уладзімірскім паветах, а на Падляшшы лічыўся ўдзельным князем. Мог выставіць у выпадку вайны 466 конных воінаў (у 1528). Гэта сведчыць, што ў ягоным валоданні было больш за сем тысяч дымоў — сялянскіх сямей. Варта адзначыць і такі цікавы факт. Кароль польскі дараваў Альбрэхту прывілей карыстацца пячаткай з чырвонага воску, такім чынам узвялічыўшы яго да статусу каралеўскай асобы. Усе іншыя мусілі ўжываць зялёны воск. Быў Альбрэхт адукаваным чалавекам, вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, меў багатую бібліятэку. Ён спрыяў таму, каб група вучняў з Геранёнаў трапіла на вучобу ў гэтую прызнаную ў Еўропе навучальную ўстанову. Адчыніў школы ў Геранёнах і Трабах. Рабіў шмат каштоўных і па-мастацку вартых ахвяраванняў касцёлам.

Не аднойчы змагаўся з крымскімі татарамі, у 1505 годзе адбіў іхні напад на Навагародскі замак. Удзельнічаў у аба-

роне Смаленска ў 1507 годзе, у бітве ля Оршы ў 1508-м, у 1518 годзе разбіў войска маскоўскага князя Васіля III каля Полацка. Часта знаходзіўся ў атачэнні караля польскага Жыгімонта I Старога пры вырашэнні важных дзяржаўных спраў і дыпламатычных місіях. У 1529 годзе ад Папы Рымскага атрымаў тытул графа. А праз год імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі прызнаў Альбрэхта графам у Геранёнах Мураваных. Як канцлер браў удзел у стварэнні першага Статута літоўскага 1529 года. Ён настаяў на ўвядзенні ў Статут нормы аб тым, што чужаземцы, якія не нарадзіліся ў Княстве, не маюць права займаць высокія пасады ў ВКЛ і набываць нерухомую маёмасць. Гэта была заканадаўчая спроба супрацьстаяць чужой экспансіі на вялікалітоўскія землі. Яшчэ пры жыцці князь заказаў сабе надмагілле, якое ў стылі рэнесансу выканаў для збудаванай Альбрэхтам Гаштольдавай капліцы ў Віленскім кафедральным касцёле італьянскі майстар. Яно стала першым у Вільні ўзорам надмагільнай і свецкай скульптуры. Захавалася дагэтуль.

Цягам усяго жыцця Альбрэхт адстойваў незалежнасць Княства. Па просьбе польскай каралевы Боны Сфорцы, жонкі караля Жыгімонта I Старога, дабіўся таго, што яе 9-гадовы сын Жыгімонт Аўгуст яшчэ пры жыцці бацькі быў аб'яўлены вялікім князем літоўскім. Гэта супадала з планамі Альбрэхта па захаванні самастойнасці ВКЛ.

Сёння бадай што ўсе ведаюць Барбару Радзівіл як жонку караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста. І мала хто звяртае ўвагу, што, перш чым стаць каралевай, Барбара была жонкай ваяводы навагародскага (на гэтую пасаду віленскі сойм выбраў яго ў 15-гадовым узросце, 1530–1542) і трокскага (у 1542), члена Рады ВКЛ Станіслава (каля 1507 — 18.12.1542) — сына Альбрэхта Гаштольда. 18 мая 1537 года ў багата аздобленым касцёле ў Геранёнах з удзелам многіх еўрапейскіх гасцей адбылася ўрачыстая падзея: тут бралі шлюб 30-гадовы Станіслаў Гаш-

тольд і 17-гадовая Барбара Радзівіл. Яе бацька, кашталян віленскі, гетман вялікі літоўскі князь Юрый Радзівіл, даў сямейнай пары такі багаты пасаг, што спатрэбіўся не адзін дзясятак коней, каб усё гэта дабро, срэбра, золата, шматлікія ўпрыгожанні перавезці ў Геранёны.

Гісторыя сведчыць, што Гаштольды не заўсёды ладзілі з Радзівіламі. Былі з імі ў зацятых сварках і нават судзіліся. Мірылі іх сам кароль, гетман Канстанцін Астрожскі, іншыя высокія асобы, але не заўсёды паспяхова. І толькі супольнасць у барацьбе за самастойнасць Княства прымірыла ранейшых ворагаў. Разам з Мікалаем Радзівілам Чорным Альбрэхт суправаджаў караля Жыгімонта I Старога ў Прэсбург і Вену на з'езд з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімільянам I, дзе быў таксама кароль чэшскі і венгерскі Уладзіслаў Варненьчык. Вядомы польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі так пісаў пра ўдзел у з'ездзе Гаштольда і Радзівіла: «За вялікія грошы мелі сто юнакоў з Польшчы (фактычна з Княства. — *А. Б.*), навучаных музыцы, апранутых па-маскоўску, па-татарску і па-казацку, якія з рознымі інструментамі, з шаблямі і сайдакамі, у крывых ботах перад імператарам у касцёле заўсёды імшы і вячэрні спявалі, на вялікае здзіўленне іншых народаў, і немцаў, і італьянцаў, якія да таго думалі аб літоўскім народзе як грубым».

Пасля смерці ў 1542 годзе апошняга з Гаштольдаў — Станіслава — не толькі замак у Геранёнах і ўсе іншыя багацці, а нават жонка ягоная Барбара Радзівіл дасталіся каралю. Род Гаштольдаў згас. Кажуць, што, калі малады кароль польскі Жыгімонт Аўгуст з'явіўся ў Геранёнах, каб уступіць у маёмасныя правы і забраць Гаштольдавы багацці, ён так захапіўся прыгажосцю ўдавы, што не захацеў расставацца з ёю.

***Гедымін*** (каля 1275 — 1341) — вялікі князь літоўскі ў 1316–1341 гадах. Пачынальнік дынастыі Гедымінавічаў. Існуе версія, што ён быў слугой літоўскага князя Віценя. Калі той памёр, Гедымін ажаніўся з удавой вялікага князя і такім

чынам стаў вялікім князем літоўскім. Іншыя мяркуюць, што ён быў братам Віценя. Пры ім назіраўся росквіт Княства, беларускія землі здолелі аб'яднацца, што зрабіла іх дамінуючымі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Нанёс шэраг паражэнняў нямецкім рыцарам. У 1324 годзе адмовіўся прыняць хрышчэнне ад Лівонскага ордэна, супраць якога ў 1323 годзе заключыў саюз з Рыжскім архіепіскапам, што не змяніла, аднак, ягонага спрыяння праваслаўю. У 1325 годзе заключыў саюз з каралём польскім Уладзіславам Лакеткам. У саюзе з Цвер'ю выступаў супраць Маскоўскага княства.

Пры Гедыміне Вялікае Княства Літоўскае стала цэнтрам барацьбы супраць Залатой Арды, а вялікі князь літоўскі не з'яўляўся яе даннікам. Пад уладу Гедыміна перайшлі Полацк (1307), Гародня і Бярэсце (1315), Віцебск (1320), Менск (1326), Тураў і Пінск (1336) і інш. На ягонай пячатцы была выява анёла. Умела манеўраваў паміж трох супрацьдзеючых веравызнанняў: язычніцтва, праваслаўя і каталіцтва. Абяцаў ахрысціць па лацінскім абрадзе язычнікаў Княства, каб тым самым спыніць крыжацкія набегі, аднак адмоўнае стаўленне насельніцтва перапыніла намеры. Пры ім Вільня стала сталіцай Княства. Ягонымі намаганнямі, лічыцца, былі збудаваны замкі ў Вільні, Троках, Медніках, Крэве, Лідзе. Далучыў да Княства Валынь і ў 1340 годзе паставіў там князем свайго сына Любарта.

Пасля дамовы ў 1325 годзе з польскім каралём Уладзіславам І Лакеткам аддаў за яго сына Казіміра сваю дачку Альдону (Ганну), разам з ім здзейсніў паспяховыя паходы супраць Лівонскага ордэна. У 1331 годзе крыжаносцы атрымалі паразу пад Плоўцамі.

Меў 7 сыноў і 7 дачок: ад першай жонкі Вінды (адны лічаць, жанчыны простага паходжання — дачкі жмудскага бортніка Віндыminда, іншыя — дачкі шведскага караля Відмунда) — Монтвід (1276–1342), князь слонімскі; Нарымонт (Нарымунт, Нарымант, у праваслаўі Глеб, 1277/1294–1348),

князь пінскі; ад другой жонкі Вольгі Усеваладаўны, смаленскай княжны (некаторыя даследчыкі называюць Вольгу — княжну разанскую), — Альгерд (1296–1376), князь крэўскі і віцебскі, вялікі князь літоўскі ў 1345–1377 гадах; Кейстут (1297 — 15.8.1382), вялікі князь літоўскі ў 1381–1382 гадах, князь гарадзенскі і трокскі; ад трэцяй жонкі Еўны, дачкі полацкага князя Івана Усеваладавіча, — Любарт (1299–1384), князь на Валыні; Яўнут (1301) — князь віленскі, вялікі князь літоўскі ў 1341–1345 гадах; Карыят (1306–1358), князь навагародскі, князь заслаўскі. Дочкі: Альдона, Данміла, Марыя, Аўгуста (Айгуста), Марыя Меншая і дзве невядомыя. 15-гадовая Альдона выйшла замуж за 16-гадовага Казіміра — сына караля польскага Уладзіслава Лакеткі (урачысты шлюб адбыўся 16 кастрычніка 1325 года, Альдона прыняла імя Анна, яе часта самі палякі называлі Ганнай). Аўгуста, у праваслаўі Настасся, выйшла замуж (1333) за сына маскоўскага князя Івана Каліты Сямёна Гордага, Марыя — за вялікага князя цвярскога Дзмітрыя Міхайлавіча (1320). Існуе і іншая версія, што ў Гедыміна першай жонкай была смаленская княжна Вольга Усеваладаўна, а другой — княжна полацкая Еўна Іванаўна.

Называў сябе «каралём літоўцаў і многіх рускіх». Забіты крыжакамі падчас аблогі нямецкай крэпасці Баербург. Існуе версія, што быў атручаны падчас другой спробы ахрысціць язычнікаў.

***Гедымінавічы*** — зборная назва княскіх родаў, што вялі свой пачатак ад вялікага князя літоўскага Гедыміна. Дынастыя вялікіх князёў, палітычных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага. Ад Гедымінавічаў вялі сваё паходжанне расійскія, польскія і літоўскія княскія роды Астрожскіх, Алелькавічаў, Бельскіх, Булгакавых, Вішнявецкіх, Галіцыных, Заслаўскіх, Куракіных, Пінскіх, Сангушкаў, Трубяцкіх, Хаванскіх, Чартарыйскіх і інш. Гедымінавічы мелі родавыя і дынастычныя сувязі з Рурыкавічамі — княскім родам і першай царскай дынастыяй у Расіі. Сын Гедыміна

Альгерд меў за жонку Уляну — дачку вялікага князя цвярскога Аляксандра, яго ўнучатая пляменніца, унучка Кейстута і дачка Вітаўта Соф'я была замужам за вялікім князем маскоўскім Васілём І. З дачкой вялікага князя маскоўскага Івана III Аленай быў жанаты ўнук Ягайлы вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч. Гедымінавічы былі запрошаны на княжанне ў Ноўгарад і Пскоў.

***Генрык (Гінча) з Рогава*** (? — 29.09.1473) — падскарбі Каралеўства Польскага, кашталян сандамірскі герба Дзялаша. Паколькі яго бацька Гінчка таксама быў падскарбіем, Генрык з дзяцінства жыў у двары караля Ягайлы. Сярод іншых знаходзіўся ў пасольстве, якое вырушыла да графа Германа Цылейскага, каб папрасіць яго аддаць за Ягайлу сваю пляменніцу Ганну — унучку Казіміра Вялікага. Граф ад радасці заплакаў і згадзіўся на шлюб. Пасольства разам з цылейскімі рыцарамі праз Венгрыю вырушыла ў Кракаў. Аднак калі кароль убачыў сваю абранніцу, ён моцна загневаўся на паслоў, нават на Генрыка, бо Ганна не была прыгожай. Шлюб адклалі. Ён адбыўся толькі 29 студзеня 1402 года.

У 1430-я гады Генрык падтрымліваў гусітаў, а ў 1439 годзе далучыўся да канфедэрацыі Спытка з Мельштына, які выступаў супраць алігархічных памкненняў біскупа Збігнева Алясьніцкага. Але нечакана і надзвычай хутка здрадзіў канфедэрацыі і перайшоў на бок Алясьніцкага. Адным з першых уступіў у войска супраць канфедэратаў, быў на чале пяхоты. Такім чынам шмат зрабіў дзеля паразы канфедэратаў у бітве ля Гротнікаў. Пасля гэтага вельмі цесна супрацоўнічаў з дваром караля Уладзіслава Варненьчыка, быў разам з ім у паходзе на венграў, удзельнічаў ва ўрачыстым абранні Уладзіслава на венгерскага караля. Пасля ранення ў адной з бітваў у 1442 годзе вярнуўся на польскія землі.

Калі каралеўскі пасад заняў Казімір Ягелончык, Генрык апынуўся ў яго бліжэйшым атачэнні, з 1447 года атрымаў пасаду падскарбія Каралеўства. Выконваў розныя даручэнні кара-

ля, выязджаў з пасольствамі, браў удзел у перамовах. Удзельнік Трынаццацігадовай вайны супраць крыжакоў. Разам з каралём Казімірам у 1445 годзе браў удзел ва ўрачыстасцях уезду караля ў адваяваны ў крыжакоў Гданьск. У 1460 годзе саступіў з пасады падскарбія і праз год стаў сандамірскім кашталянам. Ад палітычнай дзейнасці не адыходзіў. Але і пра свой дабрабыт клапаціўся. Меў уласны дом ля каралеўскага замка на Вавельскай гары і два дамы ля яе падножжа. Нават пазычаў грошы каралям Уладзіславу і Казіміру, а таксама каралеве Соф'і Гальшанскай. У 1462 годзе атрымаў ад караля горад Радошыца і некалькі вёсак, пазней яшчэ некалькі гарадоў і вёсак. У 1472 годзе кароль падараваў яму 770 бочак солі.

Займаўся дабрачыннай дзейнасцю, у тым ліку ў дачыненні да Кракаўскага ўніверсітэта. За гэта атрымаў права быць пахаваным у кафедральным касцёле ў Вавелі, дзеля чаго разбудаваў і аздобіў капліцу для сябе, бацькі і брата.

Памёр 29.9.1473 г., пакінуўшы жонку Дароту з герба Ліс і малых дзяцей.

Але Генрык з Рогава вядомы ў гісторыі і тым, што быў абвінавачаны ў таемных сувязях з каралевай польскай і чацвёртай жонкай Ягайлы Соф'яй Гальшанскай. У 1427 годзе каралеву абвінавацілі ў здрадзе каралю. Падазрэнне пала на Генрыка і іншых дваровых. Спрабаваў уцячы, але няўдала. Зняволілі, зрабілі вязнем Хэнцінскага замка. Пазней быў вызвалены, хоць прычыны гэтага засталіся невядомымі. Існуюць і іншыя гістарычныя адгалінаванні ад гэтай версіі, аднак згадка пра здраду Соф'і і віну ў гэтым у тым ліку і Генрыка з Рогава сустракаецца ў многіх даследчыкаў.

***Генрык фон Плаўэн*** (1370–1429) — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна (1410–1413). Ад поўнага знішчэння Ордэн пасля Грунвальдскай бітвы ўратаваў комтур аднаго з замкаў над Віслай Генрык фон Плаўэн. Гэта быў ваяўнічы, актыўны і бескампрамісны чалавек. Ягоны род здаўна быў звязаны з рыцарствам. Прайшоў праз шэраг пасад у розных

месцах. Калі ў 1410 годзе для Ордэна ішла сапраўдная барацьба не на жыццё, а на смерць на Грунвальдскім полі, Генрык фон Плаўэн з 3 тысячамі вайскоўцаў знаходзіўся ў ваколіцах свайго замка на Вісле, засцерагаў Хэлмінскую зямлю ад нечаканых набегаў польскага войска. Яму ўдалося пасля паразы Ордэна арганізаваць абарону замка Мальбарк. Аблога доўжылася 9 тыдняў, і толькі дзякуючы Генрыку фон Плаўэну замак не паддаўся польска-літоўскаму войску, у той час як многія гарады і крэпасці аддаліся Ягайлу. 19 верасня 1410 года польска-літоўскія войскі, што стаялі ля Мальбарка, адышлі ад замка. Увесь гэты час Генрык паслугоўваўся тытулам намесніка крыжацкай дзяржавы, бо выбіраць новага вялікага магістра не было ўмоў. І толькі 9 лістапада 1410 года сабралася вялікая капітула, на якой Генрык фон Плаўэн быў выбраны вялікім магістрам.

З самага пачатку свайго кіраўніцтва Генрык быў адназначным прыхільнікам далейшай барацьбы з Каронай, лічыў, што рэванш за Грунвальд мажлівы. Нават паспрабаваў атакаваць Ягайлу, калі той з невялікім атрадам стаяў на Куявах. Усе навокал былі супраць новай вайны. Пад гэтым уплывам вялікі магістр згадзіўся на заключэнне Торуньскага міру 11 лютага 1411 года. Гэта было кампраміснае пагадненне для абодвух бакоў, бо Польшча не надта шмат набыла, а Ордэн няшмат страціў. Ён мусіў аддаць толькі Жмудзь і Дабжынскую зямлю. Найцяжэйшай для Ордэна была справа выкупу палонных, за што трэба было аддаць 100 тысяч коп чэшскіх грошаў. Такой сумы ў скарбніцы Ордэна не было. Праз усё жыццё Генрык мусіў збіраць іх, каб вызваліць сваіх супольнікаў.

Генрык меў ваяўнічы і помслівы характар, таму не мог дараваць тым, хто здрадзіў Ордэну ў 1410 годзе, пачаў помсціць канкрэтным асобам. Каго пасадзіў у вязніцу, у каго адабраў жыццё. У Гданьску і Торуні замянілі нават усю гарадскую раду. З давераных і паслухмяных асоб стварыў Краёвую Раду, якая яму падпарадкоўвалася і ад яго зале-

жала. Праз яе праводзіў усе непапулярныя для рыцарства рашэнні, гэта выклікала незадаволенасць ягонай палітыкай. Генрык не пакідаў думкі паквітацца з Каронай і Княствам. Калі ў 1413 годзе кароль польскі разам з Вітаўтам вырашаў у Гародлі справы гербавання літоўскага баярства, вялікі магістр Ордэна палічыў, што гэта самы зручны час для нападу. Але нечакана ён захварэў і мусіў застацца ў Мальбарку. У гэты час некаторыя прыхільнікі крыжакоў не пажадалі распачынаць новую вайну. Разгневаны Генрык выклікаў непаслухмяных у Мальбарк. Сярод іх быў і вялікі маршалак Міхаіл (Міхаэль) Кюхмайстар. Аднак маршалак зразумеў, што азначае такі выклік. Разам са сваімі прыхільнікамі ён вырушыў у сталіцу. А вось прыхільнікаў Генрыка фон Плаўэна ў замку аказалася мала — яны рыхтаваліся да бітвы. Кюхмайстар без перашкод увайшоў у палац вялікіх магістраў і перакрыў выхады. Генрык фон Плаўэн быў зняволены. Вялікім магістрам у 1414 годзе стаў Міхаіл Кюхмайстар. Аднак і ў вязніцы Генрык не губляў надзей. У 1414 годзе ён спрабаваў знайсці падтрымку палякаў у аднаўленні свае ўлады ў Ордэне. Перамовы на гэты конт вёў ягоны брат, таксама Генрык. Але змову выкрылі, брат вялікага магістра ўцёк з Прусіі. Генрыка фон Плаўэна пачалі ахоўваць яшчэ больш пільна. Трымалі ў замках то ў Гданьску, то ў Пакарміне. На волю выйшаў, верагодна, толькі пасля адмаўлення ад пасады Кюхмайстара — у 1422 годзе. Генрыка саслалі пракуратарам у Лохштат. 28 снежня 1529 года там ён і памёр. Цела перавезена ў Мальбарк і пахавана поруч з іншымі вялікімі магістрамі ў капліцы Святой Ганны.

***Гус Ян*** (1371 — 6.7.1415) — чэшскі тэолаг і рэфарматар, мысліцель і пісьменнік, прафесар Пражскага ўніверсітэта, заснавальнік ранняй чэшскай Рэфармацыі, нацыянальны герой. Выступаў супраць засілля немцаў у Чэхіі, выкрываў каталіцкае духавенства, якое адарвалася ад вернікаў і цешылася вялікімі багаццямі, патрабаваў рэформы каталіцкай царквы,

прапанаваў падпарадкаваць царкву каралю, адабраць яе багацці і службу весці на чэшскай мове, сам пераклаў на чэшскую мову Біблію. Адмаўляў царкоўныя аўтарытэты, Свяшчэннае Пісанне лічыў адзінай крыніцай веры. Выкрываў хібы ў дзейнасці і жыцці служкаў каталіцкага касцёла.

Ягоны паплечнік магістр Пражскага, Оксфардскага і Венскага ўніверсітэтаў Геранім Пражскі ездзіў па беларускіх землях і агітаваў за нацыянальную царкву, прапагандаваў гусіцкія ідэі. Для Гуса ідэалам была раннехрысціянская царква. У 1412 годзе Гус адлучаны ад царквы. Браў удзел у царкоўным саборы 1414–1418 гадоў у Канстанцы, адным з ініцыятараў якога быў імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі і кароль венгерскі Сігізмунд, быў там аб'яўлены ерэтыкам. Аднак цвёрда адказваў на ўсе абвінавачанні: «Не адракуся!» З падтрымкі Сігізмунда Ян быў спалены, а імператар распачаў супраць гусітаў крыжовыя паходы. Галоўныя перакананні Гуса былі падтрыманы прыхільнікамі Гусіцкіх войнаў, якія з 1419 да 1434 года чэхі вялі супраць каталіцкай царквы і нямецкага засілля.

У 1420 годзе гусіты ахвяравалі чэшскі трон Ягайлу, а калі ён адмовіўся, прапанавалі Вітаўту, але ён адаслаў туды Жыгімонта Карыбутавіча, які быў каранаваны чэшскім соймам у маі 1422 года. Але заўпарціўся Папа Рымскі, і Ягайла адклікаў Жыгімонта.

***Длугаш Ян*** (1415 — 10.5.1480) — вядомы польскі гісторык, дыпламат і царкоўны дзеяч сярэднявечча, ксёндз-канонік, арцыбіскуп Львоўскі, канонік Кракаўскі. Нарадзіўся ў рыцарскай сям'і, бацька быў удзельнікам Грунвальдскай перамогі над крыжакамі, таму сын выхоўваўся на гэтым прыкладзе. Скончыў Кракаўскую акадэмію. З 16 гадоў служыў у біскупа Кракаўскага Збігнева Алясьніцкага. Жыў каля самага Вавеля — на рагу вуліцы Кананічнай. Здзейсніў пілігрымку ў Святую зямлю. Падзяляў погляды Алясьніцкага аб дамінуючай ролі касцёла ў дзяржаве.

У 1467 годзе Казімір Ягелончык прызначыў Длугаша настаўнікам і выхаваўцам сваіх дзяцей. Даручаў яму адказныя дыпламатычныя місіі ў Чэхію і Венгрыю. Перад смерцю Длугаш быў названы Львоўскім арцыбіскупам, аднак не паспеў заняць пасаду. У 1455–1480 гадах напісаў на лацінскай мове грунтоўную і багатую, заснаваную на дакументах «Гісторыю Польшчы» ў 12 тамах. Шмат увагі ў ёй удзелена Княству, Гедыміну, Альгерду, Ягайлу, Вітаўту, Жыгімонту Кейстутавічу, гарадам і мястэчкам беларускай зямлі. Асобная кніга называецца «Грунвальдская бітва». Як зазначалі многія даследчыкі, у тым ліку нямецкія, у працы выкладзены найбольш аб'ектыўны погляд на падзеі бітвы пад Грунвальдам. Менавіта на ягоным поглядзе на бітву народаў каля Грунвальда грунтуецца вядомы раман лаўрэата Нобелеўскай прэміі Генрыка Сянкевіча «Крыжакі». Выдаваў з 1455 года аж да смерці гістарычныя «Штогоднікі». Меў доступ да дакументаў, якія захоўваліся ў Вавелі, што спрыяла працы над кнігамі.

***Друцкія*** — старажытны княскі род крывіцкага паходжання герба Друцк. Згодна з некаторымі меркаваннямі, паходзіць ад Усяслава Чарадзея. Сын полацкага князя Барыса Усяславіча князь Рагвалод пасля паразы ў змаганні за полацкі пасад (1161) завалодаў Друцкім княствам. Прадстаўнікі роду займалі высокія пасады ў Княстве, былі буйнымі землеўласнікамі. У XIV стагоддзі род падзяліўся на дзве лініі: прадстаўнікі старэйшай, што паходзіла ад князя Васіля Міхайлавіча, у пачатку XVI стагоддзя выехалі ў Маскву, малодшая лінія пайшла ад князя Сямёна Міхайлавіча і засталася ў Княстве, падзялілася на некалькі галін.

Друцкія праз Аляксандру Дзмітраўну (1380? — 1426) — сястру Сямёна Дзмітравіча, якая стала жонкай Андрэя Іванавіча Гальшанскага, парадніліся з гэтым вядомым княскім родам. Іхняя дачка Соф'я Гальшанская 24 лютага 1422 года стала жонкай Ягайлы і каралевай польскай. У Сямёна

Дзмітравіча пасля смерці ў 1410 годзе Андрэя Вязынскага выхоўваліся дочкі роднай сястры Аляксандры Гальшанскай Васіліса, Соф'я, Марыя. Выхоўваліся разам з яго сынамі, якіх было шасцёра: Іван Баба, Іван Пуцята, Рыгор, Дзмітрый Сякіра, Міхаіл Лобан, Васіль Красны.

Іван Баба (каля 1385 — пасля 1436) быў намеснікам у Полацку, спрыяў Свідрыгайлу ў барацьбе супраць Жыгімонта Кейстутавіча. Пасля яго паражэння ў 1435 годзе Іван Баба ўцёк разам з малодшымі сынамі Іванам, Васілём і Сямёнам Бабічамі ў Маскву, служыў у Васіля Цёмнага. Старэйшыя Бабічы — сыны Івана Канстанцін і Фёдар — не з'ехалі з Княства. Пазней яго старэйшы сын Канстанцін Бабіч з'яўляўся чашнікам Уляны Гальшанскай — удавы Вітаўта Вялікага.

Ад Сямёна Бабіча (? — пасля 1514) пайшоў род князёў Друцкіх-Сакалінскіх, ад Фёдара Іванавіча Бабіча (гады жыцця невядомыя) — князёў Друцкіх-Канопляў, ад Івана Бабіча (гады жыцця невядомыя), які браў удзел у 1508 годзе ў бунце Міхаіла Глінскага і пазней разам з ім з'ехаў у Маскву, — князёў Друцкіх-Азярэцкіх.

Іван Пуцята (каля 1390 — пасля 1440), як і Іван Баба, быў членам рады Свідрыгайлы. Ад ягонага сына Міхаіла пайшоў род князёў Друцкіх-Талачынскіх, а ад Васіля (каля 1430 — да 1495), які меў 5 сыноў, запачаткаваўся род князёў Друцкіх-Горскіх.

Рыгор (гады жыцця невядомыя) меў сына Васіля, сын якога Раман (каля 1450 — да 1525) стаў заснавальнікам роду князёў Друцкіх-Любецкіх. У Рыгора быў таксама сын Багдан (каля 1450 — да 1500).

Дзмітрый (Мітка, Сякіра; каля 1400 — пасля 1444) меў у валоданні маёнтак Зубрэвічы (Аршанскі павет), таму і называлі яго князем Зубрэвіцкім. Ягоная дачка Марыя была замужам за гальшанскім князем Сямёнам Сямёнавічам.

Міхаіл Лобан загінуў у бітве пад Вількамірам у 1435 годзе, не маючы нашчадкаў.

Васіль Красны (каля 1410 — 1448) быў віцебскім намеснікам падчас праўлення Свідрыгайлы. На ягоным сыне ад першай жонкі — сястры князя Фёдара Варатынскага Іване спынілася гэтая галіна роду.

***Жыгімонт Карыбутавіч*** (1385? — 1.9.1435) — сын Дзмітрыя Карыбута, роднага брата Ягайлы, быў спадарожнікам Вітаўта ў ваенных паходах у 1404, 1414 гадах, у тым ліку на чале сваёй харугвы браў удзел у Грунвальдскай бітве 1410 года; пасля быў разам з Ягайлам у дыпламатычных паездках; у 1422 годзе адасланы да чэхаў ад імя Вітаўта як «кароль пастулата» — намеснік Вітаўта ў Празе; на чале амаль 5-тысячнага войска, добра ўзброенага, пачаў змаганне за трон; быў прыняты гусітамі як каралеўскі намеснік; праз год афіцыйна адкліканы Ягайлам, але зноў у 1424 годзе адправіўся ў Чэхію, выбраны каралём чэшскім, у 1427 годзе быў зняволены і праз 4 месяцы выпраўлены да польскай мяжы; у 1431 годзе на чале атрада гусітаў нападаў на Венгрыю. 1 верасня 1435 года на чале войска вялікага князя Свідрыгайлы Альгердавіча ўдзельнічаў у бітве каля Вількаміра супраць Жыгімонта Кейстутавіча, узяты ў палон, памёр ад ран.

***Жыгімонт Кейстутавіч*** (каля 1365 — 20.3.1440) — малодшы сын трокскага князя Кейстута і Біруты — жрыцы-вайдэлоткі, выкрадзенай Кейстутам з літоўскага капішча, брат Вітаўта. Вялікі князь літоўскі (1432–1440). Падчас барацьбы Вітаўта за ўладу быў зняволены Ягайлам. У 1384 годзе разам з Вітаўтам заключыў дагавор з Тэўтонскім ордэнам, скіраваны супраць Ягайлы. Сумесна з Вітаўтам вёў хітрыя зносіны з крыжакамі, быў заложнікам у вялікага магістра Тэўтонскага ордэна ў крэпасці Марыенбург — да 1398 года. Пасля вяртання Вітаўт аддаў яму Старадубскае княства.

Удзельнік многіх гістарычных падзей, у тым ліку бітвы на Ворскле (1399), Грунвальдскай бітвы (1410). У 1432 годзе ўдзельнічаў у змове супраць Свідрыгайлы. Пасля таго як Свідрыгайла ўцёк у Полацк, стаў вялікім князем літоўскім,

аднак пэўная частка зямель, найперш з праваслаўнымі жыхарамі, падтрымлівала Свідрыгайлу, які замацаваўся ў Віцебску. Пачалася барацьба Свідрыгайлы за пасад (Свідрыгайлава паўстанне 1432–1439 гадоў). Сурова кіраваў гаспадарствам, быў надта падазроны. Замардаваны ў Трокскім замку ў 1440 годзе змоўшчыкамі на чале з князямі Аляксандрам і Іванам Чартарыйскімі, віленскім ваяводам Доўгірдам і трокскім ваяводам Пятром Лелушам (гл. артыкул пра Чартарыйскіх).

***Жыгімонт III Ваза*** (20.6.1566 — 30.4.1632) — сын караля Швецыі Юхана (Яна) III Вазы — швагра Жыгімонта II Аўгуста і Кацярыны Ягелонкі — дачкі Жыгімонта I Старога. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1587–1632), кароль шведскі (1592–1599). У 1592 годзе пайшла пагалоска, што кароль хоча перадаць польскую карону Габсбургам, сведчаць, што быў нават раскрыты такі план, за што Жыгімонта паклікалі на суд на сейме. Жыгімонт быў на польскім пасадзе першым з дынастыі Вазаў, якая змяніла дынастыю Ягелонаў. На гаспадара Княства і Польшчы абраны пасля смерці Стэфана Баторыя з падтрымкі каралевы Ганны Ягелонкі. Імкнуўся мець падтрымку беларуска-літоўскай шляхты. Пры ім пачалася вольная элекцыя каралёў, названая палякамі часам шляхецкай залатой вольнасці. З'явіўся нават такі выраз: *rex regnat, sed non gubernat* — кароль каралюе, але не кіруе. Жыгімонт III зацвердзіў Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, які падкрэсліваў самастойнасць Княства і забараняў польскай шляхце атрымліваць у ВКЛ землі і пасады. Ён жа меў жаданне далучыць да Рэчы Паспалітай Маскоўскую дзяржаву, таму падтрымліваў Ілжэдзмітрыя I і Ілжэдзмітрыя II. У 1609 годзе распачаў вайну Польшчы з Расіяй, якая доўжылася да 1618 года. Нанёс паразу расійскай арміі каля Клушына, у выніку чаго Васіль Шуйскі быў пазбаўлены царскага пасада, а на цара маскоўцы аб'явілі (1610) сына Жыгімонта Вазы Уладзіслава (9.6.1565 — 20.5.1648). Распачаў вайну 1609–1618 гадоў Рэчы

Паспалітай і Расіі са Швецыяй (1600–1609), у 1620– 1621 гадах вёў вайну з Турцыяй.

Прыхільнік заключэння Брэсцкай уніі 1596 года. Перанёс сталіцу з Кракава ў Варшаву (1596, 1611). Сучаснікі лічылі, што ён не здолеў стабілізаваць ні знешнюю, ні ўнутраную палітыку дзяржавы, а ягоныя ваяўнічыя намкненні ў змаганні з Чэхіяй, Трансільваніяй (інакш — Сяміграддзе, венгерска-румынскія землі, сучасная паўночназаходняя тэрыторыя Румыніі) і іншымі краінамі не прынеслі поспеху. Пасля смерці бацькі ў 1592 годзе стаў шведскім каралём, але ў 1599 годзе пратэстанты скінулі яго з пасаду. Праз усё жыццё намагаўся вярнуць гэты пасад, з-за чаго ўцягнуў у канфлікт са Швецыяй і Польшчу. Першы шлюб меў з аўстрыйскай герцагіняй Ганнай, другі з яе сястрой Канстанцыяй.

***Жыжка Ян*** (1360 — 11.10.1424) — дзеяч гусіцкага руху, які разгарнуўся ў 1419–1437 гадах у Чэхіі за рэформу каталіцкай царквы, супраць нямецкага засілля і іншаземнай інтэрвенцыі. У той час вышэйшае духавенства валодала велізарнымі багаццямі, цешылася раскошай. Гэта прывяло да зніжэння аўтарытэту касцёла. Супраць такога становішча выступіў прапаведнік і мысліцель Ян Гус, якога ўрэшце асудзілі і спалілі на кастры. Жыжка — нацыянальны герой, палкаводзец. Быў на службе (з 1409) у Ягайлы, удзельнік Грунвальдскай бітвы. З 1414 года знаходзіўся пры двары караля чэшскага Вацлава IV. Адзін з кіраўнікоў Пражскага паўстання 30 ліпеня 1419 года. Калі імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі і пераемнік караля чэшскага Вацлава IV Сігізмунд і Папа Рымскі Марцін V у красавіку 1420 года аб'явілі крыжовы паход супраць гусітаў, крыжаносцы асадзілі Прагу. Аднак 14 ліпеня яны былі разбіты Янам Жыжкам на Віткавай гары, а Сігізмунд страціў свой чэшскі пасад. У снежні 1420 года Жыжка стаў першым гетманам табарытаў — адной з гусіцкіх група-

вак. Падчас аблогі аднаго з замкаў страціў зрок. У барацьбе з крыжакамі патрабаваліся моцныя сілы, таму чэхі прапанавалі каралеўскі пасад Вітаўту, аднак ён замест сябе паслаў Жыгімонта Карыбутавіча. Ён у маі 1422 года на чале 5-тысячнага войска ўвайшоў у Прагу, на сейме атрымаў каралеўскую карону. Пазней Вітаўт мусіў адклікаць яго, у асноўным з-за пазіцыі Папы Рымскага. У 1423 годзе Жыжка адышоў ад табарытаў, якія былі настроены радыкальна. Памёр ад чумы.

***Завіша Чорны*** — рыцар, стараста спішскі; у 1422 годзе, калі вяліся перамовы аб жаніцьбе Ягайлы з чэшскай каралевай-удавой Офкай, быў у Ягайлавым пасольстве да Сігізмунда Люксембургскага, а той упрасіў яго выступіць разам у паход супраць гусітаў. У першай жа бітве быў зняволены і знаходзіўся ў чэшскім палоне каля года; пазней загінуў пад Галубцом над Дунаем у Харватыі ў 1428 годзе.

***Казімір III Вялікі*** (3.4.1310 — 5.11.1370) — кароль польскі (1333–1370), апошні з дынастыі Пястаў, каранаваны з жонкай Альдонай-Ганнай 25 красавіка 1333 года ў Кракаве (памерла ў маі 1339). Адзіны сын польскага караля Уладзіслава I Лакеткі і Ядвігі. У 1325 годзе насуперак жаданню Казіміра яму была аддадзена за жонку Альдона, якую палякі называлі Анна, а то і проста Ганна, — дачка вялікага князя літоўскага Гедыміна, што ўмацоўвала сувязі дзвюх дзяржаў і ўзмацняла барацьбу супраць Тэўтонскага ордэна. Спрабаваў захапіць Галіцыю і абвясціць сябе гаспадаром Русі. У 1332 годзе заключыў мір з крыжакамі, які ў 1333 годзе быў прадоўжаны на адзін год. У 1335 годзе (фармальна ў 1339-м) адмовіўся ад Шлёнскіх княстваў на карысць Чэхіі, а таксама адмовіўся ад Плоцкага княства ўзамен за адмову караля чэшскага Яна Люксембургскага ад прэтэнзій на карону польскую. У 1343 годзе заключыў з крыжакамі Калішскі мір, атрымаўшы Куявы і Дабжынскую зямлю. У 1340–1349 далучыў да Польшчы Русь Галіцка-Уладзімірскую, у 1355 годзе

ў Будзе пацвердзіў права пасля сваёй смерці каралю венгерскаму Людвіку Вялікаму стаць каралём польскім.

Пабудаваў каля 50 замкаў, заснаваў у Кракаве першую ў Польшчы Акадэмію. Здолеў з'яднаць Каралеўства Польскае пасля двух стагоддзяў феадальнай анархіі. У 1351 годзе сумеснае польска-венгерскае войска Казіміра і Людвіка вырушыла супраць Вялікага Княства Літоўскага. Але ў Любліне кароль польскі захварэў, выправу правіў адзін Людвік. Венгерскі кароль мусіў падпісаць мір з Кейстутам, які абяцаў ахрысціцца на каталіка і стварыць біскупства ў Княстве. Аднак Кейстут не спяшаўся выконваць абяцанае, і польска-венгерская выправа скончылася нічым. Пасля смерці Альдоны ўзяў шлюб з дачкой гескага ландграфа Адэлаідай 29 верасня 1341 года. Але шлюб аказаўся фармальным, і Казімір выношваў ідэю яго скасавання. Яшчэ не атрымаўшы дазволу на скасаванне шлюбу з Адэлаідай, у лютым 1365 года ажаніўся з дачкой жаганскага князя Генрыка V Жалезнага Ядвігай. Адэлаіда, якую выгналі з Каралеўства Польскага, пасылала скаргі Папу Рымскаму на абразы, атрыманыя ад Казіміра. Папа падтрымаў Адэлаіду і прызнаў шлюб караля з Ядвігай нелегальным. Сыноў Казімір не меў. Таму прызнаў нашчадкам караля венгерскага Людвіка — сына сваёй сястры Эльжбеты і Карла Роберта. Аднак на самай справе ролю намесніка караля выконвала ягоная матка каралева Эльжбета Лакеткаўна.

***Карыбут, у хрышчэнні Дзмітрый*** (? — пасля 1404) — князь з дынастыі Гедымінавічаў. Быў трэцім сынам вялікага князя літоўскага Альгерда і Уляны Аляксандраўны Цвярской. У 1382 годзе разам з братамі Ягайлам і Скіргайлам удзельнічаў у падпісанні дагавора з крыжакамі на р. Дубіса. У 1386 годзе склаў прысягу ў Луцку польскаму каралю Ягайлу, назваў сябе гаспадаром Навагародка, а Вітаўту як вялікаму князю не захацеў прысягаць. Калі ў 1392 годзе быў разбіты Вітаўтавымі воямі, схаваўся ў Навагародку. Але быў разам з дзецьмі і жон-

кай узяты ў палон. Па хадайніцтве свайго цесця — разанскага князя Алега быў адпушчаны. Неўзабаве памірыўся з Вітаўтам, разам хадзілі ў баявыя паходы. Ад жонкі Настассі — удавы друцкага князя Дзмітрыя Васільевіча меў сыноў Івана, Жыгімонта, Фёдара і дачок Настассю, Алену і Марыю.

***Карыбутавічы*** — княскі род у Вялікім Княстве Літоўскім герба Пагоня, адно з адгалінаванняў Альгердавічаў. Паходзіў ад восьмага Альгердавага сына Карыбута, які меў сыноў: Івана, Жыгімонта і Фёдара. Жыгімонт (каля 1385 — 1435), удзельнік Грунвальдскай бітвы са сваёй харугвай. Служыў у войску Вітаўта. У 1422 годзе з'яўляўся прэтэндэнтам на пасад чэшскага караля, яго падтрымлівалі Княства і Карона. Падтрымаў абранне вялікім князем літоўскім Свідрыгайлы. На яго баку разам з братам Фёдарам, які трапіў у палон, ваяваў з Жыгімонтам Кейстутавічам. Забіты пад Вількамірам. Фёдар (каля 1390 — 1440), у бітве пад Вількамірам быў на баку Свідрыгайлы, апынуўся ў палоне.

***Карыятавічы*** — сыны навагародскага князя Карыята (у хрышчэнні Міхаіла) Гедымінавіча (1306 — паміж 1358 і 1366), які быў правіцелем на Валыні. Карыят атрымаў ад бацькі — вялікага князя літоўскага Навагародак і Навагародскую зямлю. Ён меў 6 сыноў: Юрый (? — 1374), Аляксандр, Канстанцін — у 1362 годзе ўдзельнічалі ў паходзе Альгерда супраць татараў. Пасля далучэння да Княства Падолля (бітва ля Сініх Вод) сталі там намеснікамі. Ахрысціліся па лацінскім абрадзе. Каля 1374 года Юрый быў запрошаны стаць гаспадаром Малдовы, там жа быў забіты. Леў (? — 1399) загінуў у бітве на Ворскле. Дзмітрый (да 1356 — пасля 1380), які меў прозвішча Баброк-Валынскі, у 1356 годзе ажаніўся з сястрой вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча Данскога Ганнай, стаў ягоным ваяводам. У другой палове 1360-х гадоў пераехаў у Маскву. У 1371 годзе павёў маскоўскае войска супраць разанскага князя Алега, разбіў яго. У Кулікоўскай бітве 1380 года

Дзмітрый разам з серпухаўскім князем Уладзімірам камандаваў палком, які знаходзіўся ў засадзе, што паспрыяла перамозе рускага войска.

***Кейстут*** (1297 — 15.8.1382) — сын Гедыміна ад другой жонкі — смаленскай княжны Вольгі Усеваладаўны, брат Альгерда, бацька Вітаўта, дзядзька Ягайлы. Князь трокскі і жамойцкі, вялікі князь літоўскі (1381–1382, у 1345–1377 адначасова з Альгердам), уладарыў у заходняй частцы Княства. Тут былі найбольш частыя сутычкі з крыжакамі. У 1370 годзе разам з Альгердам атрымаў перамогу над Тэўтонскім ордэнам каля Рудава, што пад Кёнігсбергам (Калінінград). Меў рэзідэнцыю ў Троках. Пасля паспяховага адлучэння ад гаспадарання свайго малодшага брата Яўнута паспрыяў старэйшаму брату Альгерду заняць велікакняскі пасад. У 1381 годзе выступіў супраць Ягайлы, захапіў Вільню і стаў гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага. Той у чэрвені 1382 года адваяваў Вільню, захапіў Кейстута, зрабіў вязнем Крэўскага замка, дзе ў Княскай вежы Ягайлаў дзядзька 15 жніўня 1382 года быў задушаны. Разам з гэтым згінулі надзеі жамойцкай знаці стаць вядучай сілай у Княстве. Ягайла загадаў спаліць цела Кейстута па язычніцкім звычаі з усімі высокімі ўшанаваннямі на галоўным капішчы Свінтарога ў Вільні.

Сваёй другой жонкай Кейстут меў прыгажуню Біруту. Ён выкраў яе з літоўскага капішча каля Палангі, дзе яна была жрыцай-вайдэлоткай — мусіла сцерагчы святы агонь Зніч. Ён прывёз Біруту ў Трокі і, насуперак яе абяцанню служыць толькі багам, зрабіў сваёй жонкай. Біруta нарадзіла шасцёра сыноў: Вайдата (Канстанціна, 1342–1381, у 1362 годзе падчас абароны Коўна трапіў у палон да крыжаносцаў, там прыняў каталіцтва, знаходзіўся ў двары імператара Карла IV, атрымаў ад Ордэна замак Велаў), Пацірга (? — 1397, загінуў у паходзе Вітаўта на Залатую Арду), Бутаўта (Генрыха, 1330? — 1380, разам з крыжаносцамі пазней ваяваў супраць Кейстута, ха-

цеў атрымаць уладны пасад), Таўцівіла (Конрада, 1350–1390, загінуў падчас абароны Вільні ад крыжаносцаў), Жыгімонта (1348? — 1440, у 1432 годзе стаў вялікім князем літоўскім, быў забіты) і Вітаўта, — а таксама чатырох дачок. Да гэтага часу ў Паланзе знаходзіцца гара Біруты, дзе яна была пахавана. Гара з'яўляецца месцам культу Біруты.

***Кейстутавічы*** — княскі род у Вялікім Княстве Літоўскім у XIV–XV стагоддзях. Паходзіць ад вялікага князя Кейстута — сына вялікага князя літоўскага Гедыміна, у якога было 6 сыноў. Вітаўт і Жыгімонт сталі вялікімі князямі літоўскімі. У 1452 годзе памёр апошні з роду — Міхаіл Жыгімонтавіч, у якога не засталося нашчадкаў.

***Конрад фон Валенрод (Валенродэ)*** (? — 20.8.1393) — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна ў 1391–1393 гадах. Паходзіць са старажытнага рыцарскага роду, які асеў у Швабах на поўнач ад Нюрнберга. Вялікі маршалак Ордэна Фрыдэрык фон Валенрод, які загінуў у Грунвальдскай бітве, быў ягоным братам, а памерлы ў 1419 годзе арцыбіскуп Рыгі — ягоным кузэнам. Пачынаў сваю дзейнасць як пракуратар. Пазней зблізіўся з будучым вялікім магістрам Конрадам Цолнерам фон Ротэнштайнам, пры ім атрымаў пасаду вялікага маршалка Ордэна (1382–1387). Пасля гэтага стаў вялікім комтурам — бліжэйшым супрацоўнікам вялікага магістра. Меў уплыў на вайсковы стан Ордэна. Як і ягоны папярэднік, супрацьдзейнічаў польска-літоўскай уніі. З яго ініцыятывы была распачата таемная акцыя па вывучэнні і апісанні ўсіх дарог на крыжацка-літоўскім памежжы, што спрыяла нападам на Княства.

Пасля смерці Конрада Цолнера фон Ротэнштайна 12 сакавіка 1391 года ў Мальбарку сабралася генеральная капітула Ордэна, каб выбраць новага вялікага магістра. З'ехалася 250 крыжацкіх дастойнікаў. Адзінагалосна абралі на высокі пасад Конрада фон Валенрода. У гэты час адносіны з Княствам і Каронай складваліся не лепшым чынам. Спадзеў кры-

жакоў на Вітаўта не апраўдаўся, бо ён хутка паразумеўся з Ягайлам у барацьбе з Ордэнам. Не ладзіліся справы і ў Рызе. Адносіны да Конрада фон Валенрода былі таксама не надта прыхільнымі. Яго нават абвінавачвалі, што здрадзіў Ордэну, што быў тыранам і бязбожнікам. Сучасныя яму хронікі засведчылі: «Гнеўны чалавек з непрыемным аблiччам... Ксяндзамі і манахамі моцна пагарджаў, таму падчас яго смерці ніводзін не хацеў прыйсці на суцяшэнне... Богу гонар і ўхвала, што мы сталі вольнымі ад такой тыраніі. Дужы душой і целам, але з нядобрымі схільнасцямі...» Аднак у гісторыі ён застаўся і як вялікі арганізатар, здольны кіраўнік дзяржавы.

Як спрактыкаваны дыпламат у 1382 годзе заключыў з каралём Ягайлам перамір'е на р. Дубіса (Літва), згодна з якім да крыжакоў адышла заходняя частка Жамойці. Падтрымліваў Вітаўта ў змаганні супраць Ягайлы. У жніўні–верасні 1391 года наладзіў вялікі паход на землі Княства, атрымаў перамогу над польска-літоўскім войскам ля Вількаміра. Аднак на Вільню з войскам не пайшоў, а скіраваўся з часткай вояў у Прусію, бо тады кароль польскі Ягайла атакаваў дабжанскія землі.

***Конрад фон Юнгінген*** (каля 1355 — 30.3.1407) — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна (1393–1407). Паходзіў са Швабіі, з мясцовасці Юнгінген. Разам з малодшым братам Ульрыкам каля 1380 года ўступіў у Крыжацкі ордэн. Напачатку быў дамовым комтурам у Аструдзе, пазней — падскарбі ў Мальбарку. Калі пасля смерці Конрада фон Валенрода сабралася генеральная капітула, Конрада фон Юнгінгена абралі элекцыйным комтурам — чалавекам, які павінен быў сачыць за правільнасцю выбараў вялікага магістра. Але нечакана яго таксама назвалі ў якасці кандыдата на высокі пасад. 30 лістапада 1393 года быў аднагалосна абраны вялікім магістрам.

Тагачасныя хронікі падкрэсліваюць, што ён быў прыхільнікам захавання міру з суседзямі. Аднак добра разумеў тую небяспеку, якую нясе з сабой умацаванне уніі паміж

Каронай і Княствам. Таму прыкладаў неверагодныя высілкі, каб разарваць яе альбо хоць бы аслабіць. Гэтаму павінна была б паспрыяць вялікая крыжацкая выправа на Вільню ў 1394 годзе. Аднак яна аказалася няўдалай, і тады Конрад фон Юнгінген зрабіў стаўку на Вітаўта. У гэты час узнікла жаданне з дапамогай вайсковай падтрымкі крыжакоў далучыць да Княства Ноўгарад Вялікі. А для Конрада гэта было мажлівасцю адцягнуць увагу Вітаўта ад Кароны, аслабіць іхнія повязі. Але ён памыліўся.

Калі Ноўгарад знік з інтарэсаў Вітаўта, той пачаў яшчэ цясней супрацоўнічаць з Каронай. Тады Конрад задумаў аслабіць Карону. Перыядычна ўзнікалі праблемы са Жмуддзю, якая бунтавала супраць Ордэна. І толькі ў 1404 годзе з дапамогай Вітаўта ўдалося яе суцішыць, за што крыжакі паабяцалі вялікаму князю літоўскаму дапамогу ў выправе на Русь у 1408 годзе. На Балтыцы крыжакам шкодзілі піраты, не паддаваліся Ордэну і скандынаўскія дзяржавы. Конрад скіраваў свой інтарэс на польска-літоўскі напрамак. Пачалося паддобрыванне. У 1401 годзе вялікі магістр паслаў Ягайлу ў якасці прэзента свайго лепшага сокала. А ў 1404 годзе ў Рацянжку на Куявах сабраліся пасольствы з Кароны, Княства і Прусіі, была заключана дамова, якая захоўвала тую сітуацыю, што склалася. Толькі Ордэн мусіў адмовіцца ад Дабжанскай зямлі. Гэта сустрэла вострую рэакцыю найбольш непрымірымых крыжакоў. Яны пачалі крытыкаваць Конрада фон Юнгінгена. Казалі, што яму не стае волі змагацца за інтарэсы крыжацкай дзяржавы, што мае слабы дух, патрабавалі хуткай і рашучай расправы з польска-літоўскай уніяй. Найбольш зласлівыя казалі, што яму лацвей было б называцца абатам жаночага ордэна, і пачалі называць яго «спадарыня абатыса». Конрад цярпеў і толькі перасцерагаў: «Пасля маёй смерці будзеце мець тут такую вялікую вайну, што нічога вам не дапаможа». Словы спраўдзіліся.

Цяжкасці былі абумоўлены і тым, што на той час ідэя рыцарства перажывала крызіс. Не хапала нават ахвотнікаў шляхецкага паходжання для службы ў Ордэне. У 1406 годзе вялікі магістр выслаў у Германію пасланніка, каб набраў маладых, здаровых і шляхетных рыцараў. Але набіраць братоў для Ордэна было надзвычай цяжка.

У апошнія гады жыцця Конрад фон Юнгінген цяжка хварэў. 30 сакавіка 1407 года ў Мальбарку ён памёр.

***Людвік Венгерскі, Анжуйскі, Людвік I Вялікі (Лаяш Вялікі)*** (5.3.1326 — 11.9.1382) — кароль венгерскі (1342–1382) і кароль польскі Людвік Анжуйскі (1370–1382), бацька каралевы Ядвігі, якая стала жонкай Ягайлы. Сын французскага караля Карла Анжуйскага і Эльжбеты Лакеткаўны — сястры польскага караля Казіміра III, сербскай прынцэсы. Другой жонкай была Эльжбета Баснячка. У 1365 годзе ў іх нарадзілася дачка Кацярына, якая стала жонкай Людвіка Арлеанскага, у 1370-м — Марыя, якая стала жонкай Сігізмунда Люксембургскага і каралевай венгерскай. Апошняй на пачатку 1374 (або ў канцы 1373) года на свет з'явілася Ядвіга. Сыноў у каралеўскім сямействе не было.

Людвік, які з 17 лістапада 1370 года быў каранаваны і на караля польскага, вярнуўся ў Венгрыю і забраў з сабой карону і іншыя каралеўскія рэгаліі, каб у яго адсутнасць палякі не абралі новага гаспадара. Кіраванне Польшчай пакінуў сваёй маці Эльжбеце, дачцэ Уладзіслава Лакеткі, якая набыла тытул каралевы польскай. Яна ў 1374 годзе давяла да Кошыцкага рашэння аб магчымасці спадчыннага атрымання каралеўскага трона дочкамі Людвіка, а не толькі мужчынамі-спадчыннікамі. У 1375 годзе яна вярнулася ў Венгрыю, аднак па просьбе сына прыехала зноў у Польшчу. Было ёй тады амаль 80 гадоў. Затым адбыліся падзеі з нападам літоўскіх вояў на край і з вялікім тлумам у Кракаве, падчас якога загінула 160 венграў з каралеўскага атачэння. На пачатку 1377 года Эльжбета пакінула Польшчу.

Новым намеснікам караля на польскіх землях стаў Уладзіслаў Апольчык. З 1372 года ён кіраваў Руссю Чырвонай. Аднак з розных прычын, найперш з-за незадаволенасці польскіх магнатаў, быў адхілены ад польскага пасада, і пасад быў зноў аддадзены маці Людвіка Эльжбеце. Яна знаходзілася ў Польшчы ў 1378 і 1379 гадах. Але хваробы і гады рабілі сваю справу. Людвік мусіў аддаць уладу намесніка групе польскіх магнатаў. У сакавіку 1381 года галоўным стаў Завіша з Курозвак і чатыры магнаты. Калі ў 1382 годзе памёр Завіша, на пасадзе заставаліся чацвёра іншых. Так доўжылася да смерці самога Людвіка. Перад смерцю (ноч з 10 на 11 верасня 1382 года) Людвік наказаў аддаць польскую карону дачцэ Марыі, а Ядвізе пераказаў венгерскую карону. Аднак «карты пераблытала» ўдава Эльжбета Баснячка. Венгры абралі каралевай Марыю. Польскія магнаты не хацелі, каб яна была і іхняй каралевай. Ім імпанавала, каб каралева заўсёды знаходзілася ў Польшчы, а не наездамі. 26 лютага 1383 года на з'ездзе польскіх паноў у Серадзе паслы каралевы Эльжбеты, удавы Людвіка, паведамілі, што на польскі пасад прызначаецца Ядвіга. Аднак у выніку розных прычын, звязаных са спробамі іншых асоб апанаваць тронам, Ядвіга толькі ў кастрычніку 1384 года прыехала ў Польшчу і 16 кастрычніка была каранавана на караля (а не на каралеву) польскага.

Людвік разам з войскам крыжакоў у лютым 1345 года браў удзел у асадзе Вільні, але беспаспяхова. Удзельнічаў у іншых паходах на землі Княства, у 1351 годзе захапіў у палон валынскага князя Любарта і Кейстута, якому ўдалося ўцячы.

Меў праекты хрысціянізацыі Літвы. Ахвотна пашыраў рыцарства, якое ў гэты час перажывала ў Еўропе «залаты век». Шмат спрыяў станаўленню аўтарытэту Венгрыі ў Еўропе. Пры ім пачалася чаканка залатога дуката, які ў XIV–XVI стагоддзях з'яўляўся рэгіянальнай валютай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, у тым ліку на беларускіх землях.

Ягоны Кошыцкі прывілей 1374 года практычна запачаткаваў шляхецкі лад кіравання ў Каралеўстве Польскім.

***Мацей з Трокаў*** (? — 1453) — ураджэнец Вільні, з 1417 года быў біскупам Жамойцкім. Пасля смерці біскупа Пятра з Кустыня ў 1421 годзе намагаўся стаць біскупам Віленскім; Вітаўт не дапускаў яго да гэтага, бо хацеў мець на пасадзе Мікалая, Трокскага пробашча, і толькі пасля шлюбу Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай згадзіўся. Біскуп Мацей падтрымліваў палітыку Вітаўта і Свідрыгайлы, скіраваную на адрыў Княства ад Польшчы.

***Міхаіл Жыгімонтавіч*** (? — 1448) — сын Жыгімонта Кейстутавіча. Пасля смерці ягонага бацькі спрыяльнікі Жыгімонта хацелі ўзвесці на велікакняскі пасад Міхаіла. А кароль польскі Уладзіслаў III Ягелончык прызначыў сваім намеснікам роднага брата Казіміра, якога ўрэшце хітрыя літоўцы зрабілі гаспадаром Княства. Міхаіл быў не задаволены княжаннем Казіміра, пакінуў дараваны яму Клецк і ў 1442 годзе ўцёк у Маскву. Калі Казімір стаў і каралём польскім, Міхаіл вярнуўся з Масквы і прасіў у яго даравання. Але Казімір не прыняў просьбы, і Міхаіл падбухторваў татараў супраць караля. Будучы пераможаным, зноў уцёк у Маскву, жыў у манастыры, дзе быў атручаны ў 1448 годзе. Адчуваючы сваю віну перад Міхаілам, Казімір Ягелончык у 1452 годзе перанёс ягонае цела ў Княства і ўрачыста пахаваў у Віленскай катэдры.

***Міхаіл (Міхаэль) Кюхмайстар*** (1360 ці 1370 — 1423) — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна (1414–1422), паходзіў са старажытнай шлёнскай рыцарскай сям'і. Членства ў Ордэне пачынаў пракуратарам у адным з невялікіх замкаў. З'яўляўся вялікім эканомам, затым войтам Жамойці. Калі ў 1408 годзе Вітаўт вырушыў на маскоўскія землі, Міхаіл Кюхмайстар быў адным з кіраўнікоў атрадаў у ягоным войску. У Грунвальдскай бітве не ўдзельнічаў. Нядоўгі час быў вялікім маршалкам Ордэна, уваходзіў у апазіцыю Генрыку фон Плаўэну. У 1413 годзе яго прызначылі камандуючым

войскамі, якія павінны былі вырушыць на польскія землі. Але паколькі быў праціўнікам падобных ваяўнічых дзеянняў вялікага магістра, вайны не распачаў, а неўзабаве разам з іншымі змоўшчыкамі ўдзельнічаў у адхіленні ад улады Плаўэна. Выконваць функцыі вялікага магістра стаў Міхаіл Кюхмайстар, а 7 студзеня 1414 года вялікая капітула пацвердзіла ягоны статус. Час быў неспакойны. Існавала верагоднасць вайны з Каронай. Кюхмайстар намагаўся пазбегнуць яе. Разам з эканамічнымі цяжкасцямі гэта выклікала незадаволенасць ягонай палітыкай. Урэшце вялікі магістр мусіў адмовіцца ад пасады. Адбылося гэта 10 сакавіка 1422 года. А праз пяць месяцаў пачалася вайна з Каронай. Міхаіл Кюхмайстар правёў свае апошнія гады ў замку ў Гданьску. Памёр 15 снежня 1423 года, пахаваны ў капліцы вялікіх магістраў у Мальбарку.

***Офка*, *Соф'я*** (1376–1425) — дачка баварскага князя Іаана II, з 1389 года другая жонка Вацлава IV Люксембургскага, караля нямецкага і чэшскага, які памёр у 1419 годзе. Пасля ягонай смерці чэхі прапанавалі карону Ягайлу, затым Вітаўту. Швагер Офкі венгерскі кароль Сігізмунд Люксембургскі, брат і спадкаемца Вацлава IV, хацеў бы і сам завалодаць Чэхіяй, але баяўся адпору гусітаў, прапанаваў Ягайлу ажаніцца з удавой свайго брата, якой даваў у пасаг 100 000 чырвоных злотых і Шлёнск. Каралеўская Рада згадзілася на шлюб Ягайлы з Офкай. На перамовы да Сігізмунда паехаў Завіша Чорны. Аднак ён трапіў у няволю да гусітаў. Ягайла пра гэта даведаўся ў Троках, дзе адзначаў Каляды. Вітаўт адгаварыў яго ад Офкі і прапанаваў звярнуць увагу на адну з сясцёр сваёй жонкі Улляны Гальшанскай — Соф'ю Гальшанскую. Гэтаму супраціўляўся Збігнеў Алясьніцкі. Аднак шлюб адбыўся ў лютым 1422 года ў Навагародку. Абрад выконваў Віленскі біскуп Мацей. Пасля вяселля кароль са світай выехаў у Ліду, дзе прымаў чэшскае пасольства, а затым накіраваўся ў Кракаў.

***Пясты*** — польская дынастыя князёў і каралёў. Па паданні, запачаткаваў яе просты селянін Пяст. Першы вядомы князь з гэтай дынастыі — Мешка I (960–992). Калі ў 1138 годзе памёр кароль Баляслаў III Крывавусты, дынастыя падзялілася на некалькі ліній. Першы польскі кароль з дынастыі Пястаў — Уладзіслаў I Лакетак (Лакетка, паміж 3.3.1260 і 19.1.1261 — 2.3.1333), які каранаваўся ў Кракаве (20.1.1320), ён пачаў аб'яднанне польскіх зямель. Зрабіў Кракаў сваёй рэзідэнцыяй і сталіцай. Разам з жонкай Ядвігай упершыню ў польскай гісторыі каранаваўся ў Вавелі. Апошнім прадстаўніком пястаўскай дынастыі на каралеўскім троне быў Казімір III Вялікі з лініі куяўскіх князёў.

***Свідрыгайла (Леў, Баляслаў)*** (каля 1370 — 14.2.1452) — малодшы, сёмы сын вялікага князя літоўскага Альгерда і ягонай другой жонкі цвярской княжны Улляны Аляксандраўны, брат Ягайлы. Вялікі князь літоўскі ў 1430–1432 гадах. Удзельнік бітвы на Ворскле. Некалі разам з Ягайлам прыняў каталіцтва. Ажаніўся з дачкой цвярскога князя Івана Іванавіча Ганнай. У 1400 годзе атрымаў ад Вітаўта княжанне ў Падоллі, а сам прысягнуў на вернасць Вітаўту Вялікаму, калі прыняў праваслаўе. Аднак, маючы круты нораў, быў незадаволены, што Вітаўт стаў вялікім князем літоўскім, а таксама тымі артыкуламі Гарадзельскай уніі, якія заміналі праваслаўным займаць дзяржаўныя пасады і карыстацца прывілеямі. У 1402 годзе ўцёк да крыжакоў у Прусію, з іх дапамогай намагаўся стаць на чале Княства, пацярпеў няўдачу, і давялося зноў мірыцца з Вітаўтам. Атрымаў у 1404 годзе Северскае княства, у 1407 годзе — Бранскае. Аднак у 1408 годзе перайшоў на бок Масквы, з групай князёў і баяр паехаў да маскоўскага вялікага князя Васіля I Дзмітравіча, змагаўся супраць Вітаўта ў складзе войска Васіля I. У 1409 годзе зноў вярнуўся да Вітаўта, тым не менш меў таемныя зносіны з крыжакамі аб адхіленні Вітаўта ад улады. Калі змову выкрылі, трапіў у вязніцу ў крэпасці Ка-

мянец, дзе прабыў 9 гадоў. У 1418 годзе яму ўдалося ўцячы ў Венгрыю. Памірыўся з Вітаўтам і Ягайлам. А ў 1419 годзе Вітаўт даў яму Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі і Бранск, дзе Свідрыгайла княжыў да 1430 года. Меў высокі аўтарытэт у праваслаўнай знаці Княства.

Пасля смерці Вітаўта ў 1430 годзе з падтрымкі часткі вялікалітоўскіх баяр і са згоды Ягайлы аб'яўлены вялікім князем літоўскім. Ад гарнізонаў прымаў прысягу на вернасць толькі сабе, а не ў яднанні з Ягайлам. Польскія войскі занялі памежныя замкі на Падоллі. У адказ Свідрыгайла затрымаў Ягайлу ў Вільні і адпусціў толькі пасля вяртання захопленых замкаў. Ён пачаў прызначаць праваслаўных феадалаў на высокія ўладныя пасады (да гэтага для іх існавала абмежаванне — такім правам валодалі толькі тыя, хто быў католікам).

У 1431 годзе зноў зблізіўся з крыжакамі і выступаў супраць Польшчы, у 1432 годзе парушыў дамоўленасці з ёй. Паколькі меў цесныя сувязі з Цвер'ю праз маці і жонку, разлічваў на пэўную падтрымку. Дарэчы, Цвер была разменнай манетай у многіх палітычных сітуацыях, якія датычылі ўзаемаадносін Масквы і Вялікага Княства Літоўскага. Маючы падтрымку Цверы і Ноўгарада, Свідрыгайла разлічваў стварыць разам з Вільняй моцную процівагу Польшчы. Гэткія памкненні імпанавалі князям Русі, якія лічылі Свідрыгайлу прадаўжальнікам аб'яднальніцкіх памкненняў Альгерда і Вітаўта, абаронцам праваслаўя. Аднак без належных ваенных здатнасцей ажыццявіць гэта Свідрыгайлу было надзвычай складана.

Каталіцкая шляхта была незадаволена дзеяннямі Свідрыгайлы. Утварылася група змоўшчыкаў. Ноччу на 1 верасня 1432 года змоўшчыкі на чале з князем Жыгімонтам Кейстутавічам хацелі забіць яго ў Ашмянах, дзе ён тады знаходзіўся, але Свідрыгайлу ўдалося ўцячы ў Полацк. Вялікім князем стаў Жыгімонт Кейстутавіч, якому было 67 гадоў. 15 кастрычніка 1432 года ў Гародні ён заявіў пра аднаўлен-

не уніі з Каронай. Такім чынам у Княстве пачалася вайна, у гаспадарстве як быццам было два гаспадары: каталіцкую частку ўзначальваў Жыгімонт — ён кантраляваў Літву, землі Заходняй і Цэнтральнай Беларусі. Свідрыгайла абапіраўся на праваслаўных і меў падтрымку ў Полацку, Віцебску, Смаленску, на сучасных усходніх беларускіх і ўкраінскіх землях. У 1432–1436 гадах вялася грамадзянская вайна. 1 верасня 1435 года адбылася бітва з войскамі Жыгімонта каля Вількаміра на рацэ Швенце (Святой) — прытоку Віліі. На баку Свідрыгайлы выступалі полацкая, віцебская, смаленская, мсціслаўская і кіеўская харугвы. Жыгімонт перамог. Лівонскі і Тэўтонскі ордэны, якія былі на баку Свідрыгайлы, пасля паразы пад Вількамірам мусілі заключыць «вечны мір» з Каронай і Княствам.

Пасля гэтага Свідрыгайла яшчэ не раз спрабаваў узяць рэванш, але беспаспяхова. Урэшце ў 1439 годзе ён прызнаў паразу і ўцёк у Малдавію, затым паміры́ўся з палякамі, браў удзел у каранацыі Казіміра Ягелончыка ў 1447 годзе. Атрымаў ад яго Валынскае княства, якім валодаў да сваёй смерці. Памёр у Луцку.

***Сігізмунд І Люксембургскі*** (15.2.1368 — 9.12.1437) — апошні з дынастыі Люксембургаў, сын імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла IV, караля нямецкага і чэшскага. У 1387–1437 кароль венгерскі, у 1411–1437 гадах імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, кароль чэшскі ў 1419–1437 гадах. Быў мужам Марыі, дачкі венгерскага і польскага караля Людвіка (Лаяша) Вялікага, сястры Ягайлавай жонкі Ядвігі; праводзіў варожую да Польшчы палітыку. Стаў адным з ініцыятараў склікання Канстанцкага царкоўнага сабора (1414–1418), на якім асудзілі Яна Гуса. А яшчэ раней Сігізмунд выдаў яму ахоўную грамату. На саборы ж нечакана санкцыянаваў пакаранне Гуса смерцю, падтрымаў крыжовыя паходы супраць гусітаў. У 1421 годзе Сігізмунд быў пазбаўлены каралеўскага пасада, але ў 1436 годзе зноў

абвешчаны чэшскім каралём. Урэшце дзейнасць Сігізмунда выклікала незадавальненне ў Чэхіі, што вымусіла яго ўцякаць. Па дарозе ў Венгрыю памёр.

***Соф'я Вітаўтаўна*** (каля 1371 — 15.6.1453) — дачка вялікага князя літоўскага Вітаўта і яго другой жонкі смаленскай княжны Ганны Святаслаўны, жонка маскоўскага вялікага князя Васіля I Дзмітравіча, маці маскоўскага вялікага князя Васіля II Васільевіча па празванні Цёмны, г. зн. сляпы. Вялікая княгіня маскоўская. У 1386 годзе (неўзабаве пасля Крэўскай уніі) была пашлюблена ў Луцку з маскоўскім княжычам Васілём Дзмітравічам (дарэчы, год яго нараджэння супадаў з Соф'іным), які ўцёк з Залатой Арды (з яе сталіцы Сарая, што было надзвычай рэдка, і, кажуць, зрабіў гэта з дапамогай літвінаў), знаходзіўся ў Княстве пры двары вялікага князя літоўскага Вітаўта. Тут і пазнаёміўся з Соф'яй, якой падабалася ездзіць конна, яна ахвотна палявала на дзікіх звяроў разам з дарослымі мужчынамі і любіла вясёлыя забавы. Яе дзед па маці вялікі князь смаленскі Святаслаў Іванавіч загінуў у бітве ў год зашлюбін з Васілём. Аднак бацька Васіля Дзмітрый Іванавіч Данскі, які не меў асаблівай прыхільнасці да Княства, не надта хацеў шлюбу сына і Соф'і. І толькі пасля смерці Дзмітрыя Іванавіча шлюб адбыўся. Праз чатыры гады пасля зашлюбін Васіля князь Іван Гальшанскі прывёз Соф'ю ў Данцыг (Гданьск), а адтуль па моры на Русь. Вітаўт у гэты час знаходзіўся ў крыжакоў у замку Мальбарк. У Маскву яна прыбыла 1 снежня 1390 года. Шлюб адбыўся 9 студзеня 1391 года. З гэтага часу ў Маскве з'явілася так званая «літоўская партыя», якая існавала некалькі дзясяткаў гадоў і ўплывала на ўзаемаадносіны паміж Масквой і Княствам. Акрамя Соф'і важную ролю ў гэтай партыі адыгрываў мітрапаліт Кіпрыян, які атрымаў Кіеўскую мітраполію пры падтрымцы Альгерда, а таму меў добрыя стасункі з усімі вялікалітоўскімі ўладцамі, у тым ліку з Вітаўтам.

Прыезд Соф'і ў Маскву выклікаў шмат падзей, якія засведчаны нават у летапісах. «Того же лета князю великому Витовту послы пришли от великого князя московского Василя Дмитреевича. Князь великий Витовт дал княжну свою Софию за князя Василя Дмитреевича... И пошли со княжною у великих кораблех морем, и приехали ко Пскову. И псковичи им великую дали честь и проводили их до Великаго Новагарада. Тако ж и новгородцы им великую честь давали до Москвы великому князю Василю Дмитреевичу. А князь Василей послал им против братю свою: князя Ондрея Владимеровича да князя Ондрея Дмитреевича и иных князей и бояр. И стретили княжну Софию с великою честью. Тогды был з ними священный Киприан митрополит со многими владыками и архимандриты, и игумены, и со всеми священники. И стретили ее честно со кресты перед Москвою, и был збор великий, и венчяня ся стало. И было чести и веселя досыта, иже не может выписати».

Соф'і далі другое імя — Настасся. Мела 4 сыноў (Юрый, Іван, Даніла і Васіль Цёмны) і 4 дачкі (Ганна — была замужам за візантыйскім імператарам Іаанам Палеалогам, Настасся — жонка кіеўскага князя Аляксандра (Алелькі) Уладзіміравіча, Васіліса — замужам за суздальскім князем Аляксандрам Іванавічам, Марыя — жонка князя Юрыя Патрыкеевіча).

Падчас дынастычнай вайны на Русі ў 1425–1453 гадах Соф'я накіроўвала дзеянні сына. Пасля смерці мужа (22 лютага 1425) на чале маскоўскага кіраўніцтва стала Соф'я. Яна ж апекавалася малалетнім сынам Васілём, якому быў перададзены трон. Выхоўвала ўнука — будучага вялікага князя Івана III, дачка якога Алена стала жонкай вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра. У выніку міжусобнай барацьбы змушана была ўцякаць з Масквы, зняволена. У 1446 годзе выкупіла з татарскага палону свайго сына Васіля, сама ж амаль год была ў зняволенні ў Дзмітрыя

Шамякі. У 1451 годзе брала ўдзел у абароне Масквы ад ардынскага нашэсця. Затым пайшла ў Белазёрскі манастыр на Валагодчыне, стала манашкай Ефрасінняй. Памерла ў той жа год, што і Дзмітрый Шамяка, які зняволіў яе, а пасля быў атручаны па загадзе яе сына. «...Июня пятнадцатаго скончалась великая княгиня Софья, черницей в Вознесенском монастыре».

***Соф'я Гальшанская*** (каля 1405 — 21.9.1461) — чацвёртая жонка Ягайлы, дачка Андрэя Іванавіча Вязынскага, князя Гальшанскага, і Аляксандры, князёўны друцкай, пачынальніца дынастыі Ягелонаў-Ягайлавічаў, мела сыноў Уладзіслава і двух Казіміраў. Уладзіслаў стаў каралём польскім і венгерскім, сярэдні Казімір памёр зусім маленькім, меншы Казімір быў вялікім князем літоўскім і каралём польскім.

Калі Соф'і споўнілася пяць гадоў, памёр бацька. Ягоных дзяцей Васілісу, Соф'ю і Марыю выхоўваў у сваім замку родны брат іхняй маці Аляксандры князь Сямён Дзмітравіч Друцкі.

24 лютага 1422 года 17-гадовая Соф'я абвянчалася ў Навагародскім касцёле з 70-гадовым каралём польскім Ягайлам. Але, паколькі польская шляхта ставілася да яе не надта прыхільна, каранацыя зацягвалася. Аднак у гэты час адбыліся важныя перамены сярод вышэйшых асоб у рэлігійным свеце і ў атачэнні караля, да іх мела непасрэднае дачыненне Соф'я. Пасля гэтага пачалі мяняцца ў лепшы бок і адносіны да яе. З намаганняў Соф'і ў сакавіку 1423 года ў Кежмарку адбыўся з'езд Ягайлы і венгерскага караля Сігізмунда Люксембургскага, пасля чаго Ягайла адклікаў з Чэхіі Жыгімонта Карыбутавіча і перастаў заігрываць з гусітамі. У выніку справы каранацыі Соф'і паскорыліся.

З вялікім ушанаваннем каранацыя адбывалася 5 сакавіка 1424 года ў Вавельскай катэдры. На ўрачыстасць у Кра-

каў прыехалі высокія госці з многіх краёў, у тым ліку Сігізмунд Люксембургскі з жонкай, кароль дацкі Эрык, шмат князёў з Княства, два крыжацкія комтуры. Вітаўта не было. Ягайла адпісаў жонцы ў якасці пасагу Радамль, Сонч, Бечу, Жарнаўцы, Санок, Інаўроцлаў, Няшаву, Богуць і Загосць. Каранацыйны абрад праводзіў арцыбіскуп Гнезненскі Войцех Ястшэмбец. Забавы доўжыліся цэлы тыдзень. Як засведчылі відавочцы, гэта была самая ўрачыстая каранацыя ў гісторыі Польшчы.

Соф'я захоўвала добрыя стасункі са сваімі роднымі, з Княствам, у сваім атачэнні мела некалькі праваслаўных асоб. Нават наказала, каб падчас яе пахавання не забыліся пра праваслаўныя звычаі, у якіх яна выхоўвалася ў Гальшанскім і Друцкім замках. Не цуралася кантактаў з гусітамі, нават сваім астролагам мела чэха. Была вясёлага характару і любіла забавы. Падтрымлівала культуру, спрыяла развіццю Кракаўскага ўніверсітэта.

У 1453 годзе па жаданні Соф'і пачаўся першы пераклад на польскую мову Бібліі. Гэта быў рукапісны пераклад на пергаменце, праца адбывалася ў Новым Месцы за 10 кіламетраў ад Кракава. З чэшскай мовы тлумачыў ксёндз Андрэй з Яшчовіц — капелан каралевы. Пісараў было ад пяці да сямі, таму тэкст адрозніваўся сваёй каліграфіяй. У 1455 годзе закончаны пераклад Старога Запавету, каля 1460 года — Новага Запавету. Усяго было 470 старонак.

Разам з мужам Соф'я клапацілася аб тым, каб надзейна забяспечыць спадчыннае права іхняму першынцу Уладзіславу на каралеўскі пасад. Ягайла ўзняў гэтае пытанне на з'ездзе ў Брэсце-Куяўскім. Атрымаў згоду, але толькі на элекцыйнага (выбарнага) караля, і то гэтае рашэнне было абумоўлена шэрагам дадатковых умоў. Пасля з'езда Ягайла з жонкай пачаў індывідуальна апрацоўваць уплывовыя сем'і і асобы, прадстаўнікоў шляхты адносна перадачы ўлады сыну па спадчыне і прызнання рэгентамі сына Соф'і

і Вітаўта. Аднак праціўнікі Ягайлы таксама не драмалі. На з'ездзе ў Ленчыцы ў маі 1420 года выбухнуў канфлікт, звязаны з новымі прывілеямі шляхце. Ягайла не пагаджаўся на гэта, у выніку ранейшы дакумент адносна ягонага сына, прыняты ў Брэсце-Куяўскім, быў шаблямі рассечаны на шматкі, такім чынам Уладзіслаў Ягайлавіч пазбаўляўся права быць нават абраным каралём. Ягайла мусіў пакінуць з'езд, а Соф'і на ім не было. Малога Уладзіслава з нянькай адправілі ў Хэнцін, Ягайла з Соф'яй зноў паехаў па гарадах, каб заручыцца падтрымкай. Першым прызнаў спадчыннасць трона Кракаў (люты 1425), пасля Конін (сакавік 1425), Львоў (кастрычнік 1425). Сястра Ягайлы Аляксандра і яе мазавецкія родзічы таксама прынялі спецыяльны акт аб сваёй залежнасці ад караля, а не ад Кароны. Нават уся Чырвоная Русь прызнала права Ягайлавага сына на спадчыннасць трона, а Соф'ю і Вітаўта — кандыдатамі на рэгентаў.

16 мая 1426 года нарадзіўся другі сын, якога 2 чэрвеня ахрысцілі Казімірам. З гэтай нагоды адбыўся рыцарскі турнір з высокімі ўзнагародамі ад Ягайлы. Каралеўскі пісар і паэт Цёлак напісаў нават паэму, якая славіла каралеву за двух сыноў для Польшчы. Але неўзабаве Казімір памёр. 30 лістапада 1427 года Соф'я нарадзіла трэцяга сына, якога ахрысціў Алясьніцкі 21 снежня Казімірам Андрэем — у гонар ягонага дзеда і Соф'інага бацькі Андрэя Гальшанскага.

Аднак яшчэ падчас цяжарнасці Соф'і разгарэўся шумны скандал. Яе абвінавацілі ў здрадзе мужу і паставілі пад сумненне праўдзівасць маючага быць Ягайлавага сына. Некаторыя сведчаць, што гэта на з'ездзе ў Гародлі зрабіў Вітаўт. Іншыя кажуць пра іншых асоб. Так ці інакш, а пагалоска выйшла далёка за межы Кароны і Княства. Ягайла спачатку паверыў гэтаму, пачаў пошук вінаватых. Дзве дваровыя служанкі каралевы — Шчукоўскія назвалі сямёра рыцараў, якія нібыта мелі інтымныя адносіны з Соф'яй. Кароль зага-

даў арыштаваць рыцараў. Некаторым удалося ўцячы, іншых зняволілі, у тым ліку Генрыка (Гінчу) з Рогава. Яго бацька Гінчка быў каралеўскім падскарбіем, таму Генрык з дзяцінства жыў у двары караля Ягайлы. Аднак, насуперак абвінавачанню, на ўсіх допытах Генрык заяўляў, што каралева не здраджвала каралю. На судзе, які загадаў правесці Ягайла, Соф'я разам з васьмю дваровымі панямі мусіла прынесці ачышчальную прысягу вернасці каралю. Пасля гэтага рыцараў апраўдалі.

У 1431 годзе Соф'я вырашыла збудаваць капліцу Святой Тройцы ля ўваходу ў кафедральны касцёл, што ў Вавелі. Ягайла падтрымаў пачын. Будоўля трывала два гады. Сцены капліцы былі ўпрыгожаны праваслаўнымі абразамі і фрэскамі. Дарэчы, такія ж абразы знаходзіліся ў Гнезненскай катэдры, у касцёле на Лысай гары і ў Любліне, у касцёлах ў Сандаміры і Вісліцы, нават у спальні Ягайлы ў Вавельскім замку. Сведчаць, што для капліцы Соф'я спецыяльна заказала алебастравыя пліты з рэлігійнымі сюжэтамі ў візантыйскім стылі. Капліца захавалася ў Вавельскай катэдры дагэтуль.

Калі 8 снежня 1431 года памерла Ядвіга, дачка другой Ягайлавай жонкі Ганны Цылейскай, Соф'ю абвінавачвалі ў тым, што гэта яна атруціла яе. У красавіку 1443 года Соф'я брала ўдзел у з'ездзе ў Корчыне, дзе было вырашана аказаць дапамогу іхняму сыну, на той час ужо каралю польскаму, Уладзіславу, які выступіў супраць туркаў. У красавіку 1445 года каралева ўдзельнічала ў з'ездзе ў Серадзе, дзе Казімір Ягелончык з падачы біскупа і каралеўскага сакратара Алясьніцкага быў абраны каралём польскім. 15 кастрычніка таго ж года Соф'я сустракаецца з сынам у Гародні. У красавіку 1448 года наведвае Вільню. Пасля таго як 25 чэрвеня 1447 года Казімір быў каранаваны на караля польскага, яго стасункі з маці сталі больш цеснымі. Разам яны часта ездзілі ў Княства.

У 1459 годзе каралева Соф'я мела непрыемнасці з нагоды таго, што раптоўна аб'явіўся нейкі самазванец Рыхлік і назваўся яе сынам Уладзіславам, які прапаў пад Варнай падчас паходу супраць туркаў. Соф'я моцна абуралася гэтым, выкрыла падман Рыхліка і загадала зняволіць яго.

Калі 5 жніўня 1461 года з'явіўся чацвёрты ўнук — чацвёрты сын Казіміра Андрэя і Эльжбеты Ракушанкі, яго па жаданні Соф'і назвалі Аляксандрам. Гэта было зроблена ў гонар Вітаўта, які меў каталіцкае імя Аляксандр і быў родзічам каралевы Соф'і па ягонай другой жонцы Улляне Гальшанскай, Соф'інай цётцы.

Соф'я перажыла свайго мужа караля Ягайлу на 27 гадоў. У жніўні 1461 года 56-гадовая каралева Соф'я захварэла, а 21 верасня памерла. Яе сына Казіміра ў гэты час у Кракаве не было. Таму ў чаканні яго 8 дзён цела Соф'і стаяла ў касцёле Святога Міхаіла. Пахавана па праваслаўным звычаі ў капліцы Вавельскай катэдры, якую некалі сама збудавала. Уладальнікам некаторых багаццяў Соф'і стаў Генрык з Рогава, той самы, якога абвінавачвалі ў таемных сувязях з каралевай.

***Спытак (II) з Мельштына*** — кракаўскі ваявода, прызначаны каралём польскім і венгерскім Людвікам, калі меў 16 гадоў, адзін з галоўных творцаў Крэўскай уніі. У 1395 годзе Ягайла з парады Вітаўта аддаў яму Валынь, што выклікала абурэнне польскіх магнатаў, бо тым самым Спытак быў ураўнаваны з князямі рускімі і літоўскімі. Загінуў у бітве ля ракі Ворскла ў 1399 годзе. Спрыяў польскім гусітам.

***Уладзіслаў I Лакетак (Лакотак, Лакетка)*** (паміж 3.3.1260 і 1261 — 19.1.(2.3.)1333) — трэці сын куяўскага князя Казіміра Конрадавіча, унук Конрада Мазавецкага. Прозвішча, кажуць, атрымаў за тое, што меў малы рост. Пасля смерці бацькі стаў князем брэсцка-куяўскім (з 1267), князь серадзскі (з 1288), ленчыцкі (з 1294), першы кароль польскі з дынастыі Пястаў (з 1320), які пачаў аб'яднанне польскіх зямель. У 1300 годзе мусіў пакі-

нуць край у сувязі з унутранымі сварамі і інтэрвенцыяй караля чэшскага Вацлава II. У 1304 годзе з дапамогай венграў і польскіх магнатаў вярнуўся. 1 лютага 1305 года ўпершыню прыняў тытул кракаўскага князя, хоць яшчэ не валодаў Кракавам. І толькі ў верасні 1306 года атрымаў горад у сваё валоданне. Зрабіў Кракаў сваёй рэзідэнцыяй і сталіцай княства. У 1311–1312 гадах падавіў нямецкі бунт у Кракаве, так званы бунт войта Альберта, у 1314 годзе атрымаў у валоданне Вялікапольшчу. Разам з жонкай Ядвігай упершыню ў польскай гісторыі каранаваўся ў Вавелі (у 1320). Да XVIII стагоддзя тут адбылося звыш 30 каранацый польскіх каралёў і каралеў. Ад арцыбіскупа гнезненскага каранаваныя асобы атрымлівалі залатую карону, скіпетр, яблык (залаты шар з крыжам), каралеўскі меч і пярсцёнак. Лакетак не раз уваходзіў у саюз з вялікалітоўцамі, каб ваяваць супраць крыжакоў. Нават свайго адзінага сына Казіміра 16 кастрычніка 1325 года пашлюбіў з дачкой Гедыміна Альдонай.

***Уладзіслаў IV Ваза*** (9.6.1565 — 20.5.1648) — сын караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1632–1648 гадах, каранаваны на караля 6 лютага 1633, прыняў тытул тытулярнага цара маскоўскага і ўсяе Русі, хоць фактычна ім не быў (1610–1634), тое ж адносна тытулярнага караля шведскага (1632–1648). Ягоны бацька Жыгімонт III Ваза меў жаданне далучыць да Рэчы Паспалітай Маскоўскую дзяржаву, таму падтрымліваў Ілжэдзмітрыя I і Ілжэдзмітрыя II. У 1609 годзе ён распачаў вайну Польшчы з Расіяй, якая доўжылася да 1618 года. Нанёс паразу расійскай арміі каля Клушына, у выніку чаго Васіль Шуйскі быў пазбаўлены царскага пасада, а на цара маскоўцы аб'явілі (1610) сына Жыгімонта Вазы Уладзіслава (9.6.1565 — 20.5.1648), аднак абумовілі гэта тым, што Уладзіслаў прыме праваслаўе.

Жыгімонт III Ваза 14 лютага 1610 года падпісаў каля Смаленска дамову з расійскай дэлегацыяй аб тым, што ён

адпускае сына на царскі пасад. Аднак расіяне запатрабавалі, каб будучы цар забяспечыў баярам і дваранам пануючае становішча, гэта значыць, хацелі падпарадкаваць дзеянні цара сваім інтарэсам. Таму ў ліпені 1610 года маскоўскі ўрад — сямібаяршчына — дабіўся абрання на царскі пасад Уладзіслава. Яму прысягнулі масквічы і жыхары іншых гарадоў. Аднак бацька Жыгімонт III Ваза не дазволіў 15-гадоваму сыну з'ехаць у Маскву, таму маскоўскі ўрад кіраваў ад імя цара. Тым не менш Уладзіслаў IV праз два гады быў фармальна дэтранізаваны, а на царскі пасад абралі ў лютым 1613 года Міхаіла Раманава. У 1617–1618 гадах Уладзіслаў быў на чале пахода супраць Масквы, але здабыць горад не здолеў. 8 лістапада 1632 года, пасля смерці бацькі, абраны каралём польскім і вялікім князем літоўскім. У 1634 годзе чарговая вайна Польшчы з Расіяй закончылася Палянаўскім мірам, у выніку якога Смаленск заставаўся за Княствам. Пасля гэтага Уладзіслаў адмовіўся ад тытула цара. Спрыяў праваслаўю. Браў удзел у войнах Рэчы Паспалітай з Турцыяй (1621) і Швецыяй (1626–1629, калі намагаўся заняць шведскі пасад), душыў казацкія паўстанні на Украіне. Няспынна ўмацоўваў ваенную магутнасць Польшчы, пры ім вялікае развіццё атрымала артылерыя і ваенны флот.

***Ульрык фон Юнгінген*** (? — 1410) — вялікі магістр Тэўтонскага ордэна (1407–1410), малодшы брат Конрада фон Юнгінгена. Спачатку займаў невысокія пасады ў невялікім крыжацкім замку. З 1387 года працаваў пры вялікім маршалку і вялікім магістры Ордэна Конрадзе фон Валенродзе. Калі ягоны брат Конрад фон Юнгінген стаў вялікім магістрам, Ульрык восем гадоў займаў розныя пасады ў іншых месцах, пасля чаго ў верасні 1404 года стаў вялікім маршалкам Ордэна, гэта значыць, быў далучаны да яго вышэйшых дастойнікаў.

Стаць вялікім магістрам Ульрыку фон Юнгінгену давялося з прыгодамі. Брат Ульрыка Конрад не хацеў, каб ягоным

наступнікам на высокім пасадзе быў ваяўнічы Ульрык. У 1385 годзе ў Ордэне ўзнік канфлікт у сувязі з прыняццем Крэўскай уніі. Спрэчкі ішлі наконт таго, як адносіцца да яе, а таксама да уніі скандынаўскіх дзяржаў. Як і шмат хто іншы, Ульрык лічыў, што раней ці пазней польска-літоўская унія будзе пераможана. Магчыма, з-за такой пазіцыі 26 чэрвеня 1407 года ў Мальбарку яго выбралі вялікім магістрам. Раней Конрад таксама лічыў, што ваяваць на два франты небяспечна, таму ён рыхтаваўся да вайны на Балтыцы і шукаў паразумення з Каронай і Княствам.

Ульрык жа спадзяваўся, што справіцца з польска-літоўскай уніяй можна і мірнымі сродкамі. Таму ён падтрымліваў імкненне Вітаўта пайсці на Вялікі Ноўгарад, лічыў, што гэта аслабіць повязі з Каронай і зменшыць агульныя намаганні караля польскага і вялікага князя літоўскага ваяваць з Ордэнам. Аднак Вітаўт падвёў Ульрыка фон Юнгінгена і ў чарговы раз здрадзіў крыжакам. Вітаўт заключыў дамову з маскоўскім князем, зноў паразумеўся з каралём польскім, сумесна яны вялі справу да вяртання Жамойці і падтрымалі паўстанне жамойтаў у 1409 годзе. Арцыбіскуп Гнезненскі Мікалай з Курова папярэджваў: «Непрыяцеляў Літвы лічым за сваіх ворагаў. Калі рушыце на Літву, мы пойдзем на вас». На гэта Ульрык фон Юнгінген адказаў: «У такім выпадку я жадаю ўдарыць па галаве, а не па іншых частках цела, таму хутчэй пайду на Польшчу, край шматлюдны і годны, чым на літоўскія пушчы». 6 жніўня 1409 года вялікі магістр у Мальбарку абʼявіў вайну Кароне, а праз тры дні ў Торуні публічна абвясціў Ягайлу ворагам Ордэна. Менш як праз тыдзень крыжацкія войскі выступілі на польскія землі.

А неўзабаве на Грунвальдскім полі сутыкнуліся 30-тысячная польска-літоўская армія і 20-тысячная крыжацкая. Ульрыку было каля 50 гадоў, ён скардзіўся на зрок і не меў ужо былой рыцарскай славы, любіў добра пагуляць за багатым сталом і ў вясёлай кампаніі. Грунвальдская бітва стала апошняй

для Ульрыка фон Юнгінгена. Вечарам 15 ліпеня 1410 года сам вялікі магістр другі раз павёў 16 баявых харугваў на польска-вялікалітоўскае войска. Але падчас першай жа сутычкі былі забіты вялікі магістр, маршалак і комтуры ўсяго Ордэна. Позна вечарам бітва закончылася страшнай паразай крыжакоў. Сярод 8 тысяч забітых было 206 братоў Ордэна. Ягайла загадаў знайсці цела вялікага магістра, пакрыць яго пурпурам і адаслаць у Мальбарк. Там Ульрык фон Юнгінген быў пахаваны поруч з іншымі вялікімі магістрамі ў капліцы Святой Ганны.

***Уляна (Юліянія) Гальшанская*** (каля 1378 — 1448) — трэцяя жонка вялікага князя літоўскага Вітаўта (шлюб у 1418 годзе ў Гародні), дачка князя Івана Альгімонтавіча Гальшанскага, сястра Андрэя — бацькі Соф'і, удава пасля князя Івана Карачэўскага. У 1428 годзе Вітаўт аддаў ёй Навагародак. Існуе і іншая версія. Быццам бы Вітаўт, калі пабачыў Уляну, загадаў адабраць яе ў мужа. Калі ж той паспрабаваў абараніць жонку і не пусціць яе да Вітаўта, яго забілі. Пасля смерці Вітаўта была зняволена Свідрыгайлам. Пахавана ў касцёле Святой Ганны ў Вільні.

***Фрыдэрык (Фрыдрых) II Брандэнбургскі*** (19.11.1413 — 10.2.1471) — другі сын Фрыдэрыка I Гогенцолерна і Елізаветы Баварскай, курфюрст і маркграф Брандэнбургскай зямлі ў 1437–1470 гадах, пазней Фрыдэрык II Жалезны. Калі меў 8 гадоў, у 1421 годзе быў зашлюблены з Ядвігай, дачкой Ягайлы і Ганны Цылейскай, і тым самым мог спадзявацца на польскі пасад. З часу заручын выхоўваўся ў Польшчы. Пасля раптоўнай смерці Ядвігі ў 1431 годзе вярнуўся ў нямецкую зямлю Брандэнбург. Брандэнбург — маркграфства, так у імперыі называліся ўскраінныя, памежныя ўладанні, або курфюрства Брандэнбургскае, нямецкая зямля паміж Одэрам і Лабай на ўсходзе Германіі, заснавана ў другой палове XII стагоддзя ў выніку заваёвы палабскіх славян. Сталіца — Патсдам. 11 чэрвеня 1446 года ў Вітэнбергу Фрыдэрык II ажаніўся з Кацярынай Саксонскай, дачкой курфюрста Саксоніі Фрыдрыха I.

***Цёлак Станіслаў*** (каля 1382 — 1437) — сын мазавецкага ваяводы, дыпламат, каралеўскі пісар з 1400 года, з 1423 года — падканцлер, з 1428 года — Пазнанскі біскуп, адзін з першых акрамя лаціны пачаў пісаць па-польску. У 1419 годзе напісаў у форме казкі пасквіль на Ягайлаву жонку каралеву Эльжбету Граноўскую пасля яе смерці. За час сваёй службы то сварыўся, то зноў зближаўся з Ягайлам. Паколькі Ягайла часта бываў у ад'ездах, Цёлак заставаўся ў двары Соф'і, меў яе спрыянне. Пасля нараджэння ў Ягайлы і Соф'і другога сына, Казіміра (16 мая 1426 года), напісаў паэму, у якой уславіў каралеву за тое, што падаравала Кароне двух спадчыннікаў трона — Уладзіслава і Казіміра.

У гонар каралевы Соф'і, кажуць, па яе просьбе, напісаў каля 1432 года «Пахвалу Кракаву», дзе ўславіў горад, які стаў такім слынным з-за таго, што каралевы «цнатлівасць блішчыць свету сярод каштоўнасцей двара». Зроблена гэта было пасля таго, як каралеву другі раз абвінавачвалі (каля 1431 года) у нявернасці мужу і сумняваліся ў паходжанні яе з Ягайлам дзяцей. Каралева падазравала ў гэтым пасквілі Яна Страша з Белачэва. На судзе ён мусіў скласці пакаяльную прысягу, аднак Соф'і здалося гэтага недастаткова. Таму з'явіўся твор Цёлака.

***Цёлак Эразм Вітэлій*** (1474—1522) — сын кракаўскага мешчаніна, дыпламат, сакратар вялікага князя літоўскага Аляксандра (1495), біскуп Плоцкі (1503). Пры яго двары служыў Мікола Гусоўскі, паэт эпохі Адраджэння, які пісаў на лацінскай мове. Гусоўскі — аўтар знакамітай паэмы «Песня пра зубра», у якой уславіў дзейнасць вялікага князя літоўскага Вітаўта, яшчэ пры жыцці званага Вялікім. У 1492–1499 гадах Эразм Цёлак з'яўляўся сакратаром канцылярыі вялікага князя літоўскага ў Вільні. У 1520–1522 гадах узначальваў пасольства да Папы Рымскага Льва X, у яго складзе быў і М. Гусоўскі, які напісаў там на лацінскай мове сваю паэму, выдадзеную ў Кракаве ў 1523 годзе.

***Чартарыйскія*** — магнацкі княскі праваслаўны род герба Пагоня. Патомкі вялікага князя літоўскага Альгерда Гедымінавіча. Родавы маёнтак мелі ў Чартарыйску (адкуль паходзіць прозвішча), што на рацэ Стыр у Луцкім павеце Палесся. Чартарыйскія займалі вышэйшыя дзяржаўныя і адміністрацыйныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай і Расіі. Валодалі Лагойскам, Глускам, Карэлічамі, Шкловам, іншымі беларускімі гарадамі і землямі. У канцы XVI стагоддзя перайшлі з праваслаўя ў каталіцтва.

Пачатак роду паклаў сын Альгерда Канстанцін (? — 1390). Сын Канстанціна Васіль (? — пасля 1417) знаходзіўся пры двары караля польскага і найвышэйшага князя літоўскага Ягайлы, валодаў Лагойскам, пакінуў пасля сябе сыноў Івана (? — каля 1460), Аляксандра (? — пасля 1477) і Міхаіла (? — да 1489). У другім калене род падзяліўся на лагойскую і валынскую лініі. Пазней адбывалася далейшае разгалінаванне, пакуль усе лініі роду не зніклі са смерцю Іосіфа ў 1810 годзе.

Іван Васільевіч разам з братамі Аляксандрам і Міхаілам у 1440 годзе браў удзел у арганізацыі змовы і забойстве вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча. Многім не падабалася антымагнацкая дзейнасць князя, тое, што Жыгімонт сваю знешнюю і ўнутраную палітыку падпарадкоўваў выключна польскім інтарэсам, паводзіў сябе вельмі жорстка. Вырашылі адхіліць яго ад улады. Да Чартарыйскіх далучыліся ваяводы віленскі Доўгірд і трокскі Лелуш.

Ноччу перад Вербнай нядзеляй Жыгімонт знаходзіўся ў малельні свайго замка ў Старых Троках. Ён даўно ўжо нікому не давяраў. Толькі прыручаная мядзведзіца мела права свабодна хадзіць па замкавых пакоях. Пад покрывам цемры ў Трокі ўехаў велізарны абоз з сенам — ажно 300 падвод. На кожнай падводзе ў сене хавалася па пяць воінаў. Адны заехалі на двор, іншыя акружылі замак. Аляксандр Чартарыйскі і блізкі яму кіеўскі шляхціч Скабейка падышлі да капліцы. Дзверы зачынены. Чартарыйскі заўважыў любімую мядзве-

дзіцу Жыгімонта, і здагадка прыйшла адразу. Князь пашкрабаў па дзвярах пазногцямі — як мядзведзь. Жыгімонт загадаў адчыніць. Чартарыйскі і Скабейка ўвайшлі ў малельню. Што і як там адбывалася, пра тое дагэтуль спрачаюцца гісторыкі. Адно вядома — душа князя адляцела на неба.

Пачалося следства. Ад пакарання Іван Чартарыйскі схаваўся і выйшаў толькі пасля таго, як атрымаў дараванне ад вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча. Вярнуўся на Валынь, служыў пры двары вялікага князя Свідрыгайлы. Аляксандр жа ўцёк у Маскву. Там далучыўся да Дзмітрыя Шамякі, які быў у сварцы са сваім стрыечным братам вялікім князем маскоўскім Васілём II Цёмным, сынам Соф'і Вітаўтаўны. Пасля прымірэння з маскоўскім князем атрымаў ад Васіля III пасад намесніка ў Пскове (1443–1447, 1456–1460) і Ноўгарадзе (1447–1456). Цікавыя сведчанні пра яго паўторнае валоданне Псковам. Сведчаць, калі вялікі князь маскоўскі Васіль III прыехаў у 1454 годзе ў Ноўгарад, да яго з'явіліся пскавічы і «били челом», каб зацвердзіў Аляксандра Чартарыйскага іхнім князем. Васіль не пярэчыў: «Хочу жаловать и боронить от поганых вас, мою отчину, жалуя вас тем, чтобы Чарторыйский у вас остался; но пусть присягнет он ко мне и детям моим не мыслить зла». На што Чартарыйскі адказаў: «Не хачу; я не раб князя маскоўскага!» І ў 1461 годзе вярнуўся ў Княства, атрымаў ад караля польскага Казіміра IV Лагойск, Асташын, Спораў, Камянец. Быў жанаты з дачкой вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Шамякі Марыяй, ад яго пайшла лагойская лінія Чартарыйскіх.

Дачка віленскага кашталяна, падканцлера Вялікага Княства Літоўскага Казіміра Чартарыйскага (1647 — 31.8.1741) Канстанцыя ў 1720 годзе стала жонкай генерал-лейтэнанта польскага войска Станіслава Панятоўскага. Неўзабаве яны набылі маёнтак Воўчын — цяпер вёска ў Камянецкім раёне. На многія дзесяцігоддзі Воўчын стаў цэнтрам палітычнага, культурнага і грамадскага жыцця. Тут на-

радзіўся будучы апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Князь Міхаіл Фрыдэрык Чартарыйскі (26.4.1696 — 13.8.1775) — падстолі літоўскі (1720–1722), кашталян віленскі (1722–1724), падканцлер літоўскі (1724–1752), канцлер Вялікага Княства Літоўскага з 1752 года, староста гарадзенскі, гомельскі, купішскі. Ён збудаваў каля Воўчына велічны ансамбль-рэзідэнцыю на 36 пакояў у стылі барока. Шматлікія водныя аздобы надавалі палацу падабенства да французскага Версаля. А мэбля сапраўды была прывезена з Францыі. У палацы працавала капэла, князь запрашаў сюды вядомых артыстаў, музыкантаў, паэтаў, мастакоў. У Воўчын прыязджалі міністры, паслы, іншыя вядомыя людзі з усіх краёў. Тройчы на год праводзіліся вялікія кірмашы.

Міхаіл Фрыдэрык Чартарыйскі быў прыхільнікам рэфарматарскіх ідэй. Яго незвычайныя здольнасці заўважыў кароль Станіслаў Ляшчынскі і зрабіў сваім дарадцам. Пазней Міхаіл працаваў у свайго дзядзькі міністра фінансаў Рэчы Паспалітай Юрыя Флемінга. Браў удзел у многіх пасольствах. Актыўна ўплываў на фарміраванне знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай.

Адам Казімір Чартарыйскі, сын Аўгуста Аляксандра, нарадзіўся 1 снежня 1734 года ў Гданьску. Быў паслом на соймы ў 1756, 1758, 1760 і 1762 гадах. У 1764 годзе абраны маршалкам канвакацыйнага сойма і нават вылучаны на пасад караля польскага, але гэтага не хацела расійская імператрыца Кацярына II, таму адмовіўся на карысць свайго стрыечнага брата Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Заснаваў Таварыства навукі, аказваў падтрымку артыстам, літаратарам, вучоным. З'яўляўся графам Свяшчэннай Рымскай імперыі. Ягонай жонкай стала дачка паморскага ваяводы графа Яна Ежы Флемінга, спадчынніца велізарных уладанняў Ізабэла Дарота, у гонар якой бацька назваў пабудаванае ля Ваўкавыска мястэчка Ізабэлін. Ізабэла

прымала актыўны ўдзел у палітычным жыцці, мела сваю рэзідэнцыю ля Варшавы. Заснавала два музеі ў Пулавах, дзе былі багацейшыя археалагічныя, гістарычныя і мастацкія зборы. Сама стварала літаратурныя творы. А яе «Катэхізіс земляроба» меў некалькі выданняў.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) маёнткі Адама Казіміра апынуліся ў Аўстрыі. Ён прыняў аўстрыйскае падданства, з 1808 года з'яўляўся фельдмаршалам аўстрыйскага войска. Аднак трапіў у палон да князя Іосіфа Панятоўскага, у 1809 годзе стаў падданым Польшчы. Калі ў 1812 годзе войскі Напалеона прыйшлі ў Варшаву, з'яўляўся маршалкам Надзвычайнага варшаўскага сойма і Генеральнай канфедэрацыі. Пазней пакінуў палітычную дзейнасць, жыў у Пулавах (цяпер Люблінскае ваяводства, Польшча), дзе некалькі разоў гасціў расійскі імператар Аляксандр I. Займаўся літаратурнай і тэатральнай крытыкай, палітычнай публіцыстыкай, пісаў камедыі, сабраў калекцыю помнікаў даўніны. У 1817 годзе з'ехаў у Галіцыю, а Пулавы аддаў сыну Адаму.

Адам Юрый Чартарыйскі яшчэ ў дзяцінстве, якое праходзіла ў Воўчыне, марыў здзейсніць тры вялікія справы: напісаць багатырскую паэму, атрымаць перамогу ў вялікай бітве і ўратаваць Польшчу. І дабіўся свайго. За ім замацавалася слава вядомага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, бібліяфіла, асветніка. Стварыў Адам і свае літаратурныя творы — кнігі мемуараў «Бард польскі», «Мемуары князя Адама Чартарыйскага», «Жыццё Юльяна Урсына-Нямцэвіча» і іншыя.

Як і іншыя Чартарыйскія, Адам вельмі любіў падарожнічаць, наведаў шмат краін. Калі выбухнула паўстанне Касцюшкі, падтрымаў яго. Пасля паразы ў якасці добраахвотнага палоннага разам з братам паехаў да Кацярыны II, каб вярнуць адабраныя ёю ўладанні. Займеў прыязныя адносіны з расійскім імператарам Аляксандрам I, увайшоў у давер да яго, стаў блізкім дарадцам. Быў паслом Расійскай дзяржавы ў Сардзініі.

Меў план адраджэння Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў іхніх ранейшых межах. Актыўна займаўся знешняй палітыкай. З'яўляўся таварышам міністра, міністрам замежных спраў Расіі ў 1804–1806 гадах, быў членам Дзяржаўнага савета, сенатарам. Аднак пасля смерці Аляксандра I ягоная палітыка не мела ранейшай падтрымкі. Адам змушаны быў з'ехаць у эміграцыю. Удзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830–1831 гадоў, узначальваў Нацыянальны ўрад, за што страціў свае ранейшыя пасады, эміграваў. У Парыжы меў рэзідэнцыю, у якой збіраліся польскія эмігранты — прыхільнікі аднаўлення незалежнай Рэчы Паспалітай. Сам ён лічыўся «каралём дэ факта».

А яшчэ Адам шмат зрабіў для развіцця адукацыі як куратар Віленскай вучэбнай акругі і Віленскага ўніверсітэта. Калі ж вырашыў адпачыць ад бурнай дзейнасці, заняўся літаратурнай справай і навукай. У Пулавах сабраў багатую бібліятэку, якая налічвала каля 40 тысяч кніг.

***Швінтарог*** (***Святарог***) — легендарны літоўскі князь канца XIII стагоддзя, у 1272 годзе непадалёк ад упадзення Віленкі ў р. Вілія збудаваў святыню — капішча Пяркунаса і побач вызначыў месца для спальвання па язычніцкіх звычаях памерлых князёў. У 1382 годзе Ягайла спаліў тут цела задушанага ў Крэўскім замку Кейстута. У 1387 годзе Ягайла разбурыў капішча і збудаваў на яго месцы Віленскі кафедральны касцёл Святога Станіслава.

***Эльжбета-Баніфацыя*** (22.6.1399 — 13.7.1399) — дачка караля польскага і вялікага князя літоўскага Ягайлы і першай ягонай жонкі Ядвігі.

***Эльжбета Баснячка*** (каля 1340 — студзень 1387) — жонка караля венгерскага Людвіка Анжуйскага, дачка баснійскага князя Стэфана Катраманіча і дачкі куяўскага князя Казіміра, маці Ядвігі, каралевы польскай і першай Ягайлавай жонкі. 20 чэрвеня 1353 года адбыўся яе шлюб з каралём венгерскім Людвікам I Вялікім, які ў 1370 годзе стаў

і каралём польскім. У 1365 годзе нарадзілася дачка Кацярына, у 1370-м — Марыя, у 1374-м — Ядвіга. Калі 5 лістапада 1370 года памёр Казімір Вялікі, кароль польскі, ягоны пасад заняў Людвік, які быў каранаваны ў Кракаве 17 лістапада, Эльжбета адсутнічала на каранацыі. 14 красавіка 1375 года адбыліся зашлюбіны дачкі Марыі з Сігізмундам Люксембургскім, а вясной 1385 года яе маці Эльжбета адмовілася ад ранейшай згоды на шлюб. У жніўні 1378 года ў Кошыцах пачаўся з'езд, які прызнаў права на трон адной з дачок Эльжбеты. Напрыканцы года памерла Кацярына, што давала спадзеў на венгерскую карону для Ядвігі. Аднак маці змяніла волю мужа і вызначыла карону для Марыі. Але падзеі павярнуліся так, што Ядвіга ўсё ж стала каралём (менавіта так) польскім. 17 мая 1395 года памерла Марыя, каралева венгерская і сястра Ядвігі. Пасля смерці мужа каралева Эльжбета ў 1382 годзе стала рэгентшай. З снежня 1385 года каралём венгерскім стаў Карл Дурац, а ў лютым наступнага года Эльжбета адабрала ў яго ўладу, караля пакаралі смерцю. 25 ліпеня 1386 года Эльжбета разам са сваёй дачкой Марыяй была зняволена і ў студзені 1387 года задушана венгерскімі шпіёнамі на вачах дачкі.

***Эльжбета з Пільчы — Пілецкая, Эльжбета Граноўская*** (каля 1372 — 12.5.1420) — каралева польская, трэцяя жонка Ягайлы, дачка ваяводы сандамірскага Атона з Пільчы і Ядвігі з Мельштына. У 1382 годзе памёр яе бацька. 15 лютага 1386 года, падчас хрышчэння Ягайлы ў Кракаве, маці Эльжбеты Ядвіга была ягонай хроснай маці.

Надзвычай цікавы, як падаюць гісторыкі, замужні лёс Эльжбеты. Яе ўкраў мараўскі альбо шлёнскі рыцар Вышла Чамбар, адвёз на Маравы і зрабіў сваёй жонкай. Аднак там адбылася яшчэ адна неспадзяванка. Янчык Янчыкавіч Гічынскі звёў багатую паню і ўзяў з ёй шлюб. Калі Чамбар запратэставаў, Гічынскі напаў на яго ў Кракаве і забіў. Стаў другім мужам Эльжбеты. Ягайла не вынес за гэта кары, бо

Чамбар спрыяў крыжакам, а Гічынскі падтрымліваў караля, выступаў супраць Ордэна. Неўзабаве яна аўдавела — каля 1390 года Гічынскі памёр, Эльжбета вярнулася ў Польшчу. Дзядзька Эльжбеты Спытак з Мельштына ў 1399 годзе выдаў яе за кашталяна накельскага Лелевіта Вінцэнта Граноўскага, які выконваў функцыі генеральнага старасты Велікапольшчы. Мела з ім чацвёра дзяцей. Пасля Грунвальдскай бітвы Граноўскі быў атручаны.

21 сакавіка 1416 года памерла другая жонка Ягайлы Ганна Цылейская. Ягайла меў дзвюх кандыдатак на новую жонку: дачку вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітравіча, унучку Вітаўта, і ўдаву брабанцкую князёўну Эльжбету, пляменніцу венгерскага караля і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунда Люксембургскага. Аднак пераважылі пачуцці да трэцяй кандыдаткі — Эльжбеты Граноўскай, у якую Ягайла раптоўна закахаўся. Сустрэўся з ёй у Любамлі. Кароль падараваў ёй шмат футра і іншых багаццяў, што выклікала падазронасць у дваровых. Яна, у адрозненне ад ранейшых жонак, нарадзілася і выхоўвалася ў Польшчы, ведала мову і звычаі народа. У студзені 1417 года Эльжбета разам з сястрой Ягайлы Аляксандрай наведвае караля ў Любамлі над Бугам. Пасля адбыліся яшчэ дзве сустрэчы, і Ягайла, які прыехаў да Эльжбеты ў Саноку, нечакана для ўсіх аб'явіў пра свой выбар.

2 мая 1417 года адбыўся шлюб Ягайлы і «простай полькі» Эльжбеты ў парафіяльным касцёле Санокі. Жаніцьба караля на сваёй падданай выклікала моцны супраціў каронных радцаў, іншых уладных асоб, для Польшчы гэта было нязвыклым. Да таго ж многія, не зважаючы на дазвол Папы Рымскага, лічылі гэты шлюб грэшным, бо Эльжбета як дачка хроснай маці Ягайлы лічылася кананічнай сястрой караля. Пасля вянчання адбыўся непрыемны выпадак: падчас вяртання з касцёла пачалася моцная навальніца, а кола ў карэце зламалася, каралева па гразі пешкі вярталася ў замак. Для прымхлівага Ягайлы гэта мела нядобры знак.

Кароль прызначыў каранацыю жонкі на 19 лістапада 1417 года, дзень патронкі Эльжбеты. Гэта выклікала бурлівыя пратэсты, у тым ліку велікапольскай шляхты, якая заявіла, што няхай Ягайла ўганаруе Эльжбету хоць пяццю каронамі, яны ўсё адно не прызнаюць яе каралевай. Супраць былі Вітаўт і Збігнеў Алясьніцкі, на той час падканцлер. Ягайла палохаў, што вернецца ў Княства, а карону перадасць малалетняй Ядвізе, ягонай дачцэ з Ганнай Цылейскай. Пісар каралеўскай канцылярыі Станіслаў Цёлак нават напісаў «пасквіль» з гэтай нагоды, назваў жаніцьбу з Эльжбетай шлюбам «льва са свіннёй», якая спустошана вялікай колькасцю народзін дзяцей, а караля ашукала багаццямі, вырытымі сваім рылам з зямлі. За гэта Цёлака выгналі з двара. Толькі сястра Ягайлы Аляксандра дбала пра яго асабістае шчасце і падтрымлівала гэткі выбар. Праз Львоў Ягайла з жонкай прыбыў у Кракаў, дзе арцыбіскуп Львоўскі Ян Мікалай каранаваў Эльжбету. Гэта быў шчаслівы для Ягайлы шлюб, кароль усюды́ браў з сабой жонку, што раней бывала не часта, іхняе сумеснае жыццё не мела аніякіх скандалаў. У жніўні 1419 года Эльжбета захварэла, Ягайла ў гэты час стаў менш выязджаць з Кракава. 12 мая 1420 года яна памерла, караля ў Вавелі не было. Многія з каралеўскага атачэння адкрыта радаваліся гэтаму. Пахавана ў Вавельскай катэдры без прысутнасці Ягайлы.

***Эльжбета Лакеткаўна*** (1305 — 29.12.1380) — каралева венгерская са студзеня 1320 да 1342 года, рэгентша Каралеўства Польскага. Дачка Уладзіслава I Лакеткі і дачкі князя Баляслава Пабожнага Ядвігі. У 1320 годзе пашлюбілася з каралём венгерскім Карлам Робертам. Калі ў 1330 годзе быў арганізаваны замах на яе мужа, каралева засланіла яго рукой, у выніку чаго страціла некалькі пальцаў. У 1375 годзе адмовілася ад намесніцтва ў Польшчы, аддала гэтыя функцыі Людвіку, каралю венгерскаму, і вярнулася ў Венгрыю. Аднак пасля яшчэ раз брала намесніцтва ў свае рукі, каб затым у студзені 1377 года адмовіцца канчаткова. Як паве-

дамлялі летапісы, пры яе рэгенцтве справы ў Каралеўстве Польскім ішлі кепска — «не было ніякай стабільнасці і пэўнасці». Новым намеснікам у Каралеўстве Польскім стаў князь Уладзіслаў Апольчык. Каралева памерла 29 снежня 1380 года ў замку венгерскага горада Буда.

***Эльжбета Ракушанка*** (1436 — 30.8.1505) — польская каралева, жонка Казіміра IV Ягелончыка, пабраліся 10 лютага 1454 года. Дачка караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта II Габсбургскага, сястра Уладзіслава Паграбоўца. За трыццаць гадоў сумеснага жыцця мелі шэсць сыноў і сем дачок. Яе называлі маткай каралёў (*гл. артыкул пра Казіміра IV Ягелончыка*) — Уладзіслава Ягелончыка, Яна I Ольбрахта, Аляксандра і Казіміра Святога. Яна адыграла важную ролю ў ажыццяўленні польскай палітыкі адносна каралеўскіх пасадаў у Чэхіі і Венгрыі. Пасля смерці мужа ў 1492 годзе брала чынны ўдзел у правядзенні польскай палітыкі, цярэбячы дарогу сваім сынам да польскага каралеўскага пасада, найперш Яну Ольбрахту, а пазней Аляксандру. Разам з мужам выдзеліла сродкі на фрэскі ў капліцы Святога Крыжа ў Вавельскай катэдры, якія ў 1470 годзе выканаў невядомы майстар з вялікалітоўскіх зямель. Пахавана побач з мужам у капліцы Святога Крыжа ў Вавельскай катэдры.

***Ядвіга Анжуйская*** (18.2.1374 — 17.7.1399) — кароль (менавіта так) польскі *(rex Polonae)* з 1384 года, першая жонка Ягайлы, дачка Людвіка I Вялікага (1326–1382) — караля венгерскага (1342–1382), які пасля смерці свайго дзядзькі Казіміра Вялікага стаў і каралём польскім (1370–1382), і баснійскай княжны Эльжбеты. Чаму кароль? Ды таму, што, па-першае, тады польскія законы не прадугледжвалі знаходжання жанчыны на троне, а, па-другое, існаваў звычай: мужа каралевы маглі прызнаць ці не прызнаць каралём са згоды жонкі альбо пасля яе смерці. 15 чэрвеня 1378 года адбылася шлюбная дамова на будучыню (*pro futuro*) у Гамбургу над Дунаем чатырохгадовай Ядвігі з аўстрыйскім княжычам пяці-

гадовым Вільгельмам Габсбургскім. Шлюбаваў іх арцыбіскуп Эстэргомскі Дзмітрый. Пасля гэтага адбыліся двухтыднёвыя ўрачыстасці. Аднак сапраўднасць шлюб мог набыць толькі пасля дасягнення фізічнай сталасці — для дзяўчыны 12 гадоў, для юнака 14 гадоў. Ядвіга мусіла чакаць гэтага тэрміну пры двары свёкра ў Вене, а Вільгельм — у Кракаве.

10 жніўня 1382 года памёр бацька Ядвігі кароль венгерскі і польскі Людвік. У выніку розных пяратурбацый і заўчаснай смерці старэйшай Ядвізінай сястры Кацярыны сярэдняя дачка Марыя была абрана на венгерскі пасад, а Ядвіга мела б заняць польскі. Маці Ядвігі Эльжбета Баснячка згадзілася на прыезд дачкі ў Польшчу ў лютым 1383 года. Аднак яшчэ шмат доўжыўся час бескаралеўства, і толькі ў кастрычніку 1384 года Ядвіга выехала з Буды ў Кракаў. Частка шляхты, заклапочаная лёсам Каралеўства Польскага ў ягонай барацьбе з крыжакамі і маючы намер спыніць набегі вялікалітоўскіх вояў на польскія землі, вырашыла перасватаць Ядвігу і аддаць яе за Ягайлу, звязаўшы два гаспадарствы персанальнай уніяй. Ядвіга ведала нямецкую і лацінскую мовы, польскую давялося вучыць, калі стала жыць у Кароне. Любіла слухаць лютню, захаплялася гераічнымі раманамі, падабаліся ёй рыцарскія турніры.

Праз 2 гады пасля смерці бацькі Ядвіга была каранавана на караля польскага — 16 кастрычніка 1384 года. Але паколькі была малалетняй, ёю апекаваліся і ад яе імя кіравалі Каронай малапольскія магнаты.

Шмат шкоды нарабіла дамаганне Вільгельма на шлюб з Ядвігай і тым самым на польскі пасад. У жніўні 1385 года ён прыехаў у Кракаў, дзе меў спрыянне Гневаша з Далевіц і князя Уладзіслава Апольчыка, які нават рыхтаваў дзяржаўны пераварот — 24 жніўня захапіў Вавель і пачаў падрыхтоўку да ўрачыстага шлюбу Ядвігі і Вільгельма. Ды кашталян Дабяслаў Завіша з Курозвак разам з малапалянамі выгналі з Вавеля і Апольчыка, і самога Вільгельма, а Ядвігу ўзялі пад пільную ахову. Яна ж ад злосці схапіла

сякеру і хацела разбіць замкнутыя замкавыя вароты. Запярэчыў ёй каронны падскарбі Дымітр з Гарая, які быў прыхільнікам шлюбу Ядвігі з Ягайлам і уніі Польшчы з Княствам. Вось як пра тое паведамляў польскі гісторык Ян Длугаш: «А каралева Ядвіга, разгневаная выдаленнем Вільгельма з замка, намерылася пайсці за ім у горад. А калі ўбачыла, што стараннямі і па загаду замкавых паноў брама аказалася замкнутай, намагалася ўласнаручна выбіць яе сякерай, якую падалі па яе жаданні. Паслухаўшыся, аднак, урэшце просьбаў рыцара Дымітра з Гарая, адмовілася ад задуманага». Гэты выпадак адлюстраваў на сваёй карціне мастак Войцех Герсан «Каралева Ядвіга і Дымітр з Гарая» (1869). Падобную карціну стварыў і Ян Матэйка — «Дымітр з Гарая стрымлівае Ядвігу ад ламання дзвярэй у каралеўскім замку ў Вавелі» (1881), больш вядомую пад назвай «Ядвіга і Дымітр з Гарая».

З волі польскіх рыцараў і шляхты Ядвіга 18 лютага 1386 года стала жонкай вялікага князя літоўскага Ягайлы. 8 сакавіка 1387 года як галоўны кіраўнік войска польскага Ядвіга заняла Львоў, які належаў венграм. У 1387 альбо 1378 годзе яе несправядліва абвінавацілі ў здрадзе мужу. Прыхільнік Вільгельма Габсбургскага Гневаш з Далевіц пусціў пагалоску, што Ядвіга скарыстала адсутнасць у Кракаве Ягайлы і таемна сустракаецца з Вільгельмам. Выбухнуў скандал. Ядвіга мусіла скласці прысягу вернасці перад галоўным алтаром Вавельскай катэдры. Гневаша асудзілі. Гэты выпадак адлюстраваў на сваёй карціне «Прысяга каралевы Ядвігі» мастак Іосіф Сімлер (1869).

У 1392 годзе Ядвіга ажыццявіла падарожжа разам з мужам на вялікалітоўскія землі, дзе брала ўдзел у сустрэчы з Вітаўтам. Было заключана Востраўскае пагадненне (у Востраве каля Ліды) аб падзеле ўлады і гарантаванні самастойнасці Княства ў саюзе з Каронай. Ягайла прызнаў асобнасць Вялікага Княства Літоўскага пад уладай Вітаўта і надаў яму пажыццёвы тытул вялікага князя (*magnus dux*), а сабе пакі-

нуў тытул найвышэйшага князя (*supremus dux*). Вітаўт з Ганнай прысягнуў на вернасць Кароне і самой каралеве Ядвізе. Гэта спыніла іхнія міжусобныя сутычкі.

11 мая 1397 года Ядвіга атрымала згоду Папы Рымскага на адкрыцё ў Кракаўскім універсітэце тэалагічнага факультэта. Пры Пражскім універсітэце ў 1397 годзе арганізавала бурсу для вялікалітоўскіх клірыкаў. Разам з Ягайлам стала фундаторкай у Кракаве кляштара манахаў-бенедыктынаў з Прагі.

22 чэрвеня 1399 года ў Ядвігі і Ягайлы нарадзілася дачка Эльжбета, якую назвалі ў гонар Ядвізінай маці. Яна мела і другое імя — Баніфацыя, па хросным бацьку, якім быў Папа Рымскі Баніфацый IX. Ягайла выслаў у многія сталіцы Еўропы ганцоў, каб яны паведамілі аб гэтым, як раней такім жа чынам абвясціў ім пра цяжарнасць сваёй жонкі. У Кракаў з'ехаліся высокія госці з розных краін. Быў тут і Вітаўт з жонкай Ганнай. Аднак 13 ліпеня 1399 года Эльжбета Баніфацыя памерла.

Неўзабаве памерла і сама Ядвіга — 17 ліпеня 1399 года, ва ўзросце 25 гадоў. Перад смерцю яна зрабіла духоўнае распараджэнне. Даручыла, каб усе каштоўнасці, усе ўборы, усе наяўныя грошы яе казны, уся рухомая маёмасць пайшлі на дапамогу бедным і на аднаўленне Кракаўскага ўніверсітэта. А Ягайлу параіла, каб ён не страціў польскай кароны і таму ўзяў шлюб з Ганнай Цылейскай, забытай унучкай Казіміра Вялікага. Ядвігу пахавалі ў Вавельскай катэдры поруч з дачкой. Паны польскія паўторна склалі прысягу Ягайлу як каралю. Жалобу дэманстратыўна насіў у Вене і аўстрыйскі княжыч Вільгельм Габсбургскі.

У 1997 годзе Ядвіга кананізавана як святая.

***Ядвіга Ягайлаўна*** (8.4.1408 — 8.12.1431) — дачка караля польскага Ягайлы і Ганны Цылейскай, у свае пяць гадоў на з'ездзе ў Едлні прызнана спадкаемцай польскага трона. Адным з апекуноў яе стаў вялікі князь літоўскі Вітаўт. У 1419 годзе Польшча заключыла мір са Скандынавіяй, кіраўніком якой быў слупскі князь Эрык. Тады ж дамовілі-

ся, што мужам Ядвігі стане стрыечны брат Эрыка і ягоны спадкаемца слупскі князь Багуслаў IX (пасля 1410 — 1446). У гэтым выпадку ён меў бы права і на польскі пасад. Але, акрамя таго, мог бы валодаць аўстрыйскім, шведскім і нарвежскім пасадамі. Ды не сталася так, як планавалася.

Калі Ядвізе спўнілася 13 гадоў, Ягайла заручыў яе з 8-гадовым Фрыдэрыкам Брандэнбургскім, якога запрасілі ў Кракаў на выхаванне. Ягайла даў яму апекуноў, што паскорыла апалячванне Фрыдэрыка. Разам з каралём ён выязджаў на ловы ў Белавежскую пушчу, дзе зламаў нагу. Прадугледжвалася, што, нават калі б Ядвіга памерла, Фрыдэрык захоўваў бы сваё права на польскі пасад. Перашкодзіць гэтаму магло толькі нараджэнне ў Ягайлы сыноў. Таму Ядвіга і яе прыхільнікі былі супраць жаніцьбы Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. Пратэктараткай Ядвігі была Барбара Цылейская — жонка Сігізмунда Люксембургскага, караля нямецкага і венгерскага, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі.

Адносіны паміж Ядвігай і мачыхай каралевай Соф'яй, якая была ўсяго на тры гады старэйшай за Ядвігу, не скл аліся. Аднак, нават нягледзячы на гэта, яе нарачоны Фрыдэрык і пасля нараджэння ў Ягайлы сыноў не пакінуў Польшчу, хоць мог бы перашкодзіць каралевічам заняць пасад. Да таго ж Ядвіга была па маці праўнучкай Казіміра Вялікага, што магло б знайсці падтрымку ў палякаў. У 1430 годзе, калі Ядвіга захварэла, Соф'ю абвінавачвалі ў яе атручэнні. Аднак сама Ядвіга перад смерцю адпрэчыла гэтыя плёткі. Пахавана разам са сваёй маці, а Фрыдэрык вярнуўся ў Нямеччыну. Але нападкі на Соф'ю Гальшанскую не спыніліся, і яна мусіла прынесці ачышчальную прысягу, што невінаватая ў смерці Ядвігі.

А праз год пасля смерці Ядвігі ў Кракаве з'явіўся пасол ад караля Кіпра з просьбай рукі Ядвігі для свайго сына.

***Ян з Жэшава*** — арцыбіскуп Львоўскі (з 1411); клапаціўся пра ўраўнаванне правоў сваёй архідыяцэзіі з правамі

26 Зак 1939

Гнезненскай; у 1417 годзе каранаваў каралеву Эльжбету Пілецкую (Граноўскую) — трэцюю жонку караля Ягайлы; да гэтага каранацыю ажыццяўляў арцыбіскуп Гнезненскі як вышэйшы касцельны служка, ім быў Мікалай Тромба, які на той час браў удзел у саборы ў Канстанцы. Ян здабыў для сябе і для сваіх нашчадкаў тытул прымаса Польшчы.

***Ястшэмбец Войцех*** (? — 1436) — Кракаўскі канонік, канцлер каралевы Ядвігі, біскуп Пазнанскі, Кракаўскі, канцлер каронны, арцыбіскуп Гнезненскі. Гэта менавіта ён, як канцлер каронны, адмовіўся прыкласці каралеўскую пячатку на згоду Ягайлы зрабіць спадкаемцам трона сына Эльжбеты Пілецкай (Граноўскай) ад папярэдняга замужжа. За гэта страціў сваю пасаду.



## ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ ЛІТОЎСКІЯ

Гэта быў самы галоўны тытул князя ў Вялікім Княстве Літоўскім. Вялікі князь (*magnus dux*) стаяў на чале дзяржавы, называўся яшчэ гаспадаром, а Княства — гаспадарствам. Дзейнічаў спадчынны прынцып перадачы ўлады, хоць вялікага князя выбіралі феадалы, часцей некага з блізкіх, родных ці сыноў папярэдняга гаспадара. Наконт часу і абставін гаспадарства, сваяцкіх повязяў асобных вялікіх князёў у XII–XIV стагоддзях існуюць розныя версіі і дапушчэнні. Таму мы выбралі свой падыход да гэтай праблемы, які, магчыма, не супадае з агульнапрынятым. У часы Ягелонскай дынастыі вялікіх князёў на пасад узводзілі ў Вільні, у кафедральным касцёле Святога Станіслава і Уладзіслава (1392, 1492, 1506, 1592). Вялікаму князю ўручаліся карона і меч. Пасля Крэўскай уніі 1385 года

большасць вялікіх князёў насілі тытул і караля польскага, а пасля Люблінскай уніі 1569 года кароль польскі абавязкова адначасова з'яўляўся і вялікім князем літоўскім, узначальваў Рэч Паспалітую абодвух народаў — *Rzeczpospolita Obojga Narodów*. З канца XVIII стагоддзя, пасля ліквідацыі Княства ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай, да 1917 года тытулам вялікага князя літоўскага карысталіся расійскія імператары.

**Міндоўг** (1195? — 1263) — магчыма, быў сынам літоўскага князя Даўгерда, час знаходжання на княскім пасадзе — сярэдзіна 1230-х — 1263 год. Заснавальнік Вялікага Княства Літоўскага, першы і адзіны кароль літоўскі з 6 ліпеня 1253 года, каранаваўся ў Новагародку.

**Транята, Трайнята** (? — 1264) — сын сястры Міндоўга, вялікі князь літоўскі ў 1263–1264 гадах.

**Войшалк** (1225? — 1268) — сын Міндоўга, вялікім князем літоўскім быў у 1264–1267 гадах.

**Шварн** (? — каля 1270?) — сын галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча, князь галіцкі, вялікі князь літоўскі ў 1267 — каля 1270 года.

**Трайдзен, Трайдзень** (? — 1282?) — на пасадзе знаходзіўся каля 1270 — каля 1282 года, пры ім галоўнай рэзідэнцыяй лічыўся замак Кернаў.

**Даўмонт** (? — 5.8.1285) — магчыма, быў сынам вялікага князя Трайдзена, верагодна, быў вялікім князем у 1280-я гады.

**Будзівід** (існуюць меркаванні, што Пукувер, Путувер, Лютувер і Будзівід — гэта адна і тая ж асоба; ? — 1294/1295) — на пасадзе знаходзіўся ў 1280–1290-х гадах.

**Бурдзікід** — на пасадзе знаходзіўся ў 1280–1290-х гадах, брат Будзівіда, існуе меркаванне, што Бурдзікід быў гаспадаром у Жамойці, а Будзівід — у Аўкштайціі.

**Віцень** (? — 1316) — на пасадзе знаходзіўся каля 1295 і да 1316 года. Існуюць розныя версіі ягонага паходжання, некаторыя лічаць яго сынам князя Пукувера (Путувера, Лютувера).

**Гедымін** (Гедзімін; каля 1275 — 1341) — адны лічаць яго сынам Віценя, іншыя — братам Віценя, заснавальнік дынастыі Гедымінавічаў, на пасадзе знаходзіўся ў 1316-1341 гадах.

**Яўнут** (Яўнуцій, у праваслаўі Іван; каля 1308 — пасля 1366) — сын вялікага князя Гедыміна і Еўны з Полацка, быў першым князем, які ўцёк у Маскву — да свайго швагра вялікага князя маскоўскага Сямёна Іванавіча Гордага і ў 1346 годзе прыняў праваслаўе, з яго пайшоў род князёў Заслаўскіх, на пасадзе вялікага князя літоўскага знаходзіўся ў 1341-1345 гадах.

**Альгерд** (каля 1296 — май 1377) — сын Гедыміна, пачынальнік велікакняскай дынастыі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV–XVI стагоддзях, на пасадзе знаходзіўся ў 1345-1377 гадах.

**Ягайла** (у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Уладзіслаў; 1352? — 1.6.1434) — сын вялікага князя літоўскага Альгерда і цвярской князёўны Уляны Аляксандраўны, на пасадзе вялікага князя знаходзіўся ў 1377-1381, 1382-1392 гадах, у 1386-1434 — найвышэйшы (вярхоўны) князь літоўскі, кароль польскі Уладзіслаў II (1386-1434), заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

**Кейстут** (1297 — 15.8.1382) — сын вялікага князя Гедыміна, на пасадзе знаходзіўся ў 1381-1382 гадах, у 1345-1377 гадах падзяляў уладу з Альгердам.

**Вітаўт Вялікі** (у каталіцтве Віганд, у праваслаўі Аляксандр; 1350 — 27.10.1430) — сын вялікага князя Кейстута, стрыечны брат Ягайлы, на пасадзе знаходзіўся ў 1392-1430 гадах.

**Свідрыгайла** (у праваслаўі Леў, у каталіцтве Баляслаў; каля 1370 — 10.2.1452) — сын вялікага князя Альгерда і цвярской князёўны Уляны Аляксандраўны, брат Ягайлы, на пасадзе знаходзіўся ў 1430-1432 гадах.

**Жыгімонт Кейстутавіч** (каля 1365 — 20.3.1440) — сын вялікага князя Кейстута і жрыцы-вайдэлоткі з язычніцка-

га капішча Біруты, брат Вітаўта, на пасадзе знаходзіўся ў 1432–1440 гадах.

**Казімір Ягайлавіч** (Казімір Андрэй; 30.11.1427 — 7.6.1492) — сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, на пасадзе вялікага князя літоўскага знаходзіўся з 29.6.1440 да 1492 года, кароль польскі Казімір IV Ягелончык (1447–1492).

**Аляксандр II Ягайлавіч** (5.8.1461 — 19.8.1506) — сын Казіміра IV і Эльжбеты Габсбургскай, вялікі князь літоўскі фармальна з 1484 года, фактычна ў 1492–1506 гадах, кароль польскі ў 1501–1506 гадах.

**Жыгімонт Стары** (1.1.1467 — 1.4.1548) — сын Казіміра IV, унук Ягайлы, вялікі князь літоўскі ў 1506–1548 гадах і кароль польскі Жыгімонт I Стары.

**Жыгімонт Аўгуст** (1.8.1520 — 7.7.1572) — сын Жыгімонта Старога і Боны Сфорцы, вялікі князь літоўскі ў 1548–1572 гадах (фармальна з 1529) і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст.

**Генрык Валезы** (Генрых Валуа; 19.9.1551 — 2.08.1589) — сын Генрыха II Валуа і Кацярыны Медычы, вялікі князь літоўскі (1573–1574) і кароль польскі Генрык Валезы, кароль Францыі (1575–1589).

**Стэфан Баторы** (Стафан Баторый; 27.9.1533 — 12.12.1586) — са старажытнага венгерскага роду Баторыяў Шомліо, вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1576–1586). Для яго ў 1576 годзе быў перакладзены са старабеларускай мовы на лацінскую Статут ВКЛ 1566 года. Да выдання была зроблена прадмова перакладчыка і агляд гісторыі ВКЛ «Кароткі аповед пра літоўскіх князёў ад перасялення італійцаў з Публіем Лібонам, або, як піша Літоўская гісторыя, Палемонам, да Ягелонаў».

Калі памёр Стэфан Баторы, руская дыпламатыя намагалася дабіцца разрыву польска-літоўскай уніі і мела на мэце паставіць рускага цара Фёдара, сына Івана Грознага, на вялікалітоўскі пасад. На элекцыйны сейм Рэчы Паспалітай у

1587 годзе рускае пасольства прывезла сваё меркаванне аб выбранні Фёдара на кіраўніка Рэчы Паспалітай, а таксама на аб'яднанне Расіі і Польшчы. Знайшліся прыхільнікі гэтай ідэі сярод вялікалітоўскай і польскай знаці, аднак з умовай інкарпарацыі Расіі ў склад Рэчы Паспалітай. Але гэта не ўваходзіла ў планы царскага ўрада. Праект не быў ажыццёўлены.

**Жыгімонт Ваза** (20.6.1566 — 30.4.1632) — сын шведскага караля Юхана (Яна) III Вазы і Кацярыны Ягелонкі — дачкі Жыгімонта I Старога, вялікі князь літоўскі (1587- 1632) і кароль польскі Жыгімонт III Ваза, кароль Швецыі (1592-1599).

**Уладзіслаў Ваза** (9.6.1565 — 20.5.1648) — сын Жыгімонта III Вазы, вялікі князь літоўскі (1632-1648) і кароль польскі Уладзіслаў IV Ваза, тытулярны цар маскоўскі і ўсяе Русі (1610-1634), тытулярны кароль шведскі (1632-1648).

**Ян Казімір Ваза** (22.3.1609 — 16.12.1672) — сын Жыгімонта III Вазы, вялікі князь літоўскі (1648-1668) і кароль польскі Ян II Казімір, па спадчыне меў тытул караля Швецыі да 1660 года.

**Міхаіл Вішнявецкі** (Карыбут Вішнявецкі; 31.7.1640 — 10.11.1673) — сын Іераміі Міхаіла Вішнявецкага, вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1669-1673).

**Ян Сабескі** (17.8.1629 — 17.6.1696) — вялікі князь літоўскі (1674-1696) і кароль польскі Ян III Сабескі.

**Аўгуст Моцны** (у Саксоніі Фрыдрых Аўгуст I; 12.5.1670 — 1.2.1733) — сын саксонскага курфюрста Іагана Георга III Веціна, вялікі князь літоўскі (1697-1706, 1709-1733) і кароль польскі Аўгуст II Моцны, курфюрст саксонскі (1694-1733).

**Станіслаў Ляшчынскі** (20.10.1677 — 23.2.1766) — сын пазнанскага ваяводы Рафала Ляшчынскага, вялікі князь літоўскі (1704-1709, з 12.9.1733 і да 1736) і кароль польскі.

**Аўгуст III** (17.10.1696 — 5.10.1763) — сын Аўгуста II Моцнага, вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1733–1763), курфюрст саксонскі (1733–1763).

**Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** (да каранацыі на караля польскага Станіслаў Антоні; 17.1.1732 — 12.2.1798) — сын ваеннага дзеяча ВКЛ і Швецыі Станіслава Панятоўскага і Канстанцыі Чартарыйскай, якая ў 1721 годзе стала ўладальніцай маёнтка Воўчын у Берасцейскім павеце, дзе і нарадзіўся Станіслаў Аўгуст, апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі (1764–1795).



## КНЯЗІ І КАРАЛІ ПОЛЬСКІЯ

Кароль — тытул манарха, лічыцца, што паходзіць ад лацінскай формы імя Карла Вялікага — *Carolus*. З XIV стагоддзя караля польскага выбіралі на сойме, у тым ліку і ў Рэчы Паспалітай, калі кароль польскі адначасова з'яўляўся і вялікім князем літоўскім. Аднак каралеўская ўлада лічылася спадчыннай. Каранацыю каралёў праводзілі спачатку ў Гнезне (з 1025), затым у Вавельскім кафедральным касцёле Кракава (з 1320) і Варшаве (1705, 1764). У Кракаве іх каранаваў арцыбіскуп Гнезненскі, ён уручаў залатую карону, скіпетр, залаты шар з крыжам, які называлі яблыкам, каралеўскі меч і пярсцёнак.

У гісторыі Польшчы можна выдзеліць наступныя перыяды: Княства Польскае — да 992 года, Каралеўства Польскае — у 992–1032 гадах, Княства Польскае — у 1032–1138, Княства Кракаўскае — у 1138–1290 гадах, Каралеўства Польскае — з 1290 года. Крэўская унія Польшчы і ВКЛ (1385), Рэч Паспалітая — з Люблінскай уніі 1569 года.

***Да 992 года — Княства Польскае***

***Пясты (Piastowie)*** — княская і каралеўская польская дынастыя, якая панавала ў Польшчы да 1370 года. Яе пачынальнікам лічыцца легендарны селянін Пяст.

**Пяст** — 842–861.

**Земавіт** — 861–892.

**Лестак** — 892–921.

**Земамысл** — 913–964.

**Мешка I** (каля 935 — 25.5.992) — сын язычніцкага князя Земамысла, маці невядома, князь палян (з 960), першы гістарычны ўладар Польшчы. У 966 годзе разам з дваром прыняў хрышчэнне, што стала пачаткам хрышчэння Польшчы. Ад шлюбу з чэшскай княжной Добравай меў сына Баляслава I Храбрага і дачку Святаславу Сыгрыду, а ад другога шлюбу з дачкой маркграфа Мархіі Одай меў сыноў Мешку, Святаполка, Ламберта і, верагодна, Дытрыка (Тэадарыка). Пахаваны ў Пазнанскай катэдры.

**Баляслаў I Храбры** (Вялікі; каля 967 — 1025) — старэйшы сын Мешкі I і першай ягонай жонкі Добравы, князь польскі (992–1025), кароль польскі (1025), каранаваны 18 красавіка 1025 года ў Гнезне каралеўскай каронай ад Папы Рымскага. З гэтай даты засведчана самастойнасць і незалежнасць Польшчы. Быў жанаты чатыры разы. Пахаваны ў Пазнанскай катэдры.

***1032–1138 гады — Княства Польскае***

**Мешка II Ламберт** (каля 990 — 10.5.1034) — сын Баляслава Храбрага і дачкі заходнеславянскага князя Драгаміра Эмнільды, кароль (1025–1032) і князь польскі (1032–1034), каранаваны 25 снежня 1025 года ў Гнезне. Пахаваны ў Пазнанскай катэдры.

**Казімір I Аднавіцель** (1016 — 28.10.1058) — сын Мешкі II і дачкі латарынгскага палатына Рыхезы, князь польскі (1034–1058). Пахаваны ў Пазнанскай катэдры.

**Баляслаў II Смелы** (Шчодры; каля 1040 — 1081) — старэйшы сын Казіміра Аднавіцеля і дачкі кіеўскага князя Уладзіміра Дабранегі Марыі, князь польскі (з 1058), кароль польскі (1076–1079), каранаваны 25 снежня 1076 года ў Гнезне. Ён перанёс сталіцу польскай дзяржавы з Гнезна ў Кракаў. У 1079 годзе мусіў пакінуць край і падацца ў выгнанне, памёр у 1081 годзе ў Венгрыі.

**Уладзіслаў I Герман** (1042/1043 — 4.6.1102) — другі сын Казіміра Аднавіцеля і Дабранегі Марыі, бацька Баляслава Крывавустага, князь польскі (1079/1081? — 1102). Памёр у Плоцку, пахаваны ў кафедральным касцёле гэтага горада.

**Баляслаў III Крывавусты** (1085/1086 — 28.10.1138) — малодшы сын Уладзіслава Германа і яго другой жонкі чэшскай княжны Юдыты, князь польскі (1102–1138). Пахаваны ў катэдры Плоцка.

*Пасля смерці Баляслава Крывавустага адбыўся падзел дынастыі на некалькі княскіх ліній.*

***1138–1290 гады — Княства Кракаўскае***

**Уладзіслаў II Выгнанец** (1105–1159) — старэйшы сын Баляслава Крывавустага і яго першай жонкі дачкі кіеўскага князя Святаполка II Збыславы, князь польскі (1138–1146). Ад яго пайшла сілезская лінія Пястаў, якая згасла ў 1675 годзе. У 1146 годзе мусіў уцякаць у Чэхію, а затым да немцаў. Памёр у выгнанні ў Альтэнбургу (Германія).

**Баляслаў IV Кучаравы** (1122 — 5.1.1173) — сын князя Баляслава Крывавустага і яго другой жонкі Саламеі, князь польскі (1146–1173). Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Мешка III (Мечыслаў) Стары** (каля 1121 — 13.3.1202) — сын Баляслава Крывавустага і яго другой жонкі Саламеі, князь польскі (1173–1177, 1199–1202). Памёр і пахаваны ў Калішы. Ад яго пайшла велікапольская лінія Пястаў, якая згасла ў 1296 годзе. Старым называлі таму, што перажыў усіх сваіх братоў.

**Казімір II Справядлівы** (1138 — 5.5.1194) — малодшы сын Баляслава Крывавустага і яго другой жонкі Саламеі, князь кракаўскі і вышэйшы польскі (1177–1194). Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве. Ад яго пайшла малапольская лінія Пястаў, якая згасла ў 1279 годзе, а таксама мазавецкая — згасла ў 1526 годзе, куяўская — згасла ў 1388 годзе.

**Лешак I Белы** (1186 — 14.11.1227) — старэйшы сын Казіміра II Справядлівага і чэшскай княжны Алены, князь кракаўскі (1194–1199, 1202–1227). Быў забіты падчас сутычкі за Гданьскае Памор'е, пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Мешка III (Мечыслаў) Стары** — паўторна ў 1199-1202 гадах.

**Уладзіслаў III Танканогі** (1161 — 3.11.1231) — сын князя Мешкі III Старога і кіеўскай княжны Еўдакіі (Яўдоксіі), князь малапольскі з сакавіка 1202 года, князь кракаўскі ў 1192 і 1228 гадах. У 1228 годзе быў вымушаны перадаць уладу ў Кракаве Генрыку Барадатаму. У выніку міжусобнай барацьбы апынуўся ў выгнанні, схаваўся ў Рацібory.

**Генрык I Барадаты** (1165/70 — 19.3.1238) — сын шлёнскага князя Баляслава I Высокага і нямецкай княжны Адэлаіды, князь кракаўскі (1228–1229, 1232–1238). Пахаваны ў Трэбніцы.

**Конрад I Мазавецкі** (каля 1187 — 1247) — сын Казіміра Справядлівага і кіеўскай княжны Алены, кароль польскі (1229–1232, 1241–1243). У 1229 годзе ён заняў Кракаў, паланіў шлёнскага князя Генрыка Барадатага. Пахаваны ў катэдры Плоцка.

**Генрык I Барадаты** — паўторна ў 1232–1238 гадах.

**Генрык II Набожны** (каля 1196/1204 — 9.4.1241) — сын Генрыка I Барадатага і Ядвігі, князь кракаўскі (1238–1241). Загінуў падчас татара-мангольскага нападу на Польшчу ў 1241 годзе на палях Легніцы.

**Конрад Мазавецкі** — паўторна ў 1241–1243 гадах.

**Баляслаў V Сарамлівы** (1226 — 7.12.1279) — сын кракаўскага князя Лешкі Белага і рускай княжны Грыміславы, князь кракаўскі (1243–1279). У трынаццігадовым узросце пашлюбіўся з пяцігадовай дачкой венгерскага караля Бела IV Кунагундай. Памёр бяздзетным, пахаваны ў Кракаве ў кляштары айцоў францысканаў.

**Лешак II Чорны** (каля 1240/42 — 30.9.1288) — сын куяўскага князя Казіміра І і дачкі Генрыка Набожнага Канстанцыі, брат Уладзіслава І Лакеткі, кракаўскі князь (1279–1288). Памёр бяздзетным, пахаваны ў Кракаве ў базыліцы айцоў дамініканаў.

**Генрык IV Пробус** (каля 1257 — 24.06.1290) — сын шлёнскага князя Генрыка III Белага і дачкі Конрада Мазавецкага Юдыты. Адразу пасля смерці Лешка Чорнага кракаўскі пасад апынуўся ў Генрыка Пробуса — у 1288–1290 гадах. Калі памёр бяздзетны Лешак Чорны, кракаўскія магнаты ўзвялі на трон плоцкага князя Баляслава, а вось нямецкія жыхары горада разам з кашталянам Сулкам ахвяравалі трон Генрыку, які захапіў горад яшчэ ў 1289 годзе. Калі ж Генрык накіраваўся на Шлёнск, у Кракаў уварваўся родны брат Лешка Чорнага Уладзіслаў Лакетак. Каб умацаваць свой пасад, Генрык паехаў шукаць падтрымкі ў Рыме і дабівацца каранацыі, але падчас выправы ён памёр. Пахаваны ў Вроцлаве.

***Дынастыя Пржэмыслаў (Пржэмыслідаў)***

**Пржэмысл (Пржэмыслаў) II** (1257–1296) — сын пазнанскага князя Пржэмысла І і дачкі шлёнскага князя Генрыка II Набожнага вроцлаўскай княжны Эльжбеты, князь пазнанскі (з 1273), вялікапольскі (1290–1291), кароль польскі (1295–1296). Урачыста каранаваны (пасля двухсотгадовага перапынку) з жонкай Малгажатай 26 чэрвеня 1295 года ў галоўнай катэдры Гнезна. Меў тытул караля па-

лякаў і князя Памор'я. Быў забіты змоўшчыкамі ў барацьбе за Гданьскае Памор'е, сыноў не меў, пахаваны ў Пазнанскай катэдры.

**Вацлаў I** — 1300–1305.

**Вацлаў II** (1271 — 25.6.1305) — сын чэшскага караля Пржэмысла Атакара II і дачкі галіцкага князя Расціслава Кунагунды, князь кракаўскі і сандамірскі (з 1291), кароль польскі (з 1300), кароль чэшскі (з 1278). Каранаваны на караля польскага ў жніўні 1300 года ў Гнезне. Пахаваны ў кляштары Збраслава.

***Дынастыя Пястаў***

**Уладзіслаў I Лакетак (Лакетка)** (каля 1260 — 2.3.1333) — сын куяўскага князя Казіміра I і дачкі князя апольскага і раціборскага Казіміра, бацька Казіміра III Вялікага, князь брэсцка-куяўскі (з 1267), серадзскі (з 1288), ленчыцкі (з 1294), кароль польскі (1320–1333). Каранаваны з жонкай Ядвігай 20 студзеня 1320 года ўпершыню ў катэдры Святога Вацлава і Станіслава ў Кракаве, які стаў сталіцай аб'яднанай дзяржавы. Памёр і пахаваны ў Кракаве — у Вавельскай катэдры.

**Казімір III Вялікі** (1310 — 5.11.1370) — адзіны сын караля польскага Уладзіслава Лакеткі і дачкі калішскага князя Баляслава Набожнага Ядвігі, кароль польскі (1333–1370), каранаваны з жонкай — дачкой вялікага князя літоўскага Гедыміна Альдонай (Ганнай) 25 красавіка 1333 года ў Кракаве. Апошні з Пястаў на польскім каралеўскім пасадзе. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве. Пасля яго смерці фармальна каралём стаў Людвік Венгерскі, а на справе рэгентшай была венгерская каралева Эльжбета Лакеткаўна.

***Дынастыя Анжуйская (Анжуйскі дом)***

**Людвік I (Анжуйскі) Венгерскі** (5.3.1326 — 11.9.1382) — з французскай дынастыі Анжу, сын караля Карла I Роберта

Анжуйскага і дачкі Уладзіслава Лакеткі Эльжбеты, сястры польскага караля Казіміра III. Каранаваны на караля польскага 10 лістапада 1370 года ў Кракаве. З 1342 года быў каралём венгерскім, называлі Вялікім. Памёр у Венгрыі, пахаваны ў Сехешфехерварьі (Венгрыя).

**1382–1385** — час бескаралеўства.

**Ядвіга Анжуйская Венгерская** (18.2.1374 — 17.7.1399) — дачка караля венгерскага і польскага Людвіка I Вялікага і Эльжбеты, кароль польскі (1384–1399). Каранавана 15 кастрычніка 1384 года ў Кракаве. Залічана да ліку святых. Пахавана ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

***Дынастыя Ягелонаў*** — з лініі Гедымінавічаў, нашчадкі вялікага князя літоўскага і караля польскага Ягайлы, унука Гедыміна, і яго чацвёртай жонкі Соф'і Гальшанскай. У ВКЛ знаходзіліся на пасадзе ў 1440–1572 гадах, у Рэчы Паспалітай — у 1434–1572 гадах, у Венгрыі — у 1440–1444 і 1490–1526 гадах, у Чэхіі — у 1471–1526 гадах.

**Уладзіслаў II Ягайла** (1351/1352 — 1434) — сын вялікага князя літоўскага Альгерда і цвярской князёўны Ульяны Аляксандраўны, кароль польскі (1386–1434), каранаваны 4 сакавіка 1386 года ў Кракаве, вялікі князь літоўскі (1377–1381, 1382–1392), з 1387 года — найвышэйшы (вярхоўны) князь літоўскі Ягайла. Памёр у Грудку (Гарадку) каля Львова, пасля чаго гэты горад стаў называцца Гарадком Ягелонскім, сэрца яго ўпершыню ў гісторыі Польшчы пахавана ў Гарадку, а цела — у Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Уладзіслаў III Варненьчык** (31.10.1424 — 10.11.1444) — старэйшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, кароль польскі (1434–1444), каранаваны 25 ліпеня 1434 года ў Кракаве, і кароль Венгрыі Ласла I (Уладзіслаў I Ягелончык) у 1440–1444 гадах. Загінуў на полі бітвы з туркамі каля Варны, цела яго не знайшлі. Месца пахавання невядома.

**1444–1447** — час бескаралеўства.

**Казімір (Андрэй) IV Ягелончык** (30.11.1427 — 7.6.1492) — трэці сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай, кароль польскі (1447–1492), каранаваны 25 чэрвеня 1447 года ў Кракаве, вялікі князь літоўскі Казімір (1440–1492). Памёр у Гародні, пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Ян I Ольбрахт** (27.12.1459 — 17.6.1501) — трэці сын Казіміра IV Ягелончыка і дачкі караля нямецкага, чэшскага і венгерскага Альбрэхта Габсбурга Эльжбеты, кароль польскі (1492–1501). Каранаваны 23 верасня 1492 года ў Кракаве. Быў нежанаты. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Аляксандр Ягелончык** (5.8.1461 — 19.8.1506) — чацвёрты сын Казіміра IV Ягелончыка і дачкі караля нямецкага, чэшскага і венгерскага Альбрэхта Габсбурга Эльжбеты, кароль польскі (1501–1506), каранаваны 12 снежня 1501 года ў Кракаве, вялікі князь літоўскі Аляксандр II (1492–1506), найвышэйшы князь літоўскі (з 1501). Памёр бяздзетным. Пахаваны ў Вільні.

**Жыгімонт I Стары** (1.1.1467 — 1.4.1548) — пяты сын Казіміра IV Ягелончыка і дачкі караля нямецкага, чэшскага і венгерскага Альбрэхта Габсбурга Эльжбеты, кароль польскі (1506–1548), каранаваны 24 студзеня 1507 года ў Кракаве, вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары (з 1506). Пахаваны ў капліцы Жыгімонтаў у Вавельскай катэдры ў Кракаве.

***З 1569 года — Рэч Паспалітая***

**Жыгімонт II Аўгуст** (1.8.1520 — 7.7.1572) — сын Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы, кароль польскі з 1548 года (фармальна з 1530), каранаваны 20 лютага 1530 года ў Кракаве, вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст фармальна з 1529 года, фактычна — з 1544 года. Быў бяздзетны. Пахаваны ў капліцы Жыгімонтаў у Вавельскай катэдры ў Кракаве. На ім закончылася Ягелонская каралеўская дынастыя ў Польшчы. Каралёў пачалі выбіраць. Пасля Люблінскай уніі 1569 года каралі польскія адначасова з'яўляліся і вялікімі князямі літоўскімі.

**1572–1573** — час бескаралеўства.

***Каралі выбарныя***

**Генрык Валезы** (Генрых III Валуа; 19.9.1551 — 2.8.1589) — трэці сын французскага караля Генрыка II з дынастыі Валуа і Кацярыны Медычы, кароль польскі (1573–1574), на караля абраны ў 1573 годзе, у Польшчу прыехаў у 1574 годзе, каранаваны 21 лютага 1574 года ў Кракаве; вялікі князь літоўскі Генрых Валуа. Калі стала вядома, што пасля смерці ягонага брата стаў вольным французскі трон, Генрык таемна пакінуў Кракаў і паехаў у Францыю. У 1575 каранаваны на караля Францыі як Генрык III. У выніку французска-польскага скандалу быў дэтранізаваны з караля польскага ў 1574 годзе. Замардаваны ў Францыі ў 1589 годзе, на ім згасла французская дынастыя Валуа. Пахаваны ў Францыі.

**Ганна Ягелонка** (1523–1596) — дачка Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы. Каралева ў 1575–1576 гадах. Да сталага веку не была ў шлюбе. Яе хацелі пашлюбіць з Генрыкам Валезы, аднак да справы не дайшло. 15 снежня 1575 года на элекцыйным сойме шляхта выбрала («выкрыкнула») Ганну каралём, «выдаючы ёй за мужа» Стэфана Баторыя як караля. Каранавана разам з мужам 1 мая 1576 года ў Кракаве. Сваю каралеўскую ролю адыгрывала пасля смерці мужа падчас бескаралеўства. Пахавана ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Стэфан Баторы** (Стафан Баторый; 1533–1586) — сын сяміградскага ваяводы Стэфана Баторыя і Ганны Кацярыны, князь сяміградскі (з 1571), кароль польскі (1576–1586), каранаваны разам з жонкай Ганнай Ягелонкай 1 мая 1576 года ў Кракаве. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

***Дынастыя Вазаў*** — каралеўская дынастыя, якая знаходзілася на пасадзе ў Швецыі ў 1523–1654 гадах і Польшчы ў 1568–1668 гадах. Заснавальнікам з'яўляецца

Густаў I (1523–1560). У Швецыі каралямі былі яго сыны Эрык XIV (1560–1568), Юхан III (1568–1592), Карл IX (1604–1611), сын Карла Густаў II Адольф (1611–1632), дачка Карла Крысціна (1632–1654).

**Жыгімонт III Ваза** (1566–1632) — сын шведскага караля ў 1568–1592 гадах Юхана (Яна) III Вазы і дачкі Жыгімонта I Старога Кацярыны Ягелонкі, кароль польскі (1587–1632), каранаваны 27 снежня 1587 года ў Кракаве, у 1592 абвясціў сябе каралём Швецыі, быў да 1599 года. Жыгімонт перанёс сталіцу з Кракава ў Варшаву. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Уладзіслаў IV Ваза** (9.6.1595 — 20.5.1648) — старэйшы сын Жыгімонта III Вазы і яго першай жонкі Ганны з Габсбургаў, родны брат Яна Казіміра, кароль польскі (1632–1648), каранаваны 6 лютага 1633 года ў Кракаве, тытулярны цар маскоўскі і ўсяе Русі (1610–1634), тытулярны кароль шведскі (1632–1648). Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Ян II Казімір Ваза** (1609–1672) — сын Жыгімонта III Вазы і яго другой жонкі Канстанцыі з Габсбургаў, родны брат Уладзіслава IV, кароль польскі (1648–1668), каранаваны 17 студзеня 1649 года ў Кракаве, тытулярны кароль шведскі (1648–1660). У 1668 годзе адрокся ад польскага трона і выехаў у Францыю, дзе памёр, будучы адзінокім. Яго цела перавезлі з Парыжа і пахавалі ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Міхаіл Карыбут Вішнявецкі** (31.7.1640 — 10.11.1673) — сын рускага ваяводы з 1646 года Ераміі Міхаіла Вішнявецкага і Грызельды Канстанцыі Замойскай, кароль польскі (1669–1673), каранаваны 29 верасня 1669 года ў Кракаве. Апошні з роду, з яго малодшай лініі. Памёр у Львове па дарозе ў войска, якое ваявала супраць захопу зямель Турцыяй. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Ян III Сабескі** (17.8.1629 — 1696) — сын бельскага ваяводы і кашталяна кракаўскага Якуба Сабескага і ўнуч-

кі гетмана Жалкоўскага Соф'і Тэафілы Даніловіч, кароль польскі (1674–1696), каранаваны з жонкай Марыяй Казімірай 2 лютага 1676 года ў Кракаве.

Памёр Ян III 17 чэрвеня 1696 года ў Вілянаўскім палацы ў Варшаве. Часова быў пахаваны ў касцёле капуцынаў у Варшаве, а ў 1733 годзе, пасля смерці караля Аўгуста II Моцнага, целы абодвух каралёў перавезены ў Кракаў і ў студзені 1734 года пахаваны ў Вавельскай катэдры.

***Дынастыя Вецінаў*** (польск. *Wettinowie*, ням. *Wettiner*) — польская і германская дынастыя, род паходзіць з X стагоддзя, названы ад замка Вецін на р. Заале. У Рэчы Паспалітай яны называліся Сасамі (саксонцамі). З польскіх каралёў і вялікіх князёў літоўскіх да гэтай дынастыі належалі Аўгуст II Моцны і Аўгуст III.

**Аўгуст II Моцны Вецін (Ветын)** (1670–1733) — сын Яна Ежы III і дачкі караля Даніі Фрыдэрыка III Ганны Соф'і, кароль польскі ў 1697–1706 і 1709–1733 гадах, каранаваны 15 верасня 1697 года ў Кракаве, курфюрст саксонскі. Пахаваны ў Вавельскай катэдры ў Кракаве.

**Станіслаў I Ляшчынскі** (1677–1766) — сын падскарбія вялікага кароннага і ваяводы калішскага Рафала Ляшчынскага і Ганны Ябланоўскай, кароль польскі ў 1704–1709 гадах і 1733 годзе, каранаваны з жонкай Кацярынай з Апалінскіх 4 кастрычніка 1705 года ў Варшаве. Памёр у Латарынгіі, пахаваны ў Нансі (Францыя).

**Аўгуст III Вецін (Саксонскі)** (1696–1763) — сын караля польскага Аўгуста II Моцнага і Крысціны Эбергардыны фон Брандэнбург, з дынастыі Вецінаў, кароль польскі (1733–1763), каранаваны з жонкай Марыяй Юзэфай 17 студзеня 1734 года ў Кракаве, курфюрст саксонскі Фрыдрых-Аўгуст II. Пахаваны ў касцёле Дрэздэна.

**Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** (1732–1798) — сын мазавецкага ваяводы Станіслава Панятоўскага і Канстанцыі Чартарыйскай, кароль польскі (1764–1795), каранаваны 25 лістапада 1764 года ў Варшаве. Апошні польскі кароль. Змушаны адмовіцца ад пасада падчас трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай 23 лютага 1795 года ў Гародні. Жыў у Гародні, пасля ў Санкт-Пецярбургу. Спачатку пахаваны ў Санкт-Пецярбургу ў касцёле Святой Кацярыны, затым у касцёле вёскі Воўчын цяперашняга Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці і, нарэшце, у базыліцы Святога Яна ў Варшаве.



## ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ КІЕЎСКІЯ

Кіеўская Русь — раннефеадальная дзяржава, якая аб'ядноўвала ў IX — пачатку XII стагоддзя ў асноўным усходніх славян. Выдзяляюцца наступныя этапы: старажытная дзяржава Кіеўская Русь — IX — першая трэць XII стагоддзя — Русь пры першых кіеўскіх князях; росквіт дзяржавы пры Уладзіміры і Яраславе; пачатак раздробленасці ў другой палове XI — пачатку XII стагоддзя; Русь у перыяд феадальнай раздробленасці — з XII стагоддзя. Дынастыю князёў распачаў, як сведчаць летапісы, вараг Рурык, які княжыў у Ноўгарадзе. Ягоны сваяк Алег у 882 годзе захапіў Кіеў і зрабіў тут сталіцу. Пасля смерці ў 1054 годзе князя Яраслава Мудрага Кіеўская Русь распадаецца на асобныя княствы. Кіеўскае княства — дзяржаўнае ўтварэнне, якое з'явілася ў выніку падзелу Кіеўскай Русі ў XI–XV стагоддзях. У 1362 годзе ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага, кіеўскім пасадам сталі апекавацца намеснікі вялікіх князёў літоўскіх. Кіеўскія князі мелі звычай шлюбавац-

ца з замежнымі асобамі высокага стану: жонкай Яраслава была шведская прынцэса Інгігерда, ягоны сын Ізяслаў быў жанаты з польскай прынцэсай, Святаслаў ажаніўся з германскай прынцэсай. Бацька Уладзіміра Манамаха Усевалад быў жанаты з дачкой візантыйскага імператара Канстанціна Манамаха Марыяй, сам Уладзімір Манамах быў у шлюбе з Гітай — дачкой нарвежскага вікінга і англійскага караля Гарольда.

**Рурык** (830–879) — на пасадзе ў 862–879 гадах. Пакінуў пасля смерці малалетняга сына Ігара. Але ўладу ўзяў Алег і пайшоў на Кіеў, захапіў Смаленск, Любеч, прыплыў да Кіева. Там ён выклікаў з горада князёў кіеўскіх Аскольда і Дзіра, падмануўшы іх, што прыехалі купцы. Алег падняў на руках малога Ігара і заявіў, што Ігар, а не яны, з'яўляецца князем роду. Аскольд і Дзір былі забіты. Алег асеў у Кіеве і заявіў: «Хай будзе Кіеў маці гарадам рускім!» Было гэта ў 882 годзе. У IX–X стагоддзях на месцах кіравалі племянныя князі, якіх з Кіевам звязвала неабходнасць плаціць даніну.

**Алег Вешчы** (855–912) — на пасадзе ў 879–912 гадах. Алег аб'яднаў пад сваёй уладай Ноўгарад і Кіеў, поўдзень і поўнач Русі. Алег памёр у 912 годзе ад укусу змяі.

**Ігар Рурыкавіч** (977–945), на пасадзе ў 912–945 гадах. Спадчыннік Алега. Пры ім вялікую вагу набраў ваявода вараг Свянельд. У летапісах Ігара называюць сынам Рурыка, якога забілі драўляне за тое, што збіраў вялікую даніну. Яны сагнулі два дрэвы, прывязалі да іх Ігара і адпусцілі дрэвы. Кіраваць стала ягоная адзіная жонка Вольга, хоць на той час можна было мець некалькі жонак.

**Вольга** (884–969) — была рэгентшай малалетняга Святаслава ў 945–957 гадах.

**Святаслаў Ігаравіч** (Храбры, Вялікі; 920? — 972) — князь кіеўскі ў 957(964) — 972 гадах. У 964 годзе ён адхіліў маці ад апекі. Сын князя Ігара Старога і княгіні

Вольгі. З яго пачалася практыка перадачы ўлады малодшым братам і сынам кіеўскіх князёў — такім чынам мясцовыя князі пераходзілі на становішча васалаў адносна кіеўскіх князёў. Спадчыннасць кіеўскага вялікага стала насіла лесвічны характар — па старшынстве ў родзе. Святаслаў — вядомы ў сярэднявеччы палкаводзец. Калі хадзіў на ворага, сведчаць, казаў: «Іду на вы!» Ён нанёс рашучы ўдар па Хазарскім каганаце, захапіў яго сталіцу Ітыль. Пасля перамогі над Дунайскай Балгарыяй пачаў барацьбу з Візантыяй за Балканскі паўвостраў. Аднак поспеху не атрымаў. Па дарозе на Русь каля дняпроўскіх парогаў трапіў у засаду і быў забіты печанегамі. Хан печанегаў Кура загадаў вырабіць з чэрапа Святаслава чашу, акаваную золатам. Сведчаць, што калі падымаў чашу, дык казаў: «Хай нашы дзеці будуць такімі, як ён».

**Яраполк Святаславіч** (945–980) — кіеўскі князь з 970 года. Старэйшы сын князя Святаслава Ігаравіча. Пры ім пачаліся міжусобіцы, сам ён быў адхілены ад пасада малодшым братам Уладзімірам.

**Уладзімір І Святаславіч** (у хрышчэнні Васіль; Святы, Хрысціцель, Краснае Сонейка; 948? — 15.7.1015) — кіеўскі вялікі князь (980–1015). Пазашлюбны сын кіеўскага князя Святаслава Ігаравіча. Ён стаў хрысціцелем Кіеўскай Русі. Меў 11 сыноў. Пасля ягонай смерці, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, у 1019–1021 гадах на кіеўскім пасадзе знаходзіўся полацкі князь **Брачыслаў Ізяславіч** (? — 1044).

**Святаполк (Яраполчыч) Акаянны** (у хрышчэнні Пётр; каля 980 — 1019) — прыёмны сын Уладзіміра Святаславіча (згодна з іншымі версіямі, сын кіеўскага князя Яраполка Яраславіча), кіеўскі князь у 1015–1019 гадах. У барацьбе за ўладу забіў братоў Барыса і Глеба, за што яго назвалі Акаянным. Барыс і Глеб (у хрышчэнні Раман і Давыд) сталі першымі святымі зямлі рускай.

**Яраслаў Уладзіміравіч Мудры** (у хрышчэнні Георгій; 982 — 20.2.1054) — князь кіеўскі (1019–1054). Трэці сын

Уладзіміра Святаславіча. У 1019 годзе ён выгнаў з Кіева Святаполка. Жонкай Яраслава была шведская прынцэса Інгігерда.

**Ізяслаў Яраславіч** (у хрышчэнні Дзмітрый; 1024 — 3.10.1078) — князь кіеўскі ў 1054–1068 гадах. Другі сын кіеўскага князя Яраслава Мудрага, удзельнік бітвы на Нямізе ў 1067 годзе.

**Усяслаў Брачыславіч Чарадзей** (1030 — 14.4.1101) — кіеўскі князь з 15 верасня 1068 года, стаў князем пасля таго, як паўстанцы-кіяўляне вызвалілі яго з палону, у які трапіў у ліпені 1067 года, калі прыехаў у Смаленск на перамовы з Яраславічамі. Сын князя Брачыслава Ізяславіча, унук Уладзіміра Святаславіча.

**Ізяслаў Яраславіч** (у хрышчэнні Дзмітрый; 1024 — 3.10.1078) — другі раз на пасадзе ў 1069–1073 гадах.

**Святаслаў Яраславіч** (у хрышчэнні Мікалай; 1027— 27.12.1076) — кіеўскі князь (1073–1076). Сын кіеўскага князя Яраслава Мудрага. Ён выгнаў з Кіева старэйшага брата Ізяслава і заняў пасад.

**Ізяслаў Яраславіч** (у хрышчэнні Дзмітрый; 1024–1078) — трэці раз на пасадзе ў 1077–1078 гадах.

**Усевалад Яраславіч** (1030–13.4.1093) — кіеўскі князь у 1078–1093 гадах. Чацвёрты сын кіеўскага князя Яраслава Мудрага.

**Святаполк Ізяславіч** (у хрышчэнні Міхаіл; 1050 — 16.4.1113) — кіеўскі князь у 1093–1113 гадах. Сын кіеўскага князя Ізяслава Яраславіча, унук Яраслава Мудрага. Памёр раптоўна, што выклікала думку аб ягоным атручэнні.

**Уладзімір Усеваладавіч Манамах** (у хрышчэнні Васіль; 1053 — 19.5.1125) — вялікі кіеўскі князь з 1113 года. Сын князя кіеўскага Усевалада Яраславіча і ягонай жонкі Марыі — дачкі візантыйскага імператара Канстанціна Ма-

намаха, унук Яраслава Мудрага. Да Кіева быў князем у Растове, Смаленску, Уладзіміры-Валынскім, Чарнігаве, Пераяславе. На кіеўскі пасад быў запрошаны падчас паўстання ў горадзе ў 1113 годзе. Пры ім і ягоным сыне Мсціславе быў час станаўлення адзінства старажытнарускай дзяржавы. Ён спыніў міжусобіцы, у 1119 годзе паланіў полацкага князя Глеба Усяславіча.

**Мсціслаў Уладзіміравіч Вялікі** (у хрышчэнні Фёдар; 1.6.1076 — 15.4.1132) — вялікі князь кіеўскі ў 1125–1132 гадах. Сын Уладзіміра Манамаха. У 1127 годзе павёў вялікія сілы паўднёварускіх князёў на Полацкае княства, захапіў горад і полацкіх князёў і ў 1129 годзе выслаў іх разам з сем'ямі ў Візантыю. Апошні з кіраўнікоў адзінай старажытнарускай дзяржавы.

**Яраполк Уладзіміравіч** (1082–1139) — на пасадзе ў 1132–1139 гадах. Да гэтага быў пераяслаўскім князем. Старэйшы з роду Манамахавічаў.

**Вячаслаў Уладзіміравіч** — княжыў у 1139 годзе. Калі памёр Яраполк, на кіеўскім пасадзе стаў старэйшы з жывых сын Манамаха Вячаслаў, але яго праз некалькі дзён выгнаў Усевалад Ольгавіч з чарнігаўскіх князёў.

**Усевалад Ольгавіч** (1034–1146) — на пасадзе ў 1139–1146 гадах.

**Ігар Ольгавіч** — княжыў у 1146. Брат Усевалада Ольгавіча. У выніку паўстання яго адхілілі ад пасада, стол заняў Ізяслаў.

**Ізяслаў Мсціславіч** (у хрышчэнні Панцеляймон; каля 1096 — ноч з 13 на 14.11.1154) — князь кіеўскі ў 1146–1154 гадах. Сын кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча Вялікага.

**Юрый Далгарукі** (1109 — 15.5.1157) — князь суздальскі (з 1125), вялікі князь кіеўскі (1154–1157). Малодшы сын Уладзіміра Манамаха. На кіеўскім пасадзе быў двойчы, другі

раз — з 1156 года. Юрый Далгарукі, нават калі стаў кіеўскім князем, па-ранейшаму жыў у сваім любімым Уладзіміры-на-Клязьме, дзе была яго рэзідэнцыя. У маі 1157 года раптоўна памёр. У дзень пахавання ягоныя праціўнікі разбурылі і разрабавалі княскі двор, забілі растоўскіх і суздальскіх баяр і дружыннікаў. Кіеўскі стол зноў перайшоў да прадстаўнікоў чарнігаўскага княскага дома.

**Мсціслаў** (1096–1169) — на пасадзе ў 1157–1169 гадах.

**Расціслаў Мсціславіч** — на пасадзе ў 1154, 1161–1167 гадах.

**Ізяслаў Давыдавіч** — на пасадзе ў 1154–1155, 1157–1159 гадах.

**Мсціслаў Ізяславіч** — на пасадзе ў 1167–1169, 1170 гадах.

**Глеб Юр'евіч** — на пасадзе ў 1169–1171 гадах.

**Уладзімір Мсціславіч** (у хрышчэнні Дзмітрый; 1132 — 30.5.1171) — вялікі князь кіеўскі ў 1171 годзе. Сын вялікага князя кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча.

**Міхалка Юр'евіч** — на пасадзе ў 1171 годзе.

**Раман Расціславіч** — на пасадзе ў 1171–1176 гадах.

**Усевалад Вялікае Гняздо** — на пасадзе ў 1173 годзе.

**Рурык Расціславіч** — на пасадзе ў 1173, 1181, 1194–1201 гадах.

**Яраслаў Ізяславіч** — на пасадзе ў 1173–1174 гадах.

**Святаслаў Усеваладавіч** — на пасадзе ў 1174, 1176–1194 гадах.

**Інгвар Яраславіч** — на пасадзе ў 1201–1203 гадах.

**Расціслаў Рурыкавіч** — на пасадзе ў 1204–1205 гадах.

**Рурык Расціславіч** — на пасадзе ў 1205–1210 гадах.

**Усевалад Святаславіч Прыгожы (Чэрмны)** — на пасадзе ў 1206–1207, 1210–1212 гадах.

**Мсціслаў Раманавіч** — на пасадзе ў 1212–1223 гадах.

**Уладзімір Рурыкавіч** — на пасадзе ў 1223–1236 гадах.

**Ізяслаў Мсціславіч** — на пасадзе ў 1235 годзе.

**Яраслаў Усеваладавіч** — на пасадзе ў 1236–1238 гадах.

**Міхаіл Усеваладавіч** — на пасадзе ў 1238–1239 гадах.

**Расціслаў Мсціславіч** — на пасадзе ў 1239–1240 гадах.

**Даніла Раманавіч** — на пасадзе ў 1240 годзе.

**Аляксандр Яраславіч Неўскі** — на пасадзе ў 1245–1263 гадах.



## ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ ЎЛАДЗІМІРСКІЯ

Уладзімірскае вялікае княства з'яўлялася дзяржавай у Паўночна-Усходняй Русі ў X–XIV стагоддзях. Лічылася адным з найбуйнешых. Яго называлі таксама Уладзіміра-Суздальскім княствам. Сталіцай з 1125 года з'яўляўся Суздаль, з 1157 года — Уладзімір-на-Клязьме. У пачатку XIV стагоддзя вялася зацятая барацьба за першынство з Маскоўскім княствам. У выніку з 1327 года велікакняскі ўладзімірскі пасад перайшоў да маскоўскіх князёў. У 1362 годзе вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Данскі, вотчынай якога з'яўлялася Уладзімірскае княства, падначаліў яго Маскоўскаму вялікаму княству.

**Андрэй Юр'евіч Багалюбскі** (1110–1174) — на пасадзе ў 1169–1174 гадах. Сын Юрыя Далгарукага. Ён перанёс у 1157 годзе сталіцу з Кіева ва Уладзімір-на-Клязьме. Тут былі збудаваны мураваныя Залатыя вароты і Успенскі сабор. Побач з Уладзімірам знаходзілася Андрэева рэзідэнцыя Багалюбава, ад чаго і пайшло ягонае прозвішча. Забіты баярамі за імкненне ўмацаваць уласную ўладу за іхні кошт.

**Міхалка Юр'евіч** — на пасадзе ў 1174, 1175–1176 гадах.

**Яраполк Расціславіч** — на пасадзе ў 1174–1175 гадах.

**Усевалад Юр'евіч Вялікае Гняздо** (у хрышчэнні Дзмітрый; 22.10.1154 — 13.4.1212) — вялікі князь уладзімірскі ў 1176–1212 гадах. Сын Юрыя Уладзіміравіча Далгарукага. Вялікім Гняздом названы за тое, што меў 12 дзяцей.

**Канстанцін Усеваладавіч** (18.5.1186 — 2.2.1219) — князь наўгародскі ў 1206–1207 гадах, князь растоўскі з 1207 года, вялікі князь уладзімірскі ў 1212–1219 гадах.

**Юрый Усеваладавіч** (1188 — 4.3.1238) — вялікі князь уладзімірскі ў 1212–1216 і ў 1218–1238 гадах. Другі сын вялікага князя ўладзімірскага Усевалада Юр'евіча Вялікае Гняздо.

**Яраслаў II Усеваладавіч** (у хрышчэнні Фёдар; 1191 — 30.9.1246) — князь пераяслаўскі, наўгародскі, кіеўскі, вялікі князь уладзімірскі ў 1238–1246 гадах. Трэці сын вялікага князя ўладзімірскага Усевалада Вялікае Гняздо.

**Святаслаў Усеваладавіч** — на пасадзе ў 1246–1248 гадах.

**Міхаіл Яраславіч Харабрыт** — на пасадзе ў 1248–1249 гадах.

**Андрэй Яраславіч** — на пасадзе ў 1249–1252 гадах.

**Аляксандр Яраславіч Неўскі** (1220–1263) — на пасадзе ў 1252–1263 гадах.

**Данііл Галіцкі** (1201–1264) — на пасадзе ў 1229–1264 гадах.

**Яраслаў III Яраславіч Цвярскі** (у хрышчэнні Афанасій; 1238–1272) — князь цвярскі (з 1247), вялікі князь уладзімірскі (1264–1272). Сын князя Яраслава Усеваладавіча.

**Васіль Яраславіч Кастрамскі** (1236–1276) — на пасадзе ў 1272–1276 гадах.

**Дзмітрый Аляксандравіч** (1250–1294) — на пасадзе ў 1276–1294 гадах.

**Андрэй Аляксандравіч** (1255–1304) — на пасадзе ў 1294–1304 гадах.

**Міхаіл Яраславіч Святы** (1271–1319) — на пасадзе ў 1304–1319 гадах.

27 Зак 1939

**Юрый III Данілавіч** (1281 — 21.11.1325) — князь маскоўскі з 1303 года, вялікі князь уладзімірскі ў 1320–1325 гадах. Старэйшы сын маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча. У першай чвэрці XIV стагоддзя вялася барацьба за першынство паміж Масквой і Цвер'ю. Ярлык на права вялікага княжання быў у цвярскога князя пляменніка Аляксандра Неўскага Міхаіла Яраслававіча, а ў Маскве княжыў унук Неўскага Юрый Данілавіч. Міхаіл быў забіты ў 1318 годзе ў Ардзе, за ягоную смерць у 1325 годзе адпомсціў, таксама ў Ардзе, сын Міхаіла цвярскі князь Дзмітрый, які быў забіты па загадзе ардынскага хана. Маскоўскі княскі стол заняў брат Юрыя Іван Каліта.

**Дзмітрый Міхайлавіч Грозныя Вочы** (5.9.1298 — 15.9.1325) — вялікі князь уладзімірскі ў 1325 годзе.

**Аляксандр Міхайлавіч Цвярскі** (1301–1339) — на пасадзе ў 1325–1328 гадах.

**Іван І Данілавіч Каліта** (каля 1288 — 31.3.1340) — вялікі князь маскоўскі з 1325 года, вялікі князь уладзімірскі з 1328 года.

**Сімяон (Сямён) Іванавіч Горды** (7.9.1316 — 26.4.1353) — на пасадзе ў 1340–1353 гадах.

**Іван Іванавіч Красны** (30.3.1326 — 13.11.1359) — вялікі князь маскоўскі і ўладзімірскі з 1353 года. Другі сын Івана І Данілавіча.

**Дзмітрый Канстанцінавіч** (1323/24 — 1383) — на пасадзе ў 1359–1363 гадах.

**Дзмітрый Іванавіч Данскі** (1350–1389) — на пасадзе ў 1362–1389 гадах.



## КНЯЗІ І ВЯЛІКІЯ КНЯЗІ МАСКОЎСКІЯ

Маскоўскае вялікае княства — дзяржава Усходняй Еўропы. У другой палове XIII стагоддзя выдзелілася як удзел Уладзіміра-Суздальскага княства. Князь Даніла Аляксандравіч (сын Аляксандра Неўскага, княжыў у 1276–1303) зрабіў Маскоўскае княства незалежным. Вялікі князь маскоўскі і ўладзімірскі Дзмітрый Данскі (княжыў у 1359–1389) у 1362 годзе далучыў да Маскоўскага княства Уладзімірскае, паміж якімі вялася няспынная барацьба за першынство, і Маскоўскае стала галоўным ва ўсіх палітычных справах. У канцы XV стагоддзя яно стала ядром Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Вялікі князь маскоўскі Іван III практычна завяршыў аб'яднанне рускіх зямель вакол Масквы і першым пачаў называць сябе «государем всея Руси». Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе расійскія імператары ўзялі тытул вялікіх князёў літоўскіх.

**Даніла Аляксандравіч** (1261 — 5.3.1303) — на пасадзе ў 1276–1303 гадах. Малодшы, чацвёрты, сын князя Аляксандра Неўскага, быў заснавальнікам дынастыі маскоўскіх князёў. Маскоўскія князі распачалі барацьбу з Цвер'ю за вялікае княжанне. Сын Данілы Юрый Данілавіч быў жанаты з сястрой ардынскага хана Узбека Канчакай (Агаф'яй). Ён упершыню ў 1319 годзе атрымаў ярлык на вялікае княжанне маскоўскае, аднак неўзабаве ярлык зноў апынуўся ў Цверы. Праваслаўны святы.

**Юрый Данілавіч** (1281? — 21.11.1324/25) — князь маскоўскі (з 1303), вялікі князь уладзімірскі (1317–1322). Старэйшы сын маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча, унук Аляксандра Неўскага.

**Іван І Данілавіч Каліта** (каля 1288 — 31.3.1340) — вялікі князь маскоўскі (з 1325), вялікі князь уладзімірскі

(з 1328). Чацвёрты сын маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча, унук Аляксандра Неўскага. Ён падавіў паўстанне ў Цверы і атрымаў ярлык на права вялікага княжання, бо ў гэты час вялася барацьба за першынство паміж Масквой і Цвер'ю. Пасля ягонай смерці вялікім князем у Маскве стаў яго сын Сямён (Сімяон) Горды.

**Сямён (Сімяон) Іванавіч Горды** (7.9.1317 — 26.4.1353) — вялікі князь маскоўскі (1340–1353). Старэйшы сын Івана Каліты. Празваны Гордым за ганарлівасць і дзёрзкасць. Першы з трох шлюбаў быў з дачкой вялікага князя літоўскага Гедыміна Аўгусцінай (Аўгустай, Айгустай), у праваслаўі Настассяй. Памёр у 1353 годзе падчас эпідэміі чумы. Яго змяніў брат Іван Красны.

**Іван Іванавіч Красны** (30.3.1326 — 13.11.1359) — вялікі князь маскоўскі і ўладзімірскі (з 1353). Другі сын Івана I Данілавіча.

**Дзмітрый Іванавіч Данскі** (1350 — 19.5.1389) — вялікі князь маскоўскі (з 1389) і ўладзімірскі (з 1362), праваслаўны святы. Сын вялікага князя Івана II Краснага. Перадаў уладу свайму сыну Васілю без ярлыка на вялікае княжанне, з гэтага часу ўлада перадавалася па спадчыне — ад бацькі сыну.

**Васіль I Дзмітравіч** (30.12.1371 — 27.2.1425) — вялікі князь маскоўскі (1389–1425). Сын Дзмітрыя Данскога. Калі памёр Васіль, на пасад стаў прэтэндаваць яго брат Юрый у адпаведнасці з тастаментам ягонага бацькі Дмітрыя Данскога. Але Васіль I перадаў стол свайму сыну Васілю і дабіўся для яго ханскага ярлыка. Паміж імі пачалася барацьба. Юрый памёр у 1434 годзе. Барацьбу супраць Васіля прадоўжылі ягоныя сыны Васіль Касы і Дзмітрый Шамяка.

**Васіль II Васільевіч Цёмны** (10.3.1415 — 28.3.1462) — вялікі князь маскоўскі (1425–1462). Чацвёрты сын вялікага князя маскоўскага Васіля I і Соф'і Вітаўтаўны, дачкі вялікага князя літоўскага Вітаўта.

**Юрый Дзмітравіч Звенігародскі** (1374 — 5.6.1434) — князь звенігародскі і галіцкі, вялікі князь маскоўскі ў 1433 і 1434 гадах. Трэці сын Дзмітрыя Данскога.

**Васіль Юр'евіч Касы** (? — 1448) — вялікі князь маскоўскі (у 1434). Старэйшы сын князя галіцкага і звенігародскага Юрыя Дзмітравіча.

**Дзмітрый Юр'евіч Шамяка** (каля 1408 — 17.7.1453) — вялікі князь маскоўскі (1446–1447). Другі сын князя галіцкага і звенігародскага Юрыя Дзмітравіча, унук Дзмітрыя Данскога. Ён быў атручаны ў 1453 годзе падасланым Васілём Цёмным кухарам.

**Іван III Васільевіч Вялікі** (22.1.1440 — 27.10.1505) — вялікі князь маскоўскі (1462–1505), гасудар усяе Русі. Старэйшы сын Васіля II Цёмнага. Першы суверэнны кіраўнік Расіі пасля ардынскага іга, у 1485 годзе прыняў тытул «государя всея Руси». Другі шлюб Івана III быў з пляменніцай апошняга імператара Візантыі Канстанціна XI Соф'яй Палеалог. Пасля гэтага дзяржаўным расійскім гербам стала эмблема роду Палеалогаў — двухгаловы арол.

**Васіль III Іванавіч** (25.3.1479 — 3.12.1533) — вялікі князь маскоўскі і гасудар усяе Русі (1505–1533). Сын вялікага князя маскоўскага Івана III Васільевіча.

**Алена Васільеўна Глінская** (? — 3.4.1538) — вялікая княгіня маскоўская (1533–1538). Жонка вялікага князя Васіля III Іванавіча. Дачка князя Васіля Львовіча Глінскага.

**Баяры Шуйскія** (княскі і баярскі род з Рурыкавічаў), **Бельскія** (княскі і баярскі род з Гедымінавічаў) — на пасадзе ў 1538–1547 гадах.



## ЦАРЫ І ІМПЕРАТАРЫ РАСІЙСКІЯ

*Рурыкавічы*

**Іван IV Васільевіч Грозны (Жахлівы)** (25.8.1530 — 18.3.1584) — вялікі князь маскоўскі і ўсяе Русі (з 1538), першы рускі цар з дынастыі Рурыкавічаў у 1547–1584 гадах. Сын вялікага князя Васіля III Іванавіча і ягонай другой жонкі Алены Глінскай.

**Фёдар I Іванавіч** (31.5.1557 — 6.1.1598) — цар з сакавіка 1584 года. Сын цара Івана IV Грознага. Смерць бяздзетнага Фёдара Іванавіча закончыла шматсотгадовую дынастыю Рурыкавічаў, бо меншы сын Івана Грознага царэвіч Дзмітрый загінуў у Угліччы, абставіны ягонай смерці невядомыя. Земскі сабор у 1598 годзе выбраў царом Барыса Гадунова.

*Дынастыя Гадуновых* **(1598–1605)**

**Ірына Фёдараўна** — на пасадзе ў 1598 годзе, царыца, рэгентша.

**Барыс Фёдаравіч Гадуноў** (каля 1552 — 13.4.1605) — цар з 1598 года. Сын вяземскага памешчыка Фёдара Іванавіча Крывога-Гадунова.

**Фёдар II Барысавіч Гадуноў** (1589 — 10.6.1605) — цар з 14 красавіка да 10 чэрвеня 1605 года. Сын цара Барыса Фёдаравіча Гадунова.

**Ілжэдзмітрый I** (? — 1606) — на пасадзе ў 1605–1606 гадах. Сын галіцкага двараніна Багдана Атрэп'ева Юрый Атрэп'еў — беглы манах у Польшчы пад імем Грыгорый, 20 чэрвеня 1605 года захапіў Маскву, аб'явіў сябе сынам Івана Грознага і быў прызнаны царом, сын Барыса Гадунова Фёдар быў забіты. Нявестай Ілжэдзмітрыя была дачка сандамірскага ваяводы Юрыя Мнішака Марына Мнішак. Ілжэдзмітрый таемна прыняў каталіцтва і атрымаў

падтрымку Папы Рымскага. Яго падтрымліваў таксама кароль польскі Жыгімонт III. Неўзабаве супраць Ілжэдзмітрыя была арганізавана змова на чале з Васілём Шуйскім, 17 мая 1606 года Ілжэдзмітрыя забілі, яго цела спалілі, а попел заклалі ў гармату і выстралілі ў той бок, адкуль ён прыйшоў.

***Шуйскія***

**Васіль IV Іванавіч Шуйскі** (1552 — 12.9.1612) — рускі цар у 1606–1610 гадах. Сын князя Івана Андрэевіча Шуйскага. Пасля адхілення ў выніку маскоўскага паўстання Васіль Шуйскі сілай быў пастрыжаны ў манахі, улада апынулася ў руках 7 баяраў (Сямібаяршчына) на чале з Фёдарам Мсціслаўскім. У 1610 годзе быў перавезены ў Польшчу, дзе ў Гостынскім манастыры каля Варшавы і памёр.

***Дынастыя Раманавых* (1613–1917)**

**Міхаіл Фёдаравіч Раманаў** (12.7.1596 — 13.7.1645) — цар з 1613 года. Стаў царом у 16 гадоў. Сын апальнага гадуноўскага баярына Фёдара Мікітавіча Раманава (пазней патрыярх Філарэт), які быў пляменнікам першай жонкі Івана Грознага Настассі Раманавай, а бацька Фёдара Мікіта быў братам Настассі. Фёдар Мікітавіч у 1601 годзе быў сілком пастрыжаны ў манахі пад імем Філарэта, а ў 1619 годзе быў абраны патрыярхам, памёр у 1633 годзе.

**Аляксей Міхайлавіч** (19.3.1629 — 29.1.1676) — цар з 1645 года, пасля захопу Вільні пачаў называць сябе «ўсяе Вялікія, і Малыя, і Белыя Русі самадзержац». Сын цара Міхаіла Фёдаравіча.

**Фёдар III Аляксеевіч** (30.5.1661 — 27.4.1682) — цар з 1676 года. Сын цара Аляксея Міхайлавіча. У дзяржаўных справах быў пасіўны, таму пры ім узвысіліся родзічы ягонай маці Міласлаўскія. Памёр бяздзетны. Пасля ягонай смерці

да ўлады былі далучаны малалетнія сыны Аляксея Міхайлавіча Іван — ад шлюбу з Марыяй Міласлаўскай і Пётр — ад шлюбу з Наталляй Нарышкінай, а рэгентшай была царэўна Соф'я, дачка Аляксея Міхайлавіча ад першага шлюбу.

**Соф'я Аляксееўна** (17.9.1657 — 3.7.1704) — царэўна ў 1682–1689 гадах, рэгентша пры Іване V і Пятры I. Дачка цара Аляксея Міхайлавіча.

**Іван V Аляксеевіч** (27.6.1666 — 29.1.1696) — на пасадзе ў 1682–1696 гадах, цараваў разам з Пятром I. Сын цара Аляксея Міхайлавіча.

***Імператары, імператрыцы*:**

**Пётр I Аляксеевіч Вялікі** (30.5.1672 — 28.1.1725) — цар у 1682–1725 гадах, першы расійскі імператар з 1721 года.

**Кацярына I Аляксееўна** (1684–1727) — на пасадзе ў 1725–1727 гадах. Дачка літоўскага селяніна Самуіла Скаўронскага Марта, трапіла ў палон да рускага войска. Там яе прыкмеціў Пётр I, яна стала ягонай жонкай. Марта прыняла праваслаўнае імя Кацярына.

**Пётр II Аляксеевіч** (1715–1730) — на пасадзе ў 1727–1730 гадах. Сын царэвіча Аляксея, які загінуў.

**Анна Іванаўна** (1693–1740) — на пасадзе ў 1730–1740 гадах. Дачка зводнага брата Пятра I Івана. Пасля смерці мужа герцага Курляндскага была ўдовай герцагіняй у Мітаве. Яе і запрасілі на трон. Спадчыннікам яе стаў двухмесячны Іван Антонавіч, сын яе пляменніцы Анны Леапольдаўны.

**Іван VI Антонавіч** (1740–1764) — на пасадзе ў 1740–1741 гадах. Праўнук Пятра I.

**Лізавета Пятроўна** (1709–1761) — на пасадзе ў 1741–1761 гадах.

***Гальштэйн-Готарп-Раманавы***

**Пётр III Фёдаравіч** (1728–1762) — на пасадзе ў 1761– 1762 гадах. Быў нямецкім прынцам Карлам Пятром Ульрыхам. Унук Пятра I, сын яго старэйшай дачкі Анны.

Выхоўваўся ў Прусіі, рыхтаваўся заняць шведскі пасад. З 1742 года жыў у Расіі. Прыняў праваслаўе, стаў Пятром Фёдаравічам. Пасля смерці цёткі Лізаветы, якая не мела сваіх дзяцей, атрымаў імператарскі пасад. Муж Кацярыны II.

**Кацярына II Вялікая** (1729–1796) — на пасадзе ў 1762–1796 гадах. Да ўлады прыйшла ў выніку змовы супраць свайго мужа Пятра III. Скінула яго з пасада з дапамогай гвардзейцаў, каранавалася ва Успенскім саборы. Пятра III, які адрокся ад пасада, задушылі мяцежнікі на чале з братамі Арловымі. Іван Антонавіч быў забіты ў Шлісельбургскай крэпасці, дзе ён шмат гадоў знаходзіўся ў зняволенні. Сама Кацярына — нямецкая прынцэса Сафія Аўгуста Фрэдэрыка заняла расійскі пасад і стала Кацярынай II.

**Павел I Пятровіч** (1745–1801) — на пасадзе ў 1796–1801 гадах. Сын Пятра III і Кацярыны II.

**Аляксандр I Паўлавіч Благаславенны** (1777–1825) — на пасадзе ў 1801–1825 гадах.

**Мікалай I Паўлавіч** (1796–1855) — на пасадзе ў 1825–1855 гадах.

**Аляксандр II Мікалаевіч Вызваліцель** (1818–1881) — на пасадзе ў 1855–1881 гадах.

**Аляксандр III Аляксандравіч Міратворац** (1845–1894) — на пасадзе ў 1881–1894 гадах.

**Мікалай II Аляксандравіч** (1868–1918) — на пасадзе ў 1894–1917 гадах, апошні расійскі імператар, затым быў Часовы ўрад, пасля — Савецкая Рэспубліка.



## ІМПЕРАТАРЫ СВЯШЧЭННАЙ РЫМСКАЙ ІМПЕРЫІ (КАРАЛІ ГЕРМАНСКІЯ)

***Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі*** — еўрапейская сярэдневяковая імперыя, якая была задумана як пераемніца імперыі Каралінгаў, а ў аддаленай гістарычнай рэтраспектыве мела на мэце аб'яднаць Еўропу па прынцыпе Старажытнага Рыма. Існавала з 962 да 1806 года з цэнтрам у Германіі (X–XIX ст., з канца XV ст. — Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі). Заснавана германскім каралём Атонам I, які падпарадкаваў Паўночную і Сярэднюю Італію з Рымам, уключала таксама Чэхію, Бургундыю, Нідэрланды, швейцарскія і іншыя землі. На чале стаяў імператар, якога выбіралі германскія князі, якія патрабавалі ад абранніка няўхільнага захавання хрысціянскага поўнаўладдзя і цеснага супрацоўніцтва з Папам Рымскім. Аднак адносіны паміж імі былі супярэчлівымі. Манархі спрабавалі завалодаць і вышэйшай духоўнай уладай на сваёй тэрыторыі, прэтэндавалі на ролю абаронцаў інтарэсаў еўрапейскай хрысціянскай царквы. Улада імператара не была абсалютнай, яе абмяжоўвала вышэйшая арыстакратыя, якая з канца XV стагоддзя рашэнні праводзіла праз рэйхстаг. З 1438 года тытул імператара стаў спадчынным. Перастала існаваць афіцыйна ў 1806 годзе падчас напалеонаўскіх войнаў.

***Саксонская дынастыя* (Людальфінгі, бо пачынальнікам дынастыі лічыцца герцаг Людальф, які памёр у 866 г.)** — у сярэднявеччы вядомы род, які стаў пазней дынастыяй германскіх каралёў у 919–1024 гадах і імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 962–1024 гадах. У 919 годзе Генрых I з Саксонаў быў абраны каралём Германіі, а ў 962 годзе яго сын Атон I заснаваў Свяшчэнную Рым-

скую імперыю. Часам яе называюць дынастыяй Атонаў: тры Атоны былі найбольш вядомымі прадстаўнікамі — Атон I, Атон II і Атон III.

**Конрад I** з роду Канрадынаў (? — 918) — кароль у 911-918 гадах.

**Генрых I Саксонскі** Птушкалоў (876-936) — кароль у 919-936 гадах, кароль Усходне-Франкскага каралеўства з 919 года.

**Атон I Вялікі** (912-973) — сын Генрыха I, кароль нямецкі з 936 года, імператар рымскі з 962 года.

**Атон II** (955-983) — кароль нямецкі з 961 года, імператар рымскі з 973 года.

**Атон III** (980-1002) — кароль нямецкі з 983 года, імператар рымскі з 996 года.

**Генрых II Святы** (937-1024) — кароль з 1002 года, імператар з 1014 года.

***Саліцкая (Франконская) дынастыя.*** Заснавальнікам з'яўляецца Конрад II, панавала ў Германіі са студзеня 1024 да 1125 года. Пасля беспатомнай смерці імператара Генрыха II у 1024 годзе імператарам рымскім стаў сын графа Спіры Генрыха Конрад II. Затым улада пераходзіла ад бацькі да сына: Генрых III — сын Конрада II, Генрых IV, Генрых V. У 1125 годзе насуперак волі Генрыха V каралём выбралі Лотара III, саксонскага князя.

**Конрад II** (900-1039) — кароль з 1024 года, імператар з 1027 года.

**Генрых III** (1017—1056) — кароль з 1039 года, імператар у 1046-1056 гадах.

**Генрых IV** (1050-1106) — кароль з 1056 года, імператар у 1084-1105 гадах.

**Рудольф Швабскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1077-1080 гадах.

**Герман Зальмскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1081–1088 гадах.

**Конрад** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1087–1125 гадах.

**Генрых V** (1081–1125) — кароль з 1105 года, імператар у 1111–1125 гадах.

**Лотар III Саксонскі** з Суплінбурга (1075–1137) — прадстаўнік ***Суплінбургскай дынастыі,*** кароль з 1125 года, імператар у 1133–1137 гадах.

***Гогенштаўфены (Штаўфены)*** — дынастыя германскіх каралёў і імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1138–1254 гадах, у 1197–1268 гадах таксама каралі Сіцылійскага каралеўства. Упершыню з'явілася на гістарычнай арэне ў другой палове XI стагоддзя. Тады ў 1079 годзе імператар Генрых IV перадаў Фрыдрыху I Штаўфену Швабскае герцагства. Назва паходзіць ад замка Штаўфен, пабудаванага графам Швабіі Фрыдрыхам. Яго сын Конрад III у 1138 годзе стаў германскім каралём, а брат Фрыдрых I Барбароса — імператарам (дарэчы, Барбароса ў перакладзе з італьянскай мовы азначае Рыжабароды). Пасад імператара належаў ім больш за 100 гадоў — ад Конрада III да Конрада IV, за выключэннем 1209–1215 гадоў.

**Конрад III** (1093–1152) — кароль з 1138 года.

**Фрыдрых I Барбароса** (1122–1190) — кароль з 1152 года, імператар у 1155–1190 гадах.

**Генрых VI** (1165–1197) — сын Фрыдрыха I, кароль рымскі з 1190 года, імператар у 1191–1197 гадах.

**Фрыдрых II** (1194–1250) — кароль з 1196 года, імператар з 1220 года. Двухгадовы сын Генрыха VI быў аб'яўлены каралём пасля смерці бацькі. У перыяд ягонага малалецтва каралеўскі пасад займаў малодшы брат Генрыха VI герцаг

швабскі Філіп (1198–1208), пасля яго забойства карона перайшла да суперніка Штаўфенаў Атона Браўншвейгскага. У Германіі наступіла вялікае міжкаралеўства. Пачалася феадальная анархія, міжусобіцы, адначасова было абрана некалькі каралёў, якія вялі няспынную барацьбу.

**Атон IV** (1175/82–1218) — кароль нямецкі з 1198 года, імператар рымскі з 1209 года.

**Генрых** — у 1220–1235 гадах кароль Германіі.

**Генрых Распэ Цюрынгскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1246–1247 гадах.

**Вільгельм Галандскі** (граф Галандыі; 1227/28 — 1256) — выступаў у якасці суперніка, імператар з 1247 года.

**Конрад IV** (1228–1254) — кароль намінальна з 1237 года, кароль Сіцыліі ў 1250–1254 гадах.

**Рычард Карнуолскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1257–1272 гадах.

***Габсбургі*** — аўстрыйская герцагская і імператарская дынастыя ў 1282–1918 гадах, у Чэхіі і Венгрыі ў 1526–1918 гадах, у Іспаніі ў 1516–1700 гадах, у Нідэрландах у 1477–1794 гадах, імператары Свяшчэннай Рымскай імперыі ў XIII–XIX стагоддзях (пастаянна ў 1438–1806 гадах). Заснавальнікам дынастыі быў Гунтрам Багаты ў X стагоддзі. Ягоныя ўладанні знаходзіліся ў Эльзасе і Швейцарыі, дзе яго малодшы сын пабудаваў замак Габсбург (што азначае Ястрабіны замак) на рацэ Аары. Да сярэдзіны XIII стагоддзя Габсбургі сталі самым багатым родам у паўднёва-заходняй частцы Германіі, што зрабіла ўплыў на выбар у 1273 годзе графа Рудольфа Габсбургскага нямецкім каралём Рудольфам I. А першым імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі з роду Габсбургаў стаў Фрыдрых III. З 1438 года Габсбургі замацавалі за сабой тытул імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі (выключэнне — 1742–1745 гады), якім карысталіся да 1806 года.

Калі ў першай палове XV стагоддзя знікла дынастыя Люксембургаў у Чэхіі і Венгрыі, каралеўскія кароны гэтых краін належалі Габсбургам (за выключэннем часу, калі каралямі там былі Ягелоны, — да 1526 года). Пасля адрачэння Карла V ад трона ў 1556 годзе дом Габсбургаў падзяліўся на аўстрыйскую (знікла ў 1918 годзе, калі Габсбургі ў выніку рэвалюцыі ў Аўстра-Венгрыі былі скінуты з трона) і іспанскую (знікла ў 1700 годзе) галіны.

**Рудольф I Габсбург** (1218–1291) — кароль у 1273–1291 гадах, заснавальнік Габсбургскай дынастыі. Германскія імператары пачалі выбірацца, першым выбраным быў Рудольф.

***Насаўская дынастыя***

**Адольф I Насаўскі** (1250–1298) — кароль рымскі ў 1292–1298 гадах.

***Габсбургі***

**Альбрэхт I Аўстрыйскі (Габсбургскі)** (каля 1255 — 1308) — кароль у 1298–1308 гадах.

***Люксембургская дынастыя*** — дынастыя каралёў Германіі і імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1308–1313, 1346–1400, 1410–1437 гадах, каралёў Чэхіі ў 1310–1437 гадах, Венгрыі ў 1387–1437 гадах, герцагаў Люксембурга да XV стагоддзя. У 1373–1415 гадах валодалі Брандэнбургскім маркграфствам. Пасля смерці Альбрэхта I Габсбурга ў 1308 годзе нямецкім каралём стаў Генрых, граф Люксембурга. У 1437 годзе дынастыя перастала існаваць, яе спадчыну перанялі Габсбургі.

**Генрых VII** (каля 1275 — 1313) — кароль з 1308 года, імператар у 1312–1313 гадах.

***Вітэльсбахі*** — нямецкая дынастыя, кіравала ў Баварыі з 1180 да 1918 года. Граф Ота Шэернскі стаў жыць у Ві-

тэльсбахскім замку ў 1115 годзе і далучыў да свайго прозвішча гэтую назву. Яго сын стаў называцца герцагам Баварыі ў 1180 годзе. З таго часу Вітэльсбахі — герцагі, курфюрсты і каралі — сталі правіцелямі Баварыі. Курфюрст Баварскі Карл Альберт (1696–1745) стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Карлам VII у 1742 годзе. Апошні кароль дынастыі Вітэльсбахаў адрокся ад прастола ў 1918 годзе.

**Людвік IV Баварскі, Людвік IV Вітэльсбах** (каля 1281/82 — 1347) — кароль з 1314 года, імператар у 1328–1347 гадах.

**Фрыдрых Аўстрыйскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1314–1330 гадах.

*Люксембургская дынастыя*

**Карл IV, Карал I Чэшскі** (1316–1378) — германскі кароль у 1346–1347 і 1349–1376 гадах, імператар у 1355–1378 гадах, кароль Чэхіі ў 1346–1378 гадах, кароль Бургундыі ў 1365–1378 гадах, пры ім Чэхія набыла статус самай важнай дзяржавы ў Свяшчэннай Рымскай імперыі, а Прага стала яе сталіцай.

**Вацлаў IV Люксембургскі** (Венцаль IV Лянівы, Венцаслаў; 1361–1419) — кароль рымскі ў 1378–1400 гадах.

*Вітэльсбахі*

**Рупрэхт з Палатына** (Рупрэхт Пфальцскі, Вітэльсбах; 1352–1410) — кароль рымскі ў 1400–1410 гадах.

*Люксембургі*

**Сігізмунд I Люксембургскі** (Венгерскі; 1410–1437) — венгерскі кароль у 1387–1437 гадах, чэшскі кароль у 1419–1421, 1436–1437 гадах.

**Йобст Мараўскі** — выступаў у якасці суперніка, імператар у 1410–1411 гадах.

*Габсбургі*

**Альбрэхт II Габсбург** (Аўстрыйскі; 1398–1439) — кароль з 1438 года, кароль венгерскі з 1437 і кароль чэшскі з 1438 года.

**Фрыдрых III (Фрыдэрык) Габсбург** (1415–1493) — кароль з 1440 года, імператар у 1452–1493 гадах.

**Максімільян I** — кароль у 1493–1519 гадах, імператар з 1452 года.

**Карл V** (1530–1556) — германскі кароль з 1519 года, кароль Іспаніі Карл I у 1516–1556 гадах, кароль Сіцыліі Карл IV у 1516–1556 гадах.

**Фердынанд I** (1556–1564) — кароль чэшскі і венгерскі ў 1526–1544 гадах. З гэтага часу каралі адразу ж прымалі і тытул германскага імператара.

**Максімільян II Габсбург** (1564–1576) — кароль чэшскі з 1548 года, венгерскі з 1564 года, сын Фердынанда I з Габсбургаў і Ганны з Ягелонаў.

**Рудольф II** (1576–1612) — кароль венгерскі ў 1572–1608 гадах, кароль чэшскі ў 1575–1611 гадах, перанёс сталіцу імперыі ў Прагу.

**Матыяс (Мацвей)** — 1612–1619.

**Фердынанд II** — 1619–1637.

**Фердынанд III** — 1637–1657.

**Леапольд I** — 1658–1705.

**Іосіф I** — 1705–1711.

**Карл VI** — 1711–1740.

*Вітэльсбахі*

**Карл VII Баварскі** — 1742–1745.

*Габсбургска-Латарынгская лінія*

**Франц I Латарынгскі** — 1745–1765.

**Іосіф II** — 1765–1790.

**Леапольд II** — 1790–1792.

**Франц II** — 1792–1806, апошні імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, імператар Аўстрыі з 1804 года.

## КАРАЛІ ЧЭШСКІЯ

З IX стагоддзя чэшскія землі знаходзіліся ў складзе Вялікамараўскай дзяржавы. У 895 годзе з яе вылучыліся чэшскія землі, на якіх у X стагоддзі з'явілася Чэшскае княства, з 1158 года — каралеўства. Кіравала тут княская і каралеўская дынастыя Пржэмыславічаў — да 1306 года. Адным з першых вядомых князёў быў Вацлаў (924–936), а першы кароль — князь Уладзіслаў II (Уратыслаў II; 1085–1092). У 1310–1437 гадах чэшскія землі падпарадкоўваліся нямецкай дынастыі Люксембургаў, прадстаўнікі якой з'яўляліся таксама імператарамі Свяшчэннай Рымскай імперыі, каралямі германскімі. У 1526 годзе аўстрыйскія Габсбургі далучылі Чэхію, частку Венгрыі, іншыя тэрыторыі, у выніку чаго паўстала шматнацыянальная дзяржава, у 1867–1918 гадах называлася Аўстра-Венгрыяй. Габсбургская дынастыя кіравала ў Аўстрыі (1282–1918), Чэхіі і Венгрыі (1526–1918), у Свяшчэннай Рымскай імперыі (1438–1806, за выключэннем 1742–1745), Іспаніі (1516–1700), ёй належалі часткова Італія, Нідэрланды. Дынастыя Люксембургаў, германскіх каралёў і імператараў Свяшчэннай Рымскай імперыі, каралёў Чэхіі, была на каралеўскім пасадзе ў Венгрыі ў 1387–1437 гадах.

**Уладзіслаў I** — князь (1109–1125).
**Сабеслаў** — князь (1125–1140).
**Уладзіслаў II** — кароль (1140 –1173).

28 Зак 1939

**Фрыдрых Уладзіслававіч** — кароль (1179–1189).

**Генрых-Бжацiслаў** — кароль (1194–1197).

**Пржэмыслаў I Атакар** — князь у 1192–1193 гадах, 1197 годзе, кароль у 1198–1230 гадах.

**Вацлаў I Аднавокі** — 1230–1253, сын Пржэмысла I.

**Пржэмыслаў II Атакар II** — 1253–1278, сын Вацлава I.

**Вацлаў II Чэшскі** з дынастыі Пржэмыславічаў — 1278–1305, кароль польскі з 1291 года.

**Вацлаў III Чэшскі** з дынастыі Пржэмыславічаў — 1305–1306, сведчаць, што ён не быў каранаваны.

**Рудольф I** — 1306–1307.

**Генрых Харутанскі** — 1306–1310.

**Ян I (Іаган) Люксембургскі** — 1310–1346.

**Карэл I Чэшскі, Карл IV** з Люксембургскай дынастыі — 1346–1378, германскі кароль у 1346–1347 і 1349–1376 гадах, кароль Бургундыі ў 1365–1378 гадах, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1355–1378 гадах, пры ім Чэхія стала цэнтрам Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Вацлаў IV Люксембургскі** — 1378–1419, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1378–1400 гадах.

**Сігізмунд I Люксембургскі** — 1419–1421, 1436–1437 і венгерскі кароль у 1387–1437 гадах, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1410–1437 гадах.

**Жыгімонт Карыбутавіч** — 1424–1435.

**Альбрэхт II Габсбургскі** — 1437–1439 і кароль венгерскі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**З 1439 да 1453 года** — час бескаралеўства ў Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Уладзіслаў Паграбовец Габсбургскі** — 1453–1457 і кароль венгерскі Ласла V.

**Іржы (Георгій, Юрый) Падэбрад** — 1457–1471.

**Мацей Корвін** — 1469–1490.

**Уладзіслаў II Ягелончык** — 1471–1516, кароль венгерскі Уласла (Ласла) II у 1490–1516 гадах, сын караля польска-

га Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, дачкі караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта. Унук Ягайлы.

**Людвік I, Уладзіслаў Ягелончык** — 1516–1526 гады і кароль венгерскі Лаяш II, сын Уладзіслава II Ягелончыка.

**Фердынанд I Габсбургскі** — 1526–1564, кароль венгерскі ў 1526–1544 гадах, у 1556–1564 гадах імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Максімільян II Габсбургскі** — кароль венгерскі ў 1564–1576 гадах, сын Фердынанда I з Габсбургаў і Ганны з Ягелонаў, быў каралём чэшскім і венгерскім, імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1564–1576 гадах, а ў 1575 годзе нават прэтэндаваў на пасад польскі.

**Рудольф II Габсбургскі** — 1575–1611, кароль венгерскі ў 1576–1608 гадах, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1576–1611 гадах, перанёс сталіцу імперыі ў Прагу.

## КАРАЛІ ВЕНГЕРСКІЯ

У час праўлення князя Гезы (970–997) і ягонага сына Іштвана I Святога (каля 975–15.08.1038) з дынастыі Арпадаў (княска-каралеўская венгерская дынастыя ў 889–1301), які ў 1001 годзе стаў першым каралём, Венгрыя аформілася як дзяржава. Яе станаўленню заміналі драбленне, міжусобіцы, нашэсце ў 1240–1241 гадах мангольскіх заваёўнікаў, ваенныя сутычкі з туркамі. Венгры атрымалі ад іх паразу ў 1526 годзе ў бітве пры Мохачы, у выніку чаго пачаўся распад каралеўства. Аўстрыйскія Габсбургі захапілі паўночныя і заходнія землі ў 1541 годзе, а ў 1699 годзе ўся Венгрыя аказалася пад іхняй уладай. І толькі ў красавіку 1849 года, пасля шматгадовай барацьбы і рэвалюцыі 1848–1849 гадоў у горадзе Дэбрэцэн была абвешчана на год Аўстра-Венгрыя.

**Іштван I (Стэфан) Святы** — князь з 997 года, першы кароль у 1001–1038 гадах.

**Пётр Арсеола** — 1038–1041, 1044–1046.

**Аба Шамуэль (Самуіл)** — 1041–1044.

**Андрэй (Андраш I, Эндрэ I)** — 1046–1060.

**Бела I** — 1060–1063.

**Шаламон** — 1063–1074.

**Геза I** — 1074–1077.

**Ласла I Святы** — 1077–1095.

**Кальман I Кніжнік** — 1095–1116.

**Іштван II** — 1116–1131.

**Бела II Сляпы** — 1131–1141.

**Геза II** — 1141–1162.

**Іштван III** — 1162–1173.

**Бела III** — 1173–1196.

**Імрэ** — 1196–1204.

**Ласла III** — 1204–1205.

**Андрэй II (Андраш II, Эндрэ)** — 1205–1235.

**Бела IV** — 1235–1270.

**Іштван V** — 1270–1272.

**Ласла IV Куман** — 1272–1290.

**Андрэй III (Андраш III, Эндрэ)** — 1290–1301.

**Карл I Роберт (Караберт, пачатак Анжуйскай дынастыі)** — 1301–1342.

**Людвік Венгерскі, Анжуйскі, Людвік I Вялікі (Лаяш Вялікі)** — 1342–1382 гады і кароль польскі Людвік Анжуйскі ў 1370–1382 гадах, бацька каралевы польскай Ядвігі, жонкі Ягайлы.

**Марыя Венгерская** — 1382–1387, 1386–1387, сястра Ядвігі.

**Карл II Дураца Анжуйскі** — 1385–1386.

**Сігізмунд Люксембургскі** — 1387–1437 гады і кароль чэшскі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1410–1437 гадах.

**Альбрэхт II Габсбургскі** — 1438–1439 гады і кароль чэшскі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Уласла I** (у некаторых крыніцах **Ласла I, Уладзіслаў III Варненьчык)** — 1440–1444, старэйшы сын Ягайлы.

**Ласла V (Уладзіслаў Паграбовец Габсбургскі)** — 1445–1457.

**Мацьяш Хуньядзі (Мацей Корвін)** — 1458–1490.

**Уласла (Ласла) II (Уладзіслаў II Ягелончык)** — 1490–1516 гады і кароль чэшскі Уладзіслаў II у 1471–1516 гадах, сын караля польскага Казіміра Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, дачкі караля чэшскага, венгерскага і нямецкага Альбрэхта. Унук Ягайлы.

**Лаяш II (Людвік Ягелончык)** — 1516–1526 гады і кароль чэшскі Людвік I, сын Уладзіслава II.

У 1526 годзе туркі перамаглі венграў пры Мохачы, параза венграў была моцнай, гэта парушыла цэласнасць і незалежнасць Венгрыі.

**Ян Запольяі** — 1526–1540, сяміградскі ваявода, каралём прызнала чэшская шляхта.

**Фердынанд I Габсбургскі** — 1526–1564.

**Максімільян II** — 1564–1576.

**Рудольф II** — 1576–1608.

## ХАНЫ ЗАЛАТОЙ АРДЫ

У выніку мангола-татарскага захопу ў 1236–1241 гадах рускія княствы апынуліся ў васальнай залежнасці ад Залатой Арды. Спачатку яна існавала як улус нашчадкаў хана Джучы, сына Чынгісхана — заснавальніка Мангольскай імперыі. Самастойна пачала існаваць з 1260–1280-х гадоў. Першай сталіцай быў Сарай-Бату (Стары Сарай), які

знаходзіўся на тэрыторыі цяперашняй Астраханскай вобласці Расіі, горад заснаваны ханам Батыем у 1254 годзе, разбураны ў 1395 годзе Тамерланам. Другой сталіцай з 1282 года быў Сарай-Берке (Новы Сарай), які знаходзіўся на тэрыторыі сённяшняй Валгаградскай вобласці Расіі. Горад пабудаваны ханам Берке ў 1262 годзе, разбураны ў 1396 годзе Тамерланам. Трэцяй сталіцай Арды быў Сарайчык (Малы Сарай), цяпер гэта вёска на тэрыторыі Гур'еўскай вобласці Казахстана, горад у 1395 годзе быў разбураны Тамерланам, у другой палове XV ст. стаў сталіцай Нагайскай Арды. На чале Арды стаялі ханы, ханам мог быць толькі нашчадак Чынгісхана — чынгізід. Але былі такія перыяды, што ўлада ханаў слабела, і тады дзяржавай кіравалі цемнікі (тыя, хто ўзначальваў «цьму» — падраздзяленне вайскоўцаў у колькасці 10 000 воінаў) — военачальнікі кшталту Мамая, якога, дарэчы, не падтрымлівалі знатныя роды Арды. Некаторыя расійскія даследчыкі звяртаюць увагу на тое, што заваёва Русі мангола-татарамі завяршылася без заключэння міру альбо падпісання нейкага іншага агульнага дакумента, гэта значыць, без прававога афармлення вынікаў вайны. Нават памер штогадовай даніны ніколі пісьмова не быў зафіксаваны. Тым не менш, Русь была падуладнай Ардзе. Так доўжылася больш за 250 гадоў, пакуль мангола-татары збіралі даніну з рускіх зямель.

**Джучы** — на пасадзе ў 1224–1227 гадах, хан улуса Джучы, будучай Залатой Арды, сын Чынгісхана.

**Батый (Бату)** — 1227/1236–1255, другі сын Джучы, унук Чынгісхана.

**Сартак** — 1255, сын Батыя.

**Улагчы (Улагджы)** — 1256–1257.

**Берке (Беркай)** — 1257–1266, трэці сын Джучы. Пры ім дзяржаўнай рэлігіяй стаў іслам.

Перыяд кіравання цемніка **Нагая** доўжыўся 34 гады — з 1266 да 1300-га.

**Менгу-Цімур (Цемір)** — 1266–1282, пляменнік Берке.

**Туда-Менгу (Тудай)** — 1282–1287, унук Бату.

**Тула Буга (Тулабуга, Тэлебуга)** — 1287–1291. Кіраваў разам са сваім братам Кічыкам і сынамі Менгу-Цімура Алгуі і Таргулам.

**Тахта (Тактай, Тактагу)** — 1291–1312, сын Менгу-Цімура.

**Узбек** — 1313 — 7.04.1341/1342?, сын Таргула, унук Менгу-Цімура.

**Танібек (Ісанбек)** — 1342, сын Узбека, забіты братам.

**Джанібек (Чанібек)** — 1342–1357, сын Узбека, забіты сынам.

Перыяд кіравання цемніка **Мамая** доўжыўся 23 гады — з 1357 да 1380-га, Ардой кіравалі адразу 25 ханаў.

**Бердыбек** — 1357–1359, сын Джанібека. Пасля ягонай смерці род Батыя спыніўся.

**Кульпа (Аскулпа)** — 1359.

**Мухамед Неўрузбек (Наўруз)** — 1359–1360.

**Хідэрбек (Хідыр, Хідрбек)** — 1360, забіты сынам.

**Цімур-Хаджа (Цемір-Хаджа)** — 1361, сын Хідэрбека.

**Орду-Мелек (Орда-Шэйх)** — 1361.

**Кільдыбек (Гельдэбек)** — 1361.

**Мір-Пулат (Цемір-Булат)** — 1361.

**Булат Хаджа** — 1364.

**Азіз** —1365–1367, сын Цімура-Хаджы.

**Абдалах** — 1367–1368.

**Хаджы-Чаркес** — 1369–1374.

**Урус хан** — 1374–1375.

**Алібек (Айбек, Ільбек, Алі-Хаджа)** — 1374–1375.

**Каганбек (Карыхан, Каанбек-хан)** — 1375–1377, сын Алібека.

**Араб-шах (Арапша)** — 1377–1379.

**Тахтамыш** — першы раз у 1379–1391 гадах.

**Бек-Булат** — 1391.

**Цімур-Кутлу (Цемір-Кутлуй)** — першы раз у 1391 годзе.

**Тахтамыш** — другі раз у 1392–1395 гадах.

**Таш-Цімур хан** — 1395–1396.

Перыяд кіраваня цемніка **Едыгея** доўжыўся 15 гадоў — з 1396 да 1411-га.

**Кайрыджак (Куюрчак)** — 1396.

**Бердыбек II** — 1396.

**Цімур-Кутлу (Цемір-Кутлуй)** — другі раз у 1396–1399 гадах.

**Шадыбек (Чанібек)** — 1399–1406, брат Цімура-Кутлу.

**Пулат (Булат-хан)** — першы раз у 1406–1407 гадах, сын Цімура-Кутлу.

**Цімур** — 1411–1412, сын Цімура-Кутлу.

**Джэлал ад-Дзін** — першы раз у 1407 годзе, сын Тахтамыша, заняць пасад яму паспрыяў Вітаўт.

**Пулат** — другі раз у 1407–1411 гадах.

**Джэлал ад-Дзін** — другі раз у 1412 годзе.

**Керым-Берды** — 1412–1413.

**Бетсуб-Улан** — 1413–1414, малодшы сын Тахтамыша, вылучаны на пасаду вялікім князем літоўскім Вітаўтам Вялікім. Упершыню хан Залатой Арды быў каранаваны ў Вялікім Княстве Літоўскім і прыняў шапку хана з рук вялікага князя літоўскага. З 1414 года, у канцы якога Бетсуб-Улан быў забіты, пачаўся заняпад Залатой Арды, уладанні апошніх ханаў, як сведчаць беларускія гісторыкі, сталі называць Вялікай Ардой.

**Кепек** — 1414.

**Чакры (Чынгіз-аглан)** — 1414–1416.

**Ерымфердэн (Ерымберды, Джабар-Берды)** — 1416–1417, стаўленік Вітаўта, сын Тахтамыша, каранаваны ў Княстве.

**Дэрвіш-хан (Дарыюш)** — 1417–1420.

**Даўлет Берды** — 1422–1425.

**Улу-Мухамед** — 1429–1434.

**Кічы-Мухамед (Кучук-Магамет, Кічык)** — першы раз у 1431–1443 гадах.

**Гіас-эдзін** — 1430, уцёк у ВКЛ.

**Сеід-Ахмед** — 1442–1455.

**Кічы-Мухамед (Кучук-Магамет, Кічык)** — другі раз у 1443–1459 гадах.

**Махмуд** — 1459–1465.

**Ахмат (Ахмед)** — 1465–1481, апошні хан Залатой Арды.

## ВЯЛІКІЯ МАГІСТРЫ ТЭЎТОНСКАГА ОРДЭНА

Нямецкі ордэн, Тэўтонскі, Крыжацкі — каталіцкая рыцарска-манаская арганізацыя і дзяржава. Заснаваны ў Палесціне ў 1198–1199 гадах адным з германскіх рыцараў герцагам Фрыдрыхам Швабскім. 6 лютага 1191 года Папа Рымскі Клімент III зацвердзіў ордэн «Тэўтонскай браціі царквы Святой Марыі Ерусалімскай» (лац. Fratrum Theutonicorum ecclesiae S. Mariae Hiersolymitanae). Члены ордэна мелі свой дэвіз, які гучаў так: «Дапамагаць — абараняць — лячыць» (па-нямецку — «Helfen — Wehren — Heilen»). 5 сакавіка 1196 года ў храме Акры адбылася цырымонія рэарганізацыі Ордэна ў духоўна-рыцарскі. Папа Рымскі Інакенцій III вызначыў наступныя задачы Ордэна: абарона нямецкіх рыцараў, лячэнне хворых, барацьба з ворагамі каталіцкай царквы.

У 1198–1230 гадах сталіца Ордэна знаходзілася ў горадзе Акра. У 1230–1271 гадах — сталіца ў Манфоры. Затым

29 Зак 1939

зноў у горадзе-крэпасці Акра — да 1291-га. Пасля — у Венецыі — да 1309 года. З 1309-га — у Марыенбургу (Прусія). З 1393 года рэзідэнцыя Ордэна знаходзілася ў Мальбарку, з 1469-га — у Каралеўцы (Калінінград).

У 1525 годзе адбылася секулярызацыя Ордэна, ён ператвораны ў Прускае герцагства. Аднак і пасля гэтага Ордэн існаваў па-за межамі Прусіі. Рэзідэнцыяй стаў город Мергентхайм. Затым Ордэн зблізіўся з імператарамі Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Сібранд** — на пасадзе ў 1190–1192 гадах.

**Герард** — 1192–1193.

**Генрык** — 1193–1195.

**Ульрык** — 1195–1196.

**Генрык** — 1196–1198.

**Генрых Вальпот фон Басенхайм** — 1198–1200, іншыя крыніцы — 1208. Першы вялікі магістр, заснавальнік Ордэна.

**Ота фон Керпен** — 1200–1208.

**Генрых фон Туна**, называны **Бартам** — 1209–1210? (1208–1209, па іншых крыніцах).

**Герман фон Зальц (Зальца)** — 1209/1210?–1239. Перанёс сталіцу Ордэна ў замак Манфор, дзе яна знаходзілася да 1271 года.

**Конрад фон Турынген (Цюрынген, Цюрынгскі)** — 1239–1240.

**Герхард фон Мальберг** — 1240/1241? — 1244.

**Генрых фон Гогенлоэ** — 1244–1249.

**Гюнтэр фон Вюлерслебен** — 1249 — 1252/1253?

**Поппа фон Астэрна** — 1252/1253? — 1256/1257?

**Ана фон Зангерсхаўзен** — 1256/1257? — 1273/1274?. У 1271 годзе зноў перанёс сталіцу Ордэна ў Акру, дзе яна знаходзілася да 1291 года.

**Хартман фон Гельдрунген** — 1273/1274? — 1283.

**Бурхард фон Швандэн** — 1283–1290.

**Конрад фон Фейхтванген** — 1291 — 1296/1297?. Перанёс сталіцу Ордэна ў Венецыю, дзе яна знаходзілася да 1309 года.

**Готфрыд фон Гогенлоэ** — 1297–1303.

**Зігфрыд фон Фейхтванген** — 1303–1311. У 1309 годзе перанёс сталіцу ў Марыенбург (Прусія), дзе яна знаходзілася да 1457 года.

**Карл фон Трыер** — 1311–1324.

**Вернер фон Орзельн** — 1324 — 1330/1331?

**Лютэр фон Браўншвейг** — 1331–1335.

**Дзітрых фон Альтэнбург** — 1335–1341.

**Людольф Кёніг фон Ватцаў** — 1341–1345.

**Генрых Дуземер фон Арфберг** — 1345–1351.

**Вінрых фон Кніпродэ** — 1352–1382.

**Конрад Зёльнер (Цолнер) фон Ротэнштайн** — 1382–1390.

**Конрад фон Валенрод (Валенродэ)** — 1391–1393.

**Конрад фон Юнгінген** — 1393–1407.

**Ульрык фон Юнгінген** — 1407–1410.

**Генрых фон Плаўэн** — 1410–1413.

**Міхаіл (Міхаэль) Кюхмайстар фон Штэрнберг** — 1414–1422.

**Паўль (Павел) фон Русдорф** — 1422–1441.

**Конрад фон Эрліхсгаўзен** — 1441–1449.

**Людвіг фон Эрліхсгаўзен** — 1450–1467. У 1457 годзе мусіў сталіцу Ордэна перанесці ў Кёнігсберг, дзе яна была да 1525 года.

**Генрых Ройс фон Плаўэн** — 1469–1470.

**Генрых Рэфле фон Рыхтэнберг** — 1470–1477.

**Марцін Тручэс (Трухзес) фон Ветцхаўзен** — 1477–1489.

**Ёган фон Тыфен** — 1489–1497.

**Фрыдэрык (Фрыдрых) фон Захсен (Саксонскі)** — 1498–1510.

***Гогенцолерны*** — нямецкая імператарская дынастыя да XVI стагоддзя. Паходзяць ад графскага роду паўднёвагерманскай зямлі Швабіі, дзе ў сярэдзіне XI стагоддзя знаходзіўся іх родавы замак Цолерн. А вось Гогенцолернамі яны сталі называцца толькі ў XVI стагоддзі.

**Альбрэхт фон Гогенцолерн (Ансбах, Брандэнбургскі)** — 1511–1525, быў апошнім вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна і першым прускім герцагам (1525–1568), у 1525 годзе правёў лютэранскія рэформы, ажаніўся і секулярызаваў валоданні Ордэна, у выніку чаго ён ператварыўся ў Прускае герцагства на чале з Альбрэхтам, якое з 1701 года стала часткай Прускага каралеўства. Вялікі магістр стаў васалам караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога. Маткай Альбрэхта была дачка польскага караля і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка Соф'я. Яго другой жонкай была Анна-Марыя — дачка герцага Эрыха Браўншвейгскага, калі жаніўся ў 1550 годзе, яму было 59 гадоў, Анне-Марыі — 23. Памёр 20 сакавіка 1568 года. У гэты ж дзень памерла і жонка Анна-Марыя.

Прускімі герцагамі былі:

**Альбрэхт Гогенцолерн** — 1525–1568.

**Альбрэхт Фрыдэрык** — 1568–1604.



## ПАПЫ РЫМСКІЯ

Хрысціянская царква перажыла за сваю гісторыю два вялікія расколы. Першы — у XI стагоддзі, калі яна падзялілася на Заходнюю і Усходнюю. Другі адбыўся ў XIV стагоддзі. У 1309–1377 гадах Папы Рымскія знаходзіліся ў французскім Авіньёне. Іх выгнала туды вайна, якая пачалася ў Італіі. У гэтым паўднёвым горадзе Францыі яны знаходзіліся да Вялікай схізмы 1378–1417 гадоў: царква раскалолася падчас выбараў Папы Урбана VI. Цягам 30 гадоў адзін Папа знаходзіўся ў Рыме, а другі, якога называлі антыпапам, — у Авіньёне. Гэты раскол удалося пераадолець на Канстанцкім саборы 1414–1418 гадоў. На ім быў абраны новы Папа Рымскі Марцін V і адмоўлена права ўсім іншым.

А ўвогуле Папа з'яўляецца кіраўніком каталіцкай царквы і галоўным правіцелем дзяржавы-горада Ватыкан, якая цяпер знаходзіцца ў Італіі — Рыме. Папа лічыцца бязгрэшным у справе веры і маралі. Выбіраецца пажыццёва калегіяй кардыналаў. З 1523 года папы выбіраліся, як правіла, з італьянцаў, і толькі ў 1978 годзе традыцыя была парушана і на папскі прастол быў абраны польскі кардынал Караль Вайтыла — Ян Павел II.

**Інакецій IV** — на пасадзе ў 1243–1254 гадах.
**Аляксандр IV** — 1254–1261.
**Урбан IV** — 1261–1264.
**Клімент IV** — 1265–1268.
**Грыгорый X** — 1271–1276.
**Інакенцій V** — 21 студзеня — 22 чэрвеня 1276 года.
**Адрыян V** — 11 ліпеня — 18 жніўня 1276 года.
**Іаан XXI** — 1276–1277.
**Мікалай III** — 1277–1280.
**Марцін IV** — 1281–1285.
**Ганорый IV** — 1285–1287.

**Мікалай IV** — 1288–1292.
**Цэлесцін V** — 5 ліпеня — 13 снежня 1294 года.
**Баніфацый VIII** — 1294–1303.
**Бенедыкт XI** — 1303–1304.

*Авіньёнскія папы:*
**Клімент V** — 5.6.1305 — 20.4.1314.
**Іаан XXII** — 7.8.1316 — 4.12.1334.
**Мікалай V** — антыпапа ў Рыме (1328–1330).
**Бенедыкт XII** — 20.12.334 — 25.4.1342.
**Клімент VI** — 7.5.1342 — 06.12.1352.
**Інакенцій VI** — 18.12.1352 — 12.9.1362.
**Урбан V** — 28.9.1362 — 19.12.1370.
**Грыгорый XI** — 30.12.1370 — 26.3.1378, з 1377 года — у Рыме.

***Вялікі раскол 1378–1417 гадоў***

*Рымскія папы:*
**Урбан VI** — 8.4.1378 — 15.10.1389.
**Баніфацый IX** — 2.11.1389 — 1.10.1404.
**Інакенцій VII** — 17.10.1404 — 6.11.1406.
**Грыгорый XII** — 30.11.1406 — 4.7.1415.

*Авіньёнскія папы:*
**Антыпапа Клімент VII** — 20.8.1373 — 16.9.1394.
**Антыпапа Бенедыкт XIII** — 1394–1423.
**Антыпапа Клімент VIII** — 1423–1429.
**Антыпапа Бенедыкт XIV** — 1425–1430.

*Антыпапы ў Балоньі:*
**Антыпапа Аляксандр V** — 26.6.1409 — 04.5.1410.
**Антыпапа Іаан XXIII** — 1410–1415.

### *Канец вялікага расколу, Канстанцкі сабор*

*Рымскія папы:*

**Марцін V** — 11.11.1417 — 20.2.1431.

**Яўген IV** — 3.3.1431 — 23.2.1447.

**Антыпапа Фелікс V**, вядомы таксама як **Амадэй VIII Савойскі** — 1439–1449.

**Мікалай V** — 6.3.1447 — 24.3.1455.

**Калікст III** — 8.4.1455 — 6.8.1458.

**Пій II** — 19.8.1458 — 15.8.1464.

**Павел II** — 30.8.1464 — 26.7.1471.

**Сікст IV** — 9.8.1471 — 12.8.1484.

**Інакенцій VIII** — 29.8.1484 — 18.8.1492.

**Аляксандр VI** — 1492–1503.

**Пій III** — 22 верасня — 18 кастрычніка 1503 года.

**Юлій II** — 1503–1513.

**Леў X** — 1513–1521.

**Адрыян VI** — 1522–1523.

**Клімент VII** — 1523–1534.

**Павел III** — 1534–1549.

**Юлій III** — 1550–1555.

**Марцэл II** — 9 красавіка — 30 красавіка 1555 года.

**Павел IV** — 1555–1559.

**Пій IV** — 1559–1565.

**Пій V** — 1566–1572.

Пералік можна працягваць.



# КІЕЎСКІЯ МІТРАПАЛІТЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

Як сцвярджае энцыклапедыя «Вялікае Княства Літоўскае», «Літоўская праваслаўная мітраполія, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Візантыйскія крыніцы паведамляюць, што Л. п. м. заснавана пры імператару Андроніку II Палеалогу Старэйшым (1282–1328) і патрыярху Іаане XIII Гліке (1315–1320)... Відаць, ініцыятарам стварэння Л. п. м. быў вялікі князь Гедымін, які імкнуўся да незалежнасці ад духоўнай улады Кіеўскай (фактычны цэнтр — Масква) і Галіцкай мітраполій». У 1316 годзе Канстанцінопальскі патрыярх Іаан XIII Гліке па просьбе Гедыміна прызначыў першым мітрапалітам Кіеўскім у Вялікім Княстве Літоўскім Феафіла, яго кафедра знаходзілася ў Новагародку. Пасля розных перыпетый і непаразуменняў з Візантыяй адносна прызначэння мітрапалітаў Вітаўт у 1415 годзе склікаў у Новагародку сабор, дзе епіскапам Княства быў абраны мітрапаліт Кіеўскі і Літоўскі Рыгор Цамблак. «Праваслаўная царква ВКЛ стала фактычна аўтакефальнай, у склад Л. п. м. ўвайшлі Полацкая, Тураўская, Смаленская, Чарнігаўская, Луцкая, Уладзімірская, Холмская, Галіцкая і Перамышльская епархіі».

**Феафіл** (? — 1330?) — мітрапаліт Літоўскі ў 1316–1330 гадах, першы мітрапаліт Літоўскі, узначальваў Літоўскую праваслаўную мітраполію, кафедра знаходзілася ў Новагародку.

**Раман** (каля 1299 — канец 1362) — мітрапаліт Літоўскі ў 1354–1362 гадах. Кафедра ў Новагародку. Яму падпарадкоўваліся Полацкая і Тураўская епархіі, пасля, напэўна, Уладзімірская, Луцкая і Холмская епархіі.

**Кіпрыян** (каля 1330 — 16.9.1406) — мітрапаліт «кіеўскі, рускі і літоўскі» ў 1375–1380 і з 1389, а тасксама Малой Русі і

Літвы ў 1380–1389. З роду Цамблакаў. З 1389 года карыстаўся тытулам мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі. Пасля 1389 года жыў у Маскве, дзе і памёр. Займаўся літаратурнай дзейнасцю.

**Рыгор I Цамблак** (Гаўрыіл; каля 1364 — 1419/1420?); мітрапаліт Кіеўскі і Літоўскі (1415–1419/1420?), у 1416 годзе перанёс мітрапаліцкую кафедру з Кіева ў Новагародак, іншыя сцвярджаюць — у Вільню, а рэзідэнцыя знаходзілася ў Новагародку. Пляменнік мітрапаліта Кіпрыяна. Займаўся літаратурнай дзейнасцю.

**Герасім** (? — 1438) — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1432–1435 гадах. За тайныя зносіны з каралём польскім Жыгімонтам I Свідрыгайла загадаў спаліць яго ў 1435 годзе ў Віцебску.

**Іона I** (? — 31.3.1461) — 15.12.1448 года на саборы ў Маскве абраны мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі, знаходзіўся на кафедры да 1458 (1461?) года. Гэта адбывалася адначасова са знаходжаннем на Кіеўскай мітраполіі мітрапалітаў-уніятаў Ісідора і Грыгорыя II Балгарына. Апошні мітрапаліт з агульным падпарадкаваннем яму праваслаўных епархій ВКЛ і Масквы. Першы мітрапаліт Маскоўскі.

**Ісідор** — мітрапаліт у 1437–1458 гадах, з 1439 года ўніят.

**Грыгорый II Балгарын** (? — 1472/1473?) — мітрапаліт Кіеўскі, Літоўскі і Ніжняй (Малой) Русі ў 1458–1472 гадах, кафедра ў Новагародку. Так сталася пасля аднаўлення мітраполіі як уніяцкай. Аднак у 1469 годзе ад уніі адмовіліся, і Грыгорый стаў мітрапалітам самастойнай праваслаўнай царквы ВКЛ. Пасля гэтага Літоўская праваслаўная мітраполія стала называцца Кіеўскай праваслаўнай мітраполіяй. Займаўся літаратурнай дзейнасцю. Памёр у Новагародку.

**Місаіл I (Міхаіл I) Пестручэй** — мітрапаліт Кіеўскі ў 1475–1480 гадах.

**Спірыдон** — мітрапаліт Кіеўскі ў 1475–1482 гадах.

**Сімяон** — мітрапаліт Кіеўскі ў 1481–1488 гадах.

**Іона II Глезна** (? — 1494) — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1489–1494 гадах.

**Макарый I (мянушка Чорт)** (?—1.05.1497), мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1495–1497 гадах. Загінуў падчас нападу крымскіх татараў. Быў пахаваны ў Кіеўскім Сафійскім саборы, пазней далучаны да ліку святых.

**Іосіф I Балгарынавіч** (? — 1501) — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1497–1501 гадах.

**Іона III** (? — 1507) — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1503–1507 гадах.

**Іосіф II Солтан** (? — 1521/1522?) — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1507–1521(1522?) гадах.

**Іосіф III** (? — 1534) — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1522–1534 гадах.

**Макарый II** (? — 1556) — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1534–1555 гадах.

**Сільвестр Бялькевіч** (Стэфан Андрэевіч; ? — 1567), мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1556–1567 гадах.

**Іона IV Пратасовіч-Астроўскі** (? — 1577) — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1568–1577 гадах. У 1576 годзе перадаў мітраполію Іллі Кучу, аднак пакінуў сабе старшынства ў справах духоўных.

**Ілля Куча** (? — 1579), мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1577–1579 гадах.

**Анісіфар Пятровіч-Дзевачка** (? — паміж 1592 і 1594) — мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі ў 1579–1589 гадах. Пасля 1568 года быў архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра, дзе і памёр. Жыў у Навагародку.

**Міхаіл II Рагоза** (каля 1540 — 1599) — мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі ў 1589–1596 гадах. Пад ягоным кіраўніцтвам царкоўны сабор, які адбываўся ў Бярэсці, 18 кастрычніка 1596 го-

да аб'явіў Берасцейскую унію — аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай, пасля чаго пачала дзейнічаць уніяцкая царква.

## ВІЛЕНСКІЯ БІСКУПЫ

17 лютага 1387 года вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла выдаў прывілей аб заснаванні ў Вільні лацінскага біскупства (адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка рымска-каталіцкай царквы) і 7 парафій. Гэта было на самым пачатку хрышчэння Літвы, аб чым паабяцаў ён падчас заключэння Крэўскай уніі ў 1385 годзе. Папа Рымскі Урбан VI зацвердзіў біскупства ў 1388 годзе. Першым біскупам у 1388–1398 гадах быў францысканец Андрэй Ястшэмбец герба Ястраб. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Віленскае біскупства далучана да Інфлянцкага. Гэта зрабіла расійская імператрыца Кацярына II, аднак гэтага кроку не прызнаў Папа Рымскі.

**Андрэй** (? — 14.11.1398) — першы Віленскі біскуп (1388- 1398).

**Якуб Пліхта** — біскуп у 1398–1407 гадах.

**Мікалай Бяркоўскі** — 1408–1414.

**Пётр Кустынскі (Пётр з Варты)** — 1414–1421.

**Мацей з Вільні** — 1422–1453.

**Мікалай Дзярздоўскі (Мікалай з Дзежкава)** — 1459-1467.

**Ян Ласовіч** — 1468–1481.

**Андрэй Гасковіч** — 1481–1491.

**Войцех Табор** — 1492–1507.

**Войцех Радзівіл** — 1508–1519.

**Ян, Януш «з князёў літоўскіх»** — 1519–1536.

**Павел Гальшанскі** — 1536–1555.

**Валяр'ян Пратасевіч-Шышкоўскі** — 1556–1580.

**Ежы (Юрый) Радзівіл** — біскуп у 1581–1591 гадах.

Пералік можна працягваць да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, калі біскупам у 1762–1794 гадах быў Ігнацій Якуб Масальскі.

## ВАЯВОДЫ ВІЛЕНСКІЯ

Віленскае ваяводства, створанае Гарадзельскім прывілеем 1413 года на аснове тэрыторыі Віленскага княства, існавала ў Вялікім Княстве Літоўскім з 1413 да 1795 года. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе землі ваяводства ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі.

**Манівід** (у хрышчэнні Войцех; 1360–1424) — з 1396 года — намеснік віленскі, у 1413–1424 гадах першы ваявода віленскі. Родапачынальнік шляхецкага роду Манівідавічаў.

**Гедыгольд** (у каталіцтве Ежы, Юрый; ? — 9.6.1435) — ваявода кіеўскі ў 1411 годзе, ваявода віленскі ў 1425–1432 гадах. Сын баярына Кайлікіна (Гайлігіна), брат Манівіда. Маршалак надворны Вітаўта ў 1401 годзе.

**Доўгірд Ян** — 1433–1443.

**Ян (Івашка) Гаштольд (Гаштаўт)** (? — 1458) — ваявода віленскі (1443–1458), ваявода трокскі (1440–1443). Сын старасты віленскага і крэўскага Андрэя Гаштольда.

**Іван (Івашка) Манівідавіч** (каля 1400 — 1458) — ваявода трокскі з 1443 года, ваявода віленскі ў 1458 годзе. Сын Манівіда.

**Міхаіл Кезгайла** (каля 1410 — 1476) — ваявода віленскі (1459–1476), адначасова канцлер літоўскі.

**Алехна (Аляксей) Судзімонтавіч** (? — 1491) — ваявода віленскі (1477–1491), канцлер літоўскі з 1478 года. Сын крэўскага старасты Судзімонта.

**Мікалай Радзівіл Стары** (? — 1509) — ваявода віленскі (1491–1509), адначасова канцлер літоўскі. Сын Радзівіла Осцікавіча.

**Мікалай Радзівіл** (каля 1470 — 1521) — ваявода віленскі (1510–1521), падчашы літоўскі (1493–1505), маршалак вялікі ў 1505 годзе, ваявода трокскі (1505–1510), канцлер літоўскі з 1510 года. Сын Мікалая Радзівіла Старога.

**Альбрэхт Гаштольд (Гаштаўт)** (? — 1539) — ваявода навагародскі (1508–1513), ваявода полацкі (1513–1519), ваявода трокскі (1519–1522), з 1522 года ваявода віленскі і канцлер літоўскі.

**Ян Юр'евіч Глябовіч** (? — 23.4.1549) — ваявода віленскі (1542–1549), маршалак гаспадарскі (1516–1542), ваявода віцебскі (з 1528), ваявода полацкі (з 1532), канцлер літоўскі (з 1546).

**Мікалай Радзівіл Чорны** (4.2.1515 — 28.5.1565) — ваявода віленскі (1551–1565), канцлер літоўскі ў 1550 годзе. Сын кашталяна трокскага Яна Радзівіла Барадатага.

**Мікалай Радзівіл Руды** (1512 — 27.4.1584) — ваявода віленскі (1566–1584), ваявода трокскі (1550–1566), вялікі гетман ВКЛ у 1553–1566 і з 1677 года, канцлер літоўскі (1566–1579). Сын гетмана Юрыя Радзівіла.

**Крыштоф Радзівіл Пярун** (9.2.1547 — 20.11.1603) — ваявода віленскі (1584–1603), падканцлер літоўскі (1579–1585), вялікі гетман літоўскі з 1589 года. Сын Мікалая Радзівіла Рудога.

**Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка** (2.8.1549 — 28.2.1616) — ваявода віленскі (1604–1616), з 1569 года маршалак надворны ВКЛ, ваявода віленскі (1604–1616), маршалак вялікі (1579–1586), ваявода трокскі з 1590 года. Сын Мікалая Радзівіла Чорнага.

**Ян Караль Хадкевіч** (1560 — 24.9.1621) — ваявода віленскі (1616–1621), падчашы літоўскі (1596–1699), староста жамойцкі (1599–1616), адміністратар Інфлянтаў з 1603 года, гетман вялікі з 1605 года.

**Леў Сапега** (4.4.1557 — 7.7.1633) — ваявода віленскі (1623–1633), пісар вялікі літоўскі (1581–1585), падканцлер ВКЛ (1585–1589), канцлер ВКЛ (1589–1623), гетман вялікі з 1625 года. Сын Івана Іванавіча Сапегі.

Пералік можна прадаўжаць — да апошняга ваяводы Міхаіла Гераніма Радзівіла, які займаў пасаду ў 1790–1795 гадах.



## ВАЯВОДЫ НОВАГАРОДСКІЯ

Новагародскае ваяводства было створана ў студзені 1507 года, яно вылучылася з Віленскага ваяводства. Пасля 1565 года ў яго ўваходзілі тры паветы: Новагародскі, Ваўкавыскі і Слонімскі, з 1507 года ў склад Новагародскага павета ўваходзіла як самастойная адзінка Слуцкае княства, якое ў 1791 годзе ўвайшло ў склад Случарэцкага павета. У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе ўсходняя частка ваяводства адышла да Расіі, а пасля трэцяга падзелу ў 1795 годзе ўся тэрыторыя ваяводства ўключана ў склад Расійскай імперыі.

**Іван Львовіч Глінскі** (меў мянушку Мамай; 1460 — да 1522) — маршалак гаспадарскі (1501–1507), ваявода новагародскі (1507–1508), быў вызвалены за тое, што браў удзел у мяцяжы Міхаіла Глінскага, ваявода кіеўскі з 1505 года. Сын Льва Барысавіча Глінскага.

**Альбрэхт Гаштольд** (Гаштаўт; ? — 1539) — ваявода навагародскі (1508–1513), ваявода полацкі (1513–1519), ваявода трокскі (1519–1522), з 1522 года ваявода віленскі і канцлер літоўскі.

**Ян Янавіч Забярэзінскі** (каля 1480 — 1538) — ваявода навагародскі (1509–1530), маршалак дворны (1506–1516), маршалак земскі (1522–1537), ваявода трокскі (1531). Сын маршалка дворнага Яна Юр'евіча Забярэзінскага.

**Станіслаў Гаштольд** (каля 1507 — 18.12.1542) — ваявода навагародскі (1530–1542), ваявода трокскі ў 1542 годзе. Сын Альбрэхта Гаштольда.

**Рыгор Рыгоравіч Осцік** (? — 1557) — ваявода навагародскі (1542–1544). Сын Рыгора Станькавіча Осціка.

**Аляксандр Іванавіч Хадкевіч** (каля 1457 — 28.5.1549) — ваявода навагародскі (1544–1549), маршалак гаспадарскі (1506–1509, 1511–1547).

**Іван Андрэевіч Палубінскі** (? — 1556) — спраўца (адміністратар) ваяводства (1549–1551).

**Аляксандр Іванавіч Палубінскі** (? — 1607/1608) — кіраваў ад імя бацькі ваяводствам у 1551 годзе, з 1586 года — кашталян навагародскі.

**Іван Гарнастай** (? — 1558) — пісар літоўскі з 1512 года, маршалак гаспадарскі (1529–1542), маршалак дворны з 1535 года, ваявода трокскі (1538–1542), ваявода віленскі (1549–1551), ваявода навагародскі ў 1551 годзе.

**Павел Іванавіч Сапега** (каля 1490 — 1579) — маршалак гаспадарскі (1519–1557), ваявода падляшскі (1556–1558), ваявода навагародскі (1558–1579).

**Мікалай Радзівіл** (каля 1546 — 18.12.1589) — ваявода навагародскі (1579–1589). Сын Мікалая Радзівіла Рудога.

Пералік можна працягваць да апошняга ваяводы Юзафа Несялоўскага (1773–1795), які склаў свае функцыі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе.

## КНЯЗІ ПОЛАЦКІЯ

Адно з найбольш старадаўніх на нашай зямлі Полацкае княства. Іначай яго называлі Полацкая зямля, а некаторыя даследчыкі лічылі дзяржавай. Існавала ў X–XIV стагоддзях. Самымі вядомымі гарадамі княства былі Менск, Віцебск, Друцк, Лагойск і інш. На пачатку X стагоддзя знаходзілася ў залежнасці ад кіеўскага князя Алега. Самастойнасць княства звязваюць з Ізяславам (памёр у 1001). У генеалогіі полацкіх князёў далёка не ўсё высветлена, дагэтуль існуе шмат белых плям і таямнічых старонак. І не толькі на самым пачатку, але і ў XII стагоддзі. Усяслаў Брачыславіч, напрыклад, меў 7 сыноў (Давыд, Барыс, Глеб, Раман, Святаслаў, Расціслаў і Рагвалод), аднак не ўсе даследчыкі з гэтым пагаджаюцца. Ад Глеба Усяславіча пайшла лінія полацка-мінскіх князёў, ад Барыса Усяславіча — полацка-друцкія князі, ад Святаслава Усяславіча — князі полацка-віцебскія. Верагодна, ад полацкіх князёў паходзяць князі свіслацкія. У 1307 годзе Полацкае княства ўвайшло ў склад ВКЛ. На пачатку XIV стагоддзя на Полацкай зямлі ўсталявалася тэакратыя (некаторыя даследчыкі называюць гэты перыяд тэакратычнай рэспублікай), калі кіравалі праваслаўныя епіскапы, якія прызнавалі верхавенства вялікіх князёў літоўскіх. Апошнім полацкім князем быў Андрэй Альгердавіч. Кажуць, што пры ім Полацкае княства мела нават назву вялікага княства. У 1381 годзе вялікі князь літоўскі Ягайла перадаў Полацк разам з іншымі гарадамі Скіргайлу. Полацкае княства як удзельнае княства перастала існаваць. З 1392 года, калі вялікім князем літоўскім быў Вітаўт, Полацкам кіравалі намеснікі вялікага князя. Аднак яны прызначаліся толькі са згоды мяшчан.

**Рагвалод** (? — 980?) — дзед Ізяслава Уладзіміравіча па кудзелі (па маці), бацька Рагнеды. Княжыў з 980 (па іншых

звестках, пасля 945 — 978). Першы вядомы полацкі князь. Як сведчаць летапісы, «прыйшоў з-за мора». Верагодна, забіты разам з жонкай і двума сынамі наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам пры захопе Полацка. Ягоная дачка Рагнеда была адной з жонак вялікага князя кіеўскага Уладзіміра.

**Ізяслаў Уладзіміравіч** (? — 1001) — родапачынальнік князёў полацкіх, сын Уладзіміра Святога і Рагнеды, якая была дачкой полацкага князя Рагвалода. Княжыў у 987–1001 гадах.

**Усяслаў Ізяславіч** (? — 1003) — княжыў у 1001–1003 гадах. У 1001 годзе хадзіў паходам на Ноўгарад.

**Брачыслаў Ізяславіч** (каля 997 — 1044) — княжыў у 1003–1044 гадах. Сын Ізяслава Уладзіміравіча, унук Рагнеды і Уладзіміра Святаславіча. Князем стаў у дзіцячым узросце. Пачынальнік полацкай дынастыі Рагвалодавічаў. Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, быў кіеўскім князем у 1019–1021 гадах.

**Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей)** (1030 — 14.4.1101) — княжыў з 1044 да лета 1068 года. Сын князя Брачыслава Ізяславіча, унук Уладзіміра Святаславіча. Пры ім Полацкае княства набыло сваю найбольшую магутнасць, вяло суперніцтва з Кіеўскім княствам. У 1065 годзе Усяслаў хадзіў на Пскоў, у 1066-м — на Ноўгарад. У бітве на Нямізе ў 1067 годзе Усяслаў быў разбіты. Пасля яго смерці Полацкае княства падзялілася на асобныя княствы — Ізяслаўскае, Віцебскае, Лагожскае, Друцкае.

**Мсціслаў Ізяславіч** (? — 1069) — княжыў у 1069 годзе (па іншых звестках, лета 1068 — 1069, пасля таго як у палон трапіў Усяслаў). Сын вялікага князя кіеўскага Ізяслава Яраславіча.

**Усяслаў Брачыславіч** (1030 — 14.4.1101) — княжыў у 1070 годзе, быў вялікім князем кіеўскім у 1068–1069 гадах.

**Святаполк Ізяславіч** (1050–1113) — княжыў пасля смерці свайго брата Мсціслава ў 1069–1071 гадах.

**Усяслаў Брачыславіч** (1030 — 14.4.1101) — княжыў у 1071–1101 гадах.

**Раман Усяславіч** (? — 1116) — княжыў у 1101–1116 гадах.

**Глеб Усяславіч** (? — 13.9.1119) — княжыў у 1116–1119 гадах, першы мінскі князь (1101–1119), быў жанаты з дачкой Яраполка Ізяславіча Настассяй (Анастасіяй). У 1119 годзе трапіў у палон да вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха.

**Барыс Усяславіч** (? — 1127) — княжыў у 1119–1127 гадах.

**Давыд Усяславіч** (1047/57–1129) — княжыў у 1127 годзе, разам з іншымі князямі ў 1129 годзе быў высланы ў Візантыю.

**Рагвалод Барысавіч** (? — 1171) — княжыў у 1127–1128 гадах.

**Давыд Усяславіч** (1047/57–1129) — другое княжанне ў 1128- 1129 гадах.

**Ізяслаў Мсціславіч** (1097–1154) — княжыў у 1129–1132 гадах — пасля высылкі ў Візантыю полацкіх князёў кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам, які ў 1127 годзе захапіў Полацк.

**Васілька Святаславіч** (? — 1143) — княжыў у 1132–1143 гадах. Унук Усяслава Брачыславіча, сын Святаслава Усяславіча, брат Прадславы (Ефрасінні Полацкай), у 1132 годзе полацкае веча прагнала Святаполка Мсціславіча і абрала князем Васільку.

**Рагвалод Барысавіч** (? — 1171) — княжыў у 1144–1151 гадах. Сын Барыса Усяславіча. У 1129 годзе разам з іншымі полацкімі князямі высланы ў Візантыю. Вярнуўся ў 1139 годзе. Каля 1144 года зноў стаў князем у Полацку, аднак у 1151 годзе палачане выгналі яго, саслалі ў Менск, а на княжанне запрасілі

менскага князя Расціслава Глебавіча. Пазней Рагвалод быў вызвалены. Пасля княжання ў Друцку полацкае веча ў 1159 годзе выбрала яго сваім князем. У 1161 годзе ўцёк у Друцк пасля паражэння ў сутычцы з менскім князем Валадаром Глебавічам. Гэта ён загадаў зрабіць на камені, які сёння вядомы як Рагвалодаў камень, адпаведны надпіс.

**Расціслаў Глебавіч** (? — 1159) — княжыў у 1151–1159 гадах. У 1151 і 1158 друцкі князь Рагвалод Барысавіч і менскі князь Расціслаў Глебавіч змагаліся за права стаць полацкім князем. Калі ў 1151 годзе палачане самі запрасілі Расціслава на полацкі пасад, то ў 1158 выгналі яго з Полацка, а на пасад зноў запрасілі Рагвалода Барысавіча.

**Рагвалод Барысавіч** (? — 1171) — княжыў у 1159–1161 гадах.

**Усяслаў Васількавіч** (? — 1180) — княжыў у 1161–1180 гадах.

Далейшы час адны крыніцы падаюць у такой паслядоўнасці:

**Барыс Давыдавіч** — княжыў у 1180–1186 гадах.

**Уладзімір** (даследчык беларускай гісторыі Мікола Ермаловіч называў яго **Валадар)** (? — 1216) — княжыў у 1186–1216 гадах. Збіраўся паходам пайсці на Рыгу і літоўцаў, але ў прызначаны дзень раптоўна памёр.

**Васілька Валадаравіч** (?) — княжыў у 1216–1222 гадах. Быў князем лагойскім, разам з князямі смаленскім і наўгародскім хадзіў на Полацк.

**Святаслаў Мсціславіч** — княжыў у 1222–1232 гадах.

У іншых крыніцах такі парадак княжання:

**Брачыслаў Васількавіч** (?) — княжыў у 1180–1183 гадах. Сын Васількі Рагвалодавіча. Князь заслаўскі і віцебскі.

**Уладзімір** (?) — княжыў у 1186–1215 гадах.

**Барыс Давыдавіч** (?) — княжыў пасля 1216 года.

**Святаслаў Мсціславіч** (?) — княжыў у 1222–1232 гадах.

**Брачыслаў** — княжыў у 1232–1256 гадах. Ягоная дачка ў 1239 годзе выйшла замуж за наўгародскага князя Аляксандра Неўскага.

**Канстанцін (Бязрукі)** (? — пасля 1292) — княжыў у 1254 годзе (у іншых крыніцах — у 1250-я). Калі страціў Полацк, меў свой двор у Ноўгарадзе. Князь віцебскі. Жанаты з дачкой Аляксандра Неўскага, мелі двух сыноў, Міхаіл быў віцебскім князем.

**Таўцівіл** (? — 1264) — княжыў у 1254–1263 гадах. Некаторыя даследчыкі не выключаюць, што ён быў адным з арганізатараў забойства Міндоўга. Неўзабаве пачалася барацьба Таўцівіла з Транятам (Трайнятам), які апынуўся на гаспадарскім пасадзе ў ВКЛ. Таўцівіл быў забіты.

**Ізяслаў Полацкі** — княжыў у 1263 — 1270-я пасля забойства Таўцівіла, быў стаўленікам вялікага князя літоўскага Траняты (Трайняты). Пасля гэтага звесткі пра полацкіх князёў амаль не сустракаюцца.

**Канстанцін** — княжыў у 1270-я.

**Тэакратыя полацкіх епіскапаў** — 1270–1320-я.

**Воінь (Воін, Войн) Полацкі** (? — да 1338) — 1320-я — 1336 год. Быў трэцім сынам Будзівіда. Брат Гедыміна і Віценя. Першая згадка пра яго пад 1324 годам, а затым згадваецца ў 1326 годзе, калі полацкі князь разам з князямі Васілём Менскім і Фёдарам Святаславічам быў у складзе пасольскай дэлегацыі ад Гедыміна ў Ноўгарад для заключэння мірнай дамовы з наўгародцамі і лівонскімі рыцарамі.

**Нарымонт (Нарымунт, Нарымант, у праваслаўі Глеб)** (каля 1294 — 2.2.1348) — княжыў у 1336–1345 гадах. Другі сын вялікага князя літоўскага Гедыміна ад першага шлю-

бу. У 1390 годзе ў дагаворы Смаленска з Рыгай Нарымонта называюць полацкім каралём. У 1345 годзе, калі на гаспадарскім пасадзе ў ВКЛ стаў Альгерд, Нарымонт мусіў уцякаць, апынуўся ў Залатой Ардзе, яго прыняў хан Джанібек. Полацкае княства перайшло да Альгердавага сына Андрэя. Каля 1346 года Нарымонт вярнуўся ў Княства, а праз год павёў вялікалітоўскае войска на раку Стрэва, каб сутыкнуцца з крыжакамі. Там, верагодна, і загінуў.

**Андрэй Альгердавіч** (? — 12.8.1399) — княжыў у 1348–1377, 1382–1387 гадах. Апошні полацкі князь, вёў барацьбу з вялікім князем літоўскім Ягайлам, нават назваўся вялікім князем полацкім. Пасля гібелі князя Нарымонта стаў полацкім князем. Калі зімой 1377–1378 гадоў войскі Ягайлы стаялі аблогай каля Полацка, Андрэй уцёк у Пскоў, а затым у Ноўгарад і Маскву, быў у саюзе з вялікім князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам, браў удзел у Кулікоўскай бітве. У 1381 альбо 1382 годзе вярнуўся ў Полацк. Пасля падпісання Ягайлам Крэўскай уніі ў 1385 годзе павёў з ім барацьбу. У 1387 годзе вялікалітоўскае войска на чале са Скіргайлам захапіла Полацк. Андрэй быў зняволены і знаходзіўся ў Хэнцінскім замку (Польшча). Пазней быў вызвалены. Загінуў у бітве Вітаўта супраць татараў на рацэ Ворскле ў 1399 годзе.

## КРЫЖОВЫЯ ПАХОДЫ

Гэта ваенныя паходы і войны заходнееўрапейскіх феадалаў-католікаў у 1096–1270 гадах з мэтай пашырэння хрысціянства і барацьбы з «няверным і», вызвалення Свя-

той зямлі Палесціны з горадам Ерусалімам ад улады мусульман, а таксама Труны Гасподняй. Паходы блаславіў Папа Рымскі. Лозунгі былі высокія, аднак за імі хавалася рабаванне і захоп зямель, галоўным чынам на мусульманскім Усходзе. Удзельнікаў паходаў, якія нашывалі на плашчы чырвоныя крыжы як сведчанне менавіта ўдзельніка паходу, называлі крыжаносцамі, або крыжакамі. За 175 гадоў адбылося 8 вялікіх Крыжовых паходаў і мноства драбнейшых ваенных экспедыцый.

*1096–1099* — Першы крыжовы паход. Быў абумоўлены ціскам на хрысціян туркаў-сельджукаў. Ён прывёў да заваёвы Ерусаліма і стварэння крыжаносных дзяржаў на Блізкім Усходзе. Самая вялікая з іх — Ерусалімскае каралеўства. З Ерусаліма быў выгнаны праваслаўны патрыярх, яго змяніў так званы лацінскі патрыярх.

*1147–1149* — Другі крыжовы паход. Выкліканы захопам туркамі-сельджукамі горада Эдэсы ў 1144 годзе. Паход быў няўдалым.

*1189–1192* — Трэці крыжовы паход. Абумоўлены заваёвай Ерусаліма султанам Салах-ад-Дзінам. Закончыўся няўдала.

*1202–1204* — Чацвёрты крыжовы паход. Арганізаваны Папам Рымскім Інакенціем III. У 1202 крыжакі захапілі і разбурылі хрысціянскія гарады Задар і Далмацыю, а ў 1204 годзе — Канстанцінопаль — сталіцу праваслаўнай Візантыйскай імперыі. На гэтай тэрыторыі заснавалі Лацінскую імперыю.

У 1202 годзе былі арганізаваны дзіцячыя Крыжовыя паходы, падчас якіх загінулі дзясяткі тысяч дзяцей.

*1217–1221* — Пяты крыжовы паход. Накіраваны супраць Егіпецкага султаната, закончыўся безвынікова.

*1228–1229* — Шосты крыжовы паход. У выніку крыжакі зноў вярнуліся ў Ерусалім згодна з мірнай дамовай, якую заключылі егіпецкі султан ал-Каміл Насір ад-Дзін і германскі імператар Фрыдрых II. Аднак у 1244 годзе егіпецкі султан ал-Адыл II Сайф ад-Дзін выгнаў крыжакоў з Ерусаліма. На гэты раз назаўсёды.

*1248–1254* — Сёмы крыжовы паход. Накіраваны супраць Егіпецкага султаната. Закончыўся поўнай няўдачай.

*1270* — Восьмы крыжовы паход. Таксама накіраваны супраць Егіпецкага султаната і таксама закончыўся няўдачай.

У 1291 годзе мусульманам здаўся горад і крэпасць Акра, апошні аплот крыжакі у Палесціне. Крыжакі страцілі свае ўладанні на Усходзе.

*Сакавік 2002 — жнівень 2005,*
*верасень 2008 — сакавік 2012*



# ЗМЕСТ

